NARODOWA AKADEMIA NAUK BIAŁORUSI
INSTYTUT JĘZYKOZNAWSTWA IMIENIA JAKUBA KOŁASA

Jauhieńnia Wołkawa
Walancina Awiława

# SŁOWNIK POLSKO-BIAŁORUSKI

ponad 40 000 haseł

Pod redakcją H.A. Cychuna

WYDAWNICTWO
«BIEŁARUSKAJA ENCYKŁAPIEDYJA»
2004

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Я.В. Волкава,
В.Л. Авілава

# ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

звыш 40 000 слоў

Пад рэдакцыяй Г. А. Цыхуна

Уласнасць: Наталля Рудчык

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
2004

УДК 821.1'374=161.3
ББК 81.2 ПОЛ-4
В 67

Пад рэдакцыяй доктара філалагічных навук

*Г.А.Цыхуна*

Навуковы рэдактар

*Т.У.Люковіч*

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук *А.А.Кожынава*,
кандыдат філалагічных навук *С.А.Важнік*

ISBN 985-11-0307-1



## АД РЭДАКТАРА

«Польска-беларускі слоўнік» – фактычна першая спроба ўкладання і выдання ў Беларусі такога тыпу даведніка. Падрыхтаваны і часткова надрукаваны ў 1932 г. «Польска-беларускі слоўнік», праца над якім была распачата яшчэ ў польскім аддзеле Інбелкульта (пазней – Польскі Інстытут Пралетарскай культуры), захаваўся толькі ў лічаных экзэмплярах, бо ў 1933 г. паводле пастановы прэзідыума Беларускай акадэміі навук яго выданне было забаронена, набор раскіданы, пакінута толькі 25 экз. «как материал». Слоўнік налічваў каля 60 тысяч слоў і, зразумела, меў пэўныя недахопы, але забаронены быў цалкам па матывах, якія не мелі адносін да яго навуковых вартасцей.

Неабходнасць у польска-беларускім слоўніку сярэдняга памеру[1] адчуваецца ў Беларусі даўно. Выдадзеныя ў 1962 г. і 1996 г. у Польшчы слоўнікі маюць невялікія памеры, маладаступныя і не могуць задаволіць цяперашнія патрэбы перакладчыкаў з польскай мовы, студэнтаў адпаведнай спецыяльнасці ў ВНУ краіны і шырокія колы карыстальнікаў, якім прыходзіцца сутыкацца з польскімі тэкстамі або вуснымі выказваннямі. Акрамя таго, яны арыентуюцца пераважна на тых, каму польская мова родная або хто валодае ёю лепш, чым беларускай. Між тым, як сцвярджаў Леў Шчэрба, кожны двухмоўны слоўнік павінен быць выдадзены ў дзвюх адрозных адна ад адной версіях. Першая служыла б для тых, хто валодае мовай, на якую даецца пераклад, як сваёй роднай. Спецыфікай такога слоўніка з'яўляецца багатая сінаніміка, бо кожны носьбіт мовы, як мяркуе Аляксандр Ісачанка[2], без цяжкасці выбера з пададзеных сінонімаў тое слова, якое найбольш падыходзіць да канкрэтнага семантычнага або стылістычнага кантэксту. І наадварот, другі варыянт перакладнога слоўніка, прызначаны для карыстальнікаў, што валодаюць першай мовай лепш, чым другой, павінен улічваць цяжкасці выбару таго або іншага эквівалента пры перакладзе і падаваць толькі тыя варыянты, якія найбольш дакладна перадаюць значэнне і стылёвую характарыстыку загалоўнага слова. Наш «Польска-беларускі слоўнік» арыентаваны ў першую чаргу на носьбітаў беларускай мовы. Асабліва адчу-

[1] Паводле існуючых крытэрыяў слоўнікамі сярэдняга памеру лічацца слоўнікі ад 40 да 60 тысяч слоў, параўн.: Magay T. Problems of Vocabulary Selection in a Medium-Size Bilingual Dictionary // Hungaro-slavica: Studia in Honorem Stephani Nyomárkay. Budapest, 1997. P. 189—193.

[2] Isačenko A. Slovensko-ruský prekladový slovnik. 1-ý diel. Bratislava, 1950. S. VI.

вальная патрэба ў такім слоўніку для перакладчыкаў мастацкай літаратуры, якія вымушаны ў большасці выпадкаў рабіць т. зв. двайны пераклад, карыстаючыся польска-рускімі і руска-беларускімі слоўнікамі. Зразумела, што пры гэтым страчваюцца пэўныя адценні ва ўжыванні слова, мова перакладу нівеліруецца, губляецца аўтарская стылёвая адметнасць і г.д. Каб даць у рукі перакладчыку надзейны інструмент у яго працы, укладальнікі імкнуліся задаволіць магчымасць шырокага выбару лексем і ўжывальных выразаў – эквівалентаў адпаведных польскіх слоў і словазлучэнняў. Для большасці польскіх лексем (за выключэннем тэрмінаў) прапануецца некалькі варыянтаў перакладу пры дапамозе сінонімаў і блізказначных слоў. Пры гэтым не ставіцца задача абмежавацца толькі нармаванай лексікай. Перакладны твор як з'ява мастацкай літаратуры змяшчае не толькі нейтральную (стандартную, унармаваную) лексіку, бо мова мастацкай літаратуры і літаратурная мова, як вядома, не з'яўляюцца тоеснымі паняццямі. Шырока выкарыстоўваюцца прастамоўныя выразы, неалагізмы апошніх гадоў, што атрымалі распаўсюджанне ў друку і ў т.зв. нефармальнай камунікацыі. Усё гэта дае магчымасць найбольш дакладна перадаць мастацкія якасці і спецыфіку польскамоўных твораў. Характэрна, што якраз разнастайнасць і шматузроўневасць моўных сродкаў характарызуе сучасную польскую мастацкую літаратуру, для перадачы якіх нельга абмежавацца выключна нармаванай лексікай, а варта выкарыстаць усе наяўныя моўныя рэсурсы, у тым ліку архаізмы, аргатызмы, вульгарызмы і пад. Для падбору разнастайных эквівалентаў быў выкарыстаны, акрамя сучасных беларускіх слоўнікаў, шэраг шматмоўных і двухмоўных лексікаграфічных даведнікаў, пачынаючы ад вядомага «Сямімоўнага слоўніка»[3] 1918 г., дзе польская і беларуская лексіка выступае ў якасці эквівалентнай у адносінах да нямецкай, да «Вопыту літаратурна-дыялектнага слоўніка беларускай мовы» Уладзіміра Анічэнкі, створанага ў 1999 г. у Гомельскім універсітэце ў выніку адбору народных слоў, зафіксаваных у дыялектных слоўніках, што, на думку складальнікаў, маюць права заняць свае месца ў агульналітаратурных слоўніках (гл. спіс выкарыстаных крыніц і даведнікаў). Акрамя таго, бралася пад увагу пазаслоўнікавая лексіка беларускіх пісьменнікаў і перыядычнага друку, падборку якой рэгулярна падае Алесь Каўрус у часопісе «Роднае слова», і т.зв. адметная лексіка нашых класікаў[4]. У прыватнасці, былі выкарыстаны матэрыялы «Канкарданса мовы Кандрата Крапівы», які быў створаны і захоўваецца ў электронным выглядзе ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа.

Для папаўнення рэестра новых слоў выкарыстаны таксама найбольш новыя і поўныя слоўнікі польскай мовы, якія адлюстроўваюць сучасны польскі моўны узус. Падаюцца таксама некаторыя прынятыя ў сучасных стандартызаваных варыянтах польскай мовы выразы і словазлучэнні, а таксама моўныя клішэ, што паказваюць найбольш тыповыя выпадкі спалучальнасці пэўных слоў і формаў.

[3] Sieben-Sprachen-Wörterbuch: Deutsch, Polnisch, Russisch, Weißruthenish, Litauish, Lettisch, Jiddisch. [Leipzig], 1918.
[4] Гл., напрыклад: Арашонкава Г.У., Чабатар Н.А. Тлумачальны слоўнік адметнай лексікі ў творах Якуба Коласа. Мн. 2003.



Праца па ўкладанні слоўніка вялася ў аддзеле славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Нац. АН Беларусі на працягу 1997—2000 гадоў. Асноўнымі аўтарамі-укладальнікамі слоўніка з'яўляюцца Яўгенія Волкава і Валянціна Авілава, на пачатковых стадыях працы ў ёй брала ўдзел Ядвіга Казлоўска-Дода (укладанне індэкса слоўніка і папаўненне лексікі на літару В). Пэўныя ўдакладненні і заўвагі па частцы слоў на пачатковыя літары слоўніка зрабіла Інэса Кур'ян. Усе, хто працаваў над слоўнікам, будуць удзячны карыстальнікам за заўвагі, удакладненні і прапановы, што паслужаць паляпшэнню яго якасці пры дапрацоўцы і магчымым перавыданні. Заўвагі і пажаданні просім дасылаць на адрас: Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нац. АН Беларусі, 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, д. 1, корп. 2.

**Генадзь Цыхун**

## АСНОЎНЫЯ ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ

Польска-беларускі слоўнік. Мн., [Польскі інстытут пралетарскай культуры, БАН], 1932.

Podręczny słownik polsko-białoruski. /Pod red. A.Obrębskiej-Jabłońskiej, M.Biryły. Warszawa, 1962.

Jasińska T., Bartoszewicz A. Słownik białorusko-polski, polsko-białoruski. Warszawa, 1996.

Jasińska-Socha T., Panasiuk N. Mały praktyczny słownik biznesmena białorusko-polski, polsko-białoruski. Warszawa, 1995.

Słownik języka polskiego PAN. /Red. naczelny W.Doroszewski. T.1—11. Warszawa, 1958—69

Słownik języka polskiego. Encyklopedia multimedialna PWN (на CD).

Nowy słownik popravnej polszczyzny. Warszawa, 2002.

Mały słownik języka polskiego. Warszawa, 1997.

Podręczny słownik frazeologiczny języka polskiego. Warszawa, 2000.

Kania S. Słownik argotyzmów. Warszawa, 1995.

Bogusławski A., Wawrzyńczyk J. Polszczyzna, jaką znamy: Nowa sonda słownikowa. Warszawa, 1993.

Stypula R., Kowalowa G. Slownik polsko-rosyjski z suplementem. Warszawa; Moskwa, 1989.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1—5. /Пад рэд. К.Крапівы. Мн., 1977—84.

Руска-беларускі слоўнік. Т. 1—3. Мн., 1993.

Анічэнка У. В. Вопыт літаратурна-дыялектнага слоўніка беларускай мовы. Гомель, 1999.

Санько З. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. Мн.. 1991.

## СКЛАД І СТРУКТУРА СЛОЎНІКА

Слоўнік змяшчае больш за 40 000 слоў і ахоплівае асноўны лексічны склад польскай мовы. У ім таксама ёсць пэўная колькасць размоўных, прастамоўных, устарэлых слоў, якія могуць сустрэцца пры чытанні публіцыстычных, мастацкіх і навукова-папулярных тэкстаў.

У сувязі з абмежаваным аб'ёмам слоўніка ў яго не ўключаны прыслоўі, якія ўтвараюцца рэгулярна; аддзеяслоўныя назоўнікі, якія маюць толькі значэнне дзеяння паводле дзеяслова; назоўнікі жаночага роду, утвораныя ад назоўнікаў мужчынскага роду (акрамя назваў нацыянальнасцей і некаторых назваў прафесій); памяншальныя і павелічальныя формы назоўнікаў, прыметнікаў і прыслоўяў; формы залежнага стану дзеясловаў і дзеясловы са складанай прыстаўкай.

У канцы слоўніка размешчаны спісы геаграфічных назваў і найбольш ужывальных у польскай мове скарачэнняў.

## ЯК КАРЫСТАЦЦА СЛОЎНІКАМ

Артыкулы размяшчаюцца ў алфавітным парадку.

З мэтай эканоміі месца ўмоўны знак ~ (тыльда) замяняе нязменную частку загалоўнага слова, якая аддзяляецца знакам |, напрыклад:

**cedrow-y** кедравы; **orzeszki ~e** кедравыя арэхі

**cedzić** *незак.* цадзіць; ~ **słowa** цадзіць словы

Амонімы даюцца асобнымі артыкуламі і адзначаюцца надрадковай арабскай лічбай:

**dwojaki**[1] дваякі
**dwojaki**[2] *мн.* спарышы

Назоўнікі, якія ў розных значэннях пішуцца з вялікай або з малой літары, падаюцца ў розных артыкулах:

**Tantal** *м. міф.* Тантал; **męki (cierpienia) ~a** мукі Тантала

**tantal, ~u** *м. хім.* тантал

Дзеясловы рознага трывання падаюцца па алфавіце. Больш падрабязна, як правіла, распрацоўваюцца дзеясловы аднаго больш ужывальнага трывання. У гэтым выпадку да парнага дзеяслова даецца спасылка:

**wpada-ć** *незак.* **1.** упадаць, увальвацца; **2.** правальвацца; **3.** упадаць; **rzeka ~ do morza** рака ўпадае ў мора; **4.** забягаць; **~ć do pokoju** забягаць у пакой; *гл.* **wpaść**

Пры словах, якія маюць адно і тое значэнне, але адрозніваюцца напісаннем, даюцца спасылкі ад менш ужывальных варыянтаў да больш ужывальных:

**votum** *н.*; *гл.* **wotum**

У тых выпадках, калі польскае слова самастойна не ўжываецца або часцей ужы-

ваецца ў пэўным словазлучэнні, яно даецца без перакладу з двухкроп'ем, пасля якога прыводзіцца гэта словазлучэнне з адпаведным перакладам:

**toczn-y: łożysko ~e** падшыпнік вагання

Польскія рэаліі, якія не маюць адпаведнікаў у беларускай мове, транслітэруюцца, а ў дужках даецца адпаведнае тлумачэнне:

**baca** *м.* баца (*старшы пастух у Татрах*)

Пры назвах жывёл і раслін, за выключэннем самых распаўсюджаных, даецца лацінская назва:

**zięba** *ж. заал.* берасцянка (*Fringilla coelebs L.*)

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКАВАГА АРТЫКУЛА

Асобныя словы, а таксама значэнні слоў, пры неабходнасці пазначаны рознымі паметамі (гл. спіс умоўных скарачэнняў). Кожнае значэнне слова пазначаецца патоўшчанай лічбай. Сінанімічныя пераклады аддзяляюцца адзін ад аднаго коскай або коскай з кропкай.

Для характарыстыкі аб'ёму таго ці іншага значэння польскага слова даюцца тлумачэнні на беларускай мове (у дужках курсівам) або ілюстрацыі:

**trawk-a** *ж.* **1.** траўка; **2.** *разм.* траўка (*пра марыхуану*)

У шэрагу выпадкаў варыянты спалучальнасці слоў або словазлучэнняў падаюцца ў круглых дужках; гэта можа адлюстроўвацца і ў перакладзе:

**voto: primo (secundo, tertio) ~** па першым (другім, трэцім) шлюбе (*пра прозвішча*)
**calow-y** цалёвы; **miarka ~a** цалёвая мерка; **deski (gwoździe) ~e** цалёвыя дошкі (цвікі)
**wagon, ~u** *м.* вагон; ~ **do węgla (na węgiel)** вагон для вугля

Раўнапраўныя варыянты перакладу падаюцца ў круглых дужках:

**wahani-e** *н.* **1.** хістанне; **2.** *перан.* ваганне, нерашучасць; **z ~em w głosie** нерашучым (няўпэўненым) голасам

Фразеалагічныя звароты, ідыяматычныя выразы, устойлівыя словазлучэнні, а таксама прыказкі і прымаўкі змяшчаюцца ў канцы слоўнікавага артыкула пасля знаку ◊.

Пры некаторых загалоўных словах, вымаўленне якіх можа выклікаць цяжкасці, у квадратных дужках даецца вымаўленне:

**zamarzać** *незак.* [zamar-zać] замярзаць

Пры загалоўных назоўніках заўсёды ставіцца род, пры назоўніках мужчынскага роду даецца родны склон адзіночнага ліку на **-u**:

**badminton, ~u** *м.* бадмінтон
**bób, bobu** *м.* боб

Назоўнікі, якія ўжываюцца пераважна ў множным ліку, даюцца ў форме множнага ліку:

**ferie** *мн.* канікулы

Калі назоўнік у адным са сваіх значэнняў ужываецца пераважна ў множным ліку, пасля адпаведнай арабскай лічбы прыводзіцца форма множнага ліку і пераклад:

**faramuszka** *ж. разм.* **1.** глупства; **2.** ~**i** *мн.* капрызы; выдумкі

Суплетыўныя формы назоўнікаў даюцца асобнымі артыкуламі па алфавіце:



**lat-a** *мн.* (*адз.* **rok** *м.*)

Прыметнікі ў слоўніку падаюцца ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду. Прыметнікі, якія паводле семантыкі могуць выступаць толькі ў форме жаночага роду, даюцца ў слоўніку ў гэтай форме.

Дзеясловы падаюцца ў форме інфінітыва. Пры кожным дзеяслове падаецца трыванне пры дапамозе памет *зак.* і *незак.*

У выпадках разыходжання дзеяслоўнага кіравання ў польскай і беларускай мовах яно адзначаецца з дапамогай займеннікаў *kto, co* пасля польскіх дзеясловаў і *хто, што* пасля беларускіх эквівалентаў:

**zadośćuczynić** *зак. komu/czemu* задаволіць *каго/што*

Дзеепрыслоўі падаюцца асобнымі артыкуламі ў тых выпадках, калі яны выступаюць у ролі прыметнікаў або назоўнікаў:

**wakujący** незаняты, вольны
**wierzący** які верыць; вернік

У іншых выпадках яны прыводзяцца ў адпаведных прыкладах у дзеяслоўных артыкулах.

З лічэбнікаў падаюцца:

а) паўнаколькасныя ад 1 ад 19, цэлыя дзесяткі, сотні, тысячы, мільёны, мільярды, більёны, а таксама ўтвораныя ад іх парадкавыя лічэбнікі;

б) зборныя ад 2 да 19 і поўныя дзесяткі;

в) лічэбнікі, якія выступаюць у значэнні назоўніка, напр., **jedynka.**

Асабова-мужчынскія формы лічэбнікаў даюцца як асобныя артыкулы з адпаведнымі паметамі:

**sześciu** *а.-м.* шэсць

## УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

~ – тыльда, замяняе слова або яго нязменную частку пры паўторы іх у артыкуле;

| – лінія, аддзяляе нязменную частку ад той, якая змяняецца;

( ) – у круглых дужках падаюцца тлумачэнні, варыянты, лацінскія тэрміны;

[ ] – у квадратных дужках падаецца вымаўленне польскіх слоў, а таксама факультатыўныя (неабавязковыя) словы пры перакладзе;

◊ – ромб аддзяляе фразеалогію ад астатняй часткі артыкула.

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абл.* – абласное слова
*абразл.* – абразлівае
*ав.* – авіяцыя
*адз.* – адзіночны лік
*а.-м.* – асабова-мужчынская форма
*анат.* – анатомія
*арх.* – археалогія
*архіт.* – архітэктура
*ас.* – асоба
*астр.* – астраномія
*аўт.* – аўтамабільны тэрмін
*афіц.* – афіцыйны выраз (тэрмін)
*бат.* – батаніка
*безас.* – безасабовая форма
*біял.* – біялогія
*буд.* – будаўніцтва
*бух.* – бухгалтэрыя
*в.* – вёска
*вайск.* – вайсковы тэрмін
*вет.* – ветэрынарыя
*вульг.* – вульгарызм
*г.* – горад
*гандл.* – гандлёвы тэрмін
*геагр.* – геаграфія
*геал.* – геалогія
*геам.* – геаметрыя
*гіст.* – гістарызм
*гл.* – глядзі
*горн.* – горная справа
*грам.* – граматыка
*дзіцяч.* – дзіцячае слова
*друк.* – друкарскі тэрмін
*дып.* – дыпламатычны тэрмін
*дыял.* – дыялектызм
*ж.* – жаночы род
*жарг.* – жаргон
*жарт.* – жартоўнае слова
*заал.* – заалогія
*заг.* – загадны лад
*зак.* – закончанае трыванне дзеяслова
*зборн.* – зборнае слова
*іран.* – іранічнае
*камп.* – камп'ютэр
*карц.* – тэрмін гульні ў карты
*касм.* – касмічны тэрмін
*касц.* – касцельны тэрмін
*кіно* – кінатэрміналогія
*кніжн.* – кніжны стыль
*крав.* – кравецкі тэрмін
*кул.* – кулінарыя
*ласк.* – ласкальная форма
*лаянк.* – лаянкавае слова
*лінгв.* – лінгвістыка
*літ.* – літаратура
*ляс.* – лясная справа
*м.* – мужчынскі род
*мар.* – марскі тэрмін
*маст.* – мастацтва
*мат.* – матэматыка
*мед.* – медыцына
*мет.* – метэаралогія
*мін.* – мінералогія
*міф.* – міфалогія
*мн.* – множны лік
*муз.* – музыка
*н.* – ніякі род
*навіг.* – навігацыя
*напр.* – напрыклад
*незак.* – незакончанае трыванне дзеяслова
*нескл.* – нескланяльнае слова
*пагард.* – пагардлівае
*палігр.* – паліграфія
*паліт.* – палітыка
*паляўн.* – паляўнічы тэрмін
*араўн.* – параўнай
*пераn.* – пераноснае значэнне
*прам.* – прамое значэнне
*прык.* – прыказка
*прым.* – прымаўка
*псіх.* – псіхалогія
*р.* – рака
*рад.* – радыётэхніка
*разм.* – размоўнае
*рэл.* – рэлігія
*сад.* – садоўніцтва
*с.-г.* – сельская гаспадарка
*спарт.* – спартыўны тэрмін
*спец.* – спецыяльны тэрмін
*студ.* – студэнцкі
*тэатр.* – тэатральны тэрмін
*тэкст.* – тэкстыльны тэрмін
*тэх.* – тэхніка
*уст.* – устарэлае слова
*фальк.* – фальклор
*фарм.* – фармакалогія
*фіз.* – фізіка
*фізіял.* – фізіялогія
*філ.* – філасофія
*фін.* – фінансавы тэрмін
*фот.* – фота
*хім.* – хімія
*царк.* – царкоўны тэрмін
*чыг.* – чыгунка
*шахм.* – шахматы
*шаш.* – шашкі
*школьн.* – школьны выраз
*эк.* – эканоміка
*экспр.* – экспрэсіўнае слова
*эл.* – электратэхніка
*юр.* – юрыдычны тэрмін

## ПОЛЬСКІ АЛФАВІТ

| | | |
|---|---|---|
| A a | J j | S s |
| ą | K k | Ś ś |
| B b | L l | T t |
| C c | Ł ł | U u |
| Ć ć | M m | V v |
| D d | N n | W w |
| E e | ń | X x |
| ę | O o | Y y |
| F f | Ó ó | Z z |
| G g | P p | Ź ź |
| H h | Q q | Ż ż |
| I i | R r | |

# A

**a 1.** a; і; **fantazja a rzeczywistość** фантазія і рэчаіснасць; **dziś tak, a jutro inaczej** сёння так, а заўтра інакш; **gada a gada** гаворыць і гаворыць; **2.** а; і; вось; **a to co?** а гэта што?; **a dobrze mu tak** так яму і трэба; **a to dopiero historia!** вось дык гісторыя!; **3.** (*не заўсёды перакладаецца*) для ўзмацнення экспрэсіі; **nic a nic** анічога; нічагутка; **z wielką a wielką ciekawością** з найвялікшым (з самым вялікім) інтарэсам; з вялікай цікавасцю (зацікаўленасцю); **te przykłady można mnożyć a mnożyć** гэтыя прыклады можна прыводзіць і прыводзіць; **4.** а; **a, to pani!** а, гэта вы!; **a, zostaw to!** а, кінь ты гэта!; ◊ **a propos** [a propo] дарэчы; дарэчы сказаць

**abażur, ~u** *м.* абажур; заслона, засня

**ABC** азбука; асновы; пачаткі; **~ dziennikarstwa** асновы журналістыкі

**abcug: w krótkich ~ach** хутка; праз хвіліну

**abderyta** *м. кніжн.* невук; дурань, прасцяк

**abdykacja** *ж.* адрачэнне (адмова) ад трона, ад улады (*добраахвотная*); адстаўка

**abdykowa|ć** *незак.* адракацца (адмаўляцца) ад трона, ад улады; **król ~ł** кароль адмовіўся ад трона (сышоў з трона)

**abecadł|o** *н.* **1.** азбука, алфавіт; **nauczyć się ~a** вывучыць алфавіт; **2.** асновы; пачаткі; **~o dobrego wychowania** асновы (пачаткі) добрага выхавання

**abecadłowo** у алфавітным парадку; паводле алфавіта, па алфавіце

**abecadłowy** азбучны, алфавітны; **porządek ~** алфавітны парадак; **wykaz ~** алфавітны паказальнік

**abietyna** *ж.* жывіца; смала

**Abisynka** *ж.* абісінка; эфіопка

**Abisyńczyk** *м.* абісінец; эфіоп

**abisyński** абісінскі; эфіопскі

**abiturient** *м.* выпускнік (*звычайна, сярэдняй школы*); **~ liceum** выпускнік ліцэя

**abnegacja** *ж.* **1.** неахайнасць; **2.** *уст.* адрачэнне *ад чаго*

**abnegat** *м.* **1.** неахайны; **2.** *уст.* самаадданы; самаахвярны

**abnegatka** *ж.* **1.** неахайная; **2.** *уст.* самаадданая; самаахвярная

**abo**; *гл.* **albo**

**abominacja** *ж. кніжн.* агіда; гідасць

**abonament, ~u** *м.* абанемент; падпіска; **~ do teatru** абанемент у тэатр

**abonent** *м.* **1.** абанент; **~ telefoniczny** тэлефонны абанент; **2.** падпісчык; карыстальнік абанемента; **~ pisma (gazety)** падпісчык часопіса (газеты)

**abonentka** *ж.* **1.** абанент (*жанчына*); абанентка; **2.** падпісчыца; карыстальніца абанемента; **~ pism kobiecych** падпісчыца на жаночыя выданні

**abonować** *незак.* **1.** *co* падпісвацца *на што*; выпісваць *што*; **~ pismo** выпісваць часопіс; **2.** абаніраваць; **~ bilety na koncerty** карыстацца абанементам на канцэрты

**aborcj|a** *ж. мед.* аборт; спарон, спарожа; **dokonywać (dokonać) ~i** рабіць (зрабіць) аборт

**abort, ~u** *м. мед.* аборт

**aborygen** *м.* абарыген; тубылец

**Abraham: przenieść się na łono ~a** *жарт.* пакінуць гэты свет; пайсці ў лепшы свет

**abrewiacja** *ж.* абрэвіятура; умоўнае скарачэнне

**absencja** *ж.* адсутнасць, нез'яўленне, прагул; ~ **chorobowa** адсутнасць з-за хваробы; **usprawiedliwiona** ~ апраўданая адсутнасць, адсутнасць па важкай прычыне

**absmak, ~u** *м.* расчараванне; незадавальненне

**absolucj|a** *ж.* **1.** *юр.* зняцце абвінавачання; **2.** *рэл.* адпушчэнне грахоў; **udzielić ~i** даць адпушчэнне грахоў; адпусціць грахі; **dostać (uzyskać) ~ę** атрымаць адпушчэнне грахоў

**absolut, ~u** *м.* абсалют

**absolutnie** **1.** абсалютна, зусім, цалкам; ~ *o czym* **zapomnieć** зусім (абсалютна) запамятаваць *пра што* (*аб чым*); **2.** ні ў якім разе; нізавошта

**absolutn|y** абсалютны, поўны, вычарпальны; неабмежаваны; **~a cisza** поўная цішыня; **~a większość** абсалютная большасць; **zero ~e** *фіз.* абсалютны нуль; **~e szczęście** бязмежнае шчасце

**absolutorium** *н.* **1.** зацвярджэнне справаздачы; **udzielić ~** ухваліць (прыняць) справаздачу; **2.** заканчэнне універсітэта (*без абароны дыплома*)

**absolutyzm, ~u** *м.* абсалютызм; неабмежаваная ўлада

**absolwent** *м.* выпускнік; ~ **wydziału chemii** выпускнік хімічнага факультэта; ~ **szkoły podstawowej** выпускнік пачатковай школы; ~ **kursów zawodowych** выпускнік прафесійных курсаў

**absolwentka** *ж.* выпускніца

**absorbować** *незак.* **1.** паглынаць; ~ **czas** займаць час; **2.** *фіз., хім.* абсарбіраваць, паглынаць

**absorbat, ~u** *м. хім.* абсарбат

**absorbent** *м. хім.* абсарбент; паглынальнік

**absorpcja** *ж. фіз., хім.* абсорбцыя; паглынанне

**abstrahować** *незак. od czego* **1.** адвабліваць, адцягваць *ад чаго*; не закранаць, прамінаць *што*; ~ **od szczegółów** не закранаць дэталяў; не разглядаць падрабязна; **2.** *філ.* абстрагаваць

**abstrakcja** *ж.* абстракцыя

**abstrakcjonista** *м.* абстракцыяніст

**abstrakcyjnie** абстрактна, адцягнена, адарвана

**abstrakcyjny** абстрактны, адцягнены, адарваны

**abstrakt, ~u** *м.* **1.** рэзюмэ; **2.** абстракцыя; адцягненае паняцце

**abstynencja** *ж.* устрыманне, устрыманасць

**abstynent** *м.* абстынент; устрыманы чалавек; непітушчы

**absurd, ~u** *м.* абсурд, бязглуздзіца, недарэчнасць; **oczywisty** ~ відавочны абсурд; **mówić ~y** казаць недарэчнасці; **doprowadzić do ~u** давесці да абсурду; **~!** гэта немагчыма!; глупства!; абсурд!

**absurdalny** абсурдны, недарэчны, бессэнсоўны

**absyda** *ж.* абсіда

**absynt, ~u** *м.* настойка на палыне; абсэнт

**aby** **1.** каб; **przyszedł, ~ powiedzieć** ён прыйшоў, каб сказаць; **chcę, ~ tak było** хачу, каб так было; **2.** каб; абы; ~ **(tylko) nie zachorować** каб (толькі) не захварэць; **gdziekolwiek pójść, ~ nie do domu** куды-небудзь пайсці, абы не да хаты; ~ **się tylko nie spóźnić** абы (каб толькі, абы-толькі) не спазніцца; **aby-aby** абы-як; абы-толькі; абы з рук; **3.** ці (ж); **czy aby wrócą?** толькі ці вернуцца яны?

**acan** *м.* **1.** *уст.* скарачэнне ад **waszmość pan**; **2.** *разм.* пан

**achillesow|y: pięta ~a** ахілесава пята; слабое месца

**aceton, ~u** *м.* ацэтон

**acetonowy** ацэтонавы; **lakier** ~ ацэтонавы лак

**acetylen, ~u** *м.* ацэтылен

**acetylenowy** ацэтыленавы

**ach** ах; **~, jak tu pięknie!** ах, як тут прыгожа!; **słychać było tylko ~y i ochy** было чуваць толькі ахі і охі

**achać** *незак.* ахаць; ~ **i cmokać w zachwycie** ахаць і цмокаць (прыцмокваць) ад захаплення



**acpan** *м. уст.* скарачэнне ад **waszmość pan**

**acz** *уст. кніжн.* хоць, хаця; нягледзячы на тое, што; але; але ж

**aczkolwiek** хоць, хаця; нягледзячы на тое, што...; ~ **nie był zdolny, jednak ukończył studia** нягледзячы на тое, што ён не меў здольнасцей, аднак атрымаў вышэйшую адукацыю; **zgodził się, ~ dosyć niechętnie** ён згадзіўся, хаця досыць неахвотна

**Adam** *м. міф.* Адам; **jabłko ~a** *анат.* адамаў яблык, кадык

**ad hoc** [ad hok] спантанна, нечакана, хутка

**adamasz|ek, ~ku** *м.* адамашка

**adamaszkowy** адамашкавы

**adamowy: w stroju ~m~y** адамавым убранні

**adaptacj|a** *ж.* **1.** адаптацыя, прыстасаванне, пераробка, экранізацыя (*літаратурнага твора*); **~a dzieła do użytku szkolnego** адаптацыя твора для выкарыстання ў школе; **~a budynku mieszkalnego na biuro** перабудова жылога памяшкання пад офіс; **2.** *біял.* адаптацыя; **zdolność ~i** здольнасць да адаптацыі

**adapter** *м.* электрычны грамафон, прайгравальнік; **tańczyć przy dźwiękach ~a** танцаваць пад гукі грамафона

**adaptować** *незак.* адаптаваць, прыстасоўваць

**addenda** *мн. кніжн.* дадатак; прыпіска

**adekwatnie** адэкватна; **tłumaczyć ~ do oryginału** перакладаць у адпаведнасці з арыгіналам

**adekwatność** *ж.* адэкватнасць, адпаведнасць; ~ **definicji** адпаведнасць дэфініцый; ~ **pojęć** адэкватнасць паняццяў

**adekwatn|y** адэкватны, адпаведны; **forma utworu ~a do jego treści** форма твора адпавядае яго зместу

**adept** *м.* **1.** практыкант, пачатковец; **2.** адэпт; паслядоўнік, прыхільнік; **zdobywać nowych ~ów** заваёўваць новых прыхільнікаў

**adherent** *м. кніжн.* прыхільнік, паслядоўнік, паплечнік

**adidasy** *мн.* красоўкі; спартыўны абутак

**adiunkt** *м.* ад'юнкт; малодшы навуковы супрацоўнік; асістэнт

**adiutant** *м.* ад'ютант

**adiustacja** *ж.* рэдагаванне, праўка; ~ **stylistyczna** рэдагаванне стылю, стыльрэдактура

**adiustator** *м.* выпускаючы рэдактар, рэдактар выпуску

**adiustować** *незак.* рэдагаваць, правіць; рыхтаваць тэкст да друку

**administracja** *ж.* **1.** апарат; ~ **gospodarcza** гаспадарчы апарат; ~ **państwowa** дзяржаўны апарат; **2.** адміністрацыя, упраўленне, кіраўніцтва; ~ **fabryki** адміністрацыя завода; ~ **domów mieszkalnych** домакіраўніцтва; ~ **gospodarcza** гаспадарчая адміністрацыя; ~ **miejska** гарадская адміністрацыя; ~ **przedsiębiorstwa** адміністрацыя прадпрыемства

**administrator** *м.* адміністратар, кіраўнік

**administracyjn|y** адміністрацыйны, кіраўніцкі; **aparat ~y** адміністрацыйны апарат; **jednostka ~a** адміністрацыйная адзінка; **podział ~y** адміністрацыйны падзел

**administrować** *незак.* кіраваць

**admiracja** *ж. уст.* пакланенне; глыбокая пашана (павага)

**admiralicja** *ж.* адміралцейства

**admiralski** адміральскі

**admirał** *м.* адмірал

**admirować** *незак. kogo/co уст.* абагаўляць; глыбока паважаць (шанаваць) *каго*; ~ **swego nauczyciela** паважаць свайго настаўніка

**admonicja** *ж. кніжн.* вымова; напамінак

**adnotacja** *ж.* паметка, прыпіска, заўвага; нататка

**adnotować** *незак.* рабіць паметкі, запісваць; ~ *co* **na marginesie** рабіць заўвагі (пісаць *што*) на палях

**adopcja** *ж. юр.* усынаўленне, удачарэнне; апека

**adoptować** *незак.* **1.** *юр.* усынаўляць, удачараць; **2.** засвойваць, пераймаць

**adoracja** *ж.* 1. пакланенне, шанаванне, ушаноўванне; 2. абагаўленне; культ
**adorator** *м.* паклоннік; ~ **pięknych kobiet** паклоннік прыгожых жанчын
**adorować** *незак. kogo/co* 1. шанаваць, абагаўляць *каго*; захапляцца *кім*; ~ **dziewczynę** захапляцца дзяўчынай; 2. *рэл.* пакланяцца, абагаўляць
**adres, ~u** *м.* 1. адрас; **(wysłać) pod ~em** (выслаць) на адрас; **podać swój ~** даць свой адрас; ~ **zwrotny** зваротны адрас; **(uwaga) pod** *czyim* **~em** (заўвага) на адрас *каго*, у адрас *каго*; 2. *уст.* адрас (*віншавальны ліст*); ◊ **trafić pod zły ~** трапіць не па адрасе; памыліцца адрасам; трапіць не туды
**adresat** *м.* адрасат; атрымальнік
**adresować** *незак.* адрасаваць
**adresowy** адрасны
**adria** *ж.* драп
**adwent, ~u** *м. царк.* перадкалядны пост
**adwersarz** *м. уст.* праціўнік, супраціўнік, непрыяцель, апанент; **pokonać swoich ~y** перамагчы сваіх праціўнікаў
**adwokacki** 1. адвакацкі; **zespół ~** калегія адвакатаў; адвакацкая калегія; 2. *перан.* абарончы
**adwokat** *м.* 1. адвакат; ~ **przysięgły** *уст.* прысяжны паверany; 2. *перан.* абаронца, адвакат, заступнік
**adwokatka** *ж.* 1. адвакат (*жанчына*); 2. *перан.* заступніца, абаронца, адвакатка
**adwokatować** *незак. разм.* абараняць, заступацца; ~ *komu* быць *чыім* заступнікам (абаронцам)
**adwokatura** *ж.* адвакатура
**aelowiec** *м. гіст.* салдат Арміі Людовай
**aerobik, ~u** *м.* аэробіка; **uprawiać ~** займацца аэробікай
**aerobus, ~u** *м.* аэробус
**aerodyna** *ж.* паветраны карабель (*пра самалёт, верталёт, планёр*)
**aerodynamika** *ж.* аэрадынаміка
**aerofon, ~u** *м.* духавы музычны інструмент
**aeronautyczny** аэранаўтычны
**aeronautyka** *ж.* аэранаўтыка
**aeronawigacja** *ж.* аэранавігацыя, паветраная навігацыя
**aeroplan, ~u** *м.* аэраплан, самалёт
**aerosanie** *мн.* аэрасані
**aerostat, ~u** *м.* аэрастат
**aerostatyka** *ж.* аэрастатыка
**aerozol, ~u** *м.* аэразоль
**aerozolować** *незак.* распыляць
**afek|t, ~u** *м.* 1. *псіх.* афект; узбуджэнне; **zabójstwo w ~cie** забойства ў стане афекту; 2. *уст.* страсць, жарсць; каханне; **zapłonąć ~tem** загарэцца страсцю
**afektacj|a** *ж.* афектацыя; манернасць, паззіраванне; апломб; **mówić (gestykulować) z ~ą** манерна размаўляць (жэстыкуляваць)
**afektowany** манерны, паказны; напускны
**afektywn|y** *псіх.* афектны; эмацыянальны; пачуццёвы; **motywy ~e** афектыўныя матывы
**afer|a** *ж.* афёра, махлярства; авантура; **głośna ~a** гучная афёра; **wykryć ~ę** выкрыць афёру; **wplątać się w ~ę** ўблытацца ў афёру; **ale ~a!** *разм.* ну і авантура!
**aferzysta** *м.* аферыст
**Afganka** *ж.* афганка
**Afgańczyk** *м.* афганец
**afgański** афганскі
**afiks, ~u** *м. лінгв.* афікс
**afiliacja** *ж.* 1. далучэнне; прыняцце; сувязь; уключэнне; 2. стварэнне філіяла
**afirmacja** *ж.* пацвярджэнне, сцвярджэнне
**afirmować** *незак. кніжн.* пацвярджаць; сцвярджаць; падтрымліваць; вызнаваць; ухваляць; ~ *czyje* **ideały** падтрымліваць *чые* ідэалы
**afisz** *м.* афіша; ~ **teatralny** тэатральная афіша; ◊ **wejść na ~** выйсці на экран; пайсці на сцэне; **zejść z ~a** сысці з экрана (са сцэны)
**afiszować** *незак.* афішаваць, дэманстраваць; ~ **swoje uczucia** афішаваць (дэманстраваць) свае пачуцці
**afiszowa|ć się** *незак.* хваліцца *чым*, выхваляцца; паказваць *што*; звяртаць увагу на сябе, паводзіць сябе; **~l się wśród znajomych ze swoją dziewczyną** пахазваўся сярод знаёмых са сваёй дзяўчынай



**aflaston** *м.* галіён
**aforyzm, ~u** *м.* афарызм; **zbiór ~ów** зборнік афарызмаў
**aforysta** *м.* пісьменнік-афарыст
**aforystyczność** *ж.* афарыстычнасць
**aforystyczn|y** афарыстычны; **~e powiedzenie** афарыстычнае выказванне; **styl ~y** афарыстычны стыль
**afro** *нескл.* у афрыканскім стылі; **włosy (fryzura) ~** валасы (прычоска) у афрыканскім стылі
**afrodyzjak, ~u** *м.* узбуджальны сродак
**afront, ~u** *м.* абраза; знявага, прыніжэнне; **zrobić** *komu* **~** абразіць (зняважыць, прынізіць) *каго*; **znieść ~** знесці знявагу; **~** *kogo* **spotkał** абразілі *каго*
**afrontować** *незак. уст.* абражаць; зневажаць, прыніжаць
**Afrykanin** *м.* афрыканец
**Afrykanka** *ж.* афрыканка
**afrykański** афрыканскі
**agat, ~u** *м. мін.* агат
**agatowy** агатавы
**agawa** *ж. бат.* агава (*Agave*)
**agencja** *ж.* агенцтва, прадстаўніцтва; ~ **celna** мытнае агенцтва; ~ **eksportowa** экспартнае агенцтва; ~ **handlowa** камерцыйнае агенцтва; ~ **informacyjna** інфармацыйнае агенцтва; **Polska Agencja Prasowa** польскае агенцтва друку; ~ **kasy oszczędności** аддзяленне ашчаднай касы; ~ **reklamowa** рэкламнае агенцтва; ~ **transportowa** транспартнае агенцтва; ~ **turystyczna** турыстычнае агенцтва; ~ **ubezpieczeniowa** страхавое агенцтва
**agend|a** *ж.* 1. сектар, аддзел, філіял (*установы*); 2. нататнік, памятная кніжка для запісвання спраў; 3. **~y** *мн.* справы; **przejąć ~y** прыняць справы
**agent** *м.* 1. агент; ~ **bankowy (banku)** банкаўскі агент; ~ **czarterowy** чартэрны агент; ~ **eksportowy** экспартны агент, агент па экспарце; ~ **fiskalny (skarbowy)** фіскальны агент; ~ **giełdowy** біржавы агент; ~ **handlowy** камерцыйны агент; ~ **komisowy** агент-камісіянер; ~ **monopolowy** манапольны агент; ~ **podatkowy** падатковы агент; ~ **spedycyjny** агент па пагрузцы і высылцы тавару; экспедытар; ~ **stały** агент|прадстаўнік; ~ **ubezpieczeniowy** страхавы агент; ~ **zaopatrzeniowy** агент па забеспячэнні; ~ **zwykły** агент без выключных правоў; 2. тайны агент, шпег, шпіён, дэтэктыў; ~ **wywiadu (kontrwywiadu)** агент разведкі (контрразведкі)
**agentur|a** *ж.* 1. агентура; **wroga ~a** варожая агентура; **~a obcego wywiadu** агентура замежнай разведкі; 2. агенцтва; **pracować w ~ze** працаваць у агенцтве
**agitacj|a** *ж.* агітацыя; **~a przedwyborcza** перадвыбарная агітацыя; **przeprowadzić ~ę** весці агітацыю; агітаваць
**agitacyjny** агітацыйны
**agitator** *м.* агітатар
**agitatorski** агітатарскі
**agitować** *незак.* агітаваць
**aglutynacja** *ж. біял., лінгв.* аглюцінацыя
**aglutynacyjny** *біял., лінгв.* аглюцінацыйны
**agnostycyzm, ~u** *м.* агнастыцызм
**agnostyk** *м.* агностык
**agoni|a** *ж.* агонія; кананне, паміранне; **leżeć w ~i** ляжаць у агоніі; канаць; паміраць
**agraf|a** *ж. уст.* аграф, графка; спражка; **ozdobna ~a** аздобная графка; **spiąć szal ~ą** зашпіліць шаль графкай
**agrafka** *ж.* графка, засцёжка, зашпілька; спражка; англійская шпілька
**agrarn|y** аграрны; **kwestia ~a** аграрнае пытанне
**agrarysta** *м.* аграрнік
**agregat, ~u** *м.* агрэгат
**agresja** *ж.* агрэсія; напад; ~ **zbrojna** узброеная (ваенная) агрэсія
**agresor** *м.* агрэсар
**agrest, ~u** *м. бат.* агрэст (*Grossularia Mill.*); **konfitury (dżem; kompot) z ~u** варэнне (джэм; кампот) з агрэсту

**agrestow|y** агрэставы; **krzaki ~e** кусты агрэсту
**agresywn|y** агрэсіўны; **~a polityka** агрэсіўная палітыка; **postawa ~a** агрэсіўная пазіцыя; **~e zachowanie** агрэсіўныя паводзіны
**agrobiologia** *ж.* аграбіялогія
**agrobiologiczny** аграбіялагічны
**agrochemia** *ж.* аграхімія
**agrochemiczny** аграхімічны
**agroekologia** *ж.* аграэкалогія
**agronom** *м.* аграном
**agronomia** *ж.* аграномія
**agronomiczny** агранамічны
**agronomka** *ж.* аграном (*жанчына*); аграномка
**agrotechnika** *ж.* агратэхніка
**agroturystyka** *ж.* агратурызм
**aha** ага; **~, już rozumiem** а, разумею; **zjadłbyś coś?** – **~** можа, пад'еў бы? – ага (але, так); **~! nareszcie cię przyłapałem!** ага! нарэшце я цябе злавіў!
**ahistoryczny** антыгістарычны
**ahoj!** агой! (*марацкі кліч*)
**ahumanistyczny** антыгуманістычны, антыгуманны, нечалавечны; **~a postawa** антыгуманістычная пазіцыя
**AIDS** [ejds] СНІД; **chory na ~** хворы на СНІД
**aikido** *н.* айкідо
**air: ~ mail** [er mejl] авіяпошта
**aj** ай, аёй, ой; **~, jak boli!** ай, як баліць!
**ajencja** *ж.* 1. арэнда; **wziąć (dać) restaurację w ajencję** узяць (здаць) рэстаран у арэнду; 2. *уст.* агенцтва
**ajent** *м.* 1. арандатар; 2. *уст.* агент; пасрэднік; **~ giełdowy** біржавы агент; *гл.* **agent**
**ailant** *м; гл.* **bożodrzew**
**ajerkoniak, ~u** *м.* лікёр з жаўтком, яечны лікёр
**ajuści** 1. *абл.* так; а то ж; а як жа; **zgoda na to! ~!** згода!; а то ж!; 2. *абл.* не; яшчэ чаго
**akacja** *ж. бат.* акацыя (*Acacia L.*)
**akacjowy** акацыевы
**akademi|a** *ж.* 1. акадэмія; **Polska ~a Nauk (PAN)** акадэмія навук; **~a Sztuk Pięknych (ASP)** акадэмія мастацтваў; 2. урачыстае пасяджэнне; **~a ku** *czyjej* **czci** урачыстае пасяджэнне ў гонар *каго*; **~a z okazji...** урачыстае пасяджэнне з нагоды...
**akademick|i** 1. акадэмічны, тэарэтычны; **rok ~i** акадэмічны год; **wydanie ~ie** акадэмічнае выданне; **spór ~i** акадэмічная спрэчка; **~ie rozważania** тэарэтычныя разважанні; 2. студэнцкі; **nauczyciel ~i** выкладчык ВНУ; **dom ~i** студэнцкі інтэрнат; **młodzież ~a** студэнцкая моладзь
**akademiczka** *ж.* студэнтка
**akademijn|y** акадэмічны; **wydawnictwo ~e** а) выдавецтва акадэміі навук; б) акадэмічнае выданне
**akademik** *м.* 1. акадэмік; 2. студэнт; 3. *разм.* студэнцкі інтэрнат
**akanie** *н. лінгв.* аканне
**akapit, ~u** *м.* абзац, чырвоны радок
**akceleracja** *ж.* акселерацыя
**akcelerator** *м. тэх.* акселератар
**akcent, ~u** *м.* 1. акцэнт; **mówić z białoruskim ~em** гаварыць з беларускім акцэнтам; 2. націск; акцэнт; 3. пачуццё; адценне; **mówić z ~em szczerości** гаварыць шчыра (даверліва); 4. дэталь; акцэнт; **kolorowy ~ w szarym stroju** каляровая дэталь у шэрым убранні
**akcentować** *незак.* акцэнтаваць, ставіць націск, падкрэсліваць; **~ ironicznie swoje słowa** размаўляць з адценнем іранічнасці
**akcentuacja** *ж. лінгв.* акцэнтуацыя
**akcept, ~u** *м. кніжн.* акцэпт; **~ bankowy** банкавы акцэпт; **~ czeku** акцэпт чэка; **~ częściowy** акцэпт частковы; **~ finansowy** фінансавы акцэпт; **~ kredytowy** крэдытны акцэпт; **~ rachunku** акцэпт рахунку; **~ towarowy** таварны акцэпт; **~ traty** акцэпт траты; **~ weksla** акцэпт вэксаля; **~ z zastrzeżeniem** акцэпт з агаворкай; *гл.* **akceptacja**
**akceptacj|a** *ж. кніжн.* 1. згода; прызнанне, падтрымка, ухваленне; **liczyć na ~ę** разлічваць на падтрымку; 2. *фін.* акцэпт, прыняцце вэксаля



**akceptować** *незак.* 1. прымаць, ухваляць, пацвярджаць, пагаджацца; 2. *фін.* акцэптаваць
**akces, ~u** *м. кніжн.* далучэнне, удзел; **zgłosić swój ~ do akcji** аб'явіць аб сваім удзеле ў акцыі
**akcesori|um** *н.* аксэсуар, прыналежнасць; **~a samochodowe** аўтамабільныя аксэсуары; **~a malarza** прыналежнасці мастака
**akcj|a** *ж.* 1. кампанія; **~a wyborcza** выбарчая кампанія; **~a sewna** пасяўная кампанія; **~a górska** выправа ў горы; 2. акцыя, дзеянне, бой, бітва; **~a bojowa (zbrojna)** баявыя дзеянні; **wprowadzić samoloty do ~i** увесці самалёты ў дзеянне; **~a i reakcja** *фіз.* дзеянне і процідзеянне; 3. *літ.* дзеянне, дзея; **~a się rozgrywa (toczy) w...** дзеянне адбываецца ў ...; 4. *эк.* акцыя; **~a bankowa** банкаўская акцыя; **~a gwarantowana** гарантаваная акцыя; **~a holdingowa** акцыя холдынг-кампаніі; **~a imienna** імянная акцыя; **~a kredytowa** крэдытная акцыя; **~a kumulatywna** кумулятыўная акцыя; **~a na okaziciela** акцыя на прад'яўніка; **~a przedsiębiorstwa** акцыя прадпрыемства; **~a terminowa** тэрміновая акцыя; **~a założycielska (fundatorska)** устаноўчая акцыя; **~e spadają (idą w górę)** акцыі падаюць (павышаюцца); **wzrost wartości ~i** рост вартасці акцый; **mieć (posiadać) ~e** валодаць акцыямі; **wykupić ~e** купіць акцыі; 5. *спарт.* атака; **~a na bramkę przeciwnika** атака на вароты праціўніка
**akcjonariusz** *м.* акцыянер
**akcyjn|y** 1. дзейны, актыўны; 2. акцыянерны; **towarzystwo ~e** акцыянернае таварыства; **przedsiębiorstwo ~e** акцыянернае прадпрыемства
**akcyz|a** *ж.* акцыз; **~a na alkohol** акцыз на спірт і алкагольныя напіткі; **~a na wyroby tytoniowe** акцыз на тытунёвыя вырабы; **obłożyc ~ą** абкласці акцызам
**akcyzow|y** акцызны; **opłata ~a** акцызны збор
**aklamacj|a** *ж.* ухвала воклічамі; **wybrać przez ~ę** выбраць аднадушна без галасавання
**aklimatyzacja** *ж.* 1. акліматызацыя; 2. *перан.* адаптацыя, прыстасаванне
**aklimatyzować** *незак.* акліматызаваць
**aklimatyzować się** *незак.* акліматызавацца
**akmeista** *м.* акмеіст
**akmeizm, ~u** *м. літ.* акмеізм
**akolit|a** *м. кніжн.* паплечнік, паслядоўнік; **być** *czyim* **~ą** быць паслядоўнікам *каго*
**akomodacja** *ж.* акамадацыя
**akompaniament, ~u** *м.* акампанемент
**akompaniator** *м.* акампаніятар
**akompaniatorka** *ж.* акампаніятарка
**akompaniować** *незак.* акампаніраваць
**akonto** на рахунак плацяжу
**akord, ~u** *м.* 1. *муз.* акорд; **fałszywy ~** фальшывы акорд; **brać ~y** браць акорды; 2. здзельная праца, здзельшчына; **pracować na ~** працаваць сумесна (разам, здзельна)
**akordeon, ~u** *м.* акардэон
**akordowy** 1. акордны; 2. здзельны
**akordowo** здзельна; **robotnik płatny ~** работнік са здзельнай аплатай
**akowiec** *м.* салдат Арміі Краёвай
**akr** *м.* акр
**akredytacja** *ж.* акрэдытацыя
**akredytować** *незак.* акрэдытаваць
**akredytyw|a** *ж. эк.* акрэдытыў; **~a bankowa** банкавы акрэдытыў; **~a (bez)terminowa** (бес)тэрміновы акрэдытыў; **~a budżetowa** бюджэтны акрэдытыў; **~a długoterminowa** доўгатэрміновы акрэдытыў; **~a nieodwołalna** безадмоўны акрэдытыў; **~a nieprzenoszalna** нетрансфертабельны (неперанoсны) акрэдытыў; **~a okrężna** цыркулярны акрэдытыў; **~a pieniężna** грашовы акрэдытыў; **~a przenoszalna** пераводны (трансфертабельны) акрэдытыў; **otworzyć ~ę** адкрыць акрэдытыў; **wyczerpać ~ę** выкарыстаць акрэдытыў да канца; **wystawić ~ę** выдаць акрэдытыў
**akrobacja** *ж.* акрабатыка; **~ lotnicza** фігуры вышэйшага пілатажу; *гл.* **akrobatika**

**akrobata** *м.* акрабат
**akrobatka** *ж.* акрабатка
**akrobatyczn|y** акрабатычны; **skoki ~e** акрабатычныя скачкі
**akrobatyka** *ж.* акрабатыка (*спартыўная або цыркавая*)
**akronim, ~u** *м.* акронім; абрэвіятура
**akryl, ~u** *м. хім.* акрыл
**aksamit, ~u** *м.* аксаміт
**aksamit|ka** *ж.* **1.** аксамітка (*стужка з аксаміту*); **wisiorek (medalion) na ~ce** кулон (медальён) на аксамітцы; **2.** *бат.* аксамітка (*Tagetes L.*)
**aksamitn|y** аксамітавы, аксамітны; **~e ubranko** аксамітны гарнітурчык (касцюмчык); **~y kołnierz** аксамітавы каўнер; **~a murawa** аксамітная мурава; **~y głos** аксамітны голас
**aksjomat, ~u** *м.* аксіёма
**aksjomatyczny** аксіяматычны
**akt, ~u** *м.* **1.** акт, справа, факт; **~ oskarżenia** абвінавaўчы акт; **~ zajęcia mienia** акт вопісу маёмасці; **spisać (sporządzić) ~** скласці акт; **~ urodzenia** пасведчанне аб нараджэнні; **~ zejścia** пасведчанне аб смерці; **~ polityczny** палітычны акт; **2. ~a** *мн.* дакументы, акты; **~a stanu cywilnego** акты грамадзянскага стану; **3.** дзея, акт; **sztuka w trzech ~ach** п'еса ў трох дзеях; **4.** *маст.* акт
**aktor** *м.* акцёр, артыст
**aktorka** *ж.* актрыса, акцёрка, артыстка
**aktorsk|i** акцёрскі; **pozbawiony ~ich zdolności** пазбаўлены акцёрскіх здольнасцей; **kariera ~a** акцёрская кар'ера
**aktówka** *ж.* **1.** папка (*для дакументаў*); **skórzana ~** скураная папка; **2.** аднаактовая п'еса
**aktualizować** *незак.* рабіць актуальным (злабадзённым)
**aktualnie** у гэты момант; **sprawy ~ ważne** злабадзённыя справы
**aktualnoś|ć** *ж.* актуальнасць, злабадзённасць, надзённасць; **stracić ~ć** страціць актуальнасць (надзённасць); **2.** *часцей мн.* **~ci** навіны; навінкі; **~ci filmowe** навіны кіно; **kronika ~ci** навіны дня
**aktualn|y** актуальны, злабадзённы, надзённы, сучасны; **~e potrzeby** надзённыя патрэбы; **~y temat** актуальная тэма
**aktyw, ~u** *м.* актыў; **~ partyjny** партыйны актыў; **~ oddolny** нізавы актыў
**aktywa** *мн.* **1.** *бух.* актыў; **~ bilansu (bilansowe)** актыў балансу; **~ banku (bankowe)** актыў банка; **~ obrotowe** абаротны актыў; **~ pieniężne** грашовы актыў; **~ płynne** ліквідны актыў; **~ pozabankowe (nieczynne)** пазаабаротны актыў; **~ spółki akcyjnej** актыў акцыянернага таварыства; **2.** *перан.* дасягненні
**aktywista** *м.* актывіст
**aktywistka** *ж.* актывістка
**aktywność** *ж.* актыўнасць; **~ życiowa** жыццёвая актыўнасць; **~ seksualna** сексуальная актыўнасць
**aktywn|y** **1.** дзейны; **~y członek organizacji** дзейны член (сябра) арганізацыі; **2.** актыўны; **~a postawa** актыўная пазіцыя; **~y stosunek do życia** актыўныя адносіны да жыцця, актыўная жыццёвая пазіцыя; **~y tryb życia** актыўны лад жыцця
**aktywowany** *хім.* актываваны; **węgiel ~** актываваны вугаль
**akumulacja** *ж.* акумуляцыя, накапленне; **~ pierwotna** першапачатковае накапленне; **~ kapitału** накапленне капіталу; **~ środków pieniężnych** акумуляцыя грашовых сродкаў
**akumulator** *м.* акумулятар; **~ elektryczny** электрычны акумулятар; **ładować ~** зараджаць акумулятар
**akumulatorek** *м.* батарэйка
**akumulować** *незак. кніжн.* акумуліраваць, накопліваць, збіраць; **~ kapitał** назапашваць капітал
**akurat** **1.** якраз, у самы раз, акурат; **2.** акурат, толькі [што], у той момант; **~ pociąg odjechał, kiedy on przyszedł na stację** цягнік толькі (акурат) паехаў, калі ён прыйшоў на станцыю; **3.** *выражае пярэчанне, нязгоду, недавер*; **oddasz mi pieniądze jutro? – ~!** аддасі мне грошы заўтра? – яшчэ чаго!; разагнаўся!



**akuratnie** акуратна
**akuratność** *ж.* акуратнасць
**akuratny** **1.** *абл.* правільны; такі, як належыць; **2.** *уст.* дакладны, пунктуальны, акуратны; **~ jak zegarek** дакладны як гадзіннік
**akustyczność** *ж.* акустычнасць
**akustyczn|y** акустычны; **warunki ~e sali** акустычныя ўмовы залы
**akustyka** *ж.* акустыка; **dobra (zła) ~** добрая (дрэнная) акустыка
**akuszer** *м.* акушэр; *гл.* **położnik**
**akuszerka** *ж.* акушэрка; *гл.* **położna**
**akuszerski;** *гл.* **położniczy**
**akuszerstwo** *н.*; *гл.* **położnictwo**
**akwalung, ~u** *м.* акваланг
**akwamaryn|a** *ж. мін.* аквамарын; **kryształy ~y** крышталы аквамарыну; **broszka z ~ą** брошка з аквамарынам
**akwarel|a** *ж.* акварэль; **malować ~ami** маляваць (пісаць) акварэллю; **uprawiać ~ę** займацца акварэллю
**akwarelista** *м.* акварэліст
**akwarelow|y** акварэльны, акварэлевы; **farby ~e** акварэльныя фарбы; **technika ~a** акварэльная тэхніка; **malarstwo ~e** акварэльны жывапіс; **obrazek ~y** акварэльны малюнак, акварэль
**akwarium** *н.* акварыум; **~ morskie** марскі акварыум; **~ ze złotymi rybkami** акварыум з залатымі рыбкамі
**akwariow|y** акварыумны; **rybki ~e** акварыумныя рыбкі
**akwawita** *ж. уст.* гарэлка, акавіта
**akwedukt, ~u** *м.* акведук
**akwizycja** *ж.* аквізіцыя
**akwizytor** *м.* агент, аквізітар; **~ handlowy** гандлёвы агент (аквізітар); **~ ubezpieczeniowy** страхавы агент (аквізітар)
**alabast|er, ~ru** *м.* алебастр; **waza z ~ru** алебастравая ваза
**alabastrow|y** алебастравы; **wazon ~y** алебастравы вазон; **~a biel** *перан.* алебастравая бель (белізна); **~a cera** *перан.* алебастравая скура
**alarm, ~u** *м.* **1.** трывога; **~ lotniczy** паветраная трывога; **trąbić (dzwonić) na ~** біць трывогу; **wszcząć ~** падняць трывогу; **~ bojowy (ćwiczebny)** баявая (вучэбная) трывога; **2.** сігналізацыя
**alarmistyczn|y** трывожны; **~e głosy w prasie** трывожныя галасы ў прэсе
**alarmować** *незак.* **1.** падымаць (біць) трывогу; **2.** бударажыць; **~ opinię publiczną** бударажыць грамадскую думку
**alarmow|y** **1.** трывожны; **dzwonek (gwizdek, sygnał) ~y** трывожны сігнал, сігнал трывогі (небяспекі); **2.** надзвычайны; **stan ~y** надзвычайнае становішча; **3.** аварыйны; **wyjście ~e** аварыйны выхад
**alarmujący** трывожны, неспакойны
**alasz, ~u** *м.* кменны лікёр
**Albanka** *ж.* албанка
**Albańczyk** *м.* албанец
**albański** албанскі
**albatros** *м. заал.* альбатрос, буравеснік (*Diomedea*)
**albinos** *м.* альбінос, бялёсы
**albo** або, альбо; **~ ty, ~ ja** альбо (або) ты, альбо (або) я
**albo** **1.** або, альбо, ці; **pojedziemy do Mińska ~ do Grodna** мы паедзем у Мінск або ў Гродна; **dziś ~ nigdy** сёння або ніколі; **zginąć ~ zwyciężyć** загінуць або перамагчы; **2.** ці, ці ж, а ці ж; **~ ja wiem!** ці ж я ведаю!
**albowiem** таму што, бо; **noc była ciemna, ~ księżyc zaszedł za chmury** ноч была цёмная, бо месяц схаваўся за хмары
**alboż** ці, ці ж, а ці ж; **~ ci to źle w domu?** ці ж табе дрэнна ў хаце?
**album, ~u** *м.* альбом (*для фотаздымкаў, марак, замалёвак і да т.п.*); **Album malarstwa polskiego** альбом польскага жывапісу; **szkice z ~u artysty** замалёўкі з альбома мастака
**albumow|y** альбомны; **wydanie ~e** альбомнае выданне
**alchemia** *ж.* алхімія
**alchemi|k** *м.* алхімік; **średniowieczni ~cy** сярэднявечныя алхімікі

без мэты; бязмэтна; **dopiąć ~u** дасягнуць мэты; **mieć** *co* **na ~u (za ~)** мець *што* на мэце; **~ uświęca środki** мэта апраўдвае сродкі; **mijać się z ~em** не дасягнуць мэты; 2. аб'ект; мішэнь; **obrać** *kogo* **za ~ żartów** абраць *каго* аб'ектам жартаў; 3. мішэнь; **mierzyć do ~u** мецiць у мішэнь

**cela** *ж.* 1. келля **~ zakonna** манаская келля; 2. камера; **wspólna ~** агульная камера

**celebra** *ж.* урачыстае набажэнства; урачысты абрад

**celebracj|a** *ж. разм.* урачыстая цырымонія; залішняя ўрачыстасць (пышнасць); **bez ~i** натуральна; без лішняй пампезнасці

**celebrować** *незак.* 1. асабліва ўрачыста выконваць царкоўны абрад; адпраўляць урачыстае набажэнства; 2. *перан.* урачыста рабіць *што*; чараваць *над чым*; **~ śniadanie** урачыста рабіць сняданак; чараваць над сняданкам

**celibat, ~u** *м.* цэлібат; бясшлюбнасць

**celka** *ж.* малая келля; келейка

**celnictwo** *н.* 1. мытнае ведамства; 2. *зборн.* мытнікі

**celnie** метка; трапна

**celnik** *м.* мытнік

**celność** *ж.* меткасць; трапнасць

**celny**[1] меткі; трапны; **~ strzał** трапны стрэл

**celny**[2] цудоўны; выдатны

**celn|y**[3] мытны; **~e opłaty manipulacyjne** мытныя плацежныя аперацыі; **kontrola ~a** мытны кантроль; **podatek ~y** мытны падатак; **urząd ~y** мытня

**celofan, ~u** *м.* цэлафан

**celować**[1] *незак.* 1. цэліцца; мецiць; лучаць; **~ do** *kogo/czego* цэліцца ў *каго/што*; **~ w nieprzyjaciela** мецiць ў ворага

**celować**[2] *незак.* вылучацца; выдавацца; **~ w nauce** вылучацца ў вучобе

**celowani|e**[1] *н.* 1. наводка; **~e bezpośrednie** прамая наводка; 2. прыцэльванне; **odległość ~a** прыцэльная адлегласць

**celowanie**[2] *н.* [вялікі] поспех

**celownica** *ж.* 1. візірная прылада; 2. дыёптр

**celowniczy** 1. прыцэльны; 2. *м. вайск.* наводчык

**celownik** *м.* 1. *грам.* давальны склон; 2. *вайск.* прыцэл, цэлік; 3. *спарт.* лінія фінішу

**celowo** наўмысна; свядома; знарок; **~ pominąć** наўмысна прамінуць

**celowość** *ж.* мэтазгоднасць; **~ zarządzeń** мэтазгоднасць распараджэнняў

**celow|y** 1. наўмысны; свядомы; 2. мэтавы; **jest ~e** мэтазгодна

**celta** *ж.* палатачная тканіна; брызент

**celujący** выдатны; вельмі добры; надзвычай добры

**celuloid, ~u** *м.* цэлулоід

**celuloidow|y** цэлулоідавы; цэлулоідны; **~a rączka parasolki** цэлулоідная ручка парасона

**celuloza** *ж.* цэлюлоза; клятчатка

**celulozowy** цэлюлозны; **przemysł ~** цэлюлозная прамысловасць; **papier ~** цэлюлозная папера

**cembrować** *незак.* абшываць дошкамі; абкладваць каменем

**cembrowina** *ж.* калодзежны зруб; мацаванне; **~ kanału** мацаванне канала

**cement, ~u** *м.* цэмент; **~ wodoszczelny (ognioodporny)** воданепранікальны (агнястойкі) цэмент

**cementować** *незак.* цэментаваць; умацоўваць

**cementownia** *ж.* цэментны завод

**cementow|y** цэментавы; цэментны; **~a podłoga** цэментавая падлога

**cen|a** *ж.* 1. цана; кошт; **~a interwencyjna** дзяржаўная рэгуляваная цана; **~a kupna** пакупная цана; **~a negocjacyjna** дагаворная цана; **~a państwowa** дзяржаўная цана; **~a rynkowa** рыначная цана; **~a stała** устойлівая цана; **~a umowna** канвенцыйная (дагаворная) цана; **~a wolnorynkowa** свабодная цана; **~a zbytu** цана збыту; **~a detaliczna** рознічны кошт; **~a hurtowa** кошт гуртам; оптавы кошт; **za wszelką ~ę** за любы кошт; любым коштам; **za żadną ~ę** ні за якія грошы; нізавошта; **szalone ~y** шалёныя цэны; **sztywne ~y** цвёрдыя



цэны; 2. цана; вартасць; **być w ~ie** быць у цане; цаніцца

**cenić** *незак.* 1. цаніць; **~ sobie** *kogo/co* быць высокай думкі пра *каго/што*; 2. ацэньваць

**cennik** *м.* прэйскурант; цэннік

**cennik** *м.* цэннік; прэйскурант; тарыф

**cennikowy** расцэначны

**cennikowy** прэйскурантны

**cenność** *ж.* каштоўнасць; цэннасць

**cenny** каштоўны; цэнны

**centaur** *м. міф.* кентаўр

**centnar** *м.* цэнтнер

**centrala** *ж.* цэнтр; цэнтральнае кіраўніцтва (упраўленне); цэнтральны пункт; **~ telefoniczna** тэлефонная станцыя; камутатар; 3. аб'яднанне; **~ handlowa** гандлёвае аб'яднанне; **~ handlu zagranicznego** аб'яднанне замежнага гандлю; **~ kredytowa** крэдытнае аб'яднанне

**centralizacja** *ж.* цэнтралізацыя

**centralizować** *незак.* цэнтралізаваць

**centraln|y** цэнтральны; **~e ogrzewanie** цэнтральнае ацяпленне

**centrum** *н.* цэнтр; **~ dystrybucji** цэнтр размеркавання (тавараў); **~ handlowe** гандлёвы цэнтр; **~ finansowe** фінансавы цэнтр; **~ miasta** цэнтр горада; **być w ~ zainteresowania (uwagi)** быць у цэнтры ўвагі

**centryfuga** *ж.* цэнтрыфуга

**centuś** *м. жарт.* жмінда

**centym** *м.* сантым

**centymetr** *м.* сантыметр; **~ krawiecki** сантыметровая стужка

**cenzor** *м.* цэнзар

**cenzorski** цэнзарскі

**cenzura** *ж.* цэнзура; **~ prewencyjna** папярэдняя цэнзура; **~ represyjna** каральная цэнзура

**cenzuralny** цэнзурны

**cenzurować** *незак.* цэнзураваць

**cenzus, ~u** *м.* цэнз; **~ wieku** узроставы цэнз

**cenzusowy** цэнзавы

**cep** *м.* 1. цэп; 2. *разм., пагард.* ёлупень; дубіна (*пра чалавека*)

**cepak** *м.* біч цэпа

**cepisko** *н.* цапільна

**cera**[1] *ж.* скура (*твару*); колер (*твару*); **zdrowa ~** здаровы колер твару

**cera**[2] *ж.* цыроўка

**ceramiczn|y** керамічны; **wytwórnia ~a** керамічны завод

**ceramik** *м.* ганчар; мастак-кераміст

**ceramika** *ж.* кераміка; **~ użytkowa** прыкладная кераміка; **~ czerwona** ганчарныя вырабы

**cerata** *ж.* цырата, кляёнка

**ceratowy** цыратовы, кляёнчаты

**cerebralny** цэрэбральны; мазгавы

**ceregiel|e** *мн.* цырымонія; **bez ~i** без цырымоній; напросту; **robić ~e** *разм.* цырымоніцца

**ceregielować się** *незак.* цырымоніцца

**ceremonia** *ж.* 1. цырымонія; абрад; 2. *гл.* **ceregiele**

**ceremonialnie** цырымонна

**ceremonialny** цырыманіяльны

**ceremoniał, ~u** *м.* цырыманіял

**cerkiew** *ж.* царква (*праваслаўная*)

**cerkiewny** царкоўны; **język ~** царкоўнаславянская мова

**cerowaczka** *ж.* цыравальшчыца

**cerować** *незак.* цыраваць

**cerowanie** *н.* цыраванне

**cerownia** *ж.* цыравальня

**certa** *ж. заал.* рыбец (*Vimba vimba L.*)

**certacja** *ж. разм.* цырымонія

**certować się** *незак. разм.* цырымоніцца

**certyfikat, ~u** *м.* сертыфікат; пасведчанне; **~ asekuracyjny** страхавы сертыфікат; **~ jakości** сертыфікат якасці; **~ transportowy** транспартны сертыфікат; **~ walutowy** валютны сертыфікат

**cesarski** імператарскі; ◊ **~e cięcie** кесарава сячэнне

**cesarstwo** *н.* 1. імперыя; **~ rzymskie** рымская імперыя; 2. імператар з жонкай

**cesarz** *м.* цэзар; кесар; імператар

**cesarzowa** *ж.* імператрыца

**cesja** *ж. юр.* перадача права; **~ na rzecz** *kogo* перадача правоў на карысць *каго*; **~ terytorium** перадача тэрыторыі

**cesjonariusz** *м. юр.* правапераемнік
**cetnar** *м.* цэнтнер
**cetno: ~ czy licho?** цот ці лішка?
**cewiarka** *ж.* матальная машына
**cewiarnia** *ж.* матальнае аддзяленне; шпулечны цэх
**cewka** *ж.* **1.** шпуля; шпулька; **~ zapłonowa** шпуля запальная; **~ indukcyjna (magnesująca)** індукцыйная (магнітная) шпуля; **~ klockowa** каклюшка; **2.** *мед:* канал; **~ moczowa** урэтра; **3.** цэўка; **4.** трубачка
**cewnik** *м. мед.* катэтэр
**cezura** *ж. муз., літ.* цэзура; паўза
**cęgi** *мн.* **1.** абцугі; **2.** шчыпцы
**cętka** *ж.* крапінка; кропка
**cętkowany** плямісты; у крапкі
**chaber** *м.* васілёк, валошка (*Centaurea L.*)
**chabeta** *ж. пагард.* кабылка, кабылюк, каняга
**chabrowy** васільковы, валошкавы
**chadecja** *ж. разм.* хадэцыя (*партыя хрысціянскіх дэмакратаў*)
**chadzać** *незак.* хадзіць, бываць (*час ад часу*); **~ do teatru** хадзіць у тэатр; бываць у тэатры
**chała** *ж.*; *гл.* **chałka**
**chałat, ~u** *м.* халат
**chałka** *ж.* хала
**chałtura** *ж. разм.* халтура
**chałupa** *ж.* хаціна, халупа
**chałupka** *ж.* хацінка, халупка
**chałupnica** *ж.* саматужніца
**chałupnictwo** *н.* саматужніцтва
**chałupniczka** *ж.*; *гл.* **chałupnica**
**chałupniczy** саматужны; **przemysł ~** саматужны промысел
**chałupnik** *м.* саматужнік
**chałwa** *ж.* халва
**cham** *м.* хам; ◊ **robić** *co* **na ~a** рабіць *што* нахабна
**champion** *м.* [czempion] чэмпіён
**chamsk|i** хамскі; **po ~u** па-хамску
**chamstwo** *н.* хамства
**chan** *м.* хан
**chanat, ~u** *м.* ханства
**chaos, ~u** *м.* хаос; беспарадак; блытаніна; **~ uczuć** хаос пачуццяў
**chaotycznie** хаатычна
**chaotyczny** хаатычны
**chapać** *незак.* хапаць
**chapnąć** *зак.* **1.** хапнуць; перахапіць; перакусіць; **2.** *разм.* хапнуць; скрасці
**charakter, ~u** *м.* характар; **brak ~u** бесхарактарнасць; **~ pisma** почырк; **czarny ~** адмоўны тып
**charakterystyczność** *ж.* характарыстычнасць; характэрнасць
**charakterystyczny** характарыстычны; характэрны
**charakterystyka** *ж.* характарыстыка
**charakteryzacja** *ж.* грыміраванне, грыміроўка
**charakteryzator** *м.* грымёр
**charakteryzatornia** *ж.* грымёрны пакой
**charakteryzowa|ć** *незак.* **1.** характарызаваць; **~ła go odwaga** ён вызначаўся адвагай; **2.** грыміраваць; **~ć aktorów do filmu** грыміраваць акцёраў для здымкаў фільма
**charakteryzować się** *незак.* **1.** характарызавацца; вызначацца; адзначацца; **2.** грыміравацца; **~ się na staruszka** грыміравацца ў (пад) старога
**charci** хартовы
**charcica** *ж.* сука-хорт
**charczeć** *незак.* хрыпець
**charczenie** *н.* хрып
**charkać** *незак.* харкаць
**charknąć** *зак.* харкнуць
**charkot, ~u** *м.* хрып; хрыпенне
**charlactwo** *н.*; *гл.* **cherlactwo**
**chart** *м.* хорт
**charytatywn|y** харытатыўны; дабрачынны; **fundacja ~a** дабрачынны фонд; *гл.* **dobroczynny**
**charyzma** *ж.* харызма
**chaszcze** *мн.* кустоўе; зараснік; хмызняк
**chata** *ж.* **1.** хата; **2.** *разм.* кватэра; жыллё
**chatka** *ж.* хатка
**chcieć** *незак.* хацець; жадаць; **chcąc nie chcąc** хочаш не хочаш; воляй-няволяй; хоцькі-няхоцькі; **niech co chce będzie** няхай будзе, што будзе; **nie chce mi się** (мне) не хочацца; **chce mi się siusiu** *разм.* я хачу пі-пі; **chce mi się spać (pić)** мне хочацца спаць (піць); **chcę, żeby on tam pojechał** я хачу, каб ён паехаў туды; **jak chcesz** як хочаш



**chciwie** хціва, прагна
**chciwiec** *м.* хцівец, прагны, прагавіты; карысталюбец, карыслівец
**chciwość** *ж.* хцівасць, прагавітасць, прагнасць; карысталюбства, карыслівасць
**chciwy** хцівы, прагны, прагавіты; сквапны; *kto* **~ zemsty** *хто* прагне помсты; **~ na pieniądze** хцівы да грошай
**cheeseburger** *м.* [czizburgier] чызбургер
**chełpić się** *незак.* выхваляцца; фанабэрыцца; задавацца
**chełpliwość** *ж.* выхваляннне; фанабэрыстасць; задаванне
**chełpliwy** выхвальны; фанабэрысты
**chemia** *ж.* хімія; **~ organiczna** арганічная хімія; **~ nieorganiczna** неарганічная хімія
**chemicznie** хімічна
**chemiczn|y** хімічны; **związek ~y** хімічнае злучэнне; **przemysł ~y** хімічная прамысловасць; **artykuły ~e** хімічныя вырабы
**chemik** *м.* хімік
**chemikalia** *мн.* хімікаліі
**cherlactwo** *н.* хваравітасць; слабасць; кволасць
**cherlać** *незак.* недамагаць, хварэць; хірэць
**cherlak** нядужы (хваравіты, кволы) чалавек
**cherlawy** нядужы; хілы; хворы
**cherubin** *м.* херувім
**chevrolet** *м.* [szewrolet] шэўралe (*марка аўтамабіля*)
**chę|ć** *ж.* жаданне; ахвота; **dobre ~ci** добрыя намеры; **nie mam ~ci** не маю ахвоты; **z ~cią** ахвотна; з ахвотаю; **pomimo najlepszych ~ci** пры ўсім жаданні; **~ć do życia** прага жыцця; **mam ~ć na lody** я хачу марожанага
**chędogi** ахайны; чысты
**chędogo** ахайна; чыста
**chętka** *ж.* ахвота; жаданне; *komu* **przyszła ~ potańczyć** *хто* захацеў патанчыць; *каму* захацелася патанчыць
**chętnie** ахвотна
**chętny** ахвочы; **~ do nauki** ахвочы да навукі
**chichot, ~u** *м.* **1.** хіхіканне; **2.** *разм.* рагатун (*пра чалавека*)
**chichotać** *незак.* хіхікаць
**chichotka** *ж.* рагатуха
**chimera** *ж.* **1.** *міф.* хімера; **2.** капрыз; **3.** хімера; фантазія
**chimeryczn|y** **1.** хімерычны; фантастычны; **2.** капрызны; **~a natura** капрызны характар
**chimeryk** *м.* фантазёр
**chinina** *ж.* хінін
**Chinka** *ж.* кітаянка
**chinow|y** хінны; **kora ~a** хінная кара
**Chiny: za ~ tego nie zrobię** нізавошта гэта не зраблю
**Chińczyk** *м.* кітаец
**chiński** кітайскі
**chińszczyzna** *ж.* **1.** усё кітайскае (*культура; звычаі; вырабы*); **2.** кітайская мова; **3.** нешта незразумелае; **to dla mnie ~** гэта для мяне кітайская грамата; **4.** залішнія цырымоніі
**chipsy** *мн.* [czipsy] чыпсы
**chiromancja** *ж.* хірамантыя
**chiromanta** *м.* хірамант
**chiromantka** *ж.* хірамантка
**chirurg** *м.* хірург
**chirurgia** *ж.* хірургія
**chirurgiczny** хірургічны
**chlać** *незак. разм.* жлукціць; **~ wódkę** жлукціць гарэлку
**chlap!** хлюп!; хляп!
**chlapać** *незак.* хлюпаць; пырскаць; пляскаць
**chlapać się** *незак.* плюхацца; пялёскацца
**chlapanina** *ж.* **1.** хлюпанне; **2.** хлюпота; слота; непагадзь, непагода; дажджлівае (пахмурнае) надвор'е
**chlapnąć** *зак.* хлюпнуць; плюхнуць; **~ atramentem** плюхнуць чарніламі
**chlastać** *незак.* пляскаць; біць; сцябаць, хвастаць
**chleb** *м.* **1.** хлеб; **~ razowy** жытні (аржаны) хлеб; **~ pytlowy** пытляваны хлеб; **2.** *пе-*

*ран.* хлеб, заробак; **lekki ~** лёгкі хлеб; **za ~em** у пошуках хлеба; ◊ **~ powszedni** хлеб надзённы; **być na łaskawym ~ie** быць нахлебнікам; **nie z jednego pieca ~ jadał** бывалы; бывалец; **o ~ie i wodzie** на вадзе і хлебе; **nie samym ~em żyje człowiek** не адным хлебам жыве чалавек

**chlebak** *м.* заплечнік; рэчавы мяшок; торба

**chlebn|y 1.** хлебны; **mąka ~a** хлебная мука; **2.** урадлівы; **ziemia ~a** урадлівая зямля

**chlebodajny 1.** ураджайны; урадлівы; **2.** даходны

**chlebodawca** *м.* **1.** работадаўца; **2.** дабрадзей

**chlebowiec** *м. бат.* хлебнае дрэва (*Artocarpus Forst.*)

**chlebowy** хлебны; **kwas ~** хлебны квас

**chlew, ~a/~u** *м.* хлеў

**chlewiarka** *ж.*; *гл.* **chlewmistrzyni**

**chlewiarz** *м.*; *гл.* **chlewmistrz**

**chlewmistrz** *м.* свінар

**chlewmistrzyni** *ж.* свінарка

**chlewn|y: trzoda ~a** *ж.* свінні; пагалоўе свіней

**chlipać** *незак.* **1.** усхліпваць; **2.** сёрбаць

**chlor, ~u** *м. хім.* хлор

**chloran, ~u** *м. хім.* хларат

**chlor|ek, ~ku** *м.* **1.** соль салянай кіслаты; хларыд; **2.** жавель; **3.** хлёрка

**chlorofil, ~u** *м. біял.* хларафіл

**chloroform, ~u** *м.* хлараформ

**chloroformować** *незак.* хларафармаваць

**chloropikryna** *ж. хім.* хлорпікрын

**chlorować** *незак.* хлараваць

**chlorowanie** *н.* хлараванне

**chlorowy** *хім.* хлорны

**chlub|a** *ж.* гонар; слава; **był on ~ą narodu** ён быў гонарам (славай) народа; **być ~ą rodziców** быць гонарам бацькоў; **przynosić ~ę** прыносіць славу

**chlubić się** *незак. kim/czym, z czego* ганарыцца *кім/чым*

**chlubnie** з гонарам; з годнасцю

**chlubn|y** пахвальны; ганаровы; **~e świadectwo** пахвальная грамата

**chlup** плюх; плясь; **zamyślił się i ~ w kałużę!** ён задумаўся і плясь у лужыну!

**chlup|ać** *незак.* пляскаць, плёскаць, хлюпаць, шлёпаць, булькатаць; **mleko ~ie w bańkach** малако плёскае ў слоіках

**chlupnąć** *зак.* пырснуць; хлюпнуць, плюхнуць

**chlupotać** *незак.*; *гл.* **chlupać**

**chlusną|ć** *зак.* пляснуць, плёснуць; лінуць; **~ć na** *kogo* **błotem** абліць *каго* граззю; **woźnica ~ł konia** вознік сцёбнуў (сцебануў) каня

**chlust!** пырсь!

**chlu|stać** *незак.* хлястаць, хвастаць; **deszcz ~szcze** дождж хлешча (хвошча)

**chłeptać** *незак.* хлябтаць

**chłodek** *м.* халадок

**chłodnawo** халаднавата

**chłodnawy** халаднаваты

**chłodn|ąć** *незак.* халаднець; **powietrze ~ie** паветра халаднее; **uczucie ~ie** пачуццё халаднее (астывае)

**chłodnia** *ж.* халадзільнік; **samochód (statek) ~** рэфрыжэратар

**chłodnica** *ж.* **1.** ахаладжальнік; **2.** радыятар

**chłodnictwo** *н.* халадзільная справа

**chłodniczy** халадзільны

**chłodnieć** *незак.* халаднець

**chłodnik** *м. кул.* халаднік

**chłodno** халодна; **jest ~** халодна; **robi się ~** халадае; робіцца халодна

**chłodny** халодны

**chłodząc|y** прахаладжальны; асвяжальны; **napoje ~e** прахаладжальныя напоі

**chłodzenie** *н.* ахаладжэнне

**chłodziarka** *ж.* халадзільнік; рэфрыжэратар

**chłodzić** *незак.* халадзіць, ахалоджваць, студзіць

**chłonąć** *незак.* паглынаць, убіраць, усмоктваць; ◊ **~ każde słowo** лавіць кожнае слова

**chłonka** *ж. біял.* лімфа

**chłonność** *ж.* **1.** *хім., фіз.* паглынальнасць; здольнасць паглынаць (умяшчаць); **2.**



*перан.* успрымальнасць; ◊ **~ rynku** ёмістасць рынку

**chłonn|y 1.** *хім., фіз.* паглынальны; **2.** *перан.* успрымальны; ◊ **gruczoły ~e** *анат.* лімфатычныя залозы

**chłop** *м.* **1.** селянін; мужык; **biedny ~** бядняк; **~ małorolny** малазямельны селянін; **średniorolny ~** серадняк; **2.** *разм.* мужчына; хлопец; **on niezły ~** ён нядрэнны хлопец; **~ na schwał** хлопец хоць куды

**chłopak** *м.* **1.** хлопчык; хлопец; **2.** хлопчык; вучань; **~ pokładowy** юнга

**chłopczyk** *м. ласк.* хлопчык

**chłopczyna** *ж.* хлапчына; хлапчаня; хлапчанё; хлапчук

**chłopczysko** *н.* хлапчук; блазнюк

**chłopiec** *м.* хлапец; хлопец; падлетак; **~ okrętowy** *мар.* юнга; **~ na posyłki** хлопчык на пабягушках

**chłopięcy** хлапечы; **chór ~** хор хлопчыкаў

**chłopka** *ж.* сялянка

**chłoptaś** *м. жарт.* хлапчук; хлапчанё

**chłopsk|i** сялянскі; **biedota ~a** сялянская бедната; **po ~u** па-сялянску; **~i rozum** цвярозы (практычны) розум

**chłopstwo** *н. зборн.* сялянства; сяляне; мужыкі

**chłosta** *ж.* цялесная кара; цялеснае пакаранне; лупцоўка

**chłostać** *незак.* хвастаць; сцябаць; лупцаваць; **~ konia** сцябаць каня

**chł|ód, ~odu** *м.* **1.** холад; **żyć o ~odzie i głodzie** жыць у холадзе і голадзе; **2.** цянёк; прахалода; халадок; **3.** халоднасць; абыякавасць

**chłyst** *м. паляўн.* малады алень

**chłystek** *м. пагард.* малакасос; блазнюк

**chmara** *ж.* хмара; мноства; процьма; вялікая колькасць; **~ szarańczy** хмара саранчы; **~ komarów** хмара камароў; **~ ludzi** натоўп

**chmiel, ~u** *м. бат.* хмель (*Humulus L.*)

**chmielarnia** *ж.* хмяльнік

**chmielarstwo** *н.* хмеляводства

**chmielarz** *м.* хмелявод

**chmielny** хмельны

**chmielowy** хмелевы

**chmur|a** *ж.* хмара; воблака; **~y pierzaste** пёрыстыя аблокі; **~y kłębiaste** кучавыя аблокі; **~y warstwowe** слаістыя аблокі; **~y dymu** клубы дыму; ◊ **drapacz ~** хмарачос; небаскроб; **z wielkiej ~y mały deszcz** *прык.* з вялікага грому малы дождж

**chmurka** *ж.* хмарка

**chmurnie 1.** пахмурна; хмурна; хмарна; **2.** хмурна; панура; **patrzał ~** ён глядзеў хмурна (панура)

**chmurnieć** *незак.* рабіцца (станавіцца) хмурным (панурым)

**chmurno**; *гл.* **chmurnie**

**chmurny 1.** пахмурны; хмурны; хмарны; **2.** хмурны; пануры; **~ wzrok** пануры погляд

**chmurzyć** *незак.* хмурыць; насупліваць; **~ czoło** хмурыць лоб

**chmurzyć się** *незак.* **1.** хмарыцца; **2.** хмурыцца

**chochla** *ж.* апалонік; чарпак

**chochlik** *м. фальк.* дамавік; ◊ **~ drukarski** ляпсус; апіска; памылка друку

**chochoł** *м.* **1.** саламянае пакрыццё на дрэвах зімою; **2.** чуб; чупрына

**chociaż**; *гл.* **choć**

**chociażby 1.** хоць; хаця; **~ niechętnie, ale się zgodził** хоць і неахвотна, але згадзіўся; **2.** хоць; хаця б; **~ raz** хоць (хаця б) раз

**choć 1.** хоць; хаця; **2.** хоць бы; хаця б

**choćby** хоць бы; хаця б; **~ raz jeden to zobaczyć** хоць бы (хаця б) раз гэта ўбачыць

**chodaki** *мн.* лапці; пасталы

**chodliwy** ходкі; **towar ~** ходкі тавар

**chodnik** *м.* **1.** тратуар; ходнік; **2.** палавік; **3.** *горн.* штрэк

**chodzenie** *н.* хаджэнне; хада; хадня

**chodz|ić** *незак.* **1.** хадзіць; ступаць; **~ić na grzyby (jagody)** хадзіць у грыбы (ягады); **~ić koło** *kogo* даглядаць *каго*; **~ić w palcie** хадзіць у паліто; **~ić lekko** лёгка хадзіць (ступаць; рухацца); **~ić na prawo** наведваць юрыдычны факультэт; вучыцца на юрыдычным фа-

культэце; **~ić na czworakach** поўзаць на карачках; **~ić o lasce (kiju)** хадзіць з кульбай (кіем); **~ić o kulach (na kulach)** хадзіць на мыліцах; **~ić z** *kim разм.* хадзіць, сустракацца з *кім*; **chodź na spacer!** хадзем пагуляем (на шпацыр; пашпацыруем)!; **~ić na czubkach palców** хадзіць на пальчыках; **autobusy ~ą rzadko** аўтобусы ходзяць рэдка; **2.** *koło kogo/czego, za kim* даглядаць *каго/што*; клапаціцца *пра каго/што*; **~ić koło drobiu** гадаваць свойскую птушку; **3.** працаваць; функцыянаваць (*пра механізмы*); **zegar ~i** гадзіннік ідзе; **4.** уздымацца; вагацца; трэсціся; **dom ~i od wybuchów** дом скаланаецца ад выбухаў; **5.** хадзіць; **~ą wieści (plotki)** ходзяць чуткі (плёткі); ◊ **o co ~i?** пра што гаворка?; што здарылася?; у чым справа?; **~i o jego życie** гаворка ідзе пра яго жыццё; **~ o to, że...** рэч у тым, што...; справа ў тым, што...; **~i mi to po głowie** гэта ўбілася мне ў галаву

**choina** *ж.* **1.** хвоя, сасна; **2.** яловыя (сасновыя) лапкі (галінкі)

**choin|ka** *ж.* **1.** ёлка; **powiesić bombki na ~ce** павесіць шары на ёлцы; **2.** ёлка; дзіцячае свята каля ёлкі; навагодні ранішнік; **dzieci poszły na ~kę** дзеці пайшлі на ёлку

**choler|a** *ж.* **1.** *мед.* халера; **2.** (*лаянка*) халера; чорт; **żeby cię ~a wzięła** каб цябе халера (трасца) узяла; **idź do ~y!** ідзі к чорту!; ідзі да д'ябла; **zimno jak ~a!** сабачы холад!

**cholernie 1.** вельмі; надзвычай; **~ zmęczony** вельмі (страшна) стомлены; **~ zdolny** надзвычай здольны; **2.** *разм.* кепска; блага; паскудна; **czuć się ~** кепска (паскудна) сябе адчуваць

**cholern|y** пракляты; халерны; **~e życie** праклятае жыццё

**choleryczny 1.** халерны; **2.** халерычны; **temperament ~** халерычны тэмперамент

**choleryk** *м.* халерык

**cholesterol, ~u** *м.*; *гл.* **cholesteryna**

**cholesteryna** *ж. біял.* халестэрын

**cholewa** *ж.* халява; **buty z ~mi** боты; ◊ **znać (poznać) pana po ~ch** *прым.* відаць пана па халявах

**cholewk|a** *ж.* загатоўка; ◊ **smalić ~i** *жарт.* заляцацца; упадаць за жанчынамі

**cholewkarz** *м.* закройшчык (*шавец*)

**chomąto** *н.* хамут

**chomik** *м.* **1.** *заал.* хамяк (*Cricetus cricetus*); **2.** *перан.* скнара

**chomikować** *незак. разм.* запасацца; рабіць прыпасы

**chorał, ~u** *м. муз.* харал

**chorągiew 1.** сцяг; **wywiesić białą ~** вывесіць белы сцяг; здацца; **2.** *рэл.* харугва; пратэса; **3.** *гіст.* конны атрад

**chorągiewka** *ж.* сцяжок; **~ na wietrze (dachu)** флюгер (*у розных значэннях*); ветранік

**chorąży** *м.* **1.** харунжы; **2.** сцяганосец; **~ pokoju** сцяганосец міру

**chorej, ~u** *м. літ.* харэй

**choreograf** *м.* харэограф

**choreografia** *ж.* харэаграфія

**choreograficzny** харэаграфічны

**chorob|a** *ж.* хвароба, захворванне; хворасць; немач; **z powodu ~y** па прычыне хваробы; праз хваробу; **nabawić się ~y** нажыць хваробу; захварэць; **~a morska** марская хвароба; **~a popromienna** прамянёвая хвароба; **złożony ~ą** хворы; прыкаваны да ложка; ◊ **a to ~a!** а, ліха!

**chorobliwy** хваравіты; кволы; **wygląd ~** хваравіты (кволы) выгляд; **~ przywidzenia** хваравітыя мроі; трызненні

**chorobotwórczy** хваробатворны, хваробны

**chorobow|y** хваробны; **zasiłek ~y** дапамога на лячэнне; **być na ~ym** быць на бальнічным; **iść (pójść) na ~e** ісці (пайсці) на бальнічны; **karta ~a** гісторыя хваробы

**chorować** *незак.* хварэць; **~ na grypę** хварэць на грып; **~ na serce** мець хворае сэрца; ◊ **~ na nowe futro** *разм.* вельмі хацець новае футра

**chorowity** хваравіты; слабы; кволы



**chor|y 1.** хворы; **obłożnie ~y** цяжка хворы; **śmiertelnie (nieuleczalnie) ~y** смяротна (невылечна) хворы; **~y z miłości** хворы ад кахання; **~y od upału** хворы ад спякоты; **2. ~y** *м.* хворы; **udawać ~ego** прыкідвацца хворым; **~y z urojenia** прытворна хворы

**chować** *незак.* **1.** хаваць; **~ głowę w piasek** хаваць галаву ў пясок; **2.** трымаць (*пра свойскую жывёлу*); **~ owce na wełnę** гадаваць авечак на воўну; **3.** выхоўваць; гадаваць; **~ dzieci** гадаваць дзяцей; **4.** хаваць; **~ umarłego** хаваць памерлага

**chować się** *незак.* **1.** хавацца; **2.** гадавацца; **dziecko ~ się zdrowo** дзіця гадуецца добра

**chowan|y: grać w ~ego** гуляць у хованкі

**chód, chodu** *м.* **1.** хада; паходка; **lekki ~** лёгкая хада (паходка); **kaczy (kaczkowaty) ~** качыная хада; **mieć chody** ляцець; вельмі шпарка ісці; **ależ masz chody** ну ты і ляціш; **2.** ход; рух; функцыянаванне (*пра механізмы*); **~ zegarka** ход гадзінніка; **(być) na chodzie** працаваць; функцыянаваць; **motor był na chodzie** матор працаваў; **3. chody** *мн. паляўн.* звярыныя сцежкі; **podziemne chody kreta** падземныя хады крата; **4. chody** *мн. спарт.* спартыўная хада; **5.** ход (*перасоўванне фігуры, фішкі ў гульні*); **~ konem** *шахм.* ход канём; ◊ **mieć chody** *разм.* мець сувязі

**chór, ~u** *м.* хор; **śpiewać ~em** спяваць хорам; **~ mieszany** змешаны хор

**chóralny** харавы; **śpiew ~** харавы спеў

**chórzysta** *м.* харыст

**chórzystka** *ж.* харыстка

**chów, chowu** *м.* гадоўля; вырошчванне; **~ bydła** жывёлагадоўля; **~ świn** свінагадоўля; **~ ptactwa domowego** птушкагадоўля; **swego chowu** сваёй гадоўлі; ◊ **domowego chowu** *іран.* сваёй гадоўлі; дамарослы

**chrabąszcz** *м.* **1.** *заал.* хрушч; **2.** *перан.* малыш, малеча

**chrapać** *незак.* **1.** храпці; **2.** хрыпець

**chrapanie** *н.* **1.** храп; храпенне; **2.** хрыпенне; хрып

**chrapk|i** *мн.* (*адз.* **~a** *ж.*) храпкі; ноздры; ◊ **mieć ~ę** *na co* мець апетыт *на што*; хацець *што*

**chrapliwy** хрыплы

**chrapy** *мн.* (*адз.* **~a** *ж.*) ноздры; храпы

**chrobot, ~u** *м.* скрабанне; шамаценне; трэск; **~ myszy** скрабанне (шамаценне) мышы

**chrobotać** *незак.* скрэбці; шамацець

**chrobry** *кніжн.* храбры; смелы; мужны; доблесны

**chrom**[1]**, ~u** *м. хім.* хром

**chrom**[2]**, ~u** *м.* хром (*від скуры для абутку*)

**chromać** *незак.* кульгаць

**chromatyczn|y** храматычны; **gama ~a** *муз.* храматычная гама

**chromian, ~u** *м. хім.* храмат

**chromosom, ~u** *м. біял.* храмасома

**chromosomowy** *біял.* храмасомны

**chromotypia** *ж.* храматыпія

**chromować** *незак.* храміраваць

**chromowanie** *н.* храміраванне

**chromow|y 1.** хромавы; хромісты; **2.** хромавы; **skóra ~a** хромавая скура

**chromy** *уст.* кульгавы

**chronicznie** хранічна

**chroniczn|y** хранічны; **choroba ~a** хранічная хвароба

**chronić** *незак.* ахоўваць, захоўваць; сцерагчы, засцерагаць; **~ przed wilgocią** захоўваць ад вільгаці

**chronić się** *незак. przed kim/czym* хавацца *ад каго/чаго*; пазбягаць; сцерагчыся *каго/чаго*; **~ się parasolem przed słońcem** хавацца пад парасонам ад сонца

**chronograf, ~u** *м.* хранограф

**chronologia** *ж.* храналогія

**chronologicznie** храналагічна; у храналагічным парадку

**chronologiczny** храналагічны

**chronometr, ~u** *м.* хранометр

**chropawy 1.** шурпаты, шорсткі; **2.** хрыплы; **~ głos** хрыплы голас

**chropowatość** *ж.* шурпатасць; шорсткасць; хрыпласць

**chropowaty**; *гл.* **chropawy**

**chrupać** *незак.* хрусцець, храбусцець; хрупаць

**chrupanie** *н.* хруст, хрустанне, хрумстанне, храбусценне, храбустанне
**chrupki**[1] *мн.* (*адз.* **~a** *ж.*) хрушчы; хрусткія хлебчыкі
**chrupki**[2] хрусткі; **pieczywo ~ie** хрусткае печыва
**chrupnąć** *зак.* хруснуць, хрумснуць, храбуснуць
**chrupota|ć** *незак.* хрустаць, хрумстаць, храбустаць; **dzieci ~ły ciasteczka** дзеці хрумсталі пячэнне
**chrust, ~u** *м.* **1.** галлё; ламачча; **2.** кустоўе, зараснік, хмызняк; **3.** *кул.* хрушч, хруст
**chruściel** *м. заал.* драч (*Crex crex*)
**chruśniak** *м.*; *гл.* **chrust**
**chryja** *ж. разм.* скандал; калатня, сварка
**chrypieć** *незак.* хрыпець; сіпець
**chrypk|a** *ж.* хрыпата; хрыпка; сіпата; **mam ~ę** у мяне хрыпата (сіпата)
**chrypliwy** хрыплы; сіплы; сіпаты
**chryzantema** *ж. бат.* хрызантэма (*Chryzanthemum L.*)
**chrzan, ~u** *м. бат.* хрэн (*Armoracea Gaertn.*)
**chrzanić** *незак. разм.* плявузгаць; мянціць (малоць) языком
**chrzanowy** хрэнавы; з хрэну
**chrząkać** *незак.* **1.** адкашліваца; пакашліваць; **2.** рохкаць
**chrząkanie** *н.* **1.** пакашліванне; **2.** рохканне
**chrząknąć** *зак.* **1.** кашлянуць; **2.** рохнуць
**chrząstka** *ж. анат.* храсток
**chrząstkowaty** храсткаваты
**chrząstkowy** храстковы; *гл.* **chrzęstny**
**chrząszcz** *м.* жук; **~ majowy**; *гл.* **chrabąszcz 1**
**chrzciciel** *м. рэл.* хрысціцель
**chrzcić** *незак.* **1.** хрысціць; **2.** *перан.* называць; ◊ **~ wino (mleko)** *жарт.* разбаўляць віно (малако) вадой
**chrzcielnica** *ж. царк.* купель
**chrzciny** *мн.* хрысціны, хрэсьбіны
**chrzczony** хрышчаны; **~ z wody** хрышчаны вадою (*у хатніх умовах без святара*)
**chrz|est, ~tu** *м.* хрышчэнне; **świadectwo ~tu** пасведчанне аб хрышчэнні; **~est bojowy** баявое хрышчэнне; **trzymać do ~tu** хрысціць
**chrzestn|y** хросны; **rodzice ~e** хросныя бацькі; **2.** *м.* хроснік; хрэснік; хросны сын
**chrześcijanin** *м.* хрысціянін
**chrześcijanka** *ж.* хрысціянка
**chrześcijańsk|i** хрысціянскі; **~a demokracja** хрысціянская дэмакратыя; **po ~u** па-хрысціянску
**chrześcijaństwo** *н.* хрысціянства; **przyjąć ~** прыняць хрысціянства
**chrześniaczka** *ж.* хросніца; хросная дачка
**chrześniak** *м. разм.* хроснік; хрэснік
**chrzęst, ~u** *м.* **1.** бразганне; **~ zbroi** бразганне зброі; **2.** хруст; **~ suchej trawy** шамаценне сухой травы
**chrzęstn|y** храстковы; **tkanka ~a** храстковая тканіна; *гл.* **chrząstkowy**
**chrzęścić** *незак.* хрустаць; храбусцець; скрыгатаць
**chuch, ~u** *м.* **1.** подых; **2.** фук (*у гульні*); **wziąć ~** узяць фук; зняць фук
**chuchać** *незак.* **1.** хукаць; **~ w ręce** хукаць на рукі; **2.** хукаць; распешчваць; песціць
**chuchnąć** *зак.* дыхнуць; хукнуць
**chuchrak** *м. разм.* слабы (кволы) чалавек; слабак
**chuchro** *н.*; *гл.* **chuchrak**
**chuć** *ж.* юр, похаць, пажада
**chudawy** хударлявы
**chuderlawy** слабы; кволы
**chudeusz** *м.*; *гл.* **chudopacholek**
**chudnąć** *незак.* худзець; **~ od niedojadania** худзець ад недаядання
**chudnięcie** *н.* худзенне
**chudoba** *ж.* **1.** пажыткі; манаткі; **2.** жывёла, скаціна, худоба
**chudopacholek** *м.* бядняк
**chudość** *ж.* худзізна, хударлявасць
**chudy** **1.** худы; **~ jak szczapa** худы, як трэска; **2.** неўрадлівы; **~a gleba** неўрадлівая глеба; **3.** бедны; убогі
**chudziak** *м.* **1.** худы чалавек; **2.** *перан.* бедны (убогі) чалавек
**chudziątko** *н.* бедачына; небарака
**chudzina** *ж.* небарака
**chudziutki** худзенькі
**chujowy** вельмі кепскі; дрэнны



**chuligan** *м.* хуліган
**chuliganeria** *ж. зборн.* хуліганнё
**chuligański** хуліганскі
**chuligaństwo** *н.* **1.** хуліганства; **2.** *зборн.* хуліганнё
**chusta** *ж.* **1.** хустка, хуста; **2.** кавалак палатна; **blady jak ~** белы як палатно
**chusteczka** *ж.* хустачка
**chustka** *ж.* хустка; **~ do nosa** насоўка; **~ harcerska** гарцэрскі гальштук; **~ na szyje** хустка на шыю; шыйная хустка
**chutor, ~u** *м.* хутар
**chwacki** бравы; спрытны; паваротлівы
**chwalca** *м.* **1.** паклоннік; **2.** падлізнік
**chwalebny** пахвальны; годны пахвалы; **czyn ~** пахвальны ўчынак
**chwalenie (się)** *н.* хваленне
**chwali|ć** *незак.* **1.** хваліць; **~ć sobie** *co* хваліць *што*; **2.** *кніжн.* шанаваць; ушаноўваць; ◊ **każda pliszka swój ogon ~** *прым.* кожны цыган свайго каня хваліць
**chwali|ć się** *незак.* хваліцца; ◊ **kto się ~, ten się gani** хто сябе хваліць, хай таго пярун спаліць
**chwał|a** *ж.* хвала; слава; **okryć się ~ą** пакрыць сябе славай; ◊ **~a Bogu** дзякуй Богу; **poległy na polu ~y** палеглы ў баі (на ратным полі); **~a z własnych ust śmierdzi** чужая пахвала як гром грыміць, а самахвальства смярдзіць
**chwast**[1], **~u** *м.* зелле, пустазелле; **ogród zarośnięty ~ami (~em)** сад, зарослы пустазеллем
**chwast**[2], **~u** *м.* кутас; **czapeczka z ~em** шапка з кутасом
**chwastobójcz|y** *с.-г.* гербіцыдны; **środki ~e** гербіцыды
**chwat** *м.* хват, зух; малайчына
**chwia|ć** *незак. czym* хістаць; калыхаць; гайдаць *што*; **wysoka fala ~ła łódką** высокая хваля гайдала лодку
**chwiać się** *незак.* **1.** хістацца, калыхацца, гайдацца, гойдацца; **2.** хістацца, вагацца; **~ się w postanowieniach** вагацца пры прыняцці рашэння
**chwianie się** *н.* хістанне
**chwiejność** *ж.* **1.** хістанне, няўстойлівасць, хісткасць; **2.** хістанне, ваганне; **~ charakteru** слабасць характару
**chwiejny** **1.** хісткі, няўстойлівы; **2.** хісткі; нерашучы; няўпэўнены
**chwil|a** *ж.* момант; хвіліна, хвілінка; **co ~a** штохвіліны; штохвілінна; **na ~ę** на хвілінку; **za ~ę** праз момант; праз хвілінку; **w tej ~i** зараз; зараз жа; **lada ~a** з хвіліны на хвіліну; у любы момант; **ani ~i** ні хвіліны; **poczekaj ~ę!** пачакай хвіліну!; пачакай трохі!
**chwilami** часам; часамі
**chwileczk|a** *ж.* хвілінка; момант; **~ę!** адну хвілінку!
**chwilk|a** *ж.* хвілінка; часінка; **na ~ę** на хвілінку
**chwilowo** часова; да часу
**chwilowy** часовы; хвілінны; мінутны
**chwyci|ć** *зак.* **1.** хапіць; хваціць; ухапіць; **~ć** *kogo* **za rękę** схапіць *каго* за руку; **2.** стаць папулярным; увайсці ў звычку (*аб ідэі, прапанове*); **moda na niepalenie ~ła** стала модна не курыць
**chwyci|ć się** *зак.* **1.** хапіцца; хваціцца; **~ć się** *czego* (*za co*) хапіцца за *што*; **2.** злавіцца; **~ł się na** *czym* быў злоўлены за *якой* справай
**chwyt, ~u** *м.* **1.** прыём; **2.** хватка
**chwytacz** *м. тэх.* улоўнік; **~ ziarna** зернеўлоўнік
**chwyta|ć** *незак.* хапаць, хватаць; лавіць (*мяч*); **~ć za serce** узрушваць; **~ć za słowo** лавіць на слове; **mróz ~** прыціскае мароз; **~ mnie grypa** грып мяне бярэ
**chwyta|ć się** *незак.* **1.** хапацца; хватацца; **~ć się za głowę** хапацца за галаву; **~ć za broń** хапацца за зброю; **~ć się wszelkich środków** выкарыстоўваць усе сродкі; **2.** лавіцца; ◊ **tonący brzytwy się ~** як топішся, то і за брытву хопішся
**chwytak** *м. тэх.* грэйфер
**chwytliw|y** учэпісты; **~a melodia** неадчэпная мелодыя
**chwytn|y** *біял.* хапальны; **~e kończyny** хапальныя канечнасці (канцавіны)

**chyba** *ж.* хіба; бадай; бадай што; **kto pójdzie? ~ ty pójdziesz** хто пойдзе? хіба ты пойдзеш; **on ~ już nie przyjdzie** ён, бадай, ужо не прыйдзе; **~ że...** хіба толькі...; **chyba wiesz o tym** ты, мабыць, ведаеш пра гэта; **~ że** хіба што
**chybiać** *незак.* **1.** прамахвацца; хібіць; **2.** памыляцца
**chybi|ć** *зак.* прамахнуцца; схібіць; **~ć celu** не трапіць у цэль; ◊ **na ~ł trafił** наўдачу; **ani ~** безумоўна; бясспрэчна
**chybiony** няўдалы; **strzał ~** няўдалы (нятрапны) стрэл; **~ pomysł** няўдалая ідэя
**chybk|i** *кніжн.* борзды, шпаркі, хуткі; **~a łania** хуткая лань
**chybko** *кніжн.* борзда, шпарка, хутка
**chybkość** *ж.* борздасць, шпаркасць, хуткасць
**chybotać** *незак.* гайдаць, гойдаць, хістаць
**chybotać się** *незак.* гайдацца, гойдацца, хістацца
**chybotanie** *н.* гайданне, гойданне, хістанне
**chybotliwy 1.** хісткі; **2.** мігатлівы
**chyc!** скок!
**chycać** *незак.* бегчы падскокваючы (*аб звярах*)
**chylić** *незак.* нахіляць, схіляць; ◊ **~ głowę** схіляць галаву
**chylić się** *незак.* нахіляцца, схіляцца, хіліцца; **~ się ku upadkowi** прыходзіць у заняпад; **rok ~ się ku końcowi** год падыходзіць да канца
**chyłkiem** крадком, цішком, ціхачом, незаўважна
**chytrość** *ж.* **1.** хітрасць; **2.** *разм.* хцівасць; сквапнасць
**chytrus** *м.* **1.** хітрун; хітрок; штукар; **2.** *разм.* скнара; жмут
**chytr|y 1.** хітры; **~e oczy** хітрыя вочы; **2.** сквапны; прагны; хцівы; **~y na pieniądze** прагны на грошы; ласы на грошы
**chytrze** хітра
**chyżo** хутка; скора; шпарка; борзда
**chyżość** *ж.* хуткасць; скорасць
**chyży** *кніжн.* хуткі; скоры; борзды
**ci**[1] **1.** табе; *гл.* **ty**; **2.** вось дык; **a to ~ historia!** вось дык гісторыя!
**ci**[2] *а.-м.* гэтыя; *гл.* **ten**
**cialk|o** *н.* цельца; **czerwone (białe) ~a krwi** чырвоныя (белыя) крывяныя цельцы
**ciał|o** *н.* **1.** цела; корпус; тулава; **budowa ~a** будова цела; целасклад; **gra ~em** *спарт.* гульня корпусам; **2.** *фіз., хім., мат.* цела; **~a niebieskie** нябесныя целы; **~o płynne** вадкае цела; **~o stałe** цвёрдае цела; **3.** *перан.* орган; склад; **~o ustawodawcze** заканадаўчы орган; ◊ **nabierać ~a** паўнець у целе; мажнець; **spadać z ~a** спадаць з цела; марнець; худнець; **Boże Ciało** *царк.* свята Божага Цела
**ciamajda** *ж. разм.* размазня
**ciapa** *ж. разм.* размазня; расцяпа
**ciapać** *незак. разм.* **1.** цюкаць; секчы; **2.** чвякаць, чмякаць; **3.** хлюпаць
**ciapnąć** *зак. разм.* **1.** цюкнуць; секануць; **2.** чвякнуць, чмякнуць; **3.** хлюпнуць
**ciarki** *мн.* дрыжыкі; мурашкі; **~ mnie przechodzą** мурашкі па скуры бегаюць; дрыжыкі па целе пайшлі; **~ mnie przeszły na myśl o ...** мяне мароз прабірае ад думкі пра...
**ciasność** *ж.* цесната
**ciasnota** *ж.* **1.** цесната; **2.** *перан.* вузасць; абмежаванасць
**ciasn|y 1.** цесны; **2.** вузкі; абмежаваны; **~a głowa** тупая галава; **człowiek o ~ym horyzoncie** чалавек з абмежаваным кругаглядам
**ciastk|o** *н.* піражнае; **kruche ~a** а) пясочныя піражныя; б) печыва, пячэнне
**ciasto** *н.* **1.** цеста; цестападобная маса; **2.** *часцей мн.* **~a** здоба; пірагі
**ciastowaty** цестападобны
**ciąć** *незак.* **1.** рэзаць; **~ batem** хвастаць пугай; **~ prawdę w oczy** рэзаць праўду ў вочы; **2.** сячы; (*пра лес*) секчы; **3.** (*пра аваднёў*) кусаць
**ciąć się** *незак.* **1.** сячыся; рэзацца; **2.** *перан.* сварыцца; падпускаць шпількі
**ciąg, ~u** *м.* **1.** працяг; **~ dalszy (nastąpi)** працяг (будзе); **w ~u roku** на працягу года; цягам года; **jednym ~iem** без перапынку; **2.** лінія; **~ technologiczny (produkcyjny)** тэхналагічная (вытворчая) лінія; **3.** цяга; **~ w piecu** цяга ў печы; **4.** *паляўн.* цяга; **~ ptaków** цяга птушак; **5.** ход; **6.** паслядоўнасць; **~ liczb** паслядоўнасць лікаў
**ciągać** *незак.* цягаць; цягнуць; валачы
**ciągać się** *незак.* цягацца; ◊ **~ się po sądach** судзіцца
**ciąganie** *н.* цяганне; ◊ **~ po sądach** цяганне па судах; судовая валакіта
**ciągle** пастаянна; заўсёды; стала; увесь час; **~ jeszcze** усё яшчэ
**ciągliwość** *ж.* цягучасць
**ciągliwy** цягучы
**ciągłość** *ж.* **1.** безупыннасць, бесперапыннасць; **2.** паслядоўнасць
**ciągły 1.** пастаянны; заўсёдашні; заўсёдны; безупынны, бесперапынны; **2.** паслядоўны; непарыўны
**ciągn|ąć** *незак.* **1.** цягнуць; валачыць; **~ąć dalej** працягваць; **2.** прыцягваць; **~ęło go złe towarzystwo** яго цягнула да дрэнных кампаній; **magnes ~ie szpilki** магніт прыцягвае шпількі; **3.** цягнуць; выкачваць; качаць; пампаваць; выпампоўваць; **pompy ~ą wodę ze studni** помпы качаюць ваду са студні; **4.** працягваць; **5.** *кніжн.* цягнуцца; рухацца (*ехаць, ісці*) ◊ **~ąć losy** цягнуць жэрабя; **~ąć korzyści (zysk) z** *czego* атрымліваць карысць з *чаго*; **~ie od okna** ад акна дзьме; **~ąć** *kogo* **za język** цягнуць *каго* за язык; **ciągnąć** *kogo* **za włosy** цягнуць *каго* за валасы; **natura wilka ~ie do lasu** як ваўка ні кармі, ён усё ў лес глядзіць
**ciągn|ąć się** *незак.* цягнуцца; **lejce ~ęły się po ziemi** лейцы цягнуліся па зямлі
**ciągnienie** *н.* розыгрыш; тыраж; **~ loterii** розыгрыш латарэі
**ciągnik** *м.* цягач; трактар
**ciągotki** *мн. разм.* **1.** цяга; **2.** схільнасці; памкненні; **3.** ламота; дрыжыкі
**ciągoty** *мн.*; *гл.* **ciągotki**
**ciąż|a** *ж.* цяжарнасць; **zajść w ~ę** зацяжарыць
**ciąż|ek** *м.* **1.** гірка; гіра; **2. ~ki** *мн. спарт.* гантэлі



**ciążeni|e** *н.* **1.** *фіз.* прыцяжэнне; **prawo powszechnego ~a** закон сусветнага прыцяжэння; **2.** прыцягненне; цяга
**ciąż|yć** *незак.* **1.** рабіцца цяжкім; **~y mi głowa** галава стала цяжкой; мяне хіліць да сну; **~ą powieki** зліпаюцца павекі; **2.** гнясці; прыгнятаць; **tajemnica mu ~y** яго гняце таямніца; **~y na nim obowiązek (odpowiedzialność)** на ім ляжыць абавязак (адказнасць); **~yć** *komu* быць цяжарам *каму*
**cichaczem** *разм.* цішком, ціхачом, спадцішка
**cichnąć** *незак.* уціхаць, сціхаць, цішэць
**cicho 1.** ціха; **~ jak makiem zasiał** мёртвая цішыня; **~!** ціха!; цішэй!; **2.** сакрэтна; таемна
**cichobieżny** бязгучны
**cichoś|ć** *ж. кніжн.* цішыня, ціхата, ціхмень, ціша; маўчанне; ◊ **w ~ci ducha** у глыбіні душы; **w ~ci** *разм.* паціху
**cichuteńko** ціхенька, ціхенечка, ціхусенька
**cichutko** ціхутка
**cich|y 1.** ціхі, ціхмяны; сціплы; спакойны; **~y głos** ціхі голас; **~e czytanie** чытанне сам сабе; **2.** патаемны; сакрэтны; **~a zgoda** патаемная дамова; **~y wielbiciel** патаемны паклоннік; ◊ **z ~a pęk** ні з пушчы, ні з поля; раптам; **~a woda brzegi rwie** у ціхім балоце чэрці вядуцца
**cicerone** *м. або м. нескл.* [cziczerone] *кніжн.* гід, праважаты; чычэроне; экскурсавод
**ciebie** цябе; **telefon do ~** цябе да тэлефона; **kocham tylko ~** я кахаю толькі цябе; *гл.* **ty**
**ciec** *незак.* **1.** цячы; струменіць; ліцца; **2.** цячы; працякаць
**ciecz** *ж.* вадкасць
**ciekaw: ~ jestem** *czego* мне цікава *што*; мяне цікавіць *што*; **jestem ~ wyników egzaminów** мяне цікавяць вынікі экзаменаў; гл. **ciekawy 1**
**ciekawie 1.** цікава; займальна; **2.** з інтарэсам; з цікаўнасцю; **rozglądać się ~** з інтарэсам пазіраць па баках

**ciekawostka** *ж.* цікавая дэталь; штосьці цікавае; цікавінка
**ciekawość** *ж. kogo/czego* цікавасць; цікаўнасць *да каго/чаго*; дапытлівасць; інтарэс; **zbytnia ~** залішняя цікавасць; ◊ **~ skąd on to wie?** цікава, адкуль ён гэта ведае?
**ciekawski** *разм.* цікаўны; пранырлівы; **tłumy ~ch** натоўпы цікаўных
**ciekaw|y 1.** цікаўны, дапытлівы; **2.** цікавы; займальны; **a to ~e!** вось гэта цікава!
**ciekły** вадкі; цякучы; **stan ~ ciała** вадкі стан цела
**cieknąć** *незак.*; *гл.* **ciec**
**cieknięcie** *н.* працяканне
**cielak** *м. разм. перан.* цяльпук; цялё
**cielątko** *н.* цялятка, цяля
**cielec** *м. уст.* цялец; ◊ **złoty ~** залатое цяля
**cielenie się** *н.* цяленне
**cielesność** *ж.* **1.** цялеснасць; **2.** пачуццёвасць; пажадлівасць
**cielesn|y 1.** цялесны; **kara ~a** цялеснае пакаранне; **2.** пачуццёвы; плоцевы; **rozkosze ~e** плоцевыя ўцехі; ◊ **stosunek ~y** палавыя зносіны
**cieleśnie** цялесна
**cielę** *н.* цяля; ◊ **~ morskie** *заал.* нерпа (*Phoca hispida*); **ruszyć konceptem jak martwe ~ ogonem** *іран.* ляпнуць, як лапцем па цымбалах
**cielęcina** *ж.* **1.** цяляціна; **2.** цялячая скура
**cielęc|y** цялячы; **~a skóra** цялячая скура (шкура); ◊ **~y zachwyt** цялячае захапленне; **nóżki ~e** *кул.* студзіна; квашаніна
**cielętnik** *м.* цялятнік (*памяшканне*)
**cielić się** *незак.* цяліцца
**cielisty** цялесны; **kolor ~** цялесны колер
**cielna** *ж.* цельная [карова]
**cielsko** *н.* поўнае цела; туша; **ledwo dźwiga swoje ~** ледзь носіць сваё цела
**ciemiączko** *н. анат.* цемечка; макаўка
**ciemieniowy** *анат.* цемянны
**ciemiernik** *м. бат.* марознік (*Helleborus L.*)
**ciemię** *н.* цемя; ◊ **nie w ~ bity** не лыкам шыты
**ciemięga** *ж. разм.* цяльпук; мяла; няўклюда
**ciemiężyca** *ж. бат.* чамярыца; чэмер (*Veratrum L.*)
**ciemięstwo** *н.* прыгнёт
**ciemięzca** прыгнятальнік
**ciemiężca** *м.*; *гл.* **ciemięzca**
**ciemiężenie** *н.* прыгнёт; прыгнечанне
**ciemiężyciel** *м.*; *гл.* **ciemięzca**
**ciemiężyć** *незак.* прыгнятаць; уціскаць
**ciemnawy** цемнаваты
**ciemnia** *ж.* **1.** цёмнае месца (памяшканне); **~ fotograficzna** фоталабараторыя; **2.** *уст. перан.* цемра; змрок; ◊ **~ optyczna** *фіз.* камера-абскура
**ciemnica** *ж.* **1.** турма; **2.** цемра
**ciemni|ć się** *незак.* цямнець; цямнецца; **na horyzoncie ~ się linia lasu** на гарызонце цямнеецца лінія лесу
**ciemnieć** *незак.* цямнець
**ciemno**[1] *н.* цемра; змрок
**ciemno**[2] цёмна; **robi się ~** становіцца цёмна; цямнее; ◊ **strzał w ~** стрэл усляпую
**ciemnobarwny** цёмнага колеру
**ciemnobłękitny** цёмна-сіні
**ciemnobrunatny** цёмна-карычневы
**ciemnoczerwony** цёмна-чырвоны
**ciemnogranatowy** цёмна-сіні
**ciemnogród, ~odu** *м.* **1.** цемрашальства; **2.** *зборн.* цемрашалы
**ciemnolicy** *кніжн.* смуглатвары; смуглявы
**ciemnoś|ć** *ж.* цемната, цемра, цемрадзь, цемрань, цямнота; **w ~ci** у цемры; ◊ **~ci egipskie** апраметная цемра
**ciemnota** *ж.* **1.** цемната; невуцтва; **2.** цемра; змрок
**ciemnowłosy** цёмнавалосы
**ciemnozielony** цёмна-зялёны
**ciemnożółty** цёмна-жоўты
**ciemn|y 1.** цёмны; **~y kolor** цёмны колер; **~a noc** цёмная ноч; **2.** цёмны; неадукаваны; **3.** цёмны; падазроны; **~y typ** цёмны (падазроны) тып; **~a gra** несумленная гульня; ◊ **~y głos** нізкі голас
**cienić** *незак.* зацяняць; даваць (кідаць) цень; захінаць ад святла
**cienieć** *незак.* танчэць; худнець
**cieniolubn|y** *бат.* ценялюбны; **rośliny ~e** ценялюбныя расліны



**cieniować** *незак.* адцяняць; зацяняць
**cieniowanie** *н.* адцяненне
**cienistość** *ж.* цяністасць
**cienisty** цяністы
**cieniuchny** тоненькі, танюткі
**cieniutki**; *гл.* **cieniuchny**
**cienki 1.** тонкі; ценькі; піскпявы; **~ głos** тонкі голас; **~e wino** слабое віно; **2.** *жарг.* слабы; непадрыхтаваны; **~ z matematyki** слабы ў матэматыцы
**cienko** тонка; **gdzie ~, tam się rwie** дзе тонка, там і рвецца; **~ śpiewać** прыціхнуць; стаць згаворлівым
**cienkorunny** тонкарунны
**cienkość** *ж.* тонкасць; **~ włókna** тонкасць валакна
**cienkowełnisty**; *гл.* **cienkorunny**
**cienkowłóknisty** тонкавалакністы
**cienkusz, ~u** *м. разм.* слабае (дрэннае) віно
**cie|ń** *м.* **1.** цень; **~ń do powiek** цень для павекаў; **~ń drzewa (domu)** цень дрэва (дома); **~ń nadziei** цень надзеі; прамень надзеі; **~ń wątpliwości** цень сумнення; **bać się własnego ~nia** баяцца ўласнага ценю; **wygląda jak ~ń** выглядае, як цень; **chodzi za nim jak ~ń** ходзіць за ім, як цень; **usunąć się w ~ń** *перан.* стаць незаўважальным; адысці ў цень; **2. ~nie** *мн.* духі; цені; здані; ◊ **chińskie ~nie** *тэатр.* кітайскія цені
**cieplarnia** *ж.* цяпліца, аранжарэя, шклярніца
**cieplarnian|y** цяплічны; аранжарэйны; **roślina ~a** цяплічная расліна
**ciepleć** *незак.* цяплець
**cieplic|a** *ж.* **1.** гарачая крыніца; **2.** *уст.* лазня; **3. ~e** *мн.* курорт з гарачымі крыніцамі
**ciepln|y** цеплавы; **energia ~a** цеплавая энергія
**ciepławy** цеплаваты
**ciepło**[1] *н.* цяпло, цеплыня; **~ właściwe** *фіз.* удзельная цеплыня
**ciepło**[2] цёпла; **dzisiaj jest ~** сёння цёпла; **było mi ~** мне было цёпла; **przyjąć** *kogo* **~** прыняць *каго* цёпла (сардэчна); ◊ **trzymaj się ~** *жарт. разм.* трымайся; здаровенькі бегай
**ciepłokrwiste** *мн.* цеплакроўныя
**ciepłomierz** *м.* цепламер
**ciepłorodny** цеплародны
**ciepłota** *ж. мед.* тэмпература
**ciepłownia** *ж.* цеплацэнтраль
**ciepł|y** цёплы; **~y uśmiech** *перан.* цёплая ўсмешка; **ptaki odlatują do ~ych krajów** птушкі адлятаюць у вырай; ◊ **dać ~ą ręką** даць шчодрай рукой; **~a wdówka** багатая ўдава; **~e przyjęcie** цёплы (сардэчны, шчыры) прыём; **~e kluski** *пагард.* мямля; кісель
**cierlica** *ж.* церніца
**ciernie** *мн.* церні, цярноўнік
**ciernik** *м. заал.* колюшка
**cierniow|y** цярновы; ◊ **wieniec ~y (korona ~a)** цярновы вянок
**ciernist|y** цярністы; ◊ **~a droga** цярністы шлях
**cierń** *м.*; *гл.* **ciernie**
**cierpiący** нездаровы; хворы
**cierpi|eć** *незак.* **1.** хварэць; пакутаваць; мучыцца; **~eć na wiele chorób** пакутаваць ад многіх хвароб; **2.** цярпець; трываць; **sprawa nie ~ zwłoki** справа не церпіць адкладу; **~eć głód** галадаць; **nie ~ę go** цярпець яго не магу
**cierpieć się** *незак.* *ужываецца толькі з адмоўем*; **nie ~ się** не выносіць; вельмі не любіць
**cierpienie** *н.* **1.** цярпенне; пакута; боль; **~ fizyczne** фізічны боль; **2.** хвароба
**cierpiętnik** *м. іран.* пакутнік
**cierpkawy** даўкі; аскомісты; кіславаты
**cierpki** даўкі; кіслы; ◊ **~e słowa** жорсткія словы
**cierpko** даўка; кісла
**cierpkość** *ж.* даўкасць; кіслата
**cierpliwie** цярпліва
**cierpliwoś|ć** *ж.* цярплівасць; цярпенне; **uzbroić się w ~ć** запасціся цярплівасцю; **wyprowadzić z ~ci** вывесці з цярплівасці
**cierpliwy** цярплівы; ◊ **papier jest ~** папера ўсё стрывае
**cierpnąć** *незак.* дранцвець, нямець, шэрхнуць; мярцвець; дубець

**dywanik** *м.* дыванок, кілімок, каберац

**dywanowy** дывановы; кілімовы; ◊ **nalot ~** масіраваны налёт; масіраваная бамбёжка

**dywersant** *м.* дыверсант

**dywersj|a** *ж.* дыверсія; **~a przeciw wojskom okupacyjnym** дыверсія супраць акупацыйных войскаў; ◊ **sprawić ~ę** парушыць планы

**dywersyjny** дыверсійны

**dywidenda** *ж. эк.* дывідэнд; **~ od akcji** дывідэнд ад акцый; **~ od udziałów firm zagranicznych** дывідэнд ад удзелу замежных фірмаў

**dywizja** *ж.* дывізія; **~ pancerna** танкавая дывізія

**dywizjon, ~u** *м.* дывізіён

**dywizyjny** дывізіённы

**dyzenteria** *ж. мед.* дызентэрыя; крываўка

**dyżur, ~u** *м.* дзяжурства

**dyżurny 1.** дзяжурны; **~ lekarz** дзяжурны ўрач (доктар, лекар); **temat ~** дзяжурная тэма (*для размоў*); **2.** *м.* дзяжурны

**dyżurować** *незак.* дзяжурыць

**dyżurowy** дзяжурны, звязаны з дзяжурствам

**dzban** *м.* збан; гарлач; гладыш; **~ do wina** збан для віна (пад віно); **~ na maliny** збан для маліны (пад маліну)

**dzbanek** *м.* збанок, гарлачык; **~ do kawy** кавоўнік; **~ do herbaty** імбрык, імбрычак; **~ do mleka** малочнік

**dziać** *незак.* вязаць, плесці (*пруткамі або кручком*)

**dziać się** *незак.* адбывацца, рабіцца, дзеяцца; **co tu się dzieje?** што тут робіцца (дзеецца)?; **co się z tobą dzieje?** што з табой робіцца (дзеецца)?; што з табой?; **działo się coś niezrozumiałego** адбывалася нешта незразумелае; ◊ **niech się dzieje co chce** што будзе, тое будзе

**dziad** *м.* **1.** дзед, дзядуля; стары; продак; **2.** *разм.* жабрак; **3. ~y** *мн.* Дзяды; ◊ **z ~a pradziada** ад дзядоў-прадзедаў; здаўна; **zejść na ~y** пайсці з торбамі; дайсці да жабрацтва

**dziad|ek** *м.* **1.** дзядуля, дзядуня; дзядок; стары; **2.** жабрак; старац; **3. ~kowie** дзед і баба; дзядуля і бабуля; ◊ **~ek do orzechów** шчыпцы для арэхаў; **~ek kościany** вельмі худы чалавек; худэрба; сухарэбрык; кашчэй

**dziadostw|o** *н.* **1.** *разм.* ламачча, старызна; **2.** *разм.* галеча; **żyć w ~ie** жыць у галечы; **3.** *разм., пагард. зборн.* галадранцы; люмпен

**dziadować** *незак.* жабраваць; бедаваць

**dziadowizna** *ж.* дзедаўшчына (*спадчына ад дзеда*)

**dziadzia** *м. ласк.* дзядуля

**dziadowski 1.** дзядулеў, дзедаў; **2.** старэчы; **3.** жабрацкі; ◊ **rozpuszczony jak bicz ~** распусціўся як старэчая (дзедаўская) пуга

**dziadówka** *ж.* жабрачка; старчыха

**dziadyga** *м. пагард.* стары корч

**dział, ~u** *м.* **1.** галіна; **~ nauki** галіна навукі; **2.** аддзел; сектар; **~ eksportu** аддзел экспарту; **~ eksportu** аддзел экспарту; **~ handlowy** гандлёвы аддзел; **~ personalny (kadr)** аддзел кадраў; **~ produkcji** вытворчы аддзел; **~ matematyki** аддзел (сектар) матэматыкі; **3.** доля; частка; **4.** падзел; **~y rodzinne** сямейнае дзяленне, падзел; ◊ **~ wodny** водападзел

**działacz** *м.* дзеяч; актывіст; **~ związkowy** прафсаюзны деяч

**działaczka** *ж.* дзеячка; актывістка

**działa|ć** *незак.* **1.** дзейнічаць; **~ć na własną rękę** дзейнічаць самостойна; **~ć w** *czyim* **imieniu** дзейнічаць ад імя *каго*; **~ć** *komu* **na nerwy** дзейнічаць *каму* на нервы; нерваваць; раздражняць; **2.** працаваць, функцыянаваць; **to nie ~** гэта не працуе; **to ~ na baterie** гэта працуе на батарэйках; **3.** уздзейнічаць, уплываць; **te zioła ~ją przeciwzapalnie** гэтыя зёлкі дзейнічаюць супрацьзапаленча; ◊ **~ć na zwłokę** замаруджваць; зацягваць; затрымліваць

**działalność** *ж.* **1.** дзейнасць; **~ gospodarcza** гаспадарчая дзейнасць; **2.** уздзеянне; уплыў



**działani|e** *н.* **1.** дзеянне; **~a wojenne** ваенныя дзеянні; **~e uboczne** пабочныя дзеянні; **zakres ~a** сфера дзейнасці; **mieć pole do ~a** мець поле (для) дзейнасці; **podejmować ~a** пачынаць рабіць (дзейнічаць); **2.** уздзеянне; уплыў; **3.** *мат.* дзеянне

**działka** *ж.* **1.** дзялянка, участак; **~ budowlana** будаўнічая пляцоўка; будаўнічы ўчастак; **~ gruntu** зямельны ўчастак, зямельная дзялянка; дзялка; **2.** *разм.* дача; **3.** *бат.* пялёстак; **4.** дзяленне (*на шкале*)

**działo** *н.* гармата

**działon, ~u** *м.* гарматны разлік

**działow|y**[1] раздзяляльны; **ścianka ~a** прасценак; міжаконне

**działowy**[2] гарматны

**dzianina** *ж.* трыкатаж; трыкатажная тканіна

**dzian|y 1.** трыкатажны; **wyroby ~e** трыкатажныя вырабы; **2.** вязаны, плецены

**dziarski** бадзёры; жвавы, рэзвы; зухаваты

**dziatki** *мн. жарт.* дзеткі; дзятва

**dziatwa** *ж. зборн. кніжн.* дзятва, дзеці; **~ szkolna** школьнікі

**dziąsło** *н. анат.* дзясна

**dziąsłowy 1.** *анат.* дзясенны, дзяснавы; **2.** *лінгв.* пярэдняязычны; пярэднепаднябенны

**dzicz 1.** *зборн.* дзікуны; варвары; **2.** дзічына; **3.** глухое месца

**dziczeć** *незак.* **1.** дзічэць; **2.** дзічыцца

**dziczka** *ж. бат.* дзічка

**dziczyzna** *ж.* дзічына

**dzida** *ж.* дзіда; кап'ё; піка

**dzieci** *мн.* **1.** дзеці; **2.** *студ. жарг.* студэнты-першакурснікі

**dzieciak** *м. разм.* **1.** дзіця; **2.** *неран.* малакасос, смаркач

**dzieciaty** *разм.* у якога ёсць дзеці; з дзецьмі

**dzieciątko** *н. ласк.* дзіцятка

**dzieciarnia** *ж. жарт.* дзятва; вывадак; чародка дзяцей

**dziecię** *н. кніжн.* дзіця; **~ miasta** дзіця горада; ◊ **~ fortuny** улюбёнец лёсу

**dziecięc|y** дзіцячы; **lata ~e** дзіцячыя гады; дзяцінства; **~e książeczki** дзіцячыя кніжачкі; **~e marzenia** дзіцячыя мары; **szpital ~y** дзіцячая бальніца (лякарня); **literatura ~a** дзіцячая літаратура

**dziecina** *ж. ласк.* дзіцятка

**dziecinada** *ж.* дзяцінласць

**dzieciniec** *м.* дзіцячы садок

**dziecinnie** па-дзіцячаму, па-дзіцячы, па-дзяцінаму

**dziecinnieć** *незак.* дзяцінець

**dziecinn|y 1.** дзіцячы; **pokój ~y** дзіцячы пакой; **wózek ~y** каляска; вазок; калёскі; **2.** дзіцячы, наіўны, несур'ёзны; **~e zachowanie** дзіцячыя паводзіны

**dzieciństwo** *н.* **1.** дзяцінства; дзіцячы ўзрост; **2.** наіўнасць; дзяцінласць

**dzieciobójca** *м.* дзетазабойца

**dzieciobójstwo** *н.* дзетазабойства

**dzieck|o** *н.* дзіця, дзіцяня; **dom ~a** дзіцячы дом; **od ~a** з дзяцінства; з дзіцячых гадоў; **~o z probówki** дзіця з прабіркі (зачатае штучным шляхам); ◊ **cudowne ~o** вундэркінд; **~o szczęścia** улюбёнец лёсу; шчаслівец

**dziedzic** *м.* **1.** нашчадак; спадчыннік; дзедзіч; спадкаемца; наступнік; **2.** памешчык; пан

**dziedzictw|o** *н.* **1.** спадчына; **dostać ~em** атрымаць у спадчыну; **wyzuć z ~a** пазбавіць спадчыны; **~o kulturalne** культурная спадчына; **2.** *юр.* атрыманне спадчыны

**dziedziczka** *ж.* **1.** спадчынніца; **2.** памешчыца; пані

**dziedziczność** *ж.* **1.** спадчыннасць; **2.** атрыманне спадчыны

**dziedziczn|y 1.** спадчынны; **choroba ~a** спадчынная хвароба; **obciążenie ~e** спадчынныя хібы (адмоўныя схільнасці); **2.** успадкаваны; спадчынны; **dobra ~e** спадчынная маёмасць; **3.** патомны; радавы

**dziedziczy|ć** *незак. co po kim* атрымліваць у спадчыну *што ад каго*; **~my majątek po naszej ciotce** мы атрымліваем ад нашай цёткі ў спадчыну маёнтак

**dziedzin|a** *ж.* галіна; **~a wiedzy** галіна ведаў; **~y sportu** віды спорту
**dziedziniec** *м.* панадворак; двор; дзядзінец
**dziegciarnia** *ж.* дзягцярня
**dziegciowy** дзёгцевы
**dzieg|ieć, ~ciu** *зак. м.* дзёгаць; каланіца; ◊ **łyżka ~ciu w beczce miodu** лыжка дзёгцю ў бочцы мёду; кропля смуроду псуе гарнец мёду
**dziej|e** *мн.* гісторыя; **~e starożytne** старажытная гісторыя; **~e średniowieczne** гісторыя сярэдніх вякоў; **~e nowożytne** новая гісторыя; **to są stare ~e** гэта старая гісторыя; **od zarania ~ów** са старажытных часоў; **~e ojczyste** айчынная гісторыя
**dziejopis** *м. кніжн.* **1.** *уст.* гісторык, летапісец; **2. ~u** летапіс; хроніка
**dziejopisarstwo** *н. уст.* гістарыяграфія
**dziejopisarz** *м.* гістарыёграф; гісторык; летапісец
**dziejowy** гістарычны
**dziekan** *м.* **1.** дэкан; **~ wydziału** дэкан факультэта; **2.** старшыня дыпламатычнага корпуса; дуаен
**dziekanat, ~u** *м.* дэканат
**dziekańsk|i** дэканскі; **wiza ~a** подпіс дэкана
**dzieleni|e** *н.* дзяленне; *мат.* **znak ~a** знак дзялення
**dzieli|ć** *незак.* **1.** дзяліць; **~ć co na części (kawałki)** дзяліць *што* на часткі (кавалкі); **~ć majątek pomiędzy swych synów** дзяліць маёнтак паміж сваімі сынамі; **~ć 6 przez 2** дзяліць 6 на 2; **2.** аддзяляць, раздзяляць; **od świąt ~ nas tydzień** ад святаў нас аддзяляе тыдзень; да святаў застаўся тыдзень; ◊ **~ć włos na czworo** падрабязна аналізаваць
**dziel|ić się** *незак.* **1.** дзяліцца; падзяляцца; **~ić się** *czym* **z** *kim* дзяліцца *чым* з *кім*; **ludzie ~ą się na dobrych i złych** людзі падзяляюцца на добрых і дрэнных; **2.** *z kim* дзяліцца; **~ić się doświadczeniem** дзяліцца досведам (вопытам); **3.** *мат.* дзяліцца

**dzielna** *ж. мат.* дзялімае; дзеліва
**dzielnica** *ж.* **1.** раён; мікрараён; квартал; **2.** вобласць; рэгіён; **3.** *гіст.* удзел (удзельнае княства)
**dzielnicowy 1.** абласны; раённы; **2.** *гіст.* удзельны
**dzielnik** *м. мат.* дзельнік
**dzielność** *ж.* **1.** энергічнасць, стойкасць; вытрымка; **2.** адвага; малайцаватасць
**dzielny 1.** энергічны, стойкі; **2.** адважны; малайцаваты
**dziel|o** *н.* **1.** праца; **brać się do ~a** брацца за працу; **kontynuować ~** працягваць працу; **2.** твор; **~o sztuki** мастацкі твор; **~a wybrane** выбраныя творы; **~a wszystkie** поўны збор твораў
**dzienniczek** *м.* дзённік (*вучнёўскі*)
**dziennie 1.** кожны дзень; штодзённа; штодня; **2.** у дзень; за дзень; **osiem godzin ~** восем гадзін ў дзень; **cztery razy ~** чатыры разы ў дзень
**dziennik** *м.* **1.** газета; **~ radiowy** апошнія паведамленні па радыё; **2.** дзённік; **3.** журнал; **~ lekcyjny (klasowy)** класны журнал; **~ okrętowy (pokładowy)** бартавы журнал; ◊ **~ ustaw** зборнік пастаноў і законаў
**dziennikarsk|i** журналісцкі, газетны; ◊ **kaczka ~a** газетная качка
**dziennikarstwo** *н.* журналістыка
**dziennikarz** *м.* журналіст; **~ sportowy** спартыўны журналіст; **~ telewizyjny** тэлежурналіст
**dzienn|y** дзённы; **porządek ~y** парадак дня; **światło ~e** дзённае святло; **pokój ~y** гасцёўня
**dzień** *м.* дзень; **~ świąteczny** святочны дзень; **~ wolny** выхадны; **~ powszedni** будзённы дзень; **co ~** штодзень; **we dnie i w nocy** днём і ноччу; **~ dobry!** добры дзень; **co drugi ~** праз дзень; **~ w ~** дзень у дзень; **~ po dniu** дзень за днём; **żyć z dnia na ~** жыць адным днём; *уст.* **do dnia** да дня, на досвітку
**dziergać** *незак.* **1.** плесці (*кручком*); **2.** абкідваць, абкідаць



**dzierlatka** *ж.* **1.** *заал.* чубаты жаваранак (*Galerida cristata*); **2.** *перан.* страказа, гарэзніца, гарэза, непаседа, вяртуха
**dzierżak** *м. абл.* цапільна
**dzierżaw|a** *ж.* **1.** арэнда; **długoterminowa ~a** доўгатэрміновая арэнда; **brać w ~ę** браць у арэнду; **~a ziemi** арэнда зямлі; **2.** арэндная плата; арэнда; **odroczyć ~ę** адтэрмінаваць арэндную плату
**dzierżawca** *м.* арандатар; **~ majątku** арандатар маёнтка
**dzierżawczy 1.** *лінгв.* прыналежны; **zaimek ~** прыналежны займеннік; **2.** *уст.* арэндны
**dzierżawi|ć** *незак.* арандаваць; **~ł pole sąsiadowi** ён арандаваў (здаваў у арэнду) поле суседу; **~ł ziemię stryja** ён арандаваў (браў у арэнду) зямлю дзядзькі
**dzierżawn|y 1.** арэндны; **2. ~e** *н.* арэнда; арэндная плата
**dzierżyć** *незак. уст. кніжн.* валодаць; трымаць; ◊ **~ prym** *разм.* быць першым *сярод каго*
**dziesiąt|ek, ~ku** *м.* дзесятак; **w ósmym ~ku lat** у сямідзесятых гадах
**dziesiątk|a** *ж.* **1.** дзесятка; **2.** дзесяты нумар; дзесятка; **mieszkać pod ~ą** жыць у дзесятым доме (пакоі, кватэры); **jechać ~ą** ехаць дзесяткай; **3.** дзесяць чалавек; дзесяць штук; дзесятка; **pierwsza ~a** першая дзесятка; **4.** *мат.* дзесятак; **jednostki i ~i** адзінкі і дзесяткі; ◊ **trafić w ~ę** трапіць у дзесятку; пацэліць
**dziesiątkować** *незак.* **1.** караць кожнага дзесятага; **2.** наносіць вялікі ўрон; рабіць спусташэнне; знішчаць
**dziesiąt|y** дзесяты; ◊ **~a woda na kisielu** дзесятая вада на кісялі
**dziesięcina** *ж. гіст.* дзесяціна
**dziesięciob|ój, ~oju** *м. спарт.* дзесяціборства
**dziesięciokrotny** дзесяціразовы, дзесяцікратны
**dziesięciolecie** *н.* дзесяцігоддзе
**dziesięcioletni** дзесяцігадовы

**dziesięcioro** *зборн.* дзесяцера
**dziesięciozłotówka** *ж.* дзесятка (*10 злотых*)
**dziesięciu** *а.-м.* дзесяць; *гл.* **dziesięć**
**dziesięć** дзесяць
**dziesiętn|y** дзесятковы; **ułamek ~y** дзесятковы дроб; **system ~y** дзесятковая сістэма; **waga ~a** дзесятковая вага
**dziewanna** *ж. бат.* дзіванна (*Verbascum L.*); **~ wielka** дзіванна вялікая
**dziewczę** *н. кніжн.* дзяўчына
**dziewczęcy** дзявочы
**dziewczyna** *ж.* **1.** дзяўчына; **2.** дзяўчынка; ◊ **~ uliczna** вулічная дзеўка; прастытутка
**dziewczynka** *ж.* дзяўчынка
**dziewiarski** трыкатажны; **wyroby ~e** трыкатажныя вырабы
**dziewiarstwo** *н.* трыкатажная вытворчасць
**dziewiątka** *ж.* **1.** дзевятка; **2.** дзевяты нумар; дзевятка; ◊ **stara ~** *пагард.* старая карга
**dziewiąty** дзевяты
**dziewica** *ж.* **1.** дзяўчына; **2.** нявінніца; цнатлівая
**dziewictwo** *н.* **1.** цнатлівасць; **2.** *перан.* беззаганнасць; чысціня; нявіннасць
**dziewicz|y 1.** дзявочы; дзявоцкі; **~y wieczór** дзявочнік, дзявоцкія запоіны, дзявічкі (*апошні вечар напярэдадні вяселля*); **błona ~a** *анат.* дзявоцкая плява; **2.** нявінны; некрануты; цнатлівы; **3.** некрануты; першабытны; **~a puszcza** першабытны лес; **teren ~y** некранутая зямля
**dziewięcioro** *зборн.* дзевяцера
**dziewięciu** *а.-м.* дзевяць; *гл.* **dziewięć**
**dziewięć** дзевяць; ◊ **ni w pięć, ni w ~ć** ні ў пяць, ні ў дзесяць; ні ў два, ні ў паўтара
**dziewięćdziesiąt** дзевяноста
**dziewięćdziesięciu** *а.-м.* дзевяноста; *гл.* **dziewięćdziesiąt**
**dziewięćset** дзевяцьсот
**dziewięćsetny** дзевяцісоты
**dziewiętnastoletni** дзевятнаццацігадовы
**dziewiętnaście** дзевятнаццаць
**dziewka** *ж. разм.* дзеўка; **zdrowa ~** здаровая дзеўка

**dziewkarz** *м. разм.* бабнік
**dziewosłąb** *м. уст.* сват
**dziewuszka** *ж. ласк.* дзяўчынка; дзяўчыначка
**dzieża** *ж.* дзяжа
**dzięcioł** *м.* дзяцел
**dzięciolić** *незак. студ. жарг.* вучыць; зубрыць
**dzięgiel** *м. бат.* дзягіль (*Angelica L.*)
**dziękczynienie** *н.* узнясенне хвалы; падзяка; удзячнасць
**dziękczynny** падзячны; удзячны
**dzięki**[1] *мн.* **1.** удзячнасць, падзяка; **2.** *разм.* дзякуй!; дзякую!; ~ **za pomoc** дзякуй за дапамогу; **wielki** ~ вялікі дзякуй
**dzięki**[2] дзякуючы; ~ **twojej pomocy** дзякуючы тваёй дапамозе
**dzięk|ować** *незак.* дзякаваць; **~uję państwu za uwagę** дзякую вам за ўвагу
**dzik** *м.* **1.** *заал.* дзік (*Sus scrofa*); **2.** *сад.* дзікі парастак; **3.** *уст.* нелюдзень; дзіклівы
**dziki** **1.** дзікі; **~e koni** дзікія коні; ~ **bez** бузіна; **2.** *разм.* дзікі; страшны; ~ **wzrok** дзікі позірк; ~ **wybryk** дзікі ўчынак; ~ **hałas** дзікі крык; **3.** незаконны, нелегальны; ~ **strajk** дзікая забастоўка (*без узгаднення, неафіцыйная*); ~ **lokator** незаконны жылец; **4.** *разм.* дзікун, дзікі чалавек; **dzicy napadli na osadę kolonizatorów** дзікуны напалі на паселішча каланізатараў
**dzikość** *ж.* дзікасць
**dzikus** *м.* дзікун; нецывілізаваны чалавек
**dzikuska** *ж.* дзікунка
**dziobacz** *м. жарг.* зубрыла; завучка
**dzioba|ć** *незак.* **1.** дзяўбці, дзюбаць; **kury ~ły ziarno** куры дзяўблі зерне; **2.** *студ. жарг.* вучыць; зубрыць
**dziobak** *м. заал.* качканос (*Ornithorhynchus paradoxus*)
**dziobat|y** рабы, васпаваты; **~a twarz** рабы твар
**dziobek** *м.* **1.** дзюбка; **2.** *перан. жарт.* раток
**dziobnąć** *зак.* дзеўбануць, дзюбнуць
**dzionek** *м. ласк.* дзянёк
**dziób, dzioba** *м.* дзюба; ~ **okrętu** нос карабля
**dzisiaj** **1.** сягоння, сёння; ~ **rano (wieczorem)** сёння ўранку (увечары); **od** ~ з сённяшняга дня; **2.** цяпер; у наш (цяперашні) час;
**dzisiejszość** *ж.* сёння; сённяшні дзень; сучаснасць
**dzisiejsz|y** **1.** сённяшні; **dzień ~y** сённяшні дзень; **2.** цяперашні; сучасны; **~a młodzież** сучасная моладзь
**dziś** **1.** сягоння, сёння; **do ~ dnia (po ~ dzień)** да сённяшняга дня; **2.** цяпер; ~ **się tak nie mówi** цяпер так не кажуць
**dziupla** *ж.* дупло; ~ **w sośnie** дупло ў сасне
**dziuplasty** дуплаваты
**dziur|a** *ж.* **1.** дзірка; прабоіна; **2.** яма; нара; **3.** *перан.* закутак; глухамань; ◊ **przez to ~y w niebie nie będzie** ад гэтага зямля не праваліцца; **ona zawsze szuka ~y w całym** яна заўсёды чапляецца; **wiercić** *komu* **~ę w brzuchu** *разм.* цкаваць *каго*, даймаць, дражніць
**dziurawić** *незак.* дзіравіць
**dziurawiec** *м. бат.* святаяннік (*Hypericum L.*)
**dziurawka** *ж. буд.* цэгла з адтулінамі; дзіркаватая (дзірчастая) цэгла
**dziurk|a** *ж.* дзірачка; **~a od klucza** замочная шчыліна; ◊ **mieć** *czego* **po ~i w nosie** быць сытым *чым* па горла; мець *чаго* досыць; мець *што* па [самую] завязку
**dziurkacz** *м.* перфаратар; дзіркакол; дзіракол
**dziurkować** *незак.* перфараваць; прабіваць (*білеты, талоны і да т.п.*)
**dziurkowany** перфараваны; дзірчасты; дзіркаваты
**dziurkowaty** порысты
**dziw, ~u** *м.* **1.** дзіва, цуд; **istne ~y** сапраўдныя цуды (дзівосы); ~ **bierze** дзіва бярэ; **2.** дзіўна; **nie ~, że ...** не дзіўна, што...; нічога дзіўнага, што...
**dziwactwo** *н.* дзівацтва
**dziwaczeć** *незак.* рабіцца дзіваком
**dziwaczny** дзівацкі, дзівакаваты
**dziwaczyć** *незак.* дзівачыць



**dziwadło** *н.* **1.** дзівак; хадзячы анекдот; **2.** пачвара; страшыдла, страхоцце; **3.** дзіва; цуд
**dziwak** *м.* дзівак
**dziwi|ć** *незак.* дзівіць, здзіўляць; ~ **mnie to** гэта мяне здзіўляе
**dziwi|ć się** *незак.* здзіўляцца; **~ę ci się** я з цябе дзіўлюся
**dziwka** *ж. разм.* вулічная дзеўка; прастытутка
**dziwn|y** дзіўны; дзівосны; незвычайны; **nic ~ego** нічога дзіўнага
**dziwo** *н.* **1.** дзіва; цуд; **2.** прывід; здань
**dziwoląg** *м.* **1.** пачвара, страшыдла, страхоцце; **2.** дзіва
**dziwować się** *незак.*; *гл.* **dziwić się**
**dzwon, ~u** *м.* звон; **zawiesić ~ w dzwonnicy** павесіць звон на званіцу
**dzwonek** *м.* **1.** званок; **2.** званочак; **3.** *бат.* званочак (*Campanula L.*); **4.** **~ki** *карц.* бубны; ◊ **ostatni** ~ апошні званок
**dzwoni|ć** *незак.* **1.** званіць; **2.** звінець; **~ć zębami** ляскаць зубамі; ~ **mi w uszach** у мяне ў вушах звініць
**dzwoniec** *м. заал.* лясная канарэйка (*Chloris chloris*)
**dzwonk|o** *н.* кавалак рыбы; **podzielić rybę na ~a** падзяліць рыбу на кавалкі
**dzwonnica** *ж.* званіца
**dzwonnik** *м.* званар
**dzwono** *н.* **1.** звёнка; звяно вобада ў коле (*ад спіцы да спіцы*); **2.** кавалак рыбы
**dźgać** *незак.* пароць, калоць
**dźgnąć** *зак.* парнуць, кальнуць
**dźwięcz|eć** *незак.* **1.** гучаць, чуцца; **w głosie ~ał żal** у голасе чулася журба; **2.** званіць, гучаць
**dźwięczny** гучны, звонкі
**dźwięk, ~u** *м.* гук; **naśladowanie ~ów** гукаперайманне; **pusty** ~ *іран.* пусты гук
**dźwiękow|y** гукавы; **ścieżka ~a** гукавая дарожка; **efekty ~e** гукавыя эфекты
**dźwig, ~u** *м.* **1.** ліфт; **2.** пад'ёмны кран; грузапад'ёмнік
**dźwigać** *незак.* **1.** несці, насіць, цягнуць; **2.** падымаць; **3.** будаваць; узводзіць; **4.** падтрымліваць; быць апорай
**dźwiga|ć się** *незак.* падымацца, узнімацца, узносіцца; **z trudem ~ł się z krzesła** ён з цяжкасцю падымаўся з крэсла
**dźwigar, ~a/~u** *м.* **1.** пад'ёмны кран; **2.** бэлька
**dźwigarka** *ж.* пад'ёмны кран; грузапад'ёмная машына; лябёдка; дамкрат
**dźwignąć** *зак.* падняць, узняць; узвесці
**dźwignąć się** *зак.* падняцца, узняцца; ~ **się z choroby** выздаравець, падняцца пасля хваробы
**dźwignia** *ж.* рычаг; вагар
**dźwigniowy** рычажны, пад'ёмны
**dźwigowy** **1.** кранавы; пад'ёмны; **2.** *м.* кранаўшчык; машыніст крана; **3.** *м.* ліфцёр
**dżdżownica** *ж. заал.* дажджавы чарвяк (*Lumbricus*)
**dżdżownik** *м. заал.* зуёк (*Charadrius*)
**dżdży|ć** *незак.* імжэць; ~ *безас.* імжыць
**dżdżyst|y** дажджлівы; **pogoda ~a** дажджлівае надвор'е
**dżem, ~u** *м.* джэм
**dżentelmen** *м.* джэнтльмен; мужчына; спадар
**dżentelmeńsk|i** джэнтльменскі; **umowa ~a** джэнтльменская дамова
**dżin, ~u** *м.* джын
**dżinn** *м. міф.* джын; **zamknąć ~a w butelce** закрыць джына ў бутэльцы
**dżins** *м.* **1.** джынс (*тканіна*); **2.** джынсы
**dżinsy** *мн.* джынсы
**dżip** *м.* джып
**dżokej** *м.* жакей
**dżokejka** *ж.* жакейка, жакейская шапачка
**dżonka** *ж.* джонка
**dżudo** *нескл. н. спарт.* дзюдо
**dżudok** *м.*; *гл.* **dżudowiec**
**dżudowiec** *м.* дзюдаіст
**dżudystka** *ж.* дзюдаістка
**dżul** *м. фіз.* джоўль
**dżum|a** *ж.* чума; **epidemia ~y** эпідэмія чумы
**dżungl|a** *ж.* джунглі; **nieprzebyta ~a** непраходныя джунглі; **prawo ~i** закон джунгляў
**dżygit** *м.* джыгіт

# E

**e** э; ах; эх; ай; эй; гэй; о; ого; **e, jaka to nagroda!** ай, што гэта за ўзнагарода!; **e, chodź no tu!** эй (гэй), хадзі сюды!; **e, to z pana majster!** о (ого), дык вы майстар!
**ebenista** *м.* чырванадрэўшчык
**ebonit, ~u** *м.* эбаніт
**ebonitowy** эбанітавы
**ech** а; ах; э; эх; **~, wszystko mi jedno!** а (ах), мне ўсё роўна!
**ech|o** *н.* **1.** рэха; **2.** *перан.* водгук; водгалас; **odbić się szerokim ~em** знайсці шырокі водгук; **pozostać bez ~a** застацца без адказу
**echometr, ~u** *м. мар.* рэхалот
**edamski: ser ~** галандскі сыр
**eden** *м. кніжн.* эдэм; рай; нябёсы
**edeński** эдэмскі; райскі
**edukacj|a** *ж.* адукацыя; выхаванне; **podstawy ~i** асновы адукацыі
**edukacyjny** адукацыйны
**edukowa|ć** *незак.* адукоўваць; выхоўваць; **~ła go ulica** яго выхоўвала вуліца
**edukowa|ć się** *незак.* атрымліваць адукацыю; вучыцца; **dzieci ~ły się prywatnie** дзеці вучыліся ў прыватных настаўнікаў
**edycja** *ж.* выданне; **luksusowa ~** падарункавае выданне; **~ poprawiona i rozszerzona** выданне выпраўленае і дапоўненае
**edykt, ~u** *м. гіст.* эдыкт
**edytor** *м.* **1.** выдавец; **2.** рэдактар; **~ tekstu** *камп.* тэкставы рэдактар
**edytorsk|i** выдавецкі; **szata ~a** макет (*кнігі, газеты*)
**edytorstwo** *н.* выдавецкая дзейнасць (справа)
**efekciarski** паказны; разлічаны на эфект
**efekciarz** *м. пагард.* аматар [танных] эфектаў
**efekt, ~u** *м.* **1.** эфект; **~ świetlny** светлавы эфект; **~ cieplarniany** парніковы эфект; **~y specjalne** *кіно* спецэфекты; **2.** вынік; **artykuł jest ~em pobytu w Bierlinie** артыкул з'явіўся вынікам знаходжання ў Берліне; **3.** уражанне; **wywołać ~** уразіць; зрабіць уражанне
**efektown|y** эфектны; **~a kobieta** эфектная жанчына
**efektywność** *ж.* эфектыўнасць; дзейснасць; **~ inwestycji** эфектыўнасць капіталаўкладанняў; **~ pracy** эфектыўнасць працы; **~ produkcji** эфектыўнасць вытворчасці; **~ środków obrotowych** эфектыўнасць абаротных сродкаў; **~ zarządzania** эфектыўнасць кіравання; **~ zatrudnienia** эфектыўнасць занятасці
**efektywny** эфектыўны; выніковы
**efemeryczny** эфемерны
**efemeryda** *ж.* нешта эфемернае, недаўгавечнае, уяўнае
**efemerydy** *мн.* **1.** эфемерыды; газетны бюлетэнь, экстранны выпуск; **2.** *астр.* эфемерыды; **3.** *заал.* эфемерыды; аднадзёнкі; **4.** *бат.* эфемероіды; эфемеры
**egalitaryzm, ~u** *м.* эгалітарызм
**egid|a** *ж.* эгіда; ◊ **pod ~ą** пад эгідай
**Egipcjanin** *м.* егіпцянін
**Egipcjanka** *ж.* егіпцянка
**egipski** егіпецкі; **ciemności ~e** непраглядная цемра; цемра егіпецкая
**egiptolog** *м.* егіптолаг
**egocentryczny** эгацэнтрычны
**egocentryzm, ~u** *м.* эгацэнтрызм
**egoista** *м.* эгаіст
**egoistka** *ж.* эгаістка
**egoistycznie** эгаістычна
**egoistyczn|y** эгаістычны; **~e zachowanie** эгаістычныя паводзіны
**egoizm, ~u** *м.* эгаізм
**egotyzm, ~u** *м. псіх.* эгатызм
**egzageracja** *ж.* перабольшванне; перавелічэнне
**egzagerować** *незак.* перабольшваць; перавялічваць
**egzaltacja** *ж.* экзальтацыя
**egzaltować się** *незак.* захапляцца; упадаць у экзальтацыю



**egzaltowany** экзальтаваны
**egzamin, ~u** *м.* экзамен, іспыт; **~ ustny (pisemny)** вусны (пісьмовы) экзамен; **~ dojrzałości** экзамен за курс сярэдняй школы; **~ wstępny (końcowy)** уступны (выпускны) экзамен; **~ poprawkowy** пераздача; **~ na prawo jazdy** экзамен на вадзіцельскія правы; **~ z matematyki** экзамен па матэматыцы; **zdawać (składać) ~** здаваць экзамен; **ściąć się na ~ie** *разм.* зрэзацца (праваліцца) на экзамене
**egzaminacyjny** экзаменацыйны
**egzaminator** *м.* экзаменатар; **~ z języka polskiego** экзаменатар па польскай мове
**egzaminować** *незак.* экзаменаваць; **~ *kogo z czego*** экзаменаваць *каго па чым*
**egzekucja** *ж. юр.* **1.** выкананне прысуду; **2.** прымусовае спагнанне (*падаткаў, падаткаў*); **3.** смяротнае пакаранне
**egzekucyjn|y** *юр.* выканаўчы; **władza ~a** выканаўчая ўлада; **tytuł ~y** выканаўчы ліст; **pluton ~y** карны атрад
**egzekutor** *м. юр.* выканаўца (*судовага прысуду*); судовы выканаўца
**egzekutywa** *ж. юр.* **1.** выканаўчая ўлада; выканаўчы орган; **2.** *уст.* выкананне
**egzekwie** *н. рэл.* паніхіда; памінальная імша
**egzekwować** *незак.* **1.** спаганяць; **2.** выконваць; **~ rzut karny** *спарт.* біць штрафны ўдар
**egzema** *ж.* экзема; **dostać ~y** захварэць на экзему
**egzemplarz** *м.* **1.** экзэмпляр; асобнік; **w dwóch ~ach** у двух экзэмплярах (асобніках); **2.** прадстаўнік; экзэмпляр; узор; **ciekawy ~ motyla** цікавы экзэмпляр матыля; ◊ **~ autorski** аўтарскі экзэмпляр; **~ okazowy** абавязковы экзэмпляр; **~ sygnalny (próbny)** сігнальны экзэмпляр
**egzemplifikacja** *ж. кніжн.* ілюстрацыя
**egzorcyzm, ~u** *м. царк.* экзарцызм; выгнанне д'ябла; замова ад нячысціка
**egzotyczny** экзатычны
**egzotyka** *ж.* экзотыка
**egzotyzm, ~u** *м.* **1.** экзатычнасць; **2.** *лінгв.* экзатызм
**egzystencj|a** *ж.* **1.** існаванне; жыццё; **środki ~i** сродкі існавання; **wieść spokojną ~ę** весці спакойнае жыццё (існаванне); **2.** *кніжн.* экзістэнцыя
**egzystencjalizm, ~u** *м.* экзістэнцыялізм
**egzyst|ować** *незак.* існаваць; жыць; **na razie jeszcze ~uję** пакуль яшчэ жыву; **firma ~uje od roku 1860** фірма існуе з 1860 года
**ej** гэй!
**ejc** *м. разм.* хворы на СНІД
**ejektor** *м. тэх.* эжэктар; струменная помпа
**ejże** **1.** няўжо; ці ж; **~, mówisz prawdę?** няўжо (ці ж) гэта праўда?; **2.** гэй; ну; гм
**ekierka** *ж.* навугольнік
**ekipa** *ж.* калектыў, група; атрад; брыгада; **~ łączności** шэфская брыгада; **~ sportowa** спартыўная каманда; **~ archeologiczna** археалагічная экспедыцыя
**eklektyczny** эклектычны
**eklektyzm, ~u** *м.* эклектызм; эклектыка
**ekler, ~u** *м.* **1.** маланка (*замок*); **2.** *кул.* эклер
**ekolog** *м.* эколаг
**ekologia** *ж.* экалогія; **~ drzew** экалогія дрэў
**ekologiczn|y** **1.** экалагічны; **warunki ~e** экалагічныя ўмовы; **2.** натуральны; экалагічна чысты (здаровы); **żywność ~a** экалагічна чыстая ежа
**ekliptyka** *ж. астр.* экліптыка
**ekonom** *м. уст.* аканом
**ekonomia** *ж.* **1.** эканомія; **~ polityczna** палітычная эканомія; **2.** эканомія; ашчаднасць
**ekonomiczn|y** **1.** эканамічны; **kryzys ~y** эканамічны крызіс; **polityka ~a** эканамічная палітыка; **2.** эканомны; ашчадны; **ten sposób krojenia materiału jest bardziej ~y** гэты спосаб раскрою матэрыялу больш эканомны
**ekonomika** *ж.* **1.** эканоміка; **~ przedsiębiorstw handlowych** эканоміка гандлёвых прадпрыемстваў; **~ przemysłu**

эканоміка прамысловасці; ~ **rolnictwa** эканоміка сельскай гаспадаркі; ~ **żywienia** эканоміка харчавання; **2.** *разм.* гаспадарка

**ekonomista** *м.* эканаміст

**ekran, ~u** *м.* экран; ◊ **mały (szklany)** ~ блакітны экран (*пра тэлевізар*); **srebrny** ~ кінаэкран; **wchodzić (wejść) na ~y** выходзіць (выйсці) на экраны; **gwiazda ~u** зорка экрана

**ekranizacja** *ж.* экранізацыя

**ekranizować** *незак.* экранізаваць

**ekscelencja** *ж.* эксцэленцыя, свяцейшасць, правасхадзіцельства; **Wasza Ekscelencja** Ваша свяцейшасць

**ekscentryczność** *ж.* эксцэнтрычнасць

**ekscentryczny** эксцэнтрычны

**ekscentryk** *м.* эксцэнтрык

**ekscerpcja** *ж.* выпіска; эксцэрпцыя, вытрымка, выбарка (*з тэксту*)

**ekscerpować** *незак.* выпісваць матэрыял; выбіраць вытрымкі (цытаты)

**eksces, ~u** *м. кніжн.* эксцэс; выхадка, выбрык; **położyć kres ~om** спыніць парушэнне парадку

**ekscytacja** *ж. кніжн.* узбуджанасць, ажыўленне, азарт

**ekscytować** *незак. кніжн.* узбуджаць, хваляваць, узрушаць

**ekshibicjonizm, ~u** *м.* эксгібіцыянізм

**ekshumacja** *ж.* эксгумацыя

**ekshumować** *незак.* эксгумаваць

**eksklamacja** *ж. кніжн.* вокліч, выгук, выкрык

**ekskluzywny** замкнуты; закрыты; адасоблены; ~ **klub** элітны клуб

**ekskomunika** *ж.* адлучэнне ад царквы

**ekskrementy** *мн.* экскрэменты

**ekskurs, ~u** *м.* экскурс

**eksmisja** *ж. юр.* прымусовае высяленне (*з кватэры і да т.п.*)

**eksmitować** *юр.* **1.** *незак.* высяляць (*прымусова*); **2.** *зак.* выселіць; ~ **lokatorów** выселіць (высяляць) кватарантаў

**ekspandować** *незак. кніжн.* распаўсюджвацца; пашырацца; пашыраць (*свае межы*)

**ekspansja** *ж.* экспансія; ~ **terytorialna** тэрытарыяльная экспансія

**ekspansywność** *ж. кніжн.* экспансіўнасць

**ekspansywn|y** **1.** экспансіўны; **~a polityka** экспансіўная палітыка; **2.** экспансіўны; эмацыянальны; выбуховы

**ekspatriacja** *ж.* экспатрыяцыя; выгнанне

**ekspatriować** *незак.* экспатрыяваць

**ekspedient** *м.* прадавец

**ekspedientka** *ж.* прадаўшчыца; прадавачка

**ekspediować** *незак.* **1.** адпраўляць, пасылаць; **2.** абслугоўваць пакупнікоў

**ekspedycja** *ж.* **1.** экспедыцыя; ~ **naukowa** навуковая экспедыцыя; **2.** адпраўка; рассылка; экспедыцыя; **3.** абслугоўванне пакупнікоў

**ekspedycyjny** экспедыцыйны

**ekspedytor** *м.* экспедытар; ~ **prasy** разносчык газет

**ekspedytura** *ж.* экспедыцыя; аддзел рассылкі

**ekspens, ~u** *м. часцей мн.* **~y** *уст.* выдаткі

**ekspert** *м.* эксперт; спецыяліст

**ekspertyza** *ж.* экспертыза; ~ **chemiczna** хімічная экпертыза; ~ **stwierdziła (wykazała)** экспертыза вызначыла (паказала)

**eksperyment, ~u** *м.* эксперымент; **przeprowadzać ~y na szczurach** праводзіць эксперыменты на пацуках; ~ **z fizyki** фізічны эксперымент

**eksperymentalny** эксперыментальны

**eksperymentować** *незак.* эксперыментаваць

**ekspiracja** *ж. лінгв.* экспірацыя

**ekspiracyjny** *лінгв.* экспіраторны

**eksplikacja** *ж. кніжн.* тлумачэнне; абгрунтаванне

**eksplikować** *незак. кніжн.* тлумачыць; ~ **znaczenie wyrazu** тлумачыць значэнне слова

**eksploatacja** *ж.* эксплуатацыя; ~ **samochodu** эксплуатацыя аўтамабіля; ◊ ~ **odkrywkowa (naziemna)** *горн.* адкрытая распрацоўка; кар'ер

**eksploatacyjny** эксплуатацыйны



**eksploatator** *м.* эксплуататар

**eksploatować** *незак.* эксплуатаваць; выкарыстоўваць; ~ **nowoczesny sprzęt** эксплуатаваць сучаснае абсталяванне

**eksplodować** **1.** *незак.* выбухаць; разрывацца; **2.** *зак.* выбухнуць; разарвацца

**eksploracj|a** *ж. кніжн.* даследаванне; вывучэнне; **~a przestrzeni kosmicznej** вывучэнне (даследаванне) космасу; **prowadzić ~ę** даследаваць; вывучаць

**eksploracyjny** *кніжн.* даследчыцкі

**eksplorator** *м.* даследчык

**eksplorować** *незак.* даследаваць

**eksplozja** *ж.* выбух; ~ **nuklearna (jądrowa)** атамны (ядзерны, ядравы) выбух; ~ **demograficzna** дэмаграфічны выбух; ~ **turystyczna** турыстычны бум

**eksplozyjn|y** выбуховы; **materiały ~e** выбуховыя рэчывы

**eksplozywn|y** **1.** выбуховы; **2.** *лінгв.* выбухны; **spółgłoski ~e** выбухныя зычныя

**eksponat, ~u** *м.* экспанат

**eksponen|t** *м.* **1.** экспанент; **2.** прадстаўнік; **~ci sił prawicowych** прадстаўнікі правых сіл

**eksponować** *незак.* экспанаваць, выстаўляць; падкрэсліваць

**eksport, ~u** *м.* экспарт; ~ **bezpośredni** прамы экспарт; ~ **dumpingowy** стратны экспарт; ~ **(nie)opłacalny** (не)рэнтабельны экспарт; ~ **światowy** сусветны экспарт; **stymulować** ~ стымуляваць экспарт; **zwiększyć** ~ павялічыць экспарт; **produkować na** ~ выраблядь на экспарт

**eksporter** *м.* экспарцёр

**eksportować** *незак.* экспартаваць; вывозіць

**eksportow|y** экспартны; **towary ~e** экспартныя тавары

**ekspozycja** *ж.* экспазіцыя; выстаўка; выстава; ~ **reklamowa** рэкламная выстава

**ekspozytura** *ж.* **1.** прадстаўніцтва; **2.** аддзяленне, філіял; філія

**ekspres, ~u** *м.* **1.** экспрэс (*хуткасны цягнік, аўтобус*); **2.** спешны ліст, спешнае пісьмо; **3.** электракававарка; **kawa z ~u** кава з кававаркі

**ekspresja** *ж.* экспрэсія; эмацыянальнасць; выразнасць

**ekspresjonista** *м.* экспрэсіяніст

**ekspresjonistyczny** экспрэсіяністычны

**ekspresjonizm, ~u** *м.* экспрэсіянізм

**ekspresow|y** хуткасны, спешны; ◊ **herbata ~a** гарбата (чай) у аднаразовых пакецiках

**ekspresyjny** экспрэсіўны; *гл.* **ekspresywny**

**ekspresywn|y** экспрэсіўны; **siła ~a** экспрэсіўная моц

**ekspropriacja** *ж. кніжн.* экспрапрыяцыя

**ekspropriować** *незак. кніжн.* экспрапрыіраваць

**ekstatyczny** экстатычны; захоплены; ахоплены экстазам

**ekstaz|a** *ж.* экстаз; **popadać (wpadać) w ~ę** прыходзіць у экстаз

**ekstensywny** экстэнсіўны

**eksterminacja** *ж.* знішчэнне; вынішчэнне

**eksterminować** *незак.* вынішчаць, знішчаць

**ekstern** *м.*; *гл.* **eksternista**

**eksternista** *м.* экстэрн

**eksterytorialność** *ж.* экстэрытарыяльнасць

**eksterytorialny** экстэрытарыяльны

**ekstra** **1.** звыш; у дадатак; **zapłacić** *каму* ~ заплаціць *каму* дадаткова (у дадатак); **2.** экстра; *разм.* супер; **podróż była ~!** падарожжа было выдатнае! (супер!)

**ekstradycja** *ж. юр.* экстрадыцыя; выдача злачынцы

**ekstrakt, ~u** *м.* экстракт

**ekstrawagancja** *ж.* экстравагантнасць

**ekstrawagancki** экстравагантны, дзіўны

**ekstrawersyjny**; *гл.* **ekstrawertyczny**

**ekstrawertyczny** экстравертны

**ekstrawertyk** *м.* экстраверт

**ekstrem, ~u** *м. кніжн.* крайнасць

**ekstrema** *ж. разм.* экстрэмісты

**ekstremalny** экстрэмальны

**ekstremi|sta** *м.* экстрэміст

**ekstremizm, ~u** *м.* экстрэмізм; ~ **poglądów** экстрэмізм поглядаў

**ekumeniczny** экуменічны

**ekumenizm, ~u** *м. рэл.* экуменізм
**ekwator** *м.* экватар
**ekwilibrować** *незак.* эквілібраваць
**ekwilibrysta** *м.* эквілібрыст
**ekwilibrystyka** *ж.* эквілібрыстыка
**ekwipaż, ~u** *м. уст.* экіпаж (*павозка*), фаэтон
**ekwipować** *незак. w co* экіпіраваць *чым*; забяспечыць (*неабходным рыштункам*)
**ekwipun|ek, ~ku** *м.* экіпіроўка; рыштунак; амуніцыя; **turystyczny ~ek** турыстычны рыштунак
**ekwiwalencja** *ж.* эквівалентнасць
**ekwiwalent, ~u** *м.* эквівалент; **~ pieniężny** грашовы эквівалент; **~ towarowy** таварны эквівалент
**elaborat, ~u** *м. часта іран.* праект; трактат
**elastyczność** *ж.* гнуткасць; эластычнасць; **~ cen** эластычнасць цэн; **~ płac** эластычнасць заработнай платы; **~ postępowania (zachowania się)** гнуткасць паводзін
**elastyczny** эластычны; *пераи.* гнуткі; **bandaż ~** эластычны бінт
**elastik, ~u** *м.* эластык
**eleganc|ja** *ж.* элегантнасць; густоўнасць; **ubierać się z ~ą** элегантна апранацца; апранацца густоўна (з густам)
**elegancki** элегантны; густоўны
**elegant** *м.* франт, фарсун, моднік
**elegantka** *ж.* франціха, фарсуха, модніца
**elegia** *ж.* элегія
**elegijny** элегічны
**elekcja** *ж. гіст.* абранне; выбары
**elekt** *м. гіст.* выбраннік, абраннік; **prezydent ~** новаабраны прэзідэнт
**elektor** *м. гіст.* выбаршчык; выбарнік
**elektorat, ~u** *м.* электарат; выбршчыкі; выбарнікі
**elektroanaliza** *ж.* электрааналіз
**elektrochemia** *ж.* электрахімія
**elektrociepłownia** *ж.* цеплаэлектрастанцыя; цеплаэлектрацэнтраль (ЦЭЦ)
**elektroda** *ж.* электрод
**elektrodowy** электродны
**elektrodynamika** *ж.* электрадынаміка
**elektrofor, ~u** *м.* электрафор
**elektrolit, ~u** *м.* электраліт
**elektroliza** *ж.* электроліз
**elektromagnes, ~u** *м.* электрамагніт
**elektromagnetyczny** электрамагнітны
**elektrometalurgia** *ж.* электраметалургія
**elektrometr, ~u** *м.* электрометр
**elektromierz** *м.* электрычны лічыльнік
**elektromotor, ~u** *м.* электраматор, электрарухавік
**elektron, ~u** *м.* электрон
**elektronowy** электронны
**elektroskop, ~u** *м.* электраскоп
**elektrostatyka** *ж.* электрастатыка
**elektrotechniczny** электратэхнічны; **przemysł ~** электратэхнічная прамысловасць
**elektrotechnik** *м.* электратэхнік
**elektrotechnika** *ж.* электратэхніка
**elektroterapia** *ж.* электратэрапія
**elektrownia** *ж.* электрастанцыя; **~ atomowa (jądrowa)** атамная электрастанцыя (АЭС); **~ wodna** гідраэлектрастанцыя (ГЭС)
**elektrow|óz, ~ozu** *м.* электравоз
**elektrowstrząs, ~u** *м.* электрашок
**elektryczność** *ж.* **1.** электрычнасць; **~ dodatnia (ujemna)** дадатная (адмоўная) электрычнасць; **2.** *разм.* электрычнасць, святло; **założyć ~** правесці электрычнасць (святло)
**elektryczn|y** электрычны; **prąd ~y** электрычны ток; **przewód ~y** электрапровад; **krzesło ~e** электрычнае крэсла; **instalacja ~a** электраабсталяванне; **ładunek ~y** *фіз.* электрычны зарад
**elektryfikacja** *ж.* электрыфікацыя
**elektryfikować** *незак.* электрыфікаваць
**elektryk** *м.* электрык
**elektryzacja** *ж.* электрызацыя
**elektryzować** *незак.* электрызаваць
**element, ~u** *м.* **1.** элемент; **2.** дэталь; **~y maszyn** дэталі машын
**elementarny** элементарны, просты; першапачатковы
**elementarz** *м.* **1.** буквар, азбука; лемантар; **2.** асновы, пачаткі



**elew** *м.* **1.** вучань вайсковай навучальнай установы; кадэт; **2.** *уст.* вучань, выхаванец
**elewacja** *ж.* **1.** *буд.* сцяна з элементамі аздобы; **~ frontowa** фасад; **2.** *геал.* узвышша
**elewacyjn|y** фасадны; **roboty ~e** абліцовачныя работы
**elewator** *м.* элеватар
**elf** *м. міф.* эльф; **leśne ~y** лясныя эльфы
**eliksir, ~u** *м.* эліксір
**eliminacja** *ж.* **1.** элімінацыя, выдаленне, ліквідацыя; **2.** адборачныя (кваліфікацыйныя) спаборніцтвы; агляд; **~ zespołów artystycznych** агляд мастацкай самадзейнасці
**eliminacyjny** адборачны; кваліфікацыйны
**eliminator** *м.* элімінатар
**eliminować** *незак.* **1.** выдаляць; выключаць; ліквідаваць; **2.** адбіраць; выбіраць
**eliminowanie** *н.* элімінаванне, выдаленне, ліквідацыя
**elipsa** *ж.* **1.** *геам.* эліпс; **2.** *лінгв.* эліпсіс
**elipsoida** *ж. геам.* эліпсоід
**elipsoidalny** *геам.* эліпсаідальны
**elipsowaty** *геам.* эліпсоідны, эліпсападобны; **~ kształt** эліпсоідная форма
**eliptyczn|y** *геам., літ.* эліптычны; ◊ **zdanie ~e** *літ.* эліптычны сказ; **~a orbita** *геам.* эліптычная арбіта
**elita** *ж.* эліта; **~ naukowa** навуковая эліта
**elitarn|y** прывілеяваны; элітарны; які мае адносіны да эліты; элітны; **~a literatura** элітарная літаратура; літаратура не для ўсіх; **~a dzielnica** элітны раён
**elitaryzm, ~u** *м.* прывілея выбраных; абранасць
**elki** *мн.* **1.** футра тхара; **2.** футра са скурак тхара; **ubrać się w ~** апрануцца (убрацца) у тхарынае футра
**elokwencja** *ж.* **1.** красамоўства; **2.** *жарт.* балбатлівасць
**elokwentny 1.** красамоўны; **2.** *жарт.* гаваркі; балбатлівы
**elukubracja** *ж.* пісаніна
**emablować** *незак. kogo* заляцацца *да каго*
**emalia** *ж.* эмаль; паліва; ◊ **~ zębowa** *анат.* зубная эмаль
**emaliować** *незак.* эмаліраваць; паліваць (*пакрываць палівай*)
**emaliowan|y 1.** эмаліраваны; **naczynia ~e** эмаліраваны посуд; **2.** паліваны
**emanacja** *ж.* эманацыя; выпраменьванне
**emancypacja** *ж.* эмансіпацыя
**emancypantka** *ж.* эмансіпантка
**emancypować** *незак.* эмансіпіраваць
**embargo** *н. эк.* эмбарга; **nakładać (nałożyć) ~** накладаць (накласці) эмбарга; **znosić (znieść) ~** адмяняць (адмяніць) эмбарга
**emblemat, ~u** *м.* эмблема
**embriologia** *ж.* эмбрыялогія
**embrion, ~u** *м.* эмбрыён; зародак
**emeryt** *м.* пенсіянер
**emerytaln|y** пенсійны; **fundusz ~y** пенсійны фонд; **skrócony wiek ~y** скарочаны пенсійны ўзрост; **zaopatrzenie ~e** пенсійнае забеспячэнне
**emerytka** *ж.* пенсіянерка
**emerytowany** пераведзены (адпраўлены) на пенсію; адстаўны; **~y nauczyciel** настаўнік на пенсіі; настаўнік-пенсіянер
**emerytur|a** *ж.* пенсія; **podwyżka ~y** павелічэнне пенсіі; **prawo do ~y** права на пенсію; **wcześniejsza ~a** датэрміновая пенсія; **przejść na ~ę** выйсці на пенсію; **utrzymywać się (żyć) z ~y** жыць на пенсію; **wysłać na ~ę** адправіць на пенсію
**emfatyczny 1.** напышлівы; **2.** *лінгв.* эмфатычны
**emfaza** *ж.* **1.** напышлівасць; **2.** *лінгв.* эмфаза
**emigracj|a** *ж.* **1.** эміграцыя; **przebywają na ~i** [яны] знаходзяцца ў эміграцыі; **~a wewnętrzna** унутраная эміграцыя; **2.** *зборн.* эміграцыя (*эмігранцкая супольнасць за мяжой*); **więź ~i z krajem** сувязь эміграцыі з радзімай; ◊ **~a sezonowa** часовы выезд на заробкі
**emigracyjny** эміграцыйны; **rząd ~** эміграцыйны ўрад; урад у выгнанні; **urząd ~** эміграцыйны аддзел (эміграцыйная служба, установа)
**emigrant** *м.* эмігрант; **~ polityczny** палітычны эмігрант

**emigrantka** *ж.* эмігрантка
**emigrować** *незак.* эмігрыраваць; ~ **do Kanady** эмігрыраваць у Канаду
**eminencja** *ж.* праасвяшчэнства, правялебнасць; **Jego Eminencja** Яго праасвяшчэнства (правялебнасць); ◊ **szara** ~ шэры кардынал
**emir** *м.* эмір
**emisariusz** *м.* эмісар
**emisja** *ж.* **1.** выпраменьванне; эмісія; **2.** эмісія; выпуск; ~ **akcji** эмісія акцый; ~ **obligacji** эмісія аблігацый; ~ **papierów wartościowych** эмісія (выпуск) каштоўных папер; ~ **pieniądza** эмісія (выпуск) грошай; **3.** трансляцыя, перадача, паказ; **rozpoczyna się ~ serialu** пачынаецца паказ серыяла
**emisyjny** эмісійны; **bank (kurs)** ~ эмісійны банк (курс)
**emitować** *незак.* **1.** пускаць (выпускаць) у абарот (*грошы, каштоўныя паперы*); **2.** выпраменьваць, вылучаць; **3.** транслябваць, перадаваць, паказваць
**emocj|a** *ж.* эмоцыя; хваляванне; перажыванне; **zaniemówić z ~i** анямець (страціць мову) ад хвалявання
**emocjonaln|y** эмацыянальны; **przeżycia ~e** эмацыянальныя перажыванні
**emocjonować** *незак.* хваляваць, узрушаць, выклікаць эмоцыі
**empir|e** *нескл. або* **~u** *м.* [ampir] **1.** ампір; **2.** **~y** *мн.* мэбля ў стылі ампір
**empiria** *ж. філ.* эмпірыя; досвед
**empiriokrytycyzm, ~u** *м.* эмпірыякрытыцызм
**empirowy** [ampirowy] у стылі ампір; ампірны
**empirycznie** *філ.* эмпірычна
**empiryczny** *філ.* эмпірычны
**empiryzm, ~u** *м.* эмпірызм
**emploi** *нескл. н. тэатр.* [amplua] амплуа; ~ **sceniczne** сцэнічнае амплуа
**emulsja** *ж.* эмульсія; ~ **do opalania** эмульсія для загару; ~ **fotograficzna** фотаэмульсія
**encyklika** *ж.* була, папскае пасланне (пісьмо)
**encyklopedi|a** *ж.* энцыклапедыя; ◊ **chodzącą ~ą** чалавек-энцыклапедыя
**encyklopedyczny** энцыклапедычны
**endecja** *ж. разм.* эндэцыя, нацыянал-дэмакратыя
**endek** *м. разм.* эндэк, нацыянал-дэмакрат
**endokrynolog** *м.* эндакрынолаг
**energetyczny** энергетычны; **przemysł** ~ энергетычная прамысловасць; **surowiec** ~ энергетычная сыравіна; **kryzys** ~ энергетычны крызіс
**energetyka** *ж.* энергетыка
**energi|a** *ж.* энергія; **~a elektryczna** электраэнергія; **nośniki ~i** носьбіты энергіі; **~a atomowa (słoneczna)** атамная (сонечная) энергія; **~a życiowa** жыццёвая энергія
**energochłonny** энергаёмісты
**energooszczędny** энергазберагальны
**energicznie** энергічна
**energiczny** энергічны
**en face** [an fas] анфас; **zobaczył ją** ~ ён убачыў яе анфас
**engagement** *м.* [angażman] ангажэмент
**enklawa** *ж.* анклаў
**enigmatyczny** *кніжн.* загадкавы, таямнічы
**ensemble** *н.* [ansambl] ансамбль
**ententa** *ж. гіст.* [antanta] антанта
**enklityka** *ж.* энклітыка
**entomolog** *м.* энтамолаг
**entomologia** *ж.* энтамалогія
**entomologiczny** энтамалагічны
**entuzjast|a** *м.* энтузіяст; **być ~ą futbolu** быць аматарам футбола
**entuzjastycznie** з энтузіязмам, з запалам, з захапленнем
**entuzjastyczny** поўны энтузіязму (запалу)
**entuzjazm, ~u** *м.* энтузіязм; запал; **robić** *co* **bez ~u** рабіць *што* без энтузіязму (запалу, жадання); **wpadać w** ~ запаляцца; праяўляць энтузіязм
**entuzjazmować** *незак.* прыводзіць у захапленне
**entuzjazmować się** *незак.* захапляцца
**enty** энны (*пра колькасць*); **po raz** ~ у каторы раз



**enuncjacja** *ж.* афіцыйная заява; дэкларацыя
**epatować** *незак.* эпаціраваць; здзіўляць; уражваць; ~ **słuchaczy** эпаціраваць слухачоў
**epicentrum** *н.* эпіцэнтр
**epic|ki** эпічны; **~ki rozmach powieści** эпічны размах рамана; **bohaterowie ~cy** эпічныя героі
**epiczny**; *гл.* **epicki**
**epidemia** *ж.* эпідэмія; ~ **grypy** эпідэмія грыпу
**epidemiczn|y** эпідэмічны; **choroby ~e** эпідэмічныя хваробы
**epidemiologia** *ж.* эпідэміялогія
**epigon** *м.* эпігон, перайма́льнік, паслядоўнік; ~ **romantyzmu** эпігон (паслядоўнік) рамантызму
**epigraf, ~u** *м.* эпіграф
**epigram, ~u** *м.*; *гл.* **epigramat**
**epigramat, ~u** *м.* эпіграма
**epika** *ж.* [epika] эпіка
**epikureizm, ~u** *м.* эпікурэізм
**epikurejczyk** *м.* эпікурэец
**epilepsja** *ж.* эпілепсія
**epileptyczny** эпілептычны
**epilog, ~u** *м.* **1.** эпілог; **2.** *перан.* завяршэнне; канец; ~ **sprawy** канец справы
**episkopat, ~u** *м.* епіскапства; епіскапат
**epistoła** *ж.* **1.** пасланне, пісьмо; эпістала; **2.** чытанне апостальскіх пасланняў (*частка набажэнства*)
**epitafium** *н.* эпітафія
**epitet, ~u** *м.* **1.** эпітэт; ~ **stały (zdobniczy)** пастаянны (метафарычны) эпітэт; **2.** *звычайна мн.* **~y** лаянка; непрыстойныя (лаянкавыя) словы; **soczyste (niewybredne) ~y** сакавітая (брудная) лаянка; **obrzucić** *kogo* **~ami** аблаяць *каго*; асыпаць лаянкай *каго*
**epizod, ~u** *м.* эпізод
**epizodyczny** эпізадычны
**epoka** *ж.* эпоха; ~ **brązu (żelaza)** бронзавы (жалезны) век; ~ **lodowcowa (lodowa)** ледавіковы перыяд
**epokow|y** эпахальны; **~e wydarzenie** эпахальнае здарэнне
**epolet, ~u** *м.* эпалет
**epopeja** *ж.* эпапея
**epos, ~u** *м.* эпас; ~ **narodowy** нацыянальны эпас
**epuzer** *м.* кавалер, залётнік
**er|a** *ж.* эра; **naszej ~y** нашай эры; **przed naszą ~ą** да нашай эры
**erekcja** *ж.* эрэкцыя
**erotoman** *м.* эратаман
**erotomania** *ж.* эратаманія
**erotyczny** эратычны
**erotyzm, ~u** *м.* эратызм
**erozja** *ж.* эрозія; ◊ ~ **gleby** эрозія глебы
**errat|a** *ж.* **1.** спіс заўважаных памылак друку; **2.** **~y** *мн.* друкарскія памылкі
**erudycja** *ж.* эрудыцыя
**erudyta** *м.* эрудыт
**erupcja** *ж. геал.* вывяржэнне; выбух
**eseista** *м.* нарысіст; эсэіст
**esej, ~u** *м.* нарыс; эсэ
**esencja** *ж.* **1.** эсенцыя; ~ **pomarańczowa** апельсінавая эсэнцыя; **2.** заварка; **mocna** ~ моцная заварка
**esencjonalny** **1.** моцны; **2.** змястоўны
**eskadra** *ж.* **1.** эскадра; **2.** эскадрылля
**eskadrowy** эскадраны
**eskalacja** *ж.* эскалацыя; ~ **napięcia** эскалацыя напружання
**eskalować** *незак.* нагнятаць, узмацняць
**eskalator** *м.* эскалатар
**eskapada** *ж.* вандроўка (*небяспечная, поўная прыгод*); эскапада
**eskort|a** *ж.* эскорт; ахова; канвой; суправаджэнне; **pod ~ą** пад канвоем
**eskortować** *незак.* эскартаваць; канваіраваць; суправаджаць
**eskulap** *м. жарт.* эскулап; лекар
**esperancki** эсперанцкі; **ruch** ~ эсперанцкі рух
**esperanto** *н.* эсперанта
**esperantysta** *м.* эсперантыст
**esplanada** *ж.* эспланада
**estakada** *ж.* эстакада, памост
**esteta** *м.* эстэт
**estetyczny** эстэтычны
**estetyk** *м.* эстэтык
**estetyka** *ж.* эстэтыка; ~ **wnętrz** эстэтыка інтэр'ера

інтарэсы; карысць; выгада; **bronić swoich ~ów** бараніць свае ўласныя інтарэсы; **w** *czyim* **(swoim) ~ie** у *чыіх* (сваіх) інтарэсах; **3.** выгадная справа; здзелка; угода; **dobić ~u (ubić ~)** здзейсніць здзелку; абцяпаць справу; **robić ~y** *na kim/czym* зарабляць *на кім/чым*; **4.** *разм.* бізнес, прадпрыемства; **rodzinny ~** сямейны бізнес; **otworzyć ~** пачаць справу (бізнес); ◊ **on ma w tym swój ~** ён у гэтым зацікаўлены; **człowiek ~u** чалавек справы; бізнесмэн; **nie ma karesu bez ~u** *прык.* і каза воўку дарма не скача

**interesant** *м.* наведвальнік; наведнік; кліент

**interes|ować** *незак.* цікавіць; **to go ~uje** гэта яго цікавіць

**interesować się** *незак.* цікавіцца

**interesowność** *ж.* карыслівасць, карысталюбства

**interesown|y** карыслівы; **~i koledzy** карыслівыя калегі

**interesująco** цікава

**interesujący** цікавы; займальны; захапляльны

**interferencja** *ж. фіз.* інтэрферэнцыя

**interiekcja** *ж. лінгв.* выклічнік

**interlinia** *ж. друк.* **1.** шпона; **2.** адлегласць паміж радкоў; інтэрліньяж

**interlokutor** *м. кніжн.* суразмоўца

**interludium** *н.* інтэрлюдыя

**intermezzo** *н.* [intermecco] *муз.* інтэрмецца

**interna** *ж. мед.* тэрапія

**internacjonalista** *м.* інтэрнацыяналіст

**internacjonalizm, ~u** *м.* інтэрнацыяналізм

**internacjonalny** інтэрнацыянальны

**internat, ~u** *м.* інтэрнат; **szkoła z ~em** школа з інтэрнатам; школа-інтэрнат; *гл.* **bursa**

**Internet, ~u** *м.* інтэрнэт; **mieć dostęp do ~u** мець доступ да інтэрнэту

**internista** *м.* тэрапеўт; інтэрніст

**internować** *незак.* інтэрніраваць

**interpelacj|a** *ж.* інтэрпеляцыя; запыт; **~e poselskie** дэпутацкія запыты

**interpretacja** *ж.* інтэрпрэтацыя

**interpretować** *незак.* інтэрпрэтаваць

**interpunkcj|a** *ж.* пунктуацыя; знакі прыпынку

**interpunkcyjny** пунктуацыйны; **błąd ~** памылка пунктуацыі

**interwencja** *ж.* інтэрвенцыя, увварванне; умяшанне; **~ zbrojna** узброеная інтэрвенцыя

**interweniować** *незак.* умешвацца

**interwent** *м.* інтэрвент

**interwiew** *н.* [interwju] інтэрв'ю

**intonacja** *ж.* інтанацыя

**intonować** *незак.* падаваць тон; спяваць; пачынаць спяваць

**intratn|y** прыбытковы, даходны; **~e stanowiska** прыбытковыя пасады

**introligator** *м.* пераплётчык

**introligatornia** *ж.* пераплётная майстэрня

**introligatorski** пераплётны

**introligatorstwo** *н.* пераплётная вытворчасць; пераплётная справа

**intronizacja** *ж.* цырыманіял узвядзення на трон; інтранізацыя

**intruz** *м.* няпрошаны госць; чужак, чужынец, чужаніца

**intryg|a** *ж.* інтрыга; **knuć ~i** плесці інтрыгі; **robić ~i** інтрыгаваць; займацца інтрыгамі

**intrygancki** інтрыганскі

**intrygant** *м.* інтрыган

**intrygować** *незак.* **1.** інтрыгаваць; **~ przeciw** *komu* плесці інтрыгі супраць *каго*; **2.** *kogo* інтрыгаваць; зацікаўліваць *каго*

**intuicja** *ж.* інтуіцыя

**intuicyjny** інтуітыўны

**intymn|y** інтымны; прыватны; асабісты; **rozmowy ~e** інтымныя (прыватныя) размовы

**intymnoś|ć** *ж.* інтымнасць; блізкасць; задушэўнасць; **nastrój ~ci** настрой (атмасфера) блізкасці (задушэўнасці)

**inwalida** *м.* інвалід; **~ wojenny** інвалід вайны

**inwalidzk|i** інвалідны; **renta ~a** пенсія па інваліднасці; **wózek ~i** інвалідная каляска

**inwalidztwo** *н.* інваліднасць

**inwazja** *ж. кніжн.* нашэсце, увварванне, напад



**inwencja** *ж.* **1.** вынаходлівасць; знаходлівасць; **~ twórcza** творчая (стваральная) сіла; **2.** *муз.* інвенцыя

**inwentaryzacj|a** *ж.* інвентарызацыя; **sporządzić ~ę** зрабіць інвентарызацыю

**inwentaryzować** *незак.* інвентарызаваць

**inwentarz** *м.* **1.** інвентар; **~ żywy** жывы інвентар; скаціна; быдла; **~ martwy** мёртвы інвентар; інструменты, прылады; **2.** спіс інвентару; **spis ~a** інвентарны спіс; **sporządzić ~** зрабіць інвентарызацыю; скласці інвентарны спіс

**inwentarzowy** інвентарны

**inwestor** *м.* інвестар; **duży ~** буйны інвестар; **~ zagraniczny** замежны інвестар

**inwestować** *незак.* інвеставаць

**inwestycj|a** *ж.* капіталаўкладанне; інвестыцыя; **~e państwowe** дзяржаўныя капіталаўкладанні; **~e publiczne** грамадскія інвестыцыі; **~e zagraniczne** замежныя інвестыцыі

**inwestycyjn|y** капітальны; інвестыцыйны; **budownictwo ~e** капітальнае будаўніцтва; **ulgi ~e** інвестыцыйныя льготы; **spółka ~a** інвестыцыйная кампанія

**inwestytura** *ж. гіст.* інвестытура

**inwigilacja** *ж.* высочванне; сачэнне; нагляд

**inwigilować** *незак.* *kogo/co* сачыць *за кім/чым*

**inwokacja** *ж.* **1.** заклік; зварот; **2.** *літ.* апастрофа

**inżynier** *м.* інжынер; **~ rolnik** аграном; **~ górniczy** горны інжынер; **~ dróg i mostów** інжынер дарожнага будаўніцтва

**inżynieria** *ж.* інжынерная справа

**inżynierski** інжынерскі

**inżynieryjny** інжынерны

**iperyt, ~u** *м. хім.* іпрыт

**Iranka** *ж.* іранка

**Irańczyk** *м.* іранец

**irański** іранскі

**ircha** *ж.* замша, замш

**Irlandczyk** *м.* ірландзец

**Irlandka** *ж.* ірландка

**irlandzki** ірландскі

**ironi|a** *ж.* іронія; **mówić z ~ą** казаць з іроніяй; ◊ **jak na ~ę** як па іроніі; як на злосць; **~a losu** іронія лёсу

**ironiczny** іранічны

**ironizować** *незак.* іранізаваць

**irracjonalizm, ~u** *м.* ірацыяналізм

**irracjonalny** ірацыянальны

**irygacja** *ж.* **1.** арашэнне, ірыгацыя; **2.** *мед.* ірыгацыя, прамыванне

**irygacyjny** арашальны, ірыгацыйны

**irygator** *м.* ірыгатар

**irys** *м.* **1.** *бат.* касач, ірыс (*Iris L.*); **2.** (*цукеркі*) ірыс

**irytacja** *ж.* раздражненне; злосць

**irytować** *незак.* раздражняць; злаваць

**irytować się** *незак.* раздражняцца; злавацца

**ischias, ~u** *м. мед.* ішыяс

**iskra** *ж.* **1.** іскра; **2.** іскра, праблiск; **~ nadziei** іскра (праблiск) надзеі; ◊ **~ boża** божая іскра

**iskrzasty** іскрысты

**iskrzący się** іскрысты; бліскучы

**iskrzyć się** *незак.* **1.** сыпаць іскрамі; **2.** іскрыцца, бліпчаць, зіхацець

**islam, ~u** *м.* іслам

**islamski** ісламскі

**Islandczyk** *м.* ісландзец

**Islandka** *ж.* ісландка

**islandzki** ісландскі

**istnieć** *незак.* існаваць; **przestać ~** перастаць існаваць

**istnienie** *н.* **1.** існаванне; **2.** істота

**istn|y** сапраўдны, рэчаісны; існы; **~a męka** сапраўдная пакута; **~e szaleństwo** сапраўднае вар'яцтва; **~a prawda** шчырая праўда; **~y ojciec** выкапаны бацька; рыхтык бацька

**isto|ta** *ж.* **1.** істота, стварэнне; **~ta ludzka** чалавечая істота; чалавек; **~ta żyjąca** жывая істота; **2.** сутнасць; існасць; **zbadać ~tę rzeczy** даследаваць сутнасць справы; **w ~cie** па сутнасці

**istotnie 1.** сапраўды; насамрэч; **jestem ~ bardzo zmęczony** я сапраўды вельмі стомлены; **2.** істотна; значна

**istotn|y 1.** істотны; грунтоўны; важкі; **~e potrzeby szkolnictwa** найважнейшыя патрэбы навучальных устаноў; **~ różnica** істотная (значная) розніца; **2.** сапраўдны

**iść** *незак.* **1.** ісці; крочыць; ступаць; рухацца; **~ do domu** ісці дамоў (дахаты); **~ za** *kim* ісці за *кім*; **~ z wizytą** зрабіць візіт; **~ ulicą** ісці па вуліцы; **~ na grzyby** ісці ў грыбы; **~ spać (do łóżka)** ісці спаць; класціся спаць; **~ po** *co* ісці па *што*; **~ na spacer** ісці гуляць (на прагулку, на шпацыр); **2.** ісці; паступаць; **~ na prawo** *разм.* пайсці вучыцца на юрыдычны факультэт; **3.** *o kogo/co* датычыць *каго/ чаго*; **o co idzie?** у чым справа?; ◊ **~ do sądu** звяртацца ў суд; **~ na pasku** ісці на павадку; слухацца; **~ o zakład** ісці ў заклад; **~ w niepamięć** забывацца; **~ w odwłokę** адкладвацца; **~ w zawody** спаборнічаць; **~ do góry** ісці ўгору; расці (*пра кошты*); **~ na dół** ісці ўніз; падаць; **~ za** *czyją* **radą** прытрымлівацца *чыёй* парады; **wszystko idzie jak z płatka** усё ідзе як па масле; **idzie ku zimie** набліжаецца зіма; **idzie burza** набліжаецца бура; **lata idą** мінаюць гады; **idę!** іду!; **jak ci idzie?** *разм.* як маешся?; як справы?; **jakoś idzie** неяк ідзе; памалу

**italika** *ж. друк.* курсіў

**iteratywny** *лінгв.* ітэратыўны

**iwa** *ж. бат.* вярба (*Salix caprea L.*)

**izba** *ж.* **1.** пакой; памяшканне; **~ przyjęć** прыёмны пакой; **~ wytrzeźwień** выцвярэзнік; **~ zatrzymań** камера папярэдняга зняволення; **2.** палата; **Izba Reprezentantów** Палата прадстаўнікоў; **Izba Gmin** палата абшчын; **~ handlowa** гандлёвая палата; **~ clearingowa** клірынгавая палата; **~ handlowo-przemysłowa** гандлёва-прамысловая палата; **~ skarbowa** казначэйства; **Najwyższa Izba Kontroli** (NIK) Вышэйшая кантрольная палата; **Białoruska Izba Kontroli** Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь

**izbica** *ж.* ледарэз

**izdebka** *ж.* пакойчык

**izolacja** *ж.* **1.** ізаляцыя; адасабленне; **~ kulturowa** культурная ізаляцыя; **2.** *тэх.* ізаляцыя; **~ gumowa** гумовая ізаляцыя; **~ akustyczna** гукаізаляцыя

**izolacyjn|y** ізаляцыйны; **taśma ~a** ізаляцыйная стужка

**izolatka** *ж.* **1.** *мед.* ізалятар; **2.** адзіночная камера; адзіночка

**izolator** *м.* ізалятар; ізаляцыйны матэрыял

**izolować** *незак.* ізаляваць

**izolowany** ізаляваны

**izoterma** *ж. фіз.* ізатэрма

**izotermiczny** ізатэрмічны

**izotop, ~u** *м. хім.* ізатоп

**Izraelczyk** *м.* ізраільцянін

**Izraelka** *ж.* ізраільцянка

**izraelski** ізраільскі

**iż** *кніжн.* што; **przyrzekł, ~ mi pomoże** [ён] паабяцаў, што дапаможа мне

**iżby** *уст.* каб

# J

**ja** *я*; **to tylko ~** гэта толькі я; **moje drugie ~** маё другое я; **mnie tam nie było** мяне там не было; **dąj to mnie** дай гэта мне; **co do mnie** што да мяне; што датычыць мяне

**jabcok, ~u** *м. разм.* віно з яблыкаў; яблычнае віно

**jabłecznik** *м.* **1.** сідр; **2.** яблычны пірог

**jabłeczny 1.** яблычны; **sok ~** яблычны сок; **2.** яблыневы; **sad ~** яблыневы сад

**jabłko** *н.* яблык; ◊ **~ adamowe** *анат.* адамаў яблык, кадык; **~ niezgody** яблык разладу; **zbić na kwaśne ~** *разм.* збіць да паўсмерці; збіць на горкі яблык; **nedaleko pada ~ od jabłoni** яблык ад яблыні недалёка падае

**jabłkowity** у яблыкі

**jabłkowy** яблычны

**jabłkówka** *ж. разм.* яблычны пірог; шарлотка

**jabłoń** *ж.* яблыня

**jacht, ~u** *м.* яхта; **~ jednokadłubowy** аднакорпусная яхта; **~ regatowy** гоначная яхта



**jachting, ~u** *м.* парусны спорт

**jachtklub, ~u** *м.* яхтклуб

**jad, ~u** *м.* атрута; яд

**jadacz** *м. жарт.* ядак, ядок

**jadaczk|a** *ж.* **1.** *разм.* зяпа, пашча; **zamknij ~ę** змоўкні!; сціхні!; **2.** *жарт.* ядачка, ядок (*жанчына*)

**jada|ć** *незак.* есці; **gdzie ~sz obiady?** дзе ты звычайна абедаеш (палуднуеш)?; **nie ~m zbyt wiele** я не ем занадта многа

**jadalnia** *ж.* сталоўка

**jadaln|y** ядомы; прыдатны ў ежу; **grzyby ~e** ядомыя грыбы; **pokój ~y** сталовы пакой

**jadło** *н.* ежа; корм

**jadłodajnia** *ж.* сталовая, сталоўка

**jadłospis, ~u** *м.* меню

**jadłowstręt, ~u** *м. мед.* агіда да яды

**jadowitość** *ж.* ядавітасць; атрутнасць

**jadowity 1.** ядавіты; атрутны; **2.** *перан.* з'едлівы

**jaglany** прасяны

**jaglica** *ж. мед.* трахома

**jagła** *ж.* проса

**jagniątko** *н.* ягнятка

**jagnię** *н.* ягня

**jagnięcy** ягнячы

**jagod|a** *ж.* **1.** ягада; **czarne ~y** чарніцы; **2.** *мн.* **~y** *разм.* чарніцы; **3.** *мн.* **~y** *перан. уст.* шчокі

**jagodnik** *м.* ягаднік

**jagodowy** ягадны

**jaguar** *м. заал.* ягуар (*Felis onca*)

**jajczarnia** *ж.* пункт (магазін) па нарыхтоўцы ці продажы яек

**jaje** *н.* яйцо, яйка; ◊ **mądrzejsze ~ od kury** яйкі курыцу вучаць

**jajeczkowanie** *н. біял.* авуляцыя

**jajecznic|a** *ж.* яечня; **usmażyć ~ę** падсмажыць яечню

**jajk|o** *н.* **1.** яйцо, яйка; **~o na miękko** яйка ўсмятку; **~o na twardo** яйка ўкрутую; **~o sadzone** яечня (*з цэлым жаўтком*); цалкавуха, цалкі; **~o święcone** велікоднае яйка; **2.** *біял.* яйцаклетка; ◊ **obchodzić się z** *kim/czym* **jak z ~iem** абыходзіцца з *кім/чым* як са шкляным (вельмі беражліва)

**jajkowaty** яйкападобны

**jajnik** *м. анат.* яечнік; **zapalenie ~ów** запаленне яечніка

**jajnikowy** яечны

**jajo** *н.* **1.** *біял.* яйцаклетка; **2.** яйка, яйцо

**jajorodny** яйкародны

**jajowaty** яйкападобны

**jajow|ód, ~odu** *м. анат.* яйкавод

**jajow|y** яйкавы; **komórka ~a** яйцаклетка

**jak**[1] **1.** як; **~ się miewasz?** як жывеш?; **~ długo?** як доўга?; колькі часу?; колькі?; **~ to?!** як?!; **~ żyję, nie podobnego nie widziałem** колькі жыву, а такога не бачыў; **~ cicho wokoło!** якая цішыня!, як ціха навокал!; **2.** а) як; **biały ~ śnieg** белы як снег; **walczył ~ lew** ён змагаўся як леў; б) калі; як; **~ nie chcesz jechać, możesz zostać z nami** калі не хочаш ехаць, можаш застацца з намі; **~ skończysz, zajdź do mnie** як (калі) закончыш, зайдзі да мяне; в) як, калі; **~ tylko będę mógł, przyjdę** як толькі змагу, прыйду; **kto ~ nie on?** хто, калі не ён? хто, апрача яго?; **3.** як; **~ najprędzej** як найхутчэй; як мага хутчэй; **za wysoki ~ na dżokeja** занадта высокі, каб быць жакеем; ◊ **~ gdyby** як быццам; нібыта

**jak**[2] *м. заал.* як (*Bos grunniens*)

**jakby 1.** як быццам; нібыта; нібы; як; **krzyczy, ~ sam tylko był w pokoju** крычыць, як (як быццам) толькі ён адзін у пакоі; **zachowywał się, ~ nic się nie stało** ён трымаўся так, нібыта нічога не адбылося; **2.** калі; калі б; як бы; **~ś jej nie zastał, zaraz daj znać** калі не заспееш яе, паведамі адразу; **~ś miała czas** калі ў цябе будзе час

**jak|i** які, каторы; **~i lubisz kolor?** які колер табе падабаецца?; **~a dzisiaj jest pogoda?** якое сёння надвор'е?; **~i wybierasz: biały czy czarny?** які выбіраеш: белы ці чорны?; **~a ona jest dobra!** якая яна добрая!; ◊ **~i pan, taki kram** *прым.* якія самі, такія і сані; **jaki bądź** які-небудзь; абы-які

**jakikolwiek** які-небудзь

**jaw: wyjść na ~** выявіцца; стаць яўным; **wydobyć na ~** выявіць; зрабіць яўным

**jaw|a** *ж.* ява; рэчаіснасць; **na ~ie** наяве; **sen to czy ~a?** ці гэта мне сніцца, ці сапраўды так?; ці гэта сон, ці ява?; **śnić na ~ie** бачыць сны наяве; сніць наяве

**jawi|ć się** *незак. кніжн.* **1.** з'яўляцца; **2.** з'яўляцца, паўставаць; **~ się pytanie** паўстае пытанне

**jawnie** яўна, адкрыта; публічна

**jawność** *ж.* яўнасць, публічнасць; **~ obrad** вольны доступ на пасяджэнні

**jawn|y** яўны; **~e obrady** адкрытыя пасяджэнні

**jawor, ~u** *м. бат.* явар (*Acer Pseudoplatanus L.*)

**jaworowy** яваравы

**jaz, ~u** *м.* плаціна, запруда

**jazd|a** *ж.* **1.** язда; **~a na łyżwach** катанне (коўзанне) на каньках; **~a na nartach** катанне на лыжах; **~a konna** конная язда, верхавая язда; **rozkład ~y** расклад руху цягнікоў; **nauka ~y** навучанне кіраванню аўтамабілем; **2.** конніца; ◊ **jazda!** руш!; марш!; **~a stąd!** прэч адсюль!; валі!

**jazgarz** *м. заал.* джгір, ёрш (*Acerina cernua L.*)

**jazgot, ~u** *м.* **1.** ляск; **2.** шум; **3.** віск

**jazgotać** *незак.* **1.** ляскаць; **2.** шумець; **3.** вішчаць

**jazz, ~u** *м.* [dżez] джаз

**jazzman** *м.* [dżezmen] джазмэн

**jazzow|y** [dżezowy] джазавы; **muzycy ~i** джазавыя музыканты

**jaź** *м. заал.* язь (*Leuciscus idus L.*)

**jaź|ń** *ж. кніжн.* асоба; індывідуальнасць; ◊ **w głębi ~ni** у глыбіні душы; **rozdwojenie ~ni** раздваенне асобы

**jaźwiec** *м. заал.* барсук (*Meles meles L.*)

**jąć** *зак. уст.* пачаць

**ją|ć się** *зак. уст.* **czego** узяцца *за што*, пачаць, распачаць; **~ się pracy** узяцца за працу; **~ł się handlu** узяўся за гандаль; пачаў гандляваць; **~ł się dziennikarstwa** узяўся за журналістыку

**jądro** *н.* **1.** ядро; **~o sprawy** сутнасць справы; **2.** *анат.* яйцо

**jądrowiec** *м. разм.* ядзернік

**jądrow|y** ядзерны; ядравы; **fizyka ~a** ядзерная фізіка; **energia ~a** ядзерная энергія

**jąkać** *незак.* мармытаць

**jąka|ć się** *незак.* заікацца; **on się lekko ~** ён трохі (злёгку) заікаецца

**jąkała** *м.* заіка

**jąkanie** *н.* заіканне

**jątrzyć** *незак.* **1.** вярэдзіць, развярэджваць, раздражняць (*рану*); **2.** раз'ятрываць; дражніць (*жывую істоту*); **3.** падбухторваць

**jecha|ć** *незак.* ехаць; **~ć koleją** ехаць цягніком; **~ć samochodem** ехаць на машыне; **~ć na złamanie karku** *перан.* імчацца на злом галавы; ◊ **jedzie** *co od kogo разм. ад каго* смярдзіць (патыхае, нясе) *чым*; **~ło od niego piwskiem** ад яго несла півам

**jed|en** **1.** адзін; **~na druga** адна другая; **~en za drugim** адзін за другім; **co do ~nego** усе да аднаго; **ani ~en** ніводзін; ніхто; **~no z dwojga** адно з двух; **jak ~en mąż** усе да аднаго; усе, як адзін; **wszystko ~no** усё роўна, усё адно; **z ~nej strony ... z drugiej strony ...** з аднаго боку... з іншага боку; **2.** нейкі, якісь, якісьці; **co to za ~en?** што за ён?; хто такі? ...; ◊ **na ~nej nodze** на адной назе; мігам; **~en do sasa, drugi do lasa** хто ў лес, а хто па дровы

**jedenastka** *ж.* **1.** адзінаццаць; **2.** адзінаццаты нумар; адзінаццатка; **3.** *спарт.* а) футбольная каманда; б) пенальці

**jedenastu** *а.-м.* адзінаццаць; **~ chłopców** адзінаццаць хлопчыкаў

**jedenast|y** адзінаццаты; **godzina ~a** адзінаццаць гадзін

**jedenaście** адзінаццаць

**jedenaścioro** *зборн.* адзінаццаць, адзінаццацера

**jedlina** *ж.* **1.** піхта; **2.** піхтавы лес

**jednać** *незак.* **1.** прыцягваць на свой бок; выклікаць прыхільнасць; **~ sobie** *kogo* выклікаць у *каго* прыхільнасць да сябе; **2.** *уст.* мірыць



**jednak** аднак; **zwyciężył, ~ nie był zadowolony** ён перамог, аднак быў незадаволены

**jednaki** *уст. кніжн.* аднолькавы

**jednako** аднолькава

**jednakowy** аднолькавы; **w ~m stopniu** у аднолькавай ступені

**jednakże** аднак жа; **muszę ~ zaznaczyć** павінен, аднак, зазначыць

**jednoaktowy** аднаактовы

**jednoaktówka** *ж.* аднаактовая п'еса

**jednobarwny** аднаколерны; манахромны

**jednobrzmiący** **1.** тоесны, ідэнтычны; **2.** сугучны

**jednochodnik** *м.* інаходзец

**jednoczenie** *н.* аб'ядноўванне, яднанне

**jednoczesność** *ж.* адначасовасць

**jednoczesny** адначасовы, адначасны

**jednocześnie** адначасова, адначасна

**jednoczy|ć** *незак.* аб'ядноўваць, яднаць, злучаць; **zagrożenie ~ ludzi** пагроза аб'ядноўвае людзей

**jednoczyć się** *незак.* аб'ядноўвацца, яднацца, злучацца

**jednodniowy** аднадзённы

**jednofazowy** аднафазны

**jednogatunkowy** **1.** аднасортны; аднагатунковы; **2.** аднапародны

**jednogłośnie** аднагалосна

**jednogłośny** аднагалосны

**jednoimienny** аднайменны

**jednoizbow|y** **1.** аднапакаёвы; **mieszkanie ~e** аднапакаёвая кватэра; **2.** аднапалатны

**jednoizbówka** *ж.* аднапакаёвая кватэра; аднапакаёўка

**jednojajow|y** аднаяйкавы; **bliźnięta ~e** аднаяйкавыя блізняты

**jednokomórkow|y** аднаклетачны; **organizmy ~e** аднаклетачныя арганізмы

**jednokonka** *ж.* аднаконная брычка

**jednokonny** аднаконны

**jednokopytne** *мн. заал.* аднакапытныя

**jednokrotny** аднакратны; **czasownik ~** *грам.* аднакратны дзеяслоў

**jednokwiatowe** *мн. бат.* аднакветкавыя

**jednolampowy** адналямпавы

**jednolatek** *м.* аднагодак; равеснік

**jednolity** аднародны; суцэльны; адзіны

**jednomian, ~u** *м. мат.* адначлен

**jednomyślnie** аднадушна; аднагалосна

**jednomyślność** *ж.* аднадушнасць

**jednomyśln|y** аднадушны, аднагалосны; **~a zgoda** аднагалосная згода

**jednooki** аднавокі

**jednoosobow|y** **1.** аднаасабовы; **kierownictwo ~e** адзінаначалле; **2.** аднамесны

**jednopartyjny** аднапартыйны

**jednopiętrowy** двухпавярховы; *гл.* **dwupiętrowy**

**jednoplanowy** аднапланавы; аднабаковы

**jednopłatowiec** *м.* манаплан

**jednopłciowy** *біял.* аднаполы

**jednopokładowiec** *м.* аднапалубнае судна

**jednopokojow|y** аднапакаёвы; **mieszkanie ~e** аднапакаёвая кватэра

**jednoramienn|y** аднаплечы; **dźwignia ~a** аднаплечы рычаг

**jednorazow|y** аднаразовы; **~ego użytku** аднаразовы (*пра посуд, шпрыцы і г.д.*)

**jednoręki** аднарукі; ◊ **~ bandyta** аднарукі бандыт (*пра аўтамат для гульняў*)

**jednoroczn|y** аднагадовы; **~e dziecko** аднагадовае дзіця

**jednorodny** аднародны

**jednorodzinny** аднасямейны; разлічаны на адну сям'ю; **domek ~** дом на адну сям'ю

**jednorożec** *м.* **1.** *міф.* аднарог; **2.** *заал.* аднарог (*Monodon monoceros L.*)

**jednorzędow|y** **1.** аднарадны; **2.** аднабортны, аднабартовы; **marynarka ~a** аднабортны (аднабартовы) пінжак

**jednosilnikowy** аднаматорны

**jednostajnie** аднастайна

**jednostajność** *ж.* аднастайнасць

**jednostajny** аднастайны; **~ krajobraz** аднастайны краявід

**jednostka** *ж.* **1.** адзінка; **~ budżetowa** бюджэтная адзінка; **~ gospodarcza** гаспадарчая адзінка; **~ monetarna** манетная адзінка; **~ walutowa** валютная адзінка;

~ **miary** адзінка вымярэння; **2.** асоба; **wybitna** ~ выдатная асоба; **3.** *вайск.* падраздзяленне; ~ **wojskowa** вайсковая адзінка

**jednostkow|y** адзінкавы; індывідуальны; **cena ~a** адзінкавы кошт; кошт адзінкі; кошт штукі

**jednostronicowy** аднастаронкавы; які змяшчаецца на адной старонцы

**jednostronnie** аднабакова

**jednostronność** *ж.* **1.** аднабаковасць; **2.** аднастароннасць

**jednostronny 1.** аднабаковы; **2.** аднастаронні

**jednostrzałowy** адназарадны

**jednosylabowy**; *гл.* **jednozgłoskowy**

**jednoszynow|y** аднарэйкавы; **kolej ~a** манарэйкавая чыгунка (дарога)

**jednoś|ć** *ж.* **1.** адзінства; **w ~ci siła** *перан.* у адзінстве сіла; **~ć przeciwieństw** *філ.* адзінства процілегласцей; **2.** *мат.* адзінка; велічыня

**jednoślad, ~u** *м.* двухколавы транспарт (*матацыкл, веласіпед, мапед*)

**jednotliwy**; *гл.* **jednokrotny**

**jednotomowy** аднатомны

**jednotorowy** аднакалейны

**jednowarstwowy** аднаслойны

**jednowartościowy** аднавалентны

**jednowierca** *м.* аднаверац, адзінаверац

**jednowymiarowy** з адным вымярэннем

**jednozgłoskowy** аднаскладовы

**jednozgodnie** аднагалосна; згодна; дружна; аднадушна

**jednoznaczn|y** адназначны; **~a odpowiedź** адназначны адказ; **2.** эквівалентны; такі самы; **wyrazy ~e** абсалютныя сінонімы

**jednożeństwo** *н.* аднашлюбнасць

**jedwab, ~iu** *м.* шоўк, ядваб; ~ **sztuczny** штучны шоўк; ~ **surowy** шоўк-сырэц

**jedwabisty** шаўкавісты

**jedwabnictwo** *н.* шаўкаводства

**jedwabniczy: przemysł** ~ шоўкавая прамысловасць

**jedwabnik** *м. заал.* шаўкапрад; шаўкавічны чарвяк (*Bombyx mori L.*)

**jedwabny** шаўковы, ядвабны

**jedynaczka** *ж.* адзіная дачка; адзінака

**jedynak** *м.* адзіны сын; адзінак

**jedynie** *кніжн.* адзіна, выключна, толькі; ~ **możliwy sposób** адзіна магчымы спосаб; ~ **on może to zrobić** гэта можа зрабіць толькі ён

**jedynka** *ж.* **1.** (*лік*) адзін; адзінка; **2.** першы нумар (*трамвая, кватэры і г.д.*); **3.** *уст. школьн.* адзінка, кол

**jedynowładca** *м.* самаўладца, самадзержац

**jedynowładztwo** *н.* адзінаўладдзе, адзінаўладства

**jedyn|y 1.** адзіны; **~y w swoim rodzaju** адзіны ў сваім родзе; **~e, co mnie pociesza, to ...** адзінае, што мяне радуе (цешыць), гэта...; **2.** незаменны; неацэнны; лепшы

**jedzeni|e** *н.* **1.** (*дзейнасць*) яда; **2.** ежа; корм; **~e i picie** ежа і пітво; **coś do ~a** штонебудзь паесці; **nadający się do ~a** прыдатны для ежы; ядомы

**jedzeniow|y** харчовы; **zapasy ~e** харчовыя запасы

**jeep, ~u** *м.* [dżip] джып; козлік

**jegomość** *м.* **1.** нейкі чалавек; мужчына; **2.** *уст.* васпан, ягамосць; **3.** *уст. разм.* ксёндз

**jejmość** *ж.* **1.** нейкая жанчына; **2.** *уст.* васпані; гаспадыня

**jeleni** аленевы

**jelenina** *ж.* аленіна

**jeleń** *м.* **1.** *заал.* алень (*Cervus L.*); **2.** *разм., пагард.* дурань

**jelito** *н.* кішка; ~ **cienkie (grube)** тонкая (тоўстая) кішка

**jelonek** *м.* **1.** аленяня; **2.** *заал.* жук-алень (*Lucanus cervus*)

**jelczeć** *незак.* ялчаць

**jełop** *м. разм. пагард.* ёлуп, ёлупень, асталоп

**jemioła** *ж. бат.* амела (*Viscum L.*)

**jemiołucha** *ж. заал.* амялушка (*Bombycilla garrula L.*)

**jenerał** *м.*; *гл.* **generał**

**jeniec** *м.* палоннік, палонны; ~ **wojenny** ваеннапалонны

**jeniecki: obóz** ~ лагер для ваеннапалонных



**jeremiada** *ж.* **1.** *кніжн.* нараканне; скарга; **2.** ныццё

**jerzyk** *м. заал.* стрыж, серпік

**jesienny** асенні, восеньскі

**jesie|ń** *ж.* восень; **~nią (na ~ni** *разм.*) увосень, восенню; **~ń życia** *перан.* восень жыцця

**jesion, ~u** *м.* **1.** *бат.* ясень (*Fraxinus L.*); **2.** ясеневая драўніна; ясень; **meble z ~u** мэбля з ясеню

**jesionka** *ж.* асенняе паліто

**jesionowy** ясеневы

**jesiotr** *м. заал.* асетр, асяцёр (*Acipenser*)

**jest**; *гл.* **być**

**jestem**; *гл.* **być**

**jestestwo** *н. кніжн.* **1.** існасць; сутнасць; **2.** *уст.* істота

**jesteś**; *гл.* **być**

**jeszcze** яшчэ; ~ **przed wojną** яшчэ да вайны; **mamy ~ dwie godziny** у нас ёсць яшчэ дзве гадзіны; ~ **nie** яшчэ не; ~ **lepszy** яшчэ лепшы; **co ~?** што яшчэ?; **czy coś ~?** што-небудзь яшчэ?; ~ **raz** яшчэ раз; ~ **jak!** яшчэ як!

**jeść** *незак.* **1.** есці; **chce mi się** ~ мне хочацца есці; ~ **obiad** абедаць; ~ **kolację** вячэраць; ~ **śniadanie** снедаць; **nie ~ chleba darmo** не есці хлеба задарма; **2.** есці; кусаць; джаліць; **3.** раз'ядаць

**jeśli** калі; ~ **będziesz grzeczny, opowiem ci bajkę** калі будзеш паслухмяны, раскажу табе казку; ~ **dobrze pamiętam ...** калі я добра памятаю...; *гл.* **jeżeli**

**jeśliby** калі б

**jezdnia** *ж.* маставая, брук; праезная частка

**jezdny 1.** праезны; **2.** *м. уст.* коннік, вершнік

**jezioro** *н.* возера; **domek nad ~em** дамок над возерам (каля возера)

**jezuita** *м.* езуіт

**jezuityzm, ~u** *м.* езуіцтва

**jeździć** *незак.* ездзіць; ~ **samochodem** ездзіць на машыне; ~ **na łyżwach** коўзацца (катацца) на каньках; ~ **na nartach** хадзіць на лыжах; ~ **na rowerze** катацца на веласіпедзе; ~ **konno** ездзіць конна, ездзіць вярхом

**jeździec** *м.* коннік; яздок

**jeździectwo** *н.* конны спорт

**jeż** *м.* **1.** *заал.* вожык; **2.** вожык (*прычоска*); **uczesanie na ~a (fryzura na ~a)** прычоска пад вожык

**jeżasty** шчаціністы

**jeżdżenie** *н.* паездка

**jeżeli** калі; ~ **pan chce** калі вы хочаце

**jeżowiec** *м. заал.* марскі вожык (*Echinoidea*)

**jeżozwierz** *м. заал.* дзікабраз (*Hystrix hirsutirostris Brdt.*)

**jeży|ć** *незак.* тапырыць, натапырваць; **kot ~ł sierść** кот натапырваў поўсць

**jeży|ć się** *незак.* **1.** шчацініцца, тапырыцца; **włosy mi się ~ły** у мяне валасы дыбам падымаліся; **2.** уздымацца; тырчэць

**jeżyna** *ж. бат.* ажына (*Rubus fruticosus L.*)

**jęczeć** *незак.* **1.** енчыць; стагнаць; ~ **z bólu** енчыць ад болю; **2.** *разм.* наракаць, ныць, скуголіць, енчыць; ~ **na ciężką pracę** наракаць на цяжкую працу

**jęczmienny** ячны

**jęczmień** *м.* **1.** *бат.* ячмень (*Hordeum L.*); **2.** *мед.* ячмень

**jęczmyk** *м. мед.* ячмень

**jędrnieć** *незак.* наліваццa сокам; станавіцца пругкім (цвёрдым), ядранець

**jędrność** *ж.* **1.** пруткасць, пругкасць; цвёрдасць; **2.** *перан.* выразнасць; сакавітасць

**jędrny 1.** пруткі, пругкі; цвёрды, моцны, дужы, здаровы; **2.** *перан.* выразны; сціслы; сакавіты

**jędza** *ж.* ведзьма

**jęk, ~u** *м.* енк, стогн

**jękliwy** плаксівы

**jęknąć** *зак.* заенчыць, застагнаць; ~ **z wysiłku** застагнаць ад напружання

**jęzor** *м.* **1.** язык (*звера*); **2.** *пагард.* язык (*чалавека*); ◊ **latać z ~em** пляткарыць

**języcz|ek** *м.* язычок; ◊ **być ~kiem u wagi** *перан.* мець вырашальнае значэнне; адыгрываць вырашальную ролю

**język** *м.* **1.** язык; **2.** мова; ~ **ojczysty (obcy)** родная (замежная) мова; **znaleźć wspólny** ~ знайсці агульную мову; ~

**literacki** літаратурная мова; ~ **potoczny** гутарковая мова; ◊ **dostać się na ~i** трапіць на язык; **wziąć** *kogo* **na ~i** пляткарыць *аб кім*; разводзіць плёткі *пра каго*; ~ **go świerzbi** у яго свярбіць язык; **mieć** *co* **na końcu ~a** мець *што* на кончыку языка; **schwytać ~a** *уст. вайск.* дастаць языка; **ugryźć się w ~** прыкусіць (закусіць) язык; **z wywieszonym ~iem** высунуўшы (высалапіўшы) язык; **trzymać ~ za zębami** трымаць язык за зубамі; маўчаць
**językowy 1.** языковы; **2.** моўны
**językoznawca** *м.* мовазнавец; мовазнаўца
**językoznawczy** мовазнаўчы
**językoznawstwo** *н.* мовазнаўства
**jidysz, ~u** *м.* ідыш; **książka w ~u (w ~)** кніга на ідыш
**jod, ~u** *м. хім.* ёд
**jodła** *ж. бат.* піхта (*Abies Mill.*)
**jodłować** *незак.* спяваць (*з пералівамі, па-тырольску*)
**jodłowy** піхтавы
**jodoform, ~u** *м. хім., фарм.* ёдаформ
**jodowan|y** ёдаваны; **sól ~a** ёдаваная соль
**jodowy** ёдны
**jodyna** *ж. фарм.* настойка ёду; ёд
**jodynować** *незак.* мазаць ёдам
**jog** *м.* ёг
**jog|a** *ж.* ёга; **uprawiać ~ę** займацца ёгай
**jogging, ~u** *м.* [dżoging] *спарт.* бег трушком (*дзеля размінкі*); аздараўляльны бег
**jogurt, ~u** *м.* ягурт, ёгурт
**jolop** *м.*; *гл.* **jełop**
**jon, ~u** *м. фіз.* іон
**jonizacja** *ж. фіз.* іанізацыя
**joński** *архіт.* іанійскі
**jot|a** *ж. лінгв.* ёт; ◊ **co do ~y** да самых дробязей; **ani na ~ę** ні на ёту
**jowialność** *ж.* бесклапотнасць; жартаўлівасць; дабрадушнасць; весялосць
**jowialny** бесклапотны; жартаўлівы; дабрадушны; вясёлы
**joystick** *м. камп.* джойстык
**jubel** *м. разм.* вечарынка
**jubilat** *м.* юбіляр
**jubiler** *м.* ювелір
**jubilerski** ювелірны; **sklep ~** ювелірная крама; **wyroby ~e** ювелірныя вырабы
**jubileusz, ~u** *м.* юбілей; **obchodzić ~** святкаваць (адзначаць) юбілей
**jubileuszowy** юбілейны
**jucha** *ж.* юшка (*кроў жывёлы*)
**jucht, ~u** *м.* юхт
**juchtowy** юхтовы
**juczn|y** уючны; **zwierzę ~e** уючныя жывёлы
**juczyć** *незак.* уючыць
**judasz** *м.* **1.** юда, здраднік, прадажнік; **2.** акенца (*у турэмных дзвярах*)
**judaszowy** здрадніцкі, прадажніцкі
**judzenie** *н.* падбухторванне, пад'юджванне, нацкоўванне
**judzi|ć** *незак.* падбухторваць, пад'юджваць; **~ł całą grupę na wychowawczynię** ён падбухторваў усю групу супраць выхавацелькі
**juhas** *м.* югас (*пастух авечак у Татрах*)
**juki** *мн.* уюкі, цюкі
**junacki** маладзецкі, смелы, удалы, хвацкі
**junak** *м. кніжн.* маладзец, зух, хват
**junior** *м.* **1.** малодшы (*брат ці сын*); **2.** юніёр; член юнацкай каманды; **Mistrzostwa Juniorów w Piłce Nożnej** Чэмпіянат юніёраў па футболе
**junta** *ж.* [hunta] хунта; ~ **wojskowa** вайсковая хунта
**jupiter** *м.* юпітэр (*пражэктар*)
**jura** *ж. геал.* юрскі перыяд
**jurajski** *геал.* юрскі
**jurgielt, ~u** *м.* плата (*наёмным воінам*)
**jurny** юрлівы, распусны, жарсны; тэмпераментны, пажадлівы
**juror** *м.* член журы; суддзя
**jurować** *незак.* судзіць, ацэньваць
**jurta** *ж.* юрта
**jury** *нескл. н.* [żuri] журы; **międzynarodowe ~ festiwalu** міжнароднае журы фестывалю
**jurysdykcj|a** *ж. юр.* юрысдыкцыя; **podlegać** *czyjej* **~i** падпадаць пад *чыю* юрысдыкцыю
**jurysta** *м. юр.* юрыст



**juszka** *ж.* юшка, юха
**juta** *ж.* джут
**jutowy** джутавы
**jutro**[1] заўтра; **~o wieczorem** заўтра ўвечары; **nie dziś to ~** не сёння, дык заўтра
**jutr|o**[2] *н.* **1.** заўтра; заўтрашні дзень; **od ~a** ад заўтрашняга дня; з заўтрашняга дня; **do ~a!** да заўтра!; да заўтрага!; **2.** *перан.* будучыня; **życie bez ~a** жыццё без будучага (будучыні); **walczyć o lepsze ~o** змагацца за лепшае будучае
**jutrzejszy** заўтрашні
**jutrzenka** *ж.* золак; світанне
**jutrznia** *ж. царк.* ютрань
**już 1.** ужо; зараз; ~ **to widziałem** я ўжо гэта бачыў; ~ **miał zrezygnować** ён ужо збіраўся адмовіцца; ~ **była w domu** яна ўжо была дома; ~ **idę** ужо іду; зараз прыйду; **2.** то... то...; ~ **tu,** ~ **tam** то тут, то там; **3.** *уст.* **już to ..., już to ...** або ... або
**jużci** вядома; менавіта; ~ **że tak** вядома, што так

# K

**kabaczek** *м. бат.* кабачок (*Cucurbita pepo*)
**kabalarka** *ж.* варажбітка
**kabalarz** *м.* варажбіт
**kabalistyczny** кабалістычны
**kabalistyka** *ж.* кабалістыка
**kabał|a** *ж.* **1.** (*таемная навука*) кабала; **2.** варажба, варажэнне; **kłaść ~ę** варажыць; класці карты; кідаць карты; ◊ **wpaść w ~ę** трапіць (ублытацца) у непрыемную гісторыю; трапіць у цяжкае становішча; **wpakować** *kogo* **w ~ę** ублытаць *каго* ў непрыемнасці (непрыемную гісторыю)
**kaban** *м. абл.* парсюк, вяпрук
**kabanosy** *мн.* тонкія вэнджаныя каўбаскі; паляўнічыя каўбаскі
**kabaret, ~u** *м.* кабарэ
**kabaretka** *ж. разм.* ажурная панчоха
**kabaretowy** кабарэтны; які адносіцца да кабарэ; **aktor ~** артыст кабарэ; **teatrzyk ~** тэатр-кабарэ
**kabat** *м.* жакет; куртка
**kab|el** *м.* **1.** кабель; **~el telefoniczny** тэлефонны кабель; **nadawać ~em** перадаваць па кабелі; **2.** *мар.* кабельтаў (*185,2 м*)
**kabina** *ж.* **1.** кабіна, кабінка; ~ **radiowa** радыёрубка; ~ **telefoniczna** тэлефонная кабінка; **2.** каюта
**kabinet, ~u** *м.* сакрэтнік (*пісьмовы стол*)
**kabinowiec** *м. жарг.* сінхраніст, сінхронны перакладчык
**kabinowy** кабінны; **tłumacz ~** сінхронны перакладчык
**kabłąkowaty** дугападобны
**kablogram, ~u** *м.* каблаграма
**kablować** *незак.* **1.** тэлеграфаваць; **2.** *разм.* даносіць
**kablow|y** кабельны; **telewizja ~a** кабельнае тэлебачанне
**kabłąk** *м.* дуга; ◊ **zgiąć się w ~** сагнуцца ў тры пагібелі
**kabłąkowat|y** дугападобны; **~e nogi** крывыя ногі; ногі дугой
**kabotaż, ~u** *м. мар.* кабатаж
**kabotyn** *м.* камедыянт, скамарох
**kabura** *ж.* кабура
**kabriolet, ~u** *м.* кабрыялет
**kabz|a** *ж. уст.* машонка, каліта; ◊ **nabić sobie ~ę** набіць машонку; разбагацець
**kac** *м. разм.* пахмелле; бадун; **mieć ~a** *разм.* кепска адчуваць сябе з пахмелля (з бадуна)
**kacabaja** *ж. разм.* кацавейка; ватоўка
**kacerski**; *гл.* **heretycki**
**kacerstwo** *н.*; *гл.* **herezja**
**kacerz** *м.*; *гл.* **heretyk**
**kacyk** *м.* **1.** туземны царок; правадыр плямені; **2.** *перан.* заправіла, самадур
**kaczątko** *н.* качаня, качанятка; ◊ **brzydkie ~** *перан.* брыдкае качаня
**kaczeniec** *м. бат.* лотаць (*Caltha L.*)
**kaczę** *н.* качаня
**kaczk|a** *ж.* **1.** качка; **dzika ~a** дзікая качка; **2.** *разм.* плётка; **~a dziennikarska** *перан.* газетная качка (хлусня); **3.** *мед.* вутка; судна; ◊ **puścić ~ę** пусціць пага-

лоску; **puszczać ~i** *разм.* пячы бліны; гуляць у пляскачкі; пускаць жабкі (*кідаць плазам каменьчыкі ў ваду*)
**kaczor** *м. заал.* качар
**kaczy** качыны; ~ **chód** качыная хада
**kadecki** кадэцкі; **korpus** ~ кадэцкі корпус
**kadencj|a** *ж.* **1.** тэрмін паўнамоцтва; **~a sejmu** тэрмін паўнамоцтваў сейма; **drugiej ~i** другога склікання; **2.** *лінгв.* сыходная інтанацыя; **3.** *муз.* кадэнцыя
**kadet** *м.* кадэт (*выхаванец вайсковага вучылішча*)
**kadłub** *м.* корпус; тулава; ~ **okrętu** корпус карабля
**kadm, ~u** *м. хім.* кадмій
**kadr, ~u** *кіно* кадр
**kadr|a** *ж.* **1.** кадры; склад, састаў; **~a oficerska** афіцэрскі склад; **~a inteligencji technicznej** кадры тэхнічнай інтэлігенцыі; **biuro (dział)** ~ аддзел кадраў; **~a narodowa** *спарт.* зборная каманда краіны; **2. ~y** *мн. разм.* аддзел кадраў; **kierownik** ~ начальнік (кіраўнік) аддзела кадраў
**kadrowiec** *м. разм.* кадравік
**kadrow|y** **1.** кадравы; **polityka ~a** кадравая палітыка; **2. ~y** *м. разм.* работнік (начальнік) аддзела кадраў
**kadryl** *м.* кадрыля
**kaduk** *м.* **1.** кадук; чорт; **u ~a!** каб яго кадук (чорт) узяў!; **2.** *юр.* вымарачная спадчына; **prawem ~a** незаконна; без усялякага права
**kadzenie** *н.* **1.** курэнне ладанам; **2.** курэнне фіміяму
**kadzić** *незак.* **1.** кадзіць; ~ **jałowcem (wonnymi ziołami)** кадзіць ядлоўцам (пахучымі травамі); **2.** *перан.* лісліваць; ~ *komu* лісліваць перад *кім*
**kadzidło** *н.* ладан, фіміям; ◊ **pomoże jak umarłemu** ~ дапаможа як мёртваму кадзіла (як мёртваму прыпарка)
**kadzidlany** кадзільны; ~ **zapach** кадзільны пах
**kadzielnica** *ж.* кадзільніца, кадзіла
**kadź** *ж.* кадзь, кадушка
**kafar** *м.* капар, баба
**kafejka** *ж. разм.* кавярня
**kafel** *м.* кафля
**kafla** *ж.*; *гл.* **kafel**
**kaflany**; *гл.* **kaflowy**
**kaflarz** *м.* кафельшчык
**kaflowy** кафляны; **piec** ~ кафляная печ
**kaftan** *м.* **1.** кафтан; **2.** кофта; **3.** халат (*уходні*); ◊ ~ **bezpieczeństwa** *мед.* уціхамірвальная кашуля
**kaftanik** *м.* кофтачка
**kaganek** *м.* каганец, газоўка
**kaganiec**[1] *м.* наморднік; намызнік; **nałożyć psu** ~ надзець сабаку наморднік
**kaganiec**[2] *м.* **1.** каганец; **2.** светач
**kahał, ~u** *м.* кагал (*яўрэйская абшчына*)
**kajać się** *незак. przed kim* каяцца *перад кім*
**kajak** *м.* байдарка
**kajakarstwo** *н.* байдарачны спорт
**kajakarz** *м.* байдарачнік
**kajdanki** *мн.* наручнікі; **założyć** *komu* ~ надзець *на каго* наручнікі
**kajdany** *мн.* кайданы; аковы; **zakuć** *kogo* **w** ~ закаваць *каго* ў кайданы; ◊ **skruszyć** ~ разбіць аковы; **założyć złote** ~ ажаніцца
**kajet, ~u** *м. уст.* сшытак
**kajman** *м. заал.* кайман (*Caiman*)
**kajuta** *ж.* каюта; ~ **ogólna** кают-кампанія
**kajzer** *м. разм. іран.* кайзер; германскі імператар
**kajzerka** *ж.* кайзерка (*булачка*)
**kakadu** *нескл. ж. заал.* какаду (*Cacatua*)
**kakao** *нескл. н.* какава; **kupić opakowanie** ~ купіць пачак какавы
**kakaowiec** *м. бат.* какававае дрэва (*Theobroma cacao L.*)
**kakaow|y** какававы; **lody ~e** какававае марожанае
**kakofonia** *ж.* какафонія
**kaktus** *м.* кактус
**kaktusowy** кактусавы
**kala|ć** *незак.* **1.** пэцкаць, брудзіць; **2.** пляміць, ганьбіць; ◊ **zły to ptak, co ~ własne gniazdo** *прык.* добрая птушка ў сваё гняздо не паскудзіць
**kalafior** *м. бат.* квяцістая капуста (*Brassica oleracea L. var. botrytis L.*)



**kalafonia** *ж.* каніфоля
**kalambur, ~u** *м.* каламбур
**kalander** *м. тэх.* каландр
**kalarepa** *ж. бат.* кальрабі (*Brassica oleracea L. var. gongyloides L.*)
**kalcjum** *н. хім.* кальцый
**kalcyt, ~u** *м. хім.* кальцыт
**kalectwo** *н.* калецтва; дэфект
**kaleczyć** *незак.* **1.** калечыць, раніць; пашкоджваць; **2.** *перан.* калечыць, нявечыць; перакручваць, скажаць
**kaleczyć się** *незак.* раніць сябе
**kalejdoskop, ~u** *м.* калейдаскоп; ~ **wrażeń** калейдаскоп уражанняў
**kale|ka** *ж.* калека; інвалід; **~cy wojenni** інваліды вайны
**kaleki** пакалечаны, скалечаны, знявечаны; **~e nogi** скалечаныя ногі
**kalendarium** *н. кніжн.* храналогія
**kalendarz** *м.* каляндар; ~ **kartkowy** адрыўны каляндар; ~ **biurkowy** настольны каляндар; ~ **sportowy** каляндар [спартыўных] спаборніцтваў
**kalendarzow|y** каляндарны; **rok ~y** каляндарны год; **wiosna ~a** каляндарная вясна; вясна па календары
**kalendarzyk** *м.* **1.** запісная кніжка з календаром; **2.** каляндарык
**kalend|y** *мн. гіст.* календы; ◊ **do greckich** ~ да грэчаскіх календ; да святога ніколі
**kalesony** *мн.* кальсоны, споднікі
**kaleta** *ж. уст.* каліта
**kaletnictwo** *н.* скураная галантарэя
**kalia** *ж. бат.* кала; капытнік (*Zantedeschia*)
**kaliber, ~u** *м.* калібр; ◊ **człowiek wielkiego ~u** чалавек вялікага калібру; буйная асоба
**kalif** *м.* халіф
**kalifat, ~u** *м.* халіфат
**kaligraf** *м.* каліграф
**kaligrafia** *ж.* каліграфія, прыгожапіс
**kaligraficzny** каліграфічны
**kaligrafować** *незак.* пісаць каліграфічна
**kalina** *ж. бат.* каліна (*Viburnum L.*)
**kalinowy** калінавы
**kalka** *ж.* **1.** калька; **2.** капіравальная папера; **3.** *лінгв.* калька
**kalkomania** *ж.* пераводны малюнак
**kalkować** *незак.* калькаваць; капіраваць
**kalkulacja** *ж.* калькуляцыя; разлік; ~ **kosztorysowa** каштарысная калькуляцыя; ~ **kosztów własnych** калькуляцыя сабекошту
**kalkulacyjny** калькуляцыйны; **arkusz** ~ электронная табліца
**kalkulator** *м.* калькулятар
**kalkulować** *незак.* **1.** калькуляваць; **2.** разлічваць; планаваць; узважваць; прыкідаць (*у думках*)
**kalkulować się** *незак. разм.* аплачвацца, прыносіць даход
**kalmar** *м. заал.* кальмар
**kalomel, ~u** *м. хім.* каламель
**kaloria** *ж.* калорыя
**kaloryczność** *ж.* каларыйнасць
**kaloryczny** каларыйны
**kaloryfer** *м.* радыятар; батарэя (*цэнтральнага ацяплення*)
**kalorymetr** *м. фіз.* каларыметр
**kalosz** *м.* галёш; ◊ **to inna para ~y** гэта іншая справа
**kalumni|a** *ж.* паклёп; **rzucać** *na kogo* **~e** узводзіць *на каго* паклёп
**kalwin** *м.* кальвініст
**kalwinizm, ~u** *м.* кальвінізм
**kał, ~u** *м.* **1.** кал; **2.** балота, гразь, кал
**kałamarz** *м.* чарніліца, каламар
**kałamaszka** *ж.* каламажка; вазок (*з плеценым кузавам*)
**kałdun** *м.* **1.** *разм.* бруха, пуза; **2.** *разм.* абжора
**kałmucki** калмыцкі
**Kałmuk** *м.* калмык
**Kałmuczka** *ж.* калмычка
**kałuża** *ж.* лужына, калужа
**kamaryla** *ж.* камарылля
**kamasz** *м.* чаравік; камаш, гамаш
**kamasznik** *м.* штэпар, нарыхтоўшчык загатовак (*для абутку*)
**kamea** *ж.* камея
**kameduła** *ж.* камедул; манах камедульскага ордэна
**kameleon** *м. заал.* хамелеон (*Chamaeleon Daud.*)

**leszcz** *м. заал.* лешч (*Abramis brama*)
**leszczyna** *ж. бат.* ляшчына, арэшнік (*Corylus avellana L.*)
**leszczynowy** ляшчынавы, арэшнікавы
**leśnictwo** *н.* **1.** лясніцтва; **2.** лесаводства
**leśniczówka** *ж.* лясная вартоўня; лесніччоўка
**leśniczy** ляснічы
**leśnik** *м.* ляснік
**leśn|y** лясны; **gospodarka ~a** лясная гаспадарка; **przemysł ~y** лясная прамысловасць
**letarg, ~u** *м.* летаргія
**letargiczny** летаргічны
**letni 1.** летні; **~e ubranie** летняе адзенне (вопратка); **czas ~** летні час; **~e mieszkanie** летняе жыллё; летнік; лецішча; **2.** летні; прахалодны, халаднаваты; **~a woda** летняя вада
**letniczka** *ж.* дачніца
**letnik** *м.* дачнік
**letnisko** *н.* дача; летнік; лецішча; летні дом; загарадны дом
**leukemia** *ж. мед.* лейкемія
**leukocyt, ~u** *м. фізіял.* лейкацыт
**lew**[1] *м.* леў; **odważny jak ~** адважны, як леў; ◊ **~ morski** *заал.* марскі леў (*Eumetopias*); **~ salonowy** свецкі леў
**lew**[2] *м.* леў (*грашовая адзінка Балгарыі*)
**lewa** *ж. карц.* бітка
**lewacki** *паліт. разм.* лявацкі
**lewactwo** *н. паліт. разм.* лявацтва
**lewak** *м. паліт. разм.* лявак
**lewantyński** левантыйскі
**lewar** *м.* дамкрат
**lewatyw|a** *ж.* клізма; **zrobić ~ę** паставіць клізму
**lewek** *м.* (і)львяня
**lewiatan** *м. рэл., перан.* левіяфан
**lewica** *ж.* **1.** левая рука; **2.** левае крыло (*партыі*)
**lewicowiec** *м. паліт.* левы; лявак
**lewicowy** *паліт.* левы
**lewkonia** *ж. бат.* ляўконія (*Matthiola R.Br.*)
**lewo: na ~** налева; **w ~ zwrot!** *вайск.* налева!; **z ~a** злева
**lewobrzeżny** левабярэжны
**leworęczny** ляўша
**lewoskrzydłowy** левафлангавы
**lewostronny** левабаковы
**lew|y 1.** левы; **~ brzeg** левы бераг; **po ~ej ręce** з левага боку; **~a strona** левы бок; **~a!** *вайск.* левай!; **2.** *паліт.* левы; **~ kierunek** левы кірунак; **3.** *перан. разм.* левы; фальшывы; несапраўдны; **~ paszport** фальшывы пашпарт; **~ towar** левы тавар; ◊ **dziecko z ~ej ręki** *разм.* незаконнанароджанае дзіця; байструк; **wstać ~ą nogą** падняцца з левай нагі
**leźć** *незак.* **1.** лезці; забірацца, караскацца; **2.** цягнуцца, валачыцца
**leżak** *м.* ляжак, шэзлонг
**leżakować** *незак.* ляжаць на шэзлонгу (на лежаку)
**leżalnia** *ж.* тэраса для ляжання (адпачынку) на вольным паветры (*у санаторыі*)
**leż|eć** *незак.* **1.** ляжаць; **tu ~y** (*надпіс на надмагіллі*) тут ляжыць; тут спачывае; **~eć w łóżku** ляжаць у ложку; **~eć w szpitalu** ляжаць у шпіталі (лякарні, бальніцы); **~eć odłogiem** ляжаць аблогам (*пра зямлю*); **2.** ляжаць; размяшчацца; знаходзіцца; **~eć obozem** стаяць (размяшчацца) лагерам; **ubranie dobrze ~y** касцюм добра ляжыць (сядзіць); **miasto ~y nad rzeką** горад стаіць ля ракі (на рацэ); **3.** *разм.* хварэць; **rodzina ~ała na grypę** сям'я хварэла на грып; ◊ **to nie ~y w moich zamiarach** гэта не ўваходзіць у мае намеры; **to nie ~y w moim interesie** гэта не ў маіх інтарэсах; **~eć na sercu** ляжаць на сэрцы; **~y mi to na sumieniu** гэта на маім сумленні; **~eć na pieniądzach** сядзець на грашах; грошай як трэсак (як смецця, як мякіны, як пяску, як гразі); **jeśli tak, to ~ę** *разм.* калі так, то я гатовы
**leżenie** *н.* ляжанне
**lędźwie** *мн.* паясніца
**lędźwiowy** паяснічны; **ból ~** паяснічныя болі
**lęg, ~u** *м.* **1.** вылупліванне; **2.** вывадак
**lęgnąć się** *незак.* **1.** вылуплівацца; **2.** *перан.* з'яўляцца



**lęgowisko** *н.* гняздоўе; гнездзішча
**lęk, ~u** *м. кніжн.* страх, боязь, спалох, пуд, перапуд; **~ przestrzeni** боязь прасторы; **~ wysokości** боязь вышыні; **~ przed samotnością** боязь адзіноты
**lękać się** *незак.* **1.** палохацца, пудзіцца; **2.** *o kogo/co* баяцца, трывожыцца, непакоіцца *за каго/што*
**lękliwość** *ж.* палахлівасць, пужлівасць, баязлівасць
**lękliwy** палахлівы, пужлівы, баязлівы
**lgnąć** *незак.* **1.** ліпнуць; прыліпаць; прыклейвацца; **2.** гарнуцца; цягнуцца
**li** ці; **wróg ~?** ці вораг?; **znasz ~ ten kraj?** ці ведаеш ты гэты край?; **~ tylko** толькі
**liana** *ж.* ліяна
**libacja** *ж.* выпіўка
**Libanka** *ж.* ліванка
**Libańczyk** *м.* ліванец
**libański** ліванскі
**liberalistyczny;** *гл.* **liberalny**
**liberalizm, ~u** *м.* **1.** лібералізм; **2.** *перан.* паблажлівасць, талерантнасць
**liberalizować** *незак.* ліберальнічаць
**liberalnie** ліберальна
**liberalny** ліберальны
**liberał** *м.* ліберал
**liberia** *ж.* ліўрэя
**libretto** *н.* лібрэта
**lice** *н.* **1.** твар; **2.** добры (правы) бок (*тканіны*)
**licealny** ліцэйскі
**licealista** *м.* ліцэіст
**licencj|a** *ж.* **1.** ліцэнзія, дазвол; **~a przywozowa** імпартная (увазная) ліцэнзія; **~a wywozowa** экспартная (вывазная) ліцэнзія; **na ~i** па ліцэнзіі; **uzyskać ~ę** атрымаць ліцэнзію; **wydać ~ę** выдаць ліцэнзію; **2.** ліцэнцыя; вольнасць; **~a poetycka** паэтычная вольнасць
**licencjat** *м.* **1. ~u** бакалаўрат; вучоба для атрымання ступені бакалаўра; **2.** бакалаўр
**liceum** *н.* ліцэй; тэхнікум; вучэльня; вучылішча; **~ zawodowe** прафесійна-тэхнічная вучэльня; **~ ogólnokształcące** агульнаадукацыйная школа
**licho**[1] дрэнна, кепска, блага; **~ mu się powodzi** яму дрэнна жывецца
**lich|o**[2] **1.** *н.* ліха; бяда; нячысцік; ◊ **~o go wie** *разм.* ліха яго ведае; **do ~a!** *разм.* каб яго ліха!; каб яго (яе, іх) чорт узяў!; **do ~a i trochę!** *разм.* чорт колькі (да чорта); хоць адбаўляй; **cetno i ~** цот і лішка
**lichtarz** *м.* падсвечнік, кандэлябр
**lichtarzyk** *м.* невялікі падсвечнік
**lichw|a** *ж.* **1.** ліхвярства; **uprawiać ~ę** займацца ліхвярствам; **2.** барыш; працэнты; **pożyczać na ~ę** пазычыць пад працэнты; ◊ **oddać z ~ą** аддаць з лішкам; адплаціць стакроць
**lichwiarski** ліхвярскі
**lichwiarstwo** *н.* ліхвярства
**lichwiarz** *м.* ліхвяр
**lich|y** бедны; кепскі дрэнны; **~e zdrowie** слабае здароўе; **~e zarobki** кепскія заробкі
**lico** *н.*; *гл.* **lice**
**licować** *незак.* **1.** *z czym* пасаваць, падыходзіць *да чаго*, адпавядаць *чаму*; **2.** *буд.* абліцоўваць
**licowanie** *н.* абліцоўванне
**licówka** *ж.* абліцоўка (*цэгла, плітка*)
**licytacj|a** *ж.* аўкцыён; **kupić (sprzedać) na ~i** купіць (прадаць) на аўкцыёне
**licytant** *м.* удзельнік аўкцыёну
**licytator** *м.* аўкцыяніст
**licytować** *незак.* **1.** прадаваць з таргоў; **2.** таргавацца
**liczarka** *ж.* лічыльнік банкнот
**liczb|a** *ж.* **1.** колькасць; **w ~ie 40 osób** у колькасці 40 чалавек; **2.** *грам., мат.* лік; лічба; **~a pojedyncza** адзіночны лік; **~a mnoga** множны лік; **~a parzysta** цотны лік; **~a jednocyfrowa** адназначны лік; **~a wielocyfrowa** мнагазначны (шматзначны) лік; **~a pierwsza** просты лік; **~a ułamkowa** дробавы лік; дроб; **~a urojona** уяўны лік; ◊ **bez ~y** без ліку
**liczbow|y 1.** лікавы; лічбавы; **gra ~a** лічбавая латарэя; **2.** колькасны; **przewaga ~a** колькасная перавага

**liczebnie** колькасна; ~ **przeważający** які колькасна пераважае; які мае колькасную перавагу
**liczebnik** *м. грам.* лічэбнік; ~ **główny (porządkowy)** колькасны (парадкавы) лічэбнік
**liczebność** *ж.* **1.** колькасць; **2.** шматлікасць
**liczebn|y** **1.** колькасны; **przewaga ~a** колькасная перавага; **stan ~y** колькасны склад; колькасць; **2.** шматлікі
**liczenie** *н.* лічэнне
**liczeniowy** лічыльны
**liczman, ~u** *м.* **1.** фішка; **grać o ~y** гуляць на фішкі; **2.** збітая (зацяганая) фраза
**licznie** у вялікай колькасці
**licznik** *м.* **1.** лічыльнік; ~ **gazowy** газавы лічыльнік; **2.** *мат.* лічнік
**liczny** шматлікі
**licz|yć** *незак.* **1.** лічыць; **~yć dni** лічыць дні; **2.** лічыць; налічваць; улічваць; **klasa ~y 20 osób** клас налічвае 20 вучняў; у класе 20 вучняў; **~y sobie 50 lat** яму (ёй) 50 гадоў (год); **nie ~ąc reszty** не лічачы ўсяго іншага (астатняга); **3.** *na kogo/co* разлічваць; спадзявацца *на каго/што*; **~ę na wygranie w loterii** я разлічваю выйграць у латарэю
**liczyć się** *незак.* **1.** лічыцца; **2.** лічыцца; браць у разлік; улічваць; ~ **się ze słowami** лічыцца са словамі
**liczydło** *н.* лічыльнікі
**liczygrosz** *м.* скнара, скупяндзя, жмот, жмінда
**liczykrupa** *ж.*; *гл.* **liczygrosz**
**lider** *м.* лідэр
**liga** *ж.* ліга; **pierwsza** ~ *спарт.* першая ліга; ◊ **Liga Narodów** Ліга нацый
**ligatura** *ж.* лігатура
**ligawka** *ж.* жалейка
**lignina** *ж.* лігнін
**lignit, ~u** *м.* лігніт
**ligustr, ~u** *м. бат.* біручына (*Ligustrum L.*)
**lik: bez ~u** без ліку; безліч
**likier, ~u** *м.* лікёр; ліквор
**likwidacja** *ж.* **1.** ліквідацыя; **2.** *разм.* знішчэнне
**likwidacyjny** ліквідацыйны
**likwidować** *незак.* ліквідаваць
**likwor, ~u** *м.* **1.** лікёр; **2.** *жарт.* жыватворная вадкасць
**lila** *нескл.* ліловы; **koloru** ~ ліловага колеру; **sukienka** ~ ліловая сукенка
**lilak** *м. бат.* бэз (*Syringa L.*)
**lilia** *ж. бат.* лілея
**liliowy** **1.** ліловы; **2.** лілейны
**lilipuci** ліліпуцкі, карлікавы
**liliput** *м.* ліліпут, карлік
**limba** *ж. бат.* кедр (*Pinus cembra*)
**limfa** *ж. фізіял.* лімфа
**limfatyczn|y** *фізіял.* лімфатычны; **węzeł ~y** лімфатычны вузел; **gruczoły ~e** лімфатычныя залозы
**limit, ~u** *м.* ліміт; ~ **eksportu** ліміт экспарту; ~ **kredytowy** ліміт крэдыту (крэдытны ліміт); **przekroczyć** ~ перавысіць ліміт; **ustalać** ~ усталёўваць ліміт
**limitować** *незак.* лімітаваць
**limoniada** *ж.* ліманад
**limuzyna** *ж.* лімузін
**lin** *м. заал.* лінь (*Tinca tinca*)
**lin|a** *ж.* трос, канат; вяроўка; **~a holownicza** буксірны трос; **przeciąganie ~y** перацягванне каната
**lincz, ~u** *м.* суд Лінча
**linczować** *незак.* лінчаваць
**lingwista** *м.* лінгвіст, мовазнаўца
**lingwistyczny** лінгвістычны, мовазнаўчы
**lingwistyka** *ж.* лінгвістыка, мовазнаўства
**lini|a** *ж.* **1.** лінія; рыса; **~a prosta** прамая лінія; **~a pozioma** гарызантальная лінія; **~a prostopadła** перпендыкулярная лінія; **~a równoległa** паралельная лінія; **w ~e (zeszyt)** у лінейку (сшытак); ~ **kolumn** лінія калон; **2.** лінія; траса; шлях; **~a kolejowa** чыгуначная лінія; **~a autobusowa** аўтобусная лінія; **~a lotnicza** паветраная траса; **główna ~a komunikacyjna** магістраль; **3.** лінія; фронт; рубеж; **~a celowania** *вайск.* лінія прыцэлу; **~a obronna** лінія абароны; **ofensywa na całej ~i** наступленне па ўсім фронце; **4.** лінія; абрысы; пастава; фігура; **dbać o ~ę** клапаціцца пра фігуру (талію)



**liniał, ~u** *м.* лінейка
**linieć** *незак.* ліняць
**linienie** *н.* ліняние
**linijka** *ж.* **1.** рыса; лінія; лінейка; **2.** лінейка, ліноўка; ~ **z podziałką** маштабная лінейка; **3.** радок
**linijn|y** лінейны; **perspektywa ~a** лінейная перспектыва
**liniować** *незак.* лінеіць
**liniowany** лінеены
**liniowiec** *м.* лінкор; лайнер
**liniowy** лінейны; **okręt** ~ лінейны карабель; лінкор; **sędzia** ~ *спарт.* суддзя на лініі
**linka** *ж.* вяроўка; канат; ~ **holownicza** буксірны трос
**linoleum** *н.* лінолеум
**linoryt, ~u** *м. маст.* лінагравюра
**linoskoczek** *м.* канатаходзец
**linotyp, ~u** *м. друк.* лінатып
**linow|y** канатны; **kolejka ~a** канатная дарога
**lipa** *ж.* **1.** *бат.* ліпа; **2.** *перан. разм.* ліпа; фальшыўка; **wszystko to ~!** усё гэта ліпа!
**lipcowy** ліпеньскі
**lip|iec** *м.* ліпень; **w ~cu** у ліпені
**lipina** *ж. зборн.* **1.** ліпа; ліпы; **2.** ліпавая драўніна
**lipn|y** *разм.* ліпавы, фальшывы; **~e dokumenty** фальшывыя дакументы
**liposom|y** *мн.* ліпасомы; **krem z ~ami** крэм з ліпасомамі
**lipowy** ліпавы; **gaj** ~ ліпавы гай
**lir** *м.* ліра (*грашовая адзінка Італіі і Турцыі*)
**lira** *ж.* **1.** *муз.* ліра; лера; **2.** *паляўн.* хвост цецерука
**lirnik** *м.* **1.** лірнік; лернік; **2.** *перан.* паэт; пясняр
**liryczność** *ж.* лірычнасць
**liryczny** лірычны
**liryk** *м.* лірык
**liryka** *ж.* лірыка
**liryzm, ~u** *м.* лірызм
**lis** *м.* **1.** *заал.* ліс, ліса, лісіца (*Vulpes vulpes L.*); **kołnierz z ~a** каўнер з лісы; **chytry jak** ~ хітры як ліса; **niebieski** ~ блакітны пясец; **2.** *перан.* ліса, хітрун; **szczwany** ~ прайдзісвет, прайдоха
**lisi** лісіны; **~a nora** лісіная нара; ~ **ogon** лісіны хвост
**lisica** *ж.* **1.** *заал.* ліса, лісіца; **2.** (*грыб*) лісічка (*Alopecurus L.*)
**lisię** *н.* лісяня
**lisisko** *н. разм., экспр.* ліса, лісюга
**list, ~u** *м.* **1.** ліст, пісьмо; пасланне; ~ **miłosny** любоўны ліст (любоўнае пасланне); ~ **zwykły** наземны ліст (не авія); ~ **polecony** заказны ліст; ~ **pasterski** *рэл.* пастырскае пасланне; ~ **polecający** рэкамендацыйны ліст; ~ **lotniczy** авіяліст; ~ **handlowy** камерцыйны ліст; ~ **kredytowy** крэдытны ліст; ~ **otwarty** адкрыты ліст; **2.** дакумент, акт, афіцыйны ліст; грамата; ~ **żelazny** *гіст.* ахоўная грамата; ~ **gończy** аб'ява пра пошук (росшук); ~ **przewozowy** накладны дакумент; накладная
**list|a** *ж.* спіс; пералік; **~a obecności** спіс прысутных; **~a przebojów** хіт-парад; **~a wyborcza** спіс выбаршчыкаў; **~a płac** плацежная ведамасць; **~a towarów (eksportowych, importowych)** спіс (экспартных, імпартных) тавараў; **według ~y** па спісе; паводле спіса; **znaleźć się na czarnej liście** апынуцца ў чорным спісе
**listek** *м.* **1.** лісток; **2.** пялёстак
**listewka** *ж.* планачка, ліштвачка
**listewnik** *м.* паштовая скрынка
**listonosz** *м.* паштальён, лістаноша
**listopad** *м.* лістапад
**listopadowy** лістападаўскі
**listowie** *н.* лісцё, лісце; лістота
**listownie** пісьмова; лістом
**listowny** пісьмовы
**listow|y** **1.** паштовы; **papier ~y** паштовая папера; **skrzynka ~a** паштовая скрынка; **2.** **~y** *м. уст.*; *гл.* **listonosz**
**listwa** *ж.* планка, ліштва
**liszaj** *м. мед.* лішай
**liszka** *ж.* **1.** *заал.* вусень; **2.** *паляўн.* ліса, лісіца; ◊ **każda ~ swój ogon chwali** *прык.* усякі цыган сваю кабылу хваліць

**liściasty** ліставы; **las ~** ліставы лес
**liść** *м.* **1.** ліст; ~ **bobkowy (laurowy)** лаўровы ліст; **2.** *зборн.* лістота
**litania** *ж.* **1.** *рэл.* літанія; **2.** *перан.* доўгі, надакучлівы пералік *чаго*
**liter|a** *ж.* **1.** літара; **wielka (duża) ~a** вялікая літара; **mała ~a** малая літара; **~y drukowane** друкаваныя літары; **~ami** пропіссю; **pisać od wielkiej (dużej) ~y** пісаць з вялікай літары; **2. ~y** *мн.* ініцыялы; ◊ **zgodnie z ~ą prawa** *перан.* адпаведна з законам; згодна з літарай закона; **co do ~y (wykonać** *co***)** літара ў літару (зрабіць *што*); **cztery ~y** *перан. эўф.* зад, задніца
**literacki** літаратурны
**literalnie 1.** літаральна; даслоўна; **2.** па літарах
**literalny 1.** літаральны; даслоўны; **przekład ~** літаральны пераклад; падрадкоўнік; **2.** літарны
**literat** *м.* літаратар; пісьменнік
**literatur|a** *ж.* літаратура; **~a piękna** мастацкая літаратура; прыгожае (краснае) пісьменства; **~a naukowa** навуковая літаратура; **teoria ~y** тэорыя літаратуры; **~a przedmiotu** літаратура па прадмеце (па тэме)
**literaturoznawczy** літаратуразнаўчы
**literaturoznawstwo** *н.* літаратуразнаўства
**literować** *незак.* вымаўляць (называць) па літарах
**literowy** літарны
**litewski 1.** літоўскі; **2.** вялікалітоўскі (*які адносіцца да Вялікага княства Літоўскага*); **3.** літвінскі (*суадносны з гістарычнай Літвой, былой заходняй часткай ВКЛ*)
**litkup, ~u** *м. абл.* магарыч, барыш
**litograf** *м.* літограф
**litografia** *ж.* літаграфія
**litograficzny** літаграфічны
**litografować** *незак.* літаграфаваць
**litosny**; *гл.* **litościwy**
**litościwie** літасціва, міласэрна
**litościwy** літасцівы, міласэрны
**litoś|ć** *ж.* літасцівасць, літасць, міласэрнасць; **robić co z ~ci** рабіць што з літасці (міласэрнасці, ласкі, шкадавання); **budzić ~ć** абуджаць міласэрнасць; **bez ~ci** без літасці; бязлітасна
**litować się** *незак. nad kim/czym* шкадаваць *каго/што*; спачуваць, выказваць шкадаванне *каму*
**litr** *м.* літр
**litrowy** літровы
**lituanista** *м.* літуаніст
**lituanistyka** *ж.* літуаністыка
**liturgia** *ж. царк.* літургія
**liturgiczny** *царк.* літургійны, літургічны
**Litwin** *м.* **1.** *гіст.* літвін (*жыхар ВКЛ*); **2.** літовец, летувіс
**Litwinka** *ж.* **1.** *гіст.* літвінка (*жыхарка ВКЛ*); **2.** літоўка, летувіска
**lity 1.** маналітны; цэльны; **2.** літы
**lizać** *незак.* лізаць; ◊ **palce ~!** пальчыкі абліжаш!; смаката!; **~ łapę** *уст.* смактаць лапу
**lizać się** *незак.* лізацца; вылізваць сябе; **~ się z ran** залізваць раны
**lizak** *м.* лізун (*ледзянцовая цукерка на палачцы*)
**liznąć** *зак.* **1.** лізнуць; **2.** пакаштаваць; ◊ **~ łaciny** панюхаць лаціны
**lizol, ~u** *м. фарм.* лізол
**lizus** *м. пагард.* падлізнік
**lnian|y** (і)льняны; **tkaniny ~e** (і)льняныя тканіны; **siemię ~e** (і)льняное семя
**loch, ~u** *м.* **1.** падвал; склеп; **2.** падзямелле, лёх, падземны ход
**locman** *м.* лоцман
**loco** [loko] з дастаўкай на месца
**loczek** *м.* кудзер, кудзерка
**loden, ~u** *м.* тоўстая шарсцяная тканіна
**lodołamacz** *м.* **1.** ледалом; ледарэз; **2.** ледакол
**lodowacieć** *незак.* ледзянець, пакрывацца лёдам
**lodowaty** ледзяны; **~ ton** *перан.* ледзяны (халодны) тон
**lodowcowy** ледавіковы
**lodowiec** *м.* ледавік
**lodowisko** *н.* каток; коўзанка



**lodownia** *ж.* халадзільнік, лядоўня; **wagon ~** рэфрыжэратар
**lodow|y** лядовы; **góra ~a** айсберг
**lodówka** *ж.* лядоўнік, халадзільнік
**lody** *мн.* **1.** марожанае; марозіва; **~ śmietankowe** слівачнае марожанае; **2.** ільды, лёд; **~ ruszyły** лёд крануўся; ◊ **przełamać pierwsze ~** разбіць першы лёд; *гл.* **lód**
**lodziarka** *ж.* прадаўшчыца (прадавачка) марожанага
**lodziarnia** *ж.* кафэ-марожанае
**lodziarz** *м.* прадавец (вытворца) марожанага
**loess, ~u** *м.*; *гл.* **less**
**log, ~u** *м. мар.* лаг
**logarytm, ~u** *м. мат.* лагарыфм
**logarytmiczny** лагарыфмічны
**logarytmować** *незак.* лагарыфмаваць
**loggia** *ж. архіт.* [lodżja] лоджыя
**logicznie** лагічна
**logiczność** *ж.* лагічнасць
**logiczn|y** лагічны; **~e postępowanie** лагічныя паводзіны
**logik** *м.* логік
**logika** *ж.* логіка
**logo** *нескл.* лагатып; фірменны знак
**logogryf, ~u** *м.* лагагрыф
**logopedia** *ж.* лагапедыя
**logopeda** *ж.* лагапед
**lojalnie** лаяльна
**lojalność** *ж.* лаяльнасць
**lojalny** лаяльны; **obywatel ~ wobec władz** лаяльны да ўлады грамадзянін
**lok** *м.* кудзер, локан
**lokacja** *ж.* размяшчэнне
**lokaj** *м.* лакей, лёкай; пакаёвы
**lokajski** лакейскі, лёкайскі
**lokal, ~u** *м.* **1.** памяшканне; кватэра; **~ mieszkalny** кватэра; **~ wyborczy** выбарчы ўчастак; **~ biurowy** кантора; офіс; **2.** рэстаран; кабарэ; **nocny ~** начны рэстаран; начны клуб
**lokalizacja** *ж.* **1.** вызначэнне месца; размяшчэнне; **2.** лакалізацыя; **~ pożaru** лакалізацыя пажару
**lokalizować** *незак.* **1.** вызначаць месца; размяшчаць; **2.** лакалізаваць
**lokaln|y** лакальны, мясцовы; **władze ~e** мясцовыя ўлады; **wizja ~a** *юр.* агляд на месцы злачынства
**lokat|a** *ж.* **1.** *эк.* укладанне; уклад; **~a finansowa** фінансавае ўкладанне; **~a oszczędności** ашчадны ўклад; **~a zagraniczna** уклад у замежны банк; **~y międzybankowe** міжбанкавыя ўкладанні; **~a kapitału** капіталаўкладанне; **2.** месца (*у спісе*)
**lokator** *м.* кватэранаймальнік, кватарант
**lokatorski** кватэрны
**lokaut, ~u** *м.* лакаут
**loko**; *гл.* **loco**
**lokomobila** *ж.* лакамабіль
**lokomocj|a** *ж.* транспарт; **środki ~i** транспартныя сродкі; транспарт
**lokomotywa** *ж.* лакаматыў
**lokować** *незак.* размяшчаць, змяшчаць; ◊ **~ pieniądze** *эк.* укладваць грошы
**lokować się** *незак.* размяшчацца, знаходзіцца
**lokówka** *ж.* бігудзі; **~ elektryczna** апарат для завівання валасоў
**lokum** *н. кніжн.* памяшканне; **~ na sklep spożywczy** памяшканне пад прадуктовую краму
**lombard, ~u** *м.* ламбард
**lombardowy** ламбардны
**lonicera** *ж. бат.* бружмель (*Lonicera L.*)
**lont, ~u** *м.* кнот
**lord** *м.* лорд; ◊ **izba ~ów** палата лордаў
**lordostwo** *н.* лорд з жонкай
**lorneta** *ж.*; *гл.* **lornetka**
**lornetka** *ж.* бінокль
**lornetować** *незак.* разглядваць праз бінокль
**los, ~u** *м.* **1.** лёс, доля; **gorzki ~** горкая доля; **ironia ~u** іронія лёсу; **jego ~y się ważą** вырашаецца ягоны лёс; **2.** жэрабя; **ciągnąć ~y** цягнуць жэрабя; **3.** латарэйны білет; **ciągnienie ~ów** тыраж (*латарэі*); **pełny ~** выйгрышны білет; **pusty ~** білет без выйгрышу; ◊ **na ~ szczęścia** на ўдачу; на шчасце; **masz ci ~!** вось табе і на!; вось табе маеш!
**losować** *незак.* цягнуць жэрабя; лёсаваць
**losowanie** *н.* **1.** жараб'ёўка, лёсаванне; **2.** тыраж (*латарэі*)

**lot, ~u** *м.* палёт; лёт; **zerwać się do ~u** узляцець; узвіцца; **~ próbny** выпрабавальны палёт; **~ bez widoczności** сляпы палёт; **~ nurkowy** пікіраванне; **~ kosmiczny** міжпланетны палёт; **~ żaglowy** планіраванне; ◊ **~ czarterowy** чартэрны рэйс; **z ~u ptaka** з вышыні птушынага палёту; **~em strzały** стралою; **~em błyskawicy** бліскавічна; імгнення; **w ~** імгнення; тут жа, адразу ж; з лёту; **małego (niskiego) ~u** невысокага палёту
**loteria** *ж.* латарэя; **~ fantowa** рэчавая латарэя
**loteryjka** *ж.* лато
**lotk|a** *ж.* **1.** *часцей мн.* **~i** махавыя пер'і; **2.** валан; **3.** *ав.* элерон
**lotnictwo** *н.* авіяцыя; **~ cywilne** грамадзянская авіяцыя; **~ wojskowe** вайсковая авіяцыя; **~ odrzutowe** рэактыўная авіяцыя
**lotniczka** *ж.* лётчыца
**lotnicz|y** авіяцыйны; паветраны; **alarm ~y** паветраная трывога; **komunikacja ~a** паветраныя зносіны; **poczta ~a** авіяпошта; **port ~y** аэрапорт; **linia ~a** авіялінія; **zdjęcie ~e** аэраздымкі
**lotnik** *м.* лётчык; пілот
**lotnisko** *н.* аэрадром
**lotniskowiec** *м.* авіяносец
**lotność** *ж.* **1.** лятучасць; **2.** жвавасць; кемнасць; **3.** хуткасць, шпаркасць
**lotn|y 1.** лятучы; лятальны; лётны; **2.** *перан.* хуткі; кемлівы, кемны; ◊ **~e piaski** сыпкія пяскі; **~y finisz** *спарт.* прамежкавы фініш
**lotos, ~u** *м. бат.* лотас (*Nelumbium speciosum Willd.*)
**lotto** *н.* лато
**lowelas** *м.* лавелас; залётнік
**loża** *ж.* ложа; **~ rządowa** урадавая ложа; ◊ **~ masońska** масонская ложа
**lód, lodu** *м.* **1.** лёд; **zimny jak ~** халодны як лёд; **~ sztuczny** штучны лёд; ◊ **budować zamki na lodzie** будаваць паветраныя замкі; **zostać na lodzie** застацца ні з чым; **(pieniędzy) jak lodu** (грошай) як мякіны; колькі заўгодна
**lśniący** бліскучы, пералівісты
**lśnić się** *незак.* **1.** бліпічаць, зіхацець; **2.** ільсніцца
**lub** або; альбо; **zginąć ~ zwyciężyć** перамагчы або памерці; **jutro ~ pojutrze** заўтра альбо паслязаўтра
**lubczyk, ~u** *м. бат.* любіста (*Levisticum Hill.*)
**lubi|ć** *незак.* любіць; падабацца; **~ć muzykę** любіць музыку; ◊ **kto się ~, ten się czubi** хто каго любіць, той таго і чубіць
**lubić się** *незак.* **1.** кахацца, любіць адно аднаго; **2.** *уст.* падабацца адно аднаму
**lubieżnik** *м.* сладастрасны (юрлівы) чалавек
**lubieżność** *ж.* сладастраснасць, юр, юрлівасць
**lubieżny** сладастрасны
**lubo 1.** хоць, хаця; **2.** *гл.* **lub**
**lubować się** *незак.* **1.** **w czym** любіць *што*; **2.** любавацца
**lucerna** *ж. бат.* люцэрна (*Medicago L.*)
**lucyfer** *м.*; *гл.* **lucyper**
**lucyper** *м.* люцыфер; сатана; д'ябал, чорт; люцыпар
**lud, ~u** *м.* **1.** люд, народ; людзі; **mnóstwo ~u** мноства людзей (народу); **2.** народ; **władza ~u** улада народа; **3.** племя; народ; **wędrówki ~ów** *гіст.* перасяленне народаў; **~y pasterskie** пастушыныя народы; **~y osiadłe** аселыя народы; **~y starożytne** старажытныя народы (людзі); **~ wybrany** абраны народ; ◊ **~ herbowy** шляхта; **~kowie** *мн.* людцы
**ludek** *м. іран.* **1.** народзец; **2.** чалавечак
**ludno** мнагалюдна, шматлюдна
**ludnościow|y** які адносіцца да насельніцтва; **grupy ~e** групы насельніцтва
**ludnoś|ć** *ж.* насельніцтва; **~ć miejska** гарадское насельніцтва; **spis ~ci** перапіс насельніцтва
**ludny** мнагалюдны, шматлюдны; людны
**ludobójczy** знішчальны; крыважэрны
**ludobójstwo** *н.* генацыд
**ludojad** *м.* людажэр, канібал
**ludowładczy** народаўладны



**ludow|y 1.** народны; **pieśni ~e** народныя песні; **wyroby ~e** вырабы народных майстроў; **przemysł ~y** народны промысел; **twórczość ~a** народная творчасць; **sztuka ~a** народнае мастацтва; **2.** вясковы; сялянскі
**ludożerca** *м.* людажэр, канібал
**ludożerstwo** *н.* людажэрства, канібалізм
**ludyczny** *кніжн.* забаўляльны
**ludzie** *мн.* людзі; *гл.* **człowiek**
**ludziska** *мн. разм.* людцы
**ludzk|i 1.** чалавечы; **~i rozum** чалавечы розум; **2.** чалавечны; гуманны; **3.** людскі; прыстойны; ◊ **po ~u** па-людску
**ludzkość** *ж.* **1.** чалавецтва; **2.** чалавечнасць; гуманнасць
**lufa** *ж.* дула, ствол; руля
**lufcik** *м.* фортка
**luft: do ~u** *разм.* нікуды не варта
**luk, ~u** *м. мар.* люк
**luka** *ж.* лакуна; прабел; прагал; ◊ **~ w prawie** пралаз (шчыліна) у законе
**lukrecja** *ж. бат.* лакрыца (*Glycyrrhiza L.*)
**lukrecjowy 1.** лакрычны; **2.** *перан.* саладжавы
**lukrować** *незак.* пакрываць глазурай, глазураваць
**luksus, ~u** *м.* раскоша
**luksusowy** раскошны; шыкоўны
**lulać** *незак.* люляць, закалыхваць; баюкаць
**lulek** *м. бат.* блёкат (*Hyoscyamus L.*)
**lulka** *ж. уст.* люлька, піпка
**lumbago** *н. мед.* люмбага
**luminal, ~u** *м. фарм.* люмінал
**luminarz** *м. кніжн.* светач; **~ nauki** светач навукі
**luminescencja** *ж. фіз.* люмінісцэнцыя
**lump** *м. разм. пагард.* люмпен, валацуга
**lunapark, ~u** *м.* парк з атракцыёнамі
**lunatyczny** лунатычны
**lunatyk** *м.* лунатык
**lunąć** *зак.* **1.** лінуць; **2.** *разм.* стукнуць; трэснуць
**lunch, ~u** *м.* [lancz] ленч
**luneta** *ж.* падзорная труба; **~ astronomiczna** тэлескоп
**lup|a** *ж.* лупа; павелічальнае шкло; **wziąć co pod ~ę** а) разглядзець *што* ў лупу; б) *перан.* уважліва прыглядзецца да *чаго*
**lura** *ж. разм.* бурда
**lusterko** *н.* люстэрка; **~ wsteczne** *аўт.* люстэрка задняга агляду; **~ boczne** бакавое люстэрка
**lustr, ~u** *м.* глянец, бляск
**lustracja** *ж.* агляд; праверка; інспекцыя
**lustrator** *м. уст.* інспектар; рэвізор, кантралёр; **~ podatkowy** падатковы інспектар
**lustro** *н.* люстра, люстэрка; **~ wody** люстэрка вады
**lustrować** *незак.* аглядаць; кантраляваць
**lustrzanka** *ж. фот. разм.* фотаапарат з люстраным аб'ектывам
**lustrzan|y** люстраны; **camera ~a** *фот.* фотаапарат з люстраным аб'ектывам; **węzeł ~y** *камп.* люстэркавы сайт (старонка)
**lut, ~u** *м.* прылітовак; прыпой
**luteranin** *м.* лютэранін
**luteranizm, ~u** *м.* лютэранства
**luterański** лютэранскі
**lutnia** *ж. муз.* лютня
**lutnik** *м.* рамеснік, які майструе струнныя інструменты; лютнік
**lutnista** *м.* лютніст
**lutnistka** *ж.* лютністка
**lutować** *незак.* літаваць, паяць
**lutowy** лютаўскі
**luty** *м.* люты (*месяц*)
**luz, ~u** *м.* **1.** зазор, шчыліна; свабодная прастора; **2.** вольны час; ◊ **~ psychiczny** *разм.* расслабленне; рэляксацыя; **na ~ie** *разм.* марна; ухаластую
**luzem 1.** паражняком, улегцы; **2.** навалам, без упакоўкі; **3.** у адзіночку; асобна; сам па сабе; самапасам
**luzować** *незак.* мяняць, змяняць
**luźnie** свабодна, вольна
**luźno**; *гл.* **luźnie**
**luźn|y 1.** свабодны, прасторны; **~e ubranie** прасторная (гаматная) вопратка; **2.** разрозны; асобны; **~y szyk** *вайск.* разамкнуты строй; **~e uwagi** асобныя заўвагі (нататкі); **~ kontakt** несістэматычныя кантакты (стасункі)

**lwi** (і)львіны; ◊ **~a paszcza** *бат.* званец; **~a część** (і)львіная доля
**lwiątko** *н.* (і)львяня
**lwica** *ж.* (і)львіца
**lwisko** *н. разм., экспр.* ільвішча, леў
**lycr|a** *ж.* [lajkra] лайкра; **rajstopy z ~ą** калготы з лайкрай
**lżej** лягчэй
**lżejszy** лягчэйшы
**lżenie** *н.* лаянка; абраза
**lżyć** *незак. кніжн.* зневажаць, абражаць; лаяць
**lżyć się** *незак.* лаяцца; сварыцца
**lżywy** *кніжн.* зняважлівы, абражальны

# Ł

**łabędzi** лебядзіны; ◊ **pieśń ~a** лебядзіная песня
**łabędź** *м.* лебедзь
**łach** *м.*; *гл.* **łachman**
**łacha** *ж.* рукаў ракі
**łachman** *м.* лахманы, рыззё
**łachmaniarz** *м.* **1.** анучнік; рызман; **2.** абадранец
**łaciarz** *м.* **1.** кравец, які папраўляе старое адзенне; **2.** *разм.* абадранец
**łaciaty 1.** *гл.* **łaciasty**; **2.** залаплены; залатаны
**łaciasty** плямісты, стракаты, пярэсты
**łacina** *ж.* лацінская мова; лаціна; **~ ludowa** вульгарная лаціна
**łaciński** лацінскі
**łacnie**; *гл.* **łacno**
**łacno** *уст.* лёгка, без вялікіх намаганняў
**łacny** *уст.* **1.** лёгкі; **2.** зручны
**ład, ~u** *м.* лад, парадак; **dojść do ~u** *z kim/czym* дамовіцца; прыйсці да пагаднення *з кім/чым*; ◊ **bez ~u i składu** без толку; без сэнсу; без ладу
**ładnie** прыгожа, хараша; прыемна; **to ~ pachnie** гэта прыемна пахне; **~ ci w tym kapeluszu** гэты капялюш табе пасуе; ты добра выглядаеш у гэтым капелюшы
**ładn|y 1.** прыгожы; добры; **2.** *разм.* значны; вялікі; **~y grosz** *разм.* вялікія грошы; **a to ~a sprawa!** *іран.* вось дык гісторыя!
**ładowacz** *м.* грузчык
**ładować** *незак.* **1.** грузіць; нагружаць; напаўняць; класці; **~ statek** грузіць карабель; **~ żyto** грузіць жыта; **~ (w co) pieniądze** укладаць грошы (*у што*); **3.** зараджаць; **~ karabin** зараджаць вінтоўку; **~ akumulator** зараджаць акумулятар
**ładować się** *незак.* лезці, караскацца, узбірацца; увальвацца
**ładowanie** *н.* **1.** пагрузка; загрузка; напаўненне; **~ towaru** пагрузка тавару; **2.** зарадка; зараджанне
**ładownia** *ж.* **1.** склад; **2.** *мар.* трум
**ładownica** *ж. вайск.* патранташ
**ładowniczy 1.** пагрузачны; **2.** *м. вайск.* зараджальнік
**ładowność** *ж.* грузападымальнасць; **~ okrętu** грузападымальнасць судна
**ładowny 1.** нагружаны; напоўнены; **2.** ёмісты
**ładun|ek, ~ku** *м.* **1.** груз, паклажа; **nadawca ~ku** грузаадпраўшчык; **~ek bezcłowy** бяспошлінны (бязмытны) груз; **~ek gabarytowy** габарытны груз; **~ek kontenerowy** кантэйнерны груз; **~ek tranzytowy** транзітны груз; **~ek ubezpieczony** застрахаваны груз; **~ek wartościowy** каштоўны (цэнны) груз; **~ek nieopatrzony w dokumenty** бездакументны груз; **2.** *вайск.* зарад, набой; **ostry ~ek** баявы патрон; **ślepy ~ek** халасты патрон
**łagier** *м. гіст.* лагер
**łagiew** *ж. уст.* бочачка; біклага
**łagiewka** *ж.* **1.** біклажка; **2.** *бат.* пыльнік
**łagodnie** лагодна; ласкава; мякка; **~ mówiąc** мякка кажучы
**łagodnieć** *незак.* змякчацца, рабіцца больш лагодным
**łagodność** *ж.* лагоднасць; мяккасць
**łagodn|y** лагодны; мяккі; **~y uśmiech** добрая ўсмешка; **~y smak** нявострысмак; **~a zima** мяккая зіма; **~y wiatr** слабы вецер



**łagodząc|y 1.** заспакаяльны; **środki ~e ból** заспакаяльныя сродкі; **2.** які змякчае; змякчальны; **okoliczności ~e** *юр.* змякчальныя абставіны
**łagodzić** *незак.* лагодзіць, змякчаць, памякчаць; **~ ból** супакойваць боль
**łagodzić się** *незак.* супакойвацца
**łajać** *незак.* лаяць; сварыцца
**łajanie** *н.* лаянка
**łajdacki** агідны, нізкі, ганебны, подлы
**łajdactwo** *н.* **1.** подласць, нізасць; **2.** *зборн.* нягоднікі
**łajdak** *м.* нягоднік; паганец, прахвост
**łajno** *н.* кал; памёт; лайно
**łaknący** які прагне; **~ sławy** які прагне славы
**łaknąć** *кніжн.* прагнуць, жадаць; **~ pociechy** чакаць суцяшэння; **~ bogactwa** прагнуць багацця
**łaknienie** *н.* **1.** *мед.* апетыт; **2.** *пераи.* прага; голад
**łakocie** *мн.* ласункі, прысмакі
**łakomczuch** *м.* ласун; ласуха
**łakomić się** *незак.* ласавацца
**łakomie** прагна; **~ spoglądać na** *co* прагна глядзець на *што*
**łakomstwo** *н.* **1.** абжорства; **2.** прагнасць
**łakomy 1.** пражэрлівы; **2.** прагны, сквапны; ◊ **~ kąsek** смачны кавалак
**łam, ~u** *м. друк.* слупок, калонка; **na ~ach prasy** на старонках газет
**łamacz** *м.* **1.** *тэх.* драбілка; **~ lodów** ледакол; **2.** *друк.* метранпаж, вярстальшчык
**łam|ać** *незак.* **1.** ламаць; **~ie mnie w kościach** у мяне ломіць у касцях; **2.** *перан.* парушаць; **~ać zasady** парушаць прынцыпы; **3.** *перан.* пераадольваць; ◊ **~ać sobie głowę** ламаць галаву
**łam|ać się** *незак.* **1.** ламацца; **2.** *перан.* змагацца; **~ać się z trudnościami** змагацца з цяжкасцямі; **3.** дзяліцца, падзяляць; **~ać się chlebem** дзяліцца хлебам; **4.** разбівацца; **fale ~ią się o dziób łodzi** хвалі разбіваюцца аб нос лодкі; **5.** вагацца; **nie ~ się!** *разм.* трымайся!, не бойся!
**łamanie** *н.* **1.** ломка; ламанне; **2.** *перан.* парушэнне; **~ prawa** парушэнне закону; **3.** *друк.* вёрстка; **4.** ламота (*у касцях*)
**łamańce** *мн.* **1.** акрабатычныя практыкаванні; **2.** *перан.* выкрутасы
**łaman|y 1.** ламаны; **mówić ~ą angielszczyzną** размаўляць на ламанай англійскай мове; **2.** дроб (*пры абазначэнні нумароў на дакументах і інш.*); касяк; **zero osiem ~e przez piętnaście** (*08/15*) нуль восем дроб пятнаццаць (нуль восем касяк пятнаццаць)
**łamigłówka** *ж.* **1.** галаваломка; рэбус; мазгаломка; **2.** *гл.* **układanka**
**łamistrajk** *м.* штрэйкбрэхер
**łamliwość** *ж.* ломкасць
**łamliwy** ломкі; крохкі
**łan, ~u** *м.* **1.** поле; **2.** *паэт.* ніва, палетак
**łania** *ж. заал.* лань
**łańcuch** *м.* ланцуг; **~ górski** горны ланцуг; **~ wydarzeń** ланцуг падзей (здарэнняў)
**łańcuchow|y** ланцуговы, ланцужны; **reakcja ~a** ланцуговая рэакцыя; **pies ~y** ланцужны (прывязны) сабака
**łańcuszek** *м.* ланцужок
**łap|a** *ж.* лапа; рука; **dostać po ~ach** атрымаць па руках; ◊ **posmarować** *komu* **~ę** *разм.* падмазаць лапу; даць хабар *каму*; **precz z ~ami!** рукі прэч!
**łapacz** *м. разм. пагард.* шпег, сачок
**łapa|ć** *незак.* **1.** лавіць, хапаць; **2.** *разм.* хварэць; **dzieci co rok ~ją grypę** дзеці штогод падхопліваюць грып; ◊ **~ć oddech** хапаць паветра; хаўкаць; **~ć za słówka** чапляцца да слоў
**łapa|ć się** *незак.* **1.** хапацца; **~ć się za głowę** хапацца (брацца) за галаву; **kot ~ał się gałęzi** кот хапаўся за галінку; **2.** лавіцца; трапляцца; **~ć się na** *czym* трапляцца на *чым*; **~ć się na przynętę** лавіцца на прынаду
**łapanie** *н.* лоўля
**łapanka** *ж. разм.* аблава, хапун
**łapciarz** *м. іран.* лапатнік, лапцюжнік
**łapcie** *мн.* лапці
**łapczywie** прагна, сквапна
**łapczywość** *ж.* прагнасць; сквапнасць

**łapczywy** прагны, сквапны

**łapk|a** *ж.* 1. лапка; **kurze ~i** *перан.* курыныя лапкі (*зморшчыны каля вачэй*); 2. ляскаўка; 3. пастка; **~a na myszy** мышалоўка

**łapownictwo** *н.* хабарніцтва

**łapownik** *м.* хабарнік

**łapówk|a** *ж.* хабар; датка; гасцінчык; **dać** *komu* **~ę** даць *каму* хабар; даць у лапу *каму*

**łapówkarstwo** *н.* хабарніцтва

**łapówkarz** *м.* хабарнік

**łapu-capu** *разм.* цяп-ляп (хутка; абы-як)

**łasica** *ж. заал.* ласка (*Mustela nivalis L.*)

**łasić się** *незак.* лашчыцца (*да каго*)

**łask|a**[1] *ж.* 1. ласка; **z Bożej ~i** з Божай ласкі; **być w ~ach** (*u kogo*) быць у ласцы (*у каго*); **uczynić ~ę** зрабіць ласку; **zrób to z ~i swojej** будзь ласкавы, зрабі гэта; **jeśli ~a** калі ласка; 2. памілаванне; **prawo ~i** права памілавання; **prosić o ~ę** прасіць пра памілаванне; ◊ **jak z ~i** а) неахвотна; б) скупа, мала; **wkraść się w ~ę** уцерціся ў давер; ◊ **co ~a** колькі (што) можаце

**łaska**[2] *ж. заал.*; *гл.* **łasica**

**łaskaw** *кніж.* ласкавы, прыхільны; **bądź ~** будзь ласкавы; калі ласка; **bądź ~ położyć to tam** калі ласка, пакладзі гэта там

**łaskawca** *м. уст.* дабрадзей

**łaskawie** ласкава; **traktować** *kogo* **~** ласкава ставіцца да *каго*

**łaskawość** *ж.* ласкавасць, прыязнасць

**łaskawy** *кніж.* літасцівы, міласэрны; добразычлівы; ◊ **żyć na ~m chlebie** жыць на чужым хлебе

**łaskotać** *незак.* казытаць, ласкатаць; **~** *kogo* **w szyję** казытаць *каму* шыю

**łaskotanie** *н.* казытанне, ласкатанне

**łaskotki** *мн.* козыт; лоскат; **mieć ~** баяцца козыту

**łaskotliwy** казытлівы, ласкатлівы

**łasować** *незак.* ласавацца

**łasuch** *м. разм.* ласун

**łasy** ласы; ◊ **~ na zaszczyty** прагны да пашаны

**łaszczyć się** *незак.* 1. кваліцца *на што*, галіцца *на што*; гнацца (*за чым*); **~ się na cudzą własność** кваліцца на чужую ўласнасць; 2. падлашчвацца, ласціцца, падлізвацца

**łata** *ж.* 1. лата; 2. *буд.* драніца; ◊ **brat-~** душа-чалавек

**łatać** *незак.* лапіць, латаць

**łatany** залаплены, залатаны

**łatk|a** *ж.* латачка; латка; ◊ **przypiąć** *komu* **~ę** сказаць з'едліва пра *каго*; пад'ялдыкнуць, падкусіць *каго*

**łatwizn|a** *ж.* павярхоўнасць; лёгкасць; легката; **pójść na ~ę** пайсці шляхам найменшага супраціўлення; пайсці лёгкім шляхам; **ten egzamin to ~a** гэты іспыт пусцяковы (легката)

**łatwo** 1. лёгка; **~ zrozumiały** зразумелы; просты; 2. лёгка; хутка; **~ się męczyć** лёгка стамляцца

**łatwopalny** лёгкі на загаранне; гаручы

**łatwość** *ж.* 1. лёгкасць; **~ do nauki** здольнасць да навукі; **~ w obcowaniu z ludźmi** уменне жыць у згодзе з людзьмі; 2. лёгкасць; зразумеласць

**łatwowierność** *ж.* даверлівасць, легкаверласць

**łatwowierny** даверлівы; легкаверны

**łatw|y** лёгкі; нескладаны; **~e zadanie** лёгкае заданне; ◊ **~y pieniądz** лёгкія грошы; **~a kobieta** даступная жанчына; **~a pamięć** добрая памяць; **~y poklask** танны поспех

**ław|a** *ж.* 1. лава; услон; парта (*у школе*); **~a oskarżonych** *юр.* лава падсудных; **~a obrońców** *юр.* месца абароны (*у судзе*); **~a przysięgłych** *юр.* склад прысяжных; 2. доўгі нізкі стол; **stół-ława** прамавугольны стол, у якім можна рэгуляваць вышыню; 3. *вайск.* лава; паток; **iść ~ą** ісці лавою; ◊ **na ~ie szkolnej** за школьнай партай; у школе; у школьныя гады

**ławica** *ж.* 1. мель; меліна; 2. касяк (*рыбы*); 3. *геал.* лава, пласт

**ławka** *ж.* лаўка, парта (*у школе*); **~ kar** *спарт.* штрафная лаўка; **~ rezerwowych** *спарт.* лаўка запасных



**ławnik** *м.* засядацель; **~ przysięgły** прысяжны засядацель

**łazanki** *мн.* лазанкі; локшына (*у выглядзе квадрацікаў*)

**łazęga** *разм.* 1. *м./ж.* бадзяга; валацуга; 2. *ж.* бадзянне; валачэнне

**łazi|ć** *незак. разм.* 1. лазіць; 2. бадзяцца, валачыцца; **~liśmy po Krakowie** мы бадзяліся па Кракаве; ◊ **~ za** *kim разм.* заляцацца да *каго*

**łaziebnik** *м.* лазеншчык

**łazienka** *ж.* купальня; пакой для мыцця; ванны пакой

**łazienny** лазневы

**łazik** *м. разм.* прагульшчык, латруга

**łazikować** *незак. разм.* бадзяцца без працы; прагульваць

**łaźni|a** *ж.* лазня; мыйня; ◊ **sprawić ~ę** задаць жару

**łażenie** *н.* лазанне

**łączący** аб'яднальны, злучальны

**łącz|e** *н.* канал; **~a telewizyjne** тэлевізійныя каналы

**łączenie** *н.* аб'яднанне, злучэнне

**łączka** *ж.* поплаў; лужок, лугавіна

**łączliwość** *ж. лінгв.* спалучальнасць

**łącznica** *ж.* 1. *эл.* камутатар; 2. тэлефонная станцыя; 3. *чыг.* стык; 4. *анат.* кан'юнктыва

**łączniczka** *ж.* сувязная

**łącznie** 1. разам; **pisać co ~** пісаць разам (у адно слова); **~ z tym** разам з тым; 2. разам; у суме

**łącznik** *м.* 1. сувязны; 2. *грам.* дэфіс, злучок; 3. *муз.* ліга

**łącznikowy** 1. сувязны; **oficer ~** афіцэр сувязі; 2. *м.* сувязны

**łącznoś|ć** *ж.* 1. сувязь; кантакт; **nawiązanie ~ci** усталяванне (наладжванне) сувязі; 2. сувязь; служба сувязі

**łącz|y|ć** *незак.* 1. злучаць; звязваць; аб'ядноўваць; 2. спалучаць; сумяшчаць; **~yć przyjemne z pożytecznym** спалучаць прыемнае з карысным; 3. злучаць; **(już) ~ę!** злучаю!; 2. *кніжн.* далучаць, перадаваць; **~ę pozdrowienia** маё вітанне; ◊ **~ę wyrazy szacunku** з павагай ... (*ветлівая формула заканчэння пісьма*)

**łączyć się** *незак.* 1. злучацца; 2. аб'ядноўвацца; з'ядноўвацца; злучацца; 3. спалучацца; 4. злучацца; звязвацца (*па тэлефоне*)

**łąg** *м.*; *гл.* **łęg**

**łąka** *ж.* сенажаць; луг

**łąkarski** лугавы

**łąkarstwo** *н.* лугаводства

**łąkowy** лугавы

**łątka** *ж. заал.* страказа; рэлька (*Agrion Fabr.*)

**łeb, łba** *м.* 1. галава (*жывёлы*); **~ koński** конская галава; 2. *разм., экспр.* даўбешка; мазгаўня; розум, мазгі; ◊ **zakuty ~** *разм.* тупіца; доўбня; ёлупень; **na ~, na szyję** *разм.* а) на злом галавы; б) стрымгалоў; як мага хутчэй; **kocie łby** брук; камяні ў бруку; **~ w ~** лоб у лоб; **~ do góry!** *разм.* вышэй галаву!

**łeb|ek** *м.* галоўка; **~ek od szpilki** галоўка шпількі; ◊ **po ~kach** *разм.* павярхоўна

**łebski** *разм.* кемлівы, цямлівы, разумны

**łechta|ć** *незак.* 1. казытаць; лашчыць; 2. *перан.* лесціць; казытаць; **to ~ło jego miłość własną** гэта лесціла яго самалюбству (казытала яго самалюбства)

**łechtaczka** *ж. анат.* клітар

**łechtanie** *н.* казытанне

**łepek** *м.*; *гл.* **łebek**

**łezka** *ж.* слязінка, слёзка

**łęg, łęgu** *м.* пойма; поплаў, заліўны луг

**łęk, ~u** *м.* 1. паўкола; дуга, лука; 2. лука (*сядла*); 3. арка

**łękotka** *ж. анат.* меніск

**łgać** *незак. разм.* ілгаць, хлусіць, маніць; **łże jak najęty** хлусіць як наняты

**łganie** *н.* хлусня, брахня, мана

**łgarski** ілжывы, хлуслівы

**łgarstwo** *н.* хлусня, мана

**łgarz** *м.* ілгун, хлус, манюка

**łkać** *незак.* рыдаць

**łkanie** *н.* рыданне

**łobuz** *м.* 1. нягоднік, мярзотнік; 2. гарэза, свавольнік, вісус

**łobuzeria** *ж. зборн.* хуліганнё

**łobuzerka** *ж.*; *гл.* **łobuzeria**
**łobuzerski** хуліганскі
**łobuzować się** *незак.* **1.** гарэзаваць, сваволіць; **2.** хуліганіць
**łochynia** *ж. бат.* буякі (*Veccinium uliginosum L.*)
**łodyga** *ж.* сцябло
**łodyżka** *ж.* сцяблінка
**łoić** *незак.* **1.** намазваць тлушчам; **2.** *перан. разм.* лупцаваць, біць; ~ **skórę** лупцаваць; біць
**łojotok, ~u** *м. мед.* себарэя
**łojow|y** лоевы; **świeca ~a** свечка з лою
**łojówka** *ж. разм.* свечка з лою
**łokciow|y** локцевы; ◊ **towary ~e** тэкстыльныя тавары, мануфактура
**łokieć** *м.* локаць
**łom, ~u** *м.* **1.** лом (*інструмент*); **2.** *збор.* лом, ламачча; **3. ~y** *мн.* каменяломня; кар'ер
**łomot, ~u** *м.* грукат, грук
**łomotać** *незак.* **1.** грукатаць, грукаць, стукатаць; ~ **do drzwi** грукаць у дзверы; **2.** *разм.* біць, лупцаваць
**łomotanie** *н.* грукатанне, груканне
**łon|o** *н.* **1.** лона, улонне; чэрава; **w ~ie matki** у лоне маці; **2.** нетры; ◊ **na ~ie przyrody** на ўлонні прыроды; на прыродзе; **na ~ie rodziny** у сямейным коле; **na ~ie** *czyim* на каленях *у каго*
**łonow|y** лабковы; **kość ~a** лабковая косць
**łopat|a** *ж.* **1.** рыдлёўка; **2.** *тэх.* лопасць; ◊ **kłaść ~ą do głowy (w głowę)** падаваць на талерачцы (на сподку); перажоўваць (*падрабязна тлумачыць*)
**łopatk|a** *ж.* **1.** рыдлёвачка; шуфлік; лапатка; лапатачка; **2.** *анат.* лапатка; ◊ **położyć na obie ~i** пакласці на абедзьве лапаткі
**łopian, ~u** *м. бат.* лопух (*Arctium L.*)
**łopot, ~u** *м.* лопат, плясканне, шум; ~ **skrzydeł** лопат (шум) крылаў; ~ **chorągwi** плясканне сцяга
**łopotać** *незак.* **1.** шалясцець, лапатаць; ~ **skrzydłami** лапатаць крыламі; **2.** стукаць; калаціць
**łopotanie** *н.* **1.** шолах, шастанне; **2.** стук

**łopuch, ~u** *м.*; *гл.* **łopian**
**łosica** *ж.* ласіха
**łosię** *н.* ласяня; ласянё
**łosina** *ж.* ласяціна
**łosiowy** ласёвы, ласіны
**łoskot, ~u** *м.* грукат, грук, лязгат
**łoskotać** *незак.* грукатаць, грукаць, ляскаць
**łososiowy** ласасёвы
**łosoś** *м. заал.* ласось (*Salmo salar*)
**łoś** *м. заал.* лось
**łotewski** латвійскі
**łotoć** *ж. бат.* лотаць
**łotr** *м.* падлюга, нягоднік; лотр; **kawał ~a** закончаны нягоднік
**łotrostwo** *н.* **1.** подласць; **2.** разбой; рабунак
**łotrowski** **1.** подлы, нягодніцкі; **2.** бандыцкі
**łotrzyk** *м.* разбойнік, бандыт, злачынец
**Łotysz** *м.* латвіец, латыш
**Łotyszka** *ж.* латвійка, латышка
**łowca** *м.* паляўнічы; лавец; ◊ ~ **autografów** лавец аўтографаў; ~ **głów** паляўнічы на галовы
**łowczy** *м. гіст.* лоўчы
**łowić** *незак.* **1.** лавіць; ~ **ptaki** лавіць птушак; ~ **życzliwe spojżenia** лавіць прыязныя погляды; **2.** вудзіць; ~ **ryby** вудзіць рыбу
**łowiecki** паляўнічы; **sprzęt** ~ паляўнічы рыштунак
**łowiectwo** *н.* паляванне; паляўнічы промысел
**łowienie** *н.* лоўля; ◊ ~ **ryb w mętnej wodzie** лоўля рыбы ў каламутнай вадзе
**łowy** *мн.* паляванне
**łoza** *ж.* **1.** *бат.* лаза (*Salix cinerea L.*); **2.** *зборн.* лазняк; дубцы
**łozina** *ж.*; *гл.* **łoza**
**łozinowy** лазовы; **koszyk** ~ лазовы кошык
**łoż|e** *н.* **1.** пасцель; ложак; **2.** *вайск.* ложа; ◊ **dziecko z nieprawego ~a** незаконнае (пазашлюбнае) дзіця; **na ~u śmierci** на смяротнай пасцелі
**łożyć** *незак. na co* выдаткоўваць сродкі *на што*; аплачваць *што*
**łożysko** *н.* **1.** рэчышча, ручво; **2.** *тэх.* падшыпнік; **3.** *бат.* кветаложа; **4.** *анат.* плацэнта



**łódka** *ж.* лодка, човен
**łódź** *ж.* лодка; шлюпка; ~ **podwodna** падводная лодка; ~ **ratunkowa** выратавальныя шлюпка; ~ **motorowa** маторная лодка; маторка; ~ **żaglowa** парусвік; **płynąć łodzią (w łodzi)** плысці лодкай (у лодцы); **wsiadać do łodzi (na ~)** сядаць у лодку
**łój, łoju** *м.* лой; сала
**łów, łowu** *м.* лоўля, паляванне; **łowy na grubego zwierza** паляванне на буйнога звера
**łóżeczko** *н.* ложачак; ~ **dziecinne** дзіцячы ложачак
**łóżk|o** *н.* ложак; **~o piętrowe** двух'ярусны ложак; **~o polowe** паходны ложак; раскладанка; **posłać ~o** пасладь ложак; **leżeć w ~u** ляжаць у ложку; ◊ **pójść z** *kim* **do ~a** пайсці з *кім* у ложак; **~o w akademiku** *разм.* месца ў [студэнцкім] інтэрнаце
**łub, ~u** *м.* луб
**łubianka** *ж.* лубянка, лубка
**łubiany** лубяны
**łubin, ~u** *м. бат.* лубін (*Lupinus L.*)
**łucznictwo** *н.* стральба з лука; лучніцтва
**łucznik** *м.* лучнік
**łuczywo** *н.* лучына
**łudząco:** ~ **podobny** надзвычай падобны
**łudząc|y** падманлівы; **~e podobieństwo** надзвычай падобны
**łudzić** *незак.* **1.** ашукваць; **2.** цешыць; вабіць; ~ **obietnicami** цешыць абяцаннямі
**łudzić się** *незак.* ашуквацца; падманвацца ~ **się nadzieją** цешыць сябе надзеяй
**ług, ~u** *м. хім.* **1.** шчолач; **2.** луг
**ługować** *незак. хім.* **1.** вышчалочваць; **2.** жлукціць; вылугоўваць
**ługowy** шчолачны; лугавы
**łuk, ~u** *м.* **1.** дуга; паўкруг; ~ **brwiowy** броўная дуга; ~ **elektryczny** электрычная дуга; **2.** лукавіна; лука; выгін; ~ **rzeki** лукавіна ракі; **3.** лук; **strzelanie z ~u** стральба з лука; **4.** *архіт.* скляпенне, арка; выгба; ~ **triumfalny** трыумфальная арка
**łukowato** дугападобна; дугой

**łukowaty** дугападобны
**łukow|y** **1.** дугападобны; **2.** *фіз., тэх.* дугавы; **lampy ~e** дугавыя лямпы; **3.** *архіт.* арачны
**łuna** *ж.* зарава, зарыва, водбліск
**łup, ~u** *м.* здабыча; трафей; **bogate ~y** багатыя трафеі; ◊ **paść ~em** стаць здабычай *каго/чаго*; стаць ахвярай *каго/чаго*
**łup|ać** *незак.* **1.** калоць; рассякаць; **2.** балець; ламіць; **~ie mnie w kolanie** мне ломіць калена
**łupanie** *н.* расколванне
**łup|ek, ~ku** *м.* **1.** *мін.* лупняк, сланец; **2.** *буд.* шыфер
**łupi|ć** *незак.* **1.** рабаваць; **bandy ~ły mieszkańców** банды рабавалі жыхароў; **2.** дзерці; ◊ **~ć ze skóry** дзерці тры шкуры
**łupiestwo** *н.* рабаванне; рабунак
**łupież**[1], **~u** *м.* перхаць
**łupież**[2] *ж.*; *гл.* **łupiestwo**
**łupieżca** *м.* рабаўнік; разбойнік
**łupieżczy** рабаўніцкі
**łupina** *ж.* шкарлупіна, шалупіна, лупіна, скурка; ~ **orzecha** арэхавая шкарлупіна; ~ **jabłka** скурка яблыка; ~ **kartofla** бульбянае шалупінне (лупіна); **kartofle w ~ch** *кул.* бульба з лупінамі; бульба ў мундзірах
**łupkowy** *мін.* лупняковы, сланцавы
**łupn|ąć** *зак.* выцяць, стукнуць; задаць; **~ęli mu wysoki podatek** *разм.* з яго злупілі вялікі падатак
**łupnąć się** *зак.* стукнуцца; ~ **się w głowę** стукнуцца галавой
**łusk|a** *ж.* **1.** луска; **2.** шалупінне; **3.** *вайск.* гільза; ◊ **spadły mu ~i z oczu** у яго заслона з вачэй упала
**łuskać** *незак.* лушчыць, лузаць
**łuskać się** *незак.* лушчыцца
**łuskanie** *н.* лушчэнне; ~ **fasoli** лушчэнне фасолі
**łuskoskrzydłe** *мн. заал.* лускакрылыя
**łuskowaty** лускаваты
**łuszczarka** *ж. тэх.* **1.** крупадзёрка, крупарушка; **2.** абдзірка, абдзіралка; **3.** лушчыльны станок

**niesumienność** *ж.* нядобрасумленнасць, несумленнасць

**niesumienny** нядобрасумленны, несумленны; ~ **pracownik** нядобрасумленны работнік (працаўнік)

**nieswojo 1.** кепска, дрэнна (*сябе адчуваць фізічна*); **2.** няёмка, нязручна; ніякавата; **czuć się** ~ адчуваць сябе няёмка

**nieswój 1.** які адчувае сябе дрэнна (*пра стан здароўя*); **2.** які адчувае сябе няёмка (ніякавата)

**niesymetrycznie** несіметрычна

**niesymetryczność** *ж.* несіметрычнасць

**niesymetryczny** несіметрычны

**niesympatyczny** несімпатычны

**niesystematyczny** несістэматычны; бессістэмны; неарганізаваны

**niesyty 1.** галодны; **2.** ненасытны, прагны, прагавіты

**nieszablonowy** нешаблонны; незвычайны; арыгінальны

**nieszczególnie** не вельмі добра; няважна; **czuć się** ~ адчуваць сябе няважна

**nieszczególny** няважны, не вельмі добры; ~**e zdrowie** няважнае здароўе

**nieszczelność** *ж.* няшчыльнасць

**nieszczelny** няшчыльны

**nieszczerość** *ж.* няшчырасць

**nieszczery** няшчыры

**nieszczerze** няшчыра

**nieszczęsny** няшчасны

**nieszczęści|e** няшчасце, гора, бяда; ◊ **na ~e** на бяду; на няшчасце; **nie ma ~a** такой бяды; не бяды

**nieszczęśliwie 1.** нешчасліва; **2.** няўдала

**nieszczęśliwiec** *м.* нешчаслівы

**nieszczęśliwy** нешчаслівы, няшчасны; ~ **wypadek** няшчасны выпадак

**nieszkodliwie** няшкодна, бясшкодна

**nieszkodliw|y** няшкодны, бясшкодны; ~**y dla zdrowia** няшкодны (бясшкодны) для здароўя; ~**e stworzenie** бяскрыўдная істота

**nieszlachetnie** непрыстойна; невысакародна

**nieszlachetny 1.** непрыстойны; невысакародны; **2.** (*пра паходжанне*) нешляхетны

**nieszpory** *мн. царк.* вячэрня (*вечаровае набажэнства*)

**nieścisłość** *ж.* **1.** недакладнасць; ~ **sformułowania** недакладнасць фармулёўкі; **2.** няшчыльнасць

**nieścisły 1.** недакладны; **2.** няшчыльны

**nieściśle 1.** недакладна; **2.** няшчыльна

**nieść** *зак.* **1.** несці; **2.** несці; імчаць; **3.** весці; накіроўваць; **4.** несці; прыносіць; ~ **pociechę** суцяшаць; ~ *komu* **pomoc** дапамагаць *каму*; **5.** прыносіць; даваць; ~ **życie w ofierze** прыносіць у ахвяру жыццё; ахвяраваць жыццём; **6.** абвяшчаць; **wieść niesie, że ...** кажуць, што...; **7.** біць; страляць; **strzelba niesie daleko** стрэльба далёка б'е

**nieść się** *незак.* **1.** несціся; імчацца; **2.** разносіцца; распаўсюджвацца; **3.** несціся (*пра птушак*); **kura się niesie** курыца нясецца

**nieślubn|y** пазашлюбны; **dziecko ~e** пазашлюбнае дзіця

**nieśmiało** нясмела

**nieśmiałość** *ж.* нясмеласць

**nieśmiały** нясмелы

**nieśmiertelnik** *м. бат.* сухацвет; бяссмертнік (*Xeranthemum L.*)

**nieśmiertelność** *ж.* бессмяротнасць, неўміручасць

**nieśmiertelny** бессмяротны, неўміручы

**nieśność** *ж.* яйцаноскасць

**nieśn|y** яйцаноскі; **kura ~a** нясушка

**nieświadomie** несвядома; **działać ~ na** *czyją* **szkodę** несвядома (не ведаючы) рабіць *каму* шкоду

**nieświadomoś|ć** *ж.* **1.** няведанне; **żyć w ~ci** жыць у няведанні; **utrzymywać** *kogo* **w ~ci** трымаць *каго* ў няведанні; **2.** несвядомасць

**nieświadomy** несвядомы; ~ **postępek** несвядомы ўчынак; **być ~m** *czego* не ўсведамляць *чаго*

**nieświetnie** небліскуча

**nieświetny** небліскучы; не найлепшы; ~ **interes** не найлепшая справа

**nieświeży** нясвежы



**nietakt** нетактоўнасць; **popełnić** ~ здзейсніць нетактоўны ўчынак

**nietaktownie** нетактоўна

**nietaktowny** нетактоўны

**nieterminowość** *ж.* несвоечасовасць

**nieterminowy** несвоечасовы

**nietęgi** нямоцны; слабы

**nietęgo** слаба; няважна; ~ **się czuć** няважна адчуваць сябе

**nietknięty 1.** некрануты; незачэплены; нязрушаны; **2.** цэлы; непашкоджаны

**nietoksyczny** нетаксічны

**nietolerancja** *ж.* неталерантнасць, нецярпімасць

**nietolerancyjny** нецярпімы

**nietoperz** *м. заал.* кажан (*Chiroptera*)

**nietopliwy** *фіз.* няплаўкі

**nietowarzyski** нетаварыскі

**nietrafn|y** няўдалы; нятрапны; ~**y strzał** нятрапны (хібны) стрэл; ~**y wybór** няўдалы выбар; ~**a odpowiedź** няўдалы адказ; ~**a ocena** недаацэнка

**nietreściwy 1.** непажыўны; малапажыўны; **2.** беззмястоўны, незмястоўны, малазмястоўны

**nietrudno** няцяжка, лёгка; ~ **to zrobić** гэта лёгка (няцяжка) зрабіць; ◊ ~ **o wypadek** да няшчасця не далёка

**nietrudny** няцяжкі, лёгкі

**nietrwale** нетрывала; нямоцна

**nietrwałość** *ж.* **1.** нетрываласць, недаўгавечнасць; ~ **uczuć** недаўгавечнасць пачуццяў; **2.** *хім.* няўстойлівасць

**nietrwały 1.** нетрывалы; **2.** *хім.* няўстойлівы

**nietrzeźwoś|ć** *ж.* нецвярозасць, ап'яненне; **w stanie ~ci** у стане ап'янення; у нецвярозым стане

**nietrzeźwy** нецвярозы; **w stanie ~m** у стане ап'янення; у нецвярозым стане

**nietutejszy** нетутэйшы; не мясцовы; чужы; **jestem** ~ я нетутэйшы

**nietuzinkowy** незвычайны; выдатны

**nietykalność** *ж.* недатыкальнасць; ~ **osobista** недатыкальнасць асобы; ~ **poselska** дэпутацкая недатыкальнасць

**nietykalny** недатыкальны, недакранальны

**nietypowy** нетыповы

**nieubezpieczony** незастрахаваны

**nieubłaganie** няўмольна

**nieubłagan|y** няўмольны; ~**a logika faktów** няўмольная логіка фактаў; ~**a śmierć** бязлітасная (няўмольная) смерць

**nieuchronnie** няўхільна, немінуча, непазбежна

**nieuchronność** *ж.* непазбежнасць; немінучасць; няўхільнасць

**nieuchronn|y** няўхільны, немінучы, непазбежны; ~**a katastrofa** няўхільная (немінучая, непазбежная) катастрофа

**nieuchwytny** няўлоўны

**nieuctwo** *н.* невуцтва

**nieuczciwie** несумленна, нядобрасумленна

**nieuczciwość** *ж.* несумленнасць, нядобрасумленнасць

**nieuczciw|y** несумленны, нядобрасумленны; ~**a konkurencja** несумленная канкурэнцыя

**nieuczony 1.** невучоны; неадукаваны; **2.** прасцяцкі

**nieuczynny** неспагадлівы; нячулы

**nieudan|y 1.** які не ўдаўся, няўдалы; ~**e przedstawienie** няўдалая пастаноўка; **2.** няўмелы; няўдалы; кепскі; ~**y wiersz** няўдалы верш

**nieudolnie** няўмела; бяздарна; ~ **się wyrażać** няўмела выказвацца

**nieudolność** *ж.* няўмеласць; няздольнасць; бяздарнасць

**nieudolny** няўмелы; няздольны; бяздарны; ~ **śpiew** няўмелы спеў

**nieufnie** недаверліва, з недаверам

**nieufność** *ж.* недаверлівасць

**nieufny** недаверлівы

**nieugaszon|y** нязгасны, незгасальны; ~**e pragnienie** няўтольная прага (смага)

**nieugięcie** непахісна, нязломна

**nieugiętość** *ж.* непахіснасць, нязломнасць

**nieugięty** непахісны, нязломны; ~ **charakter** моцны (нязломны) характар

**nieuk** *м.* невук

**nieukojon|y** няўцешны; несуцешны; ~**y ból** несуцешны боль; ~**a tęsknota** несуцешная туга

**nieuleczalnie** невылечна; ~ **chory** невылечна хворы
**nieuleczaln|y** невылечны; **~a choroba** невылечная хвароба
**nieulękły** *кніжн.* бясстрашны; адважны
**nieumiarkowanie**[1] *н. уст.* неўмеркаванасць
**nieumiarkowanie**[2] празмерна, неўмеркавана, нестрымана
**nieumiarkowany** празмерны, неўмеркаваны, нестрыманы; ~ **w jedzeniu i piciu** нестрыманы ў ежы і пітве
**nieumiejętnie** няўмела
**nieumiejętność** *ж.* няўменне, няўмеласць, няўмельства
**nieumiejętny** няўмелы
**nieumotywowany** беспадстаўны; неабгрунтаваны
**nieumyślnie** ненаўмысна, няўмысна, незнарок; выпадкова
**nieumyślny** ненаўмысны, няўмысны; выпадковы
**nieuniknienie** немінуча, непазбежна, няўхільна
**nieunikniony** немінучы, непазбежны, няўхільны
**nieuprawn|y** няўроблены; **~e pole** няўробленае поле
**nieuprzedzony 1.** непрадузяты; **2.** непапярэджаны
**nieuprzejmie** неласкава, няміла, непрыязна
**nieuprzejmość** *ж.* неласкавасць, няветлівасць, непрыязнасць
**nieuprzejmy** неласкавы, нямілы, няветлівы, непрыязны
**nieurodzaj** неўраджай, няўрод; **był ~ na ziemniaki** быў неўраджай (няўрод) бульбы; бульба не ўрадзіла
**nieurodzajność** *ж.* неўраджайнасць, неўрадлівасць
**nieurodzajn|y** неўраджайны, неўрадлівы; **~y rok** неўраджайны год; **~a gleba** неўрадлівая глеба
**nieurzędowo** неафіцыйна
**nieurzędowy** неафіцыйны
**nieustannie** бесперастанна, безупынна, няспынна
**nieustanny** бесперастанны, безупынны, няспынны
**nieustępliwość** *ж.* няўступнасць, несаступнасць, непадатлівасць
**nieustępliwy** няўступны, несаступны, непадатлівы
**nieustraszenie** бясстрашна, адважна, смела
**nieustraszoność** *ж.* бясстрашнасць, адважнасць, смеласць
**nieustraszony** бясстрашны, адважны, смелы
**nieuszanowanie** *н.* непавага, непашана
**nieutulony** несуцешны, няўцешны; **w ~m żalu** у несуцешным смутку
**nieuwag|a** *ж.* няўвага, няўважлівасць; **przez ~ę** праз няўважлівасць
**nieuważnie** няўважна, няўважліва
**nieuważny** няўважны, няўважлівы
**nieuzasadnion|y** неабгрунтаваны; беспадстаўны; **~e zarzuty** беспадстаўныя абвінавачанні
**nieuzbrojony** няўзброены, бяззбройны
**nieuzdolniony** няздольны; бяздарны
**nieuznanie** *н.* непрызнанне; ~ **paktu o nieagresji** непрызнанне пакта аб ненападзенні
**nieuznany** непрызнаны
**nieużyteczny** непрыдатны, непрыгодны
**nieużyt|ek, ~ku** *м.* **1.** аблога, пустэча, непрыдатная (кінутая, спустошаная) зямля; **2.** нячулы, чэрствы чалавек
**nieużyty** чэрствы; бяздушны, сухі
**niewart** няварты; ~ **szacunku** які не заслугоўвае пашаны (павагі); не варты павагі; **nic ~** нічога няварты; ◊ ~ **złamanego szeląga** не варты бітага талера
**nieważki 1.** бязважкі; **2.** малаважны, нязначны
**nieważność** *ж.* **1.** малаважнасць, нязначнасць, неістотнасць; **2.** несапраўднасць
**nieważn|y 1.** малазначны, неістотны; **2.** несапраўдны; **dokumenty były ~e** дакументы былі несапраўдныя
**niewątpliwie** несумненна, бяспрэчна, безумоўна
**niewątpliwy** несумненны, бяспрэчны, безумоўны



**niewczesn|y** несвоечасовы; не да месца; **~e żarty** жарты не да месца; ◊ **~a śmierć** заўчасная смерць
**niewdzięcznie** няўдзячна
**niewdzięcznik** *м.* няўдзячны чалавек
**niewdzięczność** *ж.* няўдзячнасць; ◊ **czarna ~** чорная няўдзячнасць
**niewdzięczny** няўдзячны
**niewerbalny** *лінгв.* недзеяслоўны
**niewesoło** нявесела
**niewesoły** невясёлы
**niewiadom|y 1.** невядомы, незнаёмы; **~ego nazwiska** з невядомым прозвішчам; **2. ~e** *н.* невядомае, невядомасць; **w ~e** у невядомым напрамку; невядома куды; **3. ~a** *ж. мат.* невядомае; **równanie z dwoma ~ymi** ураўненне з двума невядомымі; ◊ *kto/co* **jest wielką ~ą** *хто/што* з'яўляецца вялікай загадкай
**niewiara** *ж.* **1.** нявер'е; адсутнасць веры; няўпэўненасць; **2.** атэізм
**niewiarogodnie** неверагодна, неймаверна, непраўдападобна
**niewiarogodność** *ж.* неверагоднасць, неймавернасць, непраўдападобнасць
**niewiarogodny** неверагодны, неймаверны, непраўдападобны
**niewiarygodnie**; *гл.* **niewiarogodnie**
**niewiarygodność** *ж.*; *гл.* **niewiarogodność**
**niewiarygodny**; *гл.* **niewiarogodny**
**niewiasta** *ж. кніжн.* жанчына
**niewiązan|y: mowa ~a** невершаваная мова; проза
**niewidka: czapka ~** шапка-нявідка
**niewidoczny** непрыкметны, нябачны
**niewidomy** невідушчы, сляпы
**niewidzialny** непрыкметны, нябачны
**niewiedza** *ж.* няведанне
**niewiele** няшмат, нямнога, мала; ~ **myśląc** нядоўга думаючы; ~ **to pomogło** гэта мала дапамагло; ◊ ~ **brakowało, abym się utopił** я ледзь не ўтапіўся; ~ **mówiący tytuł** назва, якая мала гаворыць; ~ **sobie robić z** *czego* не звяртаць асаблівай увагі на *што*; не браць да галавы *што*
**niewielki** невялікі
**niewielu** *а.-м.* нямнога, няшмат; ~ **uczniów było w szkole** у школе было няшмат вучняў
**niewierność** *ж.* **1.** нявернасць, здрадлівасць; **2.** недакладнасць
**niewierny 1.** няверны, здрадлівы; **2.** недакладны; ◊ **Niewierny Tomasz** Фама няверны; Фама-нявернік
**niewierzący** які не верыць
**niewieści** *кніжн.* жаночы
**niewiniąt|ko** *н. іран.* нявінны, святая наіўнасць, нявіннае дзіцятка; ◊ **rzeź ~ek** забіванне немаўлят
**niewinnie 1.** невінавата, бязвінна; **cierpieć ~** цярпець бязвінна; **2.** нявінна, бяскрыўдна; **wyglądać ~** выглядаць нявінна
**niewinnoś|ć** *ж.* **1.** невінаватасць, бязвіннасць; **dowieść ~ci** давесці (даказаць) невінаватасць; **2.** нявіннасць; бяскрыўднасць; **uosobienie ~ci** увасабленне нявіннасці
**niewinn|y 1.** невінаваты, бязвінны; **uznany za ~ego** прызнаны невінаватым; **2.** нявінны; бяскрыўдны; **~y żart** бяскрыўдны жарт
**niewłaściwie** не так, як трэба; неналежна; не належным чынам; недарэчы; не да месца
**niewłasciwość** *ж.* неадпаведнасць, недарэчнасць
**niewłaściwy** не такі, як трэба; неналежны; неадпаведны; ◊ ~ **ułamek** *мат.* няправільны дроб
**niewol|a** *ж.* **1.** няволя, рабства; **2.** палон; **wziąć** *kogo* **do ~i** узяць *каго* ў палон; **dostać się do ~i** трапіць у палон (няволю)
**niewolić** *незак.* **1.** прымушаць; няволіць; **2.** *кніжн.* зanявольваць
**niewolnica** *ж.* **1.** нявольніца, рабыня, раба; **2.** палонная; паланянка
**niewolnictwo** *н.* нявольніцтва, рабства
**niewolniczo** па-рабску; ◊ ~ **naśladować** сляпа пераймаць
**niewolniczy** нявольніцкі, рабскі; ◊ **przekład ~** даслоўны (літаральны) пераклад

**niewolnik** *м.* **1.** нявольнік, раб; **2.** палонны
**niew|ód, ~odu** *м.* невад
**niewprawnie** маласпрактыкавана; няўмела
**niewprawny** маласпрактыкаваны; няўмелы
**niewrażliwość** *ж.* неўспрымальнасць, нячуласць; абыякавасць
**niewrażliwy** неўспрымальны, нечулліВы, нячулы; абыякавы
**niewskazany** процілаказаны, супрацьпаказаны; непажаданы
**niewspółczesny 1.** несучасны; **2.** неаднача-совы
**niewspółmierność** *ж.* непараўнальнасць, несувымернасць
**niewspółmierny** (*do czego*) несувымерны (*з чым*), неадпаведны (*чаму*); непараўнальны (*з чым*)
**niewstrzemięźliwość** *ж.* няўстрыманасць, нястрыманасць
**niewstrzemięźliwy** няўстрыманы, нястрыманы
**niewtajemniczony** не ўведзены (*у што*), неазнаёмлены (*з чым*)
**niewybaczalny** недаравальны
**niewybredny 1.** непераборлівы; **2.** грубы
**niewyczerpany** невычэрпны, невычарпальны; багаты
**niewyczuwalny** неадчувальны, няўлоўны
**niewydajny** непрадуктыўны
**niewydarzony** няўдалы; недарэчны; нязграбны, нясклaдны
**niewydolność** *ж.* недастатковасць; слабасць; ◊ ~ **serca** *мед.* сардэчная недастатковасць
**niewydolny** недастатковы; слабы
**niewygasł|y** непагаслы, нязгасны; **~y wulkan** непагаслы вулкан; **~e uczucie** *перан.* нязгасныя пачуцці
**niewygoda** *ж.* невыгода, нязручнасць
**niewygodnie** невыгодна, нязручна
**niewygodny** невыгодны, нязручны
**niewykluczon|y** невыключаны; верагодны; магчымы; **~e, że tak się stanie** невыключана (верагодна), што так адбудзецца
**niewykonalny** невыканальны, нездзяйсняльны
**niewykończony** няскончаны, незакончаны
**niewykształcony** неадукаваны
**niewykwalifikowany** некваліфікаваны
**niewymagający** непатрабавальны
**niewymienialn|y** неабарачальны; **waluta ~a** неабарачальная валюта
**niewymienny** які не падлягае абмену
**niewymierny 1.** невымерны; празмерны; **2.** *мат.* ірацыянальны
**niewymownie** невымоўна, невыказна
**niewymowny** невымоўны, невыказны
**niewymuszenie** натуральна, нязмушана; проста
**niewymuszony** натуральны, нязмушаны; просты
**niewymyśln|y 1.** непатрабавальны, непераборлівы; **2.** просты, няхітры; нявычварны; **potrawy ~e** простыя стравы
**niewypał, ~u** *м.* **1.** асечка; **2.** няўдача; фіяска; ~ **z importem zakończył moją karierę biznesmena** няўдача з імпартам спыніла маю кар'еру ў бізнесе
**niewyparzon|y: mieć ~ą gębę** *разм.* быць нястрыманым на язык
**niewypłacalność** *ж.* неплацежаздольнасць; банкруцтва; **ogłosić** ~ аб'явіць неплацежаздольнасць
**niewypłacaln|y** неплацежаздольны; **przedsiębiorstwo ~e** неплацежаздольнае прадпрыемства
**niewypowiedzianie** невымоўна, невыказна
**niewypowiedziany** невымоўны, невыказны
**niewyrazisty** невыразны
**niewyraźnie 1.** невыразна, цьмяна, неразборліва; **2.** ніякавата
**niewyraźn|y 1.** невыразны; **~e pismo** невыразны (неразборлівы; нечытэльны) почырк; **2.** ненадзейны; сумніўны; ◊ **~a mina** *перан.* няпэўная міна; **jest jakiś ~y, zmierz mu temperaturę** ён не вельмі добра выглядае, памерай яму тэмпературу
**niewyrobion|y 1.** нявопытны, неспрактыкаваны; непадрыхтаваны; **2.** нявырабленый, неадпрацаваны; **~e pismo** нявырабленый почырк



**niewyrozumiały** жорсткі, бязлітасны; суровы
**niewysłowiony** невыказны; неапісальны
**niewysoki** невысокі
**niewyspany** нявыспаны; які не выспаўся
**niewystarczająco** недастаткова
**niewystarczający** недастатковы
**niewystarczalność** *ж.* недастатковасць
**niewystarczalny** недастатковы
**niewystawny** сціплы
**niewyszukany** просты; сціплы; немудрагелісты
**niewytłumaczalny** невытлумачальны
**niewytłumaczony** невытлумачальны
**niewytrzymały** невынослівы; нецягавіты
**niewyżyty 1.** незадаволены; **2.** *разм.* які не выгуляўся
**niewzruszenie** непахісна
**niewzruszoność** *ж.* непарушнасць, непахіснасць
**niewzruszony** непарушны, непахісны
**niezaangażowan|y** незацікаўлены; няўцягнуты; нейтральны; ◊ **państwo ~e** недалучаная дзяржава
**niezachwianie** непахісна; нязломны
**niezachwiany** непахісны; нязломны
**niezadługo** у хуткім часе; неўзабаве; хутка
**niezadowolenie** *н.* незадавальненне, незадаволенасць
**niezadowolony** (*z kogo/czego*) незадаволены (*кім/чым*)
**niezakłócony** спакойны; непарушны
**niezależnie** незалежна
**niezależność** *ж.* незалежнасць
**niezależn|y** незалежны; ◊ **mowa ~a** *грам.* простая мова
**niezamężna** *ж.* незамужняя, незамужка
**niezamierzony** ненаўмысны
**niezamieszkały** незаселены; бязлюдны; нежылы
**niezamożność** *ж.* беднасць
**niezamożny** незаможны, небагаты
**niezapłaceni|e** *н.* нявыплата, няплата; **w razie ~a** у выпадку няплаты
**niezapominajka** *ж. бат.* незабудка (*Myosotis L.*)
**niezapomniany** незабыўны; незабыты; памятны
**niezaprzeczenie** бясспрэчна
**niezaprzeczony** бясспрэчны
**niezaradność** *ж.* бездапаможнасць, непрактычнасць, безабароннасць; ~ **życiowa** жыццёвая бездапаможнасць
**niezaradny** бездапаможны; непрактычны
**niezasłużenie** незаслужана; несправядліва
**niezasłużony** незаслужаны; несправядлівы
**niezastąpiony** незаменны; неабходны
**niezatapialny** непатапляльны
**niezatart|y** непазбыўны; незабыўны; глыбокі; **~e wrażenie** незабыўнае ўражанне
**niezauważalnie** незаўважна; нязначна
**niezauważalny** незаўважны; нязначны
**niezawisłość** *ж.* незалежнасць; самастойнасць
**niezawisły** незалежны; самастойны
**niezawodnie 1.** надзейна; безадмоўна; **2.** безумоўна; пэўна; беспамылкова
**niezawodność** *ж.* **1.** надзейнасць; **2.** несумненнасць; беспамылковасць
**niezawodny 1.** надзейны, пэўны; ~ **sposób** надзейны (пэўны) спосаб; **2.** несумненны; беспамылковы
**niezbadan|y 1.** недаследаваны; **2.** недаступны розуму; нявызнаны, нязведаны, незразумелы; загадкавы; **~e wyroki opatrzności** нязведаныя наканаванні (прысуды) лёсу; **~a tajemnica** загадкавая таямніца
**niezbędnie** неабходна; патрэбна
**niezbędnik** *м.* відэлец-лыжка (*складная прылада*)
**niezbędny** неабходны; патрэбны
**niezbicie** бясспрэчна; неабвержна; неаспрэчна
**niezbity** бясспрэчны; неабвяргальны, неабвержны; ~ **dowód** бясспрэчны (неабвержны) довад
**niezbyt** не вельмі; не надта; ~ **duży** не вельмі вялікі; ~ **pomocny** не вельмі патрэбны; не вельмі карысны; ~ **pomyślny** малаПаспяховы; ~ **przekonywający** малапераканаўчы; ~ **zachęcający** не надта прывабны; непрывабны

**niezdara** *м./ж.* няўклюда

**niezdarnie** няўдала, нясkладна, нязграбна

**niezdarny** няспрытны, нясkладны, нязграбны

**niezdatność** *ж.* непрыдатнасць; няздольнасць *да чаго*

**niezdatny** непрыдатны, непрыгодны; ~ **do spożycia** непрыдатны да ўжывання

**niezdecydowanie** нерашуча

**niezdecydowany** нерашучы

**niezdobyty** непрыступны

**niezdolność** *ж.* няздольнасць; ~ **do pracy** непрацаздольнасць

**niezdolny** няздольны; ~ **służby wojskowej** непрыдатны да вайсковай службы; ~ **do pracy** а) непрацаздольны; б) няздольны працаваць; не ў стане працаваць

**niezdrowie** *н.* нездароўе

**niezdrowo 1.** нездарова; хваравіта; **2.** нездарова; шкодна для здароўя

**niezdrow|y 1.** нездаровы, хворы; хваравіты; **~a wyobraźnia** нездаровае (хворае) уяўленне; **2.** нездаровы; шкодны для здароўя; **3.** *перан.* нездаровы; хваравіты; **~a atmosfera** нездаровая атмасфера

**niezdyscyplinowany** недысцыплінаваны

**niezgłębiony 1.** бяздонны; глыбокі; **2.** неспазнаны, нявывучаны, недаследаваны

**niezgod|a** *ж.* нязгода; разлад; **być w ~zie z** *czym* супярэчыць *чаму*; не адпавядаць *чаму*; разыходзіцца з *чым*; ◊ **jabłko ~y** яблык разладу; **siać ~ę** сеяць разлад (сваркі; звады)

**niezgodnie** нязгодна *з чым*; неадпаведна *чаму*

**niezgodność** *ж.* неадпаведнасць; несупадзенне; супярэчанне; разыходжанне; ~ **kopii z oryginałem** неадпаведнасць копіі і арыгінала

**niezgodn|y 1.** (*z czym*) які не адпавядае (*чаму*); **~y z prawdą** які не адпавядае праўдзе; **2.** нязгодны; нядружны; **~e małżeństwo** нядружная пара (*муж і жонка*)

**niezgorszy** нядрэнны, някепскі

**niezgorzej** нядрэнна, някепска

**niezgrabiasz** *м. разм.* цяльпук; мяла

**niezgrabnie** нязграбна, нясkладна; нехлямяжа; няўмела

**niezgrabny** нязграбны, нясkладны; нехлямяжы, няўмелы

**nieziemski 1.** незямны; **2.** *перан.* незямны; нябесны; боскі

**nieziszczaln|y** [niez-iszczalny] нездзяйсняльны; нязбытны; **~e marzenia** нязбытныя мары

**niezliczony** незлічоны

**niezłomnie** нязломна; непахісна

**niezłomność** *ж.* нязломнасць; непахіснасць

**niezłomny** нязломны; непахісны

**niezłośliwy** бясшкодны; ◊ **nowotwór** ~ *мед.* незлаякасная пухліна

**niezłożony** нескладаны; просты

**niezły** нядрэнны, някепскі; ніштo сабе

**niezmącony** непарушны, спакойны

**niezmiennie** нязменна; заўсёды

**niezmienność** *ж.* нязменнасць; сталасць

**niezmienny** нязменны; сталы

**niezmiernie** бязмерна, непамерна, нязмерна; празмерна

**niezmierny** бязмерны, непамерны, нязмерны, празмерны

**niezmierzony** невымерны, неабсяжны, неабдымны

**niezmordowanie** нястомна

**niezmordowan|y** нястомны; **~a energia** невычэрпная (невычарпальная) энергія

**niezmożony** непераможны, неадольны; нязломны

**niezmyt|y** нязмыўны; **~a hańba** нязмыўная ганьба

**nieznacznie** нязначна

**nieznaczny** нязначны

**nieznajomość** *ж. czego* няведанне *чаго*; незнаёмства *з кім/чым*

**nieznajomy 1.** незнаёмы; **2.** *м.* незнаёмы; незнаёмец

**nieznan|y** невядомы; незнаёмы; ◊ **Grób Nieznanego żołnierza** магіла невядомага салдата; **w ~e** у невядомым кірунку; невядома куды; у невядомасць

**nieznośnie** нязносна, невыносна; нясцерпна

**nieznośny** нязносны, невыносны; нясцерпны



**nieznużony** нястомны

**niezorany** неўзараны

**niezręcznie** нязручна, няспрытна; нязграбна, нясkладна

**niezręczność** *ж.* **1.** нязручнасць, няспрытнасць; нязграбнасць, няскладнасць; **2.** няёмкасць; **3.** нетактоўнасць; **popełnić** ~ зрабіць нетактоўнасць

**niezręczny** нязручны; няспрытны; нязграбны, нясkладны

**niezrozumiale** незразумела

**niezrozumiały** незразумелы

**niezrozumienie** *н.* неразуменне; непаразуменне; **spotkać się z ~m** сутыкнуцца з неразуменнем

**niezrównanie** непараўнана

**niezrównany** непараўнаны

**niezrównoważony** неўраўнаважаны

**niezupełnie** не зусім, не цалкам

**niezupełn|y** няпоўны; **tekst ~y** няпоўны тэкст; **przegrana ~a** няпоўны пройгрыш

**niezwalczony** непераможны, неадольны; нязломны

**niezwłocznie** неадкладна

**niezwłoczny** неадкладны

**niezwyciężony** непераможны; неадольны

**niezwyczajnie** незвычайна

**niezwyczajny** незвычайны

**niezwykle** незвычайна; нязвыкла; выключна

**niezwykłość** *ж.* незвычайнасць; нязвыкласць

**niezwykły** нязвыклы; незвычайны; рэдкі

**niezyskowny** беспрыбытковы

**nieźle** нядрэнна, някепска

**nieżonaty** нежанаты, халасты

**nieżyciowy** нежыццёвы; нерэальны; непрактычны

**nieżyczliwie** незычліва, нядобразычліва

**nieżyczliwość** *ж.* незычлівасць, нядобразычлівасць

**nieżyczliwy** незычлівы, нядобразычлівы

**nieżyt, ~u** *м. мед.* катар; ~ **oskrzeli** бранхіт; ~ **krtani** ларынгіт; ~ **nosa** насмарк; рыніт; ~ **żołądka** катар страўніка; гастрыт

**nieżywotny** *грам.* неадушаўлёны

**nieżywy** нежывы; мёртвы

**nigdy** ніколі; **teraz albo** ~ зараз альбо ніколі; **jak** ~ як ніколі; ~ **więcej** больш ніколі; ~ **w życiu** ніколі ў жыцці; **jakby** ~ **nic** як бы нічога і не было

**nigdzie 1.** нідзе; **2.** нікуды; ~ **indziej** а) нідзе ў іншым месцы; б) нікуды ў іншае месца

**nihilista** *м.* нігіліст

**nihilizm, ~u** *м.* нігілізм

**nijak 1.** ніяк; **2.** ніяк; ніякім чынам; ~ **nie mogę tego zrobić** я ніяк не магу гэта зрабіць

**nijaki** ніякі; ◊ **rodzaj** ~ *грам.* ніякі род

**nijako** *разм.* **1.** нязручна, не выпадае; няёмка; ~ **mi prosić go o to** мне не выпадае прасіць яго аб гэтым; **2.** няўпэўнена, нерашуча

**nikczemnie** нікчэмна; подла

**nikczemnik** *м.* нягоднік

**nikczemność** *ж.* нікчэмнасць; подласць

**nikczemny** нікчэмны; подлы

**nik|iel, ~lu** *м.* нікель

**nikle** ледзьве заўважна, ледзь заўважальна

**niklować** *незак.* нікеляваць

**niklowanie** *н.* нікеляванне, нікеліроўка

**niklowany** нікеляваны

**niklowy** нікелевы

**nikłość** *ж.* нязначнасць; мізэрнасць

**nikł|y 1.** бледны; слабы; далікатны; **~y deseń** бледны ўзор; **~y rumieniec** слабы румянец; **2.** непрыкметны; мізэрны; **~a postać** мізэрная постаць

**nikn|ąć** знікаць; **chory ~ie w oczach** хворы марнее на вачах

**nikotyna** *ж.* нікацін

**nikt** ніхто; ~ **z nas** ніхто з нас; ~ **inny** ніхто іншы; ~ **a** ~ анікога; ні жывой душы

**nim** перш як; перш чым; пакуль; ~ **się człowiek obejrzy ...** не паспееш азірнуцца, як ...; ◊ ~ **słońce wzejdzie, rosa oczy wyje** *прык.* пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць

**nimb, ~u** *м.* німб; арэол

**nimfa** *ж. міф.* німфа

**nimfomania** *ж. мед.* німфаманія

**nimfomanka** *ж.* німфаманка

**niniejszy** гэты, сучасны; цяперашні; **~m zawiadamiam, że...** гэтым паведамляю, што...
**nirwana** *ж.* нірвана
**niski** нізкі; невысокі; ~ **stół** нізкі стол; ~ **dom** невысокі дом; **~e ciśnienie** нізкі ціск; ~ **głos** нізкі голас; ◊ ~ **start** *спарт.* нізкі старт
**nisko** нізка
**niskoalkoholowy** слабаалкагольны
**niskogatunkowy** нізкагатунковы
**niskoprocentowy 1.** нізкапробны; **2.** нізкапрацэнтны
**nisza** *ж.* ніша
**niszczarka:** ~ **dokumentów** *ж.* прылада для знішчэння дакументаў (папер); паперарэзка
**niszczeć** *незак.* марнець; гінуць; разбурацца
**niszczenie** *н.* разбурэнне; знішчэнне
**niszczyciel** *м.* **1.** разбуральнік; **2.** знішчальнік
**niszczycielski** разбуральны; знішчальны
**niszczyć** *незак.* **1.** разбураць, знішчаць, нішчыць; **2.** псаваць
**nit, ~u** *м.* ніт, заклёпка
**nitk|a** *ж.* нітка; **~a dentystyczna** стаматалагічная (зубная) нітка; ◊ **przemoknąć do suchej ~i** прамокнуць да ніткі; **suchej ~i** *na kim* **nie zostawić** перамыць костачкі *каму*; абгаварыць *каго*
**nitkowaty** ніткаваты, ніткападобны
**nitować** *незак.* заклёпваць, нітаваць, злучаць заклёпкамі
**nitowanie** *н.* заклёпванне, нітаванне
**nitrat, ~u** *м. хім.* нітрат
**nitrobenzol, ~u** *м. хім.* нітрабензол
**nitroceluloza** *ж. хім.* нітрацэлюлоза
**nitrogliceryna** *ж.* нітрагліцэрын
**niuans, ~u** *м.* нюанс
**niuch** *м.* **1.** нюх, панюх, панюшка; **2.** *разм. жарт.* нюх; адчуванне
**niuchać** *незак.* **1.** нюхаць (*тытунь*); **2.** *разм.* вынюхваць; высочваць
**niw|a** *ж.* ніва; поле; **na ~ie pedagogicznej** на педагагічнай ніве
**niweczyć** *незак.* знішчаць; разбураць; пляжыць
**niwelacja** *ж.* нівеляванне, нівеліроўка
**niwelator** *м.* нівелір
**niwelować** *незак.* нівеляваць
**niwelowanie** *н.*; *гл.* **niwelacja**
**nizać** *незак.* нізаць; лыгаць
**nizina** *ж.* **1.** нізіна; **2.** *перан.* нізкі ўзровень; нізкі пункт
**nizinny** нізінны
**niż**[1], **~u** *м.* **1.** нізоўе; нізіна; **2.** дэпрэсія; зона нізкага ціску; ~ **barometryczny** бараметрычная дэпрэсія; бараметрычны мінімум; цыклон
**niż**[2] чым; як; **lepiej późno ~ nigdy** лепш позна, як (чым) ніколі; **jesteś starszy ~ ja** ты старэйшы за мяне
**niżej** ніжэй; ~ **wymieniony** ніжэй названы; ~ **podpisany** ніжэй падпісаны
**niższoś|ć** *ж.* ніжэйшая якасць; ніжэйшы ўзровень; **kompleks ~ci** комплекс непаўнавартаснасці
**niższy** ніжэйшы; ~ **od brata** ніжэйшы за брата
**no 1.** ну!; **~, zaczynamy!** ну, пачынаем!; **~, nie krzycz tak!** ну (ды) не крычы так!; **2.** ану, ж (жа); **daj ~ !** ану дай!; **chodźcie ~ tu!** ану хадзіце сюды!; хадзіце ж сюды!; ~ **przecież** ну вядома ж
**noblista** *м.* нобелеўскі лаўрэат
**nobliwy** *кніжн.* годны; поўны годнасці
**noc** *ж.* ноч; **w ~y** уначы; ноччу; **co ~** штоночы; кожную ноч; **po całych ~ach** начамі; па начах; **Warszawa ~ą** Варшава ўначы; начная Варшава; **dzień i ~** дзень і ноч; **do późna w ~y** да позняй ночы; **w środku ~y** апоўначы; **w ~ sylwestrową** у ноч пад Новы год; у навагоднюю ноч
**nochal** *м. жарт.* насішча, насяра
**nocleg, ~u** *м.* начлег; **dać** *komu* ~ даць *каму* начлег
**noclegowy** начлежны; **dom ~** начлежны дом; начлежка
**nocnik** *м.* начны гаршчок
**nocny** начны; ◊ ~ **marek** *разм.* паўночнік
**nocować** *незак.* начаваць
**nog|a** *ж.* нага; ◊ **do góry ~ami** дагары нагамі; **wstać lewą ~ą** устаць з левай нагі; **stanąć na własnych ~ach** *перан.* стаць на ногі; **padam do nóg** кланяюся ў ногі; **podstawić ~ę** падставіць нагу; **postawić** *kogo/co* **na ~i** паставіць (падняць) *каго/ што* на ногі; **~a moja tu nie postanie** нагі маёй тут больш не будзе; **być jedną ~ą w grobie** адной нагой у труне (у дамавіне, у зямлі) быць; **być kulą u ~i** быць цяжарам для *каго*; быць у цяжар *каму*; **być na ~ach** быць на нагах; **wyciąć do ~i** пазабіваць усіх да аднаго; **do ~i!** да нагі! (*каманда сабаку*); **brać ~i za pas** *разм.* даваць драла (лататы), змывацца, ліняць



**nogawica** *ж.* калашына; калоша
**nogawka** *ж.*; *гл.* **nogawica**
**nokaut, ~u** *м. спарт.* накаўт
**nokautować** *незак. спарт.* накаўтаваць; пасляць у накаўт
**nokturn, ~u** *м. муз.* накцюрн
**nomenklatura** *ж.* наменклатура
**nominacja** *ж.* **1.** прызначэнне (*на пасаду*); **2.** *лінгв.* намінацыя; называнне
**nominalnie** намінальна
**nominaln|y 1.** намінальны; **wartość ~a** *эк.* намінальная вартасць; **płaca ~a** намінальная плата; **2.** фіктыўны
**nominał, ~u** *м. эк.* намінал
**nominować** *незак.* **1.** *уст.* прызначаць (*на пасаду*); **2.** намінаваць (*да ўзнагароды, прысваення звання*)
**nonkonformista** *м.* нанканфарміст
**nonkonformizm, ~u** *м.* нанканфармізм
**nonsens, ~u** *м.* недарэчнасць; бяссэнсіца
**nonsensowny** бяссэнсавы, бессэнсоўны; недарэчны; абсурдны
**nonszalancja** *ж.* бесцырымоннасць; развязнасць
**nonszalancki** бесцырымонны; развязны
**nora** *ж.* нара; ◊ **nędzna ~** бедная хаціна
**norka**[1] *ж.* норка
**nork|a**[2] *ж.* **1.** *заал.* норка (*Mustela lutreola*); **2. ~i** *мн.* футра норкі; футра з норкі; норкавае футра
**norm|a** *ж.* **1.** норма; **~a pracy** норма выпрацоўкі; **ponad ~ę** звыш нормы; **2.** стандарт; **~y moralne** маральныя стандарты
**normalizacja** *ж.* **1.** нармалізацыя; ~ **stosunków** нармалізацыя адносін (стасункаў); **2.** нарміраванне; нарміроўка
**normalnie** нармальна
**normalność** *ж.* нармальнасць
**normalnotorowy** чыгунка з нармальнай каляінай
**normalny 1.** нарматыўны; нармальны; звычайны; **2.** нармальны (*псіхічна здаровы*)
**normatywny** нарматыўны
**normować** *незак.* нарміраваць
**normowanie** *н.* нарміраванне, унармаванне
**Norweg** *м.* нарвежац
**norweski 1.** нарвежскі; **kawior ~** трасковая ікра; **2.** *м.* нарвежская мова; **znać dobrze ~** добра ведаць нарвежскую мову
**Norweżka** *ж.* нарвежка
**nos** *м.* нос; **chustka do ~a** насоўка; насатка; **mówić przez ~** гаварыць у нос; ◊ **mruczeć pod ~em** мармытаць сабе пад нос; **wodzić** (*kogo*) **za ~** вадзіць (*каго*) за нос; **spuścić ~ na kwintę** звесіць нос; **zadzierać ~a** задзіраць нос; **zabrać** *co komu* **sprzed ~a** выхапіць *што ў каго* з-пад носа; **kręcić na** *co* **~em** круціць на *што* носам; **mieć ~a** мець нюх; **dostać ~a** атрымаць наганяй; **mam tego po dziurki w ~ie** я сыты гэтым па горла; **mam to w ~ie** мяне гэта зусім не цікавіць; мне на гэта напляваць; **wściubiać ~** утыкаць нос (*у што*)
**nosacizna** *ж. вет.* сап
**nosaty 1.** насаты; **2.** *вет.* сапны
**nosiciel** *м.* носьбіт
**nosić** *незак.* **1.** насіць; **2.** насіць (*пра вопратку*); мець на сабе; **3.** характарызавацца; **4.** несці ў сабе; утрымліваць
**nosić się** *незак.* **1.** насіцца; кідацца; **2.** насіцца (*пра вопратку*); **3.** насіцца *з чым*; **~ się z myślą zrobienia** *czego* насіцца з думкай (намерам) зрабіць *што*
**nosidło** *н.* каромысел
**nosiwoda** *м.* ваданос
**nosorożec** *м. заал.* насарог (*Rhinoceros*)
**nosowy** насавы
**nosówka** *ж.* **1.** *лінгв.* насавы гук; **2.** *уст.* насоўка

**nostalgia** *ж.* настальгія
**nostalgiczny** настальгічны
**nostryfikacja** *ж.* настрыфікацыя; узаконенне, прынянцце (*замежнага дыплома; вучонай ступені*)
**nostryfikować** *зак.* настрыфікаваць; узаконіць, прыняць (*замежны дыплом, вучоную ступень*)
**nosze** *мн.* насілкі; насілы
**nośnik** *м.* *хім., фіз., біял.* носьбіт
**nośność** *ж.* грузападымальнасць, грузапад'ёмнасць
**nośn|y** апорны; **powierzchnia ~a** апорная паверхня
**nota** *ж.* 1. нота; 2. заметка, нататка, зацемка; 3. паведамленне; авіза; **~ debetowa** дэбетовае авіза; дэбет-нота; **~ kredytowa** крэдытнае авіза; крэдыт-авіза; **~ ubezpieczeniowa** страхавое пасведчанне
**notacja** *ж.* натацыя
**notarialny** натарыяльны
**notariusz** *м.* натарыус
**notatk|a** *ж.* нататка, заметка; зацемка; запіска; **robić ~i** рабіць нататкі; запісваць
**notatnik** *м.* запісная кніжка; блакнот, нататнік
**notes, ~u** *м.* нататнік
**notoryczny** вядомы; страшэнны; **~ oszust** вядомы (страшэнны) ашуканец
**notować** *незак.* 1. запісваць; адзначаць, занатоўваць; 2. каціраваць
**notować się** *незак.* каціравацца
**notowani|e** *н.* 1. запісванне; 2. каціроўка; **~e giełdowe** біржавая каціроўка; **~a spadły** каціроўкі ўпалі
**nowalia** *ж.*; *гл.* **nowalijka**
**nowalijka** *ж.* 1. першая (ранняя) агародніна; навіна; 2. навінка; навізна; нова-ўвядзенне
**nowator** *м.* наватар
**nowatorski** наватарскі
**nowela** *ж.* навела; апавяданне
**nowelista** *м.* навеліст
**nowicjat, ~u** *м.* 1. *царк.* паслушніцтва; 2. *перан.* выпрабавальны тэрмін
**nowicjusz** *м.* 1. навічок; *студ. жарг.* студэнт-першакурснік; 2. *царк.* паслушнік
**nowicjuszka** *ж.* 1. навічок (*жанчына*); *студ. жарг.* студэнтка-першакурсніца; 2. *царк.* паслушніца
**nowina** *ж.* 1. навіна; навінка; **wesoła ~** вясёлая навіна; 2. цаліна
**nowiutki** навюткі; навюсенькі
**nowizna** *ж.; гл.* **nowina 2**
**nowo** *у спалучэнні з дзеепрыметнікам* нова-, зноў; **~ narodzony** нованароджаны; **~ przybyły** новапрыбылы
**nowobogacki** 1. які нядаўна разбагацеў; 2. *м.* нуварыш; *разм.* выскачка
**nowoczesn|y** сучасны; **~a technika** сучасная тэхніка
**nowokaina** *ж.* *фарм.* навакаін
**nowokreowany** новапрызначаны
**nowomodny** навамодны
**nowonabywca** *м.* новы ўладар (гаспадар)
**noworoczny** навагодні
**noworodek** *м.* нованароджанае дзіця
**nowostka** *ж.* навінка
**nowość** *ж.* 1. навіна; **~ sezonu** навіна сезону; **ostatnia ~ techniki** апошняя навіна тэхнікі; 2. навізна; **~ wrażeń** навізна ўражанняў
**nowotw|ór, ~oru** *м.* 1. *мед.* новаўтварэнне; пухліна; **~ór łagodny (złośliwy)** незлаякасная (злаякасная) пухліна; 2. неалагізм
**Nowozelandczyk** *м.* новазеландзец
**Nowozelandka** *ж.* новазеландка
**nowozelandzki** новазеландскі
**nowożeniec** *м.* малады; маладажон
**nowożytn|y** сучасны; **historia ~a** новая гісторыя
**now|y** новы; **fabrycznie ~y** зусім новы; з іголачкі; **jak ~y** як новы; **na ~o** *або* **od ~a** зноў; нанова; нанава; **nic ~ego** нічога новага; **co ~ego?** што новага?; ◊ **Nowy Testament** Новы запавет (Евангелле); **Nowy Rok** Новы год
**nozdrze** *мн.* ноздры, храпы
**nożn|y** нажны; **hamulec ~y** нажны тормаз; **maszyna ~a** нажная швейная машына; **piłka ~a** *спарт.* а) футбол; б) мяч
**nożownik** *м.* нажоўшчык
**nożowy** нажавы



**nożyce** *мн.* нажніцы; **~ cen** нажніцы цэн
**nożyczki** *мн.* нажніцы; **~ do paznokci** манікюрныя нажнічкі; *гл.* **nożyce**
**nów, nowiu** *м.* маладзік
**nóż** *м.* 1. нож; **~ kuchenny** кухонны нож; **~ chirurgiczny** скальпель; **~ sprężynowy** раскладны нож; сцізорык; 2. разец; **~ tokarski** такарны разец; ◊ **postawić sprawę na ostrzu noża** паставіць пытанне рубам; **mieć ~ na gardle** быць у безвыходным становішчы; быць загнаным у кут
**nucić** *незак.* напяваць, мурлыкаць пад нос
**nud|a** *ж.* нуда; сум; **umierać z ~ów** паміраць ад нуды; **robić** *co* **z ~ów** рабіць *што* ад суму, ад няма чаго рабіць
**nudno** 1. нудна; 2. моташна
**nudnoś|ć** *ж.* 1. нудота; сум; 2. **~ci** *мн.* ваніты
**nudny** нудны; ◊ **~ jak flaki z olejem** такі нудны, аж з душы верне
**nudysta** *м.* нудыст
**nudystka** *ж.* нудыстка
**nudyzm, ~u** *м.* нудызм
**nudziarz** нудны чалавек; нуда, зануда; назола
**nudzi|ć** *незак.* 1. наганяць нуду; 2. нудзіць; **~ mnie** мяне нудзіць
**nudzić się** *незак.* нудзіцца
**nulki** *мн.* акуляры без дыёптраў; акуляры з простымі шкельцамі; нулёўкі
**numer, ~u** *м.* 1. нумар; **~ rejestracyjny** рэгістрацыйны нумар; **~ wewnętrzny (telefonu)** дадатковы нумар (тэлефона); **~ nogi** памер нагі (абутку); 2. нумар; штука; **ten ~ nie przejdzie!** гэты нумар не пройдзе!; 3. тып; **to dobry ~!** *разм.* ну і тып!
**numeracja** *ж.* нумарацыя
**numerator** *м.* нумаратар
**numerować** *незак.* нумараваць
**numerowy** *м.* 1. калідорны; 2. насільшчык, бой
**numizmatyka** *ж.* нумізматыка
**nuncjusz** *м.* нунцый
**nur** *м.* *заал.* гагара (*Gavia*); ◊ **dać ~a** *разм.* а) нырнуць (*у ваду*); б) нырнуць; шмыгнуць; даць драла (лататы)
**nur|ek** *м.* 1. вадалаз; 2. *разм.* шукальнік на гарадскіх сметніках каштоўных прадметаў; ◊ **dać ~ka** нырнуць; даць нырца
**nurkować** *незак.* 1. ныраць; 2. пікіраваць
**nurkowani|e** *н.* 1. ныранне, нырцаванне; 2. пікіраванне
**nurt, ~u** *м.* 1. фарватэр; 2. плынь, цячэнне; **~ rzeki** цячэнне (плынь) ракі; 3. *перан.* ход; **~ spraw** ход спраў
**nurtowa|ć** *незак.* 1. цячы; віраваць; 2. *перан.* хваляваць; турбаваць; **~ło mnie uczucie niepewności** мяне турбавала пачуццё няпэўнасці
**nurzać** *незак.* апускаць, акунаць
**nurzać się** *незак.* 1. апускацца; 2. патанаць, тануць (*у раскошы*)
**nut|a** *ж.* 1. нота; 2. **~y** *мн.* ноты; **grać (śpiewać) z ~** іграць (спяваць) па нотах; ◊ **kłamać jak z ~** хлусіць як па нотах; 2. нотка; адценне; **~a niedowierzania** нотка недаверу; **~a triumfu** трыумфальная нота
**nutka** *ж.* 1. нотка; 2. *перан.* нотка; адценне
**nutowy** нотны; **papier ~** нотная папера
**nutri|a** *ж.* *заал.* нутрыя (*Myopotamus coypus Mol.*); **futro z ~i** футра з нутрыі; нутрыевае футра
**nuworysz** *м.* нуварыш
**nuż** 1. *часцей у спалучэнні з* **a**: **a ~** а раптам; а што, калі; **a ~ nie przyjdzie?** а раптам ён не прыйдзе?; **a ~ się uda?** а раптам атрымаецца?; 2. давай, ну; **a mały ~ wrzeszczeć** а малы давай крычаць; а малы як закрычыць
**nużący** утомны; знясільвальны
**nuże** 1. *гл.* **nuż** 2; 2. ану; **~, wstawaj** ану ўставай
**nużyć** *незак.* таміць; знясільваць
**nużyć się** *незак.* утамляцца, стамляцца; зморвацца
**nygus** *м.* гультай, лодар, абібок; лянько, нераб, дзяньгуб
**nylon, ~u** *м.* нейлон
**nylonowy** нейлонавы; нейлонны

# O

**o**[1] **1.** а) цераз, праз; **mieszkać o ścianę** жыць цераз (праз) сцяну; б) у; **o trzy (kwadranse) na dwunastą** у адзінаццаць гадзін сорак пяць мінут *або* без чвэрці дванаццаць; в) за, на; **o kilka kroków** за некалькі крокаў; **dom widać o dwa kilometry stąd** дом відаць за два кіламетры адгэтуль; **wyższy o pół głowy** вышэйшы на паўгалавы; **omylić się o dwa złote** памыліцца на два злотыя; **o mało nie ...** за малым не ...; г) за, аб, праз; пра; **walczyć o wolność** змагацца за свабоду; **prosić o pomoc** прасіць дапамогі; **dbać o dzieci** клапаціцца пра дзяцей; **gniewać się** *o co* злавацца *праз што* (*з-за чаго*); **krzyczeć o byle co** сварыцца з-за глупства (дробязі); **2.** а) аб; пра; **myśleć (pamiętać) o** *czym* думаць (памятаць) *аб чым* (*пра што*); б) аб; **«O obrotach ciał niebieskich»** «Аб абарачэнні нябесных цел»; в) на, з; **chodzić o kulach** хадзіць на мыліцах; **pokój o dwóch oknach** пакой з двума вокнамі; г) на, у; **o świcie** на світанні, досвіткам, на золку; **o każdej chwili** у любы (кожны) момант; **o (w) pół do ósmej** а палове восьмай

**o!**[2] о!; **o Boże!** о Божа!

**oaza** *ж.* **1.** аазіс; **2.** моладзевы каталіцкі рух

**oba, obu** *ж.* абодва; абедзве; ~ **policzki** абедзве шчакі; **obu rękoma** абедзвюма рукамі; ~ **dzbanki** абодва збаны; ~ **konie** абодва коні

**obaczyć** *зак. уст.* убачыць; заўважыць; угледзець; пабачыць

**obaczyć się** *зак. уст.* пабачыцца; сустрэцца

**obadać** *зак. разм. co* спраўдзіць, праверыць, высветліць *што*, пазнаёміцца *з чым*, пераканацца *ў чым*; ~ **sprawę** пазнаёміцца са справай

**obaj** *а.-м.* абодва; ~ **mężczyźni** абодва мужчыны; ~ **chłopcy** абодва хлопцы

**obalać** *незак.* **1.** звальваць; перакульваць; **2.** скідаць, звяргаць; ~ **ustawę** звяргаць закон

**obalić** *зак.* **1.** зваліць; паваліць; перакуліць; **2.** скінуць, звергнуць; ~ **zarzuty** зняць абвінавачванне; ~ **wyrok** адмяніць прысуд

**obandażować** *зак.* **1.** забінтаваць; перавязаць; **2.** *тэх.* ізаляваць

**obandażowany** забінтаваны

**obarczać** *незак. kogo czym* **1.** абцяжарваць *каго чым*; **2.** абавязваць

**obarczony** абцяжараны; ~ **pracą** абцяжараны працай

**obarczyć** *зак.* **1.** абцяжарыць; узваліць *на каго што*; **2.** абавязаць; ускласці абавязкі; абцяжарыць; ~ **zajęciami** абцяжарыць заняткамі; ~ **winą** абвінаваціць

**obarzanek** *м.* абаранак

**obawa** *ж.* боязь; страх; ~ **przed karą** страх перад пакараннем; ~ **o życie** страх за жыццё; ~ **przestrzeni** боязь прасторы; *гл.* **lęk**

**obawiać się** *незак.* **1.** *czego* баяцца, сцерагчыся; ~ **się burzy** баяцца буры; **2.** *o kogo/co* баяцца *за каго/што*; ~ **się o zdrowie dziecka** баяцца за здароўе дзіцяці; ~ **się o matkę** баяцца за маці

**obcałować** *зак.* расцалаваць

**obcałowywać** *незак.* расцалоўваць

**obcas** *м.* абцас; **na wysokim ~ie** на высокіх абцасах

**obcążki** *мн.* абцужкі

**obcesow|y** бесцырымонны, нахабны; дзёрзкі, нечаканы; **~e zachowanie** бесцырымонныя паводзіны; **~y klient** нахабны кліент

**obcęgi** *мн.* абцугі, шчыпцы

**obchodowy** **1.** які робіць абыход; **2.** абходны; кружны; ◊ **komitet** ~ арганізацыйны камітэт (*па святкаванні*)

**obchodzenie** *н.* **1.** (*дзеянне*) абыход; ~ **przepisów** абыход правіл; **2.** абыход; кружны шлях; **3.** святкаванне; ~ **rocznicy powstania** святкаванне гадавіны (угодкаў) паўстання; *гл.* **obchód**



**obchodzenie się** *н.* абыходжанне

**obchodzi|ć** *незак.* **1.** абыходзіць; рабіць абыход; **2.** абыходзіць; мінаць; **~ć ustawy** абыходзіць законы; **3.** святкаваць; адзначаць; **4.** цікавіць; закранаць; **to go nic nie** ~ гэта яго не тычыцца

**obchodzić się** *незак.* **1.** абыходзіцца *з кім*; адносіцца, ставіцца *да каго*; **2.** *z czym* абыходзіцца *з чым*; карыстацца *чым*; **3.** *bez czego* абыходзіцца *без чаго*; **4.** *czym* задавольвацца *чым*

**obch|ód, ~odu** *м.* **1.** абыход; **2.** святкаванне; **organizować (urządzać) ~ody** арганізаваць (наладзіць) святкаванне

**obciach, ~u** *м. разм.* кампраметацыя, сорам; паражэнне; правал; асечка; **zupełny** ~ поўны правал; ◊ **bez ~u** без ваганняў

**obciąć** *зак.* **1.** абрэзаць; абсячы; **2.** *перан.* урэзаць; скараціць; зменшыць; ~ **dochody** урэзаць даходы

**obciągać** *незак.* **1.** абцягваць, папраўляць; ~ **ubranie** абцягваць (папраўляць) адзенне; **2.** пакрываць, пацягваць; ~ **krzesło skórą** абіваць крэсла скурай

**obciągnąć** *зак.* абцягнуць; пакрыць, пацягнуць

**obciążać** *незак.* **1.** абцяжваць, абцяжарваць; **2.** нагружаць; **3.** *бух.* заносіць у дэбет; ~ *czyje* **konto** дэбетаваць

**obciążający** той, які абцяжарвае; абцяжарвальны; ~ **materiał** абвінаваўчы матэрыял

**obciążenie** *н.* **1.** абцяжарванне; абцяжаранне; ~ **dodatkową pracą** абцяжарванне дадатковай працай; **2.** *тэх.* нагрузка; ~ **zupełnie** поўная нагрузка; ~ **dopuszczalne** дапушчальная нагрузка; **3.** *бух.* занясенне ў дэбет

**obciążyć** *зак.* **1.** абцяжарыць; **2.** нагрузіць; ~ **majątek długiem** улезці ў даўгі; **3.** *бух.* занесці ў дэбет; **4.** зрабіць адказным, абвінаваціць

**obciera|ć** *незак.* **1.** абціраць, выціраць; **2.** сціраць; муляць; намульваць; **but** ~ **nogę** чаравік муляе (намульвае) нагу

**obcierać się** *незак.* **1.** абцірацца; выцірацца; **2.** *o kogo/co* закранаць *каго/што*; дакранацца *да каго/чаго*

**obcięcie** *н.* адсячэнне

**obcinać** *незак.* **1.** абрэзваць, абразаць; абсякаць; **2.** *перан.* уразаць; скарачаць; змяншаць

**obcinanie** *н.* абрэзванне, абразанне

**obciosać** *зак.* абчасаць

**obciosywać** *незак.* абчэсваць

**obciskać** *незак.* **1.** абціскаць; **2.** гладка прылягаць (*да фігуры*)

**obcisły** падагнаны (*да фігуры*); цеснаваты; які гладка прылягае (*да фігуры*)

**obcisnąć** *зак.* **1.** абціснуць; **2.** абцягнуць

**obco** няёмка; не так як звычайна; як чужы; не характэрна (*для каго/чаго*); **czuć się** ~ адчуваць сябе чужым (не ў сваёй талерцы)

**obcojęzyczny** іншамоўны; чужамоўны

**obcokrajowiec** *м.* чужаземец, іншаземец, замежнік

**obcokrajowy** замежны, чужаземны

**obcoplemienny** іншаплямённы

**obcość** *ж.* чужасць

**obcować** *незак. z kim* мець таварыскія адносіны (зносіны) *з кім*; кантактаваць; ~ **z ludźmi** кантактаваць з людзьмі; ~ **z przyrodą** далучацца да прыроды; быць на прыродзе

**obcowani|e** *н.* адносіны, зносіны, стасункі; **miły w ~u** мілы ў адносінах (*з кім*)

**obc|y** **1.** чужы; **ciało ~e** чужароднае цела; **2.** незнаёмы; чужы; пабочны; **«obcym wstęp wzbroniony»** «пабочным асобам уваход забаронены»; **3.** замежны; **języki ~e** замежныя мовы

**obczy|zna** *ж.* чужына; **mieszkać na ~źnie** жыць на чужыне

**obdarować** *зак.*; *гл.* **obdarzyć**

**obdarowywać** *незак.*; *гл.* **obdarzać**

**obdartus** *м.* абадранец, абшарпанец; галапуп

**obdarty** абарваны, абшарпаны

**obdarzać** *незак.* **1.** абдарваць, абдорваць, адорваць (*падарункамі*); **2.** *перан.* абдорваць, адорваць; ~ **zaufaniem** аказваць давер

**odwet, ~u** *м.* **1.** помста, адплата; **prawo ~u** права помсты; **w ~ za** *co* у адплату *за што*; каб адпомсціць; помсцячы; **2.** рэванш; **wziąć na** *kim* **~** а) адпомсціць *каму*; б) узяць рэванш
**odwetowiec** *м.* рэваншыст
**odwetowy: czyn ~** акт помсты
**odwiązać** *зак.* адвязаць
**odwiązać się** *зак.* адвязацца
**odwiązywać** *незак.* адвязваць
**odwiązywać się** *незак.* адвязвацца
**odwieczerz: na ~** *абл.* пад вечар, надвячоркам
**odwiecznie** спрадвеку, спакон веку, здаўна
**odwieczny** адвечны, спрадвечны
**odwiedzać** *незак.* наведваць
**odwie|dzić** *зак.* наведаць; **~dź mnie jutro** наведай (прыходзь да) мяне заўтра
**odwiedzin|y** наведванне, візіт; **przyjść do** *kogo* **w ~y** прыйсці да *каго* з візітам; **jestem w ~ach u rodziców** я зараз наведваю сваіх бацькоў, я зараз у бацькоў
**odwiesić** *зак.* павесіць (пакласці) трубку
**odwieszać** *незак.* вешаць (класці) трубку
**odwieść** *ж.* **1.** адвесці, завесці; **2.** узвесці
**odwieźć** *зак.* адвезці
**odwijać** *незак.* адмотваць, адвіваць
**odwijanie** *н.* адмотванне
**odwikłać** *зак.* разблытаць, разабраць
**odwilż** *ж.* адліга
**odwinąć** *зак.* адмотаць
**odwlec** *зак.* адцягнуць, адтэрмінаваць; **~ termin wyjazdu** адтэрмінаваць ад'езд; адцягнуць тэрмін ад'езду
**odwlekać** *незак.* адцягваць, адтэрміноўваць
**odwłok, ~u** *м.* брушка (*у членістаногіх*)
**odwodnianie** *н.* водаадліў
**odwodnić** *зак.* **1.** абязводзіць; **2.** асушыць
**odwodowy** рэзервовы
**odwodzić** *незак.* **1.** адводзіць; **~** *kogo* **na bok** адводзіць *каго* ўбок; **2.** адгаворваць; **~** *kogo* **od zamiaru** адгаворваць *каго* ад намеру; **2.** узводзіць; **~ kurek od strzelby** узводзіць курок стрэльбы
**odwołać** *зак.* **1.** адазваць; **2.** адмяніць; **~ zebranie** адмяніць (адкласці) сход; **3.** адклікаць; **~ posła** адклікаць дэпутата
**odwołać się** *зак.* **1.** звярнуцца *да каго*; **2.** спаслацца *на каго*
**odwołani|e** *н.* **1.** адмена; **aż do ~a** аж да адмены; **od tego nie ma ~a** гэта непазбежна; гэтага не пазбегнуць; **2.** адкліканне
**odwołanie się** *н.* зварот; спасылка; **przez ~ się** *do czego* спасылаючыся на *што*; звярнуўшыся да *чаго*
**odwoławczy** *юр.* касацыйны; **sąd ~** касацыйны суд
**odwoływać** *незак.* **1.** адзываць; **2.** адмяняць; **3.** адклікаць
**odwoływać się** *незак.* **1.** звяртацца *да каго*; апеляваць; **2.** спасылацца *на каго*
**odwozić** *незак.* адвозіць
**odwracać** *незак.* **1.** адварочваць; **~** *czyją* **uwagę** *od czego* адваблiваць *чыю* ўвагу ад *чаго*; **2.** прадухіляць, адхіляць; ◊ **~ kota ogonem** *разм.* пераварочваць з ног на галаву; скажаць (*факты*)
**odwracać się** *незак.* адварочвацца
**odwracalny** **1.** абарачальны; **2.** *тэх.* рэверсіўны
**odwracanie** *н.* **1.** адварочванне, пераварочванне; **2.** прадухіленне; **3.** *тэх.* рэверсаванне
**odwrotnie** наадварот; адваротна; **~ proporcjonalny** *мат.* адваротна прапарцыянальны; **i ~** і наадварот
**odwrotn|y** **1.** адваротны; **~a strona medalu** адваротны бок медаля; **2.** зваротны; **~ą pocztą** зваротнаю поштаю
**odwrócić** *зак.* **1.** адвярнуць; **~ uwagę** адцягнуць увагу; **2.** перагарнуць; **proszę ~ kartę** перагарніце, калі ласка, старонку; **3.** прадухіліць; **~ niebezpieczeństwo** прадухіліць (адхіліць) небяспеку
**odwróci|ć się** *зак.* адвярнуцца, павярнуцца; ◊ **karta się ~ła** карта не ідзе, адвярнулася карта; шчасце адвярнулася
**odwr|ót, ~otu** *м.* **1.** адступленне; **~ót armii napoleońskiej** адступленне напалеонаўскіх войскаў; **trąbić na ~ót** даваць сігнал да адступлення; **2.** другі бок, адварот; **na ~ocie arkusza** на другім баку (на адвароце) аркуша



**odwyk, ~u** *м. разм.* лячэнне ад алкагалізму; **być na ~u** *разм.* праходзіць курс лячэння ад алкагалізму
**odwykać** *незак.* адвыкаць
**odwykow|y: leczenie ~e** курс лячэння ад алкагалізму
**odwykówka** *ж. разм.* курс лячэння ад алкагалізму
**odwzajemniać się** *незак.* плаціць (адплачваць) узаемнасцю
**odwzajemnić się** *зак.* адплаціць узаемнасцю
**odw|ód, ~odu** *м.* запас, рэзерв; **w ~odzie** на ўсякі выпадак, у запас; **ma argument w ~odzie** у яго ёсць (ён мае) аргумент у запасе
**odyniec** *м.* стары дзік або зубр, які ходзіць адзін; адзінец
**odzew, ~u** *м.* [od-zew] **1.** водгук; **~ samicy** водгук самкі (саміцы); **2.** *вайск.* водзыў; адказ; **hasło i ~** пароль і водзыў (адказ)
**odziać** *зак.* адзець, апрануць
**odziać się** *зак.* адзецца, апрануцца
**odziczały** здзічэлы
**odziedziczać** *незак.* атрымліваць у спадчыну
**odziedziczyć** *зак.* атрымаць у спадчыну
**odzienie** *н.*; *гл.* **odzież**
**odziewać się** *незак.* адзявацца, апранацца
**odzież** *ж.* адзенне; вопратка; адзежа; **~ letnia (zimowa)** летняя (зімовая) вопратка; **~ ochronna** ахоўная вопратка
**odzieżowy** які адносіцца да адзення; швейны; **przemysł ~** швейная прамысловасць
**odznaczać** *незак.* [od-znaczać] **1.** адзначаць; **2.** узнагароджваць
**odznaczać się** *незак.* [od-znaczać się] адзначацца, вылучацца; **~ się odwagą** вылучацца адвагаю
**odznaczeni|e** *н.* [od-znaczenie] адзнака, узнагарода; **~a wojenne** баявыя ўзнагароды
**odznaczeniowy** [od-znaczeniowy] **1.** ордэнскі; **2.** узнагародны; **fundusz ~** прэміяльны фонд
**odznaczyć** *зак.* [od-znaczyć] **1.** адзначыць; **2.** узнагародзіць
**odznaczyć się** *зак.* [od-znaczyć się] адзначыцца; праславіцца
**odznaka** *ж.* [od-znaka] **1.** узнагарода, адзнака; **~ za wierną służbę** узнагарода за адданую службу; **2.** значок; **~ sportowa** спартыўны значок
**odzwierciedlać** *незак.* [od-zwierciedlać] адлюстроўваць, адбіваць
**odzwierciedlać się** *незак.* [od-zwierciedlać się] адлюстроўвацца, адбівацца
**odzwierciedlić** *зак.* [od-zwierciedlić] адлюстраваць, адбіць
**odzwierciedlić się** *зак.* [od-zwierciedlić się] адлюстравацца, адбіцца
**odzwierciedlenie** *н.* [od-zwierciedlenie] адлюстроўванне; паказ
**odzwyczaić** *зак.* [od-zwyczaić] адвучыць
**odzwyczaić się** *зак.* [od-zwyczaić się] адвыкнуць
**odzwyczajać** *незак.* [od-zwyczajać] адвучваць
**odzwyczajać się** [od-zwyczajać się] адвыкаць
**odzyskać** *зак.* [od-zyskać] атрымаць назад, вярнуць, здабыць; знайсці; **~ zdrowie** ачуняць; **~ spokój** здабыць спакой
**odzyskanie** *н.* [od-zyskanie] атрыманне назад, здабыццё, зварот
**odzyskany** [od-zyskany] зноў здабыты, вернуты; **Ziemie Odzyskane** вернутыя землі
**odzyskiwać** *незак.* [od-zyskiwać] атрымліваць назад; здабываць, знаходзіць; **~ przytomność** прыходзіць да прытомнасці
**odzywa|ć się** *незак.* [od-zywać się] адзывацца, адклікацца; адгукацца; **nie ~m się do ciebie!** я не размаўляю з табой!; **jak ty się do mnie ~sz?** як ты да мяне звяртаешся?
**odzywka** *ж.* [od-zywka] **1.** *карц.* аб'яўленне карты; **2.** *разм.* заўвага; зварот; рэпліка
**odźwiernik** *м. анат.* прываротнік
**odźwierny** *м.* швейцар, брамнік

**odżałować** *зак.* [od-żałować] **1.** суцешыцца; змірыцца са стратай; ~ **zmarłego** змірыцца са смерцю *каго*; **nie móc ~** не магчы забыцца; не магчы сабе даравацъ; **2.** не пашкадаваць *чаго*; не паскупіцца *на што*; ~ **pieniędzy** не пашкадаваць грошай

**odżegnać się** *зак.* [od-żegnać się] **1.** *kogo/co* адмовіцца, адрачыся; адхрысціцца *ад каго/чаго*; **2.** *уст.* адрабіцца; пазбавіцца

**odżegnywać się** *незак.* [od-żegnywać się] **1.** *kogo/co* адмаўляцца; адракацца; адхрышчвацца *ад каго/чаго*; **2.** *уст.* адрабляцца; пазбаўляцца

**odży|ć** *зак.* [od-żyć] ажыць, аджыць; адрадзіцца; **kwiaty ~ły** кветкі ажылі

**odżywać** *незак.* [od-żywać] ажываць, аджываць; адраджацца

**odżywczy** [od-żywczy] пажыўны

**odżywiać** *незак.* [od-żywiać] карміць, жывіць; ~ **rośliny** падкормліваць расліны

**odżywiać się** *незак.* [od-żywiać się] харчавацца, карміцца, жывіцца

**odżywianie** *н.* [od-żywianie] харчаванне, кармленне, пажыўленне

**odżywić** *зак.* [od-żywić] адкарміць

**odżywić się** *зак.* [od-żywić się] адкарміцца

**odżywka** *ж.* [od-żywka] пажыўны (мацавальны) сродак; ~ **do włosów** мацавальны сродак для валасоў

**oenzetowski** аанаўскі; які належыць ААН

**ofensywa** *ж.* наступленне, наступ

**ofensywny** наступальны

**oferma** *ж.* *разм.* разява, разявака, няздара, цяльпук, цюхцяй

**oferować** *незак.* прапаноўваць

**ofert|a** *ж.* прапанаванне; прапанова; **~a pracy** прапанова працы; **złożyć ~ę** зрабіць прапанову

**ofertówka** *ж.* празрыстая папка з рэкламай фірмы

**ofiar|a** *ж.* **1.** ахвяра; **~a pożaru** ахвяра пажару; **paść ~ą intrygi** стаць (аказацца) ахвярай інтрыгі; **2.** ахвяра; ахвяпрапрынашэнне; **nieść ~y bogom** прыносіць ахвяры багам; **3.** ахвяраванне; **~a na pomnik** ахвяраванне на помнік; **składać (złożyć)** *co* **w ofierze** прыносіць (прынесці) *што* ў ахвяру; ахвяраваць *чым*

**ofiarnie** самаахвярна, самаадданa

**ofiarność** *ж.* самаахвярнасць, самаадданасць

**ofiarn|y** самаахвярны, самаадданы; **~a praca** самаадданая праца; ◊ **stać się kozłem ~ym** стаць ахвярным казлом

**ofiarodawca** *м.* ахвяравальнік

**ofiarodawczyni** *ж.* ахвяравальніца

**ofiarować** *зак.* ахвяраваць, прынесці ў падарунак

**ofiarowywać** *незак.* ахвяраваць, прыносіць ў падарунак

**oficer** *м.* афіцэр; ~ **zawodowy** кадравы афіцэр

**oficerki** *мн.* афіцэрскія боты

**oficersk|i** афіцэрскі; **szkoła ~a** ваенная акадэмія

**oficjalista** *м.* *уст.* канторшчык; чыноўнік

**oficjalnie** афіцыйна

**oficjaln|y** афіцыйны; **wizyta ~a** афіцыйны візіт

**oficjel** *м.* *разм.* **1.** афіцыйная асоба; **2.** *іран.* вялікая шышка; важная птушка

**oficyn|a** *ж.* флігель; прыбудова; **mieszkać w ~ie** жыць у флігелі

**ofuknąć** *зак.* *kogo* прыкрыкнуць *на каго*

**ogałacać** *незак.* *z czego* спусташаць, пустошыць; агаляць

**oganiać się** *незак.* *od kogo/czego*; *przed kim/czym* адмахвацца *ад каго*, адганяць *каго*

**ogar** *м.* ганчак (*сабака*)

**ogarek** *м.* агарак (*свечкі*); недакурак (*цыгарэты*)

**ogarn|ąć** *зак.* **1.** ахапіць, агарнуць; **~ąć spojrzeniem** ахапіць позіркам; **2.** абкружыць, абступіць; **3.** апанаваць; **rozpacz go ~ęła** апанавала роспач

**ogarnąć się** *зак.* *разм.* прыбрацца; прыстроіцца

**ogarniać** *незак.* **1.** ахопліваць; ~ *kogo/co* **wzrokiem (spojrzeniem)** ахопліваць *каго/што* позіркам (поглядам); **2.** акружаць, абкружаць; **3.** апаноўваць



**ogień** *м.* **1.** агонь; полымя; **rozpalić ~** распаліць агонь; **dolać oliwy do ognia** падліць масла ў агонь; **gotować na wolnym ogniu** гатаваць (варыць) на малым агні; **2.** *вайск.* агонь; страляніна; ~ **huraganowy** ураганны агонь; **dostać się między dwa ognie** *перан.* апынуцца паміж двух агнёў; **ognia!** *вайск.* агонь! (*каманда*); **przerwij ~!** спыніць агонь!; **3.** запал; тэмперамент; **ognie na niego wystąpiły** у яго кроў да твару прыліла; ◊ **słomiany ~** хвіліннае захапленне; **igrać z ogniem** гуляць з агнём; **wpaść jak po ~** заскочыць (забегчы) на хвілінку; **stanąć w ogniu** зачырванецца; абліцца чырванню; **sztuczne ognie** феерверк; **zimne ognie** бенгальскія агні; **krzyżowy ~ pytań** перакрыжаваны агонь пытанняў; **(gra w) dwa ognie** (гульня) у выбівалы; **on skoczyłby dla niej w ~** дзеля яе ён скочыў бы ў агонь

**ogier** *м.* жарабец

**ogipsować** *зак.* *мед.* накласці гіпс; загіпсаваць

**ogląd, ~u** *м.* агляд

**oglądać** *незак.* аглядаць

**oglądać się** *незак.* **1.** азірацца, аглядвацца; ~ **się za** *kim* азірацца на *каго*; **2.** спадзявацца, разлічваць; ~ **się na** *kogo перан.* разлічваць на *каго*

**oglądalność** *ж.* рэйтынг (*прагляду тэлеперадач*)

**oględnie** абачліва, асцярожна; **mówiąc ~** далікатна кажучы

**oględny** абачлівы, асцярожны

**oględziny** агляд; абследаванне; ~ **lekarskie** медагляд (медыцынскі агляд); ~ **zwłok** анатаміраванне трупа

**ogłada** *ж.* добрыя манеры; ~ **towarzyska** уменне трымаць сябе ў кампаніі

**ogłaszać** *незак.* абвяшчаць, аб'яўляць

**ogłosić** *зак.* абвясціць, аб'явіць

**ogłosze|nie** *н.* абвестка, аб'ява; **biuro ~ń** бюро аб'яў

**ogłuchły** аглохлы, аглохшы

**ogłuchnąć** *зак.* аглохнуць

**ogłupiać** *незак.* адураць, абдурваць, ачмураць, замарочваць

**ogłupiały** адурманены

**ogłupić** *зак.* абдурыць, адурыць

**ogłupieć** *зак.* **1.** аслупянець; **2.** падурнець

**ogłuszać** *незак.* аглушаць, аглушваць

**ogłuszający** аглушальны; ~ **huk** аглушальны грукат

**ogłuszyć** *зак.* аглушыць

**ognik** *м.* агеньчык, аганёк; **błędny ~** блукаючы агеньчык

**ogniotrwał|y** вогнетрывалы, незгаральны; **kasa ~a** незгаральная шафа

**ogniow|y** агнявы; **straż ~a** а) пажарная ахова; б) пажарная каманда

**ognisko** *н.* **1.** агонь, вогнішча, касцёр; **rozłożyć ~** раскласці агонь; **2.** *фіз.* фокус; **3.** горан; **4.** *перан.* ачаг, асяродак; ~ **choroby** ачаг (асяродак) хваробы; ~ **domowe** хатні ачаг (агмень); ~ **niepokoju** месца канфлікту; гарачы пункт

**ogniskować** *незак.* **1.** засяроджваць; канцэнтраваць; **2.** факусаваць

**ogniskować się** *незак.* засяроджвацца, канцэнтравацца, сканцэнтроўвацца

**ogniskow|y** **1.** ачаговы; **2.** *фіз.* фокусны; **3.** **~a** *ж.* *фот., фіз.* фокусная адлегласць

**ognisty** **1.** агнявы; **słup ~** агнявы слуп; **2.** *перан.* палкі, агністы, палымяны; **temperament ~** палымяны тэмперамент

**ogniście** палка, горача, палымяна

**ogniwo** *н.* **1.** крэсіва; **2.** звяно; ~ **łańcuszka** звяно ланцуга; **3.** *эл.* элемент; ~ **galwaniczne** гальванічны элемент

**ogolić** *зак.* пагаліць

**ogolić się** *зак.* пагаліцца

**ogolony** паголены; **starannie ~** чыста паголены

**ogołacać** *незак.* агаляць; спусташаць

**ogołocić** *зак.* агаліць; спустошыць

**ogołocony** аголены, абадраны; спустошаны

**ogon** *м.* **1.** хвост; **2.** *разм.* хвост; чарга; ◊ **wlec się w ~ie** цягнуцца ў хвасце; **dwie sroki za ~ trzymać** за двума зайцамі гнацца

**ogon|ek** *м.* **1.** хвосцік; **~ek liścia** *бат.* чаранок (*ліста*); **2.** чарга; **stać w ~ku** стаяць у чарзе
**ogoniasty** хвастаты
**ogonow|y** хваставы; **zupa ~a** суп з бычыных хвастоў; **kółko ~e** *ав.* хваставое кола; **kość ~a** *анат.* хвасцец
**ogorzałość** *ж.* загар, смугласць
**ogorzały** загарэлы, смуглы
**ogólniak** *м. разм.* агульнаадукацыйная школа
**ogólnie** наогул; увогуле; у агульных рысах; **~ biorąc** у цэлым; **~ mówiąc** наогул кажучы
**ogólnik** *м.* агульная фраза; збітая фраза; штамп
**ogólnikowy** павярхоўны
**ogólnokrajowy** у маштабе ўсёй краіны
**ogólnokształcący** агульнаадукацыйны
**ogólnoludzki** агульначалавечы
**ogólnonarodowy** агульнанацыянальны
**ogólnopaństwowy** агульнадзяржаўны
**ogólnozwiązkowy** агульнасаюзны
**ogólny** **1.** агульны; **2.** *эк.* сумарны, валавы
**ogół, ~u** *м.* **1.** агульнасць, сукупнасць; **~ mieszkańców** усе жыхары; **~ ludności** усё насельніцтва; **~ spraw** сукупнасць пытанняў; **2.** грамадства; **szeroki ~** шырокія колы грамадства; **zdanie ~u** грамадская думка; **dobro ~u** агульнае дабро; ◊ **w ogóle** наогул; увогуле; у цэлым; **na ~** наогул; увогуле; у цэлым; **~em** разам, усяго; наогул
**ogórek** *м.* агурок; **~ kiszony** салёны агурок
**ogórkow|y** агуркавы; **zupa ~a** расольнік; ◊ **sezon ~y** *перан.* мёртвы сезон
**ograbić** *зак.* абрабаваць
**ograć** *зак.* абыграць, абгуляць; ◊ **~ do suchej nitki** абыграць да ніткі
**ogradzać** *незак.* абгароджваць, агароджваць
**ograniczać** *незак.* абмяжоўваць
**ograniczać się** *незак.* абмяжоўвацца
**ograniczeni|e** *н.* абмежаванне; **~e prędkości** абмежаванне хуткасці; **~e umysłowe** разумовая абмежаванасць; **eksport bez ~a** экспарт без абмежавання; **~a eksportowe** абмежаванне экспарту
**ograniczoność** *ж.* абмежаванасць, вузкасць; **~ poglądów** вузкасць поглядаў
**ograniczony** абмежаваны; **człowiek ~** *перан.* абмежаваны чалавек, чалавек з абмежаваным кругаглядам
**ograniczyć** *зак.* абмежаваць; **~ wydatki** абмежаваць расходы
**ograniczyć się** *зак.* абмежавацца
**ograny** зацяганы; банальны
**ogrodnictwo** *н.* **1.** садаводства; **2.** (а)гародніцтва; **~ warzywne** агародніцтва; *гл.* **sadownictwo**
**ogrodniczka** *ж.* **1.** садоўніца; **2.** (а)гародніца
**ogrodnicz|y** **1.** садоўніцкі; **2.** агародніцкі; **narzędzia ~e** а) садоўніцкія прылады; б) агародніцкія прылады
**ogrodnik** *м.* **1.** садоўнік; **2.** агароднік
**ogrodowizna** *ж.* (а)гародніна
**ogrodow|y** **1.** садовы; **2.** агародны; **ziemia ~a** зямля, прыдатная для агарода ці сада
**ogrodzenie** *н.* агароджа
**ogrodzić** *зак.* абрагадзіць
**ogrom, ~u** *м.* веліч, вялікасць; **~ miasta** веліч горада; **~ wiadomości** веліч ведаў; **~ nieszczęść** страшнае гора
**ogromnie** вельмі, надта, надзвычай
**ogromność** *ж.* велічэзнасць, велізарнасць, бязмернасць
**ogromny** вялізны, велічэзны, велізарны
**ogr|ód, ~odu** *м.* **1.** сад; **~ód owocowy** фруктовы сад; **~ód warzywny** агарод; **zimowy ~ód** зімовы сад; **wiszące ~ody** вісячыя сады; **2.** парк; сад; **~ód botaniczny** батанічны сад; **~ód zoologiczny** заапарк; *гл.* **sad**
**ogródek** *м.* **1.** садок, садочак; **2.** *уст.* летні рэстаран (кавярня) у садзе; **~ jordanowski** дзіцячая пляцоўка; **~ działkowy** садова-агародная дзялка
**ogród|ka** *ж. уст.* загарадка; плот; агароджа; ◊ **mówić** *со* **bez ~ek** казаць *што* проста, без хітрыкаў
**ogrywać** *незак.* абыгрываць, абгульваць
**ogryzać** *незак.* абгрызаць
**ogryzek** *м.* абгрызак



**ogryźć** *зак.* абгрызці
**ogrzać** *зак.* **1.** абагрэць, сагрэць; **2.** ацяпліць, апаліць, абагрэць
**ogrzać się** *зак.* сагрэцца
**ogrzewać** *незак.* **1.** абаграваць, саграваць; **2.** ацяпляць
**ogrzewanie** *н.* **1.** награванне, саграванне; **2.** ацяпленне; **centralne ~** цэнтральнае ацяпленне
**ogrzewniczy** награвальны
**ogumienie** *н.* гумавая пакрышка; шына
**oheblować** *зак.* абгабляваць, згабляваць
**oho!** ого!
**ohyda** *ж.* агіда, агіднасць, гідота
**ohydnie** агідна, паскудна, гідка
**ohydny** агідны, паскудны, гідкі
**oj!** ой!
**ojciec** *м.* **1.** бацька; **~ chrzestny** хросны бацька; **wdać się w ojca** удацца ў бацьку; **ojcowie miasta** *перан.* бацькі горада; **2.** *перан.* заснавальнік, бацька; **Bogusławski, ~ teatru polskiego...** Багуслаўскі, бацька польскага тэатра...; **3.** (*форма звароту да духоўных асоб*) айцец, бацюшка; **~ święty** рымскі папа; **4.** (*форма звароту да старэйшых асоб*) бацька
**ojcostwo** *н.* бацькоўства
**ojcowizna** *ж.* вотчына
**ojcowsk|i** **1.** бацькаўскі (*які належыць бацьку*); **2.** бацькоўскі; **po ~u** па-бацькоўску
**ojczym** *м.* айчым
**ojczysty** родны; **język ~** родная мова
**ojczyzna** *ж.* айчына, бацькаўшчына, радзіма
**okadzać** *незак.* акурваць
**okalać** *незак.* акружаць, абкружаць
**okaleczyć** *зак.* знявечыць, скалечыць
**okamgnieni|e** *н.* імгненне; **w ~u** у імгненне вока, у адзін момант
**okamieniały** акамянелы
**okamienieć** *зак.* акамянець
**okap, ~u** *м.* **1.** прыстрэшак, падстрэшша; капеж; **2.** выцяжны каўпак над плітой; выцяжка
**okarmić** *зак.* адкарміць, перакарміць
**okaryna** *ж. муз.* акарына
**okastrować** *зак.* вылегчаць
**okaz, ~u** *м.* **1.** прадстаўнік; экзэмпляр; **rzadki ~** рэдкі экзэмпляр; **2.** узор; увасабленне; **~ zdrowia** увасабленне здароўя; **~ głupoty** увасабленне дураты; поўны дурань
**okazać** *зак.* **1.** аказаць; праявіць, выявіць; **~ pomoc** аказаць дапамогу; **~ współczucie** праявіць спачуванне; **~ talent** выявіць талент; **2.** паказаць, прад'явіць
**okazać się** *зак.* аказацца, выявіцца; **okazało się, że ...** аказалася (выявілася; высветлілася), што...; **to się dopiero okaże** пабачым; будзе відаць
**okazale** пышна, велікапышна, надзвычайна
**okazałoś|ć** *ж.* пышнасць, велікапышнасць; **w całej ~ci** ва ўсёй пышнасці
**okazały** пышны, велікапышны; самавіты
**okaziciel** *м.* прад'яўнік, паказчык; **czek na ~a** чэк з выплатай на прад'яўніка
**okazj|a** *ж.* выпадак; **przy ~i** калі будзе выпадак, пры нагодзе; дарэчы; **skorzystać z ~i** выкарыстаць (скарыстаць) нагоду (выпадак; магчымасць); **przepuścić ~ę** не выкарыстаць нагоду (выпадак; магчымасць)
**okazow|y** **1.** узорны, прыкладны, рэкламны; **2.** тыповы; **~ przykład** тыповы прыклад; ◊ **egzemplarz ~y** абавязковы экзэмпляр; **bydło ~e** паказная (выстаўная) жывёла
**okazyjnie** выпадкова; пры нагодзе
**okazyjn|y** выпадковы; **sprzedaż ~a** продаж выпадковых рэчаў (*па паніжаных коштах*); **cena ~a** выпадковая цана
**okazywać** *незак.* **1.** аказваць; праяўляць, выяўляць; **~ zainteresowanie** выказваць зацікаўленасць; **2.** паказваць; прад'яўляць
**okazywać się** *незак.* аказвацца
**okiełzać** *зак.* **1.** забрытаць, надзець аброць; закілзаць; зацугляць; зануздаць; **2.** *перан.* утаймаваць
**okiełznać** *зак.*; *гл.* **okiełzać**
**okienko** *н.* акенца

**okiennica** *ж.* аканіца
**okienny** аконны
**okiść** *ж.* лядзяш
**oklaski** *мн.* воплескі, апладысменты
**oklaskiwać** *незак.* пляскаць, апладзіраваць
**okleić** *зак.* абклеіць
**oklejać** *незак.* абклейваць
**oklep: na** ~ (*ехаць*) без сядла
**oklepany** збіты, шаблонны; ~ **frazes** шаблонная (збітая) фраза
**okład, ~u** *м.* кампрэс, прыпарка; ◊ **z ~em** з гакам, з лішнім, з лішкам, звыш; з хвосцікам; **ma 60 lat z ~em** яму шэсцьдзесят гадоў з хвосцікам
**okładać** *незак.* абкладаць, абкладваць; ~ **podatkiem** абкладаць падаткам; ~ **kijem** лупцаваць (біць) палкаю
**okładka** *ж.* **1.** вокладка; **sztywna** ~ цвёрдая вокладка; **2.** абшыўка
**okładzina** *ж.* абліцоўка, абліцовачны матэрыял
**okłamać** *зак.* ашукаць, падмануць; ~ **władze szkolne** ашукаць школьнае кіраўніцтва
**okłamywać** *незак.* ашукваць, падманваць; ~ **samego siebie** падманваць самога сябе
**okn|o** *н.* акно; **z ~a wyglądały kwiaty** на акне былі відаць вазоны; **~o wystawowe** вітрына; ◊ **~o na świat** акно ў свет; **wyrzucać pieniądze przez ~o** кідаць грошы на вецер
**ok|o** *н.* **1.** вока; **piwne oczy** карыя вочы; **spuścić oczu** апусціць вочы; **oczami świecić** лыпаць вачыма;**2.** (*пра тлушч у супе*) бліскаўка; **3.** (*у панчосе, сетцы*) вочка; ◊ **rzucić ~iem** кінуць позірк; **widzieć gołym ~iem** бачыць простым вокам; **~o w ~o** твар у твар; **mieć** *kogo* **na ~u** не спускаць вока *з каго*, сачыць *за кім*; **spod ~a** спадылба; на вока; **jak ~iem sięgnąć** як вокам ахапіць; **na pierwszy rzut ~a** на першы погляд (позірк); **ciemno choć ~o wykol** цемра, хоць вока выкалі; **~iem znawcy** вокам знаўцы (прафесіянала); **na piękne oczy**; **na ~o** на вока; прыблізна; **mydlenie ~u** ашуканства; **pod** *czyim* **~iem** пад *чыім* наглядам; **w cztery oczy** з вока на вока; сам на сам; **w oczach** на вачах; **w oczach prawa** перад законам; **kłamać w żywe oczy** хлусіць проста ў вочы (твар); **z zamkniętymi oczami** з заплюшчанымі вачыма; **cieszyć ~o** радаваць вока; **pójść gdzie oczy poniosą** пайсці, куды ногі панясуць; **mieć dobre ~o** мець трапны погляд; быць назіральным (пільным); **Pi razy ~o** *разм.* на вока; прыблізна; **zejdź mi z oczu!** знікні з вачэй!; ідзі адсюль!; **zrobiło mi się ciemno przed oczami** у мяне пацямнела ў вачах; **co z ~u, to z serca** з вачэй сышоў і з памяці зваліўся
**okocić się** *зак.* акаціцца
**okolic|a** *ж.* **1.** ваколіца, наваколле; **~e podmiejskie** прыгарадныя мясцовасці; **2.** мясцовасць; **piękna ~a** прыгожая мясцовасць; **mieszkać w ~y** жыць паблізу (блізка); **ból w ~y serca** боль у вобласці сэрца
**okolicznik** *м. грам.* акалічнасць
**okolicznikowy** *грам.* акалічнасны
**okolicznościowy** адпаведны акалічнасці (сітуацыі); **wygłosić przemówienie ~e** сказаць адпаведную сітуацыі прамову
**okolicznoś|ć** *ж.* акалічнасць; абставіны; **~ci łagodzące** *юр.* змякчальныя абставіны; **~ci obciążające** абцяжарвальныя абставіны; **zbieg ~ci** збег акалічнасцей; **w tych ~ciach** пры гэтых абставінах (умовах)
**okoliczny** навакольны, блізкі
**około**[1] вакол, навокал, навакол, наўкола; **biegać ~ stołu** бегаць навокал стала
**około**[2] каля, ля, прыблізна; **było ~ stu osób** было каля ста чалавек; **czekam ~ dwóch godzin** чакаю каля дзвюх гадзін (прыблізна дзве гадзіны)
**okoń** *м. заал.* акунь (*Perca*)
**okop, ~u** *м.* акоп
**okopać** *зак.* абкапаць; абагнаць (*бульбу*); акучыць
**okopać się** *зак.* акапацца
**okopcić** *зак.* закурыць, закуродыміць



**okopcony** закураны
**okopow|y 1.** *вайск.* акопны, траншэйны; **2.** *с.-г.* **rośliny ~e** прапашныя расліны; абганяльныя расліны
**okopywać** *незак.* абкопваць; абганяць (*бульбу*); акучваць
**okopywać się** *незак.* акопвацца
**okopywanie** *н.* абкопванне; абганянне; акучванне
**okostn|a** *ж. анат.* надкосніца; **zapalenie ~ej** запаленне надкосніцы
**okowita** *ж.* сівуха; гарэлка
**okowy** *мн.* аковы; путы; кайданы
**okólnik** *м.* цыркуляр
**okóln|y** акружны; **~ą drogą** акружной дарогай; **linia ~a** кальцавая лінія (трамвая); **pismo ~e** цыркуляр
**okpić** *зак.* абдурыць; **dać się** ~ даць сябе абдурыць
**okpiwać** *незак.* абдурваць
**okradać** *незак.* абкрадаць, абкрадваць
**okrajać** *зак.* **1.** абрэзаць; **2.** *перан.* урэзаць
**okrakiem: siąść** ~ сесці верхам; **stanąć** ~ стаць, расставіўшы ногі
**okrasa** *ж.* **1.** прыправа; акраса; тлушч (*пакладзены ў страву*); **2.** упрыгажэнне, аздабленне, аздоба
**okrasić** *зак.* **1.** прыправіць; пакласці ў страву тлушч; **2.** упрыгожыць, аздобіць
**okraszać** *незак.* прыпраўляць, класці тлушч у страву
**okraść** *ж.* абакрасці, абкрасці
**okratować** *зак.* абгарадзіць кратамі
**okrawać** *незак.* абразаць, абрэзваць, уразаць, урэзваць; кроіць; памяншаць
**okrawek** *м.* абрэзак
**okr|ąg, ~ęgu** *м.* **1.** *мат.* акружнасць; **2.** акруга; **~ąg wyborczy** выбарчая акруга; **~ąg przemysłowy** прамысловая акруга
**okrąglak** *м.* **1.** кругляк; **2.** круглы будынак; круглая плошча
**okrągłość** *ж.* круглясць
**okrągły** круглы; ◊ **~e zero** поўны нуль; **~a rocznica (data )** круглая гадавіна (дата)
**okrążać** *незак.* **1.** акружаць; **2.** абводзіць
**okrążenie** *н.* акружэнне
**okrążyć** *зак.* **1.** акружыць, абкружыць; ~ **nieprzyjaciela** акружыць ворага; **2.** абвесці; ~ **cyrklem** абвесці цыркулем
**okres, ~u** *м.* **1.** перыяд; этап; тэрмін; ~ **czasu** прамежак часу; ~ **gwarancji** гарантыйны тэрмін; ~ **ochronny** перыяд, калі забаронена паляваць; ~ **urzędowania** працоўны час; ~ **wahadła** *фіз.* перыяд хістання маятніка; **2.** чвэрць (*навучальнага года*)
**okresowość** *ж.* перыядычнасць
**okresowy** перыядычны; **ułamek** ~ *мат.* перыядычны дроб; ~ **układ pierwiastków** *хім.* перыядычная сістэма элементаў
**określać** *незак.* акрэсліваць
**określenie** *н.* акрэсленне
**określić** *зак.* акрэсліць; **z góry** ~ загадзя акрэсліць
**określon|y** акрэслены, азначаны; **udać się na ~e miejsce** пайсці на акрэсленае (вызначанае) месца; **przedimek ~y** *грам.* азначальны артыкль
**okręcać** *незак.* абвіваць, абкручваць, заварочваць
**okręcić** *зак.* абвіць, абкруціць
**okręg, ~u** *м.*; *гл.* **okrąg**
**okręgowy** акруговы
**okręt, ~u** *м.* карабель, судна; ~ **wojenny** ваенны карабель; ~ **podwodny** падводная лодка; ~ **transportowy** транспартнае судна; **rozbicie ~u** караблекрушэнне
**okrętow|y** карабельны; **warsztaty ~e** суднабудаўнічыя майстэрні; **dziennik ~y** суднавы журнал; **lina ~a** карабельны канат
**okrężn|y** акружны, кружны, вакольны; **~ą drogą** а) кружной дарогай; б) *перан.* вакольным шляхам; **wystawa ~a** перасовачная выстава (выстаўка)
**okroić** *незак.* **1.** абрэзаць; **2.** урэзаць, паменшыць; ~ **zarobki** паменшыць заработную плату
**okropnie** жахліва, жудасна; **wygląda (czuje się)** ~ яна (ён) жахліва выглядае (сябе адчувае)

**okropność** *ж.* жах, жудасць
**okropny** жахлівы, жудасны
**okruch** *м.* **1.** крошка; ~ **chleba** крошкі хлеба; **2.** абломак; ~**y rudy** кавалкі руды
**okrucieństwo** *н.* лютасць
**okruszyna** *ж.* крошка
**okrutnica** *ж.* вылюдак (*жанчына*); мучыцелька
**okrutnie** люта
**okrutnik** *м.* вылюдак, мучыцель
**okrutny** люты, бязлітасны
**okrwawić** *зак.* скрывавіць
**okrwawiony** скрываўлены
**okrycie** *н.* **1.** пакрыццё, накрыўка, покрыўка; **2.** верхняя вопратка
**okryć** *зак.* накрыць
**okry|ć się** *зак.* **1.** накрыцца; ~**ć się kołdrą** накрыцца коўдраю; **2.** пакрыцца; **ziemia ~ła się śniegiem** зямля пакрылася снегам; ~**ć się sławą** *перан.* пакрыць сябе славаю
**okryty** накрыты, пакрыты
**okrywać** *незак.* пакрываць, прыкрываць; ~ *kogo* **hańbą (sławą)** пакрываць *каго* ганьбай (славай)
**okrywać się** *незак.* **1.** накрывацца; **2.** пакрывацца; ~ **się żałobą** пакрывацца жалобай
**okrzepnąć** *зак.* **1.** памацнець, узмацнець, падужэць, зрабіцца больш моцным (дужым); **2.** застыць, зацвярдзець
**okrzesać** *зак.* **1.** абсекчы, абсячы; абчасаць; **2.** адшліфаваць; **3.** *перан.* навучыцца паводзіць сябе
**okrzesany** **1.** ачасаны, абчасаны; **2.** адшліфаваны
**okrzyczan|y** нашумелы; які карыстаецца гучнай славай; гучны; ~**a historia** гучная гісторыя
**okrzyk, ~u** *м.* воклiч, крык; ~ **radości** вокрык радасці; **zwycięski** ~ пераможны воклiч; **witać ~ami** вітаць воклічам
**okrzyknąć** *зак.* абвясціць; назваць; абазваць; ~ *kogo* **królem** абвясціць *каго* каралём; ~ *kogo* **zdrajcą** назваць *каго* здраднікам

**oktanow|y** *хім.* актанавы; **liczba (zawartość) ~a** актанавы лік
**oktaw|a** *ж.* **1.** *муз.* актава; **2.** восьмы дзень; **w ~ę** на восьмы дзень
**okuci|e** *н.* акоўка; ~**a okienne** аконная арматура
**okuć** *зак.* акаваць; скаваць; закаваць ~ **w kajdany** закаваць (закуць) у кайданы
**okularnik** *м.* **1.** *заал.* кобра, змяя-акулярніца (*Naja naja*); **2.** *пагард.* акулярнік; **3.** *уст.* оптык (*майстар*)
**okulary** акуляры; ~ **(przeciw)słoneczne** цёмныя акуляры; ◊ **przez różowe ~** праз ружовыя акуляры
**okulawić** *зак.* зрабіць кульгавым; ~ **konia** зрабіць каня кульгавым
**okulawieć** *зак.*; *гл.* **okuleć**
**okulbaczyć** *зак.* асядлаць
**okuleć** *зак.* закульгаць, закульгавець, стаць кульгавым
**okulista** *м.* акуліст
**okulistyczny** афтальмалагічны
**okulistyka** *ж.* афтальмалогія
**okulizacja** *ж.* *с.-г.* акуліроўка, прышчэпліванне
**okulizować** *незак.* *с.-г.* акуліраваць, прышчэпліваць
**okup, ~u** *м.* выкуп; **złożyć ~** унесці выкуп
**okupacja** *ж.* **1.** акупацыя; **2.** *юр.* незаконны захоп *чаго*
**okupacyjny** акупацыйны; **strajk** ~ забастоўка з заняццем памяшкання
**okupant** *м.* акупант; захопнік
**okupi|ć** *зак.* заплаціць (*за што*); акупіць; **złotem ~ć milczenie** заплаціць золатам за маўчанне; **drogo ~ć pokój** дорага заплаціць за мір; ~**ł to życiem** ён заплаціў за гэта жыццём
**okupić się** *зак.* **1.** выкупіцца, адкупіцца; ~ **się napastnikom** адкупіцца ад рабаўнікоў; **2.** накупляць; ~ **się w narzędzia gospodarskie** накупляць гаспадарчых прылад
**okupować** *зак.* акупіраваць, акупаваць
**okupywać** *незак.* акупляць
**okupywać się** *незак.* выкупляцца, адкупляцца, акупляцца



**okurzać** *незак.* змахваць (сціраць) пыл
**okurzyć** *зак.* **1.** змахнуць (сцерці) пыл; **2.** задыміць, закурыць пылам
**okuwać** *незак.* акоўваць; скоўваць, закоўваць
**okwiat, ~u** *м.* *бат.* калякветнік
**okwitać** *незак.* адцвітаць
**okwitanie** *н.* адцвітанне
**okwitły** які адцвіў
**okwitnąć** *зак.* адцвісці
**olbrzym** *м.* волат, гігант, велікан
**olbrzymi** велізарны, гіганцкі; ~**e znaczenie** вялікае значэнне
**olcha** *ж.* *бат.* вольха (*Alnus*)
**olchowy** альховы
**oleander** *м.* *бат.* алеандр (*Nerium L.*)
**oleist|y** алеісты; **rośliny ~e** алеістыя расліны
**olej, ~u** *м.* алей; масла; ~ **konopowy** канапляны алей; ~ **maszynowy** аліва, змазачнае масла; ~ **samochodowy** аўтол; ~ **fuzlowy** сівушнае масла; ◊ **mieć ~ w głowie** быць недурным (кемлівым)
**olejarnia** *ж.* алейня
**olej|ek, ~ku** *м.* масла; крэм; ~**ek eteryczny** эфірнае масла; ~**ek do opalania** крэм для загару
**olejn|y** алейны; **farby ~e** алейныя фарбы
**oleodruk, ~u** *м.* алеаграфія
**oligarchia** *ж.* алігархія
**oligarchiczny** алігархічны
**olimpiada** *ж.* алімпіяда
**olimpijczyk** *м.* алімпіец
**olimpijski** алімпійскі; **igryska ~e** алімпійскія гульні
**olinowanie** *н.* *мар.* такелаж
**oliw|a** *ж.* аліва; аліўкавы алей; ◊ ~**a zawsze na wierzch wyjdzie** праўда заўсёды наверх выйдзе; **dolać ~y do ognia** падліць алею ў агонь
**oliwiarka** *ж.* *тэх.* маслёнка
**oliwić** *незак.* *тэх.* змазваць, падмазваць (*алівай часткі машыны*)
**oliwka** *ж.* **1.** *бат.* аліва (*Olea europaea L.*); **2.** (*плод*) аліўка; масліна
**oliwkowy** аліўкавы; **kolor** ~ аліўкавы колер
**oliwn|y** аліўкавы; **gaj ~y** аліўкавы гай; ◊ **gałązka ~a** аліўкавая галінка

**olstro** *н.* кабура (*у сядле*)
**olsza** *ж.*; *гл.* **olcha**
**olszyna** *ж.* альховы гай; алешнік
**olśni|ć** *зак.* **1.** асляпіць, уразіць бляскам; **blask słońca ~ł mi oczy** бляск сонца асляпіў мне вочы; **2.** захапіць, зачараваць; ~**ła wszystkich pięknością** яна зачаравала ўсіх красою (прыгажосцю; хараством)
**olśnienie** *н.* *перан.* **1.** захапленне, зачараванне; **2.** асвятленне, азарэнне; ~ **nagłym pomysłem** азарэнне нечаканай ідэяй
**olśniewający** захапляльны; чароўны
**olśniony** *перан.* захоплены, зачараваны; **jestem ~ tą propozycją** я захоплены гэтай прапановай
**ołowiany** свінцовы
**ołów, ołowiu** *м.* свінец
**ołów|ek** *м.* аловак; ~**ki kolorowe** каляровыя алоўкі; ~**ek automatyczny** механічны аловак; ~**ek do brwi** аловак для броваў
**ołówkowy** алоўкавы
**ołtarz** *м.* алтар; ◊ **pójść** *z kim* **do ~a** пайсці *з кім* да алтара; ажаніцца *з кім*; выйсці замуж *за каго*; **wynosić** *kogo* **na ~e** абагаўляць, узносіць, праслаўляць *каго*
**om** *м.* *эл.* ом
**omackiem** навобмацак; **po ~u** вобмацкам
**omal** *ужываецца з адмоўем:* **nie; że nie**; ледзьве, ледзь, амаль; ~ **nie wpadł pod tramwaj** ледзь не трапіў пад трамвай; ~ **że oczu mu nie wydrapała** ледзьве вачэй яму не выдрала; **to jest ~ że niemożliwe** гэта амаль немагчыма
**omam, ~u** *м.* **1.** галюцынацыя; **2.** спакуса
**omamić** *зак.* **1.** увесці ў зман, падмануць; **2.** спакусіць
**omamiony** **1.** падмануты; **2.** спакушаны, прывабленыя; ~ **perspektywą łatwego zarobku** спакушаны (прываблены) перспектывай лёгкага заробку; ~ **obietnicami** а) падмануты абяцаннямі; б) прываблены абяцаннямі
**omasta** *ж.*; *гл.* **okrasa 1**
**omasztowanie** *н.* *мар.* рангоўт

**omaścić** *зак.*; *гл.* **okrasić 1**
**omawiać** *незак.* абмяркоўваць, абгаворваць
**omawianie** *н.* абмяркоўванне, абгаворванне
**omdlały** самлелы, непрытомны
**omdleć** *зак.* самлець, абамлець, страціць прытомнасць
**omdlenie** *н.* непрытомнасць; страта прытомнасці
**omdlewać** *незак.* млець; траціць прытомнасць
**omen, ~u** *м.* прадказанне, прымета, знак; **zły ~** дрэнная прымета
**omiatać** *зак.* абмятаць
**omieszka|ć** *зак.* (*часцей з* **nie**) **nie ~ć** неадкладна зрабіць *што*; **nie ~ć załatwić** не зацягваць з выкананнем, зрабіць неадкладна; **nie ~m dać znać** неадкладна (адразу) паведамлю
**omieść** *ж.* абмесці; **~ co spojrzeniem** акінуць *што* позіркам
**omijać** *незак.* абмінаць, абыходзіць; **~ przepisy** абыходзіць правілы
**omin|ąć** *зак.* абмінуць, мінуць, абысці; **nie ~ie go kara** пакаранне яго не абміне
**omlet, ~u** *м. кул.* амлет
**omłot, ~u** *м.* умалот
**omłócić** *зак.* абмалаціць, змалаціць
**omnibus, ~u** *м.* амнібус
**omotać** *зак.* **1.** абматаць, абкруціць; **2.** *перан.* аблытаць
**omówić** *зак.* абмеркаваць, абгаварыць
**omówienie** *н.* абмеркаванне
**omraczać** *незак.* азмрочваць
**omroczyć** *зак.* азмрочыць
**omszały** абымшэлы; імшалы; **~ dąb** абымшэлы дуб
**omurować** *зак.* абмураваць
**omylić się** *зак.* памыліцца
**omylność** *ж.* памылковасць
**omylny** памылковы
**omyłk|a** *ж.* памылка; **~a drukarska** памылка друку; **popełnić ~ę** зрабіць памылку; памыліцца
**omyłkowo** памылкова
**on, ona, ono 1.** ён, яна, яно; **dlań** для яго; **zań** за яго; **odeń** ад яго; **nań** на яго; у яго; **2. jego, jej, ich** яго, яе, іх; **jego książka** яго кніжка; **ich brat** іх брат; **3. on, ona, ono** той, тая, тое; ◊ **onego czasu** *уст.* у той час
**onanizm, ~u** *м.* ананізм
**ondulacja** *ж.* завіўка (*валасоў*); **trwała ~** перманентная завіўка
**onegdaj** заўчора, пазаўчора
**ongi** *уст.*; *гл.* **ongiś**
**ongiś** *уст.* калі, калісь, некалі; *гл.* **kiedyś**
**oniemiały** анямелы, знямелы
**oniemieć** *зак.* анямець, знямець; **~ z zachwytu (przerażenia)** анямець ад захаплення (страху)
**onieśmielać** *незак.* бянтэжыць, збіваць з панталыку
**onieśmielić** *зак.* збянтэжыць, збіць з панталыку
**onieśmielony** збянтэжаны, збіты з панталыку
**onkologia** *ж. мед.* анкалогія
**onomatopeja** *ж. лінгв.* гукапераймание
**onuca** *ж.* ануча
**onucka** *ж.*; *гл.* **onuca**
**opactwo** *н.* абацтва
**opacznie** скажона; няправільна; няслушна; **zrozumieć co ~** няправільна зразумець *што*
**opaczny** няправільны
**opad, ~u** *м.* (*часцей мн.* **~y**) ападкі; **~y atmosferyczne** атмасферныя ападкі; **~ krwi** *мед.* асяданне эрытрацытаў
**opada|ć** *незак.* ападаць, спадаць; **~ć z sił** слабець; ◊ **ręce ~ją** рукі апускаюцца
**opak** наадварот; **wszystko się dzieje na ~** усё ідзе наадварот; **zrozumieć co na ~** зразумець *што* не так; няслушна зразумець *што*
**opakować** *зак.* упакаваць, запакаваць
**opakowanie** *н.* тара; упакоўка
**opakowywać** *незак.* упакоўваць, запакоўваць
**opal, ~u** *м. мін.* апал
**opalać** *незак.* **1.** абпальваць; **2.** апальваць, ацяпляць; **3.** *разм.* абкурваць; **~ kogo** курыць чужыя папяросы, абкурваць *каго*
**opalać się** *незак.* загараць; рудзець



**opalanie** *н.* ацяпленне
**opalenizna** *ж.* загар
**opał, ~u** *м.* **1.** паліва, апал; **2.** ацяпленне; **do wynajęcia pokój ze światłem i ~em** здаецца ў наём пакой з асвятленнем і ацяпленнем; **3. ~y** *мн.* турботы; ◊ **znaleźć się w ~ach** трапіць у пераплёт
**opałow|y** паліўны; **drzewo ~e** дровы
**opamiętać się** *зак.* апамятацца; апрытомнець
**opamiętani|e: bez ~a** нястрымана; без памяці
**opamiętywać się** *незак.* прыходзіць ў сябе
**opancerzać** *незак.* браніраваць
**opancerzenie** *н.* браня
**opancerzony** браніраваны
**opancerzyć** *зак.* закаваць у браню; браніраваць
**opanowa|ć** *зак.* **1.** *kogo/co* авалодаць *кім/чым*; захапіць; скарыць *каго/што*; **~ć miasto** захапіць горад; **~ć sytuację** авалодаць сітуацыяй; **2.** *co* утаймаваць; уціхамірыць; задушыць; стрымаць; **~ć żywioł** утаймаваць стыхію; **nie móc ~ć radości** не магчы стрымаць радасць; **3.** *kogo* апанаваць, авалодаць *кім*; ахапіць *каго*; **~ł kogo strach** страх апанаваў *каго*; **4.** засвоіць; авалодаць; **~ obcy język** вывучыць замежную мову; **~ć nową metodę produkcji** авалодаць новым метадам вытворчасці
**opanować się** *зак.* стрымацца; авалодаць сабой
**opanowanie** *н.* **1.** авалоданне; захоп; скарэнне; **~ przyrody** скарэнне прыроды; **2.** стрыманасць, самавалоданне; **3.** асваенне; засваенне
**opanowany 1.** захоплены, заваяваны; **2.** асвоены; засвоены; **3.** стрыманы; які валодае сабою
**opanowywać** *незак.* **1.** *co* аваладваць *чым*; захопліваць; скараць *што*; **2.** утаймоўваць; уціхамірваць; стрымліваць; **3.** апаноўваць; ахопліваць; аваладваць; **4.** засвойваць; аваладваць
**opanowywać się** *незак.* аваладваць сабой; стрымлівацца
**opar, ~u** *м.* **1.** туман, імгла; **2. ~y** *мн.* выпарэнні
**oparci|e** *н.* **1.** апора; **punkt ~a** пункт апоры; **w ~u o ...** абапіраючыся на ..., зыходзячы з ...; **2.** спінка (*у мэблі*)
**oparzać** *незак.* апарваць
**oparzelizna** *ж.*; *гл.* **oparzenie**
**oparzenie** *н.* апёк; **~ drugiego stopnia** апёк другой ступені
**oparzony** апараны; абвараны; ◊ **jak ~** як агню ўхапіўшы; як варам абліты; **zerwał się jak ~** як з ланцуга сарваўся
**oparzyć** *зак.* апарыць; абварыць
**oparzyć się** *зак.* апарыцца; абварыцца; **~ się w palec** абварыць сабе палец
**opas**[1]**, ~u** *м. уст.* агароджа
**opas**[2] *м.* **1. ~u** адкормка; **2.** кормнік; кормны парсюк
**opasać**[1] *незак.* адкормліваць
**opasa|ć**[2] *зак.* аперазаць; абвесці, акружыць; **lasy ~ły miasto** *перан.* лясы акружылі (аперазалі) горад
**opasać się** *зак.* аперазацца, падперазацца
**opaska** *ж.* **1.** павязка; пясок; **~ biodrowa** набедраная павязка; **~ uciskowa** *мед.* жгут; **~ żałobna** жалобная павязка на руку; чорная стужка; **2.** бандаж; **3.** бандэроль
**opasły** тлусты; тоўсты
**opasywać** *незак.* апярэзваць, абводзіць, акружаць
**opasywać się** *незак.* падпярэзвацца, апярэзвацца
**opa|ść** *зак.* **1.** спасці, убыць; **woda ~dła** вада спала; **2.** апасці, апусціцца; **mgła ~dła** апусцілася імгла; **~dło mnie przeczucie** у мяне з'явілася прадчуванне
**opat** *м.* абат; настаяцель, ігумен
**opatentować** *зак.* узяць патэнт
**opatrun|ek, ~ku** *м.* перавязка
**opatrunkowy** перавязачны; **punkt ~** перавязачны пункт
**opatrywać** *незак.* **1.** перавязваць, рабіць перавязку; **2.** забяспечваць
**opatrzenie** *н. уст.* дапамога беднаму

**opatrznościowy: mąż** ~ *кніжн.* пасланец неба (лёсу); прызначаны вышэйшай сілай; збаўца
**opatrzność** *ж.* вышэйшая воля, вышэйшая сіла; божае наканаванне
**opatrzyć** *зак.* **1.** агледзець; зрабіць перавязку; **2.** забяспечыць; падрыхтаваць; ~ **okna na zimę** падрыхтаваць вокны да зімы; **3.** *уст.* дапамагчы беднаму
**opchać** *зак. разм.* абкарміць; напхаць; *перан.* нашпігаваць
**opchać się** *зак. разм.* напхацца, напхаць жывот; наесціся; нажэрціся
**opchnąć** *зак. жарг.* **1.** з'есці; зжэрці; **2.** (*прадаць*) загнаць; збыць
**opcja** *ж.* **1.** *гандл.* апцыён; **2.** *юр.* выбар грамадзянства, аптацыя
**oper|a** *ж.* опера; **napisać (wystawić)** ~**ę** напісаць (паставіць) оперу; ◊ **istna ~a!** сапраўдная камедыя!
**operacj|a** *ж.* аперацыя; **~a plastyczna** *мед.* пластычная аперацыя; **~e bankowe** банкаўскія аперацыі; **~e depozytowe** дэпазітныя аперацыі; **~e oszczędnościowe** укладныя аперацыі
**operacyjny** аперацыйны; **stół** ~ аперацыйны стол
**operator** *м.* аператар
**operatywność** *ж.* аператыўнасць
**operatywny** аператыўны
**operetka** *ж.* аперэтка
**operetkowy** аперэтачны
**operować** *незак.* **1.** апераваць; **2.** *эк.* выконваць аперацыю
**operowy** оперны
**opędzać** *незак.* адганяць, зганяць; ~ **muchy** адганяць мух
**opędzać się** *незак.* адмахвацца; адганяць ад сябе; адвязвацца *ад каго*; ~ **się od much** адганяць ад сябе мух
**opędzić** *зак.* **1.** адагнаць; **2.** задаволіць; ~ **najpilniejsze potrzeby** *разм.* задаволіць найбольш пільныя патрэбы
**opędzić się** *зак.* адагнаць ад сябе; адбіцца; **nie móc się** ~ **przed interesantami** не мець сіл адбіцца ад наведнікаў
**opęta|ć** *зак.* **1.** аблытаць; **2.** *перан.* авалодаць, апанаваць; ◊ **diabeł go ~ł** у яго ўсяліўся д'ябал
**opętanie** *н.* шаленства, раз'юшанасць; апантанасць
**opętaniec** *м.* шаленец
**opętan|y** **1.** ашалелы, звар'яцелы; **jak ~y** як ашалелы; **2.** апантаны; апанаваны; **~y jedną tylko myślą** апантаны толькі адной думкаю; **kobieta ~a** клікуша
**opiąć** *зак.* **1.** абцягнуць; абхапіць; **2.** аплесці; абапяць
**opić się** *зак.* апіцца, абпіцца; ~ **się wody** апіцца вадою
**opiec** *зак.* абсмажыць
**opieczętować** *зак.* апячатаць
**opie|ka** *ж.* апека; клопат; ахова; **~ka społeczna** сацыяльнае забеспячэнне; ◊ **zostawić na ~ce boskiej** пакінуць на волю лёсу
**opiekać** *незак.* абсмажваць
**opiekać się** *незак.* **1.** абсмажвацца; **2.** *жарт.* смажыцца, пячыся (*на сонцы*)
**opiekanie** *н.* абсмажванне
**opiekany** падсмажаны; абсмажаны
**opiekować się** *незак. kim/czym* апекавацца *кім/чым*; клапаціцца *пра каго/што*
**opiekun** *м.* **1.** абаронца; заступнік; **2.** апякун; ~ **społeczny** грамадскі апякун
**opiekunka** *ж.* **1.** абаронца; заступніца; **2.** апякунка
**opiekuńczy** **1.** клапатлівы; заступніцкі; **2.** апякунскі
**opiekuństwo** *н.* апякунства
**opieprzyć** *зак.* **1.** наперчыць; **2.** *разм.* вылаяць; даць наганяй; даць прачуханку
**opierać**[1] *незак.* **1.** абапіраць, апіраць; **2.** абгрунтоўваць; матываваць
**opierać**[2] *незак. разм.* **1.** абмываць; **2.** калаціць
**opierać się** *незак.* **1.** абапірацца, апірацца; **2.** абапірацца на *каго*; знаходзіць апору *ў кім*; **3.** засноўвацца; грунтавацца; **4.** супраціўляцца
**opierzchnąć** *зак.* патрэскацца; абсіверыцца
**opierzenie** *н.* апярэнне
**opierzyć się** *зак.* аперыцца



**opieszale** **1.** павольна; вяла; **2.** нядбайна, нядбала; **pracować** ~ нядбала працаваць
**opieszałość** *ж.* **1.** маруднасць; **2.** нядбайнасць, нядбаласць
**opieszały** **1.** марудлівы; млявы; **2.** нядбайны; лянівы
**opiewa|ć** *незак. кніжн.* **1.** апяваць; славіць; **~ć przeszłość narodu** апяваць мінулае народа; **2.** складаць; мець; **rachunek ~ na sto złotych** рахунак складае сто злотых
**opięty** вузкі, у абцяжку, у аблiпку
**opilczy:** *мед.* **obłęd** ~ белая гарачка
**opilstw|o** *н.* п'янства; ап'яненне; **w stanie ~a** у стане ап'янення; у п'яным стане
**opiłki** *мн.* пілавінне; апілкі
**opiłować** *зак.* апілаваць, абпілаваць
**opinać** *незак.* абцягваць
**opini|a** *ж.* **1.** думка, погляд; ~ **publiczna** грамадская думка; **2.** рэпутацыя; **cieszyć się dobrą ~ą** мець добрую рэпутацыю
**opiniodawca** *м.* **1.** эксперт; **2.** той, хто дае рэкамендацыю
**opiniodawcz|y** рэкамендацыйны; **komisja ~a** экспертная камісія
**opiniować** *незак.* выказваць сваю думку (погляд)
**opis, ~u** *м.* апісанне; выява; ~ **techniczny** тэхнічнае апісанне; інструкцыя
**opisać** *зак.* апісаць; **tego się nie da** ~ гэта нельга (немагчыма; цяжка) апісаць
**opisowy** апісальны
**opisywać** *незак.* апісваць
**opity** п'яны; нецвярозы
**opium** *н.* опіум; *перан.* дурман
**oplatać** *незак.* **1.** аплятаць; **2.** абвіваць; абхопліваць; ~ *kogo* **ramionami** абвіваць (абхопліваць) *каго* рукамі
**oplątać** *зак.* аблытаць, абвіць
**oplątywać** *незак.* аблытваць, абвіваць
**opleć** *зак.* прапалоць; *гл.* **pleć**
**opleść** *ж.* аплесці
**opluć** *зак.* апляваць
**opluwać** *незак.* аплёўваць
**opłacać** *незак.* **1.** аплачваць; **2.** *перан.* расплачвацца; плаціць
**opłaca|ć się** *незак.* **1.** *komu czym* адкупляцца *ад каго чым*; **2.** аплачвацца; акупляцца; **nie** ~ **się tego robić** не варта гэтага рабіць
**opłacalność** *ж.* акупнасць; рэнтабельнасць; ~ **wydatków** акупнасць выдаткаў (затрат)
**opłacalny** рэнтабельны
**opłaci|ć** *зак.* **1.** аплаціць, заплаціць; **2.** *перан.* расплаціцца
**opłakany** сумны, жаласлівы, жаласны; **być w stanie ~m** быць у незайздросным стане; мець жаласны выгляд
**opłakiwać** *незак.* аплакваць
**opłat|a** *ж.* **1.** плата; **za niewielką (drobną) ~ą** за невялікую плату; **2.** пошліна, збор; **~a celna** мытная пошліна; **~a manipulacyjna** маніпуляцыйная аплата; **~a ubezpieczeniowa** страхавы збор; **~a pocztowa** паштовы збор; **~a drogowa** дарожны збор; **~a stemplowa** гербавы збор
**opłat|ek** *м.* аплатка; **dzielić się ~kiem** дзяліцца аплаткай (*калядны звычай*)
**opłotek** *м.* агароджа, загарадзь
**opłotki** *мн.* задворкі, закануркі
**opłucn|a** *ж. анат.* плеўра; **zapalenie ~ej** *мед.* плеўрыт
**opłukać** *зак.* апаласкаць
**opłukiwać** *незак.* апалосквацъ
**opłynąć** *зак.* **1.** аплысці; ~ **wyspę** аплысці востраў; ~ **kulę ziemską** аб'ехаць увесь свет; **2.** абліцца; пакрыцца; ~ **krwią** абліцца крывёю
**opływać** *незак.* **1.** аплываць (*кругом*); **2.** абліваццa (*потам, крывёю*); **3.** *перан.* быць багатым, тануць у багацці; ~ **w dostatku** мець ва ўсім дастатак
**opływowy** абцякальны; **kształt** ~ *перан.* абцякальныя формы
**opodal** воддаль, наводдаль; **nie** ~ паблізу; недалёка
**opodatkować** *зак.* абкласці падаткам
**opodatkowanie** *н.* абкладанне; падаткаабкладанне; ~ **dochodów** абкладанне даходаў; ~ **zysków** абкладанне прыбытку; **wspólne** ~ супольнае абкла-

данне падаткам, супольнае падаткаабкладанне
**opoka** *ж.* **1.** скала; **2.** камяністая глеба; **3.** *перан.* апора
**opona** *ж.* **1.** шына; пакрышка (*аўтамабільная*); **2.** покрыва; ◊ ~ **mózgowa** *мед.* мазгавая абалонка
**oponent** *м.* апанент
**oponować** *незак.* апаніраваць, пярэчыць
**opończa** *ж.* апанча
**opora** *ж.* апора
**opornie** з цяжкасцю, цяжка, праз сілу; **szło mu to** ~ яму гэта цяжка давалася
**opornik** *м. фіз.* рэастат
**oporność** *ж.* **1.** упартасць; **2.** *тэх.* супраціўленне
**oporny** упарты, адпорны; які супраціўляецца; неслух
**oportunista** *м.* апартуніст
**oportunistyczny** апартуніцкі, апартуністычны
**oportunizm, ~u** *м.* апартунізм
**oporządzać** *незак.* **1.** прыбіраць; прыводзіць у парадак; **2.** экіпіраваць
**oporządzić** *зак.* **1.** прыбраць; прывесці ў парадак; **2.** *уст.* экіпіраваць
**oporządzić się** *незак.* **1.** прыбірацца; прыводзіць сябе ў парадак; **2.** экіпіравацца
**opowiadać** *незак.* расказваць; ~ **bajki** расказваць казкі
**opowiadać się** *незак.* **1.** дакладваць; заяўляць (*пра сябе*); **2.** *za kim/czym* выказвацца *за каго/што*
**opowiadanie** *н.* апавяданне, аповед
**opowiedzieć** *зак.* расказаць, распавесці
**opowiedzieć się** *зак.* **1.** далажыць, заявіць (*пра сябе*); **2.** выказацца (на карысць *каго/чаго*)
**opowieść** *ж.* **1.** аповесць; **2.** паданне, сказанне
**opozycja** *ж.* апазіцыя; ~ **parlamentarna** парламенцкая апазіцыя
**opozycjonista** *м.* апазіцыянер
**opozycyjny** апазіцыйны
**opój** *м.* п'яніца, п'янчуга, жлукта
**opór, oporu** *м.* супраціўленне; **zaciekły** ~ лютае супраціўленне; **stawić** ~ аказваць супраціўленне; супраціўляцца; **pójść po linii najmniejszego oporu** пайсці шляхам найменшага супраціўлення; **ruch oporu** рух Супраціўлення; Супраціўленне
**opóźniać** *незак.* затрымліваць; замаруджваць; спазняцца
**opóźnia|ć się** *незак.* пазніцца; спазняцца; **zegar się** ~ гадзіннік позніцца
**opóźnić** *зак.* замарудзіць; затрымаць; ~ **tempo** замарудзіць тэмп
**opóźnić się** *зак.* спазніцца
**opóźnienie** *н.* спазненне; затрымка; ~ **pociągu** спазненне цягніка
**opóźniony** спознены; замаруджаны; ~ **rozwój** замаруджанае развіццё; **dzieci o ~m rozwoju** дзеці з замаруджаным развіццём
**opracować** *зак.* апрацаваць, распрацаваць; скласці; ~ **plan** распрацаваць (скласці) план
**opracowanie** *н.* **1.** распрацоўка, распрацоўванне; састаўленне; **2.** праца; ~ **monograficzne** манаграфія
**opracowywać** *незак.* апрацоўваць, распрацоўваць; складаць
**oprać** *зак. разм.* абмыць
**oprawa** *ж.* **1.** аправа; абрамленне; ~ **obrazu** рамка карціны; ~ **książki** пераплёт; ~ **noża** дзяржанне нажа; **2.** афармленне; ~ **plastyczna (muzyczna)** мастацкае (музычнае) афармленне
**oprawca** *м.* **1.** жывадзёр; скуралуп; **2.** *перан.* кат
**oprawiać** *незак.* **1.** апраўляць карціны; **2.** пераплятаць (*кнігі*); трыбушыць (*дзічыну*)
**oprawić** *зак.* **1.** аправіць; **2.** пераплесці; **3.** вытрыбушыць; выпатрашыць
**oprawiony** апраўлены
**oprawka** *ж.* **1.** аправа (*акуляраў*); **2.** *тэх.* патрон
**opresja** *ж.* **1.** цяжкае становішча; **2.** прыгнёт, уціск
**oprocentować** *зак.* налічыць працэнты
**oprocentowanie** *н.* працэнт; *разм.* працэнтоўка; ~ **kredytu** працэнт на крэдыт; ~ **wkładów** працэнт па ўкладах



**opromieniać** *незак.* азараць; асвятляць
**opromienić** *зак.* азарыць, асвятліць
**opromieniony** азораны, асветлены
**oprosić się** *зак.* апарасіцца
**oprowadzać** *незак.* вадзіць; ~ **wycieczkę po mieście** праводзіць экскурсію па горадзе; вадзіць экскурсантаў па горадзе
**oprowadzający** *м.* экскурсавод; *гл.* **przewodnik**
**oprócz** апрача, апроч, акрамя; ~ **tego** апроч (апрача) таго
**opróżniać** *незак.* апаражняць, спаражняць
**opróżnianie** *н.* апаражненне
**opróżnić** *зак.* апаражніць, спаражніць
**opryskać** *зак.* апырскаць
**opryskiwacz** *м.* апырсквальнік
**opryskiwać** *незак.* апырскваць
**opryskliwie** рэзка, груба
**opryskliwość** *ж.* рэзкасць, грубасць
**opryskliwy** рэзкі, грубы
**opryszek** *м.* разбойнік, бандыт
**oprząść** *зак.* аплесці, аблытаць, абматаць
**oprzeć** *зак.* **1.** *o co* аперці, абаперці *аб што* (*на што*); ~ **drabinę o ścianę** аперці драбіны аб сцяну; **2.** *na czym* абаперціся, аблакаціцца *на што*; ~ **łokcie na stole** аблакаціцца на стол
**oprzeć się** *зак.* **1.** *o co* аперціся, абаперціся *на што* (*аб што*); **2.** *na czym* абаперціся, аблакаціцца; ~ **się łokciami na** *co* аблакаціцца *на што*; **3.** *komu/czemu* утрымацца; запрацівіцца; **nie mogę się ~, by nie...** не магу ўтрымацца, каб не ...; ~ **się pokusie** утрымацца ад спакусы
**oprzęd, ~u** *м.* кокан
**oprzytomnieć** *зак.* апамятацца; апрытомнець
**optyczn|y** аптычны; **złudzenie ~e** аптычны падман
**optyk** *м.* оптык
**optyka** *ж.* оптыка
**optymalny** аптымальны
**optymista** *м.* аптыміст
**optymistyczny** аптымістычны
**optymizm, ~u** *м.* аптымізм
**opublikować** *зак.* апублікаваць



**opuchlina** *ж.* пухліна
**opuchnąć** *зак.* апухнуць, распухнуць
**opuchnięty** апухлы, распухлы
**opukiwać** *незак. мед.* выстукваць
**opus, ~u** *м. муз.* опус; ~ **dziesiąte** опус дзесяты
**opustoszały** апусцелы; ~ **dom** апусцелая хата
**opustoszeć** *зак.* апусцець, абязлюдзець
**opuszcza|ć** *незак.* **1.** апускаць; **~ć z ceny** *разм.* зніжаць цэны; **2.** прапускаць; **3.** пакідаць; **siły mnie ~ją** сілы пакідаюць мяне
**opuszczać się** *незак.* **1.** апускацца; зніжацца; **2.** *перан.* апускацца
**opuszczony** пакінуты; закінуты; самотны; асірацелы
**opuszka** *ж.* **1.** падушачка (*пальца*); **2.** *мед.* шарападобнае ўздуцце сасуда; **3.** *уст.* апуха (*футравая абшыўка*)
**opuścić** *зак.* **1.** апусціць; **~ć ręce** *перан.* апусціць рукі; **2.** прапусціць; **~ć okazję** прапусціць (праваронiць) магчымасць (выпадак); **3.** пакінуць; **~ć dom rodzinny** пакінуць бацькоўскі дом; **~ć żonę** пакінуць (кінуць) жонку; **odwaga mnie ~ła** смеласць пакінула мяне
**opuści|ć się** *зак.* **1.** апусціцца, знізіцца; **2.** *перан.* апусціцца
**opychać się** *незак. разм.* аб'ядацца, набіваць бруха
**opylacz** *м. тэх.* апырсквальнік; апыляльнік
**opylać** *незак.* апыляць
**opylenie** *н.* апыленне, апыльванне
**opylić** *зак.* **1.** апыліць; **2.** *разм.* прадаць, загнаць
**oracja** *ж.* **1.** *уст.* мова, прамова; **2.** *разм.* марнаслоўе, пустаслоўе
**oracz** *м.* земляроб, араты, ратай
**orać** *незак.* араць
**orangutan** *м. заал.* арангутан (*Pongo pygmaeus*)
**oranie** *н.* ворыва, ральба
**oranżada** *ж.* апельсінавы напітак
**oranżeria** *ж.* аранжарэя
**oranżeryjny** аранжарэйны

**orator** *м.* прамоўца
**oratorium** *н. муз.* араторыя
**oratorski** прамоўніцкі; красамоўніцкі; **talent ~** прамоўніцкі талент; талент красамоўства
**oraz** а таксама
**orbita** *ж.* арбіта; **~ ziemska** зямная арбіта; **~ oka** *анат.* вочная яміна
**orchidea** *ж. бат.* архідэя (*Orchis*)
**orczyk** *м.* **1.** ворчык; (*у экіпажы*) барак; **2.** *спарт.* перакладзіна
**order, ~u** *м.* ордэн; **nadać** *komu* **~** узнагародзіць *каго* ордэнам
**ordynacja** *ж.* **1.** статут; палажэнне; **~ wyborcza** палажэнне аб выбарах; **2.** *гіст.* родавы маёнтак; маярат
**ordynans** *м. вайск.* ардынарац
**ordynarnie** груба, нявыхавана
**ordynarność** *ж.* грубіянства, нявыхаванасць
**ordynarny** грубы, нявыхаваны
**ordynat** *м. уст.* уладальнік маярату
**ordynator** *м.* ардынатар
**ordyn|ek, ~ku** *м. уст. вайск.* строй; шыхт; **w bojowym ~ku** у баявым парадку
**ordynus** *м. разм.* грубіян
**orędować** *незак.* *komu/czemu* заступацца, хадайнічаць *за каго*
**orędownictwo** *н.* заступніцтва, хадайніцтва
**orędownik** *м.* заступнік; хадайнік
**orędzie** *н.* заклік; зварот; пасланне; урачыстая прамова; **wystosować ~** звярнуцца з пасланнем
**oręż** *м. кніжн.* зброя; **wzywać do ~a** заклікаць да зброі; **chwycić za ~** узяцца за зброю
**orężn|y** узброены; **walka ~a** узброеная барацьба
**organ** *м.* **1.** орган; **~ słuchu** орган слыху; **~ rządowy** урадавы орган (*газета*); **2. ~y** *мн. муз.* арган; **grać na ~ach** іграць на аргане
**organiczn|y** арганічны; **więź ~a** арганічная сувязь; **chemia ~a** арганічная хімія
**organista** *м.* арганіст
**organizacj|a** *ж.* арганізацыя; **~a pracy** арганізацыя працы; **~a partyjna** партыйная арганізацыя; **~e społeczne** грамадскія арганізацыі
**organizacyjn|y** арганізацыйны; **zdolności ~e** арганізацыйныя здольнасці
**organizator** *м.* арганізатар
**organizatorski** арганізатарскі
**organizm, ~u** *м.* арганізм; **~ człowieka** чалавечы арганізм
**organizować** *зак.* арганізаваць
**organki** *мн.* губны гармонік
**organowy** арганны
**orgazm, ~u** *м. біял.* сласнота; аргазм
**orgia** *ж.* оргія
**orientacj|a** *ж.* арыентацыя; арыентаванне; **zmysł ~i** пачуццё арыентацыі; **bieg na ~ę** спартыўнае арыентаванне; **stracić ~ę** страціць арыентацыю
**orientacyjny** арыенціровачны
**orientalista** *м.* арыенталіст
**orientalny** арыентальны; усходні
**orient|ować się** арыентавацца; разбірацца; **o ile się ~uję, ...** наколькі я арыентуюся (разбіраюся; разумею)
**orka** *ж.* **1.** ворка; аранне; **2.** *перан.* цяжкая праца
**orkan, ~u** *м.* ураган
**orkiestra** *ж.* аркестр; **~ dęta** духавы аркестр; **~ smyczkowa** струнны аркестр
**orkiestrować** *зак.* аркестраваць
**orkisz, ~u** *м. бат.* полба
**orlę** *н.* арляня
**orli** арліны; **~ wzrok** арліны зрок
**orlica** *ж.* арліца
**Ormianin** *м.* армянін
**Ormianka** *ж.* армянка
**ormiański** армянскі
**ornament, ~u** *м.* арнамент
**ornamentacja** *ж.* арнаментацыя
**ornamentacyjny** арнаментальны
**ornamentować** *зак.* арнаментаваць
**ornat, ~u** *м.* рыза, арнат (*урачысты ўбор ксяндза*)
**ornitolog** *м.* арнітолаг
**ornitologia** *ж.* арніталогія
**ornitologiczny** арніталагічны
**orn|y** ворны; **ziemia ~a** ворная зямля
**orosić** *зак.* арасіць; акрапіць



**orszak, ~u** *м.* світа, картэж
**ortodoks** *м.* артадокс
**ortodoksalność** *ж.* артадаксальнасць
**ortodoksyjny** артадаксальны
**ortoepia** *ж. лінгв.* арфаэпія
**ortografia** *ж. лінгв.* арфаграфія
**ortograficzny** арфаграфічны; **błąd ~** арфаграфічная памылка; **słownik ~** арфаграфічны слоўнік
**ortopedia** *ж. мед.* артапедыя
**ortopedyczny** *мед.* артапедычны
**ortopedysta** *м. мед.* артапедыст
**oryginalnie** арыгінальна
**oryginalność** *ж.* арыгінальнасць
**oryginalny** арыгінальны
**oryginał** *м.* **1. ~u** арыгінал, аўтэнтык; **2.** арыгінал, дзівак
**oryl** *м.* **1.** плытагон, плытнік; аснач; **2.** *перан.* невук
**orzec** *зак.* **1.** выказаць думку; заявіць; даць заключэнне; **2.** *юр.* вынесці прыгавор; **sąd musi ~...** суд павінен вынесці прыгавор...
**orzech** *м.* арэх; **~ laskowy** лясны арэх; **~ ziemny** земляны арэх; арахіс; **~ włoski** грэцкі арэх; ◊ **twardy ~ do zgryzienia** цвёрды арэшак
**orzechow|y** арэхавы; **drzewo ~e** арэхавае дрэва; **masło ~** арахісавае масла; **czekolada ~a** арэхавы шакалад
**orzeczenie** *н.* **1.** заключэнне; думка; меркаванне; **~ lekarskie** медыцынскае заключэнне; **2.** *юр.* пастанова; **~ sądowe** судовая пастанова; **3.** *грам.* выказнік
**orzecznictwo** *н.* **1.** *юр.* судовая дзейнасць; судовая практыка; **2.** медыцынская экспертыза
**orzecznik** *м.* **1.** *грам.* іменная частка выказніка; **2.** *філ.* атрыбут; прэдыкат
**orzekać** *незак.* **1.** выказваць думку; заяўляць; заключаць; **2.** *юр.* выносіць прыгавор; пастанаўляць; **prawo ~, że...** закон гаворыць, што...
**orzekający: tryb ~** *грам.* абвесны лад
**orzeł** *м. заал.* арол (*Aquila*); ◊ **~ czy reszka?** арол ці рэшка?
**orzesz|ek** *м.* арэшак; **~ki ziemne (arachidowe)** земляныя (арахісавыя) арэшкі
**orzeźwiać** *незак.* асвяжаць
**orzeźwiać się** *незак.* асвяжацца
**orzeźwiając|y** асвяжальны; **napoje ~e** прахаладжальныя напоі
**orzeźwić** *зак.* асвяжыць
**osa** *ж. заал.* аса; ◊ **cienka jak ~** у яе асіная талія; з асінай таліяй; **cięty jak ~** з'едлівы (як аса); злы
**osaczać** *незак.* **1.** акружаць; асочваць; **~ zwierza w obławie** акружаць звера ў аблаве; **2.** аблажваць, асаджваць; **~ przeciwnika** асаджваць праціўніка
**osaczyć** *зак.* **1.** акружыць; асачыць; **2.** аблажыць, асадзіць
**osad, ~u** *м.* **1.** асадак; **~ na dnie retorty** асадак на дне рэторты; **2.** *геад.* нанос; **~ mułu** нанос мулу (глею)
**osada** *ж.* **1.** пасяленне; паселішча; пасёлак; **2.** ручка; дзяржанне; **3.** *бат.* кветаножка
**osadka** *ж.* **1.** ручка; дзяржанне; **2.** *бат.* кветаложа; **3.** *бат.* завязь
**osadnictwo** *н.* пасяленне; каланізацыя
**osadnik** *м.* **1.** пасяленец; каланіст; **2.** асаднік (*пасяленец у Заходняй Беларусі пры панскай Польшчы*)
**osadzać** *незак.* **1.** сяліць, пасяляць; **2.** прызначаць; саджаць (*у турму*); **3.** наносіць; **4.** насаджваць, асаджваць
**osadzać się** *незак.* **1.** пасяляцца; сяліцца; **2.** *хім.* асаджвацца
**osadzić** *зак.* **1.** пасяліць; **2.** прызначыць; пасадзіць; **~ w więzieniu** пасадзіць у турму; **3.** насадзіць, асадзіць; **~ siekierę** асадзіць сякеру; **4.** спыніць, асадзіць; **~ konia** асадзіць (спыніць) каня
**osadzić się** *зак.* **1.** пасяліцца; **2.** *хім.* асесці; *гл.* **osiąść**
**osamotnić** *зак.* зрабіць адзінокім (самотным)
**osamotnieć** *зак.* стаць адзінокім (самотным)
**osamotnienie** *н.* адзінокасць; самотнасць
**osamotniony** адзінокі; самотны; пакінуты
**osąd, ~u** *м.* меркаванне; заключэнне; суд
**osądzać** *незак.* асуджаць, ганіць

**osądzenie** *н.* 1. асуджэнне, прысуд; 2. *гл.* **osąd**

**osą|dzić** *зак.* 1. асудзіць, засудзіць; 2. узважыць; падумаць; **~dź sam, czy nie mam racji** сам падумай (узваж), ці маю я рацыю

**oschle** суха, безудзельна

**oschłość** *ж.* сухасць, безудзельнасць

**oschły** сухі; чэрствы

**oschnąć** *зак.* абсохнуць

**oscylacja** *ж. фіз.* асцыляцыя; хістанне

**oscylator** *м. фіз.* асцылятар

**oscylograf, ~u** *м. фіз.* асцылограф

**oscylować** *незак.* 1. *фіз.* хістацца; вагацца; **~ między A a B** вагацца паміж A і B (*пра тэмпературу*); 2. *перан.* хістацца; вагацца

**oselka** *ж.* 1. асялок, тачыла, брусок; 2. кавалак масла (*авальнай формы*)

**osesek** *м.* сысунок

**oset, ostu** *м. бат.* чартапалох (*Carduus L.*)

**osęka** *ж.* бусак, багор

**osiadać** *незак.* 1. пасяляцца; 2. *хім.* асядаць; ападаць на дно; 3. садзіцца; **~ na mieliźnie** садзіцца на мель; ◊ **~ konia** аб'язджаць каня

**osiadł|y** 1. які асеў; 2. аселы, аседлы; **wieść życie ~e** весці аселае жыццё; **kraj ~y** заселены край

**osiągać** *незак.* **co** дасягаць, дабівацца *чаго*

**osiągalny** дасягальны, дасяжны

**osiągn|ąć** *зак.* дасягнуць, дабіцца; дамагчыся; **~ąć cel** дасягнуць мэты; **~ąć skutek** дабіцца выніку; **nic nie ~iesz** ты нічога не даможашся (дасягнеш)

**osiągnięcie** *н.* поспех; дасягненне

**osiąść** *ж.* 1. пасяліцца; 2. *хім.* асесці; апасці на дно; 3. сесці; **statek osiadł na mieliźnie** судна села на мель

**osiedlać** *незак.* пасяляць; сяліць

**osiedlać się** *незак.* пасяляцца; сяліцца

**osiedle** *н.* пасёлак; раён; **~ robotnicze** рабочы пасёлак; **~ podmiejskie** прыгарад; прадмесце; фарштат

**osiedlenie** *н.* пасяленне

**osiedleniec** *м.* пасяленец

**osiedlić** *зак.* пасяліць

**osiedlić się** *зак.* пасяліцца

**osiem, ośmiu** восем

**osiemdziesiąt** восемдзесят

**osiemdziesiąty** васьмідзесяты

**osiemdziesięcioletni** васьмідзесяцігадовы

**osiemnastoletni** васемнаццацігадовы

**osiemnast|y** васемнаццаты; **(godzina) ~a** васемнаццаць гадзін; шэсць (гадзін) вечара

**osiemnaście** васемнаццаць

**osiemnaścioro** *зборн.* васемнаццаць; васемнаццацьёра

**osiemset** восемсот

**osierdzi|e** *н. анат.* калясардэчная сумка; перыкард; **zapalenie ~a** *мед.* перыкардыт

**osierociały** асірацелы

**osierocić** *зак.* асіраціць

**osierocieć** *зак.* асірацець, стаць сіратою

**osika** *ж. бат.* асіна (*Populus tremula L.*); ◊ **trząść się (drżeć) jak ~** дрыжэць (трэсціся) як асіна

**osikowy** асінавы

**osiłek** *м.* асілак; волат

**osina** *ж.*; *гл.* **osika**

**osiodłać** *зак.* асядлаць

**osioł** *м. заал.* асёл (*Equus asinus L.*); ◊ **uparty jak ~** упарты як асёл; **skończony ~** поўны асёл; закончаны дурань

**osiwiały** пасівелы

**osiwieć** *зак.* пасівець

**oskalpować** *зак.* скальпаваць; зняць скальп

**oskard** *м.* кірка, кайло; капаніца

**oskarżać** *незак.* **kogo o co** абвінавачваць *каго ў чым*

**oskarżeni|e** *н.* абвінавачанне; **akt ~a** акт абвінавачання; **~e uzasadnione** матываванае абвінавачанне; **świadek ~a** сведка абвінавачання; **postawić kogo w stan ~a** абвінаваціць *каго*; прыцягнуць *каго* да адказнасці

**oskarżony** абвінавачаны

**oskarżyciel** *м.* абвінаваўца; **~ publiczny** дзяржаўны абвінаваўца; пракурор

**oskarżyć** *зак.* абвінаваціць

**oskom|a** *ж.* 1. аскома; 2. *перан.* прага; **mieć ~ę na co** прагнуць (жадаць) *чаго*, мець прагу *да чаго*



**oskrobać** *зак.* ачысціць; пачысціць, саскрэбці; **~ rurę z rdzy** ачысціць трубу ад іржы

**oskrzel|e** *мн.* 1. *анат.* бронхі; **zapalenie ~i** бранхіт; 2. *уст.* жабры

**oskrzydlać** *незак.* 1. акрыляць; 2. *вайск.* акружаць, ахопліваць флангі (*ворага*)

**oskrzydlenie** *н. вайск.* акружэнне, ахоп флангаў (*ворага*)

**oskrzydlić** *зак.* 1. акрыліць; 2. *вайск.* акружыць, ахапіць флангі (*ворага*)

**oskubać** *зак.* аскубці, абскубці

**oskubywać** *незак.* аскубаць, аскубваць, абскубаць, абскубваць

**osłabiać** *незак.* аслабляць

**osłabić** *зак.* аслабіць

**osłabić się** *незак.* **czym** аслабець *ад чаго*

**osłabienie** *н.* 1. аслабленне; 2. слабасць

**osłabiony** аслаблены, аслабелы

**osłabnąć** *зак.* аслабець

**osładzać** *незак.* 1. цешыць; прыносіць асалоду; 2. *гл.* **osłodzić**

**osłaniać** *незак.* засланяць; захінаць; абараняць

**osławić** *зак.* зняславіць, абняславіць

**osławić się** *зак.* зняславіцца, абняславіцца

**osławiony** зняслаўлены, абняслаўлены

**osłod|a** *ж. перан.* уцеха; радасць; асалода

**osłodzić** *зак.* 1. падсаладзіць; 2. *перан.* прынесці асалоду

**osłon|a** *ж.* 1. прыкрыццё; покрыва; **pod ~ą nocy** пад покрывам ночы; 2. *вайск.* заслон; 3. *тэх.* кажух; 4. *эл.* экран

**osłonić** *зак.* засланіць, прыкрыць

**osłon|ka: bez ~ek** проста; без хітрыкаў

**osłuchać** *зак.* выслухаць; **~ chorego** выслухаць хворага

**osłucha|ć się** *зак.* 1. асвойтацца; прывыкнуць; азнаёміцца; 2. стаць папулярным; 3. наслухацца; **już mi się ~ła ta piosenka** я ўжо досыць наслухалася гэтай песні

**osłuchan|y** 1. азнаёмлены; **~y z melodią** знаёмы з мелодыяй; 2. звыклы; збіты; банальны; **piosenki ~e** *пагард.* заспяваныя (зацяганыя) песні

**osłuchiwać** *незак. мед.* выслухоўваць

**osłuchiwanie** *н. мед.* выслухоўванне

**osłupiały** аслупянелы

**osłupieć** *зак.* аслупянець

**osłupienie** *н.* аслупяненне; **wprawić kogo w ~** здзівіць (уразіць) *каго*; выклікаць у *каго* здзіўленне

**osmagać** *зак.* адхвастаць, адсцябаць

**osmalać** *незак.* асмальваць

**osmalić** *зак.* асмаліць

**osmażyć** *зак.* абсмажыць

**osmolić** *зак.* 1. абсмаліць; 2. запэцкаць

**osmoza** *ж. фіз.* осмас

**osnowa** *ж.* аснова

**osnuć** *зак.* 1. *тэкст.* палажыць аснову; 2. ахутаць; абвінуць; ахінуць; укрыць; 3. *перан.* стварыць, пабудаваць, пакласці ў аснову

**osnut|y** 1. *па kim/czym* заснаваны *на кім/чым*; 2. ахутаны; ахінуты; **wszystko to ~e mgłą** усё гэта ахутана туманам; 3. створаны; **~e na motywach...** створана па матывах (паводле)...

**osob|a** *ж.* 1. асоба, персона; **obiad na cztery ~y** абед на чатыры персоны; **~a prawna** юрыдычная асоба; **~ fizyczna** фізічная асоба; **~a trzecia** трэцяя асоба; староння асоба; **co to za ~a** што гэта за асоба; **w jednej ~ie** адзінаасобна; **we własnej ~ie** уласнай персонай (асобай); 2. *грам.* асоба

**osobistość** *ж.* 1. асоба; 2. індывідуальнасць

**osobist|y** асабісты; персанальны; **komputer ~y** персанальны кампутар; **udział ~y** асабісты ўдзел; **zainteresowania ~e** асабістая зацікаўленасць; **rzeczy ~e** асабістыя рэчы; **dowód ~y** пасведчанне асобы

**osobiście** асабіста; **~ uważam, że ...** асабіста я лічу, што...

**osobliwie** асабліва; своеасабліва; арыгінальна

**osobliwość** *ж.* 1. рэдкасць; славутасць; выдатнасць; 2. асаблівасць; арыгінальнасць

**osobliwy** асаблівы; своеасаблівы; рэдкі

**osobniczy** індывідуальны; **rozwój ~** *біял.* антагенез

**osobnik** *м.* **1.** *біял.* асобіна; індывід; **2.** індывід; асоба; тып; **podejrzany** ~ падазроны тып
**osobn|o** асобна; **z ~a** паасобку; паасобна
**osobnoś|ć** *ж.* адасобленае месца; ◊ **na ~ci** а) убаку; асобна; б) сам-насам
**osobny** асобны; ~ **pokój** асобны пакой
**osobowość** *ж.* індывідуальнасць; асоба; ~ **prawna** *юр.* праваздольнасць; **niezwykła** ~ незвычайная індывідуальнасць
**osobowy 1.** *грам.* асабовы; **zaimek** ~ асабовы займеннік; **2.** асабовы; **skład** ~ асабовы склад (састаў); **3.** пасажырскі; **pociąg** ~ пасажырскі цягнік; **samochód** ~ легкавы аўтамабіль; легкавік, легкавушка
**osocze** *н.* *фізіял.* плазма
**osoka**[1] *ж.* *бат.* **1.** асака (*Carex L.*); **2.** разак (*Stratiotes L.*)
**osoka**[2] *ж.* *паляўн.* аблава, загон, оступ
**osolić** *зак.* пасаліць
**osowiale** асавела; асалавела; сонна; атупела
**osowiały** асавелы; асалавелы; сонны; атупелы
**osowieć** *зак.* **1.** асавець; асалавець; **2.** *перан.* апусціць крылы
**osowiałość** *ж.* асавеласць; асалавеласць
**osóbka** *ж.* істота, істотка; стварэнне; **miła** ~ мілае стварэнне
**ospa** *ж.* *мед.* воспа; ~ **wietrzna** ветраная воспа; вятранка
**ospale** сонна, вяла, атупела
**ospałość** *ж.* вяласць; млявасць; соннасць
**ospały** вялы; лянівы; млявы; сонны
**ospowaty** рабы
**ospowy** воспавы
**osprzęt, ~u** *м.* аснастка, арматура; ~ **statku** *мар.* такелаж
**osrebrzyć** *зак.* пасерабрыць
**ostać się** *зак.* утрымацца; выстаяць; ацалець
**ostatecznie 1.** канчаткова; **2.** нарэшце; урэшце
**ostatecznoś|ć** *ж.* крайнасць, неабходнасць; **w ~ci** у крайнім выпадку; у выпадку крайняй неабходнасці; **wpadać z jednej ~ci w drugą** пераходзіць з адной крайнасці ў іншую; **doprowadzić** *kogo* **do ~ci** давесці *каго* да крайнасці
**ostateczn|y** канчатковы, крайні, апошні; **~a potrzeba** крайняя неабходнасць, пільная патрэба; **~a decyzja** канчатковае рашэнне; ◊ **sąd ~y** *рэл.* Страшны суд
**ostat|ek** *м.* **1.** рэшта; **do ~ka** дарэшты, дашчэнту; **na ~ek** пад канец; **2. ~ki** *мн.* рэшткі; **3. ~ki** *мн.* загавіны (*тры апошнія дні масленіцы*)
**ostatni** апошні; **~a posługa** пахаванне; **w ~ch latach** у апошнія гады; **~e słowo** апошняе слова; **~a wola** апошняе жаданне; **~e namaszczenie** *царк.* сабораванне; **on jest ~ą osobą, która ...** ён апошні, хто...; **w ~m przypadku ...** у апошнім выпадку...
**ostatnio** за апошні час; апошнім часам
**ostemplować** *зак.* праштэмпеляваць; паставіць штэмпель; налажыць кляймо
**ostemplowywać** *незак.* штэмпеляваць; ставіць штэмпель
**ostentacja** *ж.* **1.** паказная вялікасць (велічнасць); **2.** дэманстратыўнасць
**ostentacyjny 1.** паказны; **2.** дэманстратыўны; дэманстрацыйны
**osteologia** *ж.* *анат.* астэалогія
**ostęp, ~u** *м.* (*часцей мн.* **~y**) лясныя нетры, лясная глуш
**ostnica** *ж.* *бат.* кавыль (*Stipa L.*)
**ostoja** *ж.* апора; ~ **pokoju** апора міру
**ostracyzm, ~u** *м.* астракізм
**ostrężyna** *ж.* *бат.* ажына (*Rubus ceasius L.*)
**ostro 1.** востра; **zakończony** ~ востра закончаны; **2.** строга, рэзка; **trzymać** *kogo* ~ *перан.* строга трымаць *каго*
**ostroga** *ж.* шпора; **spiąć ~mi** прышпорыць
**ostrokąt** *м.* *мат.* востравугольнік
**ostrokątny** *мат.* востравугольны
**ostrok|ół, ~ołu** *м.* частакол
**ostrokrzew, ~u** *м.* *бат.* падуб (*Ilex L.*)
**ostrołuk, ~u** *архіт.* стральчатая (спічастая) арка
**ostrołukowy** стральчаты, спічасты
**ostrosłup** *м.* *мат.* піраміда
**ostrosłupowy** пірамідальны



**ostrość** *ж.* **1.** вастрыня; ~ **wzroku** вастрыня зроку; **2.** рэзкасць
**ostrożnie** асцярожна; **«ostrożnie!»** (*на каробцы, скрыні*) «не кантаваць!»
**ostrożnoś|ć** *ж.* асцярожнасць, асцярога; **mieć się na ~ci** быць насцярожаным; **przedsięwziąć środki ~ci** прыняць меры засцярогі
**ostrożny** асцярожны
**ostróżka** *ж.* *бат.* рагулька (*Delphinium L.*)
**ostrugać** *зак.* абстругаць
**ostrużyny** *мн.* стружкі
**ostr|y 1.** востры; **2.** суровы, рэзкі; **~a zima** суровая зіма; **~y wyrok** суровы прысуд; **~a krytyka** рэзкая крытыка; **3.** калючы; **4.** баявы; **strzelać ~ymi nabojami** страляць баявымі патронамі; **5.** круты; **~y zakręt** круты паварот; **6.** імклівы, хуткі, шпаркі; **iść ~ym krokiem** ісці шпаркім крокам
**ostryga** *ж.* *заал.* вустрыца (*Ostrea edulis L.*)
**ostrzał, ~u** *м.* абстрэл; **być pod ~em** быць пад абстрэлам (пад агнём)
**ostrz|e** *н.* **1.** вастрыё; **~e igły** вастыё іголкі; **2.** лязо; **~e topora** лязо сякеры; ◊ **postawić sprawę na ~u noża** паставіць пытанне рубам
**ostrzec** *зак.* перасцерагчы, асцерагчы
**ostrzegać** *незак.* перасцерагаць, асцерагаць
**ostrzegawczy** перасцерагальны; папераджальны; **strzał** ~ папераджальны стрэл
**ostrzelać** *зак.* абстраляць
**ostrzeliwać** *незак.* абстрэльваць
**ostrzeliwanie** *н.* абстрэл
**ostrzenie** *н.* вастрэнне, тачэнне
**ostrzeżenie** *н.* перасцярога; папярэджанне
**ostrzyc** *зак.* астрыгчы, абстрыгчы
**ostrzyc się** *зак.* астрыгчыся, абстрыгчыся
**ostrzyca** *ж.* *бат.* канарэечнік (*Phalaris L.*)
**ostrzyć** *незак.* вастрыць, тачыць; ◊ ~ **zęby** *na co* вастрыць зубы *на што*
**ostudzać** *незак.* астуджваць, ахалоджваць
**ostudzić** *зак.* астудзіць, ахаладзіць; ~ **zapał** астудзіць запал
**ostygać** *незак.* астываць, ахалоджвацца, астуджвацца
**ostygły** астылы, ахалоджаны, халодны
**ostygnąć** *зак.* астыць, ахаладзіцца
**osunąć się** *зак.* асунуцца, апаўзці, спаўзці, апусціцца
**osuszać** *незак.* асушваць
**osuszenie** *н.* асушэнне, асушка
**osuszyć** *зак.* асушыць
**osuwać się** *незак.* асоўвацца, апаўзаць, спаўзаць, апускацца
**oswajać** *незак.* **1.** прывучаць; **2.** прыручаць
**oswajać się** *незак.* **1.** асвойвацца; прызвычайвацца; **2.** прыручацца
**oswobodzić** *зак.* вызваліць; ~ **kraj od nieprzyjaciół** вызваліць краіну ад ворага
**oswoić** *зак.* **1.** *z kim/czym* прывучыць *да каго/чаго*; **2.** прыручыць
**oswoić się** *зак.* прывыкнуць; прызвычаіцца; абвыкнуць; абвыкнуцца; ~ **się z myślą** *o czym* прызвычаіцца да думкі *аб чым* (*пра што*); ~ **się z niebezpieczeństwem** прывыкнуць да небяспекі
**oswojony 1.** *z kim/czym* прывучаны *да каго/чаго*; прызвычаены; **2.** прыручаны
**osychać** *незак.*; *гл.* **obsychać**
**osypać się** *зак.* абсыпацца
**osypisko** *н.* *геал.* апоўзень, асыпак, восып
**osypywać się** *незак.* абсыпацца
**oszacować** *зак.* *kogo/co* ацаніць *каго/што*, вызначыць вартасць *чаго*
**oszacowanie** *н.* ацэнка
**oszacowywać** *незак.* ацэньваць
**oszalały** ашалелы, звар'яцелы
**oszaleć** *зак.* *разм.* ашалець, звар'яцець
**oszalować** *зак.* *буд.* абшаляваць, абабіць дошкамі
**oszalowanie** *н.* *буд.* ашалёўка, абіўка
**oszałamiać** *незак.* ашаламляць
**oszańcować** *зак.* абнесці валам
**oszańcowywać** *незак.* абносіць валам
**oszczeni|ć się** *зак.* ашчаніцца; **suka się ~ła** сучка ашчанілася
**oszczep, ~u** *м.* **1.** *спарт.* кап'ё; дзіда; **rzut ~em** кіданне кап'я; **2.** рагаціна
**oszczepnik** *м.* *спарт.* кідальнік кап'я (дзіды)
**oszczerca** *м.* паклёпнік
**oszczerczy** паклёпніцкі
**oszczerstwo** *н.* паклёп; **rzucić** ~ узвесці паклёп

**oszczędnie** ашчадна, эканомна

**oszczędnościow|y** ашчадны; **książeczka ~a** ашчадная кніжка; **kasa ~a** ашчадная каса (ашчадкаса)

**oszczędnoś|ć** *ж.* **1.** ашчаднасць, эканомнасць; эканомія; **~ć czasu** эканомія часу; **~ć materiałów** эканомія матэрыялаў; **~ć pracy** эканомія працы; **~ć w wydatkach** эканомія расходаў (выдаткаў); **2. ~ci** *мн.* зберажэнні; ашчадак; **~ci pieniężne** грашовыя зберажэнні; **kasa ~ci** ашчадная каса

**oszczędny** ашчадны, эканомны; беражлівы

**oszczędzać** *незак.* ашчаджаць, берагчы, эканоміць; **~ siły** эканоміць сілы

**oszczędzać się** *незак.* сцерагчыся, берагчыся

**oszczędzi|ć** *зак.* **1.** зберагчы, зэканоміць; **2.** *перан.* пашкадаваць; злітавацца; **katastrofa nie ~ła nikogo** катастрофа не пашкадавала нікога; **3.** *перан.* пазбавіць, вызваліць; **~ć** *кому* **pracy** вызваліць *каго* ад працы; **~ć** *кому* **kłopotów** пазбавіць *каго* турботаў (клопатаў)

**oszkalować** *зак.* зняславіць, ачарніць

**oszklić** *зак.* зашкліць

**oszklony** зашклёны

**oszlifować** *зак.* адшліфаваць

**oszołamiać** *незак.*; *гл.* **oszałamiać**

**oszołom** *м. разм.* **1.** дурыла; чмута; **2.** наркаман

**oszołomić** *зак.* **1.** ап'яніць; адурманіць; **2.** ашаламіць; уразіць

**oszołomienie** *н.* ашаламенне, ачмурэнне, ачмуценне

**oszołomiony** ашаломлены

**oszpecać** *незак.* **1.** калечыць, знявечваць; **2.** псаваць, збрыджваць

**oszpecić** *зак.* **1.** абязвечыць, знявечыць; **2.** сапсаваць, збрыдзіць, згадзіць

**oszpecony 1.** абязвечаны, знявечаны; **2.** сапсаваны, збруджаны, згаджаны

**oszroniony** пакрыты інеем (шэранню)

**osztachetować** *зак.* абгарадзіць (*штакетнікам*)

**oszukać** *зак.* ашукаць, падмануць

**oszukać się** *зак.* ашукацца, падмануцца

**oszukańczy** ашуканскі, махлярскі

**oszukaństwo** *н.* ашуканства, круцельства

**oszukiwać** *незак.* ашукваць, падманваць

**oszukiwać się** *незак.* ашуквацца, падманвацца

**oszust** *м.* ашуканец, махляр

**oszustw|o** *н.* ашуканства, махлярства; **paść ofiarą ~a** стаць ахвярай ашуканства

**oś** *ж.* вось; **~ obrotu** вось вярчэння

**ościenn|y** суседні, сумежны; **państwa ~e** суседнія дзяржавы

**oścień** *м. уст.* восць

**oścież: na ~** насцеж, напята

**ościsty 1.** касцісты; **2.** асцюкаваты

**oś|ć** *ж.* **1.** косць рыбы; **~cią w gardle stanęło** косцю ўпоперак горла стала; **2.** *бат.* асцюк; **~ć u kłosa** асцюк у коласе

**oślep: na ~** усляпую; навобмацак; без роздуму

**oślepiać** *незак.* асляпляць

**oślepiający** асляпляльны

**oślepić** *зак.* асляпіць

**oślepienie** *н.* асляпленне

**oślepły** сляпы, аслеплы

**oślepnąć** *зак.* аслепнуць

**oślę** *н.* асляня

**ośl|i** аслiны; ◊ **~i upór** асліная ўпартасць; **~e uszy (~a głowa)** *разм.* дурная галава; мазгаўня; ёлупень; доўбня; **posadzić** *kogo* **w ~ej ławce** *школьн. жарг.* паставіць *каго* ў кут

**oślica** *ж.* асліца

**oślinić** *зак.* абслініць

**ośliniać** *незак.* абсліньваць

**oślizgły** слізкі, коўзкі

**ośmielać** *незак.* падбадзёрваць, дадаваць смеласці

**ośmielać się** *незак.* асмельвацца

**ośmielić** *зак.* падбадзёрыць, дадаць смеласці

**ośmiel|ić się** *зак.* асмеліцца, насмеліцца, адважыцца, наважыцца; **~ę się zauważyć, że ...** вазьму на сябе смеласць заўважыць, што...; **ona nie ~iłaby się tego zrobić** яна не наважылася б гэта зрабіць

**ośmieszać** *незак.* рабіць пасмешышчам; абсмейваць



**ośmieszać się** *незак.* рабіць з сябе пасмешышча

**ośmieszyć** *зак.* абсмяяць

**ośmieszyć się** *зак.* асарамаціцца, асканданіцца

**ośmioboczny** васьмібаковы

**ośmiodniowy** васьмідзённы

**ośmiokrotny** васьміразовы, васьмікратны

**ośmioletni** васьмігадовы

**ośmiopiętrowy** васьміпавярховы

**ośmioprocentowy** васьміпрацэнтны

**ośmiornica** *ж. заал.* васьміног, спрут (*Octopus*)

**ośmioro** *зборн.* васьмёра

**ośmiu** *а.-м.* восем; васьмёра; **~ robotników** восем (васьмёра) работнікаў

**ośnieżać** *незак.* пакрываць снегам

**ośnieżony** пакрыты снегам; заснежаны

**ośnieżyć** *зак.* пакрыць снегам

**ośrod|ek** *м.* **1.** цэнтр; сярэдзіна; асяродак; **być ~kiem zainteresowania** быць цэнтрам зацікаўленасці; **~ek wypoczynkowy** курорт; месца адпачынку; **~ek zdrowia** медпункт (медыцынскі пункт); **~ek handlowy** гандлёвы цэнтр; **~ek przemysłowy** прамысловы цэнтр; **~ek rozliczeń (rozliczeniowy)** разліковы цэнтр; **~ek gospodarczy** эканамічны цэнтр; ◊ **~ek chleba** мякіш хлеба

**ośrodkowa** *ж. мат.* медыяна

**ośrodkowy** цэнтральны; **~ układ nerwowy** цэнтральная нервовая сістэма

**oświadczać** *незак.* заяўляць, аб'яўляць

**oświadczać się** *незак.* рабіць прапанову; *гл.* **oświadczyć się**

**oświadczenie** *н.* дэкларацыя; заява; **~ podatkowe** падатковая дэкларацыя; **złożyć ~** зрабіць заяву

**oświadczyć** *зак.* заявіць, паведаміць

**oświadczyć się** *зак.* **1.** *za czym* выказацца *пра што* (*аб чым*); выказаць сваю думку; **2.** *komu* зрабіць прапанову *каму*

**oświadczyny** *мн.* шлюбная прапанова

**oświat|a** *ж.* асвета; **~a ludowa** народная асвета; **ministerstwo ~y** міністэрства асветы

**oświatow|y** асветны; асветніцкі; **działalność ~a** асветніцкая дзейнасць

**oświecać** *незак.* **1.** асвятляць; **2.** даваць асвету, адукоўваць

**oświeceni|e** *н.* асвета; асветніцтва; **epoka ~a** эпоха Асветніцтва

**oświecić** *зак.* **1.** асвяціць; **2.** даць адукацыю; адукаваць

**oświetlać** *незак.* асвятляць, асвечваць

**oświetlenie** *н.* асвятленне

**oświetlić** *зак.* асвятліць, асвяціць

**otaczać** *незак.* **1.** акружаць, абводзіць; агароджваць; апяразваць; **~** *co* **tajemnicą** акружаць *што* таямніцай; **2.** акружаць; абступаць; **3.** абточваць (*на такарцы*); **4.** абкачваць (*у муцэ*)

**otaksować** *зак.* ацаніць; прызначыць цану, вызначыць таксу

**otarcie** *н.* **1.** выціранне; абціранне; **2.** намулянае месца; ◊ **na ~ łez** у суцяшэнне

**otawa** *ж. с.-г.* атава

**otchłań** *ж.* прорва, бездань, бяздонне; прадонне

**otępieć** *зак.* атупець

**otępienie** *н.* атупенне

**otłuszczenie** *н.* атлусценне; **~ serca** атлусценне сэрца

**oto** вось; **~ on!** вось ён!; **~ jestem** вось і я; **~ wszystko, co wiem** вось і (гэта) усё, што я ведаю; **ten ~ samochód** вось гэтая машына

**otoczeni|e** *н.* акружэнне, асяроддзе; **wpływ ~a** уплыў акружэння

**otoczyć** *зак.* **1.** абгарадзіць; **2.** акружыць

**otok** *м.* **1.** вобад, абадок; **2.** абвод

**otomana** *ж.* атаманка; сафа

**otóż** такім чынам; дык вось; і вось; **~ i ona** а вось і яна; **~ to** у тым вось і справа

**otrąbić** *зак.* **1.** пратрубіць; **2.** раструбіць

**otręby** *мн.* вотруб'е; **~ pszenne** пшанічнае вотруб'е

**otrucie** *н.* атручэнне

**otruć** *зак.* атруціць

**otruć się** *зак.* атруціцца

**otrzaskać się** *зак.* прывыкнуць, звыкнуцца, асвойтацца, асвоіцца

**otrzaskany** бывалы; спрактыкаваны; абазнаны; **jest ~ z** *czym* ён добра разбіраецца ў *чым*

**otrząsać** *незак.* абтрасаць; страсаць
**otrząsnąć** *зак.* абтрэсці, стрэсці
**otrząsnąć się** *зак.* **1.** атрэсціся; **2.** скінуць з сябе *што*; вызваліцца (*ад чаго*); **~się od wpływu** вызваліцца ад уплыву
**otrzeć** *зак.* **1.** абцерці, выцерці; **~ łzy** выцерці слёзы; **2.** нацерці; намуляць; **~ nogę** намуляць нагу
**otrzeć się** *зак.* **1.** выцерціся; **2.** дакрануцца, даткнуцца; сутыкнуцца
**otrzepać** *зак.* атрэсці, абтрэсці
**otrzepać się** *зак.* атрэсціся, абтрэсціся
**otrzepywać** *незак.* атрасаць, абтрасаць
**otrzepywać się** *незак.* атрасацца, абтрасацца
**otrzewn|a** *ж. анат.* брушына; **zapalenie ~ej** *мед.* запаленне брушыны
**otrzeźwi|ć** *зак.* **1.** працверазіць; **to go ~ło** гэта яго працверазіла; **2.** прывесці да прытомнасці
**otrzeźwieć** *зак.* **1.** працверазець; **2.** апрытомнець
**otrzęsiny** *мн.* атрасіны, атрэсіны (*жартоўны абрад пасвячэння ў студэнты*)
**otrzymać** *зак.* атрымаць
**otrzymywać** *незак.* атрымліваць
**otuch|a** *ж.* бадзёрасць; **dodać ~y** падбадзёрыць; **nabrać ~y** падбадзёрыцца; **stracić ~ę** страціць надзею; зажурыцца; засумаваць; затужыць; засмуціцца
**otulać** *незак.* ахутваць, ахінаць
**otulać się** *незак.* ахутвацца, ахінацца
**otulić** *зак.* ахутаць; ахінуць; абвінуць
**otulić się** *зак.* ахутацца; ахінуцца; абвінуцца
**otumanić** *зак.* затуманіць
**otwarcie**[1] адкрыта; шчыра; наўпрост
**otwarci|e**[2] *н.* адкрыццё; **godziny ~a** гадзіны працы (*установ*); **~e konta** адкрыццё рахунку; **~e kredytu** адкрыццё крэдыту
**otwartość** *ж.* адкрытасць, шчырасць
**otwart|y** адчынены, адкрыты; ◊ **dni ~e** дні адчыненых дзвярэй; **dom ~y** гасцінны дом; **pod ~ym niebem** пад голым (адкрытым) небам; **z ~ą głową** з шырокімі поглядамі; непрадузята; **z ~ymi ramionami** (*сустрэць*) сардэчна; радасна; ветліва; **list ~y** адкрыты ліст; **miasto ~e** адкрыты горад; **«u» ~e** *грам.* адкрыты «у»; **grać w ~e karty** гуляць адкрытымі картамі
**otwieracz** *м.* адкрывалка; **~ do puszek** кансервавы нож; **~ do butelek** адкрывалка
**otwierać** *незак.* адчыняць, адкрываць
**otwierać się** *незак.* адчыняцца, адкрывацца
**otworem** у адкрытым (адчыненым) стане; напята; **drzwi stoją ~** дзверы адчынены напята; **wszystko stoi ~** усё адчынена (адкрыта)
**otworzyć** *зак.* адчыніць, адкрыць
**otworzyć się** *зак.* адчыніцца, адкрыцца
**otw|ór, ~oru** *м.* адтуліна, дзірка; свідравіна; шчыліна; **~ór okienny** аконны праём; **~ór strzelniczy** *вайск.* амбразура; **~ór wiertniczy** буравая свідравіна
**otyć** *зак.* распаўнець; растаўсцець; разбыцца, раздацца
**otyłość** *ж.* паўната, таўшчыня
**otyły** поўны; тоўсты, дзябёлы
**otynkować** *зак.* абтынкаваць
**otynkowanie** *н.* тынкаванне; тынк
**owacja** *ж.* авацыя; бурныя воплескі
**owacyjny** з авацыямі; з энтузіязмам
**owad** *м.* насякомае; вусяк; **~y** *мн.* жамяра
**owadobójczy** *с.-г.* інсектыцыдны
**owadoznawstwo** *н.* энтамалогія
**owadożerne** *мн. бат., заал.* насякомаедныя
**owak: tak i ~** і так і сяк; **tak czy ~** так ці гэтак; **ni tak, ni ~** ні так, ні сяк
**owaki** *разм.* іншы; **taki czy ~** такі ці гэтакі
**owal, ~u** *м.* авал
**owalny** авальны
**owca** *ж.* авечка; ◊ **parszywa (czarna) ~** паршывая (шалудзівая) авечка
**owczarek** *м.* **1.** авечы пастушок; **2.** (*сабака*) аўчарка; **~ alzacki (niemiecki)** нямецкая аўчарка; **~ szkocki** колі
**owczarnia** *ж.* аўчарня; авечы хлеў
**owczarski** авечкагадоўчы
**owczarstwo** *н.* авечкагадоўля
**owczarz** *м.* аўчар, авечкавод
**owcz|y** авечы; ◊ **~y pęd** статкавае пачуццё; **wilk w ~ej skórze** воўк у авечай шкуры



**owdowiały** аўдавелы
**owdowieć** *зак.* аўдавець
**owiać** *зак.* абвеяць, правеяць
**owić** *зак.* абвіць, аплесці
**owies** *м.* авёс
**owiewać** *незак.* абвяваць
**owijacz** *м.* (*часцей мн.* **~e**) абмоткі
**owija|ć** *незак.* абвіваць, абмотваць, абкручваць; ◊ **nie ~j w bawełnę** не хітруй
**owinąć** *зак.* абматаць, абкруціць, абвінуць; ◊ **~ *kogo* dookoła małego palca** абвесці *каго* вакол пальца
**owładnąć** *зак. kim/czym* авалодаць, завалодаць *чым*, апанаваць *што*
**owłosieć** *зак.* пакрыцца валасамі (валоссем); акасмаціцца
**owłosienie** *н.* валасяное покрыва
**owłosiony** парослы валасамі, валасаты
**owo** *кніжн.* тое
**owoc, ~u** *м.* фрукт, плод; садавіна; **świeże ~e** свежыя фрукты, свежая садавіна; ◊ **~e pracy** плён (вынікі) працы; **~ zakazany** забаронены плод
**owocarnia** *ж.* садавінная крама
**owocarstwo** *н.* пладаводства
**owocnia** *ж. бат.* каляплоднік
**owocn|y** **1.** жыватворны; **2.** плённы; **~a praca** плённая праца
**owocobranie** *н.* збор садавіны
**owocolistek** *м. бат.* пладалісцік
**owocować** *незак.* **1.** пладаносіць; **2.** *перан.* прыносіць плён; даваць вынікі
**owocowy** пладовы, фруктовы; **ogród ~** фруктовы сад
**owóż** *уст.*; *гл.* **otóż**
**owrzodzenie** *н.* язва; нарыў
**owrzodziały**; *гл.* **owrzodzony**
**owrzodzony** пакрыты язвамі (нарывамі)
**owsianka** *ж.* аўсянка (*суп*)
**owsian|y** аўсяны; **płatki ~e** аўсяныя шматкі; **kleik ~y** аўсяны адвар
**owszem** **1.** так, ага; але; **czy lubisz owoce? – ~.** ты любіш фрукты? – так (але); **2.** наадварот; **nie trzeba go potępiać, ~ pomóc mu** не трэба яго асуджаць, наадварот, яму трэба дапамагчы
**owulacja** *ж. біял.* авуляцыя
**ozdabiać** *незак.* аздабляць, упрыгожваць, убіраць
**ozdob|a** *ж.* **1.** аздоба; упрыгожанне; украса; **dla ~y** для аздобы (украсы; упрыгожання); **2.** *перан.* краса; гонар
**ozdobić** *зак.* аздобіць, упрыгожыць, убраць
**ozdobiony** аздоблены, упрыгожаны, убраны
**ozdobnie** прыгожа, хораша
**ozdobnik** *м.* арнамент
**ozdobny** **1.** прыбраны, убраны; **2.** дэкаратыўны, аздабленчы
**ozdrowić** *зак.* аздаравіць
**ozdrowieć** *зак.* ачуняць, папраўіцца, выздаравець
**ozdrowienie** *н.* аздараўленне
**ozdrowieniec** *м.* чалавек, які выздараўлівае (папраўляецца, ачуньвае)
**ozdóbka** *ж.* аздабленне, аздоба
**ozieleniać** *незак.* азеляняць
**ozielenić** *зак.* азеляніць
**oziębiać** *незак.* ахалоджваць, астуджваць
**oziębia|ć się** *незак.* **1.** ахалоджвацца; астываць; **2.** *безас.* халадаць; **~ się** становіцца холадна; халадае
**oziębić** *зак.* астудзіць, ахаладзіць
**oziębi|ć się** *зак.* астыць, астудзіцца; **stosunki między nami się ~ły** адносіны паміж намі астылі; **~ło się** пахаладала, стала холадна
**oziębienie** *н.* **1.** ахаладжэнне; **2.** пахаладанне
**ozięble** *перан.* холадна; **przywitać ~** холадна сустрэць
**oziębłość** *ж.* халоднасць; **~ płciowa** *мед.* полавая халоднасць; фрыгіднасць
**oziębły** **1.** азяблы; **2.** *перан.* халодны
**oziębnąć** *зак.* змерзнуць
**ozimina** *ж.* рунь, азіміна
**ozim|y** азімы; **zboże ~e** азімае збожжа
**ozłacać** *незак.* азалочваць
**ozłocić** *зак.* азалаціць
**oznacza|ć** *незак.* абазначаць, адзначаць; **co to ~?** што гэта значыць?; **~ to, że ...** гэта значыць, што...
**oznaczenie** *н.* азначэнне, абазначэнне
**oznaczon|y** абазначаны; прызначаны; пазначаны; **o ~ej porze** у прызначаны час
**oznaczyć** *зак.* адзначыць, вызначыць

**oznajmiać** *незак.* *komu co* абвяшчаць; заяўляць; паведамляць *каму што*
**oznajmić** *зак.* заявіць, паведаміць
**oznajmienie** *н.* заява, паведамленне
**oznajmujący: tryb** ~ *грам.* абвесны лад
**oznaka** *ж.* **1.** адзнака; сімптом; ~ **zgody** знак згоды; **2.** эмблема; сімвал; ~ **władzy** сімвал улады
**ozon, ~u** *м.* *хім.* азон
**ozonować** *незак.* *хім.* азанаваць
**ozonowanie** *н.* *хім.* азанаванне
**ozonow|y** азонавы; **warstwa (powłoka) ~a** азонавы слой
**ozorek** *м.* *кул.* язык
**ozór** *м.* **1.** язык (*у звяроў*); **2.** *кул.* язык
**ożrebić się** *зак.* ажарабіцца
**ożaglowanie** *н.* *мар.* паруснасць (*уся колькасць ветразяў*)
**ożen|ek, ~ku** *м.* жаніцьба
**ożenić się** *зак.* ажаніцца
**ożóg** *м.* **1.** *перан.* галавешка; **2.** качарга; пожаг, вожаг
**ożyć** *зак.* ажыць, уваскрэснуць
**ożyna** *ж.* *бат.* *абл.* ажына
**ożywać** *незак.* ажываць
**ożywczo** жыватворна
**ożywczy** ажыўляльны; жыватворны
**ożywiać** *незак.* ажыўляць
**ożywiać się** *незак.* ажыўляцца
**ożywić** *зак.* ажывіць; ~ **rozmowę** ажывіць гутарку
**ożywić się** *зак.* ажывіцца
**ożywienie** *н.* ажыўленне; ~ **działalności** ажыўленне дзейнасці; ~ **koniunktury** ажыўленне кан'юнктуры; ~ **w przemyśle** прамысловае ажыўленне; ~ **gospodarcze** эканамічны ўздым
**ożywiony** ажыўлены

# Ó

**ósemka** *ж.* васьмёрка
**ósm|y** восьмы; **godzina ~a** восем гадзін; **~y cud świata** восьмы цуд свету
**ów** той; **ni to, ni owo** ні тое, ні сёе; **ni z tego, ni z owego** ні з таго, ні з сяго; ні з пушчы, ні з поля
**ówczesny** *кніжн.* тагачасны; ~ **król pochodził z dynastii Jagiellonów** тагачасны кароль паходзіў з дынастыі Ягелонаў
**ówcześnie** у той час; тады
**ówdzie: tu i** ~ а) там-сям, дзе-нідзе; б) туды і сюды

# P

**pac** плясь; ляп
**pacha** *ж.* **1.** падпаха; **pod ~ą** пад пахай; **2.** пройма (*рукава*)
**pachciarz** *м.* *уст.* арандатар
**pachnący** пахучы, духмяны
**pachnąć** *незак.* пахнуць
**pachnidła** *мн.* *кніж.* духмяныя рэчывы; духмянасці
**pachnieć** *незак.*; *гл.* **pachnąć**
**pacholę** *н.* **1.** *кніжн.* хлапец; падлетак; **2.** *уст.* хлопчык-слуга; паж
**pachołek** *м.* **1.** слуга; **2.** *пагард.* прыслужнік, нaйміт, халуй, халоп
**pacht, ~u** *м.* *уст.* арэнда
**pachwina** *ж.* **1.** *анат.* пахвіна; **2.** *бат.* пазуха
**pachwinowy** **1.** *анат.* пахвінны; **2.** *бат.* пазушны
**pacierz** *м.* малітва, пацеры; **mówić** ~ чытаць малітву; ◊ **umieć (znać) jak** ~ ведаць на памяць; **jak amen w ~u** без усялякага сумнення
**pacierzow|y** *анат.* пазваночны; хрыбетнікавы; **rdzeń ~y** спінны мозг; **stos ~y** пазваночнік; хрыбетнік; **kość ~a** пазванок
**paciorek** *м.* **1.** пацерка, пацерачка; **2.** **~ki** *мн.* пацеркі; каралі
**paciorkowiec** *м.* *біял.* стрэптакок
**pacjent** *м.* пацыент; хворы
**pacjentka** *ж.* пацыентка; хворая
**packa** *ж.* мухабойка; ляскаўка



**pacnąć** *зак.* *разм.* **1.** пляснуць; ляснуць; **2.** ляснуцца; плюхнуцца
**pacyfikacja** *ж.* уціхамірванне; карныя дзеянні; пацыфікацыя
**pacyfikować** *незак.* уціхамірваць
**pacyfista** *м.* пацыфіст
**pacyfistyczny** пацыфісцкі
**pacyfizm, ~u** *м.* пацыфізм
**pacykarz** *м.* *іран.* пэцкаль; гора-мастак
**pacykować** *незак.* *іран.* мазаць, пэцкаць
**pacynka** *ж.* *тэатр.* лялька бібабо
**paczk|a** *ж.* **1.** пачак; пакунак; скрутак; **~a z ubraniami** пакунак з адзеннем; **2.** пасылка; перадача; **otrzymać ~ę** атрымаць пасылку; **3.** *разм.* кампанія; **wesoła ~a** вясёлая кампанія
**paczkowany** расфасаваны
**paczyć** *незак.* **1.** крывіць, карабаціць; гнуць; **2.** *перан.* скажаць
**paczyć się** *незак.* **1.** скрыўляцца, карабаціцца; гнуцца; **2.** *перан.* скажацца
**paćkać** *незак.* *разм.* пэцкаць
**padaczka** *ж.* падучка; эпілепсія; падучая хвароба
**padaczkowy** эпілептычны
**pada|ć** *незак.* **1.** падаць; валіцца; **~ć wznak** падаць (валіцца) дагары; **~ć ze zmęczenia** падаць ад стомы; **2.** падаць, ісці (*пра ападкі*); **śnieg** ~ ідзе снег; **3.** гінуць; **krowy ~ją** каровы здыхаюць; **4.** падаць; **światło ~ło na środek stołu** святло падала на сярэдзіну стала; ◊ **~ć na cztery łapy** выходзіць з вады сухім
**padalec** *м.* **1.** *заал.* вераценніца (*Ophisautus apodus*); **2.** *перан.* гадзіна
**padlina** *ж.* падла; мярцвячына
**pager** *м.* [pejdżer] пэйджар
**pagina** *ж.* *паліграф.* калонлічба; **żywa** ~ калонтытул
**paginacja** *ж.* *паліграф.* пагінацыя; нумарацыя старонак
**paginować** *незак.* *паліграф.* нумараваць старонкі
**pagórek** *м.* узгорак; пагорак
**pagórkowaty** узгоркаваты; узгорысты
**pajac** *м.* паяц, блазан
**pająk** *м.* **1.** *заал.* павук; **2.** павук (*люстра*)
**pajda** *ж.* *разм.* луста; скібка; ~ **chleba** луста хлеба
**pajęcz|y** **1.** павуковы; павукоў; **nić ~a** павуціна; **2.** *перан.* ажурны; тонкі; празрысты
**pajęczyna** *ж.* павуціна, павуціннe
**paka** *ж.* **1.** скрыня; ~ **na ziemniaki** скрыня для бульбы; ~ **do węgla** скрыня для вугалю; **2.** пакунак; ~ **z książkami** пакунак з кнігамі; **3.** *разм.* каталажка
**pakiet, ~u** *м.* пакет; **kontrolny ~ akcji** кантрольны пакет акцый; ~ **ustaw** пакет законаў
**Pakistańczyk** *м.* пакістанец
**pakistański** пакістанскі
**pakowacz** *м.* упакоўшчык; пакавальнік
**pakować** *незак.* пакаваць, упакоўваць; укладваць; запіхваць; ◊ ~ **pieniądze** *w co разм.* укладваць грошы *ў што*
**pakować się** *незак.* пакавацца, упакоўвацца; укладвацца
**pakown|y** умяшчальны, ёмісты; **~a walizka** умяшчальны чамадан
**pakowy** упаковачны; пакавальны; **papier** ~ упаковачная папера
**pakt, ~u** *м.* пакт; дамова; ~ **o nieagresji** пакт аб ненападзенні; ~ **o wzajemnej pomocy** пакт аб узаемнай дапамозе
**paktować** *незак.* весці перамовы
**pakuły** *мн.* пакулле
**pakun|ek, ~ku** *м.* **1.** пакунак, пачак; скрутак; **2.** **~ki** *мн.* багаж
**pal** *м.* **1.** паля; **2.** кол; ◊ **wbić na** ~ *гіст.* пасадзіць на кол
**palacz** *м.* **1.** апальшчык, качагар; **2.** *разм.* курэц; ~ **nałogowy** заўзяты курэц
**palant** *м.* *спарт.* лапта
**palarnia** *ж.* курыльня; курыльная зала; ~ **opium** курыльня опіуму; ◊ ~ **kawy** месца для пражання кавы
**palatalizacja** *ж.* *лінгв.* палаталізацыя
**palatalny** *лінгв.* палатальны
**paląc|y** **1.** пякучы; гарачы, злабадзённы; **~a sprawa** пільная справа; **2.** той, хто курыць; курэц; **przedział dla ~ych** купэ для курцоў
**palcowy** пальцавы

па-першае; ~a w prawo першы паварот направа; nie *kto* ~, nie *kto* ostatni не *хто* першы, не *хто* апошні
**pierwszyzna: to mu nie** ~ гэта яму не ўпершыню; гэта для яго не навіна
**pierzast|y** пёрысты; **chmury ~e** пёрыстыя воблакі (аблокі)
**pierzchać** *незак.* уцякаць; даваць драла
**pierzchnąć**[1] *зак.* уцячы; даць драла
**pierzchną|ć**[2] *незак.* (*пра скуру*) рэпацца, рабіцца шурпатаю, трэскацца, лопацца; ~ **mi ręce** у мяне на руках скура рэпаецца (трэскаецца)
**pierze** *н.* апярэнне; ◊ **porastać w** ~ апервацца, убірацца ў пер'е
**pierzyna** *ж.* пярына
**pies** *м.* сабака; ~ **gończy** ганчак; ◊ ~ **morski** *заал.* цюлень (*Phoca vitulina L.*); **pod psem** вельмі кепска (дрэнна); **ty psie!** ты, сабака!; **psy wieszać** сабак вешаць; **zejść na psy** збяднець, згалець; **on jest** ~ **na** *kogo/co* ён ласы на *каго/што*
**piesek** *м.* сабачка; ◊ **francuski** ~ *іран.* пястун
**pieski** *разм.* кепскі; сабачы
**pestrzenica** *ж. бат.* страчок (*Gyromitra esculenta*)
**pieszczoch** *м.* пястун; улюбёнчык
**pieszczocha** *ж.* пястуха; улюбёнка
**pieszczony** пешчаны
**pieszczota** *ж.* пяшчотнасць, пяшчота; ласкавасць
**pieszczotliwy** пяшчотны; ласкавы
**pieszo** пехатой, пешкі, пешшу
**piesz|y 1.** пешы; **~y turysta** пешы турыст; вандроўнік; **~a wycieczka** паход; **2.** пяхотны; **pułk ~y** пяхотны полк; **3.** пешаход; **przejście dla ~ych** пешаходны пераход
**pieścić** *незак.* песціць *каго*; патворыць *каму*
**pieścić się** *незак.* песціцца; **nie** ~ **się z** *kim перан.* не цырымоніцца з *кім*
**pieśniarka** *ж.* спявачка
**pieśniarz** *м.* **1.** спявак; **2.** кампазітар-песеннік; **3.** *уст.* паэт; пясняр
**pieśń** *ж.* песня; ~ **ludowa** народная песня
**piet|er: mieć ~ra** *разм.* баяцца

**pietruszka** *ж. бат.* пятрушка (*Petroselinum Hoffm.*)
**pietyzm, ~u** *м.* піэтэт
**piewca** *м. кніжн.* паэта; пясняр
**pięciobok, ~u** *м.* **1.** пяцікутнік; пяцівугольнік; **2.** пяціграннік; пентагон
**pięciob|ój, ~oju** *м. спарт.* пяціборства
**pięciodniowy** пяцідзённы
**pięciogwiazdkowy** пяцізоркавы
**pięciokąt** *м.* пяцівугольнік
**pięciokrotnie** пяцікратна
**pięciokrotny** пяцікратны
**pięciolatka** *ж.* пяцігодка
**pięciolecie** *н.* пяцігоддзе
**pięcioletni** пяцігадовы; **plan** ~ пяцігадовы план
**pięciominutowy** пяціхвілінны, пяцімінутны
**pięciopiętrowy** шасціпавярховы
**pięcioprocentowy** пяціпрацэнтны, пяціпрацэнтавы
**pięcioraki** пяці відаў
**pięcior|o** *зборн.* пяцёра; **z ~giem dzieci** з пяцярымі дзецьмі; **w ~o** а) упяцёх; б) на пяць частак
**pięciu** *а.-м.* пяць; пяцёра; ~ **robotników** пяць (пяцёра) работнікаў
**pię|ć, ~ciu** пяць; ◊ **ni w ~ć, ni w dziewięć (dziesięć)** *разм.* ні ў пяць, ні ў дзесяць
**pięćdziesiąt** пяцьдзесят
**pięćdziesiąty** пяцідзесяты
**pięćdziesięciolecie** *н.* пяцідзесяцігоддзе
**pięćdziesięcioletni** пяцідзесяцігадовы
**pięćset** пяцьсот
**pięćsetny** пяцісотны
**pięd|ź** *ж.* пядзя; **nie mieć ~zi ziemi** пядзі зямлі не мець
**pięknie** добра; прыгожа; цудоўна; выдатна; ~ **wyglądać** цудоўна выглядаць
**pięknieć** *незак.* прыгажэць, харашэць
**piękno** *н.* краса, хараство, прыгожасць
**pięknoś|ć** *ж.* **1.** краса, прыгожасць, прыгажосць, прыгоства; **salon ~ci** салон прыгажосці; **konkurs ~ci** конкурс прыгажосці; **2.** красуня, прыгажуня, прыгожая
**piękn|y** прыгожы; **sztuki ~e** выяўленчыя мастацтвы; **literatura ~a** мастацкая літа-



ратура; прыгожае пісьменства; **~ego dnia** аднаго дня; аднойчы; у адзін цудоўны дзень; ◊ **płeć ~a** прыгожы пол
**pięściarski** баксёрскі
**pięściarstwo** *н.* бокс
**pięściarz** *м.* баксёр
**pięś|ć** *ж.* кулак; **walka na ~ci** кулачны бой; ◊ **prawo ~ci** закон мацнейшага, права кулака
**pięt|a** *ж.* пята; ◊ **aż mu w ~y poszło** яго закранула за жывое; **~a Achillesowa** ахілесава пята
**piętk|a** *ж.* **1.** пятка; **2.** акраец, акрайчык; ◊ **w ~ę gonić** дурнець
**piętnastoletni** пятнаццацігадовы
**piętnasty** пятнаццаты
**piętnaście** пятнаццаць; **za** ~ **czwarta** без пятнаццаці (чвэрці) чатыры
**piętno** *н.* **1.** *перан. гіст.* кляймо; адбітак; знак; **odcisnąć na** *kim/czym* **swoje** ~ пакласці свой адбітак на *кім/чым*; ~ **zbrodni** *перан.* кляймо злачынства; **2.** (*на скуры*) пляма, радзімы знак, радзімка
**piętnować** *незак. гіст. уст.* клеймаваць; ~ **zbrodniarza** клеймаваць злачынца (злачынцу)
**piętr|o** *н.* **1.** паверх; **mieszkać na drugim ~ze** жыць на трэцім паверсе; **2.** *тэатр.* ярус
**piętrow|y** двухпавярховы; двух'ярусны; **dom ~y** двухпавярховы дом; **łóżko ~e** двух'ярусны ложак
**piętrz|yć się** *незак.* грувасціцца, нагрувашчвацца; **fale się ~ą** хвалі ўздымаюцца
**Pigmej** *м.* пігмей
**Pigmejczyk** *м.*; *гл.* **Pigmej**
**pigment, ~u** *м.* пігмент
**pigmentacja** *ж.* пігментацыя
**pigularz** *м. уст. жарт.* аптэкар
**pigułk|a** *ж.* пілюлька; таблетка; **~a nasenna** снатворная таблетка; **~a antykoncepcyjna** супрацьзачаткавая таблетка; ◊ **przełknąć ~ę** праглынуць пілюлю; **osłodzić ~ę** падсаладзіць пілюлю
**pigwa** *ж. бат.* айва (*дрэва і плод*)
**pigwowy** айвовы

**pijack|i** уласцівы п'яніцам; **~a awantura** п'яны скандал
**pijak** *м.* п'яніца
**pijalnia** *ж.* павільён мінеральных вод, бювет
**pijan|y** п'яны; **po ~emu** у п'яным стане; ◊ **~y jak bela** п'яны ў дупель; **~y szczęściem** п'яны ад шчасця
**pijaństwo** *н.* п'янства
**pijatyka** *ж.* папойка, выпіўка
**pijawka** *ж. заал.* п'яўка (*Hirudo*)
**pik** *м. нескл. карц.* віны; пікі; **dama** ~ дама пік; пікавая дама; віновая краля
**pika**[1] *ж. гіст., вайск.* піка
**pika**[2] *ж. тэкст.* піке
**pikanteria** *ж.* пікантнасць
**pikantnie** пікантна
**pikantny** пікантны
**pikieta** *ж.* пікет
**pikietować** *незак.* пікетаваць
**piknik, ~u** *м.* пікнік
**pikow|y**[1] *карц.* віновы; пікавы; **dama ~a** пікавая (віновая) дама
**pikowy**[2] пікейны
**pilnie 1.** старанна; рупліва; **2.** пільна, спешна, тэрмінова
**pilnik** *м.* напільнік; ~ **do paznokci** пілка для пазногцяў
**pilno** пільна, спешна, тэрмінова; ~ **nam do domu** нам тэрмінова трэба дадому
**pilność** *ж.* **1.** руплівасць; старраннасць; дбайнасць; **2.** пільнасць; тэрміновасць
**piln|ować** *незак.* **1.** *kogo/czego* клапаціцца *аб кім/чым*; берагчы *каго/што*; сачыць *за кім/чым*; пільнаваць; сцерагчы *каго/што*; **2.** *czego* захоўваць; трымаць *што*; прытрымлівацца *чаго*; ◊ **~uj swego nosa!** *разм.* не лезь не ў свае справы!
**piln|y 1.** старанны; руплівы; працавіты; **2.** спешны, тэрміновы; пільны; **~a sprawa** пільная (спешная; тэрміновая) справа
**pilot** *м.* **1.** пілот; **2.** *мар.* лоцман; **3.** *жарг.* гід; праваднік
**pilotaż, ~u** *м.* **1.** пілатаж; **2.** лоцманская праводка
**pilotka** *ж.* **1.** жанчына-пілот; **2.** шлем (*лётчыка*); пілотка

**pilotować** *незак.* **1.** *ав.* пілатаваць; **2.** *мар.* праводзіць судны; **3.** *жарг.* **kogo** паказваць шлях *каму*; суправаджаць *каго*
**pilśniow|y** **1.** лямцавы; **buty ~e** лямцавыя чаравікі; **2.** фетравы; **kapelusz ~y** фетравы капялюш
**pilśń** *ж.* **1.** лямец; **2.** фетр
**piła** *ж.* піла; **~ tarczowa** дыскавая піла
**piłk|a**[1] *ж.* мяч; **grać w ~ę** гуляць у мяч; **~a nożna** футбол; **~a ręczna** ручны мяч; гандбол
**piłk|a**[2] *ж. тэх.* пілка; **~ włośnicowa** лобзік
**piłkarski** футбольны
**piłkarstwo** *н.* футбол
**piłkarz** *м.* футбаліст
**piłować** *незак.* **1.** пілаваць; **2.** *перан. разм.* падганяць
**pinceta** *ж.* пінцэт
**pinczer** *м.* пінчэр
**pinezka** *ж.* кнопка
**ping-pong** *м.* настольны тэніс; пінг-понг; **grać w ~a** гуляць у настольны тэніс
**pingwin** *м. заал.* пінгвін
**piołun, ~u** *м.* **1.** *бат.* палын (*Artemisia absinthium L.*); **2.** палынны настой; **3.** *перан.* горыч
**pion, ~u** *м.* **1.** *тэх.* грунтвага; адвес; **2.** *мат.* перпендыкуляр
**pionek** *м. шахм. і перан.* пешка
**pionier** *м.* **1.** піянер; пачынальнік; **2.** *гіст.* піянер (*член дзіцячай арганізацыі ў СССР*)
**pionierski** піянерскі
**pionowy** перпендыкулярны; вертыкальны
**piorun, ~u** *м.* гром; пярун; ◊ **~em** вельмі хутка (шпарка); маланкай; **do ~a!** каб яго чорт узяў!; **niech go ~ trzaśnie!** д'ябал з ім!
**piorunochron, ~u** *м.* громаадвод
**piorunować** *незак. перан.* граміць
**piorunujący** **1.** грамавы; **2.** *перан.* ашаламляльны
**piosenka** *ж.* песня; песенька
**piosenkarz** *м.* песеннік; спявак
**piórk|o** *н.* **1.** пёрка; **lekki jak ~o** лёгкі, як пёрка; **2.** пяро; **~o kreślarskie** чарцёжнае пяро; ◊ **obrastać w ~a** апярацца; сталець; **stroić się w cudze ~a** прыбірацца ў чужое пер'е
**piórkowy** **1.** перысты; у выглядзе пяра; **2.** *маст.* выкананы пяром; **rysunek ~** малюнак пяром
**piórnik** *м.* пенал
**pióro** *н.* **1.** пяро; пер'е; **2.** пяро; ручка; **gęsie ~** гусінае пяро; **wieczne ~** аўтаручка; **cięte ~** вострае пяро; **3.** (*у весла*) лопасць
**pióropusz** *м.* плюмаж, султан
**pipeta** *ж.* піпетка
**piracki** пірацкі
**piractwo** *н.* пірацтва
**piramida** *ж.* піраміда
**piramidalny** пірамідальны
**pirat** *м.* пірат
**piroksylina** *ж. хім.* піраксілін
**pirotechnik** *м.* піратэхнік
**pirotechnika** *ж.* піратэхніка
**piruet** *м.* піруэт
**piryt, ~u** *м. мін.* пірыт
**pisać** *незак.* пісаць; **~ drukowanymi literami** пісаць друкаванымі літарамі; **~ na maszynie** друкаваць; ◊ **jak cię widzą, tak cię piszą** *прык.* відаць сокала па палёце, а саву па паглёдзе
**pisać się** *незак.* **1.** пісацца; **jak to się pisze?** як гэта пішацца?; **2.** падпісвацца; згаджацца *на што*; далучацца *да чаго*
**pisak** *м.* фламастэр
**pisanie** *н.* пісанне
**pisanina** *ж. пагард.* пісаніна
**pisanka** *ж.* пісанка
**pisarka** *ж.* пісьменніца
**pisarsk|i** **1.** пісьменніцкі; літаратурны; **spuścizna ~a** літаратурная спадчына; **2.** пісьмовы; **przyrządy ~ie** пісьмовыя прылады
**pisarstwo** *н.* літаратурная дзейнасць; пісьменства
**pisarz** *м.* **1.** пісьменнік; **2.** *уст.* пісар
**pisemnie** пісьмова
**pisemn|y** пісьмовы; **odpowiedź ~a** пісьмовы адказ; **materiały ~e** пісьмовыя прылады
**pisk, ~u** *м.* піск; віск



**pisklę** *н.* птушаня
**piskliwy** піскл́івы
**piskorz** *м. заал.* уюн (*Misgurnus fossilis L.*)
**pismak** *м. пагард.* пісака
**pism|o** *н.* **1.** пісьмо; шрыфт; **~o pochyłe** курсіў; **2.** пісанне; **~o święte** святое пісанне; Біблія; **3.** пісьмо; ліст; **4.** выданне (*газета, часопіс*); **~o techniczne** тэхнічнае выданне, тэхнічны часопіс; **5.** почырк; **mieć ładny (czytelny) charakter ~a** мець прыгожы (чытэльны; разборлівы) почырк; **6. ~a** *мн.* збор твораў; **wybór ~** выбраныя творы; **na piśmie** пісьмова; на паперы
**pisnąć** *зак.* піснуць; пікнуць; **nie ~ (ani) słowa** не сказаць (пікнуць) ні слова
**pisownia** *ж.* правапіс; арфаграфія
**pistacja** *ж. бат.* фісташка (*Pistacia L.*)
**pistolet, ~u** *м.* пісталет; **~ maszynowy** аўтамат
**pisuar, ~u** *м.* пісуар
**piszący** той, хто піша
**piszczałka** *ж.* пішчык, дудачка
**piszcz|eć** *незак.* **1.** пішчаць; вішчаць; **2.** енчыць; плакаць; **3.** дудзець; ◊ **u nich bieda aż ~y** *разм.* яны не могуць звесці канцы з канцамі; **wiedzieć, co w trawie ~y** ведаць, куды вецер дзьме
**piszczel** *ж., м. анат.* галёначная костка
**piśmiennictwo** *н.* **1.** пісьменнасць; **2.** літаратура
**piśmienniczy** літаратурны
**piśmienn|y** **1.** пісьменны; **2.** пісьмовы; **materiały ~e** пісьмовыя прылады; **egzamin ~y** пісьмовы экзамен
**pitn|y** пітны; **~a woda** пітная вада; **miód ~y** а) сыта; б) медавуха
**piwiarnia** *ж.* піўная; піўны бар; шынок
**piwnica** *ж.* склеп; падвал
**piwniczny** склепавы; падвальны
**piwn|y** **1.** піўны; **2.** карый; **~e oczy** карыя вочы
**piw|o** *н.* піва; **~o jasne (ciemne)** светлае (цёмнае) піва; ◊ **dać na ~o** даць на чай; даць гасцінца; **nawarzyć ~a** заварыць кашу; **małe ~o** лёгкая справа
**piwonia** *ж. бат.* півоня (*Paeonia L.*)
**piwosz** *м.* аматар піва
**piwowar** *м.* півавар
**pizza** *ж.* піца
**pizzeria** *ж.* піцэрыя; піцэрня
**piżama** *ж.* піжама
**piżmo** *н.* мускус
**piżmowiec** *м. заал.* кабарга (*Moschus moschiferus L.*)
**piżmowy** мускусны
**plac, ~u** *м.* пляц; плошча; пляцоўка; **~ budowy** будаўнічая пляцоўка; **~ zabaw** пляцоўка для гульняў; **~ boju** поле бою
**plac|ek** *м.* **1.** салодкі пірог; **2. ~ki** *мн.* аладкі; **~ki kartoflane** дранікі; **3.** перапечка; праснак; ◊ **padać (leżeć) ~kiem** падаць (ляжаць) плазам (ніцма)
**placówka** *ж.* **1.** *вайск.* застава; пост; **2.** прадстаўніцтва; пункт; **~ dyplomatyczna** дыпламатычнае прадстаўніцтва; **~ naukowa** навуковы цэнтр; **~ handlowa** гандлёвы пункт
**plaga** *ж.* бедства, няшчасце, бяда; **~ szarańczy** нашэсце саранчы
**plagiat, ~u** *м.* плагіят
**plagiator** *м.* плагіятар
**plajt|a** *ж.* **1.** банкруцтва з намерам; **2.** *перан.* банкруцтва, правал, няўдача; **zrobić ~ę** а) збанкрутаваць; б) панесці няўдачу; праваліцца
**plajtować** *незак. разм.* банкрутаваць
**plakat, ~u** *м.* плакат
**plakietka** *ж.* значок; бэдж
**plam|a** *ж.* **1.** пляма; **tłusta ~a** тлустая пляма; **2.** *перан.* пляма; ганьба; ◊ **biała ~a** белая пляма
**plamić** *незак.* **1.** пляміць; пэцкаць; мазаць; **2.** *перан.* пляміць; ганьбіць
**plamić się** *незак.* пляміцца; пэцкацца
**plamisty** плямісты; ◊ **tyfus ~** *мед.* сыпны тыф
**plan, ~u** *м.* **1.** план; праект; праграма; **~ budowy** план будаўніцтва; **~ inwestycyjny** план капіталаўкладанняў; **~ produkcji** вытворчы план; **~ mobilizacyjny** *вайск.* мабілізацыйны план; **robić ~y** строіць планы; **przekroczyć ~** перавыканаць план; **wprowadzić w życie ~**

ажыццявіць (рэалізаваць) план; **2.** план; чарцёж; ~ **miasta** план горада; **3.** план (*месцазнаходжанне*); **pierwszy** ~ першы план; ◊ **zejść na drugi (dalszy)** ~ адысці на другі план
**plandeka** *ж.* брызентавая пакрышка
**planeta** *ж.* планета
**planetarium** *н.* планетарый
**planetarny** планетарны
**planimetria** *ж.* планіметрыя
**planista** *м.* планавік
**plankton, ~u** *м. біял.* планктон
**planować** *незак.* планаваць
**planowanie** *н.* планаванне
**planowo** планава
**planowy** планавы
**plansza** *ж.* **1.** дыяграма; табліца; **2.** эстамп
**planszow|y: gra ~a** настольная гульня
**plant, ~u** *м.* **1.** насып, палатно (*чыгункі*); **2.** ~**y** *мн.* бульвар
**plantacja** *ж.* плантацыя
**plantator** *м.* плантатар
**plastelina** *ж.* пластылін
**plaster** *м.* **1.** *мед.* пластыр; **2.** слой; скрылік; ~ **szynki** скрылік шынкі; ~ **miodu** кавалак сотаў з мёдам
**plastik, ~u** *м.*; *гл.* **plastyk²**
**plastikowy**; *гл.* **plastykowy**
**plastyczność** *ж.* **1.** пластычнасць; **2.** рэльефнасць; вобразнасць, яркасць
**plastyczn|y 1.** мастацкі; **sztuki ~e** выяўленчыя мастацтвы; **oprawa ~a** мастацкае афармленне (аздабленне); **2.** рэльефны; **~y obraz** рэльефная выява; **mapa ~a** рэльефная карта; **3.** пластычны; вобразны, яркі; **4.** пластычны; **masa ~a** пластычная маса; **5.** *мед.* пластычны; **chirurgia ~a** пластычная хірургія
**plastyk¹** *м.* скульптар
**plastyk², ~u** *м.* пластык; пластмаса
**plastyka** *ж.* пластыка
**plastykowy** пластмасавы
**platan** *м. бат.* платан (*Platanus L.*)
**plater** *м.* плаке
**platerowanie** *н.* плакіраванне, плакіроўка
**platerowany** плакіраваны
**platforma** *ж.* платформа
**platfus, ~u** *м. мед.* пляскатая ступня
**platoniczn|y** платанічны; **miłość ~a** платанічнае каханне
**platyna** *ж.* плаціна
**platynować** *незак.* плацінаваць
**platynowy** плацінавы
**plazma** *ж. біял.* плазма
**plaża** *ж.* пляж; ~ **strzeżona** пляж з аховай; **dzika** ~ нудысцкі (дзікі) пляж
**plażować** *незак.* загараць на пляжы
**plażowy** пляжны
**plądrować** *незак.* спусташаць, пустошыць, раскрадаць, рабаваць
**pląsać** *незак.* скакаць, танцаваць
**pląsy** *мн. уст. жарт.* скокі
**plątać** *незак.* **1.** блытаць, заблытваць; бэрсаць; **2.** *разм.* блытаць; мяшаць, умешваць
**plątać się** *незак.* **1.** блытацца, заблытвацца, зблытвацца; бэрсацца; **2.** блытацца; збівацца; ~ **się w odpowiedziach** блытацца ў адказах; ◊ **nogi mu się plączą** у яго ногі заплятаюцца; ~ **się pod nogami** блытацца (круціцца) пад нагамі
**plątanina** *ж.* **1.** блытаніна; неразбярыха; **2.** спляценне; перапляценне
**pleban** *м.* парафіяльны ксёндз; плябан
**plebania** *ж.* дом парафіяльнага ксяндза, плябанія
**plebiscyt, ~u** *м.* плебісцыт
**plebiscytowy** плебісцытны
**plebs, ~u** *м. зборн.* плебс
**plecak** *м.* ранец; заплечнік; рэчавы мяшок
**plecionka** *ж.* пляцёнка; ~ **słomiana** саламяная пляцёнка
**pleciony** плецены
**plecówka** *ж.* лапатка (*частка тушы*)
**plec|y** *мн.* **1.** спіна; **leżeć na ~ach** ляжаць на спіне; **2.** плечы; **szeroki w ~ach** шырокі ў плячах; ◊ **robić** *co* **za** *czyimi* **~ami** рабіць *што* за *чыімі* плячамі; **ma ~y za sobą** у яго ёсць падтрымка
**pleczysty** плячысты
**pleć** *незак.* палоць
**pled, ~u** *м.* плед
**plejada** *ж.* плеяда



**plemienn|y** племянны; **związki ~e** а) племянныя сувязі; б) саюзы плямён
**plemi-ę** *н.* племя; **~ona słowiańskie** славянскія плямёны; ◊ **człowiecze** ~ чалавечы род
**plemnik** *м. біял.* сперматазоід
**plenarny** пленарны
**plener, ~u** *м.* пленэр; натура; **w ~ze** на прыродзе
**plenić się** *незак.* размнажацца, размнажвацца
**plenipotencja** *ж.* паўнамоцтва
**plenipotent** *м.* упаўнаважаны; даверaная асоба
**plenność** *ж.* **1.** плоднасць; **2.** (*пра глебу*) урадлівасць
**plenum** *н.* пленум
**pleść** *незак.* плесці; ~ **koszyk** плесці кошык; ◊ ~ **głupstwa** плесці глупствы; ~ **koszałki-opałki (androny)** плесці кашалі
**pleśnieć** *незак.* цвісці (*пра хлеб і інш.*), зацвітаць, пляснець, броснець (*пра вадкасці*)
**pleśń** *ж.* цвіль, плесня; бросня
**pletwa** *ж.*; *гл.* **płetwa**
**plew|a** *ж.* мякіна; **odróżniać ziarno od ~y** аддзяляць зерне ад мякіны
**plewić** *незак.*; *гл.* **pleć**
**plik, ~u** *м.* **1.** пачак; звязка; ~ **papierów** пачак дакументаў; **2.** *камп.* файл
**plisa** *ж.* складка; плісэ; гармонічкі
**plisować** *незак.* плісіраваць
**plisowany** плісіраваны
**pliszka** *ж. заал.* сітаўка, пліска (*Motacilla L.*)
**plomba** *ж.* пломба
**plombować** *незак.* пламбаваць
**plombowanie** *н.* пламбаванне
**plon, ~u** *м.* **1.** ураджай; збор ураджаю; жніво; **2.** *перан.* плён; вынікі; **obfite ~y** багатыя вынікі; **zbierać ~ swej pracy** збіраць плён сваёй працы
**plotka** *ж.* плётка; чутка; пагалас; пераказа; лапатня
**plotkarka** *ж.* пляткарка; бразготка; пахатуха
**plotkarz** *м.* пляткар; вягала; звадыяш
**plotkować** *незак.* пляткарыць, разводзіць плёткі; вымысляць; лухціць
**plucha** *ж.* хлюпота, слата; хляба
**plu|ć** *незак.* пляваць; **~ję na to!** напляваць!; ◊ **~ć sobie w brodę** валасы рваць; кусаць локці
**plugawy** гадкі, агідны, паскудны; шкарадны
**plujka¹** *ж. заал.* мясная муха (*Calliphora erythrocephala Mg.*)
**plujka²** *ж. камп.* чарнільны (струменны) прынтар
**plunąć** *зак.* плюнуць
**pluralistyczny** плюралістычны
**pluralizm, ~u** *м.* плюралізм
**plus** *м.* плюс; **dwa ~ dwa** два плюс два; ~ **cztery stopnie** чатыры градусы вышэй нуля; плюс чатыры [градусы]; **umieć** *co* **na piątkę z ~em** ведаць *што* на пяцёрку з плюсам; ◊ ~ **minus** плюс-мінус; больш менш; **~y i minusy** плюсы і мінусы; за і супраць
**plusk, ~u** *м.* плёскат, пляск
**pluskać** *незак.* пляскаць, плёскаць, плюскатаць
**pluskać się** *незак.* пляскацца, плёскацца, плюхацца, пялёскацца
**pluskiewka** *ж.* кнопка
**pluskwa** *ж.* **1.** клоп; **2.** *перан.* жучок (*прылада для падслухоўвання*)
**plusz, ~u** *м.* плюш
**pluszowy** плюшавы; ~ **niedźwiadek** плюшавы мядзведзік
**plutokracja** *ж.* плутакратыя
**pluton¹, ~u** *м. вайск.* узвод; ~ **egzekucyjny** а) узвод, які выконвае смяротны прысуд; б) карны атрад
**pluton², ~u** *м. хім.* плутоній
**plutonowy** узводны
**plwać** *незак.*; *гл.* **pluć**
**plwocin|a** *ж.* **1.** плявок; **2.** **~y** *мн.* макроты; харкавінне
**płaca** *ж.* плата; заработная плата; зарплата; ~ **brutto (netto)** заработная плата брута (нета); ~ **minimalna** мінімальная зарплата; ~ **realna** рэальная заработная плата; ~ **zasadnicza** асноўная зарплата

**płacenie** *н.* аплата, выплата; ~ **alimentów** выплата аліментаў

**płachta** *ж.* полка; палотнішча; радно; радніна; ◊ ~ **papieru** вялікі аркуш паперы; **czerwona** ~ чырвоная ануча

**płacić** *незак.* плаціць; ~ **gotówką** плаціць наяўнымі [грашыма]; ~ **na raty** плаціць у растэрміноўку; ~ **przelewem** плаціць пераводам; ~ **z góry** плаціць авансам; ~ **dobrem za złe** плаціць дабром за зло

**płacz, ~u** *м.* плач; **wybuchnąć ~em** выбухнуць плачам; ◊ **padół ~u** краіна слёз; **gorzki** ~ горкі плач

**płaczący** які плача

**płaczliwy** плаксівы

**płakać** *незак.* плакаць; рыдаць; бедаваць; ~ **gorzkimi łzami** плакаць горкімі слязьмі; ~ **po** *kim* плакаць па *кім*; **rzewnie** ~ плакаць буйнымі слязьмі; ~ **się chce** *іран.* аж плакаць хочацца

**płakanie** *н.* плач

**płaksa** *ж.* плакса; плаксун; плаксуха

**płaski** плоскі, пляскаты, плыткі; ~ **dach** пляскаты дах; ~ **talerz** мелкая (плыткая) талерка; ~ **obcas** нізкі абцас

**płasko** плоска; пляската

**płaskorzeźba** *ж.* барэльеф

**płaskowyż, ~u** *м.* пласкагор'е

**płastuga** *ж. заал.* камбала

**płaszcz** *м.* **1.** паліто; плашч; ~ **nieprzemakalny** непрамакальны плашч; ~ **kąpielowy** лазневы халат; **2.** *тэх.* кажух; абалонка

**płaszczka** *ж. заал.* скат

**płaszczyć się** *незак.* **1.** сплескваца, расплескваца, рабіцца плоскім; **2.** прыніжацца

**płaszczyk** *м.* **1.** плашчык; лёгкае паліто; **2.** *жарг.* прэзерватыў; ◊ **pod ~iem** *czego* пад выглядам *чаго*

**płaszczyzna** *ж.* плоскасць; паверхня; ~ **przekroju** *мат.* сякучая плоскасць; ~ **rzutowania** *мат.* плоскасць праекцыі; ~ **styczna** *мат.* датычная плоскасць; ◊ ~ **porozumienia** агульная думка; агульная мова; агульны погляд

**płat, ~u** *м.* **1.** кавалак, кусок; акравак; ~ **mięsa** кавалак мяса; **2.** паласа; палоса; участак; **3.** *ав.* крыло; **4.** *анат.* доля; ~ **płucny** доля лёгкага

**płatać** *незак.* рассякаць; пластаваць; распластваць; удараць (*нажом*); ◊ ~ **figle** дурэць, вырабляць штукі

**płat|ek** *м.* **1.** пялёстак (*у кветках*); **2.** шматок; кавалачак; лапік; **~ki mydlane** мыльная стружка; **~ek śniegu** сняжынка; **~ki owsiane** аўсяныя шматкі (камякі); ◊ **jak z ~ka** як па масле

**płatnerz** *м. уст.* збройнік

**płatnica** *ж. тэх.* нажоўка

**płatniczy** плацежны; **środek** ~ плацежны сродак; **bilans** ~ плацежны баланс; **nakaz** ~ плацежны ордэр

**płatnik** *м.* **1.** плацельшчык; ~ **podatku** плацельшчык падаткаў; **2.** касір

**płatnoś|ć** *ж.* плацеж; **termin ~ci** тэрмін плацяжу

**płatn|y** платны; аплатны; які падлягае аплаце; **rachunek ~y w maju** рахунак з тэрмінам плацяжу ў маі; **~e usługi** платныя паслугі; **~y morderca** *разм.* наёмны забойца; кілер; **~e gotówką** аплата наяўнымі; **~e z góry** папярэдняя аплата; **~e przy odbiorze** аплачваецца пры атрыманні

**pławić**[1] *незак.* **1.** купаць; ~ **konie** купаць коней; **2.** сплаўляць; ~ **drzewo** сплаўляць лес (дрэва)

**pławić**[2] *незак.* плавіць, расплаўляць; ~ **rudę** плавіць руду

**pławić się** *незак.* купацца, плавацца; ◊ ~ **się we krwi** плаваць у крыві; ~ **się w rozkoszach (w luksusie)** купацца ў раскошы

**pławik** *м.* паплавок; плавок

**pławny 1.** плавальны; **pęcherz** ~ плавальны пузыр; **2.** *уст.* суднаходны; **3.** *уст.* цякучы; пратокавы

**płaz** *м.* **1.** ~**u** гад; паўзун; **2.** ~**u** плаз; **uderzyć** *kogo* **~em** ударыць *каго* плазам; **3.** *перан.* гадзіна; ◊ **puścić** *co* **~em** *перан.* пакінуць *што* бяскарным, дараваць *што*; **to ci nie ujdzie ~em!** гэта табе проста так не пройдзе!



**płciow|y** палавы; сексуальны; **cechy ~e** палавыя адзнакі; **popęd ~y** палавая цяга

**płeć** *ж.* **1.** пол; **dziecko płci męskiej** дзіця мужчынскага полу; **ludzie obojga płci** людзі абодвух полаў; ◊ ~ **piękna** *жарт.* прыгожы пол; жанчыны; **brzydka** ~ *жарт.* мужчыны

**płetwa** *ж.* плаўнік; ласт; ~ **grzbietowa** хіб

**płetwonogie** *мн. заал.* перапончатаногія

**płetwonurek** *м.* аквалангіст

**płocha** *ж. тэкст.* бёрда

**płochliwość** *ж.* палахлівасць, пужлівасць

**płochliwy** палахлівы, пужлівы; пудлівы; ляклівы

**płochość** *ж.* несур'ёзнасць, ветранасць

**płochy 1.** палахлівы, пужлівы; **2.** несур'ёзны, ветраны

**płoć** *ж. заал.* плотка (*Rutilus rutilus L.*)

**płodność** *ж.* плоднасць, урадлівасць, пладавітасць; плённасць

**płodny** плодны, пладавіты; плённы; ~ **pisarz** пладавіты пісьменнік

**płodozmian, ~u** *м.* пладазмен

**płodzić** *незак.* **1.** пладзіць; нараджаць; **2.** даваць плён

**płodzić się** *незак.* пладзіцца

**płomienić się** *незак.* палымнець; палаць

**płomienn|y 1.** палымяны; вогненны; **2.** *перан.* палымянасць; палкасць; жарснасць; **~a miłość** палымянае каханне

**płomie|ń** *м.* полымя; агонь; ◊ **miotacz ~ni** *вайск.* агнямёт; **stanąć w ~niach** а) успалыхнуць; шугнуць, загарэцца; б) *перан.* зарумяніцца, пачырванець; **morze ~ni** мора агню (полымя)

**płomyk** *м.* **1.** аганёк, агеньчык; **2.** *бат.* флёкс (*Phlox L.*); ◊ ~ **nadziei** пробліск (агеньчык) надзеі

**płonąć** *незак.* палаць, палымнець; гарэць, чырванець; ~ **chęcią zemsty** палаць пачуццём помсты; ~ **ze wstydu** чырванець (гарэць) ад сораму

**płonica** *ж. мед.* шкарлятына

**płonność** *ж.* марнасць; бясплённасць; бескарыснасць

**płonn|y** дарэмны; марны; **~a nadzieja** дарэмная надзея; **~e wysiłki** дарэмныя намаганні; ◊ ~ **kwiat** пустацвет

**płoszyć** *незак.* пужаць, палохаць

**płoszyć się** *незак.* пужацца, палохацца

**płot, ~u** *м.* плот; паркан; тын; агароджа

**płot|ek** *м.* **1.** парканчык; платок; **2.** *спарт.* бар'ер; **bieg przez ~ki** бар'ерны бег; бег з бар'ерамі

**płotka** *ж.*; *гл.* **płoć**

**płotkarski** *спарт.* бар'ерны

**płowieć** *незак.* **1.** ліняць, блякнуць, аблазіць; **2.** жаўцець

**płow|y** светла-жоўты; палавы; бялявы; ◊ **zwierzyna ~a** алень

**płoz|a** *ж.* палаз; **drewniane ~y** драўляныя палазы; **ślady płóz** сляды палазоў

**płócienny** палатняны

**płód, płodu** *м.* **1.** плод; **płody ziemi** плады (плён) зямлі; **2.** *біял.* зародак, плод; ~ **nie donoszony** неданошаны плод

**płótno** *н.* **1.** палатно; ~ **żaglowe** парусное палатно; **blady jak** ~ бледны (белы) як палатно; **2.** палатно; карціна

**płucka** *мн. кул.* лёгкія (*страва*)

**płuc|o** *н.* лёгкае; **zapalenie** ~ запаленне лёгкіх

**pług, ~u** *м.* плуг; ~ **bezodkładnicowy** безадвальны плуг; ~ **śnieżny** снегаачышчальнік; снегачыст

**płukać** *незак.* паласкаць; ~ **gardło** паласкаць горла; ~ **bieliznę** паласкаць бялізну

**płukanie** *н.* паласканне; ~ **gardła** паласканне горла

**płycizna** *ж.* мель, меліна, плыткае месца

**płyn, ~u** *м.* вадкасць; ~ **do mycia naczyń** вадкасць для мыцця посуду; ~ **po goleniu** ласьён пасля галення; ~ **fizjologiczny** *мед.* фізіялагічны раствор; ~ **hamulcowy** тармазная вадкасць; ~ **do kąpieli** вадкае мыла для душа; пена для ванны; ~ **do płukania jamy ustnej** зубны эліксір

**płyn|ąć** *незак.* **1.** плыць; **rzeka ~ie** рака плыве; **statek ~ie** карабель плыве; **~ąć z prądem** плыць па цячэнні; **~ąć pod**

**prąd** плыць супраць цячэння; **2.** цячы; **łzy ~ą z oczu** слёзы цякуць з вачэй; **lata ~ą** гады ідуць

**płynnie 1.** плаўна; роўна; **2.** бегла; свабодна; **ona mówi ~ po angielsku** яна свабодна (бегла) гаворыць па-англійску

**płynność** *ж.* **1.** цякучасць; **2.** плаўнасць; роўнасць; беглась; **3.** ліквіднасць; цякучасць; **~ aktywów** ліквіднасць актываў; **~ rynku pieniężnego** ліквіднасць грашовага рынку; **~ siły roboczej** цякучасць рабочай сілы

**płynn|y 1.** цякучы; вадкі; **2.** плаўны; гладкі; **3.** зменлівы; цякучы; няўстойлівы; ◊ **gotówka ~a** наяўныя грошы

**płyta** *ж.* **1.** пліта; панэль; **~ marmurowa** мармуровая пліта; **~ chodnikowa** тратуарная плітка; **~ nagrobkowa** надмагільная пліта; **~ pamiątkowa** мемарыяльная дошка; **2.** пліта; **~ kuchenna** кухонная пліта; **3.** пласцінка; кружэлка; дыск; **~ kompaktowa** кампакт-дыск; **~ główna** *камп.* мацярынская (галоўная) плата

**płytka** *ж.* плітка; пласцінка; **~ nazębna** зубны камень (налёт)

**płytki 1.** плыткі; неглыбокі; **~ talerz** плыткая талерка; **2.** павярхоўны

**płytkość** *ж.* **1.** мелкасць, плыткасць; **2.** павярхоўнасць; **~ argumentów** *перан.* павярхоўнасць аргументацыі

**płytoteka** *ж.* фанатэка; дыскатэка (*калекцыя дыскаў, кружэлак*)

**pływacki** плавальны

**pływaczka** *ж.* плыўчыха

**pływać** *незак.* плаваць

**pływak** *м.* **1.** плывец; **2.** плавок; паплавок

**pływalnia** *ж.* басейн для плавання

**pływanie** *н.* плаванне

**pnącza** *мн. бат.* павойныя (вітковыя) расліны

**pneumatyczny** пнеўматычны; **młot ~** пнеўматычны молат

**pniak** *м.* пень, пянчук

**po 1.** па; **chodzić ~ ulicach** хадзіць па вуліцах; **szukać ~ domach** шукаць па хатах; **2.** пасля; па, за; **czuwać ~ nocach** не спаць па начах; **~ przyjeździe** пасля прыезду, па прыездзе; **~ północy** пасля поўначы; за поўнач; **wywoływać ~ nazwisku** выклікаць па прозвішчы; **zażywać ~ łyżeczce** прымаць па лыжачцы; **poznać** *kogo* **~ głosie** пазнаць *каго* па голасе; **krewny ~ matce** сваяк па маці; **3.** па; **iść ~ chleb** ісці па хлеб; ◊ **~ pierwsze** па-першае; **~ drugie** па-другое; **~ brzegi** да берагоў (краёў); **~ jednemu** па адным; **~ złotemu** па залатоўцы; **~ ludzku** па-чалавечы; **~ polsku** па-польску; **~ cichu** ціхенька; ціхутка; цішком; **~ ciemku** упоцемку; папацёмку

**pobawić się** *зак.* пазабавіцца; павесяліцца; пагуляць

**pobiała** *ж.* **1.** пабелка; пабел; **2.** цынкавыя бялілы; **3.** палуда

**pobicie** *н.* **1.** пабоі, збіванне; **2.** паражэнне, параза (*арміі*)

**pobi|ć** *зак.* **1.** збіць, пабіць; **2.** разбіць; перамагчы; **~ć na głowę** *вайск.* разбіць ушчэнт; ◊ **~ć rekord** пабіць рэкорд; **grad ~ł zboże** град пабіў збожжа

**pobić się** *зак.* пабіцца

**pobiec** *зак.* **1.** пабегчы; **2.** паляцець; памкнуцца

**pobiegać** *зак.* пабегаць

**pobiegnąć** *зак.*; *гл.* **pobiec**

**pobielać** *незак.* **1.** бяліць; **2.** (*посуд*) лудзіць

**pobielanie** *н.* **1.** пабелка, пабел; **2.** луджэнне

**pobielany** луджаны; **rondel ~** луджаная каструля

**pobielić** *зак.* **1.** пабяліць; **2.** палудзіць

**pobierać** *незак.* **1.** атрымліваць; **~ emeryturę** атрымліваць пенсію; **2.** браць; паглынаць; успрымаць; **~ ciepło** *фіз.* паглынаць цяпло; **3.** браць; спаганяць, сыскваць; **~ opłatę** браць плату; **~ podatki** збіраць падаткі; ◊ **~ naukę (nauki)** *уст.* вучыцца

**pobierać się** *незак.* жаніцца; браць шлюб

**pobieżnie** павярхоўна; бегла; **przeczytać** *co* **~** прагледзець *што*; **~ rzucić okiem na** *co* бегла зірнуць на *што*; кінуць вокам на *што*



**pobieżny** павярхоўны, беглы

**pobladły** пабляднелы; пабялелы; спалатнелы

**pobladnąć** *зак.* пабляднець; пабялець; спалатнець

**pobliski** суседні; блізкі

**pobliż|e** *н.* блізкасць; **w ~u wioski** паблізу (блізка) ад вёскі

**pobłażać** *незак. komu/czemu* патураць *каму/чаму*; адносіцца паблажліва *да каго/чаго*; **~ swawoli** патураць свавольству; **~ nadużyciom** патураць злоўжываннямя, адносіцца паблажліва да злоўжыванняў

**pobłażanie** *н.* паблажлівасць; патуранне

**pobłażliwość** *ж.* паблажлівасць, патуранне

**pobłażliwy** паблажлівы

**pobłądzić** *зак.* **1.** заблукаць; **2.** памыліцца; зрабіць памылку

**pobłogosławić** *зак.* дабраславіць

**pobocze** *н.* абочына; узбочча; край

**poboczn|y** пабочны; **zdanie ~e** *грам.* даданы сказ

**pobojowisko** *н.* поле бою; пабоішча

**poborca** *м.* зборшчык (*падаткаў і да т.п.*)

**poborow|y 1.** прызыўны; **wiek ~y** прызыўны ўзрост; **komisja ~a** прызыўная камісія; **2.** падатковы; **3. ~y** *м.* прызыўнік

**pobożnie** набожна, пабожна

**pobożniś** *м. іран.* святоша

**pobożność** *ж.* набожнасць, пабожнасць

**pobożny** набожны, пабожны

**pob|ór, ~oru** *м.* **1.** прызыў; набор; **~ór do wojska** рэкруцкі набор; **2.** збор, спагнанне (падаткаў); **~ór podatków** спагнанне падаткаў; **3.** *тэх.* спажыванне; **4. ~ory** *мн.* плата, зарплата; пенсія; аклад

**pobrać się** *зак.* пажаніцца; пабрацца *з кім*

**pobranie: za ~m** накладною платаю

**pobratymczy** пабрацімскі

**pobratymiec** *м.* пабрацім

**pobratymstwo** *н.* пабрацімства

**pobrudzić** *зак.* забрудзіць, запэцкаць

**pobrudzić się** *зак.* забрудзіцца, запэцкацца

**pobrzeże** *н.* узбярэжжа

**pobrzękiwać** *незак.* пабразгваць, бразгатаць

**pobudk|a** *ж.* **1.** матыў; прычына; **~i postępowania** матывы паводзін; **2.** *вайск.* пабудка; **~a!** пад'ём!

**pobudliwość** *ж.* узбудлівасць

**pobudliwy** узбуджальны

**pobudzać** *незак.* заахвочваць; падахвочваць; пабуджаць; стымуляваць; **~** *kogo* **do działania** пабуджаць (заахвочваць) *каго* да дзеяння

**pobudzający** узбуджальны; **środek ~** узбуджальны сродак

**pobudzenie** *н.* **1.** выкліканне; стымуляванне; **2.** *фізіял.* узбуджэнне

**pobudzić** *зак.* **1.** выклікаць; падахвоціць; заахвоціць; стымуляваць; **~ do śmiechu** выклікаць смех; **2.** пабудзіць; разбудзіць

**pobyć** *зак.* пабыць

**pobyt, ~u** *м.* знаходжанне; пражыванне; **miejsce ~u** месца знаходжання; **~ stały (tymczasowy)** сталае (часовае) знаходжанне (пражыванне)

**pobytow|y** які звязаны з пражываннем (знаходжаннем); **wiza ~a** часовая віза

**pocałować** *зак.* пацалаваць; ◊ **~ klamkę** пацалаваць у прабой; **pocałuj mnie gdzieś** *груб.* пацалуй мяне ў адно месца

**pocałować się** *зак.* пацалавацца

**pocałun|ek, ~ku** *м.* пацалунак

**pocechować** *зак.* памеціць; паставіць кляймо

**pochlebca** *м.* ліслівец, падлізнік

**pochlebczy** ліслівы, падлізлівы

**pochlebia|ć** *незак. komu* **1.** ліслівіць *перад кім*; хваліць *каго*; падлізвацца *да каго*; лёсткі падпускаць; **2.** цешыць *каго/што*; падабацца *каму/чаму*; **~ło mi, że ...** мяне цешыла, што...; мне падабалася, што...

**pochlebn|y** пахвальны; **wydać ~ą opinię** даць хвалебны (станоўчы) водзыў

**pochlebstwo** *н.* ліслівасць, падлізванне; лёсткі; лёстачкі

**pochłaniacz** *м.* паглынальнік

**pochłaniać** *незак.* **1.** паглынаць; усмоктваць; абсарбіраваць; **~ dźwięki** паглынаць гукі; **2.** паглынаць; патрабаваць; **~**

**wielkie koszty** патрабаваць вялікіх выдаткаў; **3.** паглынаць; захопліваць
**pochłanianie** *н.* паглынанне
**pochłonąć** *зак.* **1.** паглынуць; усмактаць; абсарбіраваць; **2.** паглынуць; запатрабаваць; **3.** паглынуць; захапіць
**pochmurnie** пахмурна, хмурна
**pochmurnieć** *незак.* пахмурнець
**pochmurny** пахмурны, хмурны
**pochodna** *ж. мат.* вытворная
**pochodnia** *ж.* паходня, факел, зніч
**pochodnik** *м. лінгв.* вытворнае слова
**pochodnikowy** *лінгв.* вытворны
**pochodność** *ж.* вытворнасць
**pochodn|y** вытворны; другасны; **wyraz ~y** вытворнае слова; **instrumenty ~e** *фін.* вытворныя інструменты
**pochodzeni|e** *н.* паходжанне; **~e społeczne** сацыяльнае паходжанне; **on jest Polakiem z ~a** ён паляк па паходжанні
**pochodzić 1.** *зак.* пахадзіць; **~ sobie przed domem** пахадзіць перад домам; **2.** *незак.* паходзіць; **~ ze wsi** паходзіць з вёскі; **~ z rodziny robotniczej** паходзіць з рабочай сям'і
**pochopnie** таропка; хутка; безразважна
**pochopny** неабдуманы; таропкі
**pochować** *зак.* **1.** схаваць; **~ do kieszeni** схаваць у кішэню; **2.** (*пра памерлага*) пахаваць
**pochować się** *зак.* пахавацца; схавацца
**pochowek** *м.* пахаванне
**poch|ód, ~odu** *м.* **1.** (*дзейнасць*) шэсце; марш; **2.** шэсце; працэсія; калона; ◊ **~ód lodu** крыгаход
**pochówkowy** пахавальны
**pochrząkiwać** *незак.* адкашлівацца
**pochwa** *ж.* **1.** ножны; **2.** чахол; футарал; похва; **3.** *анат.* похва
**pochwalać** *незак.* **1.** ухваляць, хваліць; **nie ~** *czego* не ўхваляць, асуджаць *што*; **2.** *уст.* хваліць, усхваляць
**pochwalić** *зак.* пахваліць, ухваліць
**pochwalić się** *зак.* пахваліцца
**pochwalny** хвалебны, пахвальны; **hymn ~** хвалебны гімн; **list ~** пахвальная грамата

**pochwalony: niech będzie ~!** (*вітанне ў каталікоў*) пахвалёны!; пахвалёны ў хату!
**pochwał|a** *ж.* пахвала, ухвала; **godny ~y** варты пахвалы
**pochwiać** *зак.* пахіснуць
**pochwiać się** *зак.* пахіснуцца
**pochwycić** *зак.* **1.** схапіць, схваціць; **2.** ахапіць; зразумець; ◊ **~ władzę** захапіць уладу; **~ sprzed nosa** выхапіць з-пад носа; **~ w lot** зразумець імгненна (з лёту)
**pochylać** *незак.* нахіляць, схіляць, нагінаць
**pochylać się** *незак.* нахіляцца, схіляцца, нагінацца
**pochylić** *зак.* нахіліць, схіліць, нагнуць
**pochylić się** нахіліцца, схіліцца, нагнуцца
**pochylnia** *ж.* **1.** нахіленая плоскасць; схіл; спад; пакат; *архіт.* пандус; **2.** *мар.* стапель
**pochylony** нахілены
**pochyło** пахіла, нахілена
**pochyłość** *ж.* нахіл; схіл
**pochyły** нахілены; пахілы; **~m drukiem** курсівам
**pociąć** *зак.* **1.** (*нажом, нажніцамі*) разрэзаць; парэзаць; **2.** (*сякерай, шабляй*) пасячы; насячы; рассячы; **3.** (*пілой*) распілаваць; напілаваць; **4.** (*пра насякомых*) пакусаць; скусаць
**pociąg, ~u** *м.* **1.** цягнік; **~ bezpośredni** прамы цягнік; **~ towarowy** таварны цягнік; **~ pośpieszny** скоры (хуткі) цягнік; **~ podmiejski** прыгарадны цягнік; **jechać ~iem** ехаць цягніком; **2.** *do kogo/czego* цяга; ухіл, схільнасць
**pociągać** *незак.* **1.** цягнуць; тузаць; **~ za sznurek** цягнуць за вяровачку; **2.** пакрываць; **~ drzewo pokostem** пакрываць дрэва пакостам; **3.** *перан.* прыцягваць; прывабліваць; цягнуць; **~** *kogo* **do odpowiedzialności** прыцягваць *каго* да адказнасці; **4.** выклікаць; цягнуць (*за сабой*)
**pociągając|y** прывабны; прынадны; панадны; **~a propozycja** прывабная прапанова



**pociągł|y** прадаўгаваты, авальны; **~ej twarzy** з прадаўгаватым тварам
**pociągn|ąć** *зак.* **1.** пацягнуць; **2.** пакрыць; **3.** *перан.* прыцягнуць; ◊ **on długo nie ~ie** *разм.* ён доўга не працягне
**pociągnięcie** *н.* **1.** *маст.* штрых; **2.** *перан.* мерапрыемства; ◊ **jednym ~m** адным махам; **jednym ~m pióra** адным росчыркам пяра
**pociągow|y** запражны; **koń ~y** запражны конь; **zwierzę ~e** цяглыя жывёлы
**pocić** *незак.*: **~ czoło** працаваць *над чым*; ламаць галаву *над чым*
**pocić się** *незак.* **1.** пацець; **2.** *перан.* карпець, гарбець *над чым*
**pociec** *зак.* пацячы; паліцца; заструменіць
**pociech|a** *ж.* **1.** суцяшэнне; уцеха, радасць; **na ~ę** на суцяшэнне; **2.** (*пра дзіця*) малыш; малышок; ◊ **mieć sto ~** *z kim* смяяцца *з каго*; **mała (niewielka) z tego ~a** ад гэтага мала карысці
**pociemnić** *зак.* прыцьміць; зацямніць
**pociemnieć** *зак.* пацямнець
**pocierać** *незак.* паціраць; **~ czoło dłonią** паціраць лоб рукой
**pocierpnąć** *зак.* здранцвець; знямець; сшэрхнуць
**pocieszać** *незак.* суцяшаць
**pocieszać się** *незак.* суцяшацца
**pocieszający** суцяшальны
**pocieszeni|e** *н.* суцяшэнне; **nagroda ~a** суцяшальны прыз
**pocieszny** пацешны; забаўны
**pocieszyciel** *м.* суцяшальнік
**pocieszyć** *зак.* суцешыць
**pocieszyć się** *зак.* суцешыцца
**pocięty** парэзаны
**pociotek** *м. разм.* далёкі сваяк
**pocisk, ~u** *м.* снарад; куля; ◊ **zatrute ~i** атручаныя стрэлы
**pociskać 1.** *зак.* пакідаць; **2.** *незак.* націскаць; ціснуць
**pocisnąć** *зак.* націснуць
**pociśnięcie** *н.* націсканне, націск
**pocukrzyć** *зак.* пацукраваць, пасыпаць цукрам

**począć** *зак.* **1.** пачаць, распачаць; **2.** зачаць; ◊ **co ~?** што рабіць?
**począt|ek, ~ku** *м.* **1.** пачатак; **od samego ~ku** з самага пачатку; **od ~ku do końca** з (ад) пачатку да канца; **na ~ek** для пачатку; **na ~ku** на пачатку; **z ~ku** спачатку; **brać ~ek** *od kogo/czego* паходзіць (пачынацца) *з каго/чаго*; **2. ~ki** *мн.* пачатковыя звесткі; пачаткі; асновы
**początkowo** спачатку, спярша, перш
**początkowy** пачатковы
**początkujący** пачынаючы; пачатковец; які пачынае
**począwszy** пачаўшы; **~ od** пачаўшы з (ад)
**poczciwiec** *м.* добры, шчыры чалавек
**poczciwość** *ж.* сумленнасць
**poczciwy** адкрыты; шчыры
**poczekać** *зак.* пачакаць
**poczekalnia** *ж.* **1.** (*на вакзале*) зала чакання; **2.** прыёмны пакой
**poczekani|e: na ~u** а) неадкладна, зараз жа; б) на хаду
**poczerniały** пачарнелы; счарнелы
**poczernić** *зак.* пачарніць
**poczernieć** *зак.* пачарнець
**poczerwieniały** пачырванелы
**poczerwienieć** *зак.* пачырванець
**poczesn|y** паважаны, пачэсны; **~e miejsce** пачэснае месца
**pocz|et, ~tu** *м.* [некаторая] колькасць; шэраг; пералік; **~et sztandarowy** сцяганосцы; **~et królów polskich** польскія каралі; ◊ **na ~** у лік; **zaliczyć w ~et przyjaciół** залічыць да ліку сяброў
**poczę|cie** *н.* **1.** пачатак; **2.** зачацце; **regulacja ~ć** кантроль за нараджальнасцю
**poczęstować** *зак.* пачаставаць
**poczęstun|ek, ~ku** *м.* **1.** пачастунак; **2.** прыём (*невялікі*)
**poczłapać** *зак.* пацягнуцца, павалачыся, пашлёпаць
**poczołgać się** *зак.* папаўзці, парачкаваць
**poczt|a** *ж.* **1.** пошта; **~a elektroniczna** электронная пошта; **wysłać** *co* **~ą** паслаць (адправіць) *што* па пошце; **~ą lotniczą** авіяпоштай; **~a główna** паштамт; **2.** пошта; карэспандэнцыя; **świeża ~a** све-

жая пошта; ◊ ~a **pantoflowa** погалас; чуткі
**pocztow|y** паштовы; **skrzynka ~a** паштовая скрынка; **urząd ~y** пошта; паштовае аддзяленне; **znaczek ~y** марка; **opłata ~a** паштовы збор; **gołąb ~y** паштовы голуб
**pocztówka** *ж.* паштоўка; паштовая картка
**pocztylion** *м. уст.* паштальён; лістаноша
**poczubić się** *зак. разм. жарт.* пасварыцца, пабіцца
**poczucie** *н.* **1.** пачуццё; адчуванне; ~ **własnej godności** пачуццё ўласнай годнасці; ~ **humoru** пачуццё гумару; **2.** самаадчуванне
**poczuć** *зак.* пачуць; адчуць
**poczuć się** *зак.* адчуць сябе; пачуцца
**poczuwać się** *незак. do czego* **1.** усведамляць *што*; адчуваць сябе *кім*; ~ **się do obowiązku** усведамляць свае абавязкі; ~ **się do winy** адчуваць сваю віну; **2.** прызнаваць *што*
**poczwara** *ж.* пачвара; страхоцце
**poczwarka** *ж.* лічынка; кукалка; чарва; лярва
**poczwarny** пачварны
**poczwórny** чатырохразовы, чатырохкратны
**poczynać** *незак.* **1.** пачынаць, распачынаць; **2.** *бiял.* зачынаць; ◊ ~ **sobie** паводзіць сябе
**poczynanie** *н.* пачынанне; мерапрыемства; захады
**poczynić** *зак.* зрабіць; ~ **zakupy** зрабіць пакупкі; ~ **spustoszenia** спустошыць; ~ **postępy** зрабіць поспехі; дабіцца поспехаў; ~ **kroki** зрабіць захады
**poczytać** *зак.* **1.** пачытаць; **2.** *кніжн. za kogo/co* палічыць; прызнаць *кім/чым*
**poczytalność** *ж.* прысутнасць поўнай памяці; наяўнасць свядомасці; **ograniczona** ~ абмежаваная дзеяздольнасць
**poczytalny: być ~m** быць пры поўнай памяці, мець усведамленне (свядомасць)
**poczytny** папулярны (*пра кнігі*)
**poczytywać** *незак.* лічыць; ~ *komu* **za złe** ставіць *каму* ў віну
**poćwiartować** *зак.* **1.** рассячы, рассекчы; **2.** *перан.* расчляніць, раздзяліць
**pod 1.** пад; **wejść ~ stół** залезці пад стол; **ziemia ~ ziemniaki** зямля пад бульбу; **2.** у, пад; у час; ~ **wieczór** пад вечар; ~ **koniec bitwy** пад канец бою; ~ **nieobecność** у час адсутнасці; **3.** супраць; пад; **iść ~ wiatr** ісці супраць ветру; **iść ~ górę** ісці пад гару; падымацца на гару; **4.** пад, каля; **~e drzwiami** пад дзвярамі; ~ **Warszawą** пад Варшавай; **bitwa ~ Grunwaldem** бітва пад Грунвальдам; **być ~ ręką** быць пад рукою; **5.** пад, пры; ~ **wodzą** пад камандаваннем; **oddać ~ komendę** аддаць у распараджэнне; ~ **warunkiem** пры ўмове; ~ **pozorem** пад выглядам; пад маркай; прыкрываючыся; **pisać ~ adresem** пісаць на адрас
**podać** *зак.* **1.** падаць; даць; ~ **rękę** падаць руку; ~ **obiad** падаць абед; **2.** падаць, паведаміць; **3.** *спарт.* падаць, перадаць (*мяч*)
**podać się** *зак.* **1.** *za kogo* выдаць сябе за *каго*; назвацца *кім*; **2.** падацца, высунуцца (*наперад*); ◊ ~ **się do dymisji** падаць у адстаўку
**podagra** *ж. мед.* падагра
**podajnik** *м. тэх.* падавальнік
**podanie** *н.* **1.** прашэнне; заява; ~ **o pracę** заява на працу; **złożyć ~** падаць заяву; **2.** паданне, легенда; **3.** *спарт.* падача; **4.** падача, уручэнне
**podany** пададзены; **obiad ~** абед пададзены
**podar|ek, ~ku** *м.*; *гл.* **podarunek**
**podarować** *зак.* **1.** падарыць; **2.** *уст.* дараваць, прабачыць
**podarty** падзёрты; парваны
**podarun|ek, ~ku** *м.* падарунак, гасцінец
**podat|ek, ~ku** *м.* падатак; **~ek akcyzowy** акцызны падатак; **~ek dochodowy** прыбытковы падатак; **~ek graniczny** пагранічны падатак; **~ek importowy** увазны (імпартны) падатак; **~ek lokalowy** жыллёвы падатак; **~ek obrotowy** падатак з абароту; **~ek od płac** падатак на заработную плату; **~ek od przedsiębiorstw** падатак з прадпрыемстваў; **~ek spadkowy** падатак на спадчыну; **zwolnić od ~ku** вызваліць ад падатку



**podatkow|y** падатковы; **~y rachunek** падатковы рахунак; **urząd ~y** падатковая ўстанова; **zeznanie ~e** падатковая дэкларацыя
**podatnik** *м.* падаткаплацельшчык
**podatność** *ж.* падатлівасць, успрымальнасць, схільнасць
**podatny** падатлівы, падаткі; успрымальны, схільны
**podawać** *незак.* **1.** падаваць; перадаваць; ~ **do stołu** падаваць на стол; **2.** падаваць; паведамляць; даваць; **3.** *спарт.* пасаваць; даваць перадачу (пас)
**podawać się** *незак.* **1.** *za kogo* выдаваць сябе *за каго*; **2.** падавацца, высоўвацца (*наперад*)
**podaż** *ж. эк.* прапанаванне, прапанова; **popyt i ~** попыт і прапанова; **~żywności** прапанаванне харчавання
**podążać** *незак.* накіроўвацца; спяшацца
**podążyć** *зак.* накіравацца; паспяшацца
**podbechtać** *зак. разм.* падбухтарыць, падбіць, падгаварыць
**podbechtywać** *незак. разм.* падбухторваць, падбіваць, падгаворваць
**podbiał, ~u** *м. бат.* падбел (*Tussilago farfara L.*)
**podbici|e** *н.* **1.** заваяванне; **2.** усход, пад'ём; **buty cisną na ~u** боты цісну́ць у пад'ёме; **3.** падкладка
**podbić** *зак.* **1.** падбіць; ~ **obcas** падбіць абцас; ~ **oko** падбіць вока; **2.** заваяваць; ~ *czyje* **serce** заваяваць *чыё* сэрца
**podbiec** *зак.* падбегчы
**podbiegać** *незак.* падбягаць
**podbiegunow|y** палярны; **koło ~e** палярны круг
**podbijać** *незак.* **1.** падбіваць; **2.** заваёўваць
**podbity 1.** падбіты; **2.** заваяваны
**podb|ój, ~oju** *м.* заваяванне, заваёва
**podbródek** *м.* падбародак, падбароддзе
**podbrzusze** *н.* падбрушша, ніз жывата
**podbuntować** *зак.* узбунтаваць, узбурыць
**podburzać** *незак.* падбухторваць, пад'юджваць
**podburzyć** *зак.* падбухтарыць, пад'юдзіць
**podchmielony** падпіты; нападпітку
**podchodzić** *незак.* падыходзіць
**podchorążówka** *ж.* афіцэрскае вучылішча
**podchorąży** *м.* падхарунжы; малодшы лейтэнант; **szkoła ~ch** афіцэрскае вучылішча
**podchwycić** *зак.* падхапіць, падхваціць
**podchwytliw|y: ~e pytanie** каверзнае пытанне, пытанне з закавыкай
**podchwytywać** *незак.* падхопліваць, падхватваць
**podciąć** *зак.* **1.** падсячы, падрэзаць; ~ **włosy** падстрыгчы валасы; ~ **sobie żyły** перарэзаць сабе вены; **2.** падсцёбнуць, падхвоснуць; ◊ ~ **nogę** зрабіць падножку
**podciągać** *незак.* **1.** падцягваць; **2.** падыходзіць; падступаць; **3.** падводзіць
**podciągać się** *незак.* **1.** падцягвацца; **2.** падыходзіць; падступаць
**podciągnąć** *зак.* **1.** падцягнуць; **2.** падысці; падступіць; **3.** падвесці (*пад артыкул закона*)
**podciekać** *незак.* падцякаць
**podcierać** *незак.* падціраць
**podcięcie** *н.* падрэзка; падсечка
**podcinać** *незак.* **1.** падсякаць; падразаць; **2.** падсцёбваць, пахвостваць; ◊ ~ *komu* **skrzydła** падразаць *каму* крылы
**podcyfrować** *зак.* падпісаць ініцыяламі, паставіць ініцыялы
**podczas** у час, падчас; ~ **gdy** у той час, калі
**podczerwień** *ж. фіз.* інфрачырвонае выпраменьванне
**podczerwony** *фіз.* інфрачырвоны
**podczołgać się** *зак.* падпаўзці
**poddać** *зак.* **1.** здаць; ~ **twierdzę** здаць крэпасць; **2.** паддаць; ~ **ciężar na plecy** паддаць цяжар на плечы; **3.** падвергнуць; ~ **krytyce** раскрытыкаваць, узяць пад крытыку; ~ **pod głosowanie** паставіць на галасаванне; ~ **myśl** падаць думку
**poddać się** *зак.* **1.** паддацца; капітуляваць, здацца; **2.** паддацца; падпарадкавацца;

**potwarz** *ж.* паклёп; звадня; нагавор; **rzucić** *na kogo* ~ абылгаць, абгаварыць *каго*; узвесці паклёп *на каго*

**potwierdzać** *незак.* пацвярджаць, сцвярджаць

**potwierdzenie** *н.* пацвярджэнне; сцвярджэнне; пасведчанне; ~ **zamówienia** пацвярджэнне заказу; ~ **zawarcia umowy** ратыфікацыя дагавора

**potwierdzić** *зак.* пацвердзіць, сцвердзіць

**potwornie** пачварна; страшэнна; жахліва; **wyglądać (czuć się)** ~ жахліва выглядаць (адчуваць сябе); ~ **głodny** страшэнна галодны

**potworność** *ж.* пачварнасць; жахлівасць

**potworny** пачварны; страшэнны; жахлівы

**potw|ór, ~ora** *м.* **1.** пачвара; монстр; **2.** *перан.* звер; звыроддзе

**potyczka** *ж.* сутычка; бойка

**potykać się** *незак.* спатыкацца

**potylica** *ж.* *анат.* патыліца

**potyliczny** патылічны

**pouczać** *незак.* **1.** *kogo o czym* вучыць, навучаць *каго чаму*; тлумачыць *каму што*; **2.** павучаць

**pouczający** павучальны, навучальны

**pouczenie** *н.* **1.** павучанне, настаўленне; **2.** інструкцыя

**pouczyć** *зак.* павучыць, навучыць

**poufalić się** *незак.* фамільярнічаць

**poufałość** *ж.* фамільярнасць; бесцырымоннасць

**poufały** фамільярны; бесцырымонны

**poufnie** сакрэтна; канфідэнцыяльна

**poufny** сакрэтны; канфідэнцыяльны

**poukładać** *зак.* паскладваць, паскладаць

**powab, ~u** *м.* **1.** прывабнасць; панаднасць; чароўнасць; **2.** *перан.* прынада

**powabny** **1.** чароўны, цудоўны; **2.** прывабны, панадны

**powag|a** *ж.* **1.** важнасць; паважнасць, сур'ёзнасць; значнасць; **~a sytuacji** сур'ёзнасць сітуацыі; **z ~ą** важна, з важнасцю; сур'ёзна; **2.** аўтарытэт; **~a naukowa** навуковы аўтарытэт

**powalać** *зак.* запэцкаць, забрудзіць

**powalić** *зак.* паваліць

**pował, ~u** *м. зборн.* павал; буралом

**powaśnić** *зак. кніжн.* пасварыць

**powaśnić się** *зак. кніжн.* пасварыцца

**poważać** *незак.* паважаць; шанаваць

**poważani|e** *н.* павага, паважанне; пашана; **cieszyć się ~em** карыстацца павагай; «**łączę wyrazy ~a (zostaję się z ~em)**» «з павагай» (*формула ветлівага заканчэння ліста*)

**poważnie** сур'ёзна; **wyglądać** ~ выглядаць сур'ёзна; ~? сур'ёзна?; **na** ~ усур'ёз

**poważn|y** сур'ёзны; значны; **muzyka ~a** класічная музыка; ◊ **stan ~y** а) цяжкі стан; б) цяжарнасць; **~e zamiary** сур'ёзныя намеры; **~y wiek (~e lata)** сталы (паджылы) век (узрост)

**powąchać** *незак.* панюхаць

**powątpiewać** *незак.* *o czym* сумнявацца *ў чым*; не давяраць *чаму*

**powątpiewanie** *н.* сумненне

**poweseleć** *зак.* павесялець

**powetować** *незак.* кампенсаваць; нагнаць; ~ **straty** пакрыць (вярнуць) страты; ~ **krzywdę** адплаціць за крыўду; ~ **czas** нагнаць час

**powędrować** *зак.* адправіцца, павандраваць

**powiać** *зак.* **1.** павеяць; **2.** махнуць; узмахнуць

**powiadamiać** *незак.* *kogo o czym* паведамляць *каму што* (*пра што*)

**powiadomić** *зак.* *kogo o czym* паведаміць *каму што* (*пра што*)

**powiadomienie** *н.* паведамленне

**powiastka** *ж.* апавяданне (*для дзяцей*); прыпавесць

**powiat, ~u** *м.* павет

**powiatowy** павятовы

**powiązać** *зак.* **1.** павязаць; звязаць; **2.** *перан.* звязаць; злучыць

**powiązani|e** *н.* сувязь; **~e wzajemne** узаемная сувязь; узаемасувязь; **~a międzynarodowe** міжнародныя сувязі

**powici|e** *н.* **1.** спавіванне; **2.** пялёнкі, спавівачы; **3.** *перан.* нараджэнне; **od ~a** ад нараджэння

**powidła** *мн.* павідла



**powiedzenie** *н.* **1.** выказванне; **2.** выраз; выслоўе; афарызм; **trafne** ~ трапнае слоўца; ◊ **nad wszelkie** ~ *уст.* невымоўна

**powiedz|ieć** *зак.* сказаць; вымавіць; **co chcesz przez to ~ieć?** што ты хочаш гэтым сказаць?; ◊ **~my** скажам; **że tak powiem** так бы мовіць

**powiedzonko** *н. разм.* прымаўка, афарызм, показка

**powiek|a** *ж.* павека; **zamknąć ~i** а) заплюшчыць вочы; б) *перан.* памерці

**powielacz** *м.* памнажальны апарат

**powielać** *незак.* памнажаць; рабіць копіі

**powiernica** *ж.* **1.** сардэчная сяброўка; тайка; таечка; **2.** пасярэдніца; давераная асоба

**powiernictwo** *н.* **1.** *юр.* прадстаўніцтва; **2.** *паліт.* міжнародная апека

**powiernicz|y** **1.** даверны; **2.** падапечны; **obszary ~e** падмандатныя тэрыторыі

**powiernik** *м.* **1.** сардэчны сябар; прыяцель; **2.** *юр.* пасярэднік; давераная асоба

**powierzać** *незак.* давяраць; даручаць

**powierzchnia** *ж.* **1.** паверхня; **2.** плошча; ~ **mieszkalna** жылая плошча

**powierzchownie** **1.** паверхнева; **2.** *перан.* павярхоўна

**powierzchowność** *ж.* **1.** вонкавы выгляд; **2.** *перан.* павярхоўнасць

**powierzchown|y** **1.** паверхневы; **~e obrażenia** паверхневыя пашкоджанні; **2.** *перан.* павярхоўны, неглыбокі

**powierzyć** *зак.* даверыць; даручыць

**powiesić** *зак.* павесіць

**powiesić się** *зак.* павесіцца, засіліцца

**powieszenie** *н.* павешанне; **kara śmierci przez** ~ пакаранне смерцю праз павешанне

**powieściopisarka** *ж.* раманістка; белетрыстка; пісьменніца

**powieściopisarz** *м.* раманіст; белетрыст; пісьменнік

**powieść**[1] *ж.* раман; аповесць; ~ **telewizyjna** тэлевізійны серыял; мыльная опера

**powieść**[2] *зак.* павесці; правесці; **powiódł palcem po mapie** ён правёў пальцам па карце; **powiódł wzrokiem po pokoju** ён абвёў пакой вачыма

**powieść się** *зак.* пашанцаваць; **powiodło mu się** яму пашанцавала

**powietrze** *н.* паветра; **ciekłe** ~ *фіз.* вадкае паветра; **sprężone** ~ *фіз.* сціснутае паветра; **w ~u** у паветры; ◊ **na (wolnym) ~u** на (вольным, адкрытым) паветры

**powietrzn|y** **1.** паветраны; **obszar ~y** паветраная прастора; **poduszka ~a** паветраная падушка; **siły ~e** *вайск.* паветраныя сілы; **2.** *уст.* лёгкі; павеўны; ◊ **trąba ~a** смерч, віхор

**powiew, ~u** *м.* павеў; подых; ◊ **nowy** ~ новыя павевы

**powiewać** *незак.* **1.** развявацца, лунаць; **2.** *czym* памахваць, махаць; ~ **chusteczką** махаць хустачкай

**powiewny** лёгкі; павеўны

**powieźć** *зак.* павезці; **powiózł dzieci na wycieczkę** ён павёз дзяцей на экскурсію

**powiększać** *незак.* павялічваць, пабольшваць

**powiększać się** *незак.* павялічвацца, пабольшвацца

**powiększając|y** павелічальны; **szkło ~e** павелічальнае шкло; лупа

**powiększalnik** *м.* *фот.* павелічальнік

**powiększenie** *н.* павелічэнне, пабольшанне

**powiększyć** *зак.* павялічыць, пабольшыць

**powijak** *м.* *часцей мн.* **~i** пялёнка, пялюшка; полка; ◊ **wyjść z ~ów** вырасці з пялёнак (пялюшак); стаць самастойным; **nasz projekt nadal znajduje się w ~ach** наш праект усё яшчэ знаходзіцца ў зачатковым (зародкавым) стане

**powikłać** *зак.* заблытаць; ускладніць

**powikłać się** *зак.* заблытацца; ускладніцца

**powikłani|e** *н.* ускладненне; ◊ **~a pogrypowe** ускладненні пасля грыпу

**powinąć się** *зак.* спатыкнуцца; падвярнуцца; **noga mu się powinęła** у яго падвярнулася нага; ён падвярнуў нагу

**powin|ien** павінен; абавязаны; **ona ~na tam pójść** яна павінна туды пайсці; **on ~ien zaraz wrócić** ён зараз павінен вярнуц-

ца; ~no się pomagać innym трэба дапамагаць іншым
**powinność** *ж.* павіннасць; абавязак
**powinowactwo** *н.* **1.** далёкае сваяцтва; **2.** *перан.* роднасць; падабенства
**powinowaty** далёкі сваяк
**powinszować** *зак.* павіншаваць
**powinszowanie** *н.* віншаванне
**powitać** *зак.* прывітаць; ◊ **~!** прывітанне!; вітаем!; сардэчна запрашаем!
**powitalny** прывітальны; вітальны
**powitanie** *н.* прывітанне; урачыстая сустрэча
**powlec** *зак.* **1.** павалачы, пацягнуць; **~ zabitego wilka** пацягнуць забітага ваўка; **2.** нацягнуць, надзець; **~ poduszkę** надзець навалачку на падушку; **3.** пакрыць, пацягнуць; **~ farbą** пакрыць фарбай
**powle|c się** *зак.* **1.** паплесціся, пацягнуцца; **~c się drogą** паплесціся па дарозе; **2.** пакрыцца, пацягнуцца; **oczy mgłą się ~kły** вочы затуманіліся
**powlekać** *незак.* **1.** валачы, цягнуць; **2.** нацягваць, надзяваць; **3.** пакрываць; *гл.* **powlec**
**powłoczka** *ж.* **1.** навалачка; чахол на коўдру; **2.** абалонка
**powłoka** *ж.* **1.** абалонка, покрыва; навалочка; **~ ochronna** ахоўная абалонка; **~ wodna** *геагр.* гідрасфера; **2.** навалочка; чахол на коўдру
**powłóczyć** *незак.* валачыць, цягаць; соўгаць; **~ nogami** валачыць ногі, шорхаць нагамі
**powłóczyst|y** доўгі; **szata ~a** *кніжн.* доўгае адзенне; ◊ **spojrzenie ~e** погляд з паваловкай
**powod|ować** *незак.* **1.** *co* выклікаць *што*; быць прычынай *чаго*; цягнуць за сабой; **niedbalstwo ~uje wypadki** нядбайнасць выклікае (цягне за сабою) няшчасныя здарэнні; нядбайнасць прыводзіць да няшчасных выпадкаў; **2.** *kim/czym уст.* кіраваць *кім/чым*, уплываць *на каго/што*; **zawiść nim ~uje** ім кіруе зайздрасць
**powodować się** *незак.* кіравацца; **~ się sympatią** *do kogo* кіравацца пачуццём сімпатыі *да каго*
**powodzeni|e** *н.* удача, поспех; **z ~em** з поспехам; паспяхова; **życzyć ~a** жадаць удачы (поспеху); **nie mieć ~a** не мець поспеху; **~a!** удачы!
**powodzianin** *м.* пацярпелы ад паводкі
**powodzi|ć się** *незак.* мець вялікі поспех (вялікія поспехі), дасягаць вялікага поспеху (вялікіх поспехаў); **dobrze mu się ~** яму добра жывецца; у яго ўсё добра
**powojenny** пасляваенны; **okres ~** пасляваенны перыяд
**powoli** паволі, павольна
**powolnie** павольна, марудна; паціху
**powolność** *ж.* павольнасць, маруднасць
**powolny** павольны; марудны
**powołać** *зак.* **1.** прызваць, прызначыць; **~ na stanowisko** прызначыць на пасаду; **2.** *перан.* стварыць, арганізаваць; заснаваць; **~ komisję** стварыць камісію
**powoła|ć się** *зак.* спаслацца; **~ć się na** *czyją* **opinię** спаслацца на *чыю* думку; **~j się na mnie** спашліся на мяне
**powołani|e** *н.* **1.** прызыў; закліканне; заклік; покліч; **~e do wojska** прызыў у войска; **2.** прызванне; пакліканне; **z ~a** па прызванні; паводле прызвання (паклікання)
**powołany** кампетэнтны; ◊ **~ poeta** паэт ад прыроды
**powoływać** *незак.* **1.** прызываць, прызначаць; **~** *kogo* **do wojska** прызываць *каго* ў войска; **~** *kogo* **na świadka** *юр.* выклікаць *каго* ў сведкі; **~** *co* **do życia** выклікаць *што* да жыцця; **2.** ствараць, арганізоўваць; *гл.* **powołać**
**powoływać się** *незак.* спасылацца
**powonieni|e** *н.* нюх, чуццё, абаянне; **narządy ~a** органы абаняння (нюху)
**powozić** **1.** *зак.* павазіць; пакатаць; **2.** *незак.* кіраваць коньмі
**pow|ód** *м.* **1.** **~odu** прычына, падстава; **z ~odu** па прычыне; **~ód do kłótni** прычына для сваркі; **bez ~odu** без дай-прычыны; **2.** **~odu** повад (*частка вупражы*); **3.** *юр.* пазоўнік, існец



**powództwo** *н. юр.* іск; пазоў; **wytoczyć ~** прад'явіць іск, выставіць пазоў
**powódź** *ж.* **1.** паводка; разліў; разводдзе; **2.** *перан.* мора
**pow|ój, ~oju** *м. бат.* павітуха (*Convolvulus L.*)
**pow|óz, ~ozu** *м.* экіпаж
**powracać** *незак.* вяртацца, варочацца; **~ do tematu** вяртацца да тэмы
**powrotnie** *уст.* наноў; зноў, зноўку
**powrotn|y** зваротны; **bilet ~y** зваротны білет; **w drodze ~ej** па дарозе назад
**powrócić** *зак.* вярнуцца, прыйсці зноў
**powrósło** *н.* перавясла
**powr|ót, ~otu** *м.* вяртанне; зварот; **~ót do domu** вяртанне дамоў; ◊ **z ~otem** зноў; наноў; **tam i z ~otem** туды-сюды; туды і назад
**powr|óz, ~ozu** *м.* канат; вяроўка
**powróżyć** *зак.* паваражыць
**powrzucać** *зак.* паўкідваць, паўкідаць
**powstać** *зак.* **1.** устаць; **2.** паўстаць; **~ przeciwko** *komu/czemu* паўстаць супраць *каго/чаго*; **3.** узнікнуць, паўстаць, вынікнуць
**powstanie** *н.* **1.** паўстанне; **~ zbrojne** узброенае паўстанне; **2.** узнікненне; **~ państwa** узнікненне дзяржавы
**powstaniec** *м.* паўстанец
**powstańczy** паўстанцкі
**powsta|wać** *незак.* **1.** уставаць; **2.** паўставаць; **3.** узнікаць, вынікаць; **~je trudność** узнікае цяжкасць; **~je nowa organizacja** узнікае новая арганізацыя; *гл.* **powstać**
**powstrzymać** *зак.* утрымаць; стрымаць
**powstrzymać się** *зак.* утрымацца; стрымацца; **~ się od płaczu** стрымацца ад плачу
**powstrzymywać** *незак.* утрымліваць; стрымліваць
**powstrzymywać się** *незак.* утрымлівацца; стрымлівацца
**powszechnie** усюды; скрозь; паўсюдна; **~ używany** агульнаўжывальны; **~ wiadomo, że ...** агульнавядома, што...
**powszechność** *ж.* усеагульнасць
**powszechn|y** усеагульны; **~e, równe i bezpośrednie prawo wyborcze** усеагульнае, роўнае і прамое выбарчае права; **~e nauczanie** усеагульнае навучанне
**powszedni** будзённы, звычайны; штодзённы; **dzień ~** будзённы дзень; **chleb ~** а) штодзённы хлеб; б) звыклая справа
**powściągać** *незак.* стрымліваць
**powściągać się** *незак.* стрымлівацца
**powściągliwie** стрымана
**powściągliwość** *ж.* стрыманасць
**powściągliwy** стрыманы
**powściągnąć** *зак.* стрымаць
**powściągnąć się** *зак.* стрымацца
**powtarza|ć** *незак.* паўтараць; **~j(cie) za mną!** паўтарай(це) за мной!; ◊ **~ć rok (klasę)** заставацца на другі год
**powtarzać się** *незак.* паўтарацца
**powtórka** *ж. разм.* паўтарэнне (*у школе*); паўтор
**powtórnie** паўторна
**powtórzenie** *н.* паўтарэнне
**powtórzyć** *зак.* паўтарыць
**powtórzyć się** *зак.* паўтарыцца
**powybijać** *зак.* павыбіваць
**powyciągać** *зак.* павыцягваць
**powyjmować** *зак.* павымаць
**powyrywać** *зак.* павырываць
**powywieszać** *зак.* вывесіць; павывешваць
**powyżej** вышэй; **~ wymieniony** вышэй названы
**powyższy** вышэйзгаданы, вышэйпамянёны
**powziąć** *зак.* **1.** задумаць; **~ zamiar** выразіць; **2.** прыняць; **~ decyzję** прыняць рашэнне; **~ uchwałę** прыняць (вынесці) рашэнне, прыняць пастанову; **3.** адчуць; займець; **~ podejrzenia** адчуць падазрэнне
**poza**[1] *ж.* поза, пастава; **fotografować się w dwóch ~ach** фатаграфавацца ў дзвюх позах
**poza**[2] **1.** за; **wydalać się ~ granice ogrodu** аддаляцца за межы саду; **2.** за; па-за, без; апрача; акрамя; **poza tym** апроч (апрача) таго; **przebywać ~ krajem** быць за межамі краіны; **kupić ~ kolejką** купіць без чаргі; **nie interesować się**

**niczym ~ muzyką** не цікавіцца нічым, апрача (акрамя) музыкі; **~ tą dziedziną nie zna się na niczym** акрамя гэтай галіны ён ні ў чым не разбіраецца

**pozabierać** *зак.* пазабіраць

**pozabijać** *зак.* перабіць, пазабіваць

**pozagrobow|y** замагільны, пасмяротны, тагасветны; **życie ~e** замагільнае жыццё

**pozajmować** *зак.* пазаймаць; заняць

**pozamaciczn|y: ciąża ~a** *мед.* пазаматачная цяжарнасць

**pozamiatać** *зак.* падмесці, пазамятаць

**pozamykać** *зак.* пазачыняць

**pozaszkoln|y** пазашкольны; **lektura ~a** пазакласнае чытанне; **oświata ~a** пазашкольная адукацыя

**pozatykać** *зак.* пазатыкаць

**pozawczoraj** пазаўчора, заўчора

**pozazdroszczeni|e** *н.* зайздрасць; пачуццё зайздрасці; **nie do ~a** незайздросны

**pozazdrościć** *зак.* пазайздросціць

**pozaziemsk|i 1.** пазаземны; незямны; **istota ~a** іншапланецянін; прышэлец; **2.** звышнатуральны

**pozbawiać** *незак.* пазбаўляць

**pozbawiać się** *незак.* пазбаўляцца

**pozbawić** *зак.* пазбавіць; **~ *kogo* złudzeń** пазбавіць *каго* ілюзій

**pozbawić się** *зак.* страціць, застацца (*без чаго*); **~ się wzroku** страціць зрок; **~ się urlopu** застацца без адпачынку

**pozbawieni|e** *н.* пазбаўленне; **~e praw** пазбаўленне правоў; **kara ~a wolności** *юр.* пакаранне пазбаўленнем волі

**pozbawiony** пазбаўлены; **~ roślinności** пазбаўлены расліннасці

**pozbierać** *зак.* пазбіраць; ◊ **~ myśli** сабрацца з думкамі

**pozbierać się** *зак.* **1.** сабрацца; стоўпіцца; схлупіцца; **2.** *разм.* ачомацца; апамятацца

**pozbyć się** *зак. kogo/czego* вызваліцца, пазбавіцца; адкараскацца, адвязацца *ад каго/чаго*; **~ się kłopotu** вызваліцца ад клопату; **~ się natręta** пазбавіцца ад навязлівага чалавека

**pozbywać się** *незак. kogo/czego* вызваляцца, пазбаўляцца; *гл.* **pozbyć się**

**pozdejmować** *зак.* паздымаць, пазнімаць

**pozdrawiać** *незак.* **1.** вітаць; **2.** *kogo* перадаваць прывітанне *каму*; кланяцца *каму*

**pozdr|owić** *зак.* **1.** прывітаць; **2.** *kogo* перадаць прывітанне *каму*; пакланіцца *каму*; **~ów ode mnie Janka** перадай Янку ад мяне прывітанне

**pozdrowieni|e** *н.* прывітанне, вітанне; паклон; **przekaż moje ~a żonie** перадай маё прывітанне жонцы

**pozdychać** *зак.* перадохнуць, паздыхаць

**pozer** *м.* пазёр

**poz|ew, ~wu** *м. юр.* **1.** пазоў; іск; **wnieść ~** *юр.* прад'явіць іск; **2.** павестка ў суд; позва

**pozielenieć** *зак.* паzелянець

**poziom, ~u** *м.* **1.** узровень; **~ życia** узровень жыцця; **~ wody** узровень вады; **2.** *геал.* гарызонт; ◊ **nad ~em morza** над узроўнем мора; **wykład był na ~ie** лекцыя была на ўзроўні

**poziomka** *ж.* суніцы

**poziomkowy** сунічны

**poziomo** гарызантальна

**poziomy 1.** гарызантальны; **2.** папярочны; **przekrój ~** папярочны разрэз

**pozłacać** *незак.* залаціць

**pozłacany** пазалочаны

**pozłocić** *зак.* пазалаціць

**pozłota** *ж.* пазалота

**pozmieniać** *зак.* змяніць; памяняць; перарабіць

**pozna|ć** *зак.* **1.** пазнаёміцца; пазнаёміць *каго з кім*; **miło mi Pana/Panią ~ć** прыемна з вамі пазнаёміцца; **2.** даведацца; пазнаць; **~łem go po głosie** я пазнаў яго па голасе; ◊ **przyjaciół ~ć w biedzie** сябры пазнаюцца ў бядзе

**pozna|ć się** *зак.* пазнаёміцца; **~jcie się ...** пазнаёмцеся...

**poznajomić** *зак.* пазнаёміць

**poznani|e** *н.* **1.** пазнанне; вывучэнне; знаёмства; **nie do ~a** непазнавальны; **2.** *філ.* пазнанне

**poznawać** *незак.* **1.** знаёміцца; **2.** пазнаваць; даведвацца; вывучаць

**poznawalny** пазнавальны



**poznawczy** пазнавальны; **proces ~** працэс пазнання

**pozornie** на выгляд; прытворна; **~ nic mu nie jest, ale...** на выгляд нічога з ім асаблівага, але...; **~ chory** прытворна хворы

**pozorn|y** уяўны; несапраўдны, непраўдзівы; прытворны; **~a przewaga** уяўная перавага; **wielkość ~a** уяўная велічыня; **liczby ~e** уяўныя лікі

**pozorować** *незак.* сімуляваць; рабіць выгляд

**pozosta|ć** *зак.* **1.** застацца; **~ć w domu** застацца дома; **~ły trzy dni** засталося тры дні; **2.** застацца; захавацца; **~ć w pamięci** застацца ў памяці

**pozostałość** *ж.* рэшта, рэшткі, астатак

**pozostały 1.** які застаўся, захаваўся; **2.** астатні

**pozosta|wać** *незак.* **1.** заставацца; **~je mi tylko ...** мне застаецца толькі...; **2.** заставацца; захоўвацца; **3.** знаходзіцца; быць; **~wać w stanie wojny** знаходзіцца ў стане вайны

**pozostawia|ć 1.** *незак.* пакідаць; **2.** *зак.* кінуць; пакінуць; папакідаць; ◊ **~ wiele (dużo) do życzenia** вымушае жадаць лепшага; **nie ~ wątpliwości** не пакідае сумненняў

**pozostawić** *зак.* **1.** пакінуць; **2.** даць; дазволіць; ◊ **nie ~ (żadnych) wątpliwości** не пакінуць (ніякіх) сумненняў

**pozować** *незак.* пазіраваць

**poz|ór, ~oru** *м.* **1.** вонкавы выгляд; **na ~ór** з выгляду; **2.** выдуманая прычына; ◊ **pod ~orem** пад маркай; пад выглядам; **pod żadnym ~orem** ні пад якім выглядам; ні ў якім выпадку

**pozrywać** *зак.* пазрываць; парваць

**pozrzucać** *зак.* паскідаць, паскідваць

**pozszywać** *зак.* пасшываць

**pozwać** *зак. юр. kogo* выступіць з пазовам (іскам) супраць *каго*; падаць у суд *на каго*

**pozwala|ć** *незак.* дазваляць; **za dużo sobie ~sz!** ты занадта шмат сабе дазваляеш!; **~m sobie zauważyć, że ...** дазвольце мне заўважыць, што...; дазволю сабе заўважыць, што...

**pozwany** *юр.* адказчык

**pozwolenie** *н.* дазвол; **za *czyim* ~m** з *чыйго* дазволу, з *чыёй* згоды; **za ~m!** калі дазволіце!; з вашага дазволу!

**pozwoli|ć** *зак.* дазволіць; **nie mogę sobie na to ~ć** я не магу сабе гэтага дазволіць; **Pan/Pani ~ za mną** калі ласка, ідзіце за мной

**pozycj|a** *ж.* **1.** пазіцыя; становішча; **~e kluczowe** камандныя вышыні; **2.** становішча; поза; **~a leżąca** ляжачае становішча; **3.** пункт, месца; артыкул; **druga ~a w spisie rzeczy** другое месца (другая пазіцыя) у спісе прадметаў (рэчаў)

**pozycyjn|y** пазіцыйны; **wojna ~a** пазіцыйная вайна

**pozyskać** здабыць; **~ zwolenników** здабыць прыхільнікаў; **~ zgodę** атрымаць згоду; **~ zaufanie** заваяваць давер

**pozyskanie** *н.* здабыванне

**pozyskiwać** *незак.* здабываць

**pozytyw, ~u** *м. фот.* пазітыў

**pozytywista** *м.* пазітывіст

**pozytywizm, ~u** *м.* пазітывізм

**pozytywka** *ж.* музычны куфэрак

**pozytywny** пазітыўны; станоўчы; ухвальны

**pożalić się** *зак.* паскардзіцца

**pożałować** *зак.* **1.** *czego* пашкадаваць *аб чым* (*пра што*); **2.** *czego* пашкадаваць *што*; **3.** *kogo* пашкадаваць *каго*

**pożałowani|e** *н.* шкадаванне; **godny ~a** варты жалю

**pożar, ~u** *м.* пажар

**pożarcie** *н.* з'ядзенне; ◊ **oddać na ~** аддаць на з'ядзенне (разарванне)

**pożarnictwo** *н.* пажарная справа

**pożarnicz|y** пажарны; **drabina ~a** пажарныя драбіны (лескі)

**pożarn|y** пажарны; **straż ~a** а) пажарная ахова; б) пажарная каманда

**pożarowy** пажарны

**pożartować** *зак.* пажартаваць

**pożądać** *незак.* жадаць, прагнуць

**pożądanie** *н. юр.* пажадлівасць

**pożądany** пажаданы

**pożądliwy** пажадлівы, юрлівы; марцовы
**pożegnać** *зак.* развітацца
**pożegnać się** *зак.* развітацца
**pożegnalny** развітальны
**pożegnanie** *н.* развітанне; **na ~** на развітанне
**pożerać** *незак.* пажыраць; есці; ◊ ~ *kogo* **wzrokiem** есці *каго* вачыма
**pożoga** *ж.* пажар; пажарышча
**pożółkły** пажоўклы, пажаўцелы
**pożółknąć** *зак.* пажаўцець, пажоўкнуць
**pożreć** *зак.* пажэрці
**pożycie** *н.* сумеснае жыццё; сужыццё; ~ **małżeńskie** шлюбнае жыццё
**pożyczać** *незак.* **1.** *komu* пазычаць; даваць пазыку *каму*; **2.** *od kogo* пазычаць *у каго*; **3.** запазычваць; пераймаць
**pożyczający** **1.** які пазычае *ў каго*; **2.** які пазычае *каму*
**pożyczk|a** *ж.* пазыка; **~a premiowa** выйгрышная пазыка; **~a (bez)terminowa** (бес)тэрміновая пазыка; **~a (bez)zwrotna** (без)зваротная пазыка; **~a gotówkowa** грашовая пазыка; **~a (nie)oprocentowana** (бес)працэнтная пазыка; **~a państwowa** дзяржаўная пазыка; **~a zagraniczna** замежная пазыка; **udzielić ~i** выдзеліць пазыку; даць у пазыку; пазычыць; **zaciągnąć ~ę** узяць пазыку
**pożyczkobiorca** *ж.* пазыкаатрымальнік
**pożyczkodawca** *ж.* пазыкадавальнік, пазычальнік
**pożyczkowy** пазыковы
**pożyczyć** *зак.* **1.** *komu* пазычыць *каму*; **2.** *od kogo* пазычыць *у каго*
**pożyl|ć** *зак.* пажыць; **on ~je jeszcze kilka lat** ён пражыве яшчэ некалькі год
**pożyteczny** карысны
**pożyt|ek, ~ku** *м.* карысць; выгада; **odnosić ~ek** *z czego* атрымліваць карысць *ад чаго*; **z ~kiem dla** *kogo* з карысцю для *каго*
**pożywić** *зак.* накарміць, пракарміць
**pożywić się** *зак.* **1.** паесці; падсілкавацца; падмацавацца; **2.** пажывіцца, пакарыстацца
**pożywienie** *н.* ежа, харч
**pożywka** *ж.* **1.** *біял.* пажыўнае асяроддзе; **2.** *перан.* пажыва
**pożywny** пажыўны
**pójść** *зак.* пайсці; ~ **po chleb** пайсці па хлеб; ◊ ~ **w** *czyje* **ślady** пайсці па *чыіх* слядах; ~ **z torbami** пайсці па свеце, пайсці з торбай; ~ **o zakład** пайсці ў заклад, біцца аб заклад; ~ *z kim* **w zawody** пазмагацца, падужацца *з кім*; ~ **w niepamięć** пайсці ў забыццё, быць аддадзеным забыццю; ~ **z dymem** пайсці з агнём (дымам), згарэць; **o co wam poszło?** з чаго ў вас пачалося?; у чым справа?; што здарылася?
**póki** пакуль; ~ **co** пакуль што; ~ **sił starczy** пакуль хопіць сіл; ~ **życia nie zapomnę** да смерці не забуду; век не забуду
**pół** палова; ~ **godziny** паўгадзіны; **dwa i ~** два з паловай; **(to) ~ biedy** гэта не бяда; магло быць і горш; ~ **na ~** пароўну; напалам
**półanalfabeta** *ж.* малапісьменны
**półarkusz** *м.* *паліграф.* паўаркуш
**półbucik** *м.* паўчаравік; *гл.* **półbuty**
**półbuty** *мн.* паўчаравікі; туфлі
**półcień** *м.* паўцень
**półciężk|i: waga ~a** *ж.* *спарт.* паўцяжкая вага
**półczwarta** *ж.* тры з паловай
**półdziki** паўдзікі
**półfabrykat, ~u** *м.* паўфабрыкат
**półfinał, ~u** *м.* *спарт.* паўфінал
**półgębkiem** невыразна, напаўголаса
**półgłosem** напаўголаса
**półgłówek** *м.* *пагард.* прыдурак; ёлупень; доўбня
**półgodzinny** паўгадзінны; **przyszedł z ~m opóźnieniem** ён спазніўся на паўгадзіны
**półka** *ж.* **1.** паліца; ~ **na książki** кніжная паліца; **2.** (*у вагоне*) лаўка
**półkole** *н.* паўкруг; паўкола
**półkolisty** паўкруглы
**półkożuszek** *м.* паўкажушак, кажушок
**półksiężyc** *м.* паўмесяц
**półkula** *ж.* паўшар'е
**półmartwy** паўмёртвы; ледзь жывы
**półmetek** *м.* палова (палавіна) шляху
**półmisek** *м.* блюда; міска; талерка



**półmrok, ~u** *м.* паўзмрок
**półnagi** паўголы; паўапрануты
**północ** *ж.* **1.** поўнач (*пара сутак*); **o ~y** у поўнач; **2.** поўнач (*бок свету*); **na ~y** на поўначы
**północno-wschodni** паўночна-ўсходні
**północno-zachodni** паўночна-заходні
**północn|y** **1.** паўночны; **wiatr ~y** паўночны вецер; **zorza ~a** паўночнае ззянне; **~y wschód** паўночны ўсход; **2.** паўночны; **~a godzina** паўночная гадзіна
**półokrągły** напаўкруглы, паўкруглы
**półpiętro** *н.*; *гл.* **półpiętrze**
**półpiętrze** *н.* антрэсоль
**półprocentowy** паўпрацэнтны
**półprosta** *ж.* *мат.* паўпрамая
**półprzewodnik** *м.* *эл.* паўправаднік
**półprzytomny** паўпрытомны
**półrocze** *н.* паўгоддзе
**półroczny** паўгадавы
**półs|en, ~nu** *м.* паўсон, дрымота
**półserio** паўсур'ёзна
**półsłówk|o** *н.* **1.** паўслова; **2.** недагаворанасць; недамоўка; намёк; **dać do zrozumienia ~ami** даць зразумець намёкамі
**półszeptem** паўшэптам
**półśrodek** *м.* паўмера
**półtłust|y** *паліграф.* патоўшчаны; **pismo ~e** патоўшчаны шрыфт
**półtor|a** *ж.* паўтара; **~a kilograma** паўтара кілаграма; **~ej godziny** паўтары гадзіны
**półtrzecia** *ж.* два з паловай
**półurzędowy** паўафіцыйны
**półwys|ep, ~pu** *м.* паўвостраў; паўвыспа
**półżartem** паўжартам
**póty** да той пары, да таго часу, датуль; ~ **tu zostaniesz, póki nam nie powiesz wszystkiego** ты застанешся тут датуль, пакуль не раскажаш нам усё
**późnić się** *незак.* пазніцца; спазняцца
**później** потым, пазней; **przyjdę ~** прыйду пазней; **prędzej czy ~** раней ці пазней; **dwa dni ~** праз два дні; **odłożyć** *co* **na ~** адкласці *што* на потым
**późno** позна; **lepiej ~ niż wcale** лепш позна, чым ніколі; **za ~** надта позна, запозна
**późn|y** позні; ◊ **~a starość** глыбокая старасць
**prababka** *ж.* прабабка, прабабуля
**prac|a** *ж.* **1.** праца; дзейнасць; **~a umysłowa** разумовая праца; **~a fizyczna** фізічная праца; **~a zbiorowa** калектыўная праца; **~a na pół etatu** праца ў няпоўным аб'ёме гадзін; праца на паўстаўкі; **~a umysłowa** разумовая праца; **~e publiczne** грамадскія работы; **~e naukowo-badawcze** навукова-даследчыя працы; **~e wykopaliskowe** раскопкі; **2.** праца; месца; **dostać ~ę** паступіць на працу; **skierować do ~y** накіраваць на працу; **iść do ~y** ісці на працу; **3.** праца; твор; **~a magisterska** а) дыпломная праца; б) магістарская праца; **~a doktorska** дысертацыя; ◊ **bez ~y nie ma kołaczy** без працы няма чаго хлеба шукаці
**pracodawca** *м.* працадаўца
**pracować** *незак.* працаваць; ◊ ~ **na czarno** працаваць нелегальна
**pracowitość** *ж.* працавітасць
**pracowity** працавіты
**pracownia** *ж.* **1.** майстэрня; атэльe; ~ **krawiecka** кравецкая майстэрня; **2.** лабараторыя; кабінет
**pracownica** *ж.* працаўніца, работніца
**pracownik** *м.* працаўнік; работнік; ~ **administracyjny** адміністрацыйны работнік; ~ **handlu** работнік гандлю; ~ **najemny** наёмны работнік; ~ **biurowy** служачы; ~ **naukowy** навуковы работнік
**pracujący** які працуе; працоўны
**praczka** *ж.* прачка
**prać** *незак.* **1.** мыць; **2.** *перан., разм.* біць, лупцаваць; ◊ ~ **brudne pieniądze** адмываць [брудныя] грошы
**pradawny** старажытны
**pradziad** *м.* прадзед, прадзядуля
**pragmatyczny** прагматычны
**pragmatyzm, ~u** *м.* прагматызм
**pragnąć** *незак.* прагнуць, жадаць
**pragnienie** *н.* **1.** смага; **mam ~** мне хочацца піць; у мяне смага; **2.** прага; жаданне; імкненне; ~ **wiedzy** прага ведаў
**praktyczny** практычны

**praktyk** *м.* практык
**prakty|ka** *ж.* практыка; **~ka lekarska** лекарская практыка; **w ~ce** на практыцы; **~ki religijne** рэлігійныя абрады
**praktykant** *м.* практыкант
**praktykować** *незак.* практыкаваць
**praktykujący** які практыкуе
**pralka** *ж.* **1.** пральная машына; **2.** дошка для мыцця бялізны; пральная дошка
**pralnia** *ж.* пральня; **~ chemiczna** хімічная пральня; хімчыстка
**prani|e** *н.* мыццё; **~e chemiczne** хімічная чыстка; **mydło do ~a** гаспадарчае мыла; **proszek do ~a** пральны парашок; ◊ **sprawić** *komu* **~e** *разм.* адлупцаваць *каго*
**praojciec** *м.* прабацька
**prapremiera** *ж.* першая прэм'ера
**pras|a** *ж.* **1.** прэс, ціскі; **2.** друкарскі станок; **3.** прэса, друк; **wolność ~y** свабода друку
**prasłowiański** праславянскі
**prasować** *незак.* прасаваць
**prasowany** прасаваны
**prasow|y** прэсавы; **agencja ~a** агенцтва друку
**prawd|a** *ж.* праўда; **co ~a** па праўдзе; **~ę mówiąc...** праўду кажучы...; **czy to ~a?** ці гэта праўда?; ці так гэта?; ◊ **~a w oczy kole** праўда вочы коле; **~a zawsze na wierzch wyjdzie** усё мінецца, адна праўда застанецца; праўда як алей, выйдзе наверх
**prawdomówność** *ж.* праўдзівасць
**prawdomówny** праўдзівы
**prawdopodobieństwo** *н.* праўдападобнасць; імавернасць
**prawdopodobnie** праўдападобна
**prawdopodobny** праўдападобны
**prawdziwek** *м. бат.* баравік; белы грыб; шчыры грыб (*Boletus edulis*)
**prawdziwie 1.** слушна; праўдзіва; **2.** сапраўды; па-сапраўднаму; насамрэч; **~ piękny** па-сапраўднаму прыгожы
**prawdziwość** *ж.* сапраўднасць; аўтэнтычнасць; праўдзівасць
**prawdziw|y** праўдзівы, сапраўдны; **to ~a niespodzianka** гэта сапраўдная нечаканасць; **~y Polak** *іран.* сапраўдны паляк
**prawica** *ж.* **1.** *уст.* правая рука; **2.** *паліт.* правы лагер
**prawicowy** *паліт.* правы
**prawić** *незак. жарт.* казаць; прамаўляць; **~ komplementy** казаць кампліменты; **~** *komu* **kazania (morały)** чытаць *каму* маралі
**prawidło** *н.* **1.** *спец.* правідла; **2.** правіла; *гл.* **reguła**
**prawidłowość** *ж.* правільнасць
**prawidłowy** правільны
**prawie** амаль, траха; **~ że** амаль што; **jestem ~ że gotów** я амаль што гатовы; **~ go nie znam** я яго амаль не ведаю
**prawniczy** юрыдычны
**prawnie** законна; паводле закона
**prawnik** *м.* **1.** юрыст; **2.** *разм.* студэнт юрыдычнага факультэта
**prawnuczka** *ж.* праўнучка
**prawnuk** *м.* праўнук
**prawn|y 1.** юрыдычны; прававы; **osoba ~a** юрыдычная асоба; **radca ~y** юрыскансульт; **2.** законны; **~y właściciel** законны гаспадар (уладальнік)
**praw|o**[1] *н.* **1.** права, закон; **~o handlowe** гандлёвы закон; **~o podaży i popytu** закон прапанавання і попыту; **~o rynku** закон рынку; **~o walutowe** валютнае права; **~o wykupu** права выкупу; **~o kryminalne** крымінальнае права; **~o wyborcze** выбарчае права; **~o autorskie** аўтарскае права; **litera ~a** літара закона; **mieć ~o** мець права; **2.** закон; **~o natury** закон прыроды; **~o ciążenia** *фіз.* закон прыцягнення
**prawo**[2] правы бок; **na ~** управа; направа
**prawobrzeżny** правабярэжны
**prawodawca** *м.* заканадаўца
**prawodawczy** заканадаўчы
**prawodawstwo** *н.* заканадаўства
**prawomocny** правамоцны; які мае законную сілу; **wyrok jest ~** *юр.* прысуд уступіў у сілу
**prawomyślny** добранадзейны; лаяльны
**praworządność** *ж.* законнасць



**praworządn|y** законны; прававы; **~e państwo** прававая дзяржава
**prawoskrzydłowy 1.** *вайск.* правафланговы; **2.** *спарт.* крайні правы нападзення
**prawosławie** *н.* праваслаўе
**prawosławny** праваслаўны
**prawostronny** правабаковы; **ruch ~** правабаковы рух
**prawoś|ć** *ж. кніжн.* высакароднасць; справядлівасць; праведнасць; **człowiek wielkiej ~ci charakteru** чалавек справядлівага характару
**prawować się** *незак.* судзіцца
**prawowity** законны; легальны; **~ małżonek** законны муж
**prawoznawca** *м.* правазнаўца
**praw|y 1.** правы; **~y brzeg** правы бераг; **2.** *перан.* сумленны, адкрыты, шчыры; высакародны; **3.** законны; легальны; ◊ **~a ręka** правая рука, памочнік
**prawz|ór, ~oru** *м.* прататып
**prażon|y** пражаны; **~a kukurydza** пражаная кукуруза; папкорн
**prażyć** *зак.* **1.** пражыць; **2.** пячы; паліць; смажыць
**prażyć się** *незак.* **1.** пражыцца; **2.** смажыцца; пячыся
**prażynki** *мн.* хрушчы; чыпсы
**prąd, ~u** *м.* **1.** цячэнне; плынь; **płynąć z ~em** плыць па цячэнні; **pod ~** супраць цячэння; **2.** *перан.* кірунак; плынь; **~y polityczne** палітычныя плыні; **~ literacki** літаратурная плынь, літаратурны кірунак; **3.** *эл.* ток; **~ zmienny** пераменны ток; **~ stały** пастаянны (сталы) ток
**prądnica** *ж.* генератар; дынама-машына
**prąt|ek** *м.* **1.** *разм.* пруток; **2.** *біял.* бацыла; палачка; **~ki Kocha** палачкі Коха
**prążkowany** паласаты; рубчасты, у палоску
**precedens, ~u** *м.* прэцэдэнт
**precyzja** *ж.* дакладнасць
**precyzyjn|y** дакладны; **mechanika ~a** дакладная механіка
**precz** прэч; вон; далоў; **~ z drogi** прэч з дарогі!; **~ stąd!** прэч (вон) адгэтуль!; **~ z moich oczu!** прэч (далоў) з маіх вачэй!
**predestynacja** *ж. кніжн.* прадвызначэнне
**predestynować** *незак. кніжн.* прадвызначаць
**predylekcja** *ж. кніжн.* перавага
**predyspozycja** *ж.* схільнасць
**prefabrykacja** *ж.* вытворчасць зборных канструкцый
**prefabrykat, ~u** *м.* зборная канструкцыя; панэль
**preferans, ~u** *м. карц.* прэферанс
**preferencje** *мн. кніжн.* прэферэнцыі; ільготы; **~ celne** прэферэнцыйныя пошліны; **~ gospodarcze** гаспадарчыя (эканамічныя) прэферэнцыі; **~ handlowe** гандлёвыя прэферэнцыі (ільготы)
**prefiks, ~u** *м. грам.* прэфікс
**prehistoria** *ж.* **1.** перадгісторыя; **2.** дагістарычная археалогія
**prekursor** *м.* папярэднік, пачынальнік
**prelegent** *м.* лектар; дакладчык
**prelekcja** *ж.* лекцыя; даклад
**preliminaria** *ж.* прэлімінарыі; папярэднія перамовы
**preliminarny** прэлімінарны
**preliminarz** *м.* праект бюджэту
**preludium** *н.* прэлюдыя
**premedytacj|a** *ж.* наўмыснасць; **morderstwo z ~ą** наўмыснае забойства
**premia** *ж.* прэмія; **~ eksportowa** экспартная прэмія; **~ inflacyjna** інфляцыйная прэмія; **~ obligacyjna** аблігацыйная прэмія
**premier** *м.* прэм'ер
**premiera** *ж.* прэм'ера
**premiować** *незак.* прэміраваць
**premiowy** прэміяльны; **~ system płac** прэміяльная сістэма аплаты працы
**prenumerata** *ж.* падпіска (*на газеты і часопісы*)
**prenumerator** *м.* падпісчык
**prenumerować** *незак.* падпісвацца (*на газеты і часопісы*); выпісваць; **~ czasopismo** падпісвацца на часопіс; выпісваць часопіс
**preparat, ~u** *м.* прэпарат
**preparować** *незак.* прэпарыраваць
**preria** *ж.* прэрыя

**lalność kulturalną** займаццa культурнай дзейнасцю; **~ć gospodarstwo domowe** весці хатнюю гаспадарку; займацца хатняй гаспадаркай
**prowadzić się** *незак.* **1.** весці адно аднаго; **2.** паводзіць сябе, трымаць сябе
**proweniencja** *ж. кніжн.* паходжанне
**prowiant, ~u** *м.* правіянт; прадукты; харчы; **suchy ~** сухі паёк
**prowincja** *ж.* правінцыя; перыферыя
**prowincjonalizm, ~u** *м.* правінцыялізм
**prowincjonalny** правінцыяльны
**prowizja** *ж.* камісійная плата; камісійныя; **~ maklerska** маклерскія камісійныя; **~ od obrotu** камісійныя з абарачэння; **~ od sprzedaży** камісійныя за продаж; **~ od zakupu** камісійныя за пакупку; **~ ubezpieczeniowa** страхавыя камісійныя; **2.** *уст.* правізія
**prowizorka** *ж.* часовае збудаванне (*будынак, прылада і да т.п.*)
**prowizorycznie** часова
**prowizoryczny** часовы
**prowodyr** *м.* верхавод, завадатай
**prowokacja** *ж.* правакацыя
**prowokacyjny** правакацыйны
**prowokator** *м.* правакатар
**prowokować** *незак.* правакаваць
**prowokując|y 1.** правакацыйны; **zachowanie się ~e** правакацыйныя паводзіны; **2. ~y** *м.* правакатар
**proza** *ж.* проза
**prozaiczny** празаічны
**prozaik** *м.* празаік
**prób|a** *ж.* **1.** проба; праверка; выпрабаванне; **wziąć na ~ę** узяць на пробу; **złoto wysokiej ~y** золата высокай пробы; **2.** спроба; **nieudana ~a** няўдалая спроба; **3.** *тэатр.* рэпетыцыя; **~a generalna** генеральная рэпетыцыя; **metodą ~ i błędów** метадам спроб і памылак
**próbka** *ж.* узор; прыклад
**próbn|y** пробны; праверачны; выпрабавальны; **lot ~y** выпрабавальны палёт; **zdjęcia ~e** пробныя здымкі; **okres ~y** выпрабавальны тэрмін

**próbować** *незак.* **1.** спрабаваць; **~ przejść** спрабаваць прайсці; **2.** каштаваць; прабаваць; **~ jabłko** каштаваць яблык; **3.** выпрабоўваць; правяраць
**próchnica** *ж.* **1.** *мед.* карыес; карыёз; **2.** *с.-г.* перагной
**próchniczny** *с.-г.* перагнойны
**próchniczy** *мед.* карыёзны
**próchnieć** *незак.* парахнець; тлець; гніць
**próchno** *н.* парахня
**prócz** апрача, апроч, акрамя; **~ tego** апроч (апрача) таго; **nie piję nic ~ wody** нічога не п'ю, апрача вады
**pr|óg, ~ogu** *м.* **1.** парог; **w progu** на парозе; у дзвярах; **2.** парог; бар'ер; **~óg słyszalności** парог чутнасці; **~óg świadomości** парог свядомасці; **2.** *чыг.* шпала; ◊ **u ~ogu śmierci** на парозе смерці
**prószyć** *незак.* церушыць; **śnieg ~** снег церушыць
**prószyć się** *незак.* церушыцца
**próżni|a** *ж.* **1.** *фіз.* вакуум; **2.** *разм.* пустка, пустая прастора; ◊ **trafiać w ~ę** не знаходзіць водгуку
**próżniactwo** *н.* лянота; гультайства; дзяньгубства
**próżniaczy** гультайскі, гультаяваты; лайдацкі
**próżniak** *м.* гультай; лайдак; дзяньгуб; нераб; латруга
**próżność** *ж.* **1.** пустата; **2.** марнасць, нікчэмнасць; **3.** фанабэрыя, фанабэрыстасць, пыхлівасць
**próżnować** *незак.* гультаяваць, гультаіць; ленавацца
**próżn|y 1.** парожні, пусты; **2.** *перан.* ганарысты, пыхлівы, фанабэрысты; ◊ **na ~y żołądek** нашча; **odejść z ~ymi rękami** пайсці з пустымі рукамі; **przelewać z pustego w ~e** пераліваць з пустога ў парожняе
**pruć** *незак.* **1.** пароць; **2.** рассякаць; разрываць; рваць
**pruć się** *незак.* **1.** пароцца; **2.** рвацца, разлазіцца
**pruderia** *ж.* ханжаства; ілжэсвятасць; паказная дабрадзейнасць, крывадушнасць



**prusacki** прускі
**Prusaczka** *ж.* прусачка
**Prusak** *м.* прусак
**prusak** *м. заал.* прусак; рыжы таракан (*Blatella germanica*)
**pruski** прускі; ◊ **błękit ~** *маст.* берлінскі лазурак; **kwas ~** *хім.* сінільная кіслата
**prychać** *незак.* **1.** (*пра жывёлу*) пырхаць, фыркаць; **2.** *перан.* пырхаць; порскаць
**prycza** *ж.* нары; палок, пол
**prym, ~u** *м. уст.* першынство; **wieść ~** адыгрываць вядучую ролю; задаваць тон; весці рэй
**prymas** *м. рэл.* прымас
**prymat, ~u** *м.* першынство; прымат
**prymityw,** *м.* **1. ~u** прымітыў; **2.** прымітыўны чалавек; прымітыў
**prymitywnie** прымітыўна
**prymitywny** прымітыўны
**prymus** *м.* **1.** выдатнік; першы вучань; **2.** прымус
**pryncypalny** *уст.* галоўны
**pryncypał** *м. уст.* прынцыпал, патрон; гаспадар; начальнік
**pryncypialny** *кніжн.* прынцыповы; **~ człowiek** прынцыповы чалавек
**pryskać** *незак.* пырскаць
**prysnąć** *зак.* пырснуць
**pryszcz** *м.* прышч; вудыр
**pryszczaty** прышчаваты; з вудырамі
**pryszczyca** *ж. вет.* ящчур
**prysznic, ~u** *м.* душ; **wziąć ~** прыняць душ
**prywaciarz** *м. разм.* прыватнік
**prywatka** *ж.* **1.** *разм.* вечарынка; **2.** прыватнае прадпрыемства
**prywatnie** прыватным чынам, прыватна
**prywatn|y** прыватны; асабісты; **własność ~a** прыватная ўласнасць; **sprawa ~a** асабістая справа
**prywatyzacja** *ж.* прыватызацыя; **~ przedsiębiorstw państwowych** прыватызацыя дзяржаўных прадпрыемстваў
**prywatyzować** *незак.* прыватызаваць
**pryzmat, ~u** *м.* прызма
**pryzmatyczny** прызматычны
**przaśny** прэсны; без смаку; ◊ **miód ~** сотавы мёд

**prządka** *ж.* **1.** праля, прадзільшчыца; **2.** *заал.* шаўкапрад
**prząść** *незак.* прасці; ◊ **cienko ~** *разм.* жыць у нястачы, цвэгаць
**przebaczać** *незак.* *коти* прабачаць *каму*
**przebaczeni|e** *н.* прабачэнне; **prosić o ~e** прасіць прабачэння; перапрошваць; **nie do ~a** недаравальна
**przebaczyć** *зак.* *коти* прабачыць, выбачыць *каму*, дараваць *каму*
**przebąkiwać** *незак.* **1.** гаварыць (вымаўляць, адказваць) упаўголаса; мармытаць; **2.** нясмела выказвацца
**przebąknąć** *зак.* сказаць (прамовіць, вымавіць, адказаць) напаўголаса (ціха), выціснуць з сябе
**przebić** *зак.* **1.** прабіць, пракалоць, працяць; **2.** пракласці, прабіць
**przebić się** *зак.* **1.** прабіцца, пракалоцца; **2.** прабіцца, прарвацца, трапіць
**przebiec** *зак.* прабегчы; перабегчы; пранесціся; ◊ **~ *коти* drogę** перайсці *каму* дарогу
**przebieg, ~u** *м.* **1.** ход; працэс, цячэнне; развіццё; **~ choroby** цячэнне хваробы; **~ walki** ход барацьбы; **2.** *тэх.* прабег; **~ dobowy auta** сутачны прабег аўтамабіля
**przebiegać** *незак.* перабягаць
**przebiegłość** *ж.* хітрасць, пранырлівасць
**przebiegły** хітры, пранырлівы, увішны
**przebierać** *незак.* **1.** пераапранаць; **2.** перабіраць, выбіраць; **~ owoce** перабіраць фрукты; **~ w chłopcach** перабіраць хлопцаў; **nie ~ w środkach** не грэбаваць [ніякімі] сродкамі; **nie ~ w słowach** не выбіраць словы; **3.** перабіраць; варушыць; **~ palcami** перабіраць пальцамі
**przebierać się** *незак.* пераапранацца
**przebieralnia** *ж. разм.* пакой для пераапранання, гардэроб, распраналка
**przebieranie się** *н.* пераапрананне
**przebijać** *незак.* прабіваць
**przebijać się** *незак.* прабівацца
**przebiśnieg, ~u** *м. бат.* пралеска (*Galanthus L.*)

**przebłagać** *зак.* умаліць, упрасіць
**przebłysk, ~u** *м.* пробліск; **~i świadomości** пробліскі свядомасці
**przebłyskiwać** *незак.* праблісківаць
**przebłysnąć** *зак.* праблісну́ць
**przebojowy 1.** баявы; **2.** энергічны; рашучы
**przeboleć** *зак.* прахварэць
**przeb|ój, ~oju** *м.* **1.** шлягер; хіт; **lista ~ojów** хіт-парад; **2.** *спарт.* прарыў; атака; **iść ~ojem** ісці напралом
**przebrać** *зак.* **1.** пераапрануць; **2.** перабраць; ◊ **~ miarkę** перабраць меру, далёка хапіць
**przebrać się** *зак.* пераапрануцца
**przebrani|e** *н.* **1.** пераапрананне; **2.** маскарадны касцюм; **w ~u** пераапрануты
**przebrany** пераапрануты
**przebrnąć** *зак.* **1.** перабрысці, перапраўіцца ўброд; **2.** *перан.* пераадолець
**przebrzmiał|y 1.** які адгучаў; **2.** *перан.* застарэлы; устарэлы; **~e hasła** устарэлыя лозунгі
**przebrzmieć** *зак.* **1.** адгучаць; **2.** *перан.* адысці ў мінулае
**przebrzydły** агідны, мярзотны
**przebudowa** *ж.* перабудова
**przebudować** *зак.* перабудаваць
**przebudowywać** *незак.* перабудоўваць
**przebudzać** *незак.* абуджаць, будзіць
**przebudzać się** *незак.* прачынацца, абуджацца
**przebudzenie** *н.* абуджэнне
**przebudzić** *зак.* пабудзіць, абудзіць
**przebudzić się** *зак.* прачнуцца, абудзіцца
**przebycie** *н.* пераход; пераправа; **~ gór** пераход цераз горы; **~ rzeki** пераправа цераз раку
**przebyć** *зак.* **1.** прабыць; **~ do końca roku** прабыць да канца года; **2.** прайсці, пераправіцца; праехаць; **~ połowę drogi** прайсці палову дарогі; **~ rzekę** пераправіцца (перайсці) цераз раку; **3.** перанесці; перажыць; прайсці *праз што*
**przebywa|ć** *незак.* **1.** знаходзіцца; быць; **~ć nad morzem** знаходзіцца на моры; **~ć w szpitalu** ляжаць у шпіталі; **kilka lat ~ł za granicą** некалькі гадоў ён быў за мяжой; **2.** пераходзіць; перапраўляцца; **3.** пераносіць; перажываць
**przebywanie** *н.* знаходжанне
**przecedzać** *незак.* працэджваць
**przecedzić** *зак.* працадзіць
**przecen|a** *ж.* пераацэнка, пераацэньванне; **towar z ~y** уцэнены тавар
**przecenia|ć** *незак.* **1.** змяняць цэны, пераацэньваць; **2.** пераацэньваць; **on ~ł swoje zdolności** ён пераацэньваў свае здольнасці
**przecenianie** *н.* пераацэнка, пераацэньванне; **~ *czyich* zasług** пераацэнка *чыіх* заслуг
**przecenić** *зак.* пераацаніць; **~ towar** пераацаніць тавар; **~ siły** пераацаніць сілы
**przechadzać się** *незак.* прагульвацца, шпацыраваць
**przechadzk|a** *ж.* прагулка, праходка, шпацыр; **pójść na ~ę** пайсці на прагулку (шпацыр)
**przechodni 1.** прахадны; **2.** *грам.* пераходны; **czasownik ~** пераходны дзеяслоў; **3.** пераходны; **sztandar ~** пераходны сцяг
**przechodz|ić** *незак.* пераходзіць; **to ~i wszelkie granice** гэта пераходзіць усе межы; гэта выходзіць за ўсе рамкі; **dreszcze mnie ~ą na samą myśl o tym** мяне праймаюць дрыжыкі пры адной [толькі] думцы аб гэтым
**przechodzień** *м.* прахожы; мінак
**przechorować** *зак.* прахварэць; **~ cały miesiąc** прахварэць цэлы месяц
**przechować** *зак.* захаваць
**przechowalnia** *ж.* камера захоўвання
**przechowanie** *н.* захаванне, хаванне, захоўванне; **oddać bagaż na ~** аддаць багаж на захаванне
**przechowywać** *незак.* **1.** захоўваць, хаваць; **~ żywność** хаваць (захоўваць) харчовыя запасы; **2.** укрываць; хаваць; **~ powstańca** хаваць паўстанца
**przechowywać się** *незак.* укрывацца, утойвацца, хавацца (*доўгі час*)
**przechowywani|e** *н.* захоўванне; **okres ~a** тэрмін захоўвання



**przechwalać się** *незак.* выхваляцца
**przechwałka** *ж.* хвальба; выхваляннe; самахвальства
**przechylać** *незак.* перагінаць; хіліць; схіляць; **~ szalę** схіляць шалі
**przechylać się** *незак.* **1.** перагінацца, перахіляцца, нагінацца; перавешвацца; **~ się przez poręcz** перавешвацца праз поручні; **2.** схіляцца; **~ się ku *czyjemu* zdaniu** схіляцца да *чыйго* погляду
**przechylić** *зак.* **1.** перагнуць; **2.** *перан.* схіліць, угаварыць
**przechylić się** *зак.* **1.** перагнуцца, перахіліцца, перавесіцца; **2.** *перан.* схіліцца; **~ się na *czyją* stronę** схіліцца на *чый* бок
**przeciąć** *зак.* перарэзаць
**przeciąg, ~u** *м.* **1.** прамежак; **~ czasu** прамежак часу; **w ~u tygodnia** на працягу тыдня; **2.** скразняк, пройма, падвей
**przeciągać** *незак.* **1.** працягваць; **2.** перацягваць (*на іншае месца*); **3.** зацягваць; **~ zebranie** зацягваць сход
**przeciąga|ć się** *незак.* **1.** пацягвацца; **~ć się po obudzeniu** пацягвацца прачнуўшыся; **2.** зацягвацца; **posiedzenie się ~** пасяджэнне зацягваецца
**przeciągły** працяглы; працяжны
**przeciągnąć** *зак.* **1.** працягнуць; **2.** перацягнуць; **~ *kogo* na swoją stronę** перацягнуць *каго* на свой бок; **3.** зацягнуць; **~ sprawę** зацягнуць справу; ◊**~ strunę** перабраць меру
**przeciągnąć się** *зак.* **1.** пацягнуцца; **2.** зацягнуцца; *гл.* **przeciągać się**
**przeciążać** *незак.* перагружаць
**przeciążenie** *н.* перагрузка
**przeciążyć** *зак.* перагрузіць
**przecie;** *гл.* **przecież**
**przeciec** *зак.* працячы
**przeciek, ~u** *м.* **1.** цеча; **2.** *разм.* продаж з-пад прылаўка
**przeciekać** *незак.* працякаць
**przeciekanie** *н.* працяканне
**przecierpieć** *зак.* перацярпець, працярпець
**przecież 1.** ж (жа); **~ już mówiłem!** я ж ужо казаў!; **~ wiesz** ты ж ведаеш; **~ to nie ma sensu!** гэта ж не мае сэнсу!; **~ tylko rok** усяго толькі год; **2.** аднак (жа); але (ж); **zna rzecz dobrze, a ~ się pomylił** ён добра ведае справу, аднак жа памыліўся
**przecięci|e** *н.* **1.** разрэз; **2.** *геам.* перасячэнне; **punkt ~a linii** пункт перасячэння ліній
**przeciętn|y 1.** сярэдні; **~y zarobek** сярэдні заробак; **2.** звычайны; пасрэдны; **~y uczeń** пасрэдны вучань; **3. ~a** *ж.* сярэдняя велічыня; сярэдні паказчык
**przecina|ć** *незак.* перарэзваць, пераразаць; перасякаць; **jedna ulica ~ drugą** адна вуліца перасякае другую; **~ć dyskusję** перапыняць спрэчкі
**przecin|ek** *м.* коска; **do trzech miejsc po ~ku** *мат.* да трэцяга знака пасля коскі
**przeciskać** *незак.* праціскаць, прапіхваць
**przeciskać się** *незак.* праціскацца, прапіхвацца
**przecisnąć** *зак.* праціснуць, прапхнуць
**przecisnąć się** *зак.* праціснуцца
**przeciw 1.** супраць, супроць; **płynąć ~ prądowi** плысці супраць цячэння; **2.** супраць; супроць; **nie mam nic ~ temu** я нічога не маю супраць гэтага; **występować ~ nadużyciom** выступаць супраць злоўжыванняў; **3.** наперакор, супраць; **~ mej woli** супраць маёй волі; **mówić ~ własnemu przekonaniu** гаварыць наперакор сваім перакананням; ◊ **~ gorączce** супраць тэмпературы; ад тэмпературы, ад гарачкі
**przeciwatak, ~u** *м.* контрнаступленне
**przeciwbólowy** абязбольваючы; абязбольвальны
**przeciwczołgowy** процітанкавы, супрацьтанкавы
**przeciwdziałać** *незак.* процідзейнічаць, супрацьдзейнічаць
**przeciwdziałający** процідзейны, супрацьдзейны
**przeciwdziałanie** *н.* процідзеянне, супрацьдзеянне
**przeciwgorączkowy** гарачкапаніжальны

рэнта; **~a gruntowa** зямельная рэнта; **~a wieczysta** пажыццёвая рэнта; **~a różniczkowa** дыферэнцыяльная рэнта
**rentgen** *м.* рэнтген
**rentgenografia** *ж.* рэнтгенаграфія
**rentgenogram, ~u** *м.* рэнтгенаграма
**rentgenolog** *м.* рэнтгенолаг
**rentgenologia** *ж.* рэнтгеналогія
**rentgenowski** рэнтгенаўскі; **promienie ~e** рэнтгенаўскія прамяні; **zdjęcie ~e** рэнтгенаўскі здымак
**rentier** *м.* ранцье
**rentowność** *ж.* рэнтабельнасць, прыбытковасць; **~ produkcji** рэнтабельнасць вытворчасці; **~ przedsiębiorstwa** рэнтабельнасць прадпрыемства
**rentowny** рэнтабельны
**rentowy** рэнтавы
**reński** рэйнскі; **wino ~e** рэйнскае віно
**reorganizacja** *ж.* рэарганізацыя; **~ produkcji** рэарганізацыя вытворчасці
**reorganizator** *м.* рэарганізатар
**reorganizować** *незак.* рэарганізоўваць
**reparacje** *мн. паліт.* рэпарацыі; рэпарацыя
**reparacyjny** рэпарацыйны
**repatriacja** *ж.* рэпатрыяцыя
**repatriant** *м.* рэпатрыянт
**repatriować** *незак.* рэпатрыяваць
**reper** *м. геад.* рэпер
**reperacj|a** *ж.* папраўка; рамонт; **oddać do ~i** аддаць у рамонт
**reperacyjny** рамонтны; **warsztat ~** рамонтная майстэрня
**reperować** *незак.* **1.** папраўляць, рамантаваць; **2.** латаць
**repertuar, ~u** *м.* рэпертуар
**repetować** *незак.* **1.** рэпеціраваць; **2.** заставацца на другі год
**repetycja** *ж.* рэпетыцыя
**replika** *ж.* **1.** рэпліка; **2.** аўтарская копія; **3.** *лінгв.* калька
**replikować** *незак.* адказваць; падаваць рэплікі
**reportaż, ~u** *м.* рэпартаж; **~ z rozprawy sądowej** рэпартаж з залы суда; ◊ **~ literacki** [літаратурны] нарыс
**reporter** *м.* рэпарцёр
**represj|a** *ж. часцей мн.* **~e** рэпрэсія; **zastosować ~ę** прымяніць рэпрэсіі
**represyjny** рэпрэсіўны
**reprezentacja** *ж.* **1.** прадстаўніцтва; **2.** *спарт.* зборная каманда; **~ kraju** зборная каманда краіны; **3.** імпазантнасць
**reprezentacyjn|y** **1.** прадстаўнічы; **2.** зборны; **ekipa ~a** зборная каманда; **3.** імпазантны
**reprezentant** *м.* прадстаўнік; **Izba ~ów** Палата прадстаўнікоў
**reprezentować** *незак.* прадстаўляць; **~ interesy mas** прадстаўляць інтарэсы мас
**reprodukcja** *ж.* **1.** рэпрадукцыя, копія; **2.** *эк.* узнаўленне; **~ rozszerzona** расшыранае ўзнаўленне
**reprodukować** *незак.* **1.** *тэх.* рэпрадукаваць; **2.** *эк.* узнаўляць
**reproduktor** *м. с.-г.* рэпрадуктар
**reprymend|a** *ж. разм.* наганяй; прачуханка; **udzielić** *komu* **~y** даць *каму* наганяй (прачуханку)
**reprywatyzacja** *ж.* рэпрыватызацыя; **~ przedsiębiorstwa państwowego** рэпрыватызацыя дзяржаўнага прадпрыемства
**republika** *ж.* рэспубліка; **Republika Czeska** Чэшская Рэспубліка
**republikanin** *м.* рэспубліканец
**republikański** рэспубліканскі
**reputacj|a** *ж.* рэпутацыя; **dbać o (swoją) ~ę** клапаціцца пра (сваю) рэпутацыю; **mieć złą ~ę** мець дрэнную (кепскую) рэпутацыю
**resetować** *незак. камп.* перазагружаць
**reskrypt, ~u** *м. уст.* рэскрыпт
**resor, ~u** *м.* рысора
**resorbować** *незак. хім.* паглынаць, убіраць
**resorowy** рысорны
**resort, ~u** *м.* **1.** ведамства; **~ transportu** транспартнае ведамства; **2.** *разм.* кампетэнцыя; **to nie jest mój ~** гэта не ў маёй кампетэнцыі
**resortowy** ведамасны
**respekt, ~u** *м.* пашана; павага; **mieć ~** *dla kogo* паважаць *каго*; **budzić ~** выклікаць павагу



**respektować** *незак.* **1.** шанаваць, паважаць; **~** *czyje* **zdanie** паважаць *чыю* думку; **2.** выконваць, захоўваць, трымацца; **~ przepisy** трымацца правіл
**respiracja** *ж. мед.* дыханне
**respirator** *м. мед.* рэспіратар
**respondent** *м.* рэспандэнт
**restauracja**[1] *ж.* рэстаўрацыя, аднаўленне
**restauracja**[2] *ж.* рэстаран, рэстарацыя
**restauracyjny**[1] рэстаўрацыйны
**restauracyjny**[2] рэстаранны; **wagon ~** вагон-рэстаран
**restaurator**[1] *м.* рэстаўратар
**restaurator**[2] *м.* гаспадар рэстарана
**restaurować** *незак.* рэстаўраваць, аднаўляць
**restrukturyzacja** *ж.* рэструктурызацыя; **~ zadłużenia przedsiębiorstw** рэструктурызацыя запазычанасці прадпрыемстваў
**restrykcja** *ж.* абмежаванне, рэстрыкцыя; **~ handlowa** гандлёвае абмежаванне; **~ kredytowa** крэдытная рэстрыкцыя
**restytucja** *ж. юр., біял.* рэстытуцыя
**restytuować** *незак.* **1.** *біял.* аднаўляць; **2.** *юр.* вяртаць
**resume** *н.* рэзюмэ
**reszk|a** *ж.* рэшка; ◊ **orzeł i ~** арлянка; **orzeł czy ~** арол ці рэшка
**reszt|a** *ж.* **1.** рэшта; **dwa złote ~y** два злотых рэшты; **~y nie trzeba!** рэшты не трэба!; рэшту пакіньце сабе!; **2.** лішак; **do ~y (bez ~y)** да рэшты; цалкам; канчаткова; зусім; да абуха; ◊ **i cała ~a** і ўсё астатняе
**resztka** *ж.* астатак, рэшткі; **gonić ~mi** выбівацца з апошніх сіл
**retor** *м. уст.* рытар
**retorsja** *ж. юр.* рэторсія
**retorta** *ж.* рэторта
**retoryczn|y** рытарычны; **pytanie ~e** рытарычнае пытанне; **figura ~a** рытарычны абарот
**retoryka** *ж.* рыторыка
**retro** *н.* рэтра; **w stylu ~** у стылі рэтра
**retrospekcja** *ж.* рэтраспекцыя
**retrospektywny** рэтраспектыўны
**retusz, ~u** *м.* рэтуш
**retuszer** *м.* рэтушор
**retuszować** *незак.* рэтушаваць
**rety!** гвалт!; ратуйце!
**reumatyczny** рэўматычны
**reumatyk** *м.* рэўматык
**reumatyzm, ~u** *м.* рэўматызм
**rewaloryzacja** *ж. эк.* рэвалярызацыя; рэвальвацыя; **~ waluty** рэвальвацыя валюты
**rewanż, ~u** *м.* рэванш
**rewanżować się** *незак.* **1.** браць рэванш; **2.** плаціць узаемнасцю; дзякаваць; аказваць узаемную паслугу; адплачваць
**rewanżowy** у адказ; **mecz ~** матч у адказ, матч-рэванш
**rewelacj|a** *ж.* адкрыццё; сенсацыя; **to było ~ą** гэта было адкрыццём
**rewelacyjn|y** небывалы; сенсацыйны; **~e szczegóły** сенсацыйныя падрабязнасці
**rewers, ~u** *м.* **1.** рэверс; адваротны бок (*медаля і да т.п.*); **2.** *гандл.* рэверс; даўгавая распіска; **3.** *тэх.* рэверс; рэверсіўны механізм; **4.** патрабаванне (*бібліятэчнае*)
**rewia** *ж.* **1.** парад; **~ wojskowa** вайсковы парад; **~ sportowa** спартыўны парад; **2.** паказ, агляд; **~ mód** паказ мадэляў; **3.** *тэатр.* агляд, рэвю
**rewident** *м.* **1.** рэвізор; **2.** *чыг.* аглядчык
**rewidować** *незак.* **1.** аглядаць; абшукваць; **2.** рабіць праўку, папраўляць
**rewir, ~u** *м.* **1.** участак (*паліцэйскі*); **2.** лясніцтва
**rewizj|a** *ж.* **1.** рэвізія; **2.** вобыск;ператрус; **nakaz ~i** ордэр на вобыск; **3.** *юр.* перагляд справы; **4.** *паліграф.* зверка
**rewizjonista** *м.* рэвізіяніст
**rewizjonistyczny** рэвізіяніцкі
**rewizjonizm, ~u** *м.* рэвізіянізм
**rewizor** *м.* рэвізор; *гл.* **rewident 1**
**rewizyjny** рэвізійны
**rewizyta** *ж.* візіт у адказ
**rewizytować** *незак.* аддаваць візіт
**rewolta** *ж.* бунт, паўстанне, закалот
**rewolucja** *ж.* рэвалюцыя
**rewolucjonista** *м.* рэвалюцыянер

**rewolucjonizować** *незак.* рэвалюцыянізаваць

**rewolucyjny** рэвалюцыйны

**rewolwer, ~u** *м.* рэвальвер

**rewolwerow|y 1.** рэвальверны; **2.** *уст.* бульварны; **prasa ~a** бульварная прэса

**rewolwerówka** *ж. тэх.* рэвальверны станок

**rezeda** *ж. бат.* рэзеда (*Reseda L.*)

**rezerw|a** *ж.* **1.** рэзерв, запас; **mieć w ~ie** мець у рэзерве; **~y dewizowe** валютныя рэзервы; **~y finansowe** фінансавыя рэзервы; **~y gotówkowe** запасы наяўных сродкаў; **~y produkcji** рэзервы вытворчасці; **~y ubezpieczeniowe** страхавыя рэзервы; **2.** стрыманасць; асцярожнасць; недавер; **odnosić się z ~ą** ставіцца стрымана (з недаверам)

**rezerwacja** *ж.* рэзервацыя

**rezerwat, ~u** *м.* **1.** запаведнік; **2.** рэзервацыя; **~ Indian** рэзервацыя індзейцаў

**rezerwist|a** *м. вайск.* рэзервіст; **powołać ~ów** прызваць рэзервістаў

**rezerwować** *незак.* рэзерваваць

**rezerwowy** рэзервовы

**rezerwuar, ~u** *м.* рэзервуар

**rezolucj|a** *ж.* рэзалюцыя; **uchwalić ~ę** прыняць (ухваліць) рэзалюцыю

**rezolutnie 1.** рашуча, смела; **2.** кемліва, дасціпна

**rezolutność** *ж.* **1.** рашучасць; **2.** кемлівасць, дасціпнасць

**rezolutny 1.** рашучы, смелы; **2.** кемлівы, дасціпны

**rezon, ~u** *м.* смеласць, упэўненасць; **dla ~u** для смеласці; **stracić ~** страціць упэўненасць

**rezonans, ~u** *м.* рэзананс

**rezonansow|y** рэзанансны; рэзанансавы; **płyta ~a** рэзанансная пласцінка

**rezonator** *м. фіз.* рэзанатар

**rezoner** *м.* рэзанёр

**rezonować** *незак.* рэзанёрыць, рэзанёрстваваць

**rezulta|t, ~u** *м.* вынік; **w ~cie** у выніку; **bez ~tu** без выніку; безвынікова

**rezurekcja** *ж. касц.* велікодная ютрань

**rezydencja** *ж.* рэзідэнцыя

**rezydent** *м.* **1.** рэзідэнт; **minister ~** *дып.* міністр-рэзідэнт; **2.** *уст.* нахлебнік

**rezydować** *незак.* знаходзіцца; мець рэзідэнцыю

**rezygnacj|a** *ж.* **1.** адмова, адрачэнне; **~a z urzędu** адрачэнне ад пасады; **2.** пакора; пакорлівасць; **znosić** *co* **z ~ą** скарыцца *чаму*

**rezygnować** *незак.* **1.** адракацца, адмаўляцца; **~ ze stanowiska** пайсці ў адстаўку; **2.** прымірацца

**reżim, ~u** *м.*; *гл.* **reżym**

**reżym, ~u** *м.* рэжым

**reżymowy** рэжымны

**reżyser** *м.* рэжысёр

**reżyseria** *ж.* рэжысура; **«~: Stephen Spielberg»** «рэжысёр Стывен Спілберг»

**reżyserować** *незак.* рэжысіраваць

**rębacz** *м.* **1.** дрывакол, дрывасек; **2.** *горн.* забойшчык

**ręcznie** уручную; ручным спосабам; **~ malowany** размаляваны (распісаны) ўручную

**ręcznik** *м.* ручнік, уціральнік; **~ kąpielowy** лазневы ручнік

**ręczn|y** ручны; **zegarek ~y** ручны гадзіннік; **~a robota** ручная праца; **piłka ~a** ручны мяч (гандбол); **~y hamulec** ручны тормаз

**ręcz|yć** *незак.* ручацца; **~ę za niego** я ручаюся за яго

**ręk|a** *ж.* рука; ◊ **z rąk do rąk** з рук у рукі; **rozkładać ręce** разводзіць рукамі; **trzymać w ~u** трымаць у руках; **mam wolną ~ę** у мяне рукі развязаныя; **dać wolną ~ę** даць свабоду дзейнасці; **wziąć** *co* **w swoje ręce** узяць *што* ў свае рукі; **podnieść ~ę** *na kogo* падняць руку *на каго*; **na ~ach nosić** *kogo* насіць *каго* на руках; **wypuścić z rąk okazję** прапусціць зручны момант; **~a sprawiedliwości** рука правасуддзя; **wyjść obronną ~ą** выйсці цэлым; **to mi na ~ę** гэта мне на руку; **umywać ręce** умываць рукі; **iść ~a w ~ę** ісці поплеч (поруч); **jak ~ą odjął** як рукой зняло; **do rąk własnych** асабіста; **dać ciepłą ~ę** даць шчодрай рукой; **lepszy wróbel w ~u niż sokół na sęku** лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе; **~a ~ę myje, noga nogę wspiera** рука руку мые; **z pierwszej ~i** з першых рук; **z pustymi ~oma** з пустымі рукамі; **siedzieć z założonymi ~oma** сядзець склаўшы рукі; **ręce do góry!** рукі ўгору!; **mieć związane ręce** мець звязаныя рукі; **prosić** *kogo* **o ~ę** прасіць *чыёй* рукі; сватацца *да каго*; **precz z ~ami!** рукі прэч!; **ręce przy sobie!** рукі прэч!; не чапаць!



**rękaw** *м.* рукаў; **bez ~ów** без рукавоў

**rękawic|a** *ж.* рукавіца; пальчатка; **~e bokserskie** баксёрскія пальчаткі; ◊ **rzucić ~ę** кінуць пальчатку

**rękawiczka** *ж.* пальчатка

**rękawicznictwo** *н.* выраб пальчатак

**rękawicznik** *м.* рукавічнік; пальчатнік

**rękoczyn, ~u** *м.* рукапрыкладства; аплявуха; біццё, збіццё

**rękodzielnia** *ж. гіст.* мануфактурная майстэрня; мануфактурнае прадпрыемства

**rękodzielnictwo** *н.* мануфактура

**rękodzielniczy** мануфактурны

**rękodzielnik** *м.* рамеснік; саматужнік

**rękodzieło** *н.* ручныя вырабы

**rękojeść** *ж.* ручка; **~ szabli** эфес шаблі

**rękojmia** *ж.* залог; гарантыя; **~ przyjaźni** залог сяброўства

**rękopis, ~u** *м.* рукапіс; манускрыпт; **zbiór ~ów** збор рукапісаў

**rękopiśmienny** рукапісны; **zabytek ~** рукапісны помнік

**riksza** *ж.* рыкша

**ring, ~u** *м. спарт.* рынг

**riposta** *ж.* **1.** *спарт., фехт.* удар у адказ; **2.** хуткі адказ; рэпліка

**ripostować** *незак.* **1.** *спарт.* парыраваць; **2.** хутка адказваць; пярэчыць; парыраваць

**risotto** *н. кул.* рызота (*страва з рысу*)

**robactwo** *н. зборн.* насякомыя; вусякі; жамяра; паразіты

**robaczek** *м.* чарвячок; **~ świętojański** *заал.* святляк, светлячок (*Lampyris L.*)

**robaczkow|y** чэрвепадобны; **wyrostek ~y** *мед.* апендыкс; **zapalenie wyrostka ~ego** апендыцыт; **ruch ~y** *фізіял.* перыстальтыка

**robaczywieć** *незак.* чарвівець

**robaczywy** чарвівы

**robak** *м.* **1.** чарвяк; **2.** гліст; рабак; ◊ **zalać ~a** *разм.* заліць гора; напіцца з гора

**rober** *м. карц.* робер

**robi|ć** *незак.* **1.** рабіць; здзяйсняць; вырабляць; **~ć na drutach** плесці пруткамі; **2.** рабіць; **~ć laskę** рабіць ласку; **~ć uwagi** рабіць заўвагі; **~ć zarzuty** дакараць, упікаць; абвінавачваць; **~ć wrażenie** *na kim* рабіць уражанне *на каго*; **to dobrze ~** гэта добра дапамагае (дзейнічае); **3.** *разм.* працаваць, рабіць); ◊ **~ć honory domu** прымаць гасцей; **nic (niewiele) sobie ~ć** *z kogo/czego* не звяртаць увагі *на каго/што*; не браць да галавы *што*

**robi|ć się** *незак.* **1.** рабіцца; **2.** рабіцца; станавіцца; **~ się ciemno** становіцца (робіцца) цёмна; **~ mi się niedobrze** мяне нудзіць; мне млосна; мяне цягне на ваніты; ◊ **już się ~!** *разм.* зараз!; гатова!

**robinia** *ж. бат.* белая акацыя (*Robinia L.*)

**robiony** роблены; ненатуральны; штучны

**robociarz** *м. разм.* рабочы; працоўны; рабачай; пралетарый

**robocizna** *ж.* вартасць працоўнай сілы; аплата працы

**roboczodniówka** *ж.* працадзень

**roboczogodzina** *ж. эк.* чалавека-гадзіна

**robocz|y** рабочы, працоўны; **~y dzień** працоўны дзень; **siła ~a** працоўная (рабочая) сіла; **ubranie ~e** працоўнае (рабочае) адзенне

**robot** *м.* робат; **~ kuchenny** кухонны камбайн

**robot|a** *ж.* **1.** работа; праца; **wziąć się do ~y** узяцца за працу; **zaniechać ~y** перастаць працаваць; **starać się o ~ę (rozglądać się za ~ą)** шукаць працу;

**mam moc ~y** у мяне шмат працы; **nie mam nic do ~y** не маю чаго рабіць; **2. ~y** *мн.* работы; **~y drogowe** дарожныя работы; **~y publiczne** грамадская праца; **5 lat ciężkich robót** *юр.* 5 гадоў цяжкіх работ; ◊ **krecia ~a** падрыўная работа; **to jego ~a!** гэта яго работа!; **~a pali mu się w rękach** праца гарыць у яго руках; **mokra ~a** *разм.* мокрая справа; забойства

**robotnica** *ж.* работніца

**robotniczo-chłopski** рабоча-сялянскі

**robotnicz|y** рабочы; **klasa ~a** рабочы клас; **ruch ~y** рабочы рух; **hotel ~y** рабочы інтэрнат; інтэрнат для рабочых

**robotnik** *м.* рабочы; работнік; працаўнік; **~ rolny** сельскагаспадарчы рабочы

**robótk|a: ~i ręczne** рукадзелле, ручныя вырабы

**roczek** *м.* гадок; **dziecko ma już ~** дзіцяці ўжо гадок

**roczniak** *м.* (*пра звяроў*) аднагадовы; аднагодак

**rocznica** *ж.* гадавіна

**rocznik** *м.* **1.** год нараджэння; пакаленне; *вайск.* штогодні кантынгент прызыўнікоў; **2.** штогоднік; **~ statystyczny** статыстычны штогоднік; **3.** камплект перыядычнага выдання за год; **4. ~i** *мн.* летапіс; хроніка

**roczny 1.** гадавы; **2.** аднагадовы

**rodaczka** *ж.* суайчынніца; зямлячка

**rodak** *м.* суайчыннік; зямляк

**rodowity 1.** радавіты; **2.** праўдзівы, сапраўдны; **~ warszawiak** сапраўдны варшавянін

**rodow|ód, ~odu** *м.* **1.** радаслоўе, радаслоўная; радавод; **pies z ~odem** радавіты сабака; **2.** *перан.* паходжанне

**rodowy** радавы

**rodzaj, ~u** *м.* **1.** род; **~ uzbrojenia** род зброі; **2.** гатунак; сорт; **~ tkaniny** гатунак тканіны; **3.** *грам.* род; **~ męski** мужчынскі род; **~ żeński** жаночы род; **~ nijaki** ніякі род; ◊ **sprawa tego ~u** такая справа; **pewnego ~u** у пэўнай ступені; **coś w tym ~u** нешта ў гэтым родзе; нешта падобнае; **~ ludzki** чалавечы род; чалавецтва

**rodzajnik** *м. грам.* артыкль; **~ określony (nieokreślony)** пэўны (няпэўны) артыкль

**rodzajow|y** бытавы; жанравы; **scena ~a** жанравая сцэна; **powieść ~a** бытавы раман

**rodzenie** *н.* нараджэнне

**rodzeństwo** *н.* браты і сёстры; **czy masz jakieś ~?** ці ёсць у цябе браты ці сёстры?

**rodzice** *мн.* бацькі

**rodzicielski** *уст.* бацькаўскі; бацькоўскі; бацькаў; **komitet ~** бацькоўскі камітэт

**rodzić** *незак.* **1.** радзіць, раджаць; нараджаць; **2.** прыносіць плён; даваць ураджай; **3.** *перан.* параджаць; ствараць

**rodzić się** *незак.* радзіцца; нараджацца

**rodzimy 1.** айчынны; родны; **~ użytkownik języka** носьбіт мовы; **2.** самародны

**rodzin|a** *ж.* сям'я; **głowa ~y** галава сям'і

**rodzinn|y 1.** сямейны; **życie ~e** сямейнае жыццё; **zasiłek ~y** дапамога па догляддзе дзіцяці; **2.** родны; **kraj ~y** родная старонка, родны край

**rodzony** родны; **brat ~** родны брат

**rodzyn|ek** *м. часцей мн.* **~ki** разынкі

**rogacizna** *ж.* рагатая жывёла

**rogacz** *м.* **1.** *заал.* рагач (*алень і да т.п.*); **2.** *перан.* раганосец

**rogal** *м.* **1.** (*від булкі*) ражок; **2.** *перан.* раганосец

**rogalik** *м.*; *гл.* **rogal 1**

**rogatk|a** *ж.* шлагбаум; **~i miejskie** гарадская застава

**rogat|y** рагаты; **bydło ~e** рагатая жывёла; ◊ **dusza ~a** непакорная душа

**rogatywka** *ж.* канфедэратка

**rogowy 1.** рагавы; **grzebień ~** рагавы грэбень; **2.** *гл.* **narożny**

**rogoża** *ж.* рагожа

**rogówka** *ж.* **1.** *анат.* рагавіца; рагавая абалонка; **2.** касынка

**rohatyna** *ж. гіст., вайск.* рагаціна

**roić** *незак.* фантазіраваць; марыць; мроіць; **~ sobie** фантазіраваць



**ro|ić się** *незак.* раіцца; **pszczoły się ~ją** пчолы раяцца; **na rzece aż się ~i od kajaków** рэчка аж кіпіць ад байдарак; **~i się od błędów** аж чорна ад памылак; **~ją mi się różne projekty w głowie** у мяне ў галаве раяцца розныя праекты

**rojalista** *м.* раяліст

**rojalistyczny** раялісцкі

**rojalizm, ~u** *м.* раялізм

**rojeni|e** *н. часцей мн.* **~a** мроя; мара; летуценне

**rojenie się** *н.* (*пра пчол*) раенне

**rojnik** *м. бат.* скочка (*Sempervivum L.*)

**rojno** густа, мнагалюдна, шматлюдна

**rojn|y** шумны, ажыўлены, мнагалюдны, шматлюдны; **~e ulice miasta** ажыўленыя (мнагалюдныя) вуліцы горада

**rojowisko** *н.* зборышча; натоўп, сціжма

**rok, ~u** *м.* год; **~ szkolny** навучальны год; **~ bieżący** бягучы год; **~ budżetowy** бюджэтны год; **z ~u na ~** з года ў год; **w tym ~u** сёлета, у гэтым годзе; **w zeszłym ~u** летась, у мінулым годзе; **cały ~** цэлы (круглы) год; **~ w ~** штогод, з года ў год; **w ~ po...** у год пасля; **za ~** праз год

**rokicina** *ж. бат.* ракіта

**rokita** *ж.* **1.** ракіта; **2.** галінка ракіты; **3.** лясун, чорт

**rokitnik** *м. бат* абляпіха (*Hippophae L.*)

**rokosz, ~u** *м. гіст.* бунт; мяцеж, закалот

**rokować** *незак.* **1.** весці перамовы (перагаворы); **2.** абяцаць; **~ nadzieje** падаваць надзеі

**rokowania** *мн.* перагаворы; перамовы; **nawiązać ~** пачаць перагаворы

**rokrocznie** штогод, з года ў год

**rol|a**[1] *ж.* ралля; **praca na ~i** земляробчая праца, праца ў сельскай гаспадарцы

**rol|a**[2] *ж.* роля; **główna ~a** галоўная роля; ◊ **to nie gra ~i** гэта не мае значэння

**rolada** *ж.*; *гл.* **rulada**

**roleta** *ж.* штора

**rolka** *ж.* ролік

**rolkowy** ролікавы

**rolnictwo** *н.* сельская гаспадарка; земляробства

**rolnicz|y** сельскагаспадарчы; аграрны; **szkoła ~a** сельскагаспадарчая школа

**rolnik** *м.* селянін; земляроб

**roln|y** зямельны, аграрны; **gospodarstwo ~e** сельская гаспадарка; **reforma ~a** зямельная (аграрная) рэформа

**rolowanie** *н.* скочванне; звальванне

**romanista** *м.* раманіст

**romans, ~u** *м.* **1.** *літ.* раман, аповесць; **2.** *муз.* раманс; **3.** любоўная сувязь; раман

**romansidło** *н. пагард.* дрэнны (бульварны) раман

**romansować** *незак.* **1.** весці любоўную гутарку; **2.** мець любоўную сувязь, амурнічаць; круціць раман

**romansowy** раманічны

**romantycznie** рамантычна

**romantyczność** *ж.* рамантычнасць

**romantyczny** рамантычны

**romantyk** *м.* рамантык

**romantyka** *ж.* рамантыка

**romantyzm, ~u** *м.* рамантызм

**romańsk|i** раманскі; **architektura ~a** раманская архітэктура

**romb, ~u** *м. геам.* ромб

**rombik** *м.* ромбік

**rondel** *м.* каструля; рондаль

**rondo** *н.* **1.** палі (*капелюша*); **2.** круглая плошча; [транспартная] развязка; **3.** *муз.* рондо

**ronić** *незак.* **1.** раняць; губляць; **2.** дачасна нараджаць; выкідаць; звяргаць (*пра жывёл*)

**ropa** *ж.* **1.** гной (*у ране*); **2.** нафта; **~ naftowa** нафта

**ropieć** *незак.* гнаіцца

**ropień** *м.* гнайнік

**ropniak** *м.* гнойнае запаленне

**ropn|y 1.** гнойны; **2.** гнаяродны; **przetoka ~a** *мед.* свішч; фістула

**ropodajny** нафтаносны

**ropucha** *ж. заал.* рапуха

**rosa** *ж.* раса

**rosiczka** *ж. бат.* расічка; расянка (*Drosera L.*)

**rosić** *незак.* акрапляць, увільгатняць

**rosisty** росны
**Rosjanin** *м.* **1.** рускі; **2.** грамадзянін Расіі, расіянін
**Rosjanka** *ж.* **1.** руская; **2.** грамадзянка Расіі, расіянка
**rosły** рослы
**rosnąć** *незак.* расці; **ciasto rośnie** цеста падыходзіць
**rosocha** *ж.* развіліна; разгалінаванне
**rosochaty** разгалінаваны
**rosołow|y** булённы; **mięso ~e** варанае мяса; **kostka ~a** булённы кубік
**rosomak** *м. заал.* расамаха (*Gulo gulo L.*)
**ros|ół, ~ołu** *м. кул.* **1.** булён; **~ół z drobiu** булён са свойскай птушкі; **2.** расол; **~ół ogórkowy** расол з агуркоў; агурочны расол
**rostbef, ~u** *м. кул.* ростбіф
**rosyjski 1.** рускі; **2.** расійскі
**roszada** *ж. шахм.* ракіроўка
**roszarnia** *ж.* (і)льнозавод, лёназавод
**roszarniczy** (і)льноапрацоўчы, лёнаапрацоўчы
**roszczeni|e** *н.* дамаганне; прэтэнзія
**rościć** *незак.* прарошчваць; ◊ **~ pretensje** прэтэндаваць; **~ nadzieje** песціць надзею
**roślin|a** *ж.* расліна; **hodowla ~** раслінаводства; **~y lekarskie** лекавыя расліны; зёлкі
**roślinność** *ж.* расліннасць
**roślinny** раслінны; **pokarm ~** раслінная ежа (страва)
**roślinożerne** *мн. заал.* траваедныя
**rot|a** *ж.* **1.** *уст., вайск.* рота; **2.** тэкст прысягі; прысяга; **~y przysiąg sądowych** формула судовай прысягі
**rotacja** *ж.* **1.** кручэнне; варочанне; вярчэнне; **2.** ратацыя; **3.** абарот
**rotacyjn|y** *паліграф.* ратацыйны; **maszyna ~a** ратацыйная машына
**rotator** *м. тэх.* рататар
**rotmistrz** *м. уст., вайск.* ротмістр
**rotor** *м. ав., эл.* ротар
**rotunda** *ж. архіт.* ратонда
**rowek** *м.* жалабок, равок
**rower, ~u** *м.* веласіпед; ровар; **~ wyścigowy (górski)** гоначны (горны) веласіпед
**rowerowy** веласіпедны
**rowerzysta** *м.* веласіпедыст
**rozbandażować** *зак.* разбінтаваць
**rozbawić się** *зак.* развесяліцца
**rozbeczeć się** *зак. разм.* разраўціся
**rozbełtać** *зак.* разбоўтаць
**rozbełtywać** *незак.* разбоўтваць
**rozbestwić się** *зак.* раз'юшыцца, азвярэць
**rozbestwienie** *н.* раз'юшанасць, азвярэнне
**rozbestwiony** раз'юшаны, азвярэлы
**rozbębnić** *зак. разм.* разгаласіць; разбалбатаць
**rozbici|e** *н.* **1.** разлом; паломка; **ulec ~u** разбіцца; **~e pociągu** крушэнне цягніка; **~e okrętu** караблекрушэнне; **2.** разгром; паражэнне; параза; **3.** разбіўка; **~e namiotu** разбіўка палаткі; **4.** падзел; разбіўка; **~e na grupy** падзел на групы; **5.** раскол; распад; **~e rodziny** распад сям'і; **6.** раздробленасць; **~e partii politycznych** раздробленасць палітычных партый; **~e dzielnicowe** *гіст.* удзельная раздробленасць; ◊ **~e jądra** *фіз.* расшчапленне ядра
**rozbić** *зак.* **1.** разбіць; раскалоць; пабіць; **~ samochód** разбіць машыну; **2.** разбіць; пабіць; разграміць; **3.** паставіць; размясціць; раскласці; **~ obóz** размясціцца лагерам; **~ namiot** паставіць палатку (намёт); ◊ **~ atom** *фіз.* расшчапіць атам
**rozbić się** *зак.* **1.** разбіцца; раскалоцца; **2.** падзяліцца; **3.** парушыцца; разладзіцца
**rozbiec się** *зак.* разбегчыся
**rozbieg, ~u** *м.* разбег; **wziąć ~** узяць разбег; разбегчыся
**rozbiegać się** *незак.* разбягацца
**rozbierać** *незак.* **1.** распранаць; **2.** разбіраць
**rozbierać się** *незак.* раздзявацца, распранацца
**rozbieralnia** *ж.* раздзявальня
**rozbieranie** *н.* **1.** разборка; **~ maszyn** разборка машын; **2.** распрананне
**rozbierany** разборны; **most ~** разборны мост
**rozbieżnoś|ć** *ж.* **1.** разыходжанне; **~ci w poglądach** разыходжанне ў поглядах; **2.** рознагалоссе; супярэчнасць



**rozbieżn|y** які не супадае; супярэчлівы; рознагалосны; **~e poglądy** супярэчлівыя погляды
**rozbijać** *незак.* **1.** разбіваць; расколваць; **2.** разбіваць; біць; граміць; **3.** ставіць; размяшчаць; **4.** падзяляць; расколваць; разбіваць
**rozbija|ć się** *незак.* **1.** разбівацца; **2.** скандаліць; **co się ~sz?** *разм.* што ты скандаліш?; **3.** *разм.* шыкаваць; **~ć się samochodem po mieście** з шыкам ездзіць па горадзе на машыне
**rozbi|ór, ~oru** *м.* **1.** разбор; аналіз; **~ór gramatyczny** граматычны разбор; **~ór zdania** разбор (аналіз) сказа; **~ór chemiczny** хімічны аналіз; **2.** падзел; **~ór Polski** падзел Польшчы
**rozbiórk|a** *ж.* разборка, дэмантаж; знос; **budynek przeznaczony do ~i** будынак, прызначаны для дэмантажу (зносу)
**rozbitek** *м.* які пацярпеў крушэнне
**rozbłysk, ~u** *м.* успышка
**rozbłysnąć** *зак.* шугнуць, бліснуць
**rozbol|eć** *зак.* разбалецца; **~ało mię gardło** у мяне разбалелася горла
**rozb|ój, ~oju** *м.* разбой; **~ój na gładkiej drodze** разбой сярод белага дня
**rozbójniczy** разбойніцкі
**rozbójnik** *м.* разбойнік
**rozbrajać** *незак.* **1.** раззбройваць; **2.** *перан.* абяззбройваць
**rozbrajać się** *незак.* раззбройвацца
**rozbrajający** які абяззбройвае; абяззбройвальны
**rozbraniać** *незак.* разнімаць, разбароньваць; **~ bijących się** разнімаць задзір; спыняць бойку
**rozbrat: wziąć ~** *z czym* паставіць крыж *на чым*, пакончыць, парваць *з чым*
**rozbroić** *зак.* **1.** раззброіць; **2.** *перан.* абяззброіць
**rozbroić się** *зак.* раззброіцца
**rozbrojenie** *н.* раззбраенне
**rozbrykać się** *зак.* раздурэцца
**rozbryzgiwać** *зак.* распырскваць
**rozbryzgiwać się** *незак.* распырсквацца
**rozbryznąć** *зак.* распырснуць
**rozbryznąć się** *зак.* распырснуцца
**rozbrzmiewać** *незак.* гучаць
**rozbudowa** *ж.* **1.** пашырэнне; разрастанне; **~ miasta** разрастанне горада; **2.** развіццё; **~ różnych gałęzi przemysłu** развіццё розных галін прамысловасці
**rozbudować** *зак.* **1.** разбудаваць; **2.** развіць
**rozbudowa|ć się** *зак.* **1.** разбудавацца; разрасціся; **miasto się ~ło** горад разросся (разбудаваўся); **2.** развіцца
**rozbudowywać** *незак.* **1.** разбудоўваць; **2.** развіваць
**rozbudow|ywać się** *незак.* **1.** расці; пашырацца; **wieś się ~uje** вёска расце (разбудоўваецца); **2.** развівацца
**rozbudzać** *незак.* **1.** абуджаць; будзіць; **2.** узбуджаць
**rozbudzić** *зак.* **1.** разбудзіць, абудзіць; **~ z pierwszego snu** абудзіць ад першага сну; **2.** узбудзіць
**rozbudzić się** *зак.* абудзіцца; прачнуцца
**rozbujać** *зак.* раскалыхаць; разгайдаць
**rozbujać się** *зак.* раскалыхацца; разгайдацца
**rozcapierzyć** *зак.*; *гл.* **rozczapierzyć**
**rozchełstany** расхлістаны, расшпілены
**rozchichotać się** *зак.* зарагатаць, засмяяцца
**rozchlapać** *зак.* расплюхаць
**rozchmurzyć** *зак.* разагнаць хмары; *перан.* **~ czoło** павесялець
**rozchmurzyć się** *зак. перан.* павесялець
**rozchodnik** *м. бат.* расходнік (*Sedum L.*)
**rozchodzić** *зак.* разнасіць (*абутак*)
**rozchodz|ić się** *незак.* расходзіцца, разыходзіцца; **pieniądze się ~ą** грошы разыходзяцца
**rozchorować się** *зак.* расхварэцца
**rozch|ód, ~odu** *м.* расход
**rozchwiać** *зак.* **1.** расхістаць, расківаць; **2.** *перан.* разладзіць
**rozchwytać** *зак.* расхапаць, расхапіць, расхватаць
**rozchwytywać** *незак.* расхопліваць, расхапляць, расхватваць
**rozchylać** *незак.* прыадчыняць, прачыняць; **~ powieki** прыпадымаць павекі

**rozchyla|ć się** *незак.* расчыняцца; прачыняцца; **pąki się ~ją** бутоны распускаюцца
**rozchylić** *зак.* расчыніць; прачыніць
**rozchylić się** *зак.* расчыніцца; распусціцца
**rozcią|ć** *зак.* разрэзаць; рассячы; **~lem sobie nogę** я парэзаў нагу
**rozciągać** *незак.* расцягваць
**rozciągać się** *незак.* расцягвацца
**rozciągalność** *ж.* расцяжнасць
**rozciąganie** *н.* расцягванне
**rozciągliwość** *ж.* расцяжнасць; цягучасць
**rozciągliwy** расцяжны; цягучы
**rozciągłoś|ć** *ж.* працягласць; **w całej ~ci** ва ўсёй паўнаце
**rozciągły** расцягнуты, расцягнены
**rozciągnąć** *зак.* расцягнуць
**rozciągnąć się** *зак.* расцягнуцца
**rozciągnięcie** *н.* расцяжэнне; **~ wiązadeł** *мед.* расцяжэнне звязак
**rozcieńczać** *незак.* разрэджваць; разбаўляць; распускаць
**rozcieńczalnik** *м. спец.* разбаўляльнік
**rozcieńczenie** *н.* разрэджванне; разбаўленне; распусканне
**rozcieńczyć** *зак.* разрэдзіць; разбавіць; распусціць; **~ farbę wodą** разбавіць фарбу вадой
**rozcierać** *незак.* расціраць
**rozcieranie** *н.* расціранне
**rozcięcie** *н.* рассячэнне; разрэз; **spódnica z ~m** спадніца з разрэзам (з распоркай)
**rozcinać** *незак.* рассякаць; разрэзваць, разразаць
**rozcisnąć** *зак.* расціснуць; раздушыць
**rozczapierzyć** *зак.* растапырыць
**rozczarować** *зак.* расчараваць
**rozczarować się** *зак.* расчаравацца
**rozczarowanie** *н.* расчараванне
**rozczarowany** расчараваны
**rozczarowywać** *незак.* расчароўваць
**rozczarowywać się** *незак.* расчароўвацца
**rozczepiać** *незак.* расчапляць
**rozczepić** *зак.* расчапіць
**rozczerwienieć** *зак.* расчырванець
**rozczesać** *зак.* расчасаць
**rozczesywać** *незак.* расчэсваць
**rozczłonkować** *зак.* раздзяліць, расчляніць
**rozczłonkowywać** *незак.* раздзяляць, расчляняць
**rozczochrać** *зак.* раскудлаціць, растрапаць
**rozczochraniec** *м. разм.* кудла; растрэпа
**rozczulać** *незак.* расчульваць; кранаць
**rozczulać się** *незак.* расчульвацца; кранацца
**rozczulenie** *н.* расчуленасць, расчуленне
**rozczulić** *зак.* расчуліць; крануць
**rozczulić się** *зак.* расчуліцца; крануцца
**rozczyn, ~u** *м.* рошчына
**rozczyniać** *незак.* рашчыняць
**rozczytać się** *зак.* зачытацца
**rozczytywać się** *незак.* зачытвацца; **~ się w poezji Mickiewicza** зачытвацца паэзіяй Міцкевіча; зачытвацца Міцкевічам
**rozdać** *зак.* раздаць
**rozdanie** *н.* раздача
**rozdarcie** *н.* разрыў; **przeżywać wewnętrzne ~** перажываць унутраны (душэўны) разлад
**rozdarować** *зак.* раздарыць
**rozdawać** *незак.* раздаваць
**rozdawca** *м.* раздатчык
**rozdawniczy** раздатачны
**rozdąć** *зак.* разадзьмуць, раздзьмуць
**rozdąsać się** *зак.* раскапрызіцца, разгневацца
**rozdeptać** *зак.* растаптаць
**rozdeptywać** *незак.* растоптваць
**rozdęcie** *н.* раздутасць
**rozdętość** *ж.*; *гл.* **rozdęcie**
**rozdęty** разадзьмуты, надзьмуты
**rozdłubać** *зак.* раскалупаць
**rozdmuchać** *зак.* раздзьмухаць
**rozdmuchiwać** *незак.* раздзьмухваць
**rozdrabiacz** *м.* **1.** драбілка; **~ do makuchów** макухадрабілка; **2.** драбільшчык; драбільнік
**rozdrabiać** *незак.* раздрабляць
**rozdrabianie** *н.* раздрабленне; раздрабненне
**rozdrabniać** *незак.* раздрабняць
**rozdrabnia|ć się** *незак.* **1.** раздрабняцца; **2.** драбнець; **nie ~j się w szczegółach** не разменьвайся на дробязі



**rozdrabniarka** *ж.* драбілка; **~ węgla** вугледрабілка
**rozdrapać** *зак.* **1.** разадраць, раздзерці; **2.** расцягаць
**rozdrapywać** *незак.* **1.** раздзіраць; **2.** *перан.* расцягваць
**rozdrażniać** *незак.* раздражняць; злаваць; расцвельваць
**rozdrażnić** *зак.* раздражніць; раззлаваць; расцвяліць
**rozdrażnienie** *н.* раздражненне; раззлаванасць
**rozdrobić** *зак.* раздрабіць
**rozdrobnić** *зак.* раздрабніць
**rozdrobnienie** *н.* раздрабненне
**rozdroże** *н.* раздарожжа
**rozdwajać** *незак.* раздвойваць
**rozdwajać się** *незак.* раздвойвацца
**rozdwoić** *зак.* раздвоіць
**rozdwoić się** *зак.* раздвоіцца
**rozdwojenie** *н.* раздваенне; **~ jaźni** раздваенне асобы
**rozdymać** *незак.* раздуваць, раздзімаць
**rozdział, ~u** *м.* **1.** раздзел; **~ książki** раздзел кнігі; **2.** падзел; раздзел; аддзяленне; **~ majątku** падзел маёмасці; **~ kościoła od państwa** аддзяленне царквы ад дзяржавы; **3.** размеркаване, падзел; **~ prądu** *эл.* размеркаванне току; **~ mieszkań** падзел кватэр; **4.** разлад
**rozdział|ek** *м.* **1.** невялікі раздзел (глава); **2.** прабор; **uczesanie z ~kiem** прычоска з праборам
**rozdziawiać** *незак.* разяўляць
**rozdziawić** *зак.* разявіць; **~ gębę** *вульг.* разявіць зяпу
**rozdzielacz** *м.* **1.** размеркавальнік; **2.** сепаратар
**rozdzielać** *незак.* **1.** дзяліць, раз'ядноўваць; **~ partie** раз'ядноўваць партыі; **2.** разлучаць; **~ męża z żoną** разлучаць мужа з жонкай; **3.** размяркоўваць; **~ dochody** размяркоўваць даходы
**rozdzielca** *м.* раздатчык
**rozdzielcz|y** **1.** раздатачны; **punkt ~y** раздатачны пункт; **2.** размеркавальны; **tablica ~a** *эл.* размеркавальны пульт
**rozdzielić** *зак.* **1.** раздзяліць, раз'яднаць; **2.** разлучыць; **3.** размеркаваць
**rozdzielnik** *м.* **1.** размеркавальнік; **2.** разнарадка; **3.** норма размеркавання
**rozdzielnopłatkowe** *мн. бат.* раздзельнапялёсткавыя
**rozdzielnopłciowe** *мн. біял.* раздзельнаполыя
**rozdzielny** раздзельны; падзельны
**rozdzierać** *незак.* раздзіраць
**rozdzierający** страшэнны, жахлівы; немы; **~ krzyk** немы крык
**rozdziobać** *зак.* раздзяўбці
**rozdzwaniać** *незак.* званіць
**rozdzwonić** *зак.* раззваніць
**rozdźwięk, ~u** *м.* **1.** рознагалоссе; разлад, разнабой; **2.** *кніжн.* гук
**rozebrać** *зак.* **1.** распрануць, раздзець; **2.** разабраць; **3.** *грам.* разабраць (*сказ*); **4.** *тэх.* разабраць; **~ maszynę** разабраць машыну
**rozebrać się** *зак.* распрануцца; раздзецца
**rozedma** *ж. мед.* эмфізэма
**rozednieć** *зак.* разаднець
**rozedrzeć** *зак.* раздзерці, разадраць
**rozedrzeć się** *зак.* раздзерціся, разадрацца
**rozegnać** *зак.* разагнаць
**rozegrać** *зак.* разыграць
**rozegrać się** *зак.* разыграцца
**rozejm, ~u** *м.* перамір'е; **zawrzeć ~** заключыць перамір'е
**rozejmowy** які датычыць перамір'я
**rozejrzeć się** *зак.* **1.** агледзецца; **~ się dokoła** агледзецца навокал; **2.** разабрацца; **~ się w** *jakiej* **sprawie** разабрацца ў *якой* справе
**rozejści|e się** *н.* разыход; **wzywać do ~a się** заклікаць да таго, каб разышліся
**rozejść się** *зак.* **1.** разысціся; **2.** распаўсюдзіцца
**rozentuzjazmować** *зак.* выклікаць энтузіязм
**rozentuzjazmować się** *зак.* запаліцца; натхніцца
**rozepchać** *зак.* разапхнуць; параспіхаць
**rozeprzeć** *зак.* **1.** расперці; **2.** *уст.* расштурхаць; распіхаць

**rozeprzeć się** *зак.* разваліцца; рассесціся
**rozerw|ać** *зак.* **1.** разарваць, разадраць; **2.** *перан.* забавіць; заняць; **~ij go, niech się nie nudzi** займі (забаў) яго, каб не нудзіўся
**rozerwać się** *зак.* **1.** разарвацца; разадрацца; **2.** разарвацца; выбухнуць; **3.** *перан.* павесяліцца, развеяцца
**rozerwanie** *н.* разрыў
**rozeschły** рассохлы
**rozeschnąć się** *зак.* рассохнуцца
**rozesłać**[1] *зак.* разаслаць; **~ zawiadomienia** разаслаць паведамленні
**rozesłać**[2] *зак.* разаслаць; **~ pled na ziemi** разаслаць плед на зямлі
**rozesłanie** *н.* рассылка
**rozespać się** *зак.* разаспацца, заспацца
**rozespany** заспаны
**roześmiać się** *зак.* засмяяцца
**roześmiany** які смяецца
**rozeta** *ж.* **1.** *архіт.* разета; **2.** круглае вітражнае акно
**rozetkow|y: drukarka ~a** пялёсткавы прынтар
**rozetrzeć** *зак.* расцерці
**rozewrzeć** *зак.* расчыніць; раскрыць
**rozeznać** *зак.* распазнаць
**rozeznawać** *незак.* распазнаваць
**rozeźlić** *зак.* раззлаваць; разгневаць; угнявіць
**rozeźlić się** *зак.* раззлавацца; разгневацца
**rozfalować się** *зак.* разбушавацца, расхадзіцца
**rozfasować** *зак.* расфасаваць
**rozfasowanie** *н.* расфасоўка, расфасоўванне
**rozfasowany** расфасаваны
**rozfiglować się** *зак.* раздурэцца, разысціся
**rozgadać się** *зак.* разгаварыцца, разбалбатацца
**rozgadany** балбатлівы, гаваркі
**rozgałęziać się** *незак.* разгаліноўвацца
**rozgałęzienie** *н.* разгалінаванне
**rozgałęzion|y** разгалінаваны; **drzewo ~e** разгалінаванае дрэва; **sprzysiężenie szeroko ~e** шырока разгалінаваная змова

**rozganiać** *незак.* разганяць
**rozgardiasz, ~u** *м.* сумятня, мітусня; бязладдзе, раздрай
**rozgarniać** *незак.* разгортваць
**rozgarniarka** *ж. тэх.* грэйдэр
**rozgarnięcie** *н.* **1.** разграбанне; **2.** кемлівасць
**rozgarnięty** **1.** разгорнуты; **2.** дабітны; кемлівы, кемны; **mało ~** някемлівы, някемны
**rozgiąć** *зак.* разагнуць
**rozgiąć się** *зак.* разагнуцца
**rozginacz** *м. тэх.* разводка
**rozginać** *незак.* разгінаць, разгібаць
**rozginać się** *незак.* разгінацца, разгібацца
**rozglądać się** *незак.* азірацца, аглядацца
**rozgłaszać** *незак.* разносіць, выдаваць
**rozgłos, ~u** *м.* слава; папулярнасць; **bez ~u** без шуму, уціхую; **zdobyć ~** атрымаць вядомасць; заваяваць папулярнасць
**rozgłosić** *зак.* раструбіць, разнесці
**rozgłośnia** *ж.* радыёвяшчальная станцыя
**rozgłośny** **1.** гучны, моцны; **2.** агульнавядомы; **3.** шырокавяшчальны
**rozgmatwać** *зак.* разблытаць
**rozgniatać** *незак.* раздушваць, расціскаць
**rozgnieść** *зак.* раздушыць, расціснуць
**rozgniewać** *зак.* раззлавацца
**rozgniewać się** *зак.* раззлавацца
**rozgonić** *зак.* разагнаць
**rozgorączkować się** *зак.* разгарачыцца
**rozgorączkowanie** *н.* разгарачанасць, узбуджанасць; усхваляванасць
**rozgorączkowany** разгарачаны
**rozgoryczać** *зак.* выклікаць горыч
**rozgoryczenie** *н.* горыч
**rozgoryczyć się** *зак.* адчуць горыч
**rozgorzały** распалены; *перан.* разгарачаны
**rozgorzeć** *зак.* разгарэцца
**rozgospodarować się** *зак.* **1.** абзавесціся гаспадаркай; **2.** размясціцца як у сябе дома
**rozgościć się** *зак. разм.* **1.** загасціцца; **2.** размясціцца як у сябе дома; **proszę się ~!** будзьце як дома!
**rozgotować** *зак.* разварыць
**rozgotowywać** *незак.* разварваць



**rozgotow|ywać się** *незак.* разварвацца; **to się łatwo ~uje** гэта лёгка разварваецца
**rozgrabiać** *незак.* **1.** разрабоўваць; рабаваць; **2.** разграбаць
**rozgrabić** *зак.* разрабаваць
**rozgradzać** *незак.* разгароджваць
**rozgraniczać** *незак.* **1.** размяжоўваць; **~ pola** размяжоўваць палі; **2.** адрозніваць
**rozgraniczenie** *н.* **1.** размежаванне; **2.** адрозненне
**rozgraniczyć** *зак.* **1.** размежаваць; **2.** адрозніць
**rozgrodzić** *зак.* разгарадзіць
**rozgrom, ~u** *м.* разгром
**rozgromić** *зак.* разграміць
**rozgrywać** *незак.* разыгрываць
**rozgrywa|ć się** *незак.* разыгрывацца; разгортвацца; адбывацца; **akcja filmu ~ się w Londynie** падзеі фільма адбываюцца ў Лондане
**rozgrywk|a** *ж.* **1.** розыгрыш; спаборніцтва; **2.** *мн.* **~i** барацьба; інтрыгі; **zakulisowe ~i** закулісныя інтрыгі; **~i o władzę** барацьба за ўладу
**rozgryzać** *незак.* **1.** разгрызаць; раскусваць; **2.** *перан.* разгадваць
**rozgryźć** *зак.* **1.** разгрызці; раскусіць; **2.** разгадаць (*загадку, таямніцу*)
**rozgrzać** *зак.* **1.** разагрэць; **2.** *перан.* натхніць; запаліць
**rozgrzać się** *зак.* **1.** разагрэцца; **2.** *перан.* натхніцца; запаліцца
**rozgrzany** **1.** разагрэты; **~ do czerwoności** разагрэты да чырвані; **2.** *перан.* натхнёны; запалены
**rozgrzebać** *зак.* разгрэбці; разрыць, раскапаць; **~ robotę** *перан.* пачаць працу
**rozgrzebywać** *незак.* разграбаць, раскопваць
**rozgrzeszać** *незак.* адпускаць (дараваць) грахі
**rozgrzeszenie** *н.* адпушчэнне (дараванне) грахоў
**rozgrzeszyć** *зак.* адпусціць (дараваць) грахі
**rozgrzewać** *незак.* **1.** разаграваць; **2.** *перан.* натхняць; запальваць, падаграваць

**rozgrzewać się** *незак.* **1.** разагравацца; **2.** *перан.* запальвацца; узбуджацца
**rozgrzewk|a** *ж.* **1.** разагрэў; саграванне; **na ~ę (dla ~i)** на разагрэў; каб сагрэцца; **2.** *спарт.* размінка
**rozgrzymasić się** *зак.* раскапрызіцца
**rozgwar, ~u** *м.* гоман; гаворка
**rozgwarzyć się** *зак.* разгаварыцца
**rozgwiazda** *ж. заал.* марская зорка
**rozhasać się** *зак.* разгуляцца, раздурэцца
**rozhukany** нястрымны; неўтаймаваны
**rozhulać się** *зак.* разгуляцца
**rozhuśtać się** *зак.* разгайдацца, раскалыхацца, разгушкацца
**rozindyczyć się** *зак. разм.* расхадзіцца
**roziskrzyć się** *зак.* заіскрыцца, заззяць
**rozjadły** раздражнены; раззлаваны
**rozjarzyć** *зак.* распаліць
**rozjarzyć się** *зак.* **1.** распаліцца, разгарэцца; **2.** заблісКаць
**rozjaśniać** *незак.* рабіць больш светлым; асвятляць; **~ włosy** асвятляць валасы
**rozjaśni|ć** *зак.* зрабіць больш светлым; асвятліць; **~ć barwy obrazu** асвятліць фарбы карціны; **radość ~ła jej twarz** радасць асвятліла яе твар
**rozjaśnić się** *зак.* праясніцца; распагодзіцца
**rozjazd, ~u** *м.* **1.** раз'езд; **częste ~y** частыя раз'езды; **2.** *чыг.* стрэлка
**rozjątrzać** *незак.* **1.** раздражняць; злаваць; **2.** развярэджваць; вярэдзіць; **~ ranę** развярэджваць рану
**rozjątrzać się** *незак.* раздражняцца
**rozjątrzenie** *н.* раздражненне
**rozjątrzyć** *зак.* **1.** раздражніць; раззлаваць; **2.** развeрадзіць, растрывожыць
**rozjątrzyć się** *зак.* раздражніцца
**rozjemca** *м.* трацейскі суддзя; арбітр
**rozjemczy** трацейскі; **sąd ~** трацейскі суд
**rozjemstwo** *н.* арбітраж
**rozjeżdżać się** *незак.* раз'язджацца
**rozjuczać** *незак.* разуючваць
**rozjuszony** раз'юшаны
**rozjuszyć** *зак.* раз'юшыць
**rozkaprysić się** *зак.* раскапрызіцца
**rozkarmiać** *незак.* раскормліваць

**rozkaz, ~u** *м.* загад; **dowódca wydał ~** камандзір аддаў загад; **złamać ~** парушыць загад; **~ na piśmie** пісьмовы загад; **mieć** *kogo* **na ~y** мець *каго* ў сваім распараджэнні; **z ~u** па загадзе; **~! (wedle ~u!** *уст.*) *вайск.* так!

**rozkazać** *зак.* загадаць

**rozkazodawca** *м.* асоба, якая аддае загад (распараджэнне)

**rozkazodawstwo** *н.* аддача загадаў

**rozkazujący 1.** уладарны; уладны; загадны; **ton ~** уладны (загадны) тон; **2.** *грам.* загадны; **tryb ~** загадны лад

**rozkazywać** *незак.* загадваць

**rozkaźnik** *м. грам.* загадны лад

**rozkiełzać** *зак.* раскілзаць

**rozklasyfikować** *зак.* **1.** рассартаваць; **2.** раскласіфікаваць

**rozkleić** *зак.* расклеіць

**rozklejać** *незак.* расклейваць

**rozklejanie** *н.* расклейванне

**rozklekotać** *зак.* **1.** расхістаць, разбіць; **2.** разладзіць; расстроіць; **~ fortepian** *разм.* разладзіць раяль

**rozklekota|ć się** *зак.* разладзіцца, расстроіцца; **nerwy się ~ły** *пераж.* нервы расхадзіліся

**rozklekotany** расхістаны, разбіты; **~ wóz** разбіты воз

**rozklepać** *зак.* раскляпаць, разнітаваць

**rozklepywać** *незак.* расклёпваць, разнітоўваць

**rozkład, ~u** *м.* **1.** расклад; **~ lekcji** расклад урокаў; **~ jazdy** расклад руху; **2.** размяшчэнне; **~ pokojów** размяшчэнне пакояў; **3.** гніенне

**rozkładać** *незак.* **1.** раскладаць; размяшчаць; разбіраць; **2.** раскідаць; разводзіць; **~ ramiona** разводзіць рукамі

**rozkłada|ć się** *незак.* **1.** раскладацца; **~ć się z książkami na stole** раскладацца з кніжкамі на стале; **szafa się ~ na części** шафа разбіраецца на часткі; **~ć się na łóżku** разлягацца на ложку; **2.** гніць

**rozkładan|y** раскладны, разборны; **stół ~y** раскладны стол; **łóżko ~e** раскладны ложак

**rozkochać** *зак. kogo w sobie* закахаць, улюбіць; прымусіць палюбіць (пакахаць)

**rozkochać się** *зак.* **1.** *w kim* закахацца ў *каго*; палюбіць *каго*; **2.** *w czym* упадабаць *што*

**rozkojarzony** *мед., псіх.* дысацыяваны; рассеяны

**rozkolportować** *зак.* распаўсюдзіць

**rozkołysać** *зак.* раскалыхаць

**rozkołysać się** *зак.* раскалыхацца

**rozkop, ~u** *м.* **1.** раскапанае месца; раскоп; **ulica pełna ~ów** на вуліцы шмат раскопаў; **2. ~y** *мн.* раскопкі; раскопы

**rozkopać** *зак.* **1.** раскапаць; **2.** скінуць (*коўдру*)

**rozkopać się** *зак.* раскрыцца (*скінуць з сябе коўдру*)

**rozkopywać** *незак.* раскопваць; разграбаць

**rozkorkować** *зак.*; *гл.* **odkorkować**

**rozkorzenić się** *зак.* укараніцца; пусціць карані

**rozkosz** *ж.* **1.** асалода; **z ~ą** з асалодай; **istna ~!** сапраўдная асалода!; **2. ~e** *мн.* раскоша; уцехі; ◊ **~e podniebienia** абжорства

**rozkoszn|y** прыемны, цудоўны, шчасны; **~y uśmiech** прыемная ўсмешка; **~e życie** шчаснае жыццё

**rozkoszować się** *незак.* цешыцца

**rozkraczać** *незак.* расстаўляць; раскірэчваць; **~ nogi** расстаўляць ногі, раскірэчвацца, раскарачвацца

**rozkradać** *незак.* раскрадаць, раскрадваць

**rozkrajać** *зак.* разрэзаць

**rozkraść** *зак.* раскрасці

**rozkrawać** *незак.* разрэзваць, разразаць

**rozkręcać** *незак.* **1.** раскручваць, рассукваць; **~ interes** раскручваць справу; **2.** расшрубоўваць

**rozkręcić** *зак.* **1.** раскруціць, рассукаць; **2.** расшрубаваць

**rozkroić** *зак.* разрэзаць; раскроіць

**rozkrok, ~u** *м.*: **stanąć w ~u** *спарт.* а) паставіць ногі на шырыню плячэй; б) расставіць ногі



**rozkruszyć** *зак.* раскрышыць

**rozkrwawić** *зак.* разбіць да крыві; **~ czoło** разбіць лоб да крыві

**rozkrzewiać** *незак.* разводзіць, разгадоўваць

**rozkrzewia|ć się** *незак.* **1.** разрастацца; **porzeczki się ~ją** парэчкі разрастаюцца; **2.** распаўсюджвацца

**rozkrzewić** *зак.* развесці, разгадаваць

**rozkrzewić się** *зак.* **1.** разрасціся (*пра расліны*); **2.** распаўсюдзіцца

**rozkrzyczeć się** *зак.* раскрычацца

**rozkrzyżować** *зак.* распасцерці; **~ ręce** распасцерці рукі

**rozkuć** *зак.* раскаваць; **~ konia** раскаваць каня; **~ więźnia** раскаваць вязня

**rozkulbaczyć** *зак.* рассядлаць

**rozkupi|ć** *зак.* раскупіць; разабраць; **~ono wszystkie bilety** раскупілі (разабралі) усе білеты

**rozkupywać** *незак.* раскупляць; раскупліваць; разбіраць

**rozkurcz, ~u** *м.* расціскание; расслабленне; **~ mięśni** расслабленне цягліц (мышцаў); **~ serca** *мед.* дыястала

**rozkurczać** *незак.* расціскаць; разгінаць; выпростваць

**rozkurczać się** *незак.* расціскацца; разгінацца; выпроствацца

**rozkurczyć** *зак.* расціснуць; разагнуць; выпрастаць

**rozkurczyć się** *зак.* расціснуцца; разагнуцца; выпрастацца

**rozkurz, ~u** *м. гандл.* россып

**rozkuwać** *незак.* раскоўваць

**rozkwaterować** *зак.* расквартараваць

**rozkwilić się** *зак.* **1.** расплакацца; **2.** запішчаць; запішчэць

**rozkwi|t, ~u** *м.* **1.** цвіценне; **2.** росквіт; **w ~cie** у росквіце; **~t nauki (malarstwa)** росквіт навукі (жывапісу)

**rozkwita|ć** *незак.* расцвітаць; квітнець; **róże ~ją** ружы расцвітаюць; **dziewczyna ~** дзяўчына расцвітае

**rozkwitły** які расцвіў; расквітнелы

**rozkwit|nąć** *зак.* расцвісці; **róże ~nęły** ружы расцвілі

**rozla|ć** *зак.* **1.** разліць; **~ć mleko** разліць малако; **2.** разліцца; выйсці з берагоў; **rzeka ~ła** рака разлілася

**rozla|ć się** *зак.* разліцца; **woda się ~ła** вада разлілася

**rozlatywać się** *незак.* **1.** разлятацца; **~ się w różne strony** разлятацца ў розныя бакі; **2.** развальвацца; **~ się ze starości** (*пра адзенне*) развальвацца ад старасці

**rozlazłość** *ж.* расхлябанасць; разгільдзяйства

**rozlazły** расхлябаны

**rozle|c się** *зак.* пачуцца; **~gł się huk wystrzału** пачуўся гук стрэлу

**rozlecieć się** *зак.* разляцецца

**rozlega|ć się** *незак.* разлягацца, чуцца; **echo się ~** рэха разлягаецца

**rozległość** *ж.* прастора, працягласць

**rozległ|y** вялізны; шырокі; **~y widok** шырокі від; **~e stosunki** шырокія сувязі

**rozleniwiać się** *незак.* разляноўвацца, разгультайвацца

**rozleniwić się** *зак.* разленавацца, разгультаіцца

**rozlepiać** *незак.* **1.** расклейваць; **~ afisze** расклейваць афішы; **2.** разлепліваць; разляпляць

**rozlepić** *зак.* **1.** расклеіць; **~ ogłoszenia** расклеіць аб'явы; **2.** разляпіць; расклеіць; **~ sklejone kartki** разляпіць склееныя старонкі

**rozlew, ~u** *м.* разліў; разліванне; ◊ **~ krwi** кровапраліцце

**rozlewać** *незак.* разліваць

**rozlewanie** *н.* разліванне

**rozlewisko** *н.* абалона, пойма

**rozlewnia** *ж.* разліўны цэх

**rozlewny 1.** паўнаводны; **2.** цякучы; **3.** шматслоўны; расцягнуты

**rozleźć się** *зак.* **1.** распаўзціся; разбрысціся; разысціся; **2.** разлезціся; разваліцца; **3.** *перан. разм.* разладзіцца

**rozliczać** *незак.* **1.** размяркоўваць; разлічваць; **2.** *kogo бух.* прымаць справаздачу ў *каго*

**rozliczać się** *незак.* расплачвацца, разлічвацца

**tokowisko** *н.* такавішча
**toksyczny** таксічны
**toksykologia** *мед.* таксікалогія
**toksyna** *ж. фарм.* таксін
**tolerancj|a** *ж.* **1.** талерантнасць, памяркоўнасць, паблажлівасць; ~ **dla obcych (wobec obcych)** талерантнасць [у адносінах] да чужаземцаў; **2.** *тэх.* допуск, пагрэшнасць
**tolerancyjny** паблажлівы, памяркоўны
**tolerować** *незак.* цярпець, зносіць; дапускаць
**tołub, ~u** *м.* кажух
**tom, ~u** *м.* том; ~ **pierwszy** першы том; **w czterech ~ach** у чатырох тамах
**tomahawk** *м.* тамагаўк
**tombak, ~u** *м.* тампак
**tombakowy** тампаковы
**tomograf, ~u** *м.* тамограф
**tomografia** *ж.* тамаграфія
**ton, ~u** *м.* **1.** тон; гук; **~y muzyki** гукі музыкі; **2.** тон (*інтэрвал*); **o ćwierć ~u niżej** ніжэй на чвэрць тону; **3.** тон; адценне; характар; ◊ **przemówić innym ~em** змяніць (перамяніць) тон; **spuścić z ~u** *іран.* збавіць тон; **nie mów do mnie takim ~em!** не размаўляй са мной такім тонам!; **nadawać ~** задаваць тон
**tona** *ж.* тона (*1000 кг*); ~ **wyporności** *мар.* тона водазмяшчэння; ~ **rejestrowa** *мар.* рэгістравая тона
**tonacj|a** *ж.* **1.** *муз.* танальнасць; **2.** палітра, тон; **w czerwonej ~i** у чырвоных танах
**tonaż, ~u** *м.* танаж
**tonąć** *незак.* **1.** тануць; **2.** *перан.* тануць; патанаць; ~ **w długach** тануць у даўгах; ~ **we łzach** тануць у слязах; ~ **w kwiatach** патанаць у кветках; ~ **w śniegu** тануць (патанаць) у снезе
**toner, ~u** *м. тэх.* тонер
**toniczny** *муз., літ., мед.* танічны
**tonik** *м.* тонік (*напой*)
**tonizować** *незак.* падымаць тонус; танізаваць
**tonować** *незак.* **1.** адцяняць; **2.** *перан.* прыглушаць; памягчаць
**tonsura** *ж.* танзура
**tonus** *м. мед.* тонус
**toń** *ж.* **1.** бяздонне; **2.** тоня
**top[1], ~u** *м.* вяршыня, пік (*славы і да т.п.*); **być na ~ie** быць на вяршыні (на піку); **należeć do ~u wykonawców rocka** належаць да лепшых выканаўцаў року; **na ~ie są grube swetry** у модзе тоўстыя світэры
**top[2], ~u** *м. тэх.* плаўка (*метала*)
**topaz, ~u** *м. мін.* тапаз
**topić** *незак.* **1.** тапіць; ~ **pieniądze w mętnych interesach** *перан.* траціць (марнаваць) грошы на падазроныя справы; **2.** тапіць; плавіць; ~ **słoninę** тапіць сала; ~ **metale** плавіць металы; ◊ ~ **smutki (w alkoholu)** заліваць смутак (алкаголем); ~ **w kim wzrok** утаропліваць ў каго
**topić się** *незак.* **1.** тапіцца; **2.** тапіцца, плавіцца
**topiel** *м.* бяздонне; бяздонная багна
**topielec** *м.* тапелец; тапельнік
**topielica** *ж.* тапельніца
**topielisko** *н.* **1.** вір, глыбокае месца; **2.** дрыгва, твань
**topielnia** *ж.* плавільня
**topienie** *н.* плаўка, плаўленне, тапленне
**topikowy** *эл.* плаўкі; **bezpiecznik** ~ плаўкі засцерагальнік; **drut** ~ дрот засцерагальніка
**topliwość** *ж.* плаўкасць
**topliwy** плаўкі; **trudno** ~ тугаплаўкі
**topni|eć** *незак.* раставаць, тапіцца; **~ał, słuchając jej słów** ён лагаднеў, слухаючы яе словы
**topnienie** *н.* **1.** расставанне; **2.** тапленне, плаўленне
**topograf, ~u** *м.* тапограф
**topografia** *ж.* тапаграфія
**topograficzny** тапаграфічны
**topola** *ж. бат.* таполя (*Populus L.*)
**topologia** *ж. мат.* тапалогія; ~ **płaszczyzny** тапалогія плоскасці
**topolowy** таполевы
**toponimia** *ж.* тапанімія
**toponimiczny** тапанімічны
**toponomastyka** *ж.* тапанамастыка



**toporek** *м.* сякерка
**toporzysko** *н.* тапарышча
**top|ór, ~ora** *м.* сякера; **pójść pod ~ór** пайсці пад сякеру (высечку)
**tor, ~u** *м.* **1.** дарога; траса; ~ **kolejowy** чыгуначны пуць; **boczny** ~ запасны пуць; ~ **kolarski** трэк, велатрэк; ~ **przeszkód** *спарт.* паласа перашкод; ~ **wyścigowy** трэк; **2.** траекторыя; ~ **lotu pocisku** траекторыя палёту снарада; ◊ **biec zwykłym ~em** ісці звыклым шляхам; **życie płynie swoim ~em** жыццё ідзе сваёй дарогай; **ślepy** ~ тупік
**torba** *ж.* сумка, торба, кайстра; хатуль; клунак; ~ **na zakupy** сумка для пакупак; ~ **po mące** мяшок з-пад мукі; ◊ **puścić** (*kogo*) **z ~mi** пусціць (*каго*) з торбай (хатулём)
**torbacze** *мн. заал.* сумчатыя
**torbiel** *м. мед.* кіста
**torcik** *м.* торцік
**toreador** *м.* тарэадор
**torebeczka** *ж.* сумачка
**torebka** *ж.* **1.** торба, торбачка; сумачка; радыкюль; мяшэчак; **mleko w ~ch** малако ў пакетах; **2.** *анат.* сумка; ~ **stawowa** сустаўная сумка
**torf, ~u** *м.* торф
**torfiarka** *ж.* тарфарэз
**torfiarnia** *ж.* торфараспрацоўка
**torfowisko** *н.* тарфянік, тарфяныя паклады
**torfowy** тарфяны
**tornado** *н.* тарнада
**tornister** *м.* ранец
**toromistrz** *м.* пуцявы майстар
**torować** *незак.* пракладваць; праводзіць; ~ **sobie drogę** пракладваць (пракладаць) сабе дарогу; ~ **sobie drogę łokciami (w tłumie)** пракладваць сабе шлях лакцямі (у натоўпе)
**torowisko** *н.* чыгуначнае палатно
**torpeda** *ж.* тарпеда
**torpedować** *незак.* тарпедаваць; ◊ ~ **plany** расстройваць планы
**torpedowiec** *м.* **1.** *ав.* тарпеданосец; **2.** *мар.* тарпедны катэр
**torpedowy** тарпедны
**tors, ~u** *м.* торс
**torsj|e** *мн.* рвота; ваніты; **dostać ~i** званітаваць
**tort, ~u** *м.* торт
**tortownica** *ж.* форма для торта
**tortur|a** *ж.* катаванне, мучэнне; **poddać ~om** аддаць на мучэнні, прымяніць катаванні; **sala** ~ катоўня
**torturować** *незак.* катаваць, мучыць; ~ **specjalnymi przyrządzami** катаваць спецыяльнымі прыладамі
**torysi** *мн. паліт.* торы
**tost** *м.* тост, грэнка
**toster** *м.* тостэр
**totalitaryzm, ~u** *м.* таталітарызм
**totalizator** *м.* таталізатар; ~ **sportowy** спартыўны таталізатар; **grać w ~a** іграць на таталізатары; *гл.* **totolotek**
**totalizm, ~u** *м.* таталітарнасць
**totaln|y** **1.** татальны; усеагульны; поўны; **wojna ~a** татальная вайна; **2.** таталітарны; **państwo ~e** таталітарная дзяржава
**totemizm, ~u** *м.* татэмізм
**totolotek** *м. разм.* латарэя
**totumfacki** *уст.* фактотум
**tournée** *н.* [turné] турнэ; тур; **odbyć** ~ зрабіць тур
**towar, ~u** *м.* тавар; ~ **deficytowy** дэфіцытны тавар; ~ **importowany (z importu)** імпартны тавар; ~ **o niskiej jakości** нізкаякасны тавар; **wybrakowany** ~ дэфектны тавар; **~y codziennego użytku** тавары штодзённага карыстання; **~y konsumpcyjne** спажывецкія тавары; **wymiana ~ów** тавараабмен; **zestaw ~ów** асартымент тавараў
**towarowo-osobowy** таварна-пасажырскі; **pociąg** ~ таварна-пасажырскі цягнік
**towarowo-pasażerski** таварна-пасажырскі
**towarow|y** таварны; **znak ~y** таварны (фірмовы) знак; **pociąg ~y** таварны поезд; **stacja ~a** таварная станцыя; **wymiana ~a** тавараабмен; бартэр; **dom ~y** універмаг; **rynek ~y** рэчавы рынак
**towaroznawca** *ж. эк.* таваразнавец
**towaroznawstwo** *н.* таваразнаўства

**towarzysk|i** **1.** таварыскі, дружны, кампанейскі; **mecz ~i** *спарт.* сяброўскі матч; сяброўская сустрэча; **rozmowa ~a** сяброўская размова; **2.** таварыскі, які адносіцца да кампаніі (грамадства); **gry ~ie** гульні для забавы ў кампаніі; **3.** статкавы (*пра звяроў*); ◊ **kronika ~a** свецкая хроніка

**towarzyskość** *ж.* таварыскасць

**towarzystw|o** *н.* **1.** таварыства; **~o akcyjne** акцыянернае таварыства; **~o holdingowe** холдынг-кампанія; **~o ubezpieczeniowe** страхавое таварыства; **2.** кампанія; **dotrzymać (***komu***) ~a** скласці *каму* кампанію; **być obytym w ~ie** умець трымацца на людзях (у кампаніі); **wpaść w złe ~o** трапіць у дрэнную кампанію; **~o od brydża** сябры па брыджу

**towarzysz** *м.* таварыш; сябар; **~ broni** саратнік, таварыш па зброі; **~ podróży** спадарожнік; **~ niedoli** сябар па няшчасці; **~ zabaw** партнёр па гульнях

**towarzysząc|y** *komu/czemu* які суправаджае *каго/што*; спадарожнічае *каму/чаму*; суправаджальны; **osoba ~a** суправаджальная асоба

**towarzyszka** *ж.* таварыш (*жанчына*); таварышка; сяброўка

**towarzyszy|ć** *незак.* *komu/czemu* суправаджаць *каго/што*, спадарожнічаць *каму/чаму*; **solistce ~ła orkiestra** салістка выступала ў суправаджэнні аркестра

**towianizm, ~u** *м. гіст.* тавянізм (*містычнае вучэнне Анджэя Тавянскага; 1799—1878*)

**towiańczyk** *м. гіст.* тавянец; паслядоўнік (прыхільнік) Анджэя Тавянскага

**towiańszczyzna** *ж. пагард.*; *гл.* **towianizm**

**towot** *м.* тавот

**toż**[1] тое ж самае; гэта ж самае

**toż**[2] **1.** ж (жа); **~ ci mówiłem** я ж табе казаў; **2.** вось; **~ to będzie niespodzianka!** вось гэта будзе сюрпрыз (неспадзеўка)!; **3.** *уст.* таксама; тое ж

**tożsamoś|ć** *ж.* тоеснасць; ідэнтычнасць; **dowód ~ci** пасведчанне асобы

**tożsamy** такі самы; ідэнтычны

**trabant** *м.* **1.** *гіст.* драбант; **2.** *астр.* сатэліт; спадарожнік

**trachoma** *ж. мед.* трахома

**tracić** *незак.* **1.** траціць; губляць; **~ przytomność** губляць прытомнасць; **~ wzrok** траціць зрок; **~ z oczu** а) губляць з вачэй; б) выпускаць з-пад увагі; **~ czas** марнаваць (траціць) час; **~ panowanie nad sobą** губляць самавалоданне; **~ na znaczeniu** губляць (страчваць) значэнне; **~ ważność** траціць прыгоднасць (прыдатнасць); **~ głowę** губляць галаву; **~ moc obowiązującą** *юр.* траціць (губляць) сілу (*пра закон і да т. п.*); **2.** губляць; прайграваць; несці страты; **~ na wadze** губляць вагу; **~ klientów** губляць кліентаў; **3.** *кніжн.* пазбаўляць жыцця; забіваць (*выконваючы прысуд*); **~ przestępcę** караць смерцю злачынцу

**tracki** фракійскі

**tracz** *м.* **1.** пільшчык, распілоўшчык; **2.** *абл.* пільня, лесапільны завод

**traczka** *ж.* піла; **~ taśmowa** стужачная піла

**trade-unionizm, ~u** *м.* [trejd-unionizm] трэд-юніянізм

**tradycj|a** *ж.* традыцыя; **~a rodzinna** сямейная традыцыя; **mieć szacunek dla ~i** шанаваць традыцыі

**tradycjonalizm, ~u** *м.* традыцыйнасць

**tradycjonalny** *кніжн.* традыцыйны; кансерватыўны

**tradycyjn|y** традыцыйны; **~e potrawy** традыцыйныя стравы; **wiersz ~y** шаблонны (неарыгінальны) верш

**traf, ~u** *м.* выпадак; **~ chciał, że ...** здарылася так, што...; **ślepy ~** сляпы выпадак; **dziwnym ~em** дзіўным чынам; **co za ~ !** што за выпадак!; **szczęśliwym ~em** дзякуючы шчасліваму выпадку (шчаслівым абставінам)

**trafem** выпадкова

**trafiać** *незак.* **1.** трапляць; **~ do szpitala (na posterunek policji)** трапляць у шпіталь (у паліцэйскі ўчастак); **2.** *na kogo/co* натыкацца *на каго/што*; сустракаць *каго/што*; ◊ **~ do gustu** падыходзіць да густу, адпавядаць густу



**trafia|ć się** *незак.* трапляцца; сустракацца

**trafi|ć** *незак.* **1.** трапіць; **~ć w dziesiątkę** трапіць у дзесятку; **2.** *na kogo/co* натрапіць *на каго/што*; сустрэцца *з кім/чым*; **~ć na** *kogo* сустрэцца з *кім*; ◊ **~ł jak kulą w płot** трапіў пальцам у неба; **~ła kosa na kamień** найшла каса на камень; **na chybił ~ł** наўдалую; наўдачу

**trafi|ć się** *зак.* трапіцца; сустрэцца; ◊ **~ło się ślepej kurze ziarno** давялося чарвяку на вяку

**trafika** *ж. уст.* тытунёвая крама

**trafiony** **1.** паранены; **~ pociskiem** паранены снарадам; **2.** трапны; удалы; **~ zakup** удалая пакупка

**trafnie** метка, трапна, удала

**trafność** *ж.* трапнасць, меткасць

**trafny** удалы, трапны, меткі; **~ strzał** меткі (трапны) стрэл

**trafun|ek, ~ku** *м. перан.* выпадак, выпадковасць

**tragarz** *м.* **1.** насільшчык; **2.** грузчык

**tragedi|a** *ж.* трагедыя; **nie rób (z tego) ~i!** не рабі (з гэтага) трагедыі!

**tragediopisarz** *м.* аўтар трагедый; трагедыйны драматург

**tragiczność** *ж.* трагічнасць

**tragiczn|y** трагічны; **wyglądasz ~ie!** *разм.* ты жахліва выглядаеш!

**tragik** *м.* трагік

**tragikomedia** *ж.* трагікамедыя

**tragikomiczny** трагікамічны

**tragizm, ~u** *м.* трагізм; **~ sytuacji** трагізм сітуацыі

**trajektoria** *ж.* траекторыя

**trajkot, ~u** *м. разм.* лапатанне, тарахценне

**trajkotać** *незак. разм.* балакаць, балбатаць, тарахцець

**trajkotka** *ж. разм.* балбатуха, лапатуха, трашчотка, тарахцелка

**trajlować** *незак.* **1.** *разм.* расказваць байкі; выдумляць; складаць; **2.** *гл.* **trajkotać**

**trak, ~u** *м.* лесапільная рама, піларама

**trakcja** *ж.* цяга; **~ elektryczna** электрычная цяга; **~ parowa** паравая цяга; **~ konna** конная цяга

**trakcyjn|y** цягавы; **sieć ~a** кантактныя правады; **słup ~y** апорны слуп

**trak|t, ~tu** *м.* **1.** тракт, шлях; **~t bity** шашэйная (шасэйная) дарога; шаша; **2.** ход; **w ~cie walki** у ходзе барацьбы; **w ~cie tego** у той час

**traktament, ~u** *м. уст.* **1.** частаванне; **2.** забеспячэнне

**traktat, ~u** *м.* **1.** трактат, навуковая праца; **2.** дагавор, дамова; **~ pokojowy** мірны дагавор

**traktiernia** *ж. уст.* карчма, шынок

**traktor** *м.* трактар; **jechać ~em (na ~ze)** ехаць трактарам (на трактары)

**traktorowy** трактарны

**traktorzysta** *м.* трактарыст

**traktorzystka** *ж.* трактарыстка

**traktować** *незак.* **1.** адносіцца; ставіцца; **~** *kogo* **z góry** ставіцца да *каго* з пагардай (звысоку); **~** *kogo* **źle** ставіцца *да каго* дрэнна; **~ z przymrużeniem oka** не ўспрымаць усур'ёз; **2.** трактаваць; **3.** абмяркоўваць; **~ o** *czym* абмяркоўваць *што*; **4.** трактаваць; частаваць

**traktowanie** *н.* **1.** *kogo/czego* стаўленне, адносіны да *каго/чаго*; абыходжанне з *кім/чым*; **2.** трактаванне; **3.** *хім.* уздзеянне

**tram, ~u** *м. буд.* трама; бэлька; **2.** *мар.* транец; **3.** *мар.* штэвень

**tramp** *м.* **1.** турыст (*пешы*); бадзяга, валацуга; **2.** *мар.* трамп

**tramping, ~u** *м. мар.* перавозка грузаў

**trampki** *мн.* кеды, паўкеды

**trampolina** *ж. спарт.* трамплін

**tramwaj, ~u** *м.* трамвай

**tramwajarz** *м.* трамвайшчык

**tramwajowy** трамвайны; **przystanek ~** трамвайны прыпынак

**tran, ~u** *м.* рыбін тлушч; ворвань

**trans, ~u** *м. мед.* транс; **wpaść w ~** увайсці ў транс; **przebudzić się z ~u** выйсці з трансу

**transakcj|a** *ж.* здзелка; пагадненне; гандлёвая ўмова; **dokonać ~i** заключыць

пагадненне; ~a **gotówkowa** здзелка за наяўны разлік; ~a **handlowa** гандлёвае пагадненне; ~a **kredytowa** крэдытная аперацыя; ~a **terminowa** тэрміновая здзелка; ~a **wielostronna** шматбаковая здзелка; ~a **wymienna** мёнавая здзелка
**transalpejski** трансальпійскі, заальпійскі
**transatlantycki** трансатлантычны; заатлантычны
**transcendentalny** *філ.* трансцэндэнтальны
**transfer, ~u** *м.* **1.** *эк.* пералічэнне грошай; трансферт; ~ **dewiz** трансферт валюты; ~ **kapitałów** трансферт капіталу; ~ **pieniądza** грашовы трансферт; **2.** *спарт.* трансферт
**transferować** *незак. эк.* пералічаць грошы
**transfiguracja** *ж. уст.* трансфігурацыя
**transformacja** *ж.* трансфармацыя
**transformator** *м.* трансфарматар; ~ **telefoniczny** тэлефонны трансфарматар
**transformować** *незак.* трансфармаваць
**transfuzja** *ж. мед.* пераліванне крыві
**transkrybować** *незак. муз., лінгв.* транскрыбіраваць
**transkrypcja** *ж. муз., лінгв.* транскрыпцыя
**translator** *м. уст.* перакладчык
**translokacja** *ж.* перамяшчэнне; перавод (*на іншае месца*)
**translokować** *незак.* перамяшчаць
**transmisja** *ж.* **1.** *тэх.* трансмісія; **2.** *рад.* трансляцыя, перадача; ~ **danych** перадача даных; ~ **meczu** трансляцыя матча
**transmisyjny 1.** *тэх.* трансмісійны; **pas** ~ трансмісійны рэмень; **2.** трансляцыйны
**transmitować** *незак.* трансліраваць; трансляваць
**transoceaniczny** трансакіянічны
**transparent, ~u** *м.* транспарант
**transplantacj|a** *ж. кніж.* трансплантацыя; перасадка; **operacja ~i serca** аперацыя па перасадцы сэрца; ~a **nerki** трансплантацыя ныркі
**transponować** *незак.* **1.** *муз.* транспаніраваць; **2.** пераносіць
**transport, ~u** *м.* транспарт; ~ **samochodowy** аўтатранспарт; ~ **publiczny** грамадскі транспарт; ~ **kolejowy** чыгуначны транспарт; ~ **lądowy** сухапутны (наземны) транспарт; ~ **morski** марскі транспарт; ~ **powietrzny** паветраны транспарт; ~ **rzeczny** рачны транспарт
**transporter** *м.* транспарцёр
**transportować** *незак.* транспартаваць
**transportowy** транспартны
**transpozycja** *ж.* **1.** *мат.* транспазіцыя; **2.** *муз.* транспаніроўка, транспаніраванне, транспазіцыя
**transseksualizm, ~u** *м.* транссексуалізм
**transzeja** *ж.* траншэя
**transwestyta** *м.* трансвестыт
**transwestytka** *ж.* трансвестытка
**transwestytyzm, ~u** *м.* трансвестыцызм
**transza** *ж.* частка; партыя; транш; ~ **dochodu** частка даходу; ~ **weksli** партыя вэксаляў
**tranzystor** *м.* транзістар
**tranzyt, ~u** *м.* транзіт; ~ **bezcłowy** бяспошлінны транзіт; **jechać ~em przez Węgry** ехаць транзітам праз Венгрыю
**tranzytowy** транзітны
**trap, ~u** *м.* трап
**traper** *м.* трапер
**trapez, ~u** *м. мат.* трапецыя
**trapezoid, ~u** *м. мат.* трапецоід
**trapi|ć** *незак.* турбаваць, мучыць, непакоіць; **~ła go bezsenność** яго мучыла бяссоніца; **~ły ją wyrzuty sumienia** яе мучыла сумленне
**trapić się** *незак.* турбавацца, мучыцца, непакоіцца; ~ **się o córkę** непакоіцца за дачку; ~ **się zdrowiem dzieci** турбавацца за здароўе дзяцей
**tras|a** *ж.* траса, шлях; **~a narciarska** лыжная траса; **być w ~ie** быць у дарозе
**traser** *м.* размётчык
**trasernia** *ж. мар.* плаз
**trasować** *незак.* **1.** трасіраваць; **2.** *тэх.* размячаць; **3.** *эк.* трасіраваць; ~ **weksel** трасіраваць вэксаль
**traszka** *ж. заал.* трытон (*Triturus L.*)



**trata** *ж. эк.* тратта, пераводны вэксаль; ~ **zagraniczna** замежная тратта
**tratować** *незак.* таптаць
**tratwa** *ж.* плыт; ~ **ratunkowa** выратавальны плыт
**trauler** *м.* траўлер; *гл.* **trawler**
**traumatolog** *м.* траўматолаг
**traumatologia** *ж.* траўматалогія
**traw|a** *ж.* трава; **~y leśne** лясныя травы; зёлкі; **~a żółknie** трава жухне
**trawestacja** *ж. літ., тэатр.* травесты, пародыя
**trawestowić** *незак. літ.* парадзіраваць
**trawiasty** травяны, травяністы; **kort** ~ травяны корт
**trawi|ć** *незак.* **1.** ператраўляць; страваваць; **2.** турбаваць, мучыць, непакоіць; **3.** *кніжн.* марнаваць; **~ć czas na niczym** дарма (дарэмна, марна) траціць час; марнаваць час; **4.** пераносіць, цярпець; **nie ~ę takiej muzyki** не пераношу такую музыку; **5.** *тэх.* травіць
**trawienie** *н.* **1.** страваванне; **2.** *тэх.* траўленне
**trawieniec** *м. анат.* сычуг, страўнік (*малочнага цяляці*)
**trawienny** стрававальны
**trawiestować** *незак.* парадзіраваць
**trawk|a** *ж.* **1.** траўка; **2.** *разм.* траўка (*пра марыхуану*); ◊ **pójść na zieloną ~ę** *разм.* пайсці (*у адстаўку*); згубіць працу
**trawler** *м. мар.* [trauler] траўлер
**trawnik** *м.* газон
**trawopolny** *с.-г.* травапольны; ~ **płodozmian** травапольная сістэма земляробства
**trawożerny** *заал.* траваедны
**trąba** *ж.* **1.** труба; **2.** хобат; **3.** вір; завіхрэнне; ~ **powietrzna** смерч, віхор
**trąbiasty** трубчаты
**trąbi|ć** *незак.* **1.** трубіць; **2.** сігналіць; **3.** *разм., перан.* трубіць; крычаць; **wszystkie gazety o tym ~ą** пра гэта трубяць усе газеты
**trąbka** *ж.* **1.** трубка; **2.** скрутак, трубка; ◊ ~ **Eustachego** *анат.* еўстахіева труба
**trąca|ć** *незак.* штурхаць, пхаць, піхаць; **~ła struny harfy** яна перабірала струны арфы
**trącać się** *незак.* ударацца, стукацца; ~ **się kieliszkiem** чокацца
**trąci|ć 1.** *зак.* штурхнуць; пхнуць; **2.** *незак.* смярдзець, пахнуць; патыхаць; **ubrania ~ły stajnią** адзенне пахла (смярдзела) стайняй; ◊ **to już myszką** ~ гэта ўжо ўстарэла
**trącić się** *зак.* ударыцца, стукнуцца
**trąd, ~u** *м. мед.* праказа
**trądzik, ~u** *м. мед.* вугор
**trefić** *незак. уст.* завіваць (*валасы*)
**trefl** *м. карц.* трэфа, жолуд; хрэсці; **dama** ~ трэфовая (жалудовая) дама
**treflowy** *карц.* трэфовы, жалудовы
**trefniś** *м.* насмешнік, жартаўнік
**trel, ~u** *м.* трэль, пошчак (*салаўя*); **~e skowronka** трэлі жаўрука; **słowiczy** ~ салаўіны пошчак
**trele-morele** *разм.* лухта, бязглуздзіца, глупства
**trem|a** *ж.* хваляванне; **mieć ~ę** хвалявацца
**tremo** *н. уст.* трумо
**tremować się** *незак.* хвалявацца
**tren[1], ~u** *м.* шлейф; трэн
**tren[2], ~u** *м. літ.* элегія
**trencz, ~u** *м.* мужчынскі плашч
**trend, ~u** *м. кніжн.* тэндэнцыя, напрамак, кірунак
**trener** *м.* трэнер; ~ **koszykówki** трэнер па баскетболе
**trening, ~u** *м.* трэніроўка
**treningowy** трэніровачны; **rower** ~ велатрэнажор
**tren|ować** *незак.* **1.** трэніраваць; **2.** трэніравацца; займацца; **w tej chwili ~uje w sali gimnastycznej** зараз ён трэніруецца (займаецца) у гімнастычнай зале
**trenować się** *незак.* трэніравацца
**trepanacja** *мед.* трэпанацыя
**trepy** *мн.* дзеравяшкі, дзеравянікі, трэпы (*абутак на драўлянай падэшве*)
**trepki** *мн.* трэпкі, басаножкі (*на драўлянай падэшве*)
**treser** *м.* дрэсіроўшчык

**treserka** *ж.* дрэсіроўшчыца
**treska** *ж.* шыньён
**tresować** *незак.* **1.** дрэсіраваць; **2.** *перан.* муштраваць
**tresowanie** *н.* **1.** дрэсіроўка; **2.** *перан.* дрэсіроўка; муштра
**tresura** *ж.* дрэсіроўка
**treściwie** змястоўна; сцісла, коратка; **przedstawić ~** змястоўна (коратка) паказаць
**treściwość** *ж.* змястоўнасць; сцісласць
**treściwy** змястоўны, сціслы
**treś|ć** *ж.* **1.** змест; **spis ~ci** змест (*у кнізе*); **2.** сутнасць, сэнс
**trezor** *м.* банкаўскі сейф
**trębacz** *м.* трубач, гарніст
**trędowaty** пракажоны
**tręzla** *ж.* *спец.* трэнзель; вуздэчка
**triada** *ж.* *філ.* трыяда
**triangulacja** *ж.* *геал.* трыянгуляцыя
**trick, ~u** *м.* [trik] трук, фокус, штука
**trickowy** трукавы
**trier** *м.*; *гл.* **tryjer**
**trik, ~u** *м.*; *гл.* **trick**
**trio** *н.* *муз.* трыо
**trioda** *ж.* *рад.* трыёд
**triolet, ~u** *м.* *літ.* трыялет
**triumf, ~u** *м.* трыумф; **odnieść ~** атрымаць (заваяваць) перамогу, дабіцца перамогі; **święcić ~y** мець поспех
**triumfaln|y** трыумфальны; **brama ~a** трыумфальная арка
**triumfator** *м.* *кніжн.* трыумфатар, пераможца
**triumfować** *незак.* *кніжн.* трыумфаваць; **złościowie ~** зларадзнічаць
**triumwirat, ~u** *м.* трыумвірат
**trochej** *м.* *літ.* трахей
**trochę** трохі; трошкі; крыху; крышку; **ani ~** ніколькі, ані; **zarobić ~ pieniędzy** зарабіць трохі грошай; трохі падзарабіць; **jestem ~ zmęczony** я трохі стомлены; **musisz ~ poczekać** крыху пачакай
**trociczka** *ж.* *уст.* араматычная палачка
**trociny** *мн.* пілавінне, апілкі
**troczyć** *незак.* прытарочваць
**troć** *заал.* кумжа; ласось-таймень (*Salmo trutta L.*)
**trofe|um** *н.* трафей; **~a sportowe** спартыўныя трафеі
**troglodyta** *м.* траглaдыт
**troić** *незак.* траіць, утройваць, патройваць
**troi|ć się** *незак.* патройвацца, утройвацца; **coś mu się ~** яму нешта вярзецца
**troisto** траіста
**troistość** *ж.* траістасць
**troisty** траісты
**trojaczki** трайняты
**trojak** *м.* **1.** *разм.* тры грошы (*манета*); **2.** трояк (*польскі народны танец*)
**trojaki**[1] *мн.* траяк, трайняк (*тры гаршкі, злучаныя паміж сабой*)
**trojaki**[2] траякі
**trojako** траяка
**Trojanin** *м.* жыхар Трої; траянец
**Trojanka** *ж.* жыхарка Трої; траянка
**trojański** траянскі
**troje** *зборн.* трое; **we ~** утраіх; **złożyć na ~** скласці ўтрая (у тры столкі)
**trok, ~u** *м.* **1.** рэмень; **2.** (*у сядла*) тарокі
**trolejbus, ~u** *м.* тралейбус
**trombita** *ж.* трэмбіта
**trombon, ~u** *м.* *муз.* трамбон
**trombonista** *м.* трамбаніст
**tromtadracki** *разм.* фанабэрысты, пыхлівы пустабрэх (пустазвон)
**tron, ~u** *м.* трон; **wstąpić na ~** уступіць на трон; **zrzec się ~u** адмовіцца ад трона; **następca ~u** наследнік (спадкаемца) трона
**tronow|y** тронны; **sala ~a** тронная зала
**trop**[1], **~u** *м.* след; **wpaść na ~** натрапіць на след; **zbić z ~u** збіць з тропу; **być na właściwym (fałszywym) ~ie** быць на правільным (памылковым) шляху
**trop**[2], **~u** *м.* *літ.* троп
**tropiciel** *м.* **1.** праследавацель; ганіцель; **2.** следапыт
**tropić** *незак.* ісці следам; шукаць; праследаваць
**tropik, ~u** *м.* тонкая ваўняная тканіна
**tropiki** *мн.* тропікі



**tropikaln|y** трапічны, тропікавы; **hełm ~y** трапічны шлем (*з коркавага дрэва*); **~e upały** трапічная гарачыня
**troposfera** *ж.* трапасфера
**troska** *ж.* (*o kogo/co*) клопат, турбота, заклапочанасць (*пра каго/што; аб кім/чым*)
**troskać się** *незак.* (*o kogo/co*) клапаціцца, турбавацца (*пра каго/што; аб кім/чым*)
**troskliwie** клапатліва
**troskliwość** *ж.* клапатлівасць
**troskliwy** клапатлівы
**troszczyć się** *незак.* (*o kogo/co*) клапаціцца, турбавацца (*пра каго/што; аб кім/чым*)
**troszeczkę**; *гл.* **troszkę**
**troszkę** трошкі, крыху
**trotuar, ~u** *м.* *уст.*; *гл.* **chodnik**
**trotyl, ~u** *м.* тратыл, тол
**trójbarwny** трохколерны, трохкаляровы
**trójb|ój, ~oju** *м.* *спарт.* трохбор'е
**trójc|a** *ж.* *рэл.* троіца; **~a święta** святая троіца; **niedziela świętej ~y** сёмуха
**trójczłonowy** трохчленны
**trójdrzwiowy** трохдзверчаты
**trójdzielny** *анат.* трайчасты
**trójdźwięk, ~u** *м.* *муз.* трохгучча
**trójfazowy** *эл.* трохфазны; **prąd ~** трохфазны ток
**trójgłos, ~u** *м.* **1.** *муз.* трыо; **2.** тры выказванні (*на якую-небудзь тэму*)
**trójgraniasty** трохгранны; **kapelusz ~** трохвугольны капялюш, трывуголка
**trójk|a** *ж.* тройка; **zrobiliśmy to w ~ę** мы зрабілі гэта ўтраіх; **iść ~ami** ісці па трое (тройкамі)
**trójkąt, ~u** *м.* трохвугольнік; трохкутнік; **~ równoramienny** раўнабедраны трохвугольнік; **~ równoboczny** раўнастаронні трохвугольнік; **kartka złożona w ~** складзены трохкутнікам ліст
**trójkątny** трохвугольны; трохкутны
**trójkolorowy**; *гл.* **trójbarwny**
**trójkołowy** трохколавы; **rower ~** трохколавы веласіпед
**trójkowicz** *м.* *разм.* троечнік
**trójlistny** трохлістны
**trójmasztowiec** *м.* трохмачтавы карабель
**trójmecz, ~u** *м.* *спарт.* сустрэча (матч) трох каманд
**trójmian, ~u** *м.* *мат.* трохчлен, трыном
**trójnasób: w ~** тройчы, у тры разы; утрая
**trójnik** *м.* *эл.* трайнік
**trójnożny** трохногі
**trójn|óg** *м.* **1.** трыножак; трыножка; **2.** штатыў
**trójpalczasty** трохпальцы
**trójpłatowiec** *м.* *ав.* трыплан
**trójpokładowy** *мар.* трохпалубны
**trójpolowy** *с.-г.* трохпольны
**trójpolówka** *ж.* *с.-г.* трохпольная сістэма
**trójprzymierze** *н.* *гіст.* траісты саюз
**trójskok, ~u** *м.* *спарт.* трайны скачок
**trójścienny** трохгранны, трохстаронні
**trójwymiarowy** трохвымерны
**trójz|ąb, ~ębu** *м.* трызубец
**trójzębny** трохзубы
**trubadur** *м.* трубадур
**truchcik** *м.* трушок, трух
**truchcikiem** трушком; трухам
**truchleć** *незак.* **1.** мярцвець (*ад страху*), нерухомець, дранцвець; **2.** палохацца, пужацца
**truchło** *н.* **1.** труха; **2.** *уст.* прах, тлен, тло; **3.** старызна, хлам, разваліна
**trucht, ~u** *м.* трух, трушок; **jechać (biec) ~em** ехаць (бегчы) трушком
**truciciel** *м.* атрутнік
**trucizna** *ж.* атрута, яд
**truć** *незак.* атручваць
**truć się** *незак.* **1.** атручвацца; **2.** *разм.* перажываць, пакутаваць
**trud, ~u** *м.* **1.** праца, работа; **z ~em** з цяжкасцю; **zadać sobie ~** узяць на сябе абавязак; **2.** **~y** *мн.* нягоды; цяжкасці; **znosić ~y życia** пераносіць цяжкасці жыцця
**trudni|ć się** *незак.* працаваць, займацца; **~ się handlem** ён займаецца гандлем
**trudno** трудна, цяжка; **~ powiedzieć** цяжка сказаць; **~ uwierzyć, że...** цяжка паверыць, што...; **~!** нічога не зробіш!; **~ o dobrego hydraulika** цяжка знайсці добрага водаправодчыка

**trudnoś|ć** *ж.* цяжкасць; **z ~cią** з цяжкасцю, насілу; **mieć ~ci z** *czym* мець цяжкасці з *чым*; **robić ~ci** ствараць цяжкасці (перашкоды)

**trudn|y** цяжкі, **~y charakter** цяжкі (складаны) характар; **~a rada!** нічога не зробіш!; нічога не парадзіш!; **~y do zrozumienia** цяжказразумелы; які цяжка зразумець

**trudzić** *незак.* турбаваць, непакоіць

**trudzić się** *незак.* працаваць (*цяжка*); гараваць; **nie trudź się!** не турбуйся!

**trufla** *ж. бат.* труфель (*Tuber F.*)

**truizm, ~u** *м. кніжн.* труізм, банальнасць

**trując|y** атрутны, ядавіты; **grzyby ~e** атрутныя грыбы; **gazy ~e** атрутныя газы

**trumna** *ж.* труна; дамавіна; дамоўка

**trumniarz** *м.* трунар

**trun|ek, ~ku** *м.* напітак; напой; трунак

**trup** *м.* труп, мярцвяк; **paść ~em** упасці як мёртвы; **położyć ~em** забіць; ◊ **po moim ~ie!** толькі праз мой труп!

**trupa** *ж. уст., тэатр.* трупа

**trupi** трупны; ◊ **~a główka** *заал.* мёртвая галава (*Acherontia atropos*)

**trupiarnia** *ж.* трупярня, морг

**truposz** *м.* **1.** *разм.* мярцвяк; **2.** *перан.* жывы труп

**trusia** *ж.* **1.** *ласк.* трусік; **2.** *перан.* ціхоня

**truskawka** *ж. бат.* клубніцы, трускалкі (*Fragaria L.*)

**truskawkowy** клубнічны; трускалкавы; **o smaku ~m** з клубнічным (трускалкавым) смакам

**trust, ~u** *м.* трэст; **~ bankowy** банкаўскі трэст

**trustowy** трэстаўскі

**truś** *м.* **1.** *перан.* ціхоня; **2.** трус; трусік

**truteń** *м.* **1.** *пчал.* труцень; **2.** *разм.* труцень; дармаед

**trutka** *ж.* атрута; атрутная прынада; **~ na szczury** пацучыная атрута

**trwa|ć** *незак.* **1.** *кніжн.* трываць, працягвацца; доўжыцца; цягнуцца; **~ć godzinę** доўжыцца гадзіну; **alarm ~** трывога працягваецца (трывае); **2.** заставацца; не адступацца; упірацца; **~ć w błędach** трымацца старых памылак; **~ć w bezruchu** заставацца нерухомым; **~ć w milczeniu** захоўваць маўчанне; **~ć przy swoim zdaniu** заставацца пры сваім меркаванні; стаяць на сваім

**trwale** моцна; трывала; нязменна

**trwałość** *ж.* **1.** трываласць, моцнасць; **2.** устойлівасць; **~ zasad** устойлівасць прынцыпаў

**trwał|y** **1.** трывалы, моцны; **2.** устойлівы; працяглы; **~y koler** устойлівы колер; ◊ **rośliny ~e** шматгадовыя расліны; **~a ondulacja** перманентная завіўка; **na ~e** назаўсёды

**trwanie** *н.* працягласць

**trwog|a** *ж.* **1.** трывога, неспакой, непакой, страх; **drżeć z ~i** дрыжаць ад страху; **2.** трывога; **uderzyć (trąbić) na ~ę** падняць (біць) трывогу

**trwonić** *незак.* мантачыць, марнатравіць, раскідвацца

**trwożliwie** *кніжн.* трывожна, баязліва, пужліва, палахліва

**trwożliwość** *ж. кніжн.* трывожнасць, баязлівасць, пужлівасць, палахлівасць

**trwożliwy** *кніжн.* трывожны, баязлівы, пужлівы, палахлівы

**trwożnie** *кніжн.* трывожна, неспакойна

**trwożn|y** *кніжн.* трывожны, неспакойны, баязлівы, пужлівы, палахлівы; **~e słowa** трывожныя словы

**trwożyć** *незак. кніжн.* трывожыць; непакоіць; пужаць

**trwożyć się** *незак. кніжн.* трывожыцца; непакоіцца; пужацца

**tryb, ~u** *м.* **1.** парадак, звычай; лад; **prowadzić spokojny ~ życia** весці спакойны лад жыцця; весці спакойнае жыццё; **wszystko idzie zwykłym ~em** усё ідзе сваёй чаргой; **~ życia** спосаб (лад) жыцця; **siedzący ~ życia** сядзячы лад жыцця; **~ postępowania** парадак дзеянняў; **2.** *грам.* лад; **~ rozkazujący** загадны лад; **~ oznajmujący** абвесны лад; **3.** *муз.* лад; **4.** *тэх.* шасцярня, зубчастая перадача; **~y maszyny** шасцярні машыны; ◊ **wziąć** *kogo* **w ~y** трымаць *каго* ў руках



**trybowy** зубчасты

**trybularz** *м. царк.* кадзільніца, кадзіла

**trybun** *м.* трыбун; **rymscy ~i (~owie)** рымскія трыбуны

**trybuna** *ж.* трыбуна

**trybunalski** трыбунальны

**trybunał, ~u** *м.* трыбунал; **Trybunał Konstytucyjny** Канстытуцыйны Суд; **~ (do) spraw międzynarodowych** трыбунал па міжнародных справах; міжнародны трыбунал

**trybut, ~u** *м. гіст.* даніна

**trychina** *ж. заал.* трыхіна (*Trichinella spiralis*)

**trygonometria** *ж. мат.* трыганаметрыя

**trygonometryczny** *мат.* трыганаметрычны

**tryk**[1] *м.* маркач

**tryk**[2] *м.; гл.* **trick**

**trykot, ~u** *м.* трыкатаж; **bluzka z ~u** трыкатажная блузка; **~ gimnastyczny** гімнастычнае трыко

**trykotaż, ~u** *м.* трыкатаж; трыкатажныя вырабы

**trykotowy** трыкатажны

**tryl, ~u** *м. муз.* трэль

**trylion, ~u** *м.* трыльён

**trylogia** *ж.* трылогія

**trymestr, ~u** *м.* трыместр

**tryper** *м. мед.* трыпер

**tryptyk** *м.* трыпціх

**tryska|ć** *незак.* **1.** біць (*з сілай*); біць струменем; струменіць; пырскаць; **iskry ~ją** іскры сыплюцца; **krew ~ z rany** кроў з раны б'е [струменем]; кроў струменіць; **2.** *перан.* пыхаць; патыхаць; **~ć energią (zdrowiem)** пыхаць энергіяй (здароўем)

**trysn|ąć** *зак.* забіць крыніцай; **woda ~ęła ze skały** вада са скалы забіла крыніцай

**tryton**[1], **~u** *м.* трытон (*Triturus L.*)

**tryton**[2], **~u** *м. муз.* трытон

**tryumf, ~u** *м.; гл.* **triumf**

**tryumfalny**; *гл.* **triumfalny**

**tryumfator** *м.; гл.* **triumfator**

**tryumfować** *незак.; гл.* **triumfować**

**trywialnie** трывіяльна, банальна

**trywialność** *ж.* трывіяльнасць, банальнасць

**trywialny** трывіяльны, банальны

**trza**; *гл.* **trzeba**

**trzask, ~u** *м.* трэск; ◊ **~ prask i gotowe** раз-два і гатова

**trzask|a** *ж.* трэска, шчэпка; ◊ **gdzie drwa rąbią, tam ~i lecą** дзе лес сякуць, там трэскі ляцяць

**trzaska|ć** *незак.* **1.** трашчаць; патрэскваць; **~ mi w stawach** у мяне трашчаць суставы; **2.** ляпаць; ляскаць; **~ć drzwiami** ляпаць (ляскаць) дзвярыма; **~ć obcasami** шчоўкаць абцасамі; **3.** трэскацца; лопацца; **4.** *разм.* ударыць; біць; **~ć pięścią w stół** біць кулаком аб стол

**trzaskający** **1.** які трашчыць; **2.** траскучы; **mróz ~** люты мароз

**trzasnąć** *зак.* **1.** трэснуць, лопнуць; **2.** ляпнуць; ляснуць (*дзвярыма*); **3.** *разм.* ударыць

**trząść** *незак.* **1.** трэсці, калаціць; **febra go trzęsie** яго калоціць (трасе) ліхаманка; **2.** трэсці; абтрасаць (*плады*); **3.** *перан.* кіраваць

**trząść się** *незак.* **1.** трэсціся, калаціцца; дрыжаць; **~ się ze śmiechu** трэсціся ад смеху; **~ się z zimna** дрыжаць ад холаду; **2.** трэсціся, калаціцца; дрыжаць (*над кім/чым*); **3.** трэсціся (*на чым; у чым*)

**trzcina** *ж. бат.* трыснёг, трысцё; чарот (*Phragmites Adans.*); **~ cukrowa** цукровы трыснёг (*Saccharum L.*); **~ błotna** чарот

**trzciniak** *м. заал.* чарацянка (*Acrocephalus*)

**trzciniasty** трысняговы; чаротавы; парослы чаротам

**trzcinowy** трысняговы; чарацяны; чаротавы; **cukier ~** трысняговы цукар

**trzeba** трэба; патрэбна; неабходна; **~ mu pomóc** яму трэба дапамагчы; яму патрэбна дапамога; **~ przyznać, że ...** трэба прызнаць, што...; **jeśli ~** калі трэба (неабходна); **~ ci czegoś?** табе штосьці трэба?; **dziękuję, nie ~** дзякуй, не трэба; **ze szkłem ~ ostrożnie** са шклом трэба абыходзіцца асцярожна; **~ by** *разм.* трэба было б

**trzebić** *незак.* **1.** знішчаць, вынішчаць; выкараняць; ~ **lasy** высякаць (церабіць) лясы; ~ **chwasty** знішчаць пустазелле; ~ **zło** выкараняць зло; **3.** лягчаць, кастрыраваць
**trzebieniec** *м. уст.* кастрат
**trzebież** *м. ляс.* **1.** высечка; **2.** вынішчэнне дзічыны
**trzech** *а.-м.* трое; тры; ~ **uczniowie** трое вучняў; тры вучні
**trzechletni** трохгадовы
**trzechsetletni** трохсотгадовы
**trzechsetny** трохсоты
**trzechtysięczny** трохтысячны
**trzeci** трэці; **co ~ dzień** кожны трэці дзень; **~a część** трэцяя частка; **jedna ~a** адна трэцяя; **po ~e** па-трэцяе; **~a potęga** *мат.* трэцяя ступень; куб; **kraje ~ego świata** краіны трэцяга свету
**trzeciorzędny** **1.** трэцярадны; **2.** трэцеразрадны
**trzeć** *незак.* церці; драць, дзерці (*бульбу*)
**trzeć się** *незак.* церціся
**trzej** *а.-м.* трое; ~ **uczniowie** тры вучні (трое вучняў)
**trzemcha** *ж. уст.* чаромха; калакалуша
**trzepaczka** *ж.* **1.** выбівалка; прылада для выбівання (*дыванoў і да т. п.*); **2.** *тэкст.* трапло
**trzepać** *незак.* **1.** выбіваць (*пыл*); **2.** біць; дубасіць; **3.** *тэкст.* трапаць (*лён*); **4.** махаць; біць; ~ **ogonem (skrzydłami)** біць (махаць) хвастом (крыламі)
**trzepak** *м.*; *гл.* **trepaczka**
**trzepanie** *н.* **1.** выбіванне (*пылу*); **2.** *тэкст.* трапанне; ~ **lnu** трапанне лёну
**trzepnąć** *зак.* **1.** пляснуць; махнуць; **2.** *разм.* пляснуць; трэснуць; ударыць; ~ **po ramieniu** ляпнуць па плячы; ~ **językiem (ozorem)** ляпнуць; балбатнуць
**trzepot, ~u** *м.* трапятанне
**trzepotać** *незак.* лопаць, трапятаць
**trzepotać się** *незак.* трапятацца
**trzepotanie się** *н.* трапятанне; дрыжанне; трымценне

**trzeszcz|eć** *незак.* трашчаць; **~ał w szwach** трашчаў па швах; **żwir ~ał pod stopami** жвір храбусцеў пад нагамі
**trześnia** *ж. уст.* чарэшня
**trześniowy** *уст.* чарэшневы
**trzewia** *мн. анат.* вантробы
**trzewik** *м.* чаравік
**trzeźwić** *незак.* працвярожваць, выцвярэжваць, працвярэжваць; прыводзіць у прытомнасць
**trzeźwieć** *незак.* **1.** цверазець, працвярэжвацца; **2.** прыходзіць у прытомнасць
**trzeźwo** цвяроза; **na ~** у цвярозым стане; на цвярозую галаву
**trzeźwoś|ć** *ж.* цвярозасць; **badanie ~ci** праверка на цвярозасць
**trzeźwy** **1.** цвярозы; **2.** цвярозы; разважны
**trzęsawisko** *н.* дрыгва; твань; багна
**trzęsienie** *н.* трасенне, страсенне; ~ **ziemi** землетрасенне; землятрус
**trzmiel** *м. заал.* чмель (*Bombax Latr.*)
**trzmielina** *ж. бат.* брызгліна (*Eronymus L.*)
**trznadel** *м. заал.* аўсянка (*Emberiza L.*)
**trzoda** *ж.* статак, чарада (*пра свойскую жывёлу*); ~ **chlewna** пагалоўе свіней; свінні
**trzon, ~u** *м.* **1.** *тэх.* шпень; прут; **2.** *перан.* ядро; ~ **armii** ядро арміі; **3.** чарэнь (*у печы*)
**trzonek** *м.* ручка; дзяржанне; тронкі
**trzonowiec** *м.* карэнны зуб
**trzonowy** **1.** асноўны; цэнтральны; **2.** карэнны; **ząb ~** карэнны зуб
**trzos, ~u** *м.* шабета; каліта
**trzódka** *ж.* **1.** невялікі статак; **2.** групка, купка; **3.** *жарт.* парафіяне
**trzpień** *м.* **1.** шпянёк (*у спражцы*); **2.** *тэх.* шпень; прут; шворан
**trzpiot** *м.* ветрагон
**trzpiotka** *ж.* жвавая (вясёлая) дзяўчына; ветрагонка, круцёлка
**trzustka** *ж. анат.* падстраўнікавая залоза
**trzy** тры; ◊ **pleść ~ po ~** плесці праз дзесятае ў пятае; вярзці лухту
**trzyaktowy** трохактны
**trzyczęściowy** які складаецца з трох частак; трохчасткавы



**trzydniowy** трохдзённы
**trzydniówka** *ж.* трохдзёнка
**trzydziest|ka** *ж.* трыццатка; **ona jest po ~ce** ёй ужо за трыццаць
**trzydziestolatka** *ж.* трыццацігадовая жанчына; трыццатка
**trzydziestoletni** трыццацігадовы
**trzydziestomilionowy** трыццацімільённы
**trzydziesty** трыццаты; ~ **pierwszy** трыццаць першы
**trzydzieści** трыццаць
**trzydzieścioro** *зборн.* трыццаць
**trzygłosowy** трохгалосы
**trzygodzinny** трохгадзінны
**trzygroszówka** *ж.* тры грошы (*манета*)
**trzyklasowy** трохкласны
**trzykołowy** трохколавы
**trzykroć**; *гл.* **trzykrotnie**
**trzykrotka** *ж. бат.* традэсканцыя (*Tradescantia L.*)
**trzykrotnie** трохкратна; тройчы, тры разы
**trzykrotny** трохкратны, трохразовы
**trzylatka** *ж.* **1.** трохгодка; **2.** трацячка (*пра жывёлу*)
**trzyletni** трохгадовы
**trzyma|ć** *незак.* **1.** трымаць; **~ć ręce w kieszeniach** трымаць рукі ў кішэнях; **~ć** *kogo* **w niepewności (napięciu)** трымаць *каго* ў няпэўнасці (напружанні); **~ć** *co* (*przed kim*) **w sekrecie** трымаць *што* (*ад каго*) у сакрэце; **mróz ~ł siarczysty** стаяў моцны мароз; **~ć** *kogo* **krótko** трымаць *каго* ў строгасці; **~ć** (*kogo*) **w ryzach** трымаць (*каго*) у абцугах; **~ć język za zębami** трымаць язык за зубамі; **~ć rękę na pulsie** *перан.* быць у курсе спраў; **2.** *разм.* *z kim/czym* быць на *чыім* баку; быць разам з *кім*; ◊ **~m cię za słowo** лаўлю цябе на слове
**trzyma|ć się** *незак.* **1.** трымацца; **~ć się za głowę** трымацца за галаву; **~ć się** *czego* **rękami i nogami** *разм.* трымацца рукамі і нагамі за *што*; **~ć się razem** трымацца разам; **~ć się młodo** молада выглядаць; **~ć się prosto** трымацца роўна (прама); **~ć się z boku** трымацца ўбаку; **dobrze się ~ć** быць у добрай форме; **~j się!** трымайся!; **~j się ciepło!** не вешай нос!, трымайся!; **2.** прытрымлівацца; **~ć się litery prawa** прытрымлівацца літары закону; ◊ **żarty go się ~ją** яму б толькі жартаваць; **to się nie ~ kupy** *разм.* гэта поўная бязглуздзіца; канцы з канцамі не сыходзяцца
**trzymiesięczny** трохмесячны
**trzynastoletni** трынаццацігадовы
**trzynasty** трынаццаты
**trzynaście** трынаццаць
**trzynaścioro** *зборн.* трынаццаць
**trzypiętrowy** **1.** чатырохпавярховы; **2.** трох'ярусны
**trzypokojowy** трохпакаёвы
**trzyrazowy** трохразовы
**trzysta** трыста
**trzystoletni** трохсотгадовы
**trzystrunny** трохструнны
**trzystu** *а.-м.* трыста
**trzytygodniowy** трохтыднёвы
**trzytysięczny** трохтысячны
**tse-tse** *нескл. ж. заал.* муха цэ-цэ (*Glossina palpalis*)
**tsunami** *нескл. ж.* цунамі
**tu** **1.** тут; ~ **i tam** тут і там; **2.** сюды; ~ **i tam** а) там-сям; б) туды і сюды; **chodź ~!** хадзі сюды!
**tuba** *ж.* **1.** *муз.* туба; **2.** рупар
**tubalny** трубны, гучны; ~ **głos** гучны (трубны) голас
**tuberkuliczny** туберкулёзны, сухотны
**tuberkulina** *ж. мед.* туберкулін
**tuberkuloza** *ж. мед.* туберкулёз, сухоты
**tuberoza** *ж. бат.* тубероза (*Polianthes L.*)
**tubka** *ж.* цюбік
**tubylczy** тубыльскі; туземны
**tubylec** *м.* тубылец, туземец
**tucz, ~u** *м.* адкормка; адкорм; ~ **gęsi** адкорм гусей
**tuczarnia** *ж. с.-г.* адкормачны пункт
**tucząc|y** які выклікае паўнату; **potrawy ~e** стравы, ад якіх таўсцеюць; высокакаларыйныя стравы
**tuczenie** *н.* адкормліванне, адпасванне
**tucznik** *м.* адкормак, кормнік, кормны кабан

**tuczny** адкормлены, тлусты
**tuczy|ć** *незак.* адкормліваць, выкормліваць; **czekolada** ~ ад шакаладу таўсцеюць; ◊ **kradzione nie** ~ ад крадзенага не пасыцееш; чужое дабро вылазіць праз рабро
**tuczyć się** *незак.* адкормлівацца, выкормлівацца; аб'ядацца
**tudzież** *уст.* і, прытым, таксама, разам з тым
**tuf, ~u** *м. мін.* туф; ~ **wapienny** вулканічны (вапнавы) туф
**tuja** *ж. бат.* туя (*Thuja L.*)
**tuk, ~u** *м.* касцявы мозг
**tul, ~u** *м. хім.* тулій
**tuleja** *ж. тэх.* утулка
**tulejka** *ж.*; *гл.* **tuleja**
**tulić** *незак.* туліць, прытульваць, абдымаць
**tulić się** *незак.* прытульвацца; туліцца
**tulipan** *м. бат.* цюльпан (*Tulipa L.*)
**tułactwo** *н.* бадзянне, блуканне
**tułacz** *м.* бадзяга, валацуга
**tułaczka** *ж.* **1.** бадзянне, блуканне; **2.** бадзяга (*жанчына*)
**tułaczy** бадзяжны; беспрытульны
**tułać się** *незак.* блукаць, бадзяцца; вандраваць
**tułowiowy** які адносіцца да тулава
**tuł|ów, ~owia/~owiu** *м.* тулава
**tum, ~u** *м.* кафедральны сабор
**tumak** *м.* **1.** *заал.* лясная куніца (*Martes martes L.*); **2.** **~i** *мн.* куніца (*футра*)
**tuman** *м.* **1.** **~u** туман; ~ **kurzu** воблака пылу; **2.** *разм.* дурань, дурны
**tumanić** *незак.* падманваць, ашукваць; пускаць пыл у вочы; марочыць (тлуміць; дурыць) галаву
**tumanieć** *незак.* дурнець
**tumiwisizm, ~u** *м. жарг. вульг.* нядбайства, нядбайнасць
**tumult, ~u** *м.* мітусня, сумятня, шум, гвалт, вэрхал
**tundra** *ж.* тундра
**tundrowy** тундравы
**tunel, ~u** *м.* тунэль; ~ **aerodynamiczny** *спец.* аэрадынамічная труба; ~ **kolejowy** чыгуначны тунэль
**tunguski** тунгускі
**Tunguz** *м.* тунгус
**Tunguzka** *ж.* тунгуска
**tunika** *ж.* туніка
**tuńczyk** *м. заал.* звычайны (блакітны) тунец (*Thunnus thunnus L.*); ~ **biały** альбакор (*Germa alalunga Gmel.*)
**tupać** *незак.* тупаць
**tupanie** *н.* тупат, тупаценне
**tupet, ~u** *м.* самаўпэўненасць; задзірлівасць; нахабства; **mieć** ~ мець нахабства (*зрабіць што*)
**tupnąć** *зак.* тупнуць
**tupot, ~u** *м.* тупат
**tupotać** *незак.* тупацець
**tuptać** *незак.* **1.** мітусіцца, корпацца, кешкацца, поркацца; **2.** таптацца; дробненька тупаць, перабіраць нагамі, дрыпаць
**tur**[1] *м. заал.* тур (*Bos primigenius*)
**tur**[2] *м.* тур; ~ **walca** тур вальса
**tura** *ж.* **1.** тур; круг; этап; ~ **wyborów** тур выбараў; **druga** ~ другі тур; **2.** група, заезд; **druga** ~ **wczasowiczów** другі заезд курортнікаў
**turbacja** *ж. уст., абл.* турботы, клопаты; непрыемнасці; хваляванні
**turban, ~u** *м.* турбан, чалма
**turbina** *ж.* турбіна; ~ **parowa** паравая турбіна
**turbogenerator** *м.* турбагенератар
**turboodrzutowy** турбарэактыўны; **samolot (silnik)** ~ турбарэактыўны самалёт (рухавік)
**turbosprężarka** *ж.* турбакампрэсар
**turbośmigłowiec** *м. ав.* турбавінтавы самалёт
**turbować** *незак. уст.* турбаваць, прыносіць клопаты; засмучаць
**turbować się** *незак. уст.* турбавацца, непакоіцца
**turbowentylator** *м.* турбавентылятар
**turbozesp|ół, ~ołu** *м.* турбаагрэгат
**turcyzm, ~u** *м. лінгв.* цюркізм
**turczyć** *незак.* атурэчваць
**Turczynka** *ж.* турчанка
**turecczyzna** *ж.* **1.** усё турэцкае (*культура, звычаі і да т. п.*); **2.** турэцкая мова



**tureck|i** турэцкі; **kawa po ~u** кава па-турэцку; **siedzieć po ~u** сядзець па-турэцку
**Turek** *м.* турак
**turkawka** *ж. заал.* турок (*Sreptopelia turtur L.*)
**Turkmen** *м.* туркмен
**Turkmenka** *ж.* туркменка
**turkmeński** туркменскі
**turkot, ~u** *м.* грукат, стук, тарахценне
**turkotać** *незак.* грукатаць, грукаць, тарахцець
**turkuć** *м.* (~ **podjadek**) *заал.* мядзведка (*Gryllotalpa gryllotalpa L.*)
**turkus** *м.* біруза
**turkusowy** бірузовы
**turmalin, ~u** *м. мін.* турмалін
**turnia** *ж. абл.* абрывістая (стромая) скала; горная вяршыня (*у Татрах*)
**turniej, ~u** *м.* турнір; ~ **szachowy** шахматны турнір
**turnikiet, ~u** *м.* турнікет
**turniura** *ж.* турнюр
**turnus, ~u** *м.* змена; чарга; чарговасць; **przebywać na wczasach (przez) dwa ~y** быць на курорце на працягу двух заездаў
**turoń** *м. фалькл.* пераапрануты з рагамі тура
**turysta** *м.* турыст
**turystka** *ж.* турыстка
**turystyczno-sportowy** спартыўна-турыстычны
**turystyczn|y** турыстычны; **biuro ~e** турыстычнае бюро (турбюро); **klasa ~a** турыстычны (эканамічны) клас
**turystyka** *ж.* турызм; ~ **górska** горны турызм; ~ **piesza** пешы турызм; ~ **rowerowa** веласіпедны турызм
**turzyca** *ж. бат.* асака (*Carex L.*)
**tusz**[1], **~u** *м.* туш; ~ **do rzęs** туш для вейкаў
**tusz**[2], **~u** *м.* душ; *гл.* **prysznic**
**tusz**[3], **~u** *м. муз.* туш
**tusza** *ж.* паўната, тлустасць
**tuszować** *незак. перан.* затушоўваць, заціраць
**tusz|yć** *незак. уст.* спадзявацца, мець надзею; **~ę, że...** спадзяюся, што...
**tutaj**; *гл.* **tu**
**tutejszy** тутэйшы, мясцовы
**tutka** *ж.* гільза
**tutkarz** *м.*: ~ **śliwowiec** *заал.* слівовы слонік (*Rhynchites cupreus L.*); ~ **złocisty** *заал.* вішнёвы слонік (*Rhynchites auratus L.*)
**tuz** *м.* **1.** туз, шышка; **2.** *уст., карц.* туз; панфіль
**tuziemiec** *м.* туземец; тубылец
**tuzin** *м.* тузін
**tuzinkowość** *ж.* пасрэднасць, звычайнасць, шэрасць
**tuzinkow|y** звычайны, радавы; шараговы; **żarty ~e** банальныя жарты
**tuż 1.** побач, поруч; **2.** зараз жа
**tuż-tuż** а) вось-вось; **wiosna** ~ вось-вось вясна; б) тут жа; зусім побач; ~ **za rogiem** тут жа за рогам
**tużurek** *м.* тужурка; двухбортны сурдут
**twardnieć** *незак.* цвярдзець
**twardnienie** *н.* зацвярдзяванне, зацвярдзенне
**twardo 1.** цвёрда; **jajo na** ~ яйка крута; **2.** моцна; ~ **zasnąć** моцна заснуць
**twardogłowy** цвердалобы
**twardość** *ж.* **1.** цвёрдасць; **2.** непахіснасць, нязломнасць, непераканальнасць; **3.** жорсткасць (*вады*); **4.** суровасць, жорсткасць
**twardówka** *ж. анат.* склера
**tward|y 1.** цвёрды; **2.** моцны; **~y sen** моцны сон; **~y facet** круты мужык; **3.** строгі; **~e spojrzenie** строгі погляд; ◊ **~y orzech do zgryzienia** цвёрды арэшак
**twardziel** *м.* **1.** ядро драўніны; **2.** *разм.* круты мужык
**twaroż|ek, ~ku** *м.* тваражок
**twar|óg, ~ogu** *м.* тварог
**twarz** *ж.* твар; **wyraz ~y** выраз твару; ◊ **dać w** ~ даць аплявуху (у рыла); **do ~y** да твару; **nie jest ci w tym do ~y** табе гэта не пасуе; **~ą w ~** твар у твар; **z kamienną ~ą** з каменным тварам; **stracić (zachować)** ~ згубіць (захаваць) твар
**twarzowy 1.** тварны; **2.** да твару
**tweed, ~u** *м.* [twid] твід (*тканіна*)
**twierdza** *ж.* крэпасць; цвердзь

**ustrzec** *зак. kogo od czego* усцерагчы; уберагчы *каго ад чаго*
**ustrzec się** *зак. czego, przed czym* усцерагчыся; уберагчыся *ад чаго*
**ustrzelić 1.** *зак.* застрэліць; **2.** адстрэліць
**usunąć** *зак.* **1.** адсунуць, устараніць; **2.** выдаліць, выключыць; **3.** адхіліць, скінуць, звольніць (*з пасады*)
**usunąć się** *зак.* адсунуцца, устараніцца, адысці
**usunięcie** *н.* адсоўванне, ліквідацыя, выдаленне, выключэнне
**usuwać** *незак.* **1.** ліквідаваць; ~ **kurz** выціраць пыл; ~ **śnieg** прыбіраць снег; ~ **plamy** выводзіць плямы; **2.** выдаляць; выключаць; ~ **zęby** вырываць зубы; ~ **ciążę** рабіць аборт; **3.** звальняць; здымаць, адхіляць
**usuwać się** *незак.* **1.** адсоўвацца; адыходзіць; **2.** адасабляцца; аддаляцца; ~ **się z życia politycznego** сыходзіць з палітычнай арэны; **3.** асядаць, абсыпацца
**usycha|ć** *незак.* **1.** сохнуць; высыхаць; **kwiatki ~ją od gorąca** кветкі сохнуць ад гарачыні; **2.** сохнуць; чэзнуць; марнець; **~ć z miłości** сохнуць ад кахання; **~ć z tęsknoty za** *kim/czym* сохнуць ад тугі па *кім/чым*
**usynowić** *зак.* усынавіць
**usypać** *зак.* **1.** насыпаць; ~ **kopiec** насыпаць курган; **2.** адсыпаць; ~ **mąki z worka** адсыпаць мукі з мяшка
**usypiać** *незак.* **1.** засынаць; ~ **przy stole** засынаць за сталом; **2.** усыпляць; ~ **chore psy** усыпляць хворых сабак
**usypiająco** які ўсыпляе; снатворны; **działać** ~ мець снатворнае дзеянне; усыпляць
**usypisko** *н.* асыпішча, апоўзень, крушня
**usypywać** *незак.* **1.** насыпаць; **2.** адсыпаць; *гл.* **usypać**
**usystematyzować** *зак.* сістэматызаваць; прывесці ў сістэму
**usytuowanie** *кніжн.* размяшчэнне; **geopolityczne** ~ геапалітычнае размяшчэнне
**uszanować** *зак.* ушанаваць, аднесціся з пашанай
**uszanowanie** *н.* пашана, павага; **moje ~!** маё шанаванне!
**uszat|y 1.** з вушамі; **~a czapka** аблавуха; аблавушка; **2. ~y** *м.* вушасцік
**uszczelka** *ж. тэх.* пракладка
**uszczelniać** *незак.* **1.** заканапачваць; абтыкаць **2.** рабіць воданепранікальным; **3.** *перан.* рабіць больш жорсткім; ускладняць; ~ **przepisy celne** рабіць больш жорсткімі мытныя правілы; ~ **granicę** рабіць мяжу (граніцу) менш пранікальнай; ускладняць пранікненне праз мяжу
**uszczelnić** *зак.* **1.** заканапаціць; абаткнуць; заткнуць **2.** зрабіць воданепранікальным; **3.** *перан.* зрабіць больш жорсткім; ускладніць
**uszczelnienie** *н.* ушчыльненне
**uszczerb|ek, ~ku** *м. кніжн.* урон, шкода; **bez ~ku dla sprawy** без шкоды для справы; **doznać ~ku** *na czym* панесці ўрон *у чым*; **z ~kiem dla zdrowia** са шкодай для здароўя
**uszczęśliwiać** *незак.* ашчасліўліваць, радаваць
**uszczęśliwić** *зак.* ашчаслівіць; узрадаваць
**uszczęśliwiony** ашчасліўлены; узрадаваны
**uszczknąć** *зак.* **1.** адшчыпнуць, адшчыкнуць; **2.** *перан.* урваць
**uszczuplać** *незак.* **1.** памяншаць; змяншаць; скарачаць; **2.** абмяжоўваць; ушчамляць
**uszczuplić** *зак.* **1.** паменшыць; зменшыць; скараціць; **2.** абмежаваць; ушчаміць
**uszczypliwie** з'едліва, калюча
**uszczypliwość** *ж.* з'едлівасць
**uszczypliw|y** з'едлівы, калючы, злосны; **~a uwaga** з'едлівая заўвага
**uszczypnąć** *зак.* ушчыпнуць
**uszeregować** *зак.* паставіць у шэраг (рад), упарадкаваць
**uszkadzać** *незак.* псаваць, шкодзіць
**uszk|o** *н.* **1.** вушка; **szepnąć na ~o** шапнуць на вушка; **2.** вушка; **~o igielne** іголнае вушка; **3. ~a** *мн. кул.* вушкі; **barszcz z ~ami** боршч з вушкамі
**uszkodzenie** *н.* **1.** псаванне; **2.** пашкоджанне; дэфект



**uszkodzić** *зак.* папсаваць; сапсаваць; пашкодзіць
**uszlachetniać** *незак.* **1.** рабіць высакародным; **2.** паляпшаць (*пароду, сорт*)
**uszlachetnić** *зак.* **1.** зрабіць высакародным; **2.** палепшыць (*пароду, сорт*)
**uszn|y** вушны; **koncha ~a** вушная ракавіна
**usztywnia|ć** *незак.* рабіць цвёрдым, фіксаваць; **lakier ~ fryzurę** лак фіксуе (замацоўвае) прычоску
**usztywnić** *зак.* зрабіць цвёрдым, зафіксаваць
**uszycie** *н.* пашыўка; шыццё
**uszyć** *зак.* пашыць; ◊ ~ *komu* **buty** падкласці свінню *каму*
**uszykować** *зак.* **1.** падрыхтаваць; **2.** выстраіць; размясціць (*у шэрагі*)
**uszyty** пашыты
**uścisk, ~u** *м.* абдымкі; поціск; ~ **dłoni** поціск рукі; **uwolnić się z ~u** вызваліцца ад абдымкаў
**uściska|ć** *зак.* абняць; **~j ode mnie swoją siostrę** абдымі за мяне сваю сястру
**uścisnąć** *зак.* абняць; сціснуць; ~ **rękę** паціснуць руку; парукацца
**uścisnąć się** *зак.* абняцца
**uśmiać się** *зак.* абрагатацца; ~ **się z dowcipu** абрагатацца з анекдоту
**uśmiech, ~u** *м.* усмешка; **wywołać** ~ выклікаць усмешку; ~ **losu** усмешка лёсу
**uśmiecha|ć się** *незак. do kogo* усміхацца *каму*; ◊ **szczęście mu się** ~ шчасце яму ўсміхаецца
**uśmiechnąć się** *зак.* усміхнуцца
**uśmiechnięty** з усмешкай
**uśmiercać** *незак.* забіваць
**uśmiercić** *зак.* забіць
**uśmierzać** *незак.* уціхамірваць, суцішаць, супакойваць; ~ **ból** сунімаць (суцішаць) боль
**uśmierzając|y** заспакаяльны; **środki ~e** заспакаяльныя сродкі
**uśmierzyć** *зак.* уціхамірыць, суняць, суцішыць
**uśpić** *зак.* усыпіць; закалыхаць
**uśpion|y: dziecko ~e** закалыханае дзіця; **cały dom jest ~y** увесь дом спіць
**uświadamiać** *незак. kogo* тлумачыць *каму*; даводзіць да свядомасці *каго*; ~ **sobie** усведамляць, разумець
**uświadomić** *зак.* растлумачыць; давесці да свядомасці
**uświadomienie** *н.* **1.** *kogo o czym* тлумачэнне *каму чаго*; **2.** свядомасць
**uświadomiony 1.** усвядомлены, свядомы; **2.** адукаваны (*у галіне чаго*)
**uświetniać** *незак. co* надаваць бляск (урачыстасць) *чаму*
**uświetnić** *зак. co* надаць бляск (урачыстасць) *чаму*
**uświęca|ć** *незак. кніжн.* асвячаць; ◊ **cel ~ środki** мэта апраўдвае сродкі
**uświęcić** *зак. кніжн.* асвяціць
**utaić** *зак.* утаіць
**utajony** утоены, скрыты
**utalentowany** таленавіты
**utarczka** *ж. кніжн.* сутычка, спрэчка, перапалка
**utarg, ~u** *м.* утаргаваныя грошы, утаргоўка, выручка; ~ **całkowity** поўная выручка; ~ **dzienny** дзённая выручка; ~ **przedsiębiorstwa** выручка прадпрыемства
**utargować** *зак.* утаргаваць; выручыць; выгандлеваць; ~ **10 złotych** выручыць 10 злотых
**utart|y 1.** уезджаны; пратаптаны; убіты; **droga ~a** уезджаная (пратаптаная, убітая) дарога; **2.** *перан.* звычайны; збіты; **~y frazes** збіты (сцёрты) выраз, збітая фраза
**utkać** *зак.* саткаць, выткаць
**utknąć** *зак.* **1.** засесці; завязнуць; загразнуць, захраснуць; ~ **na mieliźnie** сесці на мель; **2.** спыніцца; абарвацца; ◊ ~ **w martwym punkcie** *перан.* засесці (загразнуць) у мёртвым пункце
**utkwić** *зак.* уткнуць; ~ **w pamięci** застацца ў памяці; ~ **wzrok** утаропіць вочы (позірк)
**utleniacz** *м. хім.* акісляльнік
**utleniać** *незак.* **1.** акісляць; **2.** мыць перакісам; асвятляць (*валасы*)
**utlenić** *зак.* **1.** акісліць; **2.** вымыць перакісам; асвятліць (*валасы*)

**utlenion|y: woda ~a** перакіс вадароду
**utłuc** *зак.* стаўчы
**utonąć** *зак.* патануць; ◊ ~ **w niepamięci** быць забытым; кануць у Лету
**utopia** *ж.* утопія
**utopić się** *зак.* утапіцца
**utopić** *зак.* утапіць
**utopijność** *ж.* утапізм
**utopijn|y** утапічны; **~e marzenia** утапічныя мары (фантазіі)
**utopista** *м.* утапіст
**utorować** *зак.* пракласці; ~ **drogę** пракласці дарогу
**utożsamiać** *незак. кніжн.* атаясамліваць
**utożsamić** *зак. кніжн.* атаясаміць
**utracić** *зак. кніжн.* страціць
**utracjusz** *м.* марнатравец, мантач
**utrafiać** *незак.* пападаць, трапляць
**utrafić** *зак.* папасці, трапіць
**utrapienie** *н.* прыкрасць, непрыемнасць; мучэнне; **mam z nim** ~ мне ад яго адны непрыемнасці
**utrapiony** неспакойны, непаседлівы, надакучлівы; дакучны; **ach, ty bąku ~!** ах ты, карапуз надакучлівы!
**utrat|a** *ж. кніжн.* страта; **z ~ą praw** з пазбаўленнем праў; **~a zdolności do pracy** страта працаздольнасці; **~a pamięci** страта памяці
**utrącać** *незак.* **1.** адбіваць, адколваць; **2.** *разм.* адхіляць
**utrącić** *зак.* **1.** адбіць, адкалоць; **2.** *разм.* адхіліць
**utrudniać** *незак. co komu* перашкаджаць *каму ў чым*; ускладняць, замінаць
**utrudnić** *зак.* перашкодзіць, ускладніць
**utrudnienie** *н.* цяжкасць, замінка
**utrudzać** *незак.* турбаваць; стамляць
**utrudzić** *зак.* стаміць, змарыць
**utrwalacz** *м. фот.* фіксаж; замацавальнік
**utrwala|ć** *незак.* **1.** умацоўваць, замацоўваць; **pamięć ~ szczegóły** памяць захоўвае падрабязнасці (дэталі); **2.** запісваць; **magnetofon ~ dźwięki** магнітафон запісвае гукі
**utrwalić** *зак.* **1.** умацаваць, замацаваць; **2.** запісаць

**utrząsać** *незак.* утрасаць
**utrząść** *зак.* утрэсці
**utrzeć** *зак.* уцерці; ◊ ~ *komu* **nosa** уцерці *каму* нос
**utrzymać** *зак.* **1.** утрымаць; захаваць; ~ **sekret** захаваць таямніцу; **2.** пракарміць
**utrzymać się** *зак.* утрымацца
**utrzymani|e** *н.* **1.** утрыманне; утрымліванне; **~e terenu** *вайск.* утрымліванне тэрыторыі; **2.** утрыманне; **niedrogie ~e** недарагое ўтрыманне (пракорм); **źródło ~a** крыніца ўтрымання; **być na ~u rodziny** быць на ўтрыманні сям'і
**utrzymany** які ўтрымліваецца; **dobrze** ~ які добра ўтрымліваецца
**utrzymywać** *незак.* **1.** захоўваць; падтрымліваць, утрымліваць; ~ **w dobrym stanie** захоўваць у добрым стане; ~ *kogo* **przy życiu** падтрымліваць у *кім* жыццё; **2.** утрымліваць, мець на ўтрыманні; ~ **rodzinę** утрымліваць (мець на утрыманні) сям'ю; **3.** сцвярджаць; **~, że...** сцвярджаць, што...
**utrzymywać się** *незак.* **1.** утрымлівацца; захоўвацца; **2.** *z czego* утрымлівацца; жыць *на што/з чаго*
**utuczyć** *зак.* адкарміць, выкарміць
**utuczyć się** *зак.* **1.** адкарміцца, выкарміцца; **2.** растаўсцець
**utulić** *зак.* прылашчыць, прыгалубіць
**utwierdzać** *незак.* умацоўваць; пераконваць
**utwierdzać się** *незак.* умацоўвацца; пераконвацца
**utwierdzić** *зак.* умацаваць; пераканаць
**utwierdzić się** *зак.* умацавацца; пераканацца; ~ **się w przekonaniu, że ...** умацавацца ў перакананні, што...
**utworzenie** *н.* стварэнне, утварэнне
**utworzyć** *зак.* стварыць, утварыць; ~ **fundusz na rzecz budowy szpitala** стварыць фонд для будовы лякарні
**utworzyć się** *зак.* стварыцца, утварыцца
**utw|ór, ~oru** *м.* **1.** твор; **~ór dramatyczny** драматычны твор; **~ór na fortepian** твор для фартэпіяна; **2.** стварэнне



**utyć** *зак.* патаўсцець, растаўсцець, папаўнець; ~ **z powodu braku ruchu** растаўсцець ад недахопу руху
**utykać**[1] *незак.* **1.** затыкаць; **2.** засоўваць, запіхваць
**utykać**[2] *незак.* **1.** спатыкацца; **2.** накульгваць; кульгаць; **3.** спыняцца
**utylitarność** *ж.* утылітарнасць
**utylitarny** утылітарны
**utylitaryzm, ~u** *м.* утылітарызм
**utylizacja** *ж.* утылізацыя; ~ **odpadów produkcyjnych** утылізацыя вытворчых адходаў
**utylizować** *незак. тэх.* утылізаваць
**utyskiwać** *незак. кніжн. na kogo/co* наракаць, скардзіцца *на каго/што*; ~ **na swoje zdrowie** наракаць на сваё здароўе
**utytułować** *зак.* назваць; тытулаваць
**utytułowany** тытулаваны
**uwag|a** *ж.* **1.** увага; **zwracać ~ę** звяртаць увагу; **uchodzić (umykać) uwadze** выпадаць з-пад увагі; праходзіць па-за ўвагай; **wziąć pod ~ę** прыняць (узяць) пад увагу; **z ~i na** *co* беручы пад увагу *што*; улічваючы *што*; з прычыны *чаго*; **~a!** увага! асцярожна!; **«~a! stopień!»** «асцярожна! прыступка!»; **«~a! wysokie napięcie!»** «асцярожна! высокае напружанне!»; **«~a! zły pies!»** «асцярожна! злы сабака!»; **2.** заўвага; **3.** заўвага; вымова; **zrobić ~ę** зрабіць заўвагу
**uwalać się** *зак.* запэцкацца
**uwalniać** *незак.* вызваляць; ~ **zwierzęta z klatek** вызваляць звяроў з клетак; ~ **od kompleksów** пазбаўляць ад комплексаў
**uwalniać się** *незак.* вызваляцца
**uwarstwienie** *н.* **1.** расслаенне; **2.** *геал.* напластаванне
**uwarunkować** *зак.* абумовіць
**uwarunkowany** абумоўлены
**uważa|ć** *незак.* **1.** быць уважным; пільным; глядзець (слухаць) уважліва; сачыць; назіраць; **~j, żebyś tego nie zgubił** глядзі, не згубі гэта; **~j, co robisz** глядзі, што робіш; **~ć na drogę** быць уважлівым на дарозе; **~j!** асцярожна!; **2.** *па kogo/co* сачыць *за кім/чым*; пільнаваць *каго/што*; берагчы *каго/што*; **~j na siebie** беражы сябе; **3.** *па kogo/co* берагчыся; асцерагацца *каго/чаго*; **4.** лічыць; **~ć** *kogo* **za przyjaciela** лічыць *каго* сябрам; **rób jak ~sz** рабі, як хочаш; **~ć się** *za kogo* лічыць сябе *кім*; **on się ~ za geniusza** ён лічыць сябе геніем
**uważnie** уважліва
**uważny** уважлівы; ~ **kierowca** уважлівы шафёр; ~ **na każdy szczegół** уважлівы да кожнай дробязі
**uwertura** *ж. муз.* уверцюра
**uwędzić** *зак.* правэндзіць, праввяліць
**uwiąd, ~u** *м.* звяданне; ~ **starczy** *мед.* старэчы маразм
**uwiązać** *зак.* прывязаць; ~ **psa na łańcuchu** прывязаць сабаку на ланцуг
**uwić** *зак.* звіць; ~ **gniazdko** звіць гняздзечка
**uwidaczniać** *незак.* рабіць наглядным, відавочным; паказваць
**uwidocznić** *зак.* зрабіць наглядным, відавочным; паказаць
**uwieczniać** *незак. кніжн.* увекавечваць, захоўваць
**uwieczniać się** *незак. кніжн.* увекавечвацца
**uwiecznić** *зак. кніжн.* увекавечыць, захаваць
**uwiecznić się** *зак. кніжн.* увекавечыцца
**uwiedzenie** *н.* **1.** спакушэнне; збіванне з правільнага шляху; **2.** *уст.* выкраданне
**uwielbia|ć** *незак.* пакланяцца; любіць; **~ła jeść słodycze** яна любіла есці салодкае
**uwielbianie** *н.* гарачая любоў
**uwielbić** *зак.* пакахаць, палюбіць
**uwielbienie** *н.* вялікая (бязмежная) любоў
**uwieńczać** *незак.* увенчваць
**uwieńczon|y** увенчаны; **trudy ~e powodzeniem** пасяхова закончаная праца
**uwieńczyć** *зак.* увянчаць
**uwiera|ć** *незак.* ціснуць (*пра адзенне, абутак*); **buty mnie ~ją** чаравікі мне ціснуць

**uwierzeni|e** *н.* вера; **nie do ~a** нельга паверыць; неверагодна

**uwierzy|ć** *зак.* паверыць; **~ła w jego słowa** яна паверыла яго словам

**uwierzytelniać** *незак.* упаўнаважваць

**uwierzytelniając|y** даверны; **listy ~e** *дып.* даверныя (даверчыя) граматы

**uwierzytelnić** *зак.* упаўнаважыць

**uwiesić** *зак.* падвесіць, начапіць; **~ broń u pasa** падвесіць зброю на рэмень (на папругу)

**uwiesić się** *зак.* павіснуць; **~ się u szyi** павіснуць на шыі

**uwieść** *ж.* **1.** спакусіць; **2.** выкрасці

**uwieźć** *зак.* вывезці, адвезці, звезці

**uwiędnąć** *зак.* звянуць, завянуць

**uwięzić** *зак.* **1.** пасадзіць у турму; зняволіць; **2.** *перан.* прывязаць; паралізаваць

**uwięzienie** *н.* арышт, зняволенне

**uwięziony** зняволены

**uwięznąć** *зак.* увязнуць, угразнуць, угрузнуць

**uwię|ź** *ж.* прывязь; **pies na ~zi** сабака на прывязі; **balon na ~zi** *вайск.* прывязны аэрастат

**uwijać** *незак.* **1.** абвіваць; **2.** звіваць

**uwijać się** *незак.* хутка спраўляцца, увівацца, завіхацца, лётаць, круціцца

**uwikłać** *зак. кніжн.* заблытаць, ублытаць

**uwikła|ć się** *зак. кніжн.* заблытацца, ублытацца; **muszka ~ła się w pajęczynie** муха заблыталася ў павуціне

**uwikływać** *незак. кніжн.* заблытваць

**uwikływać się** *незак. кніжн.* заблытвацца

**uwinąć się** *зак.* хутка ўправіцца; паспяшацца з *чым*; скончыць (*справу*)

**uwłaczać** *незак. komu/czemu* абражаць; ганьбіць *каго/што*

**uwłaczający 1.** які абражае (ганьбіць); **2.** абразлівы; ганебны

**uwłaszczać** *незак.* вызваляць з-пад прыгону; распрыгоньваць; разнявольваць

**uwłaszczenie** *н.* вызваленне з-пад прыгону; распрыгоньванне; разнявольванне; **~ chłopów** разнявольванне сялян

**uwłaszczyć** *зак.* вызваліць з-пад прыгону; распрыгоніць; разняволіць

**uwodziciel** *м.* спакуснік; звадыяш

**uwodzicielka** *ж.* спакусніца; звадыяшка

**uwodzicielski** спакуслівы; спакусны; прывабны

**uwodzicielsko** спакусліва

**uwodzi|ć** *незак.* зводзіць, спакушаць; **~ła go spojrzeniami** яна спакушала яго позіркамі

**uwolnić** *зак.* вызваліць

**uwolnić się** *зак.* вызваліцца

**uwolnienie** *н.* вызваленне

**uwozić** *незак.* вывозіць, адвозіць, везці, звозіць

**uwydatniać** *незак. кніжн.* падкрэсліваць, вылучаць

**uwydatniać się** *незак. кніжн.* вылучацца

**uwydatnić** *зак. кніжн.* падкрэсліць, вылучыць

**uwydatnić się** *зак. кніжн.* вылучыцца

**uwypuklać** *незак. кніжн.* вылучаць, падкрэсліваць

**uwypuklić** *зак. кніжн.* вылучыць, падкрэсліць

**uwzględniać** *незак.* улічваць; браць пад увагу

**uwzględnić** *зак.* улічыць; узяць пад увагу; **nie ~ podania** адхіліць заяву

**uwzględnienie** *н.* улік; прыняцце пад увагу; **z ~m** з улікам; **zasługujący na ~** які заслугоўвае быць узятым пад увагу (у разлік)

**uwziąć się** *зак.* **1.** *na kogo* не ўзлюбіць *каго*; **2.** уперціся

**uzależniać** *незак.* ставіць у залежнасць; рабіць залежным

**uzależniać się** *незак.* ставіць сябе ў залежнасць; станавіцца залежным; **~ się od narkotyków** станавіцца залежным ад наркотыкаў; трапляць у залежнасць ад наркотыкаў

**uzależnić** *зак.* паставіць у залежнасць, зрабіць залежным

**uzależnić się** *зак.* паставіць сябе ў залежнасць

**uzależnienie** *н.* залежнасць

**uzależniony** залежны

**uzasadniać** *незак.* абгрунтоўваць; матываваць



**uzasadnić** *зак.* абгрунтаваць; матываваць

**uzasadnienie** *н.* абгрунтаванне; матывіроўка; аргумент; **~ wniosku** абгрунтаванне прапановы

**uzasadniony** абгрунтаваны, матываваны

**uzbecki** узбекскі

**Uzbeczka** *ж.* узбечка

**Uzbek** *м.* узбек

**uzbierać** *зак.* сабраць

**uzbrajać** *незак.* узбройваць; **2.** *буд.* аснашчаць

**uzbrajać się** *незак.* узбройвацца; **~ się w cierpliwość** набірацца цярпення (цярплівасць)

**uzbroić** *зак.* **1.** узброіць; **2.** *w co буд.* аснасціць *чым*

**uzbroić się** *зак.* **1.** узброіцца; **~ się w cierpliwość** запасціся цярплівасцю

**uzbrojenie** *н.* **1.** узбраенне; **2.** *тэх.* арматура

**uzbrojony 1.** узброены; **2.** *тэх.* арміраваны

**uzda** *ж.* вуздэчка, аброць

**uzdolnienie** *н.* здольнасць, таленавітасць

**uzdolniony** здольны, таленавіты; **student ~ językowo** студэнт, здольны да [вывучэння] моў

**uzdrawiać** *незак.* вылечваць, аздараўляць

**uzdrowiciel** *м. уст.* лекар

**uzdrowić** *зак.* вылечыць, аздаравіць

**uzdrowienie** *н.* вылечванне

**uzdrowisko** *н.* курорт, санаторый; **~ dla chorych na serce** санаторый для сардэчнікаў (для людзей з сардэчнымі захворваннямі)

**uzewnętrzniać** *незак.* выяўляць, паказваць

**uzewnętrznić** *зак.* выявіць, паказаць

**uzewnętrznić się** *зак.* выявіцца, паказацца

**uzewnętrznienie** *н.* выяўленне, паказванне

**uzębienie** *н.* **1.** зубная сістэма; зубы; **2.** *тэх.* зубцы

**uzgadniać** *незак.* узгадняць; каардынаваць

**uzgodni|ć** *зак.* узгадніць; пагадзіцца; **~liśmy, że ...** мы пагадзіліся, што...

**uzgodnieni|e** *н.* каардынацыя; узгадненне; **do ~a** да ўзгаднення

**uziemiać** *незак.* зазямляць

**uziemić** *зак. рад., эл.* зазямліць; **~ antenę** зазямліць антэну; **~ przewody** зазямліць правады

**uziemienie** *н.* зазямленне

**uzmysławiać** *незак.* усведамляць

**uzmysłowić** *зак.* усвядоміць, уразумець; **~ sobie** усвядоміць сабе

**uznać** *зак.* **1.** прызнаць; палічыць; **dziecko ~ za swoje** прызнаць дзіця сваім; **~ za słuszne** палічыць слушным; прызнаць справядлівым; **2.** *фін.* акцэптаваць; прыняць да аплаты; **~ rachunek** акцэптаваць рахунак

**uznać się** *зак.* прызнаць сябе; **~ się za pokonanego** прызнаць сябе пераможаным

**uznani|e** *н.* **1.** прызнанне; **zdobyć ~e** атрымаць прызнанне; **cieszyć się ~em** карыстацца прызнаннем; **wyrazy ~a** словы пашаны; **2.** меркаванне; вырашэнне; **wedle ~a** паводле меркавання; **pozostawić** *co* **do** *czyjego* **~a** пакінуць *што* на *чыё* вырашэнне

**uznawać** *незак.* **1.** прызнаваць; лічыць; **~** *kogo* **za oszusta** лічыць *каго* падманшчыкам; **~** *co* **za zaszczyt** лічыць *што* гонарам; **~** *co* **za konieczne** лічыць *што* абавязковым; **2.** *фін.* акцэптаваць; прымаць да аплаты

**uznawać się** *незак.* лічыць сябе; **~ się za przywódcę** лічыць сябе правадыром (лідэрам)

**uzupełniać** *незак.* дапаўняць, папаўняць

**uzupełniać się** *незак.* дапаўняць адно аднаго; **~ się wzajemnie** узаемна дапаўняць адно аднаго

**uzupełnić** *зак.* дапоўніць; папоўніць; укамплектаваць; **~ zapas wody** папоўніць запас вады

**uzupełnienie** *н.* дапаўненне, дадатак; *вайск.* папаўненне

**uzupełniony** дапоўнены, папоўнены; укамплектаваны

**uzurpacja** *ж.* узурпацыя

**uzurpator** *м.* узурпатар

**uzurpatorski** узурпатарскі

**uzurpować** *незак.* узурпіраваць

**uzyskać** *зак.* атрымаць; здабыць; ~ **odszkodowanie** атрымаць кампенсацыю; ~ **obywatelstwo** атрымаць грамадзянства; ~ **połączenie** дазваніцца; датэлефанавацца
**uzyskiwać** *незак.* атрымліваць; здабываць; ~ **informację** здабываць інфармацыю
**uździenica** *ж.*; *гл.* **uzda**
**użalać się** *незак.* **1.** *na co przed kim* скардзіцца *на што каму*; бедаваць *перад кім аб чым*; **2.** *nad kim/czym* шкадаваць *каго/ што*; ~ **się nad sobą** шкадаваць сябе
**użalić się** *зак.* **1.** паскардзіцца; **2.** *nad kim* пашкадаваць *каго*
**użąć** *зак.* зжаць
**użerać się** *незак. вульг.* грызціся, сварыцца
**użyci|e** *н.* ужыванне, карыстанне; ужытак; **sposób ~a** спосаб ужывання (карыстання); **gotowy do ~a** гатовы да ўжытку (ужывання; выкарыстання); **łatwy w ~u** лёгкі ва ўжытку (ужыванні; выкарыстанні); **wyjść z ~a** выйсці з ужытку
**użycza|ć** *незак. кніжн.* даваць; пазычаць; дзяліцца; **~ć pomocy** дапамагаць; **gospodarze ~li nam pokoju** гаспадары здавалі нам пакой
**użyczyć** *зак.* даць; выдзеліць; падзяліцца; ~ **chwilę uwagi** прысвяціць хвіліну ўвагі
**użyć** *зак.* выкарыстаць, ужыць; ◊ ~ **życia (wolności)** нацешыцца жыццём (свабодай); ~ **smutku** спазнаць гора
**użytecznie** карысна; з карысцю
**użytecznoś|ć** *ж.* карыснасць; прыдатнасць; **zakład ~ci publicznej** прадпрыемства камунальных паслуг
**użyteczny** карысны; прыдатны; **człowiek ~ krajowi** карысны для краіны чалавек
**użyt|ek, ~ku** *м.* ужытак; **zrobić ~ek** *z czego* выкарыстаць *што*; **do ~ku publicznego** для грамадскага карыстання; **nie nadaje się do ~ku** непрыдатнае для карыстання; **na ~ek domowy** для хатняга карыстання
**użytkować** *незак.* скарыстоўваць; выкарыстоўваць; ужываць
**użytkowanie** *н.* эксплуатацыя; выкарыстанне; ужыванне
**użytkownik** *м.* спажывец; карыстальнік; той, хто карыстаецца; ~ **drogi** карыстальнік дарогі; ~ **języka** *лінгв.* носьбіт мовы
**użytkow|y** спажывецкі; утылітарны; ужытковы; **rośliny ~e** сельскагаспадарчыя расліны; **powierzchnia ~a** карысная плошча; **program ~y** *камп.* прыкладная (ужытковая, дастасоўная) праграма; **lokal ~y** нежылое памяшканне
**używać** *незак. czego* ужываць; выкарыстоўваць; прымяняць *што*; карыстацца *чым*; ~ **środków na porost włosów** ужываць сродкі для росту валасоў; ~ **roweru jako środka lokomocji** карыстацца веласіпедам у якасці транспартнага сродку; ~ **traktorów do robót rolnych** выкарыстоўваць трактары для сельскагаспадарчых работ; ◊ ~ **życia** цешыцца жыццём
**używalnoś|ć** *ж.* ужывальнасць; **pokój z ~cią kuchni** пакой з правам карыстацца кухняй
**używanie** *н.* ужыванне; ◊ **dopiero będzie ~!** вось тады будзе раздолле (прыволле)!
**używan|y** ужываны; карыстаны; выкарыстаны; ужыты; **odzież ~a** ужыванае (ношанае) адзенне; **obuwie ~e** ужываны (ношаны) абутак
**używka** *ж.* смакавае рэчыва
**użyźniać** *незак.* угнойваць
**użyźnianie** *н.* угнойванне
**użyźnić** *зак.* угнаіць

# V

**va banque** [wa bank] ва-банк; па банку
**vacat** *м.* [wakat]; *гл.* **wakat**
**vacuum** *н.* [wakuum] вакуум
**vademecum** [wademekum]; *гл.* **wademekum**
**varia** *кніжн.* рознае; збор; розныя творы



**varsaviana** [warsawjana] матэрыялы, якія датычаць Варшавы
**variétés** *нескл. н.* [warjete] вар'етэ
**vel** *кніжн.* або; ці; інакш; **Bolesław Prus ~ Aleksander Głowacki** Баляслаў Прус, інакш Аляксандр Главацкі
**verte** перагарні (*старонку*); глядзі (*на іншай старонцы*)
**veto** *н. гіст.* вета; **liberum ~** ліберум вета (*у Польшчы ў XVII і XVIII стагоддзях першапачаткова прынцып, паводле якога пратэст аднаго пасла на сейме не дапускаў прыняцця закона*); *гл.* **weto**
**via** [wija] праз (*пры ўказанні напрамку*); **do Paryża ~ Berlin** у Парыж праз Берлін
**vice versa** [i] наадварот
**vide** глядзі (*указанне, якое адсылае ў іншае месца тэксту*)
**virtuti militari** віртуці мілітары (*назва ваеннага ордэна*)
**vis** *м.* [wis]; *гл.* **wis**
**vis-à-vis** [wizawi] візаві; насупраць
**voto: primo (secundo, tertio) ~** па першым (другім, трэцім) шлюбе (*пра прозвішча*)
**votum** *н.*; *гл.* **wotum**

# W

**w (we)** на, у; **w lewo** налева; **w dół (górę)** уніз (уверх); **a on w nogi** а ён наўцёкі; **złożyć we dwoje** скласці ўдвая; **przejść w bród** перайсці ўброд; **obrócić w żart** ператварыць у жарт; **przejść w stan spoczynku** выйсці ў адстаўку; **w górze (dole)** уверсе (унізе); **w krótkim czasie** неўзабаве; **w dzień** удзень, днём; **bogaty w doświadczenia** багаты вопытам (доследам); з багатым вопытам; **ustawić w szachownicę** расставіць у шахматным парадку; **materiał w kratę** тканіна ў клетку; **chłop w chłopa** адзін ў адзін; маладзец да маладца; **w tyle** ззаду; **płacić w złocie** плаціць золатам; **dawać w posagu** даваць у пасаг; **w poniedziałek** у панядзелак; **w roku 2000** у 2000 годзе; **w skład komisji wchodzą cztery osoby** у склад камісіі ўваходзяць чатыры асобы (чалавекі); **w telewizji** па тэлевізары; **w pięć minut** за пяць хвілін; **w żadnym wypadku** ні ў якім разе (выпадку)
**wab** *м.* **1.** *паляўн.* вабік; манок; **2.** прынада
**wabi|ć** *незак.* **1.** прынаджваць; **2.** вабіць; прываблiваць; **3.** клікаць; называць; **tego psa ~ą Reks** гэтага сабаку клічуць Рэкс
**wabi|ć się** *незак.* **1.** (*пра птушак*) перагукацца; **2.** называцца; **jak się ten pies ~?** як завуць гэтага сабаку?
**wabik** *м.* **1.** *паляўн.* вабік; манок; **2.** *перан.* прынада; **3.** *перан.* прываблівасць; прывабнасць; вабнасць; **mieć ~a** быць прывабным (спакушальным)
**wachlarz** *м.* **1.** веер; **2.** *перан.* кола; дыяпазон, гама; ~ **zagadnień** кола пытанняў; ~ **znaczeń** дыяпазон значэнняў; ~ **towarów** асартымент тавараў; ~ **kolorów** палітра колераў
**wachlarzowaty** веерападобны
**wachlować** *незак.* **1.** абмахваць (*веерам*); **2.** калыхаць; гойдаць, гайдаць; **3.** махаць
**wachlować się** *незак.* **1.** абмахвацца (*веерам*); **2.** калыхацца; гойдацца, гайдацца
**wachmistrz** *м. вайск.* вахмістр
**wachta** *ж.* вахта; варта
**wacik** *м.* ватовы тампон
**wada** *ж.* **1.** загана, хіба; ~ **serca** *мед.* парок сэрца; **2.** дэфект, брак, недахоп; ~ **wymowy** дэфект вымаўлення
**wademecum** *н.*; *гл.* **wademekum**
**wademekum** *н.* даведнік
**wadium** *н. юр.* грашовы залог
**wadliwie** заганна
**wadliwość** *ж.* загана; дэфект
**wadliwy** заганны; няправільны; з дэфектам; ~ **zgryz** няправільны прыкус
**wadzić** *незак. уст.* перашкаджаць
**wafel** *м.* вафля; ~ **ryżowy** рысавы хлебчык
**Waga** *ж. астр.* Шалі

**wag|a** *ж.* **1.** вага; **~a netto** вага нета; **2.** *спарт.* вага; вагавая катэгорыя; **~a musza** найлягчэйшая вага; **~ kogucia** лягчэйшая вага; **~a piórkowa** паўлёгкая вага; **~a lekka** лёгкая вага; **~a lekko-półśrednia** першая паўсярэдняя вага; **~a półśrednia** другая паўсярэдняя вага; **~a lekko-średnia** першая сярэдняя вага; **~a średnia** другая сярэдняя вага; **~a półciężka** паўцяжкая вага; **~a ciężka** цяжкая вага; **3.** вага; **~a dziesiętna** дзесятковая вага; **~a precyzyjna** дакладная вага; **4.** *перан.* вага, аўтарытэт; **mieć ~ę** мець вагу; **rzecz wielkiej ~i** справа вялікай важнасці

**wagabunda** *ж. уст.* бадзяга; валацуга

**wagarować** *незак.* прагульваць [урокі]

**wagarowicz** *м.* прагульшчык

**wagary** *мн. разм.* прагул; **chodzić na ~** уцякаць з урокаў

**wagon, ~u** *м.* вагон; **~ towarowy** таварны вагон; **~ osobowy** пасажырскі вагон; **~ restauracyjny** вагон-рэстаран; **~ do węgla (na węgiel)** вагон для вугалю, вуглявоз

**wagonik** *м.* ваганетка

**wagonowy** вагонны

**waha|ć się** *незак.* вагацца; хістацца; **nie ~ł się wziąć odpowiedzialności** ён, не вагаючыся, узяў на сябе адказнасць

**wahadło** *н.* маятнік

**wahadłowy** маятнікавы; хістальны; **ruch ~** а) хістальны рух; б) пераменны рух (*на вузкай дарозе*)

**wahający się 1.** хісткі; **2.** *перан.* нерашучы

**wahani|e** *н.* **1.** хістанне; **~a temperatury** хістанні тэмпературы; **2.** *перан.* ваганне, нерашучасць; **bez ~a** без вагання, не вагаючыся, рашуча; **z ~em w głosie** нерашучым (няўпэўненым) голасам

**wakacje** *мн.* канікулы; вакацыі; **~ podatkowe** *эк.* падатковыя канікулы

**wakacyjn|y** канікулярны; **kursy ~e** канікулярныя курсы

**wakans, ~u** *м.* **1.** вакансія **2.** *друк.* белая старонка

**wakat, ~u** *м.* вакансія; **objąć ~** заняць вакансію; **~ na stanowisku dyrektora** вакансія на пасаду дырэктара

**wakować** *незак.* быць вакантным (вольным, незанятым)

**wakujący** незаняты; вольны

**walać** *незак.* пэцкаць; брудзіць

**wala|ć się** *незак.* **1.** пэцкацца, брудзіцца; **~ć się tłuszczem** брудзіцца тлушчам (у тлушч); **2.** *разм.* валяцца, качацца; **~ć się w błocie** качацца ў гразі; **pantofle się ~ją na podłodze** туфлі валяюцца на падлозе

**walc** *м.* вальс; **zaprosić do ~a** запрасіць на вальс; **tańczyć ~a** танцаваць (танчыць) вальс

**walcować**[1] *незак.* пракатваць, вальцаваць

**walcować**[2] *незак. уст.* вальсаваць

**walcowanie** *н.* вальцаванне, вальцоўка

**walcowan|y** пракатны, вальцаваны; **wyroby ~e** *тэх.* пракат; **blacha ~a** пракатная бляха

**walcowaty** цыліндрычны

**walcownia** *ж.* пракатны цэх

**walczyć** *незак.* **1.** змагацца, біцца; **~ o pokój** змагацца за мір; **~ do upadłego** змагацца да апошняга; **~ pod rozkazami ...** змагацца пад камандаваннем ...; **2.** змагацца; біцца; ваяваць; **3.** змагацца; спаборнічаць; дужацца; барукацца; ходацца

**walec** *м.* **1.** *мат.* цыліндр; **2.** *тэх.* валец, валок; каток; **~ drogowy** дарожны каток; ◊ **po jakiego walca** за якім ліхам; якога ліха

**walecznie** мужна, адважна, храбра, доблесна

**waleczność** *ж.* мужнасць, адвага, храбрасць, доблесць

**waleczny** мужны, храбры, адважны, доблесны

**walentynka** *ж.* валянцінка

**waleriana** *ж.* **1.** *бат.* валяр'яна лекавая (*Valeriana officinalis*); **2.** *разм.* валяр'янка

**walerianow|y** валяр'янавы; **krople ~e** валяр'янавыя кроплі



**walet** *м.* **1.** *карц.* валет, ніжнік; **2.** *перан. разм.* нелегал

**wali|ć** *незак.* **1.** лупіць, лупцаваць, калаціць; **2.** біць, стукаць, грукаць; **~ć w drzwi** стукаць (грукаць) у дзверы; **serce ~ło jak oszalałe** сэрца шалёна калацілася; **3.** (*дрэвы*) валіць, звальваць; **4.** рухацца натоўпам; валіць; **5.** *разм.* пуляць, страляць

**walić się** *незак.* валіцца, развальвацца

**Walijczyk** *м.* валіец

**Walijka** *ж.* валійка

**walijski** валійскі; **język ~** валійская мова

**waliza** *ж.* чамадан

**walizka** *ж.* чамадан; чамаданчык; валізка; ◊ **siedzieć na ~ch** сядзець на чамаданах

**walka** *ж.* **1.** змаганне, барацьба; **~ o pokój** барацьба за мір; **~ z korupcją** барацьба (змаганне) з карупцыяй; **2.** бой; **~ morska** марскі бой; ◊ **~ klas** класавая барацьба; **~ o byt** барацьба за існаванне

**walkman** *м.* [łokmen] аўдыё-плэер; **słuchać taśm z ~a** слухаць касеты на плэеры

**walnie** агульна, агулам, хаўрусам, талакой

**waln|y** агульны; **~e zebranie** агульны сход

**walor, ~u** *м.* **1.** *кніжн.* добрая якасць, годнасць, вартасць; **2. ~y** *мн. эк.* каштоўнасці

**waloryzacja** *ж.* **1.** акрэсленне вартасці па курсе; **2.** пераацэнка

**waltornia** *ж. муз.* валторна

**waluciarz** *м. разм.* валютчык

**walut|a** *ж.* валюта; **~y wymienialne** *разм.* цвёрдая валюта

**walutow|y** валютны; **reforma ~a** грашовая рэформа

**wał, ~u** *м.* вал

**wałach** *м.* конь (*пакладаны*)

**wałaszyć** *незак.* пакладаць (*жарабца*)

**wał|ek** *м.* **1.** *тэх.* валік, валок; **~ki do włosów** бігудзі; **2.** качалка

**wałęsać się** *незак.* цягацца, валачыцца, бадзяцца

**wałkonić się** *незак. разм.* гультаяваць; лодарнічаць

**wałkoń** *м.* гультай; лодар; абібок

**wałkować** *незак.* **1.** раскатваць; **~ ciasto** раскатваць цеста; **2.** *перан.* пераж оўваць; **~ temat** пераж оўваць тэму; пералівань з пустога ў парожняе

**wałkowanie** *н.* раскатванне

**wałkownica** *ж.* качалка

**wam** вам; *гл.* **wy**

**wami** вамі; *гл.* **wy**

**wampir** *м.* **1.** вампір; крывасмок; **2.** *разм.* маньяк

**wandal** *м.* вандал

**wandalizm, ~u** *м.* вандалізм

**wanilia** *ж.* **1.** *бат.* ваніль (*Vanilla planifolia Andr.*); **2.** *кул.* ваніль

**wanilina** *ж. хім.* ванілін

**waniliowy** ванілевы

**wanna** *ж.* ванна; **~ żeliwna** чыгунная ванна

**wapienny** вапнавы

**wapień** *м. мін.* вапняк

**wapniak** *м. разм.* вапняк

**wapnieć** *незак.* ператварацца ў вапну

**wapnisty** вапнавы

**wapno** *н.* **1.** вапна; **~ gaszone** гашаная вапна; **~ niegaszone** нягашаная вапна; **2.** *перан., жарг.* старыя; бацькі

**wapń** *м. хім.* кальцый

**war, ~u** *м.* вар, кіпень, варатак

**wara! 1.** прэч!; далоў!; **2.** не смей!

**warcabnica** *ж.* шашачная дошка, шашачніца

**warcaby** *мн.* шашкі; **grać w ~** гуляць у шашкі

**warchlak** *м.* вепручок; кабанчык

**warchoł** *м.* баламут; зваднік

**warcholstwo** *н.* зваднііцтва; падбухторванне

**warczeć** *незак.* бурчаць

**warg|a** *ж.* губа; **~a górna** верхняя губа; **układ ~** уклад вуснаў; **zaciskać ~i** сціскаць вусны; **wydymać ~i** надзімаць вусны

**wargowy** губны

**wariacj|a** *ж.* **1.** варыяцыя **2.** *уст.* вар'яцтва, шаленства **3. ~e** *мн. муз.* варыяцыя; **temat z ~ami** тэма з варыяцыямі

**wariacki** вар'яцкі

**wariactwo** *н.* вар'яцтва

**wariant, ~u** *м.* варыянт; мадыфікацыя; версія

**wariantowy** варыятны
**wariantywność** *ж.* варыятыўнасць; варыянтнасць
**wariat** *м.* вар'ят
**wariatka** *ж.* вар'ятка
**wariować** *незак. za kim/czym* вар'яцець; шалець; ~ **ze szczęścia** вар'яцець ад шчасця; ~ **za nowymi modelami samochodów** вар'яцець з-за новых мадэляў машын
**warknąć** *зак.* **1.** (*пра жывёлу*) зарыкаць; **2.** гаркнуць, гыркнуць, агрызнуцца
**warkocz** *м.* каса (*прычоска*); ◊ ~ **komety** хвост каметы
**warkoczyk** *м.* коска (*прычоска*)
**warkot, ~u** *м.* грукат; гуркатанне; тарахценне; ~ **silnika** шум матора
**warkotać** *незак.* грукатаць; гуркатаць
**warować** *незак.* **1.** абумоўліваць, агаворваць; ~ **w umowie** агаворваць ва ўмове; **2.** сцерагчы, пільнаваць; **pies waruje** сабака пільнуе
**warownia** *ж.* крэпасць; цытадэль; цвердзь
**warowny** умацаваны; **gród** ~ умацаваная крэпасць; цвердзь
**wars** *м.* вагон-рэстаран
**warstwa** *ж.* **1.** слой, пласт; ~ **ozonowa** азонавы слой; **2.** праслойка; ~ **społeczna** сацыяльная праслойка
**warszawiak** *м.* варшавянін
**warszawianka** *ж.* варшавянка
**warszawski** варшаўскі
**warsztat, ~u** *м.* **1.** варштат; **2.** майстэрня; **~ty naprawy** рамонтныя майстэрні; **~ty okrętowe** суднарамонтныя верфі; **~t pracy** працоўнае месца; **3.** **~ty** *мн.* заняткі; майстар-клас; ◊ **mieć** *co* **na ~cie** працаваць над *чым*
**wart** варты, добры; ~ **pochwały** варты пахвалы; **artykuł ~ przeczytania** артыкул варты таго, каб яго пачытаць; ◊~ **Pac pałaca, a pałac Paca** адзін другога варты; абое рабое; два чаравікі пара
**war|ta** *ж.* варта; **stać na ~cie** стаяць на варце; **zmiana ~ty** змена варты
**wartki** борзды, шпаркі
**warto** варта; **nie ~** не варта
**wartościować** *незак.* ацэньваць
**wartościowanie** *н.* ацэнка
**wartościowość** *ж.* каштоўнасць, цэннасць
**wartościow|y** каштоўны, цэнны; **papiery ~e** цэнныя паперы
**wartoś|ć** *ж.* вартасць; **~ć wymienna** менавая вартасць; **~ć kaloryczna** каларыйнасць; **lecznicze ~ci** лекавыя якасці
**wartować** *незак.* стаяць на варце; вартаваць, пільнаваць
**wartownia** *ж.* вартаўнічая будка; вартоўня
**wartownik** *м.* вартавы; вартаўнік
**warun|ek, ~ku** *м.* **1.** умова; **~ki atmosferyczne** атмасферныя ўмовы; **~ki mieszkaniowe** жыллёвыя ўмовы; **~ki materialne** матэрыяльныя ўмовы; **pod ~kiem** пры ўмове; **2.** **~ki** *мн.* дадзеныя; **~ki zewnętrzne** знешнія дадзеныя
**warunkować** *незак.* абумоўліваць
**warunkowo** умоўна
**warunkowość** *ж.* умоўнасць
**warunkowy** умоўны; **tryb ~** *грам.* умоўны лад
**warząchew** *м.* апалонік
**warzelnia** *ж.* варніца; ~ **soli** саляварня
**warzyć** *незак.* **1.** *уст.* варыць; ~ **piwo** варыць піва; **2.** псаваць
**warzyć się** *незак.* **1.** *уст.* варыцца; **2.** (*пра малако*) адкіпаць; **3.** псавацца
**warzywa** *ж.* (а)гародніна
**warzywnictwo** *н.* (а)гародніцтва
**warzywnicz|y** агародніцкі; **przemysł ~y** агародніцтва; **sklep ~y** агародніна; магазін (крама) агародніны; **mieszanka ~a** сумесь з агародніны
**warzywnik** *м.* агарод; агародны ўчастак
**warzywny 1.** агародны; **ogród ~** агарод; **2.** агароднінны; **sklep ~** агароднінная крама
**wasal** *м. гіст.* васал
**wasz** ваш
**waszmość** *м.* вашамосць; васпан
**waśnić** *незак. уст.* выклікаць разлад; сварыць
**waś|ń** *ж.* звадка; сварка, спрэчка, нелады, нязгода, непрыязнасць; **rodzinne ~nie** сямейныя сваркі
**wat** *м. эл.* ват



**wata** *ж.* вата; ◊ ~ **informacyjna** інфармацыя дзеля запаўнення месца ў выданні; вада
**wataha** *ж.* шайка, банда, ватага
**watażka** *ж.* важак, верхавод
**watka** *ж.* ватны тампон; шматок ваты
**watolin|a** *ж.* вацін; **płaszcz na ~ie** паліто (плашч) на ваціне
**watować** *незак.* падбіваць ватай; рабіць на ваце
**watowany** ватовы, на ваце
**watowy** ватны
**watówka** *ж.* ватоўка
**wawrzyn, ~u** *м.* **1.** *бат.* лаўр (*Laurus L.*); **2.** **~y** *мн.* лаўры; **~y poetyckie** паэтычныя лаўры; ~ **sławy** вянок славы; лаўровы вянок
**wawrzynowy** лаўровы
**waza** *ж.* **1.** ваза; ~ **marmurowa** мармуровая ваза; **2.** міска (*звычайна супавая*)
**wazelina** *ж.* вазелін
**wazeliniarz** *м. разм.* падхалім; падлізнік
**wazon, ~u** *м.* вазон
**ważenie** *н.* узважванне
**ważka** *ж.* **1.** *заал.* страказа; **2.** шаля вагаў
**ważki 1.** важкі, важны, значны, сур'ёзны; ~ **argument** важкі аргумент; **2.** *уст.* цяжкі
**ważkość** *ж.* важкасць, важнасць, значнасць
**ważność** *ж.* **1.** важнасць, важкасць, значнасць; ~ **sprawy** важнасць справы; **2.** *юр.* законная сіла, сапраўднасць; ~ **dokumentu** *юр.* сапраўднасць дакумента; ~ **biletu** сапраўднасць білета
**ważn|y 1.** важны, значны; **~a rola** важная роля; **2.** *юр.* сапраўдны (*пра дакумент*)
**ważyć** *незак.* **1.** узважваць, важыць; **2.** важыць (мець вагу); **3.** узважваць, абдумваць; ~ **każde słowo** узважваць кожнае слова
**waż|yć się** *незак.* **1.** узважвацца; **2.** наважвацца, насмельвацца; **ani mi się ~!** нават і не думай!, не смей!; **3.** вырашацца; **~ą się losy** вырашаецца лёс
**wąchacz** *м. жарг.* наркаман; нюхач
**wąchać** *незак.* нюхаць
**wądół, ~ołu** *м.* роў; лагчына; лог
**wągier** *м.*; *гл.* **wągr**
**wąglik** *м. мед.* сібірская язва; вуглік
**wągr** *м.* **1.** *мед.* вугор; **2.** *заал.* фіна (*лічынка стужачнага чарвяка*)
**wągrowaty** вуграваты; рабы; з рабаціннем
**wąs** *м.* **1.** вус; **sumiaste ~y** пышныя вусы; **2.** вус, вусік, плецень; **3.** асцюк; ◊ **ma mleko pod ~em** малако на губах не абсохла; **nie każdy kąsa, co ~ami trząsa** не такі страшны чорт, як яго малююць
**wąsal** *м.* вусач
**wąsaty** вусаты
**wąsik** *м.* вусік; **pan z ~iem** мужчына з вусікамі
**wąski** вузкі, цесны; ~ **krąg znajomych** вузкае кола знаёмых; ◊ **~e gardło** вузкае месца
**wąsko** вузка
**wąskotaśmowy** вузкаплёначны
**wąskotorowy** вузкакалейны
**wąt|ek, ~ku** *м.* **1.** *тэкст.* уток; **2.** *перан.* нітка, матыў; **~ek opowiadania** сюжэт апавядання; **~ek rozmowy** матыў (нітка) размовы
**wątłość** *ж.* кволасць; хіласць; слабасць; слабы склад цела
**wątłusz** *м. заал.* траска (*Gadus morrhua L.*)
**wątł|y** кволы, змарнелы, хілы, чэзлы; **~e zdrowie** слабае здароўе; **~a roślinka** чэзлая раслінка
**wątpi|ć** *незак. o czym, w co* сумнявацца ў *чым*; ◊ **któż by w to ~ł** хто б сумняваўся; гэта несумненна
**wątpieni|e** *н.* сумненне; сумнеў; **bez ~a** без сумнення; несумненна
**wątpliwoś|ć** *ж.* **1.** сумненне; **mieć ~ci** мець сумненні, сумнявацца; **podać w ~ć** паставіць пад сумненне; **2.** сумніўнасць, няпэўнасць
**wątpliw|y** няпэўны; сумніўны; ◊ **to jest ~a przyjemność** гэта сумніўнае (няпэўнае) задавальненне
**wątrob|a** *ж.* печань; ◊ **mam to na ~ie** гэта ў мяне ў пячонцы сядзіць
**wątrobianka** *ж.* вантрабянка; сальцісон
**wątróbka** *ж. кул.* пячонка

**wąw|óz, ~ozu** *м.* цясніна, яр
**wąż** *м.* **1.** змяя; **2.** рукаў, кішка, шланг; ~ **gumowy** гумавы шланг; ◊ **mieć węża w kieszeni** скнарнічаць, скупіцца
**wbić** *зак.* **1.** убіць; **2.** усадзіць, уваткнуць, утыкнуць; **3.** *перан.* удзяўбці, убіць; ~ **w głowę** удзяўбці ў галаву
**wbić się** *зак.* улезці; ~ **się w pamięć** засесці ў памяці
**wbiec** *зак.* **1.** убегчы, забегчы; ~ **do pokoju** забегчы ў пакой; **2.** узбегчы
**wbiegać** *незак.* **1.** убягаць, забягаць; **2.** узбягаць
**wbijać** *незак.* **1.** убіваць, забіваць; **2.** *перан.* удзёўбваць, убіваць
**wbijać się** *незак.* улазіць, упівацца (*у што*)
**wbrew** *(czemu)* насуперак, супраць, супроць; нягледзячы (*на што*), не зважаючы (*на што*); ~ **oczekiwaniom** насуперак спадзяванням; ~ **mojej woli** насуперак майму жаданню
**wbudowany** убудаваны
**wbudowywać** *незак.* убудоўваць
**wcale** зусім; ~ **tam nie byłem** я там зусім не быў; ~ **dobrze wygląda** зусім (цалкам) добра выглядае; ~ **ładna** прыгожая; ◊ ~ ~ *разм.* нішто сабе; нічога сабе
**wchłaniać** *незак.* **1.** паглынаць, упіваць, усмоктваць; ~ **wiedzę** паглынаць веды; **2.** удыхаць
**wchłanianie** *н.* паглынанне, усмоктванне
**wchłonąć** *зак.* **1.** увабраць, усмактаць, паглынуць; **2.** удыхнуць
**wchodzi|ć** *незак.* **1.** уваходзіць; **~ć** *z kim* **w umowę** прыходзіць да пагаднення *з кім*; **ustawa ~ w życie** закон уваходзіць у сілу; **2.** падымацца, узыходзіць; ~ **po schodach** падымацца па лесвіцы; **3.** (*пра мора, сушу*) урэзвацца, укліньвацца, выступаць; **4.** уваходзіць, змяшчацца; ◊ **~ć** *komu* **w drogę** заступаць *каму* дарогу; ~ **w szczegóły** паглыбляцца ў падрабязнасці (дэталі)
**wch|ód, ~odu** *м.* уваход
**wciąć** wetnę, wetnie *зак.* **1.** урэзаць; **2.** павузіць; **3.** *разм.* умяць, з'есці
**wciągać** *незак.* **1.** уцягваць, зацягваць; **2.** нацягваць; **3.** (*na co, do czego*) заносіць, уключаць (*у што*); **4.** (*do czego, w co*) уцягваць, залучаць, далучаць
**wciągać się** *незак.* уцягвацца
**wciągnąć** *зак.* уцягнуць
**wciągnąć się** *зак.* уцягнуцца; ~ **się w palenie** уцягнуцца ў курэнне; прывыкнуць да цыгарэт; ~ **się do pracy** уцягнуцца ў працу
**wciąż** заўсёды, стала, пастаянна, увесь час; ~ **to samo** увесь час адно і тое ж; ~ **gada i gada** усё гаворыць і гаворыць; ~ **się spóźnia** ён увесь час (заўсёды) спазняецца
**wcielać** *незак.* **1.** уключаць, далучаць; **2.** увасабляць, ажыццяўляць, рэалізоўваць
**wcielać się** *незак.* **1.** увасабляцца, ажыццяўляцца; рэалізоўвацца; **2.** пераўвасабляцца
**wcielenie** *н.* **1.** уключэнне, далучэнне; **2.** увасабленне, ажыццяўленне, рэалізацыя
**wcielić** *зак.* **1.** уключыць; ~ **do swego państwa** уключыць у склад сваёй дзяржавы; **2.** увасобіць, ажыццявіць; здзейсніць; ~ **w życie** ажыццявіць; ~ **zamiar w czyn** ажыццявіць намер; ◊ ~ **do wojska** а) уключыць у склад войска б) прызваць у войска
**wcielić się** *зак.* **1.** увасобіцца, ажыццявіцца; рэалізавацца; **2.** пераўвасобіцца
**wcielony 1.** увасоблены, ажыццёўлены; рэалізаваны; **2.** увасоблены, сапраўдны
**wcierać** *незак.* уціраць
**wcieranie** *н.* уціранне
**wcięcie** *н.* **1.** зарубка, засечка; **2.** талія
**wcięty** падагнаны да таліі
**wcinać** *незак.* **1.** урэзваць, усякаць; **2.** (*адзенне*) вузіць; **3.** *паліг.* рабіць водступ; **4.** *разм.* умінаць, есці
**wcinać się** *незак.* урэзвацца, укліньвацца
**wciskać** *незак.* **1.** уціскаць, уціскваць; **2.** нацягваць
**wciskać się** *незак.* уціскацца, уціскваццa, праціскваццa



**wcisnąć** *зак.* **1.** уціснуць; **2.** нацягнуць; **3.** *do czego* выціснуць *у што*
**wcisnąć się** *зак.* **1.** уціснуцца; **2.** праціснуцца, пралезці
**wczasowicz** *м.* той, хто адпачывае (знаходзіцца ў адпачынку); курортнік
**wczasy** *мн.* **1.** адпачынак (*на курорце, у санаторыі*); ~ **lecznicze** адпачынак у санаторыі; **skierowanie na** ~ пуцёўка на курорт (у дом адпачынку); **2.** вольны час
**wczepić się** *зак.* учапіцца
**wczesn|y** ранні; **~a godzina** ранняя гадзіна; **~e owoce** ранняя садавіна, раннія фрукты; **~ym rankiem** раніцай; на золку; на світанні; **~y poród** дачасныя роды
**wcześniak** *м.* неданошанае дзіця; неданосак
**wcześnie** рана; **obudzić się** ~ рана прачнуцца; ~ **wrócić z pracy** рана вярнуцца з працы; **nie ~j niż za godzinę** не раней, чым праз гадзіну; **dużo ~j** нашмат раней
**wcześniejszy** ранейшы
**wczołgać się** *зак.* запаўзці, упаўзці
**wczoraj 1.** учора; ~ **był wtorek** учора быў аўторак; **2.** *нескл. н.* учарашні дзень; учора; ~ **było podobne do dziś** учора было падобнае на сёння; учарашні дзень быў падобны на сённяшні; **od** ~ з учарашняга дня
**wczorajsz|y** учарашні; **~a gazeta** учарашняя газета
**wczuć się** *зак.* адчуць; успрыняць пачуццём
**wczuwać się** *незак.* адчуваць; успрымаць пачуццём
**wczytać się** *зак.* учытацца
**wczytywać się** *незак.* учытвацца
**wda|ć się** *зак.* **1.** узяць удзел; далучыцца; умяшацца; увязацца; ублытацца; **~ć się w rozmowę** умяшацца ў размову; **2.** звязацца; **~ł się w złe towarzystwo** ён звязаўся з дрэннай кампаніяй; **3.** прывязацца; узнікнуць; узяцца; **~ła się gangrena** пачалася гангрэна; **w ranę ~ła się ropa** рана загнаілася; **4.** удацца, урадзіцца; **~ć się w ojca** удацца ў бацьку
**wdarcie się** *н.* уварванне, умяшанне
**wda|wać się** *незак.* **1.** *w co* браць удзел *у чым*; далучацца *да чаго*; умешвацца; уступаць; увязвацца; ублытвацца *у што*; **~wać się w spór** умешвацца ў спрэчку; **2.** (*z kim*) звязвацца (*з кім*); **3.** удавацца *ў што*; паглыбляцца *ў што*; ◊ **z kim się ~jesz, takim się stajesz** з кім спазнаешся, такім станеш; ліхая хеўра на ліха выведзе
**wdech, ~u** *м.* удых; **zrobić** ~ зрабіць удых
**wdepnąć** *зак.* **1.** улезці; увайсці; **2.** *do kogo* зайсці, забегчы *да каго*; **3.** *разм.* укляпацца, уліпнуць, ублытацца
**wdeptać** *зак.* утаптаць
**wdeptywać** *незак.* утоптваць
**wdławić** *зак.* уціснуць, упіхнуць
**wdmuchiwać** *незак.* удзімаць
**wdmuchnąć** *зак.* удзьмуць
**wdowa** *ж.* удава
**wdowi** удовін; ◊ **grosz** ~ удовін грош
**wdowiec** *м.* удавец
**wdówka** *ж. разм.* удава; ◊ **ciepła** ~ *жарт.* багатая ўдава
**wdrapać się** *зак.* узлезці, ускараскацца
**wdrapywać się** *незак.* узлазіць, караскацца
**wdrażać** *незак.* **1.** *do czego* навучаць, прывучаць; **2.** пачынаць; заводзіць (*справу і да т.п.*); ~ **śledztwo** пачынаць следства
**wdrażać się** *незак. do czego* прывучацца, прызвычайвацца, уцягвацца
**wdrożyć** *зак.* **1.** прывучыць, прызвычаіць; **2.** узбудзіць (*справу і да т.п.*)
**wdrożyć się** *зак.* **1.** *do czego* прывучыцца, прызвычаіцца *да чаго*, уцягнуцца *ў што*; ~ **się do pracy** уцягнуцца ў працу; **2.** запасці, засесці
**wdychać** *незак.* удыхаць
**wdygować** *зак.* зацягнуць, завалачы (*нешта цяжкае)*
**wdziać** *зак.* **1.** надзець, апрануць, абуць; ~ **pantofle** надзець (абуць) туфлі; ~ **rękawiczki** надзець пальчаткі; **2.** уцягнуць, зацягнуць

**zacerować** *зак.* зацыраваць
**zachcianka** *ж.* прыхамаць; капрыз
**zachcieć** *зак.* захацець; пажадаць
**zachci|eć się** *зак.* захацецца; пажадацца; **~ało mu się...** яму захацелася...
**zachciewać się** *незак.* хацецца; жадацца
**zachciewajki** *мн. разм.* прышчыкі (*на твары*)
**zachęcać** *незак.* заахвочваць; падбадзёрваць; асмельваць
**zachęcając|y** заахвочвальны; які падбадзёрвае; шматабяцальны; прывабны; **~e okrzyki** заахвочвальныя воклічы; **~y uśmiech** шматабяцальная ўсмешка; **~e perspektywy** прывабныя перспектывы
**zachęcić** *зак.* заахвоціць; падбадзёрыць; асмеліць
**zachęt|a** *ж.* заахвочванне; падбадзёрванне; **słowa ~y** словы падтрымкі
**zachlapać** *зак.* запырскаць, заляпаць, запэцкаць, захлюпаць
**zachłanność** *ж.* **1.** ненаеднасць; ненасытнасць; прагнасць; **2.** *уст.* бездань; прадонне; прорва
**zachłanny 1.** ненаедны; ненасытны; прагны; **~ na pieniądze** прагны да грошай; **2.** *уст.* бяздонны
**zachłysnąć się** *зак.* захліпнуцца; папярхнуцца
**zachmurzać** *незак.* хмурыць
**zachmurzać się** *незак.* **1.** пакрывацца (зацягвацца) хмарамі; **2.** *перан.* хмурыцца; азмрочвацца
**zachmurzenie** *н.* воблачнасць; **~ zmienne** пераменная воблачнасць
**zachmurzony 1.** пахмурны; хмурны; хмарны; **2.** *перан.* хмуры; засмучаны; азмрочаны
**zachmurzyć** *зак.* нахмурыць; **~ czoło** нахмурыць лоб
**zachodni** заходні
**zachodnioeuropejski** заходнееўрапейскі
**zachodz|ić** *незак.* **1.** заходзіць; **~ić z boku (od tyłu)** заходзіць, падыходзіць збоку (ззаду); **2.** заходзіць; наведваць; **3.** *czym* пакрывацца; зацягвацца; **4.** адбывацца; здарацца; узнікаць; **~ą wypadki** здараюцца авары; **~i pytanie** узнікае пытанне; **~i różnica** ёсць розніца; **nie ~i potrzeba** няма патрэбы
**zachorować** *зак.* **1.** *на со* захварэць *на што*; **~ na gruźlicę** захварэць на сухоты; **2.** *разм. перан.* кранулца *на чым*
**zachorowa|nie** *н.* захворванне; **liczba ~ń** колькасць захворванняў
**zachowa|ć** *зак.* **1.** захаваць; зберагчы; **~ć dla siebie** захаваць для сябе; **~ć miarę** ведаць меру; **~ć równowagę** захаваць раўнавагу; **~j Boże!** крый, Божа!; Божа, барані!
**zachować się** *зак.* **1.** захавацца; ацалець; **~ się przy życiu** застацца ў жывых; ацалець; **2.** трымаць сябе; **on nie umie ~ się w towarzystwie** ён не ўмее трымаць сябе сярод людзей
**zachowani|e** *н.* **1.** захаванне; **zasada ~a energii** *фіз.* закон захавання энергіі; **2.** паводзіны; **stopień z ~a** адзнака за паводзіны
**zachowawcz|y** кансерватыўны; **stronnictwa ~e** кансерватыўныя партыі; **instynkt ~y** інстынкт самазахавання
**zachowywać** *незак.* **1.** захоўваць; зберагаць; **2.** выконваць; **~ środki ostrożności** выконваць меры засцярогі
**zach|ód, ~odu** *м.* **1.** захад; **kierować się na ~ód** накіроўвацца на захад; **2.** захад; **~ód słońca** захад сонца; **o ~odzie** на закаце; **3.** *часцей мн.* **~ody** намаганні; старанні; клопаты; захады; **daremne ~ody** дарэмныя (марныя) намаганні (старанні; клопаты; захады); ◊ **za jednym ~odem** адным махам
**zachrapać** *зак.* захрапець
**zachrobotać** *зак.* захрабусцець; зашкрабацца
**zachrypnąć** *зак.* ахрыпнуць
**zachrypnięty** ахрыплы
**zachwalać** *незак.* расхвальваць; захвальваць
**zachwalić** *зак.* захваліць
**zachwaszczać** *незак.* даваць разрастацца пустазеллю
**zachwaszczony** зарослы пустазеллем



**zachwiać** *зак.* **1.** пахіснуць; захістаць; **~ zaufanie** пахіснуць давер
**zachwiać się** *зак.* пахіснуцца; закалыхацца; забалансаваць; **~ się na nogach** пахіснуцца; **2.** *перан.* завагацца; засумнявацца
**zachwycać** *незак.* захапляць; зачароўваць
**zachwycać się** *незак.* захапляцца; зачароўвацца
**zachwycający** захапляльны; чароўны
**zachwycenie** *н.* захапленне
**zachwycić** *зак.* захапіць; зачараваць
**zachwycić się** *зак.* захапіцца; зачаравацца
**zachwycony** захоплены; зачараваны; **on jest ~** ён у захапленні
**zachwyt, ~u** *м.* захапленне; **budzić ~** выклікаць захапленне
**zaciąć** *зак.* **1.** парэзаць, параніць; уцяць; **~ sobie palec** парэзаць [сабе] палец; **2.** надрэзаць; зрабіць знак; **3.** завастрыць; **~ patyk** завастрыць палку; **4.** укалоць; куснуць; уджаліць; **5.** сціснуць; сцяць; **~ usta (wargi)** сцяць вусны
**zaci|ąć się** *зак.* **1.** парэзацца; параніцца; **~ się nożem** парэзацца (параніцца) нажом; **2.** заўпарціцца; уперціся; занаравіцца; занатурыцца; **5.** зашчаміцца; заклініцца; **silnik się ~ł** матор заглух
**zaciąg, ~u** *м.* набор; вярбоўка; прызыў; **~ do wojska** набор у войска
**zaciągać** *незак.* **1.** зацягваць; **2.** вербаваць; **3.** зацягваць; пакрываць
**zaciąga|ć się** *незак.* **1.** зацягвацца; **niebo się ~ chmurami** неба зацягваецца (пакрываецца) хмарамі; **2.** вербавацца; уступаць
**zaciągnąć** *зак.* **1.** зацягнуць; **2.** завербаваць; **~ dług (pożyczkę)** узяць пазыку; пазычыць
**zaciągnąć się** *зак.* **1.** зацягнуцца; **2.** зацягнуцца; пакрыцца; **3.** уступіць, паступіць; завербавацца; **4.** зацягнуцца; **~ się papierosem** зацягнуцца папяросай
**zaciążyć** *зак.* абцяжарыць
**zaciec** *зак.* зацячы
**zacieka|ć** *незак.* зацякаць; працякаць; **dach ~** дах працякае
**zaciekawiać** *незак.* зацікаўліваць; выклікаць цікавасць (інтарэс)
**zaciekawiać się** *незак. czym* зацікаўлівацца *чым*
**zaciekawić** *зак.* зацікавіць
**zaciekawić się** *зак.* зацікавіцца
**zaciekawienie** *н.* зацікаўленасць; інтарэс; цікавасць; **wywołać ~** выклікаць інтарэс (цікавасць)
**zaciekłość** *ж.* лютасць; упартасць; азвярэнне; раз'юшанасць
**zaciekł|y** люты; раз'юшаны; упарты; **~a walka** упартае змаганне; **~a nienawiść** лютая нянавісць; **~y wróg** люты вораг
**zaciemniać** *незак.* **1.** зацямняць; **2.** *перан.* заблытваць; туманіць; ускладняць
**zaciemnić** *зак.* **1.** зацямніць; **2.** *перан.* заблытаць; затуманіць; ускладніць
**zaciemnienie** *н.* **1.** зацямненне; **2.** ускладненне
**zacieniać** *незак.* зацяняць
**zacienić** *зак.* зацяніць
**zacierać** *незак.* **1.** заціраць; сціраць; **~ ślady** замятаць сляды; **2.** *перан.* затушоўваць; згладжваць
**zacierać się** *незак.* **1.** заціраціа; **2.** *перан.* згладжвацца
**zacierk|i** *мн.* (*адз.* **~a** *ж.*) зацірка
**zacieśniać** *незак.* **1.** звужаць; **2.** умацоўваць; **~ stosunki** умацоўваць адносіны (стасункі)
**zacieśnić** *зак.* **1.** звузіць; **2.** умацаваць
**zacietrzewić się** *зак. разм.* ускіпець; расхадзіцца; разгарачыцца
**zacięcie**[1] *н.* **1.** запал; гарачнасць; **mówić z ~m** гаварыць з запалам; **2.** упартасць; настойлівасць; **3.** (*пра машыну*) непаладка
**zacięcie**[2] упарта; настойліва, зацята
**zaciętość** *ж.* упартасць, зацятасць
**zacięty** упарты; настойлівы; зацяты; **~ opór** упартае супраціўленне; **~ wyraz twarzy** упарты выраз твару
**zaciężnik** *м. уст.* наёмнік
**zaciężn|y** *уст.* наёмны; **wojska ~e** наёмныя войскі

**zacinać** *незак.* надразаць; надсякаць; завастраць; сціскаць
**zacinać się** *незак.* 1. раніць сябе; 2. упарціцца; 3. заядаць; перакошвацца; зашчамляцца
**zacisk, ~u** *м.* заціскачка; заціск, кляшчотка
**zaciskać**[1] *незак.* заціскаць; сціскаць
**zaciskać**[2] *незак. уст.* заціскаць; сціскаць
**zacisnąć** *зак.* заціснуць; сціснуць; сцяць; ~ **zęby** сцяць зубы; ~ **pięści** сціснуць кулакі
**zacisze** *н.* заціша
**zaciszny** зацішны; ціхі
**zacność** *ж.* сумленнасць
**zacn|y** *кніжн.* сумленны; высакародны; добры; слаўны; **~a dusza** высакародная душа; **~a staruszka** добрая (слаўная) бабулька; **~y wiek** паважны ўзрост (век)
**zacofanie** *н.* адсталасць; коснасць; ~ **gospodarcze** эканамічная адсталасць
**zacofaniec** *м. разм.* адсталы (косны) чалавек
**zacofan|y** адсталы; косны; **kraje ~e gospodarczo** адсталыя краіны
**zaczadzeni|e** *н.* чад; **ulec ~u** учадзець
**zaczadzieć** *зак.* учадзець
**zaczaić się** *зак.* прытаіцца; затаіцца; схавацца
**zaczarować** *зак.* зачараваць; заваражыць
**zaczarowan|y** зачараваны; заварожаны; **~e koło** зачараванае кола; **słuchał jak ~y** ён слухаў як зачараваны
**zaczą|ć** *зак.* пачаць; распачаць; **~ć mówić** пачаць гаварыць; загаварыць; **~ł dwudziesty rok życia** яму пайшоў дваццаты год
**zacz|ąć się** *зак.* пачацца; распачацца; **od tego się wszystko ~ęło** з гэтага ўсё пачалося
**zaczą|tek, ~tku** *м.* зачатак; пачатак
**zaczątkowy** зачаткавы; зародкавы
**zaczekać** *зак. na kogo/co* пачакаць *каго/чаго*
**zaczepiać** *незак.* 1. чапляць; вешаць; ~ **na haku** чапляць на крук; 2. *kogo разм.* чапляцца *да каго*
**zaczepiać się** *незак.* чапляцца; зачэплівацца
**zaczepić** *зак.* 1. зачапіць; ~ **za hak** зачапіць за крук; 2. *kogo разм.* загаварыць *з кім*; звярнуцца *да каго*; прычапіцца *да каго*
**zaczepić się** *зак.* зачапіцца
**zaczepka** *ж. разм.* 1. зачэпка; 2. прыдзірка
**zaczepn|y** наступальны; **działania ~e** наступальныя дзеянні; 2. задзірлівы; агрэсіўны; **~y ton** задзірлівы тон
**zaczerpnąć** *зак.* 1. зачэрпнуць; ~ **wody ze studni** зачэрпнуць вады са студні; 2. *перан.* пачарпнуць, узяць; запазычыць; пераняць; ~ **wiadomości** пачарпнуць звесткі; ~ **sił** набрацца сіл; ~ **powietrza (tchu)** глынуць паветра
**zaczerwienić się** *зак.* пачырванець; запунсавець; ~ **się ze wstydu** пачырванець ад сораму
**zaczesać** *зак.* зачасаць; ~ **włosy do tyłu** зачасаць валасы назад
**zaczesać się** *зак.* зачасацца; ~ **się gładko** гладка зачасацца
**zaczyn, ~u** *м.* 1. рошчына; 2. *перан.* зародак; крыніца
**zaczyna|ć** *незак.* пачынаць; распачынаць; **~ć pracę** пачынаць працу; **deszcz ~ padać** пачынаецца дождж; ~ **być nieprzyjemnie** становіцца непрыемна; **nie ~j z nim** не чапай ты яго; не звязвайся з ім
**zaczynać się** *незак.* пачынацца
**zaczytać się** *зак.* зачытацца
**zaczytywac** *незак.* зачытваць
**zaczytywac się** *незак.* зачытвацца
**zaćma** *ж. мед.* катаракта
**zaćmi|ć** *зак.* 1. зацямніць; 2. *перан.* зацьміць; перасягнуць; **~ć kogo urodą (sławą)** перасягнуць *каго* прыгажосцю (славай); 3. *разм.* закурыць; **~ć fajkę** закурыць люльку; 4. заныць; **~ł ząb** заныў зуб
**zaćmienie** *н.* 1. *астр.* зацьменне; ~ **słońca** сонечнае зацьменне; ~ **księżyca** зацьменне месяца; 2. зацямненне; ~ **umysłu** зацямненне розуму



**zaćmiewać** *незак.* 1. зацямняць; 2. *перан.* зацьмяваць; асляпляць; зачароўваць
**zad, ~u** *м.* зад; ~ **koński** круп
**zadać** *зак.* 1. задаць, даць; ~ **lekcję** задаць урок; ~ **pytanie** задаць пытанне; ~ **koniom owsa** даць коням аўса; 2. *разм.* паддаць; падняць; ~ **worek na plecy** дапамагчы (пасобіць) узваліць мяшок на спіну; 3. нанесці; прычыніць; ~ **cios** нанесці ўдар; ◊ ~ **bobu** *разм.* задаць перцу; ~ **szyku** *разм.* задаць шыку; шыкануць; ~ **szyku w nowym garniturze** шыкануць (задаць шыку) у новым касцюме; ~ **sobie gwałt (przymus)** прымусіць (змусіць) сябе; ~ **sobie fatygę (trud)** задаць сабе працы
**zadani|e** *н.* задача; заданне; урок; **rozwiązać ~e** рашыць задачу; **wykonać ~e** выканаць задачу; **wywiązać się z ~a** справіцца з задачай; **~e domowe** хатняе заданне
**zadarty** 1. задзёрты; ~ **ogon** задзёрты хвост; 2. кірпаты; ~ **nos** кірпаты нос
**zadat|ek, ~ku** *м.* 1. задатак; залог; абяцанне; **dać ~ek** даць задатак; **~ek przyjaźni** залог сяброўства; 2. *часцей мн.* **~ki** задаткі; **wrodzone ~ki** прыродныя задаткі
**zadawać** *незак.* 1. задаваць, даваць; падаваць; 2. наносіць; прычыняць; 3. *уст.* даваць задатак
**zadawać się** *незак.* звязвацца; ублытвацца, уцягвацца
**zadawnion|y** застарэлы, запушчаны; даўні; **~a choroba** застарэлая хвароба; **~e spory** даўнія (старыя) спрэчкі
**zadąć** *зак.* задзьмуць; затрубіць; задудзець; ~ **w trąbę** заіграць (задудзець) на трубе
**zadąsany** надзьмуты; пакрыўджаны; незадаволены
**zadbać** *зак. o kogo/co* паклапаціцца *пра каго/што*
**zadban|y** дагледжаны; чысты; акуратны; **~e dzieci** дагледжаныя дзеці
**zadeklamować** *зак.* прадэкламаваць; пачаць дэкламаваць
**zadeklarować** *зак.* аб'явіць; абвясціць; заявіць; ~ **swój udział w** *czym* заявіць пра свой удзел у *чым*
**zademonstrować** *зак.* прадэманстраваць; пачаць дэманстраваць
**zadenuncjować** *зак. kogo* данесці *на каго*; выдаць *каго*
**zadeptać** *зак.* затаптаць; ~ **niedopałek** затаптаць недакурак
**zadławić** *зак.* задушыць, удавіць
**zadławić się** *зак.* задушыцца; падавіцца; задыхнуцца
**zadłużać się** *незак.* завінавачвацца; рабіць даўгі
**zadłużenie** *н.* запазычанасць; **zlikwidować** ~ пагасіць запазычанасць
**zadłużony** абцяжараны даўгамі; які завінаваціўся (нарабіў даўгоў); **jestem ~ po uszy** я ў даўгах па вушы
**zadłużyć się** *зак.* завінаваціцца; нарабіць даўгоў; ~ **się po uszy** улезці па вушы ў даўгі
**zadma** *ж. уст.* завіруха, замець, кудаса
**zadmucha|ć** *зак.* 1. задзьмуць; падзьмуць; **~ł wiatr** падзьмуў вецер; 2. задзьмуць, патушыць; **~ć świecę** задзьмуць свечку
**zadni** задні
**zadokumentować** *зак.* паказаць, праявіць; пацвердзіць; ~ **solidarność** праявіць (прадэманстраваць) салідарнасць
**zadomowić się** *зак.* 1. абжыцца; завесці гаспадарку; 2. прыжыцца; прывыкнуць; 3. *уст.* стаць дамаседам
**zadośćuczynić** *зак. komu/czemu* задаволіць *каго/што*
**zadośćuczynienie** *н.* задавальненне; кампенсацыя; ~ **za krzywdy** пакрыццё (аплата) страт
**zadowalać** *незак.* задавальняць; здавальняць; дагаджаць
**zadowalać się** *незак.* задавальняцца; здавальняцца; ~ **się małym** задавольвацца малым
**zadowalając|y** здавальняючы; **~e wyniki** здавальняючыя вынікі; **w ~ym stopniu** у дастатковай ступені

**zadowoleni|e** *н.* задавальненне; **~e moralne** маральнае задавальненне; **uśmiech ~a** задаволеная ўсмешка; **~e z siebie** самазадавальненне

**zadowolić** *зак.* задаволіць; дагадзіць; **trudno wszystkich ~** усім цяжка дагадзіць

**zadowolić się** *зак.* задаволіцца

**zadowolon|y** задаволены; **~a mina** задаволены твар

**zadra** *ж.* завусеніца; стрэмка; скабка; **~ weszła w palec** у палец улезла стрэмка

**zadrapać** *зак.* падрапаць; абдзерці; драпнуць

**zadrapanie** *н.* драпіна

**zadrapnąć** *зак.*; *гл.* **zadrapać**

**zadrapnięcie** *н.* драпіна

**zadrasn|ąć** *зак.* **1.** крыху абдзерці; драпнуць; **kula ~ęła** куля злёгку зачапіла (драпнула); **2.** *пераи.* абразіць; зачапіць; закрануць; **~ąć** *czyją* **ambicję** закрануць *чые* амбіцыі (*чыё* самалюбства)

**zadrasnąć się** *зак.* падрапацца; абдзерціся; парэзацца

**zadraśnięcie** *н.* драпіна; парэз

**zadrażniać** *незак.* **1.** раздражняць; **2.** *перан.* псаваць; пагаршаць; **~ stosunki** пагаршаць адносіны

**zadręczyć** *зак.* замучыць

**zadręczyć się** *зак.* замучыць сябе; замучыцца

**zadrgać** *зак.* задрыжаць; затрымцець

**zadrwić** *зак. z kogo/czego* насмяяцца, пажартаваць, пакпіць *з каго/чаго*

**zadrzemać** *зак.* задрамаць

**zadrżeć** *зак.* **1.** падзерці; парваць; **2.** задзерці; падняць; **~ ogon** задзерці хвост; **3.** *перан.* пасварыцца; задзерціся з кім; **~ z kierownictwem** не паладзіць з начальствам; ◊ **~ brodę** *уст.* задзерці бараду; хвост адкінуць

**zadrż|eć** *зак.* задрыжаць; здрыгануцца; **~ałem na samą myśl o tym** я здрыгануўся ад адной думкі пра гэта

**zaduch, ~u** *м.* духата, спёртае паветра, задуха

**zadufać się** *зак.* заганарыцца; зазнацца

**zadufały**; *гл.* **zadufany**

**zadufany** саманадзейны, самаўпэўнены; пыхлівы; фанабэрысты; мардапышны

**zadufek** *м. разм.* саманадзейны чалавек; ганарлівец; задавака

**zadum|a** *ж.* задуменнасць; задумлівасць; роздум; **wpaść w ~ę** упасці ў задуменнасць; задумацца

**zadumać się** *зак.* аддацца думкам (марам); задумацца

**zadumanie** *н.* задуменнасць; роздум

**zadumany** задуменны; паглыблены ў роздум (мары)

**zadupie** *н. разм. вульг.* глухамань, глуш, запуцце, захалдык

**zadurzyć** *зак.* **1.** ап'яніць, адурманіць; **2.** *kogo разм.* закружыць галаву *каму*

**zadurzyć się** *зак.* закахацца; утрэскацца; укляпацца

**zadusić** *зак.* задушыць, удушыць; удавіць

**zadusić się** *зак.* **1.** удушыцца; удавіцца; **2.** задыхнуцца

**zaduszenie** *н.* удушэнне

**Zaduszki** *мн. рэл.* Дзяды

**zaduszn|y** *рэл.* памінальны; **obrząd ~y** памінальны абрад; **msza ~a** памінальная служба (імша); **dzień ~y**; *гл.* **Zaduszki**

**zadygotać** *зак.* задрыжаць; закалаціцца; затрэсціся; затрымцець

**zadymić** *зак.* **1.** задыміць; напоўніць дымам; **~ pokój** задыміць пакой; **2.** задыміць, пачаць дыміць; прыкрыць дымавою заслонаю

**zadymić się** *зак.* задыміцца

**zadymion|y 1.** задымлены, напоўнены дымам; **2.** дымчаты; матавы; **szkło ~e** матавае шкло

**zadymka** *ж.* мяцеліца; завіруха; завея; шугавея

**zadysponować** *зак. czym* распарадзіцца *чым* (*аб чым*); даць распараджэнне *аб чым*; **~ obiad** распарадзіцца наконт абеду; заказаць (замовіць) абед; **~ pieniędzmi** распарадзіцца грашыма

**zadyszany** задыханы; запыханы

**zadyszeć się** *зак.* задыхацца; запыхацца



**zadyszka** *ж.* задышка

**zadziać** *зак. разм.* падзець; засунуць, закінуць

**zadziać się** *зак. разм.* падзецца; прапасці; загубіцца

**zadziera** *м. разм.* задзіра, зачэпа, забіяка, напаснік

**zadziera|ć** *незак.* **1.** задзіраць; **~ć nosa** задзіраць нос; зазнавацца; **2.** *z kim* задзіраць *каго*; пачынаць сварку *з кім*; **lepiej z nim nie ~j!** ты лепш яго не чапай!

**zadzierzgnąć** *зак.* завязаць, зацягнуць; зрабіць пятлю; ◊ **~ znajomość** завязаць знаёмства

**zadziobać** *зак.* задзяўбці

**zadziwiać** *незак.* здзіўляць; уражваць

**zadziwiając|y** здзіўляльны; які здзіўляе; надзвычайны; **~e podobieństwo** надзвычайнае падабенства

**zadziwić** *зак.* здзівіць; уразіць

**zadziwić się** *зак.* здзівіцца; уразіцца

**zadziwienie** *н.* здзіўленне; падзіў

**zadzwoni|ć** *зак.* **1.** зазваніць; зазвінець; **~ł telefon** зазваніў тэлефон; **2.** *do kogo* пазваніць, патэлефанаваць *каму*

**zadźgać** *зак.* закалоць, зарэзаць; **~ sztyletem** закалоць кінжалам

**zadźwięczeć** *зак.* загучаць; зазвінець

**zadźwigać** *зак.* зацягнуць; **~ na piętro** зацягнуць на другі паверх

**zadżdżon|y** дажджлівы; пахмурны; **~e niebo** пахмурнае неба

**zadżumiony** зачумлены

**zafajdać** *зак. груб.* загадзіць; запаскудзіць

**zafalowa|ć** *зак.* **1.** захваляваца; пакрыцца хвалямі; закалыхацца; **morze ~ło** мора захвалявалася

**zafałszować** *зак.* фальсіфікаваць; сказіць

**zafarbować** *зак.* зафарбаваць; пафарбаваць

**zafascynować** *зак.* захапіць; зачараваць; заваражыць

**zafasować** *зак.* атрымаць харчы

**zafastrygować** *зак.* зафастрыгаваць

**zafrapować** *зак.* уразіць; здзівіць

**zafrasować** *зак.* занепакоіць; патрывожыць; засмуціць

**zafrasować się** *зак.* занепакоіцца; патрывожыцца; засмуціцца

**zafrasowanie** *н.* засмучанасць; неспакой; трывога; смутак; заклапочанасць

**zafrasowan|y** занепакоены; патрывожаны; заклапочаны; засмучаны; журботны; **~a mina** заклапочаны выгляд

**zafundować** *зак. komu co разм.* купіць *каму што*; пачаставаць *каго чым*; **~ obiad** пачаставаць абедам; **~ kino** звадзіць у кіно; **~ sobie** купіць сабе *што*

**zafurczeć** *зак.* зашумець; загусці; загудзець

**zagadać** *зак.* **1.** *kogo разм.* загаварыць, пачаць гаварыць *з кім*; **2.** загаварыць *каго*; не даць слова сказаць *каму*

**zagadać się** *зак.* загаварыцца, забалбатацца

**zagadk|a** *ж.* загадка; **zadać ~ę** задаць (загадаць) загадку; **odgadnąć ~ę** разгадаць (адгадаць) загадку

**zagadkowość** *ж.* загадкавасць

**zagadkowy** загадкавы

**zagadnienie** *н.* пытанне, праблема; **rozwiązać ~** вырашыць пытанне; развязаць (вырашыць) праблему

**zagaić** *зак.* пачаць, адкрыць *(сход; з'езд і да т. п.)*; сказаць уступнае слова; **~ posiedzenie** адкрыць пасяджэнне

**zagajać** *незак.* пачынаць; адкрываць *(сход; з'езд і да т. п.)*; казаць уступнае слова

**zagajenie** *н.* **1.** пачатак; адкрыццё *(сход; з'езд і да т. п.)*; **2.** уступнае слова

**zagajnik** *м.* гай, гаёк, пералесак

**zaganiać** *незак.* заганяць

**zagapić się** *зак. разм.* загледзецца; зазявацца; зазерыцца

**zagarażować** *зак. разм.* паставіць у гараж

**zagarnąć** *зак.* **1.** загрэбці; зачэрпнуць; зачэрпаць; **~ wody** зачэрпнуць вады; **2.** падгарнуць; загарнуць; **~ rękawy** падгарнуць рукавы; **3.** захапіць *што*; завалодаць *чым*; **~ terytorium** захапіць (заняць) тэрыторыю; **~ władzę** захапіць уладу

**zagarniać** *незак.* **1.** заграбаць; зачэрпваць; **2.** загортваць; падгортваць; **3.** захопліваць; завалодваць

**zahartowan|y** загартаваны; ~**a stal** загартаваная сталь; ~**e dziecko** загартаванае дзіця

**zaheblować** *зак.* загабляваць

**zahuczeć** *зак.* **1.** загусці; зашумець; **2.** *разм.* зараўці, заплакаць, зарумзаць

**zahukać** *зак.* **1.** закрычаць; крыкнуць; **2.** запалохаць; зацюкаць

**zahukan|y** запалоханы; зацюканы; ~**e dziecko** запалоханае дзіця

**zaimek** *м. грам.* займеннік; ~ **osobowy** асабовы займеннік; ~ **dzierżawczy** прыналежны займеннік; ~ **wskazujący** указальны займеннік; ~ **względny** адносны займеннік; ~ **pytajny** пытальны займеннік; ~ **zwrotny** зваротны займеннік

**zaimkowy** *грам.* займенны

**zaimponować** *зак.* выклікаць павагу; зрабіць ураженне; выклікаць сімпатыю (інтарэс); **chciał** ~ ён хацеў зрабіць ураженне (здзівіць)

**zainicjować** *зак. co* выступіць ініцыятарам (пачынальнікам) *чаго*; пакласці пачатак *чаму*

**zainkasować** *зак.* (*грошы*) інкасаваць; атрымаць; ~ **cios** *спарт.* атрымаць удар

**zainscenizować** *зак.* інсцэніраваць

**zainspirować** *зак. kogo do czego* натхніць *каго на што*; інспіраваць *што*

**zainstalować** *зак.* устанавіць; зманціраваць; абсталяваць; інсталяваць; правесці; ~ **turbinę** устанавіць турбіну; ~ **gaz** правесці газ

**zainstalować się** *зак.* размясціцца; уладзіцца; уладкавацца; прыстроіцца

**zainteresować** *зак.* зацікавіць

**zainteresowanie** *н.* **1.** інтэрэс, зацікаўленасць; **2.** цікавасць; цікаўнасць

**zainteresowan|y** зацікаўлены; **strony** ~**e** зацікаўленыя бакі

**zaintonować** *зак.* заспяваць; пачаць спяваць

**zaintrygować** *зак.* заінтрыгаваць

**zainwestować** *зак. эк.* укласці (*капітал, грошы*), зрабіць капіталаўкладанні; інвесціраваць

**zaiskrzyć się** *зак.* заіскрыцца

**zaiste** *кніжн.* сапраўды

**zaistnieć** *зак.* узнікнуць; з'явіцца; утварыцца

**zaiście** *уст.*; *гл.* **zaiste**

**zajadać** *незак.* **1.** аплятаць; упісваць; ~ **z apetytem** упісваць з апетытам; **2.** заядаць; закусваць

**zajadłość** *ж.* лютасць; раз'юшанасць; заўзятасць, зацятасць

**zajadły** разлютаваны; заўзяты; зацяты; ~ **spór** заўзятая спрэчка

**zajazd, ~u** *м.* **1.** пад'езд; **2.** заезны дом; карчма; **3.** *уст.* набег, наезд, напад

**zajazgotać** *зак.* **1.** залязгаць, загрукатаць; зашумець; **2.** *разм.* заверашчаць; завішчаць

**zając** *м. заал.* заяц; ~ **szarak** заяц-русак; ◊ **kto dwa ~e goni, żadnego nie złapie** *прык.* хто за двума зайцамі пагоніцца, ніводнага не зловіць

**zajączek** *м.* зайчык; зайчаня; ◊ **(on) ma ~ki w głowie** *разм.* у яго не ўсе клёпкі ў галаве

**zająć** *зак.* **1.** заняць; захапіць; ~ **miejsce** заняць месца; ~ **dużo czasu** заняць шмат часу; **2.** заняць; забавіць; захапіць; паглынуць; ~ **gości** заняць гасцей; ~ **uwagę** паглынуць увагу

**zająć się** *зак.* **1.** заняцца; ~ **się pracą** заняцца справай (працай); **2.** заняцца, загарэцца, запалаць

**zająknąć się** *зак.* заікнуцца; запнуцца; намякнуць; **kłamie ani się ~ie** хлусіць і не заікнецца

**zająknieni|e** *н.* запінка; **bez ~a** без запінкі

**zajechać** *зак.* заехаць; прыехаць; пад'ехаць; ~ **za róg** заехаць за рог (вугал); ~ *po kogo* заехаць *па каго*; ~ **do miasta** прыехаць у горад; ~ **przed dom (ganek)** пад'ехаць да дома (ганка); ~ **drogę** едучы, загарадзіць дарогу; ~ *czyje* **posiadłości** *уст.* напасці на *чые* ўладанні; **2.** *разм.* заехаць

**zajezdnia** *ж.* **1.** дэпо; парк; ~ **tramwajowa** трамвайнае дэпо; **2.** гараж

**zajezdny** *уст.* заезны; **dom** ~ заезны дом

**zajeździć** *зак.* заездзіць, загнаць; ~ **konia** загнаць каня



**zajeżdżać**[1] *незак.* заязджаць; прыязджаць; пад'язджаць *да чаго*

**zajeżdżać**[2] *незак.* заганяць, замучваць (*яздой*)

**zaję|cie** **1.** занятак; справа; праца; **mam dużo ~ć** я вельмі заняты; у мяне шмат працы; **2.** інтарэс; захапленне; **słuchać z ~ciem** слухаць з інтарэсам

**zajęczeć** *зак.* заенчыць; застагнаць; завохкаць

**zajęcz|y** заечы; **skórka ~a** заечая шкурка; **warga ~a** заечая губа; ◊ **serce ~e** заечая душа

**zajęt|y** **1.** заняты; **jest ~y** ён заняты; **to miejsce jest ~e** гэтае месца занятае; **2.** захоплены

**zajmować** *незак.* **1.** займаць; захопліваць; **2.** займаць; забаўляць; паглынаць; захапляць

**zajmować się** *незак.* займацца

**zajmujący** займальны; цікавы

**zajrzeć** *зак.* заглянуць; зазірнуць; ~ **do okna** зазірнуць у акно; ~ **w przyszłość** зазірнуць у будучыню

**zajści|e** **1.** падзея; здарэнне; **miejsce ~a** месца здарэння; **2.** інцыдэнт; сутычка

**zajść** *зак.* **1.** зайсці; ~ **za dom** зайсці за дом; **słońce zaszło** сонца зайшло; **2.** пакрыцца, зацягнуцца; ~ **mgłą** пакрыцца туманам; **3.** паўстаць; узнікнуць; адбыцца; **zaszło nieporozumienie** узнікла непаразуменне; **zaszła konieczność** узнікла неабходнасць; ◊ ~ **w ciążę** зацяжарыць

**zakalec** *м.* закалец

**zakała** *ж.* ганьба; ~ **rodziny** ганьба сям'і; вырадак

**zakamarek** *м.* **1.** закавулак; закутак; **2.** каморка

**zakamieniał|y** **1.** акамянелы; ~**e serce** *перан.* каменнае сэрца; **2.** *перан.* закаранелы, непапраўны; ~**y grzesznik** непапраўны (закаранелы) грэшнік

**zakamienieć** *зак.* **1.** акамянець; **2.** *перан.* закаранець

**zakarbować** *зак.* зарубіць; засячы; ◊ ~ **sobie w pamięci** зарубіць сабе на носе

**zakasać** *зак.* закасаць, падкасаць; падаткнуць; ~ **rękawy** закасаць рукаў; ~ **spódnicę** падаткнуць спадніцу

**zakasać się** *зак.* закасацца; падкасацца

**zakasować** *зак.* зацьміць; пераўзысці; перасягнуць

**zakasywać** *незак.* падкасваць; закасваць; падтыкаць

**zakaszlać** *зак.* закашляць

**zakaszlać się** *зак.* закашляцца

**zakatarzenie** *н.* насмарк

**zakatarzony** прастуджаны; **jestem** ~ у мяне насмарк; **głos** ~ прастуджаны голас

**zakatarzyć się** *зак.* схапіць насмарк; прастыць

**zakatować** *зак.* закатаваць

**zakatrupić** *зак. разм.* загубіць; забіць; угарошыць; укаючыць; ухайдокаць; ухаўтурыць; уходаць

**zakaz, ~u** *м.* забарона; ~ **wywozu** забарона вывазу; **wbrew ~om** насуперак забаронам; «~ **parkowania**» «не паркавацца»

**zakazać** *зак.* забараніць; ~ **wychodzenia z domu** забараніць выходзіць з дому

**zakazany** **1.** забаронены; забаронны; ~ **owoc** забаронены плод; **2.** мярзотны; паганы

**zakazić** *зак.* заразіць; атруціць

**zakazywać** *незак.* забараняць

**zakaźn|y** заразны, інфекцыйны; **choroby ~e** заразныя (інфекцыйныя) хваробы

**zakażać** *незак.* заражаць; атручваць

**zakażenie** *н.* заражэнне; інфекцыя; ~ **krwi** заражэнне крыві; **ropne** ~ гнойнае заражэнне

**zakażony** заражаны

**zakąsić** *зак.* закусіць

**zakąska** *ж.* закуска

**zakątek** *м.* завулак; закутак; глухі кут; глуш

**zakichać** *зак.* зачхаць

**zakichany** *разм.* дрэнны; паганы; паскудны; халерны; ~ **interes** нікчэмная справа; гіблая справа; **nie twój ~ interes** не твая паганая справа

**zakisić** *зак.* заквасіць; ~ **kapustę** заквасіць капусту; ~ **ogórki** засаліць агуркі

**zakisły** 1. кіслы; квашаны; 2. гнілы; смуродны; смярдзючы

**zakisnąć** *зак.* закваСіцца, закіснуць

**zakitować** *зак.* закітаваць

**zaklaskać** *зак.* запляскаць; ~ **w dłonie** запляскаць у далоні (ладкі)

**zaklasyfikować** *зак.* класіфікаваць

**zakląć** *зак.* 1. вылаяцца; **brzydko** ~ брудна вылаяцца; 2. заклясці, зачараваць

**zakleić** *зак.* заклеіць, заляпіць; ~ **kopertę** заклеіць канверт

**zaklejać** *незак.* заклейваць, заляпляць

**zaklekotać** *зак.* заклекатаць

**zaklęci|e** 1. закляцце; замова; **magiczne ~a** чароўныя замовы; **rzucić ~e na** *kogo/co* зачароўваць; заварожваць *каго/што*; 2. мальба; просьба; **nie pomogły żadne ~a** ніякія просьбы не дапамаглі

**zaklęt|y** зачараваны; заварожаны; чароўны; **~e koło (~y krąg)** зачараванае кола; ◊ **milczy jak ~y** маўчыць, як вады ў рот набраўшы

**zaklinacz** *м.* заклінальнік; ~ **węży** заклінальнік змей

**zaklinać** *незак.* заклінаць, маліць; умольваць; ~ **na wszystkie świętości** заклінаць усімі святымі

**zakład**[1], **~u** *м.* 1. прадпрыемства; установа; ~ **przemysłowy** прамысловае прадпрыемства; ~ **fryzjerski** цырульня; ~ **gastronomiczny** рэстаран; ~ **położniczy** радзільны дом; ~ **naukowy** а) навучальная ўстанова; б) навуковая ўстанова; ~ **pogrzebowy** пахавальнае бюро; ~ **zamknięty** закрытая ўстанова; 2. **~y** *мн.* (*буйное*) прадпрыемства; завод, камбінат; **~y hutnicze** металургічны завод (камбінат); **~y naprawcze** рамонтныя майстэрні

**zakład**[2] *м.* 1. заклад; **iść o ~** ісці ў заклад; 2. залог; **dać w ~** аддаць у залог

**zakładać** *незак.* 1. закладваць, класці; падкладваць; укладваць; засоўваць; 2. апранаць; надзяваць; 3. засноўваць; арганізоўваць; адкрываць; 4. меркаваць; дапускаць; планаваць; прадугледжваць; *гл.* **założyć**

**zakładać się** *незак.* ісці ў заклад, біцца аб заклад

**zakładka** *ж.* 1. (*у вопратцы*) складка; 2. (*для кнігі*) закладка

**zakładnik** *м.* заложнік; закладнік

**zakładow|y** 1. заводскі; **biblioteka (stołówka) ~a** заводская бібліятэка (сталоўка); 2. *уст.* закладны; **fundusz ~y** *эк.* фонд прадпрыемства; **kapitał ~y** *эк.* асноўны капітал

**zakłamać** *зак.* фальсіфікаваць

**zakłamać się** *зак. разм.* залгацца; захлусіцца

**zakłamanie** *н.* 1. фальсіфікацыя; 2. ілжывасць, няшчырасць; хлуслівасць

**zakłamany** ілжывы; фальшывы; хлуслівы

**zakłopotać** *зак.* 1. занепакоіць, устурбаваць; 2. збянтэжыць; азадачыць

**zakłopotać się** *зак.* 1. занепакоіцца, затурбавацца, устурбавацца; 2. збянтэжыцца

**zakłopotanie** *н.* 1. заклапочанасць; 2. сарамлівасць; збянтэжанасць; няёмкасць; **wprawić w ~** збянтэжыць

**zakłopotan|y** 1. заклапочаны, устурбаваны; 2. збянтэжаны; засаромлены; **~a mina** збянтэжаны выгляд

**zakłócać** *незак.* парушаць; ~ **ciszę** парушаць цішыню; ~ **porządek** парушаць парадак

**zakłóceni|e** *н.* 1. парушэнне; расстройства; **~e porządku publicznego** парушэнне грамадскага парадку; **~e czynności** *фізіял.* расстройства функцыі; **~e magnetyczne** *мет.* магнітнае адхіленне; магнітная бура; 2. **~a** *мн.* памехі; перабоі; **~a w produkcji** перабоі ў вытворчасці; **~a atmosferyczne** атмасферныя памехі

**zakłócić** *зак.* парушыць; ~ **porządek** парушыць парадак

**zakłuć** *зак.* 1. закалоць; ~ **sztyletem** закалоць кінжалам; 2. укалоць; ~ **palec igłą** укалоць палец іголкай

**zakneblować** *зак.* заткнуць затычкай (заткалам); ~ **usta** а) заткнуць рот (*заткалам*); б) *перан.* заткнуць рот, прымусіць замаўчаць; не даць гаварыць



**zakochać się** *зак.* закахацца; ~ **się po uszy** закахацца па вушы

**zakochany** закаханы; **jest w niej ~** ён у яе закаханы

**zakolebać** *зак.* закалыхаць; захістаць

**zakolebać się** *зак.* закалыхацца; захістацца

**zakołata|ć** *зак.* 1. застукаць; загрукаць; ~ **do drzwi** загрукаць у дзверы; 2. закалаціцца; забіцца; **serce ~ło** сэрца закалацілася

**zakołata|ć się** *зак.* 1. застукаць; закалаціцца, забіцца; 2. *разм.* заварушыцца; адазвацца; **~ła się nadzieja** зацеплілася надзея; 3. *разм.* дацягнуцца; даклыпаць, датэпаць; **~ć się do miasta** дацягнуцца да горада

**zakołysać** *зак.* закалыхаць

**zakołysać się** *зак.* закалыхацца

**zakompleksiony** *разм.* закамплексаваны, апанаваны комплексамі

**zakomunikować** *зак.* паведаміць; ~ **listownie** пісьмова паведаміць

**zakon, ~u** *м.* 1. ордэн (*манаскі*); ~ **krzyżacki** *гіст.* тэўтонскі ордэн; 2. *уст.* закон; правіла; ◊ **Nowy (Stary) Zakon** *уст.* Новы (Стары) запавет; **wstąpić do ~u** а) уступіць у ордэн; б) пайсці ў манастыр

**zakonkludować** *зак.* заключыць, зрабіць выснову

**zakonnica** *ж.* манашка, чарніца, мнішка

**zakonniczy** манаскі

**zakonnik** *м.* манах, чарнец, мніх

**zakonn|y** ордэнскі; манаскі, манастырскі; **reguła ~a** манастырскі статут

**zakonserwować** *зак.* закансерваваць

**zakonspirować** *зак.* закансгіраваць

**zakontraktować** *зак.* закантрактаваць

**zakończać** *незак.* заканчваць

**zakończeni|e** *н.* заканчэнне; завяршэнне; канец; **~e roku szkolnego** заканчэнне навучальнага года; **na ~e** у заключэнне; **o ostrym ~u** з вострым канцом

**zakończyć** *зак.* 1. закончыць; кончыць; ~ **pracę** закончыць працу; 2. завастрыць; ~ **ołówek** завастрыць аловак

**zakończy|ć się** *зак.* закончыцца; скончыцца; **wszystko ~ło się pomyślnie** усё скончылася добра

**zakopać** *зак.* закапаць, зарыць; ◊ ~ **talent** зарыць талент [у зямлю]

**zakopać się** *зак.* закапацца, зарыцца; ~ **się w śniegu** закапацца (зарыцца) у снег; 2. *перан.* зарыцца, пагрузіцца; ~ **się w pracy** зарыцца ў працу з галавой; ~ **się w długi** залезці ў даўгі

**zakopcić** *зак.* закурыць; закурадыміць

**zakopywać** *незак.* закопваць, зарываць

**zakorkować** *зак.* закаркаваць, заткнуць коркам; ~ **butelkę** закаркаваць бутэльку; ~ **ruch (uliczny)** утварыць (вулічны) затор

**zakorzeniać** *незак.* укараняць

**zakorzenić** *зак.* укараніць

**zakorzenić się** *зак.* укараніцца, прыняцца

**zakorzeniony** укаранелы

**zakosztować** *зак.* паспытаць; пакаштаваць; ~ **szczęścia** паспытаць шчасця

**zakotłować** *зак.* закружыць; ~ **głowę (w głowie)** *разм.* закружыць галаву

**zakotwiczyć** *зак.* паставіць на якар

**zakpić** *зак. kogo/czego* 1. насмяяцца; накпіць *з каго*; 2. *разм.* абдурыць *каго*

**zakradać się** *незак.* пракрадвацца; прабірацца

**zakrakać** *зак.* закаркаць

**zakrapiać** *незак.* капаць

**zakraplacz** *м.* піпетка

**zakrasić** *зак.* запраВіць смятанай; закрасіць; забяліць

**zakra|ść się** *зак.* пракрасціся; прабрацца; **~ść się do domu** пракрасціся ў дом; **~dła się pomyłka** прабралася (закралася) памылка

**zakrawa|ć** *незак.* быць падобным; **to ~ na kpiny** гэта падобна на кпіны

**zakrążyć** *зак.* закружыць

**zakrążyć się** *зак.* закружыцца

**zakres, ~u** *м.* 1. сфера; аб'ём; ~ **działania** сфера дзеяння; **wykonać** *co* **w szerszym ~ie** выканаць *што* ў больш шырокім маштабе; 2. дыяпазон; ~ **częstotliwości** дыяпазон частаты; ~ **długości fal** дыя-

пазон хваляў; ◊ **w swoim (we własnym) ~ie** самастойна; сваімі сіламі
**zakreskować** *незак.* заштрыхаваць
**zakreślać** *незак.* закрэсліваць; закасоўваць; адзначаць рысай
**zakreślić** *зак.* закрэсліць; закасаваць; абвесці
**zakręcać** *незак.* **1.** закручваць; загортваць; **2.** завіваць
**zakręcić** *зак.* **1.** закруціць; ~ **kurek (kran)** закруціць кран; **2.** закруціць; пакруціць; павярнуць; ~ **głową** пакруціць галавой; ~ **na prawo** павярнуць направа; **3.** завіць; ~ **włosy** завіць валасы
**zakręci|ć się** *зак.* **1.** закруціцца; закружыцца; павярнуцца; **~ło mi się w głowie** у мяне закружылася галава; **~ł się i wyszedł** ён павярнуўся і выйшаў; **2.** завіцца; закучаравіцца
**zakręt, ~u** *м.* паварот; выгін; віраж; ~ **rzeki** паварот (выгін; лукавіна; лука) ракі; **ostry** ~ рэзкі паварот; віраж
**zakrętka** *ж. тэх.* завёртка, закрутка
**zakrojony:** ~ **na szerszą miarę (na wielką skalę)** шырока задуманы
**zakrwawić** *зак.* скрываваціць, заліць крывёй; запэцкаць крывёй
**zakrwawić się** *зак.* скрываваціцца; запэцкацца крывёй
**zakrycie** *н.* закрыццё
**zakryć** *зак.* закрыць; захінуць; ~ **twarz rękami** закрыць (захінуць) твар рукамі
**zakryć się** *зак.* закрыцца, прыкрыцца; захінуцца
**zakryty** закрыты
**zakrywac się** *незак.*. закрывацца
**zakrywać** *незак.* закрываць
**zakrywka** *ж.* накрыўка; века; вечка
**zakrzątnąć się** *зак.* паклапаціцца, паўвіхацца, пачаць увіхацца
**zakrzep, ~u** *м. мед.* **1.** тромб; **2.** трамбоз
**zakrzepiać** *незак. уст.* згушчаць; рабіць цвёрдым (застылым)
**zakrzepica** *ж. мед.* трамбоз
**zakrzepł|y 1.** застылы; **2.** запечаны; **~a krew** запечаная кроў
**zakrzepnąć** *зак.* **1.** засціць; **2.** запячыся
**zakrztusić się** *зак.* папярхнуцца
**zakrzyczeć** *зак.* **1.** закрычаць, крыкнуць; **2.** *kogo/co* перакрычаць *каго/што*; заглушыць крыкам
**zakrzywić** *зак.* скрывіць; загнуць
**zakrzywić się** *зак.* скрывіцца; загнуцца
**zakrzywiony** скрыўлены; загнуты; ~ **gwóźdź** загнуты цвік; ~ **nos** нос кручком
**zaksięgować** *зак.* унесці ў бухгалтарскія кнігі
**zaktualizować** *зак.* зрабіць актуальным
**zaktywizować** *зак.* актывізаваць
**zakuć** *зак.* закаваць; ~ **w kajdany** закаваць у кайданы
**zakuleć** *зак.* закульгаць
**zakulisow|y** закулісны; **~e intrygi** закулісныя інтрыгі
**zakup, ~u** *м.* пакупка, закупка; **iść po ~y** ісці па пакупкі
**zakupić** *зак.* купіць, закупіць
**zakupywać** *незак.* закупліваць, закупаць
**zakurzony** запылены, пыльны
**zakurzyć** *зак.* **1.** запыліць; ~ **ubranie** запыліць вопратку; **2.** *разм.* закурыць, задыміць
**zakurzy|ć się** *зак.* **1.** запыліцца; **2.** задыміцца, закурыцца; ◊ **~ło mu się z głowy (czupryny)** *разм.* ён захмялеў
**zakusy** *мн.* дамаганні; прэтэнзіі; інтрыгі
**zakut|y 1.** закаваны; закуты; скаваны; **2.** *разм.* закаснелы; ◊ **~y łeb (~a głowa)** *разм.* ёлупень; доўбень
**zakuwać** *незак.* **1.** закоўваць, скоўваць; **2.** *разм.* зубрыць, завучваць
**zakwakać** *зак.* закракаць (*пра качак*); заквакаць (*пра жаб*)
**zakwalifikować** *зак.* кваліфікаваць; вызначыць кваліфікацыю; ~ **do drużyny olimpijskiej** залічыць у алімпійскую каманду
**zakwas, ~u** *м.* закваска; фермент
**zakwasić** *зак.* заквасіць, засаліць; ~ **ogórki** засаліць агуркі
**zakwasić się** *зак.* заквасіцца, пракіснуць
**zakwaska** *ж.*; *гл.* **zakwas**



**zakwaszać** *незак.* заквашваць; саліць
**zakwaśnieć** *зак.* пракіснуць, закіснуць
**zakwaterować** *зак.* расквatараваць
**zakwaterować się** *зак.* расквартаравацца
**zakwestionować** *зак. co* узяць (паставіць) пад сумненне *што*; засумнявацца ў *чым*; аспрэчыць *што*
**zakwiczeć** *зак.* завішчаць
**zakwilić** *зак.* **1.** ціха (жаласна) заплакаць; **2.** (*пра птушку*) заспяваць
**zakwit, ~u** *м.* цвіль; бросня
**zakwitać** *незак.* **1.** расцвітаць; **2.** пакрывацца цвіллю; броснець
**zakwitnąć** *зак.* **1.** расцвісці; **2.** пакрыцца цвіллю; заброснець
**zala|ć** *зак.* **1.** заліць; абліць; **rzeka ~ała łąki** рака заліла лугі; **~ć obrus** заліць абрус; **2.** *перан. разм.* навыдумляць; ◊ **~ć robaka** *разм.* заліць гора
**zalać się** *зак.* **1.** заліцца; абліцца; **2.** *разм.* напіцца, налізацца; ◊ ~ **się w pestkę (w sztok)** напіцца ўшчэнт
**zalakować** *зак.* запячатаць сургучом
**zalamentować** *зак.* загаласіць; залямантаваць
**zalecać** *незак.* **1.** рэкамендаваць; **2.** даручаць; даваць указанне; **3.** прапісваць
**zalecać się** *незак. do kogo* заляцацца *да каго*
**zalecenie** *н.* указанне
**zalecić** *зак.* **1.** парэкамендаваць; **2.** даручыць; даць указанне; **3.** прапісаць; ~ **kurację** прапісаць курс лячэння
**zalecieć** *зак.* заляцець; даляцець
**zaleczyć** *зак.* залячыць; вылечыць
**zaledwie 1.** толькі; усяго толькі; **spał ~ parę godzin** ён спаў усяго толькі пару гадзін; **2.** ледзь; ледзьве; ~ **ustał na nogach** ён ледзь утрымаўся на нагах; **3.** толькі, як толькі; ~ **wyszedł z domu, zaraz spotkał...** як толькі ён выйшаў з дому, адразу сустрэў...; не паспеў ён выйсці з дому, як адразу сустрэў...
**zaledwo**; *гл.* **zaledwie**
**zalega|ć** *незак.* **1.** запаўняць, напаўняць; **chmury ~ają niebo** хмары пакрываюць неба; **2.** залягаць; ляжаць; **3.** *czym, z czym* адставаць; спазняцца *з чым*; **~ć z pracą** спазняцца з працай
**zalegać się:** ~ **się od śmiechu** *уст.* заходзіцца ад смеху, рагатаць
**zalegalizować** *зак.* легалізаваць, узаконіць
**zaległoś|ć** *ж.* запазычанасць; нядоімка; недабор; **wyrównanie ~ci** ліквідацыя запазычанасці; **~ć w pracy** адставанне ў працы
**zaległy** пратэрмінаваны; ~ **mecz** адкладзены матч
**zalepiać** *незак.* заляпляць; залепліваць
**zalepić** *зак.* заляпіць
**zalesiać** *незак.* саджаць лес
**zalesić** *зак.* насадзіць лес
**zalesienie** *н.* лесанасаджэнне
**zalesion|y** лясісты, пакрыты лесам; **~e wzgórza** лясістыя ўзгоркі
**zalet|a** *ж.* добрая якасць; вартасць; станоўчая рыса; перавага; **wady i ~y** недахопы (хібы) і добрыя якасці
**zalew, ~u** *м.* **1.** бухта; лагуна; затока; ~ **morski** марская лагуна; **2.** разліў; паводка; ~ **rzeki** разліў ракі; паводка
**zalewać** *незак.* **1.** залiваць; затапляць; **2.** *перан. разм.* сачыняць, хлусіць; залiваць; ◊ ~ **głodne kawałki** *разм.* расказваць байкі; залiваць; *гл.* **zalać**
**zalewać się** *незак.* **1.** залiвацца; аблiвацца; **2.** *разм.* напiвацца
**zalewajka** *ж. разм.* бульбяны суп
**zaleźć** *зак.* залезці, улезці
**zależ|eć** *незак.* **1.** *od kogo/czego* залежаць *ад каго/чаго*; **to nie ode mnie ~y** гэта не ад мяне залежыць; **~y jak kiedy** (гледзячы) калі як; **2.** *komu na kim, czym* быць зацікаўленым *у чым*; быць важным; быць патрэбным; быць неабходным *для каго*; **bardzo mu na tym ~y** ён вельмі ў гэтым зацікаўлены; для яго гэта вельмі важна; **nie ~y mi na nim** ён мяне не цікавіць
**zależeć się** *зак.* заляжацца
**zależność** *ж. od kogo/czego* залежнасць *ад каго/чаго*; падпарадкаванасць *каму/чаму*; ~ **wzajemna** узаемазалежнасць;

